АРКАДЗЬ СМОЛІЧ

# ГЕАГРАФІЯ БЕЛАРУСІ



МЕНСК «БЕЛАРУСЬ» 1993

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ
ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

АРКАДЗЬ СМОЛІЧ

# ГЕАГРАФІЯ БЕЛАРУСІ

4-е выданьне



МЕНСК «БЕЛАРУСЬ» 1993

ББК 26.8 (2Б)
С 51
УДК 91 (476)

Друкуецца па выданьні:
Смоліч А. Географія Беларусі.
Выд. 3, перароб. і дап.—
Вільня: Вілен. выд-ва Б. А. Клецкіна.
Беларускі аддзел, 1923.

*Выпушчана па заказу Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.*

**Мастацкае афармленьне фірмы «Графема».**

Пасьляслоўе *А. Ліса.*

**Смоліч А.**
С 51 Географія Беларусі / Пасьлясл. А. Ліса.—4-е выданьне.— Мн.: Беларусь, 1993.— 382 с.: іл.
ISBN 5-338-01035-6.

Кніга Аркадзя Смоліча (1891—1938) — выдатнага вучонага і палітычнага дзеяча, педагога і літаратара — упершыню пабачыла сьвет у 1919 годзе, пасьля неаднаразова перавыдавалася. Напісаная прыгожай літаратурнай моваю, багата ілюстраваная, насычаная цікавымі зьвесткамі з гісторыі і этнаграфіі, яна і сёньня застаецца ўзорам навукова-папулярнага апісаньня нашае зямлі.

Адрасуецца шырокаму колу чытачоў, а таксама вучням для пазакласнага чытаньня.

С $\frac{1805060000-036}{М\ 301(03)-93}$ Зак. выд. 92    ББК 26.8 (2Б)

ISBN 5-338-01035-6

# Прадмова да 2-га выданьня.

Тры гады назад выйшла 1-е выданьне гэтае кнігі. Было яно спробаю стварэньня падручніка па географіі Беларусі, адпавядаючага найбольш гарачым патрэбам жыцьця беларускае школы. Рысы гэтае школы тады, аднак, толькі яшчэ пачыналі выяўляцца; гэта не магло не адбіцца на характары кнігі і было аднэю з прычынаў значных яе́ недахватаў. Ласкавыя ўвагі чытачоў кнігі і некаторых беларускіх навуковых працаўнікоў, асабліва-ж грунтоўны разбор кнігі, зроблены п. Язэпам Валадковічам, ды вельмі цэнныя наказы беларускіх навуковых і пэдагогічных установаў далі мне магчымасць уплянаваць перапробку кнігі для другога яе́ выданьня. Выказуючы сваю найшчырэйшую падзяку ўспомненым асобам і ўстановам, мушу, аднак, адзначыць, што ня ўсе́ з зробленых пажаданьняў удалося цяпер здзейсьніць. Ня раз даводзілася чуць, прыкл., зразумелыя вымаганьні, каб «Географія Беларусі» была перароблена ў падручнік для малодшых ступеняў сярэдняе школы ды для ніжэйшае школы. На гэта, аднак, плян і характар кнігі, ў якой зашмат ёсьць рэчаў досіць трудных для такога веку і падгатоўкі, не дазвалялі. І ў другім выданьні кніга застаецца празначанаю найбольш для досіць ужо інтэлігентнага чытача і вучня, маючы на мэце абслужыць перад усім вучыцялёў пачаткавых школ і старэйшыя ступені сярэдніх школаў ды тэхнікумы.

Ў другім выданьні зроблена шмат пераробак, асабліва ў першым аддзеле кнігі — фізычнай географіі, які блізка таго, што напісаны нанова. Аўтар зьвярнуў асаблівую ўвагу на гэтую частку з тае́ прычыны, што фізычная географія з кожным годам усё больш і больш віднае мейсца займае ў географічнай навуцы, ды яшчэ таму, што матар'ял з іншых частак географіі, прыкл. з экономічнае географіі, у нашыя часы вельмі хутка старэе і траціць вартасьць. Дзеля гэтага тут прыходзіцца ўвесь час карыстацца толькі перадваеннымі фактамі і даннымі, хаця-б яны і не згаджаліся з цяперашнімі, часамі, можа, рабіць занадта гіпотэтычныя вывады; аб данных фізычнае географіі гэтага сказаць нельга: яны шмат трывалейшыя і пэўнейшыя. Пры апрацаваньні аддзелу аб прыродзе Беларусі прыходзілася мне́ шмат карыстацца з гэткіх твораў: S. Wołłosowicz. Litwa i Białorus. Budowa fizyczno-geograficzna. Warszawa. 1920; В. Семеновъ-Тянъ-Шанскій. Типы мѣстностей Европейской Россіи и Кавказа. Петроградъ. 1915; A. Rehman. Ziemie dawnej Polski i sąsiednich krajów słowianskich. T. II. Polska niżowa. Lwow. 1904. На гэтыя творы ёсьць адсылкі ў тэксьце.

Грунтоўна пераробленыя і некаторыя іншыя аддзе́лы, асабліва этнографічная характарыстыка насяле́ньня. Драбязгі па ме́ры магчымасьці выдзелены і надрукаваны вузейшым шрыфтам. Уве́дзена крыху новых рысункаў і картаграмаў; апошнія павінны прывучаць вучняў да картографіраваньня ўсвойваных географічных ве́дамасьцяў. Рысункі паходзяць найбольш са збораў Таварыства Краязнаўчага ў Варшаве, пры

чым лéпшыя з іх роблены з фотографіяў вядомага віленскага артыста-фотографа Яна Булгака. Апроч таго выкарыстаны некаторыя рысункі з кніг: Максимовъ—Днѣпръ; Сапуновъ—Рѣка Зап. Двина; Семеновъ—Верхнее Поднѣпровье и Бѣлоруссія ды іншых. Частка рысункаў рысаваны спэцыяльна для цяпéрашняга выданьня.

Спадзяючыся, што паважаныя чытачы не адмовяць і ў дальнéйшым перасылаць мне сваé ўвагі аб кнізе, яé недахватах і пажаданых зьмéнах і дапаўнéньнях, прашу ўсé гэтыя матар'ялы скіроўваць на адрас Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні, Вострабрамская, 9. За ўсé ўвагі буду шчыра дзякаваць.

**Аркадзь Смоліч.**

Травень. 1922.

---

## З прадмовы да 1-га выданьня (1919 г.).

Беларуская школа і курсы беларусазнаўства ня маюць ніякіх падручнікаў па географіі Бацькаўшчыны. Нацыянальны рух, шырокай ракою разьліўшыся па Беларусі за апошнія два гады, ужо шмат цéрпіць ад таго, што ня толькі шырокая публіка, а навет шмат хто з маладых беларускіх працаўнікоў, ня маюць аб родным краі найпатрабнéйшых ведамасьцяў і часта навет ня вéдаюць, скуль іх могуць узяць. Урэшце масы беларусаў, прайшоўшых расéйскія ды іншыя школы, яшчэ і дагэтуль глядзяць на родны край вачамі казённых вучэбнікаў. Беларуская маладзéж давéдавалася ў школе толькі аб тым, што яé Бацькаўшчына — гэта нейкае адно балота; самае важнае ў ёй— гэта хвароба «каўтун», а па-за гэтым больш няма нічога цікаўнага.

Атручаная такою «навукаю» беларуская маладзéж, як толькі станавілася на ўласныя ногі, старалася як найхутчэй уцякаць куды нéбудзь з Бацькаўшчыны: у Маскоўшчыну, Польшчу, Сыбір. А і тыя, якія заставаліся ў краі, працавалі найбольш для свайго толькі кутка, бо бачылі, які ён прыгожы, які багаты, як непадобен да казённых апісаньняў. Для ўсяго-ж краю працаваць баяліся, бо не маглі павéрыць, успамінаючы школьную навуку, што гэты край можа быць здольным да самаістнага жыцьця.

Вось-жа, калі-б тыя беларусы, што прачытаюць гэтую кнігу, зацікавіліся сваёй Бацькаўшчынаю, каб узяліся самі за глыбéйшае навуковае пазнаньне яé, ці асобных праяваў яé жыцьця, каб заахвоціліся шукаць і бачыць яé арыгінальнае хараство, дык-бы аўтар лічыў сваю працу дайшоўшай мэты. А калі-б у іх хоць крыху пабольшала замілаваньня да сваé роднае многапакутнае стараны, такой простай і разам цудоўнай, навет у часы заняпаду свайго поўнай велічу і схаваных сілаў, каб яны павéрылі ў яé вялікую будучыну і дзеля будучыны гэтай шчыра працаваць і змагацца пачалі, тады-б аўтар быў папраўдзе шчасьлівы.

---

# АГУЛЬНЫ АГЛЯД БЕЛАРУСІ

## УСТУП.

### § 1. ГЕОГРАФІЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ.

Навука географіі апісуе ўсю зямлю і краіны, на якія яна дзеліцца, іхні выгляд, прыроду, насяленьне і іншыя спатыканыя на паве́рхні зямлі, зьявішчы; пры гэтым яна стараецца вытлумачыць кожнае зьявішча яго сувязьзю з іншымі, ды такім чынам разгадаць тыя законы, якія кіруюць разьмяшчэньнем гэтых усіх зьявішчаў па паве́рхні зямное кулі. Як і кожная з навукаў, яна роўна цікавіцца і вёскамі роднае для таго ці іншага географа старонкі, і далёкімі акеанічнымі астравамі.

Чалавек, аднак, пазнае́ далёкае і незнаёмае, раўнуючы яго да блізкога і знаёмага. Затым-жа навет той, хто цікавіцца толькі географіяю чужых краёў, павінен уперад добра ведаць географію найбліжэйшае мяйсцовасьці; павінен ведаць, далей, географію свае́ роднае стараны, дзе ён радзіўся, вырас, працуе, дзе ляжаць косьці яго дзядоў, дзе жыць і працаваць будуць дзеці і ўнукі яго самога, дзе жыве той народ, з якога ён паходзіць, адным словам — географію Бацькаўшчыны. Знаючы географію сваé Бацькаўшчыны, ён ужо шмат лягчэй зразуме́е географічныя зьявішчы якога хаця краю.

Але з паняцьцем Бацькаўшчыны ў нас зьвязуецца яшчэ і не́йкае цёплае, а іншы раз і вельмі гарачае пачуцьцё да нашае роднае стараны. Кожын чалавек л ю б і ц ь сваю Бацькаўшчыну, незале́жна ад ве́лічу і характва яе́ прыроды, ад яе́ багацьця і славы, ад таго дабрабыту, якім яна дарыць сваіх сыноў. Брадзячы жыхар паўночнае тундры любіць сваю суровую Бацькаўшчыну ня ме́нш, чым жыхар яскравага, поўнага жыцьця і фарбаў, багатага паўдня. А гэткае замілаваньне змушае нас цікавіцца роднаю стараною, яе́ рэкамі, гарамі, лясамі, ме́стамі, як цікавяцца кожным прадме́там, якога любяць.

Урэшце, гатуючыся да практычнага жыцьця, мы, ў большасьці, зьбіраемся праве́сці яго ў родным краі, ахвяруючы Бацькаўшчыне сваé сілы. Адны з нас будуць працаваць на зямлі, другія — на фабрыцы, трэція — ў школах дый у

навуцы; але кожын будзе грамадзянінам свайго краю і сынам свайго народу. Знаць прыроду краю ды іншыя яго асаблівасьці кожнаму абавязкова патрэбна хаця-бы дзеля чыста практычных меркаваньняў.

З гэтага мы бачым, як чалавéку патрэбна навука географіі Бацькаўшчыны. Кожын вéдае, што для нас, беларусаў, Бацькаўшчынаю ёсьць Беларусь, край, дзе мы самі жывéм, дзе жывé Народ Беларускі, да якога мы налéжым. Географія Бацькаўшчыны для нас гэта — географія Беларусі.

## § 2. КАРТА БЕЛАРУСІ.

Калі мы захочам знайсьці і азначыць Беларусь на агульнай карце Эўропы, дык мусім ведаць, што Беларускі Народ шчыльнаю масаю засяляе вялікі прастор зямлі ў самай геомэтрычнай сярэдзіне Эўропы, на вялікай Эўрапéйскай раўніне, паміж Балтыцкім і Чорным морамі, там, дзе цякуць верхнія Дняпро, Нёман, Дзьвіна, ды іх важнéйшыя прытокі, паміж 51° і 57° паўночнае шырыні і 40° ды 52° ўсходняе даўжыні ад Фэрро. На захад ад Беларусі жывуць народы — латыскі, літоўскі, нямецкі і польскі; на паўдня жывуць украінцы, а на ўсход ды на паўнач ад Беларусі — маскоўцы, або велікаросы.

Кінем цяпéр вокам на карту Беларусі і пастараемся заўважыць хоць нéкалькі важнéйшых яé лініяў. Гэта дасьць нам нéйкае паняцьце аб Беларусі, як аб суцэльнасьці, і дазволіць перайсьці да сьвéдамага разгляду яé частак, ды паасобных зьявішчаў яé прыроды і жыцьця (гл. карту 1).

Пасярэдзіне Беларусі мы можам лёгка разглéдзіць фігуру Дняпра, які разам з сваімі прытокамі выглядае на нéйкае скрыўленае дрэва. Недалёка ад геомэтрычнага цэнтру Беларусі, каля места Воршы, Дняпро заламуецца пад простым кутом (як кажуць, робіць калéна); дагэтуль ён цёк на захад, цяпер-жа пачынае цякці на паўдня.

Пачатак Дняпра мы знойдзем аж на самай усходняй мяжы Беларусі: далéй на ўсход ужо Маскоўшчына. Адгэтуль цячэ ён праз стары Смаленск і далей на захад аж да самае Воршы.

Спусьцімся па Дняпры ўніз ад Воршы. Пабачымо тады прыгожы Магілéў, які раскінуўся на высокіх берагох Дняпра, вусьце Бярэзіны, Сожа, Прыпяці — вялікіх прытокаў Дняпровых. Вусьце Прыпяці таксама ляжыць ужо на мяжы Беларусі, але паўднёвай. Зьліўшыся з Прыпяцяю, Дняпро цячэ ў прасторы краіны, і яго лéвы прыток, Дзясна, хоць і пачынаецца ў Беларусі і цячэць у значнай частцы па ўсходняй яé мяжы, але ўпадае ў Дняпро ўжо на Ўкраіне. Заўважым фігуры пералічаных прытокаў Дняпра і тыя большыя гарады, што над імі, ці па суседзтву з імі знаходзяцца: Гомель на Сожы, Менск на захад ад Бярэзіны, Пінск ля Прыпяці, ды Бранск над Дзясною.

Дняпро разам з сваімі вялікімі прытокамі абыймае палавіну Беларусі — паўднёва-ўсходнюю. На захад ад яго вадазборніка ляжаць вытакі вялікіх рэкаў, што цякуць у Балтыцкае мора.

На паўдня ад Ме́нску пачынаецца прыгожы сьве́тлы Нёман. Выкручуючыся, як вуж, між лясоў і гораў заходняе Беларусі, плыве́ ён, наагул кажучы, на захад аж да самае Горадні; абняўшы яе з двох бакоў, павяртаецца ён на поўнач і адыходзіць ад нас у Літоўскую зямлю, каб праз яе́ трапіць у мора. Пад Коўняю спатыкаецца ён з прыгожаю




**Рыс. 1. Галоўныя рысы карты Беларусі.**

Вяльлёю. А тая, пачаўшыся на поўнач ад Менску, гэтак сама, як і Нёман, выкручуецца між лясістых узгоркаў, прыхарошуе сабою Вільню і яе цудоўныя ваколіцы, ды таксама кіруецца ў Літоўскую зямлю, каб сустрэцца гэнам з Нёмнам.

Ме́нск, як мы бачым, ляжыць у сэрцы Беларусі. З яго ваколіцаў па вялікім жылам-рэкам разносяцца воды ўва ўсе́ бакі Беларусі, ў ім крыжуюцца і экономічныя і культурныя шляхі Беларусі; за тое і стаўся ён сталіцаю Беларусі.

Паўночную Беларусь праразае Дзьвіна. Пачынаецца Дзьвіна на паўночнай мяжы Беларусі і цячэ ўпе́рад пад

Віцебск (вялікае і старое места, ляжыць вёрст 80 на поўнач ад Воршы), а адтуль, заламаўшыся блізка таго, што пад простым кутом, — пачынае плысьці на паўночны захад. Праплыўшы міма Полацку, гэтае калыскі старое беларускае дзяржаўнасьці, ды міма грознае крэпасьці Дзьвінску, яна ўваходзіць у зямлю Латышоў, а праз яе даходзіць да мора, да Рыжскае Затокі.

На самым паўночным усходзе мяжа Беларусі даходзіць да верхняе Волгі пад Ржэваю, а якраз на процілежным баку Беларускае зямлі, на паўднёвым яе захадзе, да беларускіх межаў прытыкаецца шырокі, балоцісты Буг. З нетры Белавежскіх лясоў выпаўзае да яго на спатканьне Нарва з сваім прытокам Бабром. Ужо на захад ад Беларусі, ў Польскай зямлі, зьліваюцца яны разам. І тут, як на ўсходзе, беларус заняў вярхоўі вялікіх рэкаў, пакідаючы нізы іншым народам.

Над Бугам стаіць Берасьце, моцная да нядаўных часоў крэпасьць, а ля Нарві — вялізарнае места Беласток, найбольшае фабрычнае мéста Беларусі.

Заўважыўшы згруба рысы пералічаных галоўных рэкаў Беларусі, ды важнéйшых яе мéстаў, бяз клопату патрапім мы абвéсьці, хаця-б прыблізна, прастор Беларусі на карце Эўропы. Перад нашымі вачыма вырысуецца нейкая масыўная фігура, крыху прыпамінаючая трапэцыю, ці можа сякéру. Зьмераўшы яе ўдоўжкі, мы даведаемся, што Беларусь цягнецца з усходу на захад каля 700 вёрст; зьмераўшы ўпоперак — атрымаем каля 550 вёрст. А ўсяго прастору Беларусь займае каля **300.000 квадратных вёрст.**

## § 3. ПРАСТОР І НАСЯЛÉНЬНЕ БЕЛАРУСІ Ў ПАРАЎНАНЬНІ З ІНШЫМІ КРАЯМІ.

Прастор, які займае Беларусь, як бачым, немалы. Перавёўшы на дзесяціны гэта будзе каля 30 мілiёнаў дзесяцін. Сярод культурных краёў ня шмат ёсьць такіх, якія-б мéлі зямлі больш, чым мае Беларусь; большая частка дзяржаваў у Эўропе займае мéншы прастор.

Цікава, што роўна з Беларусяю, а часамі й мéнш зямлі маюць такія навет народы, якія лічацца цяпéр найдужэйшымі (калі ня лічыць, вéдама, іхніх калёніяў), як, прыкл., Англія (314 тыс. кв. клм.), Італія (257 тыс. кв. клм.). Наагул, больш за Беларусь зямлі маюць усяго толькі 10 эўрапéйскіх дзяржаваў. Нямéччына мае зямлі ў $1^1/_2$ разы больш, Францыя ў 2 разы, гэтак сама блізка і Украіна, а Маскоўшчына (лічачы толькі прастор, заселены самымі маскоўцамі) — у 6 разоў большая за Беларусь.

З другога боку нéкалькі дзесяткаў эўрапéйскіх дзяржаваў маюць зямлі па мéнш за Беларусь. Грэцыя і Чэхія маюць аж у 2 разы менш зямлі, чым у нас, Баўгарыя — у 3 разы; а нашыя суседзі Латвія, Літва і Эстонія — у 5—7 разоў меншыя

за Беларусь; урэшце Голяндыя і Бэльгія ме́ншыя па прастору за Беларусь у 10 разоў.

Шмат зямлі ёсьць у Беларусі, ды рэдка народ у ёй жыве́. Большая часьць зямлі ляжыць у нас пад бескане́чнымі лясамі, пад дзікім балотам. Ворнае зямлі ў нас ня шмат, дый на тэй, якая ёсьць, гаспадарыць наш земляроб блага, бо ляпе́й ня ўмее. Вось-жа і жыло на ўсім прасторы Беларусі перад вайною ўсяго толькі 14 міліёнаў людзе́й. Праўда, насяле́ньне ў нас дужа шыбка прырастае — за 5 гадоў прырастае яно на $^{1}/_{10}$ (па 2 % у год). Дык, калі-б усё было спакойна, цяпе́р на Беларусі было-б мо' якіх 16, калі ня больш, міліёнаў насяле́ньня. Але здарылася вайна, шмат беларусаў загінула ў бітвах, ад хваробаў і ран, шмат разсыпалася па сьве́це, а найбольш, бо не́шта аж каля 3 міліёнаў, людзей, было выселена расе́йскім урадам з Заходняе Беларусі — у глыбіню Расеі, у бе́жанства. Вось-жа гэтыя прычыны зрабілі тое, што цяпе́р у Беларусі жыве́ць не 16 міліёнаў, а, як аблічаюць некаторыя аўтары, усяго толькі каля **10 міліёнаў жыхараў.**

У Заходняй Эўропе, пры тамашняй гушчыні насяле́ньня, на гэткім прасторы жыло-б, можа, міліёнаў 40—50, калі ня больш, народу.

Дзеля гэтага па ліку насяле́ньня эўрапе́йскія дзяржавы ўжо ня ў 2 разы большыя за Беларусь, а ў 3, 4 і 5 разоў; Нямеччына-ж большая навет у 6 разоў (мае каля 60 міл. насяленьня). Англія мае жыхараў у 5 разоў больш, Францыя і Украіна — у 4 разы, Італія ў 3 разы, Румынія ў $1^{1}/_{2}$ разы. Аднак Чэхія і Югославія маюць насяленьня блізка што роўна з Беларусяю (11—12 міл.). Іншыя-ж эўрапе́йскія краі маюць насяле́ньня шмат ме́нш за Беларусь: Грэцыя, Швэдзія, Голяндыя, Баўгарыя — у 2 разы, Фінляндыя, Літва — у 3—4 разы ме́нш, а Латвія, Эстонія ды інш.— у 7—10 разоў менш. Значыць па агульнаму ліку жыхараў Беларусь таксама досіць высака стаіць у сьпісе эўрапе́йскіх краёў — прыблізна на 12 ме́йсцы.

За тое з боку гушчыні насяле́ньня Беларусь стаіць далёка ззаду за перадавымі культурнымі старонамі Эўропы. У Беларусі на 1 кв. вярсьце́, кругом бяручы, жыве́ ўсяго **каля 30—35 чалаве́к.** Радзей, чым у Беларусі, народ жыве́ вось у якіх краёх Эўропы: ў Маскоўшчыне, Латвіі, Эстоніі, Швэдзіі, Фінляндыі і інш.

У Фінляндыі на 1 кв. вярсьце́ жыве́ць усяго 10 чалаве́к. Аднак старонка гэтая ве́льмі культурная, дый людзі там багата жывуць. А гушчыня невялікая выходзіць затым, што шмат прастору займаюць вялікія вазёры ды горы, ды яшчэ паўночная тундра, саўсім блізка бязьлюдная, якая нале́жыць да Фінляндыі. Але-ж і ў Беларусі, каб ня лічыць бязьлюдных прастораў, занятых нашымі вялізарнымі пале́скімі балотамі ды пушчамі, дык бы гушчыня насяле́ньня выйшла-б большая. Усё-ж гушчыню насяле́ньня ў Беларусі прыходзіцца прызнаць малою.

Некаторыя вучоныя думаюць, што малая гушчыня насялéньня была галоўнай прычынаю палітычнага і культурнага заняпаду Беларусі; і ў гэтым, здаéцца, шмат праўды.

## § 4. АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ І ПАЛІТЫЧНЫ ПАДЗÉЛ БЕЛАРУСКАЕ ЗЯМЛІ.

Перад вайною 1914 году ўся Беларусь наляжала да Расéі і была падзéлена на губэрні ды павéты. Усіх беларускіх павéтаў было 62—65. Яны ўваходзілі ў склад губэрняў:




**Рыс. 2. Палітычны падзéл Беларусі ў 1920 г.**

Віленскае, Віцебскае, Горадзенскае, Мéнскае, Магілéўскае, Смаленскае і Чарнігаўскае. Апроч гэтага і некаторыя сумéжныя павéты іншых губэрняў наляжалі да Беларусі.

Міравыя ўмовы, якімі закончылася вайна, што вялася праз 6 гадоў на нашай зямлі, падзялілі Беларусь паміж 5-ма дзяржавамі. Латвія атрымала пагранічныя землі ў паветах Дзьвінскім, Ілукштанскім, Дрысенскім, Люцынскім і Сéбежскім, усяго каля 6 тыс. кв. вёр. з 150 тыс. беларускага насялéньня. Паўночна-заходняя частка Беларусі (Віленшчына)

адыйшла была да **Л і т в ы**, але цяпер занята Польшчаю. Тут больш міліёна людзе́й на 30 тыс. кв. вёр. Усяго-ж пад Польшчаю цяпе́р фактычна ёсьць больш 100.000 кв. вёр. прастору, а значыць, цэлая траціна Беларусі. Да таго-ж гэта якраз заходняя частка Беларусі, якая перад вайною была найбольш культурнаю, густа насе́ленаю і сьве́дамаю нацыянальна. Цяпе́р-жа жыве́ тут усяго каля 3.000.000 людзе́й.

Шэсьць цэнтральных паветаў Беларусі: Ме́нскі, Барысаўскі, Ігуменскі, Бабруйскі, Мазырскі і Слуцкі твораць у данным часе самастойную рэспубліку, знаходзячуюся ў фэдэрацыі з Расе́яю, **С а в е ц к у ю  Б е л а р у с ь**. Займае яна прастору каля 50 тыс. кв. вёрст і мае больш як 1 1/2 міліёны насяле́ньня. Гэта, аднак, ёсьць толькі шостая частка ўсяе́ Беларусі.

Уся-ж усходняя Беларусь да гэтага часу злучана безпасярэдна з **Р а с е́ я ю**. Па свайму прастору і ліку насяленьня гэтая частка найбольшая, ды, здае́цца, мала што ме́ншая ад усіх іншых частак Беларусі, ўзятых разам (гл. карту 2).

Такі палітычны падзе́л Беларусі не апіраецца ні на якія географічныя асновы. Ме́жы новых дзяржаваў праве́дзены па жывому це́лу Беларусі, дзе́лячы краіны, якія найцясьне́й зьвязаны між сабою і прыроднымі і экономічнымі і культурна-гістарычнымі варункамі, ня кажучы ўжо аб тым, што ўсе́ яны наймацне́й зьвязаны з боку этнографічнага, бо ўва ўсіх пяцёх кавалках, на якія парэзана Беларуская зямля, жыве́ць адзін і той самы Беларускі Народ.

Дзеля такое штучнасьці сучаснага палітычнага падзелу Беларусі мы ня будзем браць яго пад увагу ў дальне́йшым выкладзе. Але трэба сказаць, што і даўнейшыя адміністрацыйныя дзяленьні Беларусі, гэтыя расе́йскія губэрні ды навет паветы, таксама былі досіць штучнымі творамі. Суцэльныя з усіх паглядаў краіны яны рэзалі на часткі, а злучалі разам саўсім непадобныя да сябе мяйсцовасьці. Дзеля таго, аднак, што дагэтуль усе́ навуковыя данныя аб Беларусі адносіліся да даўне́йшых расе́йскіх адміністрацыйных адзінак (паветаў), мы, апісуючы Беларусь, тымчасам змушаны будзем так сама апіраецца на гэтых адзінках. Мы будзем найчасьце́й апісаваць асобныя паветы, зграмаджуючы іх у буйнейшыя адзінкі на аснове іхняе прыроды ды іншых адзнакаў.

---

# ПРЫРОДА БЕЛАРУСІ.

## (ФІЗЫЧНАЯ ГЕОГРАФІЯ).

---

## РАЗЬДЗЕ́Л 1.

### Выгляд паве́рхні зямлі.

---

### § 5. АГУЛЬНЫЯ ЎВАГІ АБ ПРЫРОДЗЕ БЕЛАРУСІ.

Прырода Беларусі ня вызначаецца гэткаю яскравасьцяю фарбаў, зьменнасьцяю вобразаў і ня робіць, можа, на староньняга чалаве́ка гэткіх моцных уражаньняў, як прырода шмат якіх краёў тропічных, горных, ці прыморскіх. З гэтага боку яна мае шмат супольнага з краямі Ўсходняе Эўропы; лежачы на раўніне, ў досіць халодным ужо клімаце, гэтыя краі, раўнуючы, прыкл., да Заходняе ды Паўднёвае Эўропы, адзначаюцца аднавобразнасьцяю сває́ прыроды, сваіх краявідаў.

Шмат якія вялікія ды грозныя зьявішчы прыроды, як, прыкл., трасе́ньні зямлі, вульканы і інш. у нас саўсім не здараюцца. Не пабачым мы ў сябе́ і высокіх гораў, бязьме́жнага мора, пустыні; хочучы ўгле́дзіць гэтыя зьявішчы, мы павінны будзем е́хаць у суседнія з намі краі, а то навет і дале́й.

Гле́дзячы на нашую старану з вышыні птушынага лёту, мы ўбачым аграмадную, ў большасці лясістую р а ў н і н у. Захад і поўнач яе́ вышэйшыя, з моцна няроўнаю, ўзгоркаватаю паве́рхняю зямлі; поўдзень-жа Беларусі ўяўляе з сябе́ балоцістую роўную нізіну. Сярод зялёных пушчаў ды пяшчаных узгоркаў блішчаць люстры нязьлічоных вазёраў. Серабрыстыя йстужкі вялікіх рэкаў прарэзуюць край ува ўсіх кірунках. Ад сярэдзіны Беларусі яны разьбягаюцца ў два бакі, нясучы сває́ воды ці то ў Ч о р н а е, ці ў Б а л т ы ц к а е м о р а, якія ві́дны далёка за ме́жамі Беларусі, за Украінскай ды Літоўскай і Латыскай зямлёю.

Гэтак выглядае наш край здалёку, ды з птушынага лёту. Зблізка выглядае ён іначай. Таго, хто ўгле́дзіцца ў прыроду Беларусі, услухаецца ў яе́ жыцьцё, каго ахопіць яна сваімі тонамі і настроямі, той зьдзівіцца багацьцю і зьмястоўнасьці яе́ формаў, глыбіні і значнасьці яе́ зьявішчаў. Прыроду паўночнае Беларусі, якая дала натхне́ньне Міцке́вічу, ў кожным разе не́льга лічыць аднастайнаю. Краявіды адзін за аднаго прыгажэйшыя зьмяняюцца тут ве́льмі хутка, мала што

ня з кожным заваротам дарогі, кожным узгоркам і лагчынаю. Паўднёвая, нізінная Беларусь, больш аднастайная, захапляе таёмнаю шырачынёю сваіх вобразаў, а часта дзікім і некранутым характарам свае́ прыроды.

Беларусь, як мы ўжо заўважылі, абыймае ве́рхнія часткі вадазборнікаў не́калькіх вялікіх рэкаў Эўропы: Дняпра і яго прытокаў, Нёмна, Вяльлі, Дзьвіны, Нарві і ін., але не займае ні аднае́ ракі ў цэласьці аж да яе вусьцяў, ня мае доступу да мора. Гэта, бязумоўна, ме́ла сваё палітычнае значэньне ў гісторыі Беларусі. Але ня трэба забываццa, што такое палажэньне Беларусі на скрыжаваных між сабою вададзе́лах Эўропы павінна было ве́льмі моцна адбіцца і на прыродзе Беларусі, надаючы ёй шмат характэрных рысаў ды рэзка адзначаючы яе́ ад прыроды якраз найбольш блізкіх і суседніх краёў, як, прыкл., Латвіі і Украіны.

У далейшым мы ня раз пераканаемся, што прырода Беларусі на ўсім яе́ вялізарным прасторы мае шмат супольных характэрных адзнакаў, якія адрожнююць яе́ ад прыроды суседніх краёў. Гэта адносіцца і да беларускіх рэкаў, і ўзгоркаў, і да беларускага сіняга, як вочы дзяце́й беларускіх, не́ба, і да ўсяго характару беларускага краявіду, і нашага ў меру мягкога клімату, і ўрэшце — жывое прыроды.

Разгляд прыроды Беларусі мы пачне́м з апісаньня будовы і выгляду паве́рхні зямлі ў Беларусі, ад якіх моцна зале́жаць усе́ іншыя бакі жыцьця нашае прыроды.

## § 6. ВАЖНЕ́ЙШЫЯ ТЫПЫ БЕЛАРУСКІХ КРАЯВІДАЎ.

Пераяжджаючы праз Беларусь уздоўж і ўпоперак яе́, мы будзем бачыць шмат краявідаў — і падобных да сябе, і вельмі розных між сабою. Разгле́дзім больш характэрныя з іх.

На паўдня ад мяжы Беларусі, ўжо ў Украіне, ляжаць **стэпы**. Тамака, як выйсьці ў поле, перад вачамі адкрываюцца вялізарныя роўныя і бязьле́сныя прасторы; бывае, што нідзе і дрэўца не пабачыш, ані ўзгорачка, да якіх мы гэтак прызвычаіліся ў Беларусі. Роўнае, як стол, поле йдзе ў даль, аж пакуль ня зьліваецца з не́бам, аж да самага гарызонту. І толькі дзе-ня-дзе трапляюцца глыбокія, з ве́льмі стромкімі, проста навет стацьцявымі берагамі, — равы-яры, якіх папракопавала вада, што зьбіралася з гэнага вялізарнага поля — стэпу. Равы гэтыя бягуць да рэчкі, якая плыве па шырокай даліне, адгранічанай з абоіх бакоў высокімі ды стромкімі сьце́намі — берагамі, на версе якіх сьце́лецца роўнае стаповае поле. Глянуўшы зьнізу, ад рэчкі на тыя сьце́ны-берагі, здае́цца, што гэта такія самыя горы, як і ў нас бываюць; іхняя вышыня даходзіць іншы раз да сотні і больш сажанёў. Але гэтак выдае́ толькі зьнізу: узышоўшы на такую «гару», мы пабачым вакола сябе́ ўсё тое самае стаповае роўнае поле. Між іншым ве́даем мы ўсе́ добра, што ў стапох зямля ве́льмі ўраджайная; ляжыць там таўсты пласт чарназёму, па

аршыну, дый больш таўшчынёю, дык яго і гнаіць ня трэба, і ўсё роўна збожжа родзіць, як ня трэба ляпе́й.

У Беларусі нідзе мы такіх стэпаў ня знойдзем, бо пачынаюцца яны якраз за нашаю мяжою, за р. Дзясною. На наш бок Дзясны праўдзівых стэпаў ужо няма; ёсьць толькі ў паўднёвай ды асабліва ў паўднёва-ўсходняй Беларусі, ў Чарнігаўшчыне гэт. зв. **лесастэпы**. Там, дзе яны цяпер знаходзяцца, не́калісь таксама ляжалі бязьле́сныя стэпы. Але з часам пакрысе́ сталі зьяўляцца мале́нькія зарасьнікі ліставых дрэваў; з зарасьнікаў пасьля павырасталі гаі ды лясы, і на ме́йсцы даўне́йшага стэпу запанаваў ле́с. Вільгаці тут і ране́й было больш, чымся ў паўднёвым стэпу (бо бліжэй да мора), а як пайшлі лясы, дык яшчэ яе́ пабольшала. Вада павыкопавала шмат новых яроў і павыпаласкавала з чарназёму шмат яго частак, найбольш пажыўных для расьлінаў. Чарназём зрабіўся значна бядне́йшым.

У нашыя часы лясоў тых ня шмат ужо засталося; але ўсё-ж ня там, то там выгляне зялёны гаёк з старымі дубамі, яварамі, ды ляшчынаю. А ў ярох, ды паразмываных шырокіх рачных далінах залягаюць на вялізарных прасторах пескавыя грунты, на якіх парасьлі вялікія хваёвыя бары. Большая частка зямлі тут абе́рнута пад поле, і трэба сказаць, што хаця тут зямля і бядне́йшая, як чарназём, але ўсё-ж збожжа на ёй добра родзіць і гаспадары там жывуць нябе́дна. Цікава адзначыць, што тут на палёх мы ня сустрэнем каме́ньняў.

* *
*

Перанясе́мся цяпе́р думкаю з нашага Чарнігаўскага лесастэпу на другі кане́ц Беларусі, ў Віцебшчыну.

Жыхару паўднёвай Беларусі адразу будзе здавацца, што ён трапіў у праўдзівы горны край. Куды ні глянь — усё горы ды горы. Едзеш па дарозе, дык усё або пад гару, або з гары; рэдка-рэдка здарыцца поўвярсты роўнае дарогі. Каме́ньня тут усюдых як-бы насе́яў хто: ляжыць яно і паасобку, і цэлымі грудамі-крушнямі, а то дык і вялікае поле скрозь бывае завалена каме́ньнем; асабліва шмат яго на ўзгорках. Узгоркі тут рэдка бываюць стромкімі. Найчасьце́й яны памалу падыймаюцца над далінамі, а зьве́рху роўныя, гладкія, быццам рукою прыгладжаныя. Узгоркі звычайна бываюць паабрастаўшы мяшаным ле́сам; дзе́ля гэтага на гарызонце вока заўсёды ўпіраецца ў ле́с.

І лагодныя ўзгоркі, і зялёныя лясы робяць краявіды гэтае старонкі дужа прыгожымі. Але найле́пш прыхарошуюць іх сьве́тлыя вазёры, што ляжаць між узгоркаў, і якіх тут ёсьць бяз ліку; уве́сь край чыста зрэзаны гэтымі вазёрамі (рыс. 3). Дарога іншы раз мусіць дзесятак вёрст круціцца паміж іх, каб выйсьці на другі бок возера, што ляжыць, можа, за якую

вярсту. Прыемна жыць у гэтым прыгожым краю, але нялёгка гаспадарыць.

Такі край гораў, каменьня і вазёраў называюць **морэнным краем.**

* *
*

А вось яшчэ адзін абразок, які вельмі часта можна сустрэць у Беларусі. Ня дужа вялікая, роўненькая палянка. Навакола, як вокам сягнуць, стары хваёвы бор. У рагу палянкі з бору выплывае рэчка, ля рэчкі стаіць шэрая вёска, а ад яе па ўсёй палянцы цягнуцца роўныя зялёныя шнуры сялянскага збожжа. Ніводнага ўзгорка, — усё роўна, як у стэпу. Але няма і тых яроў, ды рачных далінаў з стромкімі берагамі. Тутака рачное даліны саўсім блізка ня знаць, а ў рацэ вады — роўна з берагамі. Ціха цячэць гэтая вада па нязначнаму спаду, аж пакуль яе што не затрымае. А як задзержыць яе што, яна шырака разальлецца і зробіць на мейсцы поля ды ўзьбярэжнае сенажаці — балота. Гэткія балоты, бывае, цягнуцца праз дзесяткі вёрстаў (рыс. 4). Травы на іх расьце досіць. Праўда, трава гэтая — благая, але ёсьць яе шмат. Гаспадары цярэбяць лазу ды бярэзьнік, якімі хутка абрастаюць гэткія балоты, крыху іх падсушуюць, праводзячы канавы, і гэткім чынам уздоўж рэк зьяўляюцца вялізарныя палескія сенажаці.

На полі зямля тут усюды вельмі лёгкая, пясок. Ураджай з яе малы, дык гаспадары найбольш увагі зьвяртаюць на сенажаці ды гадоўлю скаціны.

Часамі, бывае, лясы высякаюць. Тады далёка-далёка, як вока сягне, відна ўсё тая самая раўніна з роўнымі паяскамі ніваў ды абшырнымі балотнымі сенажацямі, аж пакуль недзе на гарызонце за шмат вёрстаў не пакажацца палоска лесу.

Гэты край пяшчаных раўнінаў, паросшых хваёвымі барамі, і вялізарных балотаў ды балоцістых сенажацяў, называюць **палесьсем.**

Мы разгледзілі такім чынам тры найбольш тыповыя беларускія краявіды: лесастэп, морэнны край і палесьсе. Трапляюцца ў Беларусі яшчэ і іншыя досіць характэрныя краявіды; аб іх будзе гутарка пазьней. Цяпер глянем, як у навуцы растлумачана, адкуль і якім чынам стварыўся гэткі выгляд нашае зямлі.

## § 7. ЛЯДАВІКОВЫ ПЭРЫЯД ГІСТОРЫІ НАШАЕ СТАРАНЫ.

У далёкай мінуўшчыне, шмат тысяч гадоў назад быў такі час, калі ўва ўсёй паўночнай Эўропе стала шмат халадней, чым, прыкл., ёсьць цяпер. Адначасна з гэтым праз тысячы гадоў бязупынна лілі ся дажджы, і шоў сьнег. Дзякуючы гэтаму ў поўночных горных краёх, у Фінляндыі ды



Рыс. 4. Палéскі краявід.

Скандынавіі (Швэдзія і Норвэгія), павырасталі вялізарныя масы лёду, па нéкалькі сот сажняў таўшчынёю. Тым часам дажджы ўсё ліліся, нарасталі зьвéрху ўсё новыя лядавыя горы і націскалі на тыя, што стварыліся ўпéрад. З гэтае прычыны маса лёду кранулася і памалу папаўзла на паўдня, адрываючы ад скалаў большае і мéншае камéньне, якое, мяшаючыся з лёдам, пераціралася на пясок. Шмат камéньня ляжала зьвéрху на лёдзе, шмат было ў сярэдзіне, шмат валок гэты, як яго называюць, **лядавік** пад сабою камéньня, ды пяску, гліны і іншага перацёртага матар'ялу; апрача таго, перад сабою лядавік сунуў найбольшае камéньне, ды было яго шмат і па бакох ці берагох гэнага лядавіковага мора (рыс. 5).



**Рыс. 5. Адзін з сучасных лядавікоў.**
**Наперадзе рысунку — лядавіковы паток, які прабіваецца праз камéньне канцавое морэны.**

Усё гэтае камéньне, пясок, гліну называюць **морэнаю.** Тая морэна, якую лядавік пхаў перад сабою, называецца **канцавою морэнаю**; тая, што была падысподам лядавіка, — **падысподняю** (доннаю) **морэнаю.**

Праз шмат вякоў поўз лядавік на поўдня, аж у канцы дапоўз і да Беларусі, ды ўсю яé накрыў. Увéсь край схэз пад аднастайнаю посьцілкаю бруднага, перагружанага фінлян-

дзкім каменьнем, лядавіка. Папоўз ён і яшчэ далéй і заняў частку Ўкраіны; наагул пад лядавіком апынулася ўся паўночная Эўропа: значная частка Нямéччыны, Польшчы, Маскоўшчыны, Украіны ды іншых старонак; усяго да 6 міл. кв. вёрст было ім пакрыта.

Доўга была схавана зямéлька нашая пад лядоваю вопраткаю, — аж пакуль не вярнуліся цяплейшыя гады. Тады лёд пачаў пакрысé растапляцца; на паўдні ён хутка ўжо зусім зыйшоў. На Беларусі, асабліва паўночнай, ён крыху даўжэй затрымаўся, але праз нéйкі час пачаў з-пад яго аслабаняцца і Беларускі прастор. Калі мы ўздумаем, якія паводкі бываюць у нас вясною з таé прычыны, што растаé пласт сьнéгу ўсяго нéкалькі вяршкоў таўшчыні, дык зможам сабé ўявіць, што сталася, калі пачала таяць маса лёду, таўшчынёю на нéкалькі сот сажанёў. Зразумéла, што выйшла бяз мéры шмат вады і вада гэтая рынулася кудою толькі магла, і па вольным ад лядавіка прасторы, і падысподам самога лядавіка, каб трапіць у моры ды акеаны. Па ўсёй Беларусі пацяклі вялізарныя лядавіковыя рэкі, якія папракопавалі сабé глыбокія, шырачэнныя даліны, добра значныя і да нашага часу **(лядавіковыя даліны)**.

Спачатку лядавіковыя воды ня мéлі пэўнага стоку. На паўдня ад Беларусі, у Ўкраіне, ляжаць Валынскія (ці, як кажуць, Аўратынскія) горы. Гэныя горы задзéржавалі сток вады на паўдня, і яна стала перад імі, творачы вялізарнае возера, ці, як называюць яго часамі, Гэродотавае мора. Возера гэтае заняло блізка што ўсю паўднёвую Беларусь. Лішкі вады з яго сьцякалі найбольш на захад, уздоўж паўднёвага краю лядавіка, творачы сабою вялікую раку, якая праз Польшчу і Нямéччыну нéсла свае воды аж ў самае Нямéцкае мора.

Такім самым спосабам, як на паўдні, стварыліся вялікія лядавіковыя вазёры і ў іншых мяйсцох Беларусі, прыкл., каля Полацку — Полацкае возера, таксама — на тым мейсцы, дзе цяпер Налібоцкая пушча, далей — у паўднёвай часьці Ігуменскага павéту і г. д.

Зыходзячы з Беларускае зямлі лядавік пакідаў па сабé значныя сьляды. Уся морэна — маса пяску, гліны, каменьня і цэлыя навет скалы, якія нёс з сабою лядавік, засталася на мéйсцы і пакрыла ўсю Беларусь досіць таўстою карою — часамі сажанёў да 50-х таўшчыні. За той час, які нас дзéліць ад лядавіковага пэрыоду, з гэтаю морэнаю зрабіліся вялікія зьмены. Пад уплывам вады, марозаў і павéтра скалы пашчапаліся на камéньне, камéньне паразваліваласа на жарству, а з жарствы зрабілася морэнная гліна.

Мы вéдаем, што робіцца з такою глінаю, калі яе раскалаціць у бягучай вадзе. Вада замуціцца і пацячэ далéй, але зараз-жа муць з яе пачнé асядаць. У гліне, як ведама, ёсьць пяшчынкі і ёсьць глéй. Пяшчынкі большыя і цяжэйшыя, вадзе труднéй іх трымаць на сабé і яны хутчэй асядуць. А

глей — лёгкі, і яго вада можа далёка занесьці; ў канцы-ж і ён таксама не́дзе ў іншым ме́йсцы асядзе. Гэтак звычайна бягучая вада дзе́ліць морэнную гліну на пясок і гле́й.

З-пад лядавіка на паўдня цяклі нязьлічоныя рэкі і ручаі ўзмучанае вады, якая, дзякуючы свайму борздаму цячэньню, размывала, захапляла і цягнула з сабою масы морэннае гліны, створанае лядавіком. Трапляючы ў Гэродотавае мора, ці ў якое іншае возера, узмучаная вада рэкаў пачынала цякці ве́льмі памалу і дзеля таго з яе́ тут асядаў пясок. Гляістыя-ж часткі вада не́сла дале́й.

З лядавіка ўвесь час дзьмулі вятры, якія, спускаючыся ўніз, на вольныя ад лядавіка прасторы, рабіліся цёплымі і сухімі, — гэтак сама, як і цяпе́р бывае з вятрамі, што дзьмуць з высокіх горных краінаў (фены). Гэтыя вятры абсушылі ўсю незанятую лядавіком і вадою паверхню і адложаныя на ёй морэнныя матар'ялы, ды навет перасушылі іх. На тым мейсцы, дзе яшчэ нядаўна былі лядавыя горы, зрабілася цяпе́р сухая бязводная пустыня. Ве́цер дакончыў тую работу, якую была пачаўшы вада. З морэннае гліны ён выдзьмухаў усе́ лягчэйшыя, гляістыя часткі і зрабіў з іх безпрасьветныя хмары пылу, якіх увесь час гнаў на паўдня. Тамака, найбольш за Дзясною, дзе цяпер украінскія стэпы, пыл гэты асядаў на зямлю; цягнулася гэтая справа дужа доўга і праз гэты час тамака павырасталі таўстыя пласты гэнага пылу, якога вучоныя назвалі па нямецку лёссам (löss). На ім хутка парасьлі буйныя стаповыя травы, бо ў лёссе ёсьць шмат пажывы для расьлінаў. Год-у-год адміраючы і перагніваючы, стаповая расьліннасьць зрабіла верхні пласт лёссу чорным, чарназёмам.

Шмат дзе і ў нас, у паўднёвай Беларусі, асядаў лёсс і на ім тварыліся стэпы і чарназём, праўда, не такі багаты, як у краіне. Лёсс ляжыць у нас цяпе́р у Чарнігаўшчыне, Наваградчыне ды ў іншых мяйсцох паўднёвае Беларусі, найбольш астравамі сярод пластоў іншага паходжаньня. У даўне́йшыя часы, абкружаныя з усіх бакоў непраходнымі пушчамі, гэтыя астравы стэпу, мусіць, былі пе́ршымі ме́йсцамі, дзе пачынала разьвівацца земляробства. Праўда, большая частка нашых стэпаў пазарастала пасьля ле́сам і на ёй стварыўся вышэйапісаны лесастэпавы краявід.

Там, дзе пасьля лядавіка пазаставаліся канцавыя морэны, дзе морэннага матар'ялу пазаставалася найбольш, там ні вада ні ве́цер не змаглі зраўнаваць мяйсцовасьці (рыс. 6). Праўда, каме́ньне зьве́рху праз шмат гадоў паразсыпалася на жарству і гліну, на якіх сталі расьці дрэвы і трава. Вада і ве́цер, хаця і адкопавалі ўсё новае і новае каме́ньне і размывалі гліну, але расьлінная адзе́жа значна стрымлівала іхнюю работу. На ме́йсцы безкане́чных грудаў каме́ньня зьявіліся прыгожыя лясістыя ўзгоркі; у глыбокіх лагчынах між іх заляглі сьве́тлыя вазёры; каменная пустыня канцавое морэны абярнулася ў харошы **морэнны край**.

Канцавыя морэны паказуюць нам тыя ме́йсцы, дакуль дапоўз лядавік, або дзе ён на даўжэйшы час спыняўся (тамака таксама павінны былі адлажыцца значныя масы морэнных матар'ялаў). Варта заўважыць, што лядавік яшчэ некалькі разоў пасуваўся быў на паўдня, раскідаючы ўсё ў новых мяйсцох канцавыя морэны; толькі ніколі ўжо лядавік не захапляў гэткіх вялікіх прастораў, як пе́ршы раз; лічаць, прыкл., што другі раз ён заняў толькі паўночна-заходнюю Беларусь да Віцебску і Ме́нску. Відаць, пры тым, што ён ужо поўз не аднэю суцэльнаю масаю, а шырачэннымі лядавымі рэкамі ці языкамі; пасьля яго пазасталіся канцавыя морэны ў форме вялізарных падковаў, якія распасьце́рліся на сотні вёрстаў.

Там, дзе лядавік адлажыў толькі сваю падысподнюю



**Рыс. 6. Камяністы ве́рх морэннага ўзгор'я.**

морэну, мяйсцовасьць мае выгляд раўніны. Матар'ялы, якія складаюць падысподнюю морэну, моцна перацёртыя і згладжаныя лядавіком; гэта найбольш — пяскі і гліны з дробным каменьнем. Тыповым прасторам, дзе лягла падысподняя морэна, ёсьць Лідчына (на захадзе Беларусі).

Пакрысе высыхалі і лядавіковыя вазёры. Гэродотавае мора, названае так затым, што аб ім успамінае ў сваіх творах Гэродот, грэцкі вучоны, які жыў 2400 гадоў назад, відаць, існавала ня так навет даўно*); цяпер яго ўжо няма.

---

*) Гэродот піша, што «на поўнач ад земляробаў Скіфаў жывуць Будыны, народ вялікі і многалічны, ўвесь бялявы і ў рабаценьні. Маюць яны дзераўляны горад, а імя гораду Гэлонос. Уся іхняя зямля пад лесам. У самай галоўнай пушчы знаходзіцца вялікае і многаводнае возера, а вакола яго — шмат вадзяных прастораў, што пазарасталі чаротам».

Засталіся ад яго толькі не́калькі невялікіх вазёраў (воз. Князь, Выганоўскае і інш.), засталіся вялізарныя балоты, што ляжаць уздоўж р. Прыпяці, ды пескавыя прасторы Пале́сься, што былі не́калісь ягоным дном. Такія-ж сьляды пазаставаліся і па іншых лядавіковых вазёрах.

## § 8. БЕ́ЛАРУСЬ У СТАРЭЙШЫЯ ГЕОЛЁГІЧНЫЯ ЭПОХІ.

Пад лядавіковымі пластамі ў глыбіне́ зямлі ляжаць пласты, якія стварыліся ране́й, найбольш у тыя геолёгічныя эпохі, калі на прасторах Беларусі бушавалі марскія хвалі. Трэба адзначыць, што пласты, адносячыяся да розных геолёгічных эпохаў, ляжаць у нас саўсім блізка горызонтальна, роўна. Прычына гэтага тая, што значных горатворчых працэсаў на прасторах Беларусі не адбывалася ад самых даўных часоў — ад Архэйскае эпохі. Толькі тады, магчыма, што былі нейкія сфалдаваньні зямное кары і ў нас, але на працягу міліёнаў гадоў, якія нас дзе́ляць ад тае́ эпохі, гэтыя сфалдаваньні былі паразмываныя і зраўнаваныя, і ўплывы іх на выгляд паверхні Беларусі зрабіліся нязначнымі. У пазьне́йшыя-ж часы адбываліся, дый цяпе́р адбываюцца, толькі дужа павольныя падняцьці, ды апусканьні асобных краінаў у Беларусі, г.зв. **эпірогенэтычныя рухі** зямное кары, пры якіх горызонтальнасьць пластоў не зьмяняецца*). Дзякуючы гэтым рухам прастор Беларусі быў не́калькі разоў заліваны морам і не́калькі разоў аслабаняўся з-пад яго.

Даўне́йшыя марскія пласты ў нас вельмі мала дасьле́джаны; можна сказаць, што з боку геолёгічнага наша Бацькаўшчына ёсьць краем невядомым, бо тыя ве́дамасьці, якія мы маем у гэтай справе, — і невялікія, і выпадковыя. На гэта было не́калькі прычынаў. Марскія пласты ляжаць у нас пад тоўстым лядавіковым пакрыцьцём, і, да таго-ж, ляжаць горызонтальна, а значыць, выходзяць на ве́рх толькі ве́льмі рэдка, — у якіх небудзь асабліва глыбокіх рачных далінах, ды яшчэ, калі лядавіковае пакрыцьцё часамі выпадкова не асабліва таўстое, або навет яго саўсім няма, як, прыкл., на паўднёвы захад ад Горадні. Звычайна-ж, каб дакапацца да марскіх пластоў, трэба зьнімаць некалькі дзесяткаў сажанёў лядавіковых матар'ялаў, рабіць значныя высілкі і выдаткі. У тых палітычных варунках, у якіх мы жылі дагэтуль, ня было магчымасьці праве́сці шырэйшых геолёгічных дасьле́даў; толькі некаторыя паве́ты выпадкова ле́пш дасьле́джаныя стараньнямі асобных людзей, або самаўрадаў, прыкл., Наваградзкі паве́т, Смале́ншчына і г. д.

Акад. Карпінскі выпадкова адкрыў у Ігуменскім пав., каля в. Раванічаў выхад марскіх асадаў **Кэмбрыйскае эпохі** (гл. рыс. 7). Гэта дало магчымасць зрабіць вывад, што ў часе гэтае

*) Невялікае выпінаньне ўве́рх зямное паве́рхні, аднак, ме́ла ме́йсца пазьне́й — у Кайнозойскай эпосе (гл. ніжэй).

найстарэйшае эпохі паве́рхня зямлі ў Беларусі была значна паніжэла, дзеля чаго з Захаду надыйшло мора і пакрыла блізка што ўсю Беларусь. Мора гэтае было няглыбокае; трывало яно яшчэ і ў **Сылюрскую эпоху**, ў канцы якое паве́рхня Беларусі паднімаецца, асабліва з усходняга боку, і ўрэшце ўся Беларусь выходзіць з-пад вады.

У другой палавіне чарговае **Дэвонскае эпохі** мора ізноў находзіць на Беларусь, але цяпе́р ужо з паўночнага ўсходу, з Маскоўшчыны (Тіманскае мора). Залівае яно п а ў н о ч н а-ў с-х о д н ю ю ч а с т к у Б е л а р у с і і застаецца там яшчэ і праз




**Рыс. 7. Геолёгічная карта Беларусі**
(подлуг Siemiradzki'я і Семенава).
КМВ — выхад кэмбрыйскіх пластоў.

частку Вуглявое эпохі. Толькі ў канцы **Вуглявое эпохі** ўся Беларусь робіцца сухазе́млем; сухасьць клімату не дала, аднак, магчымасьці стварыцца значне́йшым пластом каменнага вугаля. Таксама не зачапляюць Беларусь і моцныя гаратворчыя процэсы, якія ў гэтым часе адбываюцца ў Заходняй і Сярэдняй Эўропе.

Дэвонскія пласты пакрываюць усю паўночную Беларусь; зложаны яны найбольш з в а п н я к о ў і д о л ё м і т а ў

(Аршанская вапна — гл. ніжэй). На паўночным усходзе, каля самае ўжо ўсходняе мяжы Беларусі (у вярхоўях Дняпра), на дэвонскіх пластох зьверху ляжаць пласты Вуглявое эпохі, — найбольш вапнякі, ды цёмныя гліны.

Праз цэлы рад геолёгічных эпохаў (пермская, трыяс, юра) Беларусь застаецца сухаземлем. У **Крэйдавую эпоху** мора ізноў залівае Беларусь; гэтым разам надыходзіць яно ізноў з захаду і займае паўднёва-заходнюю частку Беларусі, — менш-больш да Бярэзіны і Вяльлі. Паўночна-ўсходняя Беларусь, пакрытая дэвонскімі пластамі, застаецца сухаземлем. Мора займае беларускія прасторы праз усю блізка Крэйдавую эпоху; за гэты час асядаюць пласты пішучае крэйды, якія з усіх марскіх геолёгічных пластоў найчасьцей выходзяць на верх і найляпей дасьледжаны.

У наступнай **Нумулітычнай эпосе (олігоцэн)** уся Беларусь ужо апошні раз заліваецца морам, якое надыходзіць з паўночнага ўсходу. Ў канцы гэтае эпохі мора аканчальна зыходзіць з Беларускага прастору.

У Нумулітычнай эпосе, а можа, крыху пазьней (у нэогене), крэйдавыя пласты разам з ляжачымі на іх олігоцэнавымі, відаць, пад уплывам моцных тагочасных горатворчых процэсаў, адбываўшыхся пры стварэньні Альпаў, Карпатаў і г.д., у некалькіх мяйсцох павыпіналіся ўверх, творачы гарбы, якія найбольш ішлі ў кірунку з Пдн.-Усх. на Пн. Зах.*). Мела гэта важнае значэньне пры тварэньні нашых узгор'яў і ёсьць аднэю з прычынаў, чаму крэйдавыя пласты часьцей іншых выходзяць наверх.

У **навейшыя (чацьвертарадныя) часы** ў Беларусі таксама адбываюцца эпірогенэтычныя рухі, але яны не нагэтулькі моцныя, каб значна зьмяніць прасторы, занятыя сухаземлем і вадою; іх навет ня лёгка заўважыць. У рэзультаце гэтых рухаў паўночная Беларусь крыху паднялася, а паўднёвая зьнізілася**); але трэба адзначыць, што да падыймаючыхся прастораў належыць і паўднёвы пояс узгор'яў што цягнецца ад Ваўкавыску праз Наваградак аж за Слуцак; наадварот, Лідчына, хоць і ляжыць далей на поўнач,— але зьніжаецца.

Цікаўна адзначыць, што навет з боку геолёгічнага Беларусь стаіць на ўзьмежжы Ўсходняе і Заходняе Эўропы, па чарзе перажываючы то з тэю, то з другою аднолькавыя і аднасчасныя геолёгічныя процэсы.

## § 9. УЗВЫШШЫ БЕЛАРУСІ.

Узвышаныя краіны ляжаць дзьвема шырокімі грамадамі на захадзе і паўночным усходзе Беларусі. Паміж

---

*) Siemiradzki. Geologja Ziem Polskich.
**) Wołłosowicz. Litwa i Białoruś.

іх, найбольш на паўдні краю, распасьцерліся палескія н і з і н ы, а на паўночным захадзе — нізіна Полацкая, натуральна дзелячы беларускія ўзвышшы на **заходнія і паўночна-ўсходнія.**

У сярэднім нашыя ўзвышаныя краіны паднятыя над роўнем мора на 100—110 саж., тады, як нізіны толькі на 50—60 саж. Уся Беларусь у сярэднім паднятая на **80 саж.**, а найвышэйшы пункт у Беларусі, Л ы с а я г а р а, падняты н а 161 с а ж. над роўнем мора.

Вялікі пояс эўрапейскіх нізінаў, які з захаду ідзе аж ад Нямецкага мора, дайшоўшы да Беларусі значна шырэе, займаючы прасторы ад Балтыцкага да Чорнага мора ды пераходзячы ў Усходне-Эўрапейскую раўніну; адначасна паверхня зямлі павышаецца і павышэньне гэтае трывае аж да самых усходніх межаў Беларусі, д з е і канчаецца. Тады, як Бэрлін падняты над роўнем мора на 15 саж., Варшава на 52, навет наш Пінск падняты над роўнем мора на 67 саж., а Магілеў на 84 саж., Горкі — на 100 саж., усходняя-ж мяжа Беларусі ідзе па узвышшам, даходзячым да 130—140 саж. Значыць, а г у л ь н ы с п а д Б е л а р у с і — н а з а х а д; у гэтым кірунку плывуць у большасці рэкі Беларусі. На ўсход ад мяжы Беларусі Эўрапейская раўніна пачынае зьніжацца ўва ўсіх кірунках а п р а ч а з а х о д н я г а; Масква паднята над роўнем мора толькі на 83 саж. Такім чынам, мы бачым, што Беларуская раўніна сярод эўрапейскіх раўнінаў ёсьць найвышэй паднятаю, і ёсьць самай усходняю з пахіленых на захад частак гэтае раўніны.

Узвышшы Беларусі па выгляду іхняе паверхні трэба падзяліць на п л о с к і я ў з в ы ш ш ы — высокападнятыя краіны з роўнаю паве рхняю зямлі, і ў з г о р' і, краіны з дужа няроўнаю паверхняю, пакрытыя ўзгоркамі большае і меншае вышыні. Найбольш гарысты выгляд маюць Н а в а г р а д ч ы н а, в а к о л і ц ы В і л ь н і і п а ў н о ч н а я В і ц е б ш ч ы н а.

Усе формы паверхні Беларусі стварыліся галоўным чынам дзякуючы лядавіку; меншую ролю тутігралі агульныя падняцьці ды зьніжэньні зямное кары. Нашыя галаўнейшыя ўзгор'і зложаны канцавымі марэнамі лядавікоў.

Апрача падзелу на заходнія і ўсходнія ўзвышшы варта разгледзіць і больш дробныя іх грамады. На захадзе Беларусі ляжыць грамада ўзгор'яў, маючая выгляд падковы, ў сярэдзіне якое знаходзіцца ўвесь блізка вадазборнік Вяльлі; гэта — а) **Вялейская падкова ўзгор'яў.** На паўдня ад Нёмна ляжыць цэлы рад узгор'яў, перарываных толькі шырокімі рачнымі далінамі прытокаў Нёмна, але маючых між сабою шмат супольнага, — b) **Паўднёвы ланцуг узгор'яў.** На поўначы, за Дзьвіною, ляжаць c) **Паўночныя морэны**, між якіх выкручуецца Дзьвіна. На паўдня ад верхняга Дняпра і далей на захад ляжыць d) **Дняпроўскае ўзгор'е.** Урэшце ўздоўж усходняе мяжы Беларусі разьляглося плоскае ўзвышшо e) **Вокаўскі лес.** Усе гэтыя ўзвышшы разгледзім асобна. (гл. карту ўзвышшаў, рыс. 8).

## § 10. ЗАХОДНІЯ ЎЗВЫШШЫ.

В я л е й с к а я   п а д к о в а   ў з г о р ' я ў складаецца з Віленскага і Сьвянцянска-Докшыцкага ўзгор'яў, якія йдуць уздоўж р. Вяльлі і Ме́нскага ўзгор'я, якое, быццам папярэчка, злучае іх усходнія канцы.

**Віленскае ўзгор'е** шырокім паясом цягнецца ўздоўж р. Вяльлі, на паўдня ад яе́. Краіна гэтая высака (ў сярэднім каля 120 саж.) паднятая над роўнем мора, пакрыта ня дужа вялікімі, лясістымі ўзгоркамі, раскіданымі без асаблівага парадку (рыс. 9). Ня гле́дзячы на тое, што асноваю ўзгор'я




**Рыс. 8. Узвышшы і нізіны Беларусі.**

I — Віленскае ўзгор'е. II — Сьвянцянска-Докшыцкая морэна. III — Менскае ўзгор'е. IV — Наваградзкае ўзгор'е. V — Ваўкавыскае ўзгор'е. VI — Горадзенскае ўзгор'е. VII — Падлясьсе. VIII — Мазырскае ўзвышшо. IX — Сувальскае ўзгор'е. X — Дзьвінскае ўзгор'е. XI — Віцебска-Невельская града. XII — Смаленская морэна. XIII — Дняпроўскае ўзгор'е. XIV — Старадубскае ўзвышшо. XV — Вокаўскі лес. XVI — Лідчына.

ёсьць найбольш канцавая морэна, морэнныя краявіды ня маюць тут такога выразнага выгляду, як, прыкл., у вышэйапісанай Віцебшчыне. Каме́ньня на паве́рхні ўзгоркаў ня ве́льмі многа; вазёраў саўсім блізка няма (мусіць, дзеля таго, што ве́рхнія пласты лёгка прапускаюць ваду). Найвышэйшыя пункты ўзгор'я — **Галагоры** (на поўнач ад Ашмяны — 151 с а ж.)

і гара каля **Ме́днікаў** — 138 с а ж. Аднак і тут узгоркі маюць дужа адхоныя, павольныя спады і ўся мяйсцовасьць мае выгляд шырока-зыбісты, а часамі навет і роўны.

Затое, падыходзячы да Вяльлі, узгор'е зрэзанае глыбокімі далінкамі яе быстрых прытокаў, мае выгляд праўдзівае горнае стараны; стромкімі сьце́намі спадае яно ў глыбокую даліну Вяльлі, творачы цэлы рад мяйсцовасьцяў з надзвычайна прыгожым краявідам, вядомых з гэтае прычыны далёка за ме́жамі Беларусі (рыс. 10). Асабліва гэта адносіцца да ваколіцаў Вільні, гэтага мо' найпрыгажэйшага з нашых ме́стаў. Узгор'е тут, даходзячы свайго заходняга канца, упіраецца ў Вяльлю, якая быццам стала яму поперак дарогі. Тут якраз пры вусьці быстрацечнае горнае рэчкі В я л е й к і творыцца на бе́разе Вяльлі абшырная катліна, ў якой ляжыць Вільня.



**Рыс. 9. Віленскае ўзгор'е каля Вільні.**

З усходняга боку Віленскую катліну замыкаюць досіць высокія, стромкія горы, зрэзаныя ярамі, зьбягаючымі да р. Вялейкі, якая цячэць ля іхняга падножжа. З паміж гэтых гораў значнейшыя — З а м к о в а я, Т р о х - К р ы ж о в а я і Б а к е́ ш а в а  г а р а, якія высяцца над самаю Вільняю і надаюць шмат прыгожасьці яе выгляду. Заходнюю сьцяну катліны твораць слаўныя Панары, ланцуг высака паднятых над далінаю ракі, лясістых узгоркаў, зрэзаных ярамі. Аднак абсолютная вышыня (над роўнем мора) Панараў ня дужа вялікая — каля 90—95 саж. Вёрст 5 ніжэй Вільні Панары падыходзяць да самага берагу Вяльлі і спадаюць амаль

што не стацьцявою сьцяною на яé берагі. Гэтая мяйсцовасьць, дый наагул усе Панары вызначаюцца чаруючым харaствoм сваіх гарыстых краявідаў.

Далéй на захад мяйсцовасьць ніжэець і раўнéець, пакрысе пераходзячы ў ляжачую яшчэ далей на захад Літоўскую нізіну. Каб зрабіць лягчэйшым чыгуначны рух паміж Віленскай катлінаю і Літоўскаю нізінаю пад Панарамі пракапаны т у н э л ь, па якім ходзіць чыгунка.

На правым бéразе Вяльлі проці Вільні пачынаецца невялікае ўзгор'е **Шэшкіні**, якое замыкае Віленскую катліну ад поўначы.

Віленскае ўзгор'е служыць вададзéлам паміж прытокамі Вяльлі і Нёмна. У паўднёвы бок яно вéльмі лагодна



**Рыс. 10. Бéраг р. Вяльлі каля Вільні.**

зьніжаецца, пераходзячы ў **Лідзкую краіну падысподняе морэны.** Як і ўсé прасторы, пакрытыя падысподняй морэнаю, Лідчына мае саўсім блізка роўную павéрхню, аднак досіць высака паднятую над роўнем мора. Вазёраў тут саўсім няма. Толькі шырокія і глыбокія даліны лядавіковых рэкаў, па якім зьбягаюць да Нёмна яго правыя прытокі (прыкл., Марачанка, Котра і інш.), крыху прыхарошуюць гэтую раўніну. Яшчэ далéй на паўдня, на ўзьбярэжжах Нёмна, разьлягліся на пяшчаных раўнінах цэлым вялізарным паясом п у ш ч ы (Налібоцкая, Горадзенская ды ін.).

Паўночнае плячо Вялейскае падковы творыць **Сьвянцянска-Докшыцкая морэна**. Галоўны яе́ хрыбе́т ляжыць досіць далёка ад Вяльлі; цягнецца ён ад Сьвянцянаў на Глыбокае і Докшыцы дый дале́й яшчэ на ўсход, аж да самага Ле́пеля. Зложаны ён з гранітнага каме́ньня канцавое морэны, якога шмат ляжыць тут і на паве́рхні зямлі. Досіць высокія ўзгоркі, якія іншы раз падыймаюцца сажанёў на 40 над далінамі і пакрытыя мяшаным ле́сам, з усіх бакоў замыкаюць кругавід і робяць яго досіць це́сным. За тое, ўзыйшоўшы на які-не́будзь вышэйшы ўзгорак, можна пабачыць надзвычайна прыгожы абраз гэтае мяйсцовасьці. Сярод лясных узгоркаў ляжаць тут вялікія вазёры, з берагамі то высокімі і сухімі, то прападаючымі ў шырокім паясе́ ўзьбярэжных балотаў. Вышыня ўзгор'я над роўнем мора даходзіць **да 130 саж**.

На паўдня ад галоўнага хрыбта аж да самае Вяльлі ляжыць таўсты пласт падысподняе морэны, на якім параскіданы невялічкія ўзгор'і (канцавыя морэны), пакрытыя найбольш хмызьнякамі ды рэдкімі дубамі. Узгор'і гэтыя чарадуюцца з вялікімі вазёрамі (Н а р а ч, С ь в і р с к а е і інш.) і невялічкімі раўнінамі, характэрнымі для падысподняе морэны, а бліжэй да Вяльлі — з значнымі роўнымі пяшчанымі, а часам і балоцістымі прасторамі, што пазарасталі хваёвымі лясамі. Досіць высокія ўзгор'і (каля 120 с.) даходзяць і да самага бе́рагу Вяльлі. Прабіваючыся праз іх, правыя прытокі Вяльлі маюць высокія (да 25 саж.), стромкія берагі; гэтыя-ж узгор'і робяць і берагі сярэдняга цячэньня самое Вяльлі высокімі, стромкімі і дужа прыгожымі (прыкл., каля Смаргоняў).

Галоўны хрыбет узгор'я дзеліць вадазборнікі Вяльлі і Дзьвіны; аднак некаторыя прытокі Дзьвіны перасякаюць яго наскрозь і сьцягуюць ваду з дале́й на паўдня ляжачых вазёраў.

У паўночны бок узгор'е павольна зьніжаецца. Мяйсцовасьць, пакрытая няглыбокаю падысподняю морэнаю, робіцца роўнаю і пераходзіць у Полацкую нізіну. На ўсходзе ўзгор'е дзеліць вадазборнікі Бярэзіны і Дзьвіны. Падыходзячы пад Лепель, яно робіцца крыху вышэйшым. Гэтая ягоная частка называецца **Пышнагорам**. У падножжа Пышнагору ляжыць шырокая л я д а-в і к о в а я д а л і н а, якая злучала калісь Полацкае лядавіковае возера праз Бярэзіну з Палескім. Цяпер па ёй праведзены Бярэзінскія каналы, над якімі стаіць Л е п е л ь.

На паўдня ад Докшыцаў ідзе́ць **Ме́нскае ўзгор'е**. Займае яно Ме́нскі паве́т, ды часткі Барысаўскага, Ігуменскага, Вялейскага і Ашмянскага (цяпер — Валожынскага). Найвышэйшы яго пункт, адначасна і найвышэйшы пункт усяе́ Беларусі — **Лысая гара (161 саж.)**, знаходзіцца на мяжы Менскага, Барысаўскага і Вяле́йскага пав., ля вёскі Лысая Гара. Мала меншая ад гэтае гары — другая — **Сьвятая гара (160 саж.)** ляжыць на паўднёвы захад ад Ме́нску; лічаць, што з-пад яе́ выцякае Нёман.

Ме́нскае ўзгор'е, як і вышэйапісаныя, створана канцавою морэнаю, наваленаю тут лядавіком на таўсты пласт пады-

сподняе морэны, а можа і на крыху павыпінаныя больш старыя пласты. Часьцей, можа, чым дзе, спаткаем мы тут моцна гарыстыя краявіды. Высокія і стромкія ўзгоркі грамадзяцца адзін перад адным у магутныя горныя гнёзды, перасечаныя глыбокімі, найбольш сухімі, лагчынамі (сухадоламі), якія забалочуюцца толькі выпадкова і заўсёды лёгка могуць быць асушаны дзеля значнага спаду. Рэкі цякуць тут у досіць шырокіх далінах, пакрытых сенажацямі. На вéрсе ўзгор'я панакідана шмат камéньня, галоўным чынам граніту; мяйсцамі спатыкаюцца цэлыя полі, заваленыя камéньнем. Затое вазёраў тут саўсім блізка няма, калі ня лічыць дробных штучных сажалак, і гэта найбольш адрожнівае Мéнскае ўзгор'е ад тыповых морэнных краінаў.

Вярхі ўзгор'я моцна лясістыя, прычым лясы найбольш яловыя і мяшаныя; хваёвыя бары спатыкаюцца найбольш у пяшчаных рачных далінах. На паўднёвых-жа і ўсходніх спадах узгор'я лясоў мала; мяйсцовасьць робіцца шмат раўнéйшаю, бо замéста канцавое морэны тут ляжыць ужо падыспадняя, зложаная найбольш з ураджайных глінаў. Памалу зьніжаючыся і чарадуючыся што далéй, то з большымі прасторамі пяскоў і балотаў, узгор'е падыходзіць на ўсходзе да самае Бярэзіны. На паўдні і паўднёвым захадзе яно гіне ў пушчах Ігуменскага Палéсься, ды ляжачых над вéрхнім Нёмнам і ягонымі правымі прытокамі. Да аднаго з найбольшых такіх прытокаў,— Бярэзані Нёманскае, ўзгор'е безпасярэдна падыходзіць, творачы на рацэ высокія стромкія берагі; тут Мéнскае ўзгор'е і стыкаецца з Віленскім. Далéй на поўнач гэтыя ўзгор'і падзéлены шырокаю далінаю вéрхняе Вяльлі і лядавіковаю далінаю, якою калісь, у лядавіковыя часы сплывалі воды вéрхняе Вяльлі ў Нёманскую Бярэзань.

Мéнскае ўзгор'е ёсьць найвышэйшаю часткаю вялікага эўропейскага вададзéлу на ўсёй Усходне-Эўрапейскай раўніне. Трэба адзначыць, што такое палажэньне надае яму асаблівы характар; з узгор'я расьцякаюцца ўва ўсé бакі невялічкія рэчкі, якія гдзéсь далёка за яго мéжамі робяцца вялікімі многаводнымі рэкамі. І Нёман, і Вяльля, і Бярэзіна, і Птыч, якія ўсé пачынаюцца на гэтым узгор'і, маюць тут вéльмі скромны выгляд, і сваёй прысутнасьцяю досіць мала зьмяняюць агульны краявід.

---

Уздоўж Нёмна, найбольш па яго правым бéразе, ляжыць на бедных пяшчаных раўнінах цэлы п а я с  п у ш ч а ў, якія на ўсходзе злучаюцца з Ігуменскім Палéсьсем. На паўдня ад гэтых пушчаў мяйсцовасьць робіцца значна вышэйшаю, а часамі прыймае выгляд праўдзівага горнага краю. З захаду ад Нарві на ўсход аж да Бярэзіны (Дняпроўскае) цягнецца тут **Паўднёвы ланцуг узгор'яў**. Глыбокія, з стромкімі берагамі, даліны лéвых прытокаў Нёмна дзéляць яго на часьці ды робяць краявіды яшчэ больш разнароднымі.

Увéсь ланцуг зложаны канцавымі морэнамі, пад якімі ляжыць досіць значны (на якіх 70—80 саж. вышыні) выгін старэйшых (крэйдавых) пластоў, г. зв. **Наваградзкі горб.** З прычыны гэтага выгіну тут часта з-пад лядавіковых пластоў выглядаюць старэйшыя пласты, прыкл. часта выходзіць на вéрх пішучая крэйда. Падняцьце зямное павéрхні ідзéць тут і цяпéр, што значна па берагох рэк, якія ўсё глыбéй і глыбéй уразаюцца ў дно сваіх далінаў.

Цэнтральнае і найвышэйшае мейсца ў ланцугу займае **Наваградзкае ўзгор'е.** Канцавая морэна ляжыць нéкалькімі градамі ў паўночнай і заходняй частках Наваградзкага павету, ды сумежных частках Слонімскага павету і надае мяйсцовасьці гарысты выгляд. Рэзкія рысы стромкіх узгоркаў, прысутнасьць на іх паверхні масы каменьня зьбліжае гэтую краіну да тыпова-морэнных. Вазёры тут, аднак, спатыкаюцца рэдка і невялікія; апроч таго, краявід зьмяняецца ад павысяканых шмат дзе лясоў. Найвышэйшыя пункты ўзгор'я — каля самага Наваградку (**Замковая гара — 151 саж.**, рыс. 11) і гара каля **в. Каменка**, адкуль адкрываюцца віды на дзесяткі вёрст наўкола, на ўсю гарыстую Наваградзкую краіну. Пераходзячы ў Слонімскі павет, узгор'е стварае і там вельмі прыгожую гарыстую мяйсцовасьць, называную «Слонімскаю Швайцарыяю».



**Рыс. 11. Замковая гара ў Наваградку.**

На ўсход ад канцавое морэны мяйсцовасьць робіцца раўнейшаю. Апрача падысподняе морэны тут асеў лёсс. Гэта, здаéцца, найдалéй на паўночны захад высунуты востраў лёссу займае досіць значны прастор у самай сярэдзіне павéту*) і робіць яго грунты слаўнымі па ўраджайнасьці на ўсю Беларусь. Падобныя на лёсс пласты цягнуцца і далéй на ўсход, у Слуцкі павет, перарываныя мяйсцамі невялічкімі ланцугамі канцавых морэнаў, аж пакуль не спатыкаюцца з пяшчаным Палéсьсем. Аднак і на прасторы Палéсься можна пазнаць сьляды таго-ж падняцьця старэйшых пластоў, ці Наваградзкага гарба. На гэтым гарбé сярод Палескае нізіны астравамі ляжаць вышэйшыя мясьціны, з багацейшымі грунтамі, а берагі перасякаючых яго рэк (прыкл., Бярэзіны, Друці) робяцца стромкімі і камяністымі, ды зьмяняецца часам навет кірунак

*) Missuna. Przyczynek do geologji pow. Nowogródzkiego.

цячэньня ракі*). У часы лядавіковыя значэньне гэтага гарба відаць было яшчэ большым. Наагул Навградзкі горб быў пафночным рубяжом палескае нізіны, а ўзгор'і, якія павырасталі на ім, дзеляць і цяпер вадазборнікі Прыпяці і Нёмна.

На захадзе Наваградзкае ўзгор'е зьмяняецца шырокаю пяшчанаю далінаю р. Шчары, за якою далей на захад ляжыць некалькі невялікіх узгор'яў, належачах да Паўднёвага ланцуга. **Ваўкавыскае ўзгор'е**, паміж Слонімам і Воўкавыскам, падзелена напалам глыбокаю далінаю р. З а л ь в я н к і. Вышыня яго 100—120 саж. Яшчэ далей на захад — **Горадзенскае ўзгор'е**, у Сакольскім, Горадзенскім і Аўгустоўскім паветах. Вышыня гэтага ўзгор'я крыху меншая, чым Воўкавыскага, але ўсё-ж даходзіць 100 саж. Яно змушае Нёман пад Горадняю крута павярнуць на поўнач, прычым Нёман адразае ад узгор'я невялікую яго паўночную частку і плыве пад Горадняю ў цеснай даліне з высокімі, гарыстымі берагамі.

Абодвы ўзгор'і створаны канцавымі морэнамі (якія найбольш ляжаць на олігоцэнавых пластох), а з свайго выгляду, ды, мусіць, і з паходжаньня падобны да Наваградзкага ўзгор'я, ды толькі крыху ніжэйшыя. На паўдня яны памалу зьніжаюцца і мяйсцовасьць, пакрытая падысподняю морэнаю прыймае роўны выгляд **(Падляская раўніна)**; тут ляжыць між іншым Б е л а- в е ж с к а я п у ш ч а. Спатыкаюцца, праўда, і тут невялікія прасторы з няроўным, ўзгоркаватым краявідам, прычына якога — невялічкія канцавыя морэны. Так на ўсход ад Бельску знаходзяцца г. зв. Княжыя горы, каля Б е р а с ь ц я ды каля м. К а м я н ц а-Л і т о ў с к а г а мяйсцовасьць таксама няроўная. Найвышэйшы пункт Падлясься (100 с.) знаходзіцца на поўнач ад м. В ы с о к а г а. Пэўную match разнароднасьць уносяць у краявід і лядавіковыя даліны, досіць часта тут спатыканыя, дый яшчэ высокія берагі рэк.

У кожным разе і Падляская раўніна досіць высака паднята пад роўнем мора, асабліва раўнуючы да Палесься, якое разьляглося далей на паўднёвы ўсход. Шырокі і даўгі язык ад Падляскае ўзвышанае раўніны ўразаецца далёка ў Палескія прасторы, творачы паміж рэкамі Я с е л ь д а ю і П і н а ю роўны сухі і бязьлесны паўвостраў, званы **Загародзьдзем**. Пад Пінскам Загародзьдзе стромкім берагам высіцца над акружаючымі палескімі нізінамі на некалькі дзесяткаў сажняў.

Таксама сярод Палесься, але ўжо на ўсходзе яго, ляжыць досіць значны востраў, створаны **Мазырскім узвышшом**. Гэтае ўзвышшо ляжыць адзінока ў вялізарнай катліне Палесься і, здаецца, ня зьвязана з іншымі беларускімі ўзвышшамі. Затое магчыма яго сувязь з Валынскімі горамі**).

---

*) Wołłosowicz. Litwa i Białoruś.

**) Валынскія горы зложаны з крышталёвых скалаў, адносячыхся да Архэйскае эпохі.

У кожным разе там, дзе цяпер ляжыць Мазырскае ўзвышшо, відаць, істнаваў нейкі горб яшчэ ў даўнейшыя, перадлядавіковыя эпохі, а на яго ўжо налеглі зьверху лядавіковыя пласты.

Вышыня ўзвышша каля 100 саж. Зьве́рху пакрыта яно лёссам. Прарываючыся праз узвышшо, Прыпяць пракапала сабе́ глыбокую даліну, у якой адкрываюцца старыя (олігоцэнскія ды крэйдавыя) пласты; да гэтае даліны зьбягаюць глыбокія яры, прарэзуючыя ўзвышшо. Сярод гэткіх яроў разбудаваўся Мазыр.

І на поўнач, і на паўдня ад Мазыра ўзвышшо пакрысе́ пераходзіць у пале́скую нізіну, ствараючы, аднак, каля сябе́ сушэйшую ды гусьце́й засе́леную мяйсцовасьць, з усіх бакоў агорнутую самым глухім пале́сьсем.

Урэшце трэба ўспомніць аб **Сувальскім узгор'і,** якое падыймаецца на самай паўночна-заходняй мяжы Беларусі, аддзе́ленае ад Горадзенскага ўзгор'я шырокаю пяшчанаю паласою А ў г у с т о ў с к а е п у ш ч ы, займаючай даўнейшую лядавіковую даліну. **Сувальскае ўзгор'е** ёсьць тыповаю морэннаю краінаю, пакрытаю массай вазёраў. Вышыня яго досіць значная, але да Беларусі можна залічыць толькі яго паўднёвыя спады.

## § 11. ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНІЯ ЎЗВЫШШЫ.

Паўночная Беларусь, ці, тачне́й кажучы, вадазборнік Дзьвіны, як ужо гаварылася пры апісаньні краявіду Віцебшчыны (стр. 10), пакрыта ўзгор'ямі чыста морэннага выгляду. З гэтае прычыны ўзгор'і паўночнае Беларусі мы проста называем **Паўночнымі морэнамі.** Дзе́ляцца яны на тры галоўных грамады: 1) Д з ь в і н с к а е ў з г о р' е — на захадзе, 2) В і ц е б с к а-Н е в е л ь с к а я г о р н а я г р а д а — пасярэдзіне, ды 3) С м а л е н с к а я м о р э н а — на ўсходзе.

**Дзвінскае ўзгор'е.** На поўнач ад Полацкае нізіны мяйсцовасьць па абодвых бакох Дзьвіны робіцца вышэйшаю і прыймае чыста морэнны выгляд. Групы ўзгоркаў, раскіданыя без асаблівага парадку, чарадуюцца з вялікімі вазёрамі, ды пяшчанымі мяйсцовасьцямі пале́скага тыпу. Краявіды зьмяняюцца ў гэтай краіне ве́льмі часта, і ніколі не́льга ўгадаць, што давядзе́цца ўгле́дзіць за лініяю кругавіду. Ле́гла тут у часы лядавіковыя не́калькі канцавых морэнаў, якія разам ствараюць Д з ь в і н с к а е ў з г о р' е.

Займае гэтае ўзгор'е паветы Дрысенскі, Дзьвінскі, Себежскі, Люцынскі ды Браслаўскі. Найбольш рэзка яно выяўляецца ў Люцынскім павеце, ды часамі на берагох Дзьвіны; аднак значнае вышыні нідзе́ Дзьвінскае ўзгор'е не даходзіць. У даўнейшыя часы, відаць, значэньне яго было куды большае: перад ствараючымі яго морэнамі стрымаліся тады воды таючага лядавіка і стварылі П о л а ц к а е л я д а в і к о в а е в о з е р а.

Паміж Дрысаю і Дзьвінскам праз узгор'е прарываецца Дзьвіна, прычым на ёй творацца парогі. Гэтак каля м. Краслаўкі,

дзе праходзіць, відаць, галоўная града ўзгор'я, на працягу больш як дзесятка вёрст рака проста закідана каменьнем рознае вялічыні, праз якое з шумам прабіваецца вада, творачы цэлы рад невялікіх парогаў. Высокія берагі ракі таксама густа закіданы каменьнем. Часамі выходзяць наверх і старэйшыя геолёгічныя (дэвонскія) пласты — гліны ды пяскі розных колераў. Зьверху ўзгор'е пакрытае ўраджайнымі гліністымі грунтамі (рыс. 12).

На ўсход ад Полацкае нізіны ад Віцебску аж за Невель цягнецца **Віцебска-Невельская горная града**. Займае яна паветы Віцебскі, Гарадоцкі і Невельскі. На вока выглядае града на вельмі высокую краіну з тыповым морэнным краявідам. На вяршынах узгоркаў, у катлінах — усюдых бязьмеры накідана каменьня; маса



**Рыс. 12. Дзьвіна каля Краслаўкі.**
(Дзьвінскае ўзгор'е).

вазёраў пакрывае ўзгор'е. Узгоркі тут, аднак, ня маюць рэзкіх рысаў; іхнія спады павольна зьніжаюцца, пераходзячы ў лагчыны. Найбольшай высачыні даходзіць узгор'е на поўнач ад Гарадка (П а г а н а ў с к а я г а р а — 136 с а ж.).

На поўнач ад Невеля, каля мяжы Беларусі з Маскоўшчынаю, ўзгор'е робіцца асабліва высокім, з стромкімі спадамі і саўсім горным краявідам. Вось як апісуе яго расейскі геолёг Нікітін: «морэнны краявід прыймае тут рэзкія формы, а гэта, разам з густа разсе́янымі глыбокімі вазёрнымі катлінамі, надае краіне аж далёка на поўнач саўсім горны выгляд. Глыбокія прорвы,

даліны і катліны чарадуюцца з горамі, якія маюць блізка што няпрыступныя, стромкія спады. Існуючыя карты не даюць ніякага ўяўле́ньня аб гэным горным краявідзе. Вышыня гораў, ідзе́ ня ме́раная, павінна быць ве́льмі значнаю, калі навет лінія чыгункі, якая йдзе́ нізам, усё-ж паднята больш, як на 100 сажняў над роўнем мора»*). Гэтая высокая горная краіна займае сабою поўнач Не́вельскага і Се́бежскага паве́таў і яе́ называюць тут **Райскімі гарамі**; далей на поўнач, у Апочацкім ды Вялікалуцкім пав. працяг гэтых узгор'яў вядомы пад назовам **Вязаўскіх гораў**; яны там дзеляць вадазборнікі р. Ловаці і р. Вялікае дый хутка канчаюцца, пераходзячы ў расе́йскую вазёрнаю раўніну.

Уся Віцебска-Не́вельская града мае чыста лядавіковае паходжаньне і ёсьць, мусіць, канцавою морэнаю другога лядавіка. Пакрываюць яе найбольш морэнныя гліны. На поўначы ўзгор'е скрозь пазарастала ліставым ле́сам, зложаным з бярозы, асіны, дубу, з невялікімі домешкамі е́лкі.

Яшчэ далей на ўсход, ужо на левым беразе верхняе Дзьвіны, за шырокім паясом наддзьвінскіх пяскоў падыймаецца **Смаленская морэна**. Займае яна паветы Парэцкі, Духаўшчынскі, Смаленскі і часткаю — суседнія, і дзеліць вадазборнікі Дзьвіны і Дняпра. Вышыня гэтага ўзгор'я мяйсцамі бывае досіць значная — да 140 саж. Найвышэйшыя пункты ўзгор'я знаходзяцца на мяжы Духаўшчынскага і Парэцкага паветаў, у вярхоўях р. **Хмосьці** (прыток Дняпра). Узгор'е зложана, відаць, канцавымі морэнамі, якія ляжаць на старэйшых геолёгічных пластох (дэвонскіх). Мяйсцовасьць тут у значнай меры перасечаная ярамі ды далінамі рэчак і ручаёў, якіх берагі, таксама, як і спады ўзгоркаў, падыймаюцца павольна і маюць закруглены выгляд. Маса каменьня, раскіданага па ўзгор'ю, ды частыя вазёры дазваляюць лічыць краіну гэтую тыпова-морэннаю.

---

У ўсходняй Беларусі найважнейшым узгор'ем трэба лічыць **Дняпроўскае ўзгор'е**. На ўсход ад вышэйуспомненае Лепельскае лядавіковае даліны мяйсцовасьць яшчэ пэўны час мае выразна-морэнны выгляд з бязьлічнымі вазёрамі, паміж якіх параскіданы грамады морэнных узгоркаў; з апошніх трэба адзначыць **Каторсы**, ланцуг лясістых узгоркаў, што цягнецца ўздоўж мяжы Лепельскага і Сеньнінскага паветаў (на ўсход ад Чашнікаў). Усю гэтую старану можна лічыць прадоўжаньнем Сьвянцянска-Докшыцкае морэны.

Далей-жа на ўсход вазёраў робіцца шмат менш, мяйсцовасьць робіцца значна вышэйшаю, з лёгка зыбістаю паверхняю, з багатымі гляістымі грунтамі і густым насяленьнем. Гэта ўжо **Дняпроўскае ўзгор'е**.

*) Никитинъ. Геологическія наблюденія по Московско-Винд. ж.д.

Пачаўшыся на мяжы Сеньнінскага і Аршанскага паветаў, у вярхоўях р. Друці, займае яно захад Аршанскага пав., пасьля пераходзіць на левы бераг Дняпра і цягнецца далей на ўсход па Гарэцкім, Мсьціслаўскім, Красенскім, Рослаўскім паветах ды частках суседніх з імі, аж да самае р. Дзясны. Тамака, на ўсходзе, ідзе яно высокаю градаю далёка на паўднёвы ўсход уздоўж правага берагу Дзясны, робячы бераг гэты высокім ды стромкім; а дзеля таго, што тут узгор'е пакрыта лёссам, берагі Дзясны асабліва моцна зрэзаны глыбокімі ярамі. Такі самы выгляд мае і Старадубскае ўзвышша, якое ляжыць далей на паўдня, сярод лесастэпу, і пакрытае лёссам.



**Рыс. 13. Дняпро каля Шклова.**
(Паўднёва-заходнія спады Дняпроўскага ўзгор'я).

На паўднёвы захад Дняпроўскае ўзгор'е вельмі павольна зьніжаецца; тут ствараецца роўная сухая мяйсцовасьць, **Раданская раўніна**; толькі высокія правыя берагі рэк робяць яé краявіды крыху больш разнавобразнымі. Яшчэ далей на паўднёвы ўсход пачынаецца пяшчанае ды балоцістае Палесьсе.

Саўсім іначай выглядаюць паўночныя берагі ўзгор'я. На ўсходзе яны стромкімі, зрэзанымі ярамі сьцéнамі (як, прыкл., каля Смалéнску) спадаюць у даліну Дняпра. На захадзе паўночны край узгор'я, дайшоўшы досіць значнае вышыні (128

саж.), рэзка абрываецца над вялікаю пяшчанаю раўніною, пасярод якое ляжаць Верацейскія балоты.

Агульная вышыня узгор'я каля 100—120 саж. На захадзе найвышэйшы пункт узгор'я, як сказана, ляжыць над Верацейскімі балотамі. На ўсходзе найвышэйшыя пункты ўзгор'я ляжаць аж над Дзяснoю, ў Рослаўскім павеце (Рослаўскія вышыні). На ўсім сваім вялізарным прасторы (у доўжкі каля 300 вёрст) Дняпроўскае ўзгор'е перахоўвуе той самы выгляд краіны з зыбістаю паверхняю, гляістымі грунтамі, на якіх растуць вялікія яловыя лясы, з павольнымі і закругленымі спадамі ўзгоркаў. Рэкі прарэзуюць у ўзгор'і глыбокія даліны, якія прыхарошуюць і без таго дужа прыгожыя яго краявіды. (рыс. 13).



**Рыс. 14. Дняпроўскае ўзгор'е каля Мсьціслаўля.**
(Выхады старых геолёгічных пластоў).

Дняпроўскае ўзгор'е ляжыць на старадаўніх геолёгічных пластох (дэвонскіх), якія зьверху прыкрытыя морэннымі глінамі, а часамі лёссам (прыкл., каля Мсьціслаўля). У глыбокіх рачных далінах часта гэтыя старадаўнія пласты выходзяць наверх у відзе вапнякоў, долёмітаў і інш. (рыс. 14), якія шмат дзе разрабляюцца, як, прыкл., аршанская вапна, вядомая на ўсю Беларусь.

Дакаціўшыся да паўночных спадаў узгор'я, Дняпро ня можа перарваць яго сьцяны і змушаны даўгі час плысьці ўздоўж

яго паўночнае граніцы на захад. Толькі пад Воршаю ўдаецца Дняпру перарвацца праз узгор'е і зьмяніць свой змушаны заходні кірунак на паўднёвы. У мейсцы перарыва праз узгор'е на Дняпры знаходзяцца значныя Кабяляцкія парогі, якія ўпёрад моцна перашкаджалі судаходзтву; цяпер частку іх узарвалі*).

Сваёй усходняй часткаю Дняпроўскае ўзгор'е датыкаецца да г.зв. Сярэдне-Расейскага плоскага ўзвышша; некаторыя аўтары гатовыя навет самае Дняпроўскае ўзгор'е (дый ня толькі яго) лічыць часткаю гэнага ўзвышша, і называюць гэтае ўзгор'е Смаленска-Аршанскім клінам Расейскага ўзвышша; але, як мы далей убачым, і геолёгічная будова і самы выгляд абодвых узвышшаў моцна розьняцца паміж сабою. Трэба, аднак, адзначыць, што да Беларусі ўсё-ж належыць пэўная частка Расейскага ўзвышша, а іменна — заходнія спады г. зв. Вокаўскага лесу.

**Вокаўскі лес** — гэта высокападняты горб, які злучае Сярэдне-Расейскае ўзвышшо з ляжачымі на поўначы Валдайскімі горамі, ды адначасна дзеліць вадазборнікі Волгі і Дняпра, дзеліць Усходне-Эўропэйскую раўніну на дзьве часткі: адну — з заходнім нахілам, другую — галоўным чынам з усходнім. Беларуска-Маскоўская мяжа праходзіць тут найбольш па гэтым вельмі важным вададзеле і такім чынам заходні спад Вокаўскага лесу дастаецца Беларусі, ўсходні-ж — Маскоўшчыне.

На Вокаўскім лесе ляжаць гэткія беларускія паветы: Бельскі, Дарагабужскі, Ельнінскі, Ржэўскі і часткі суседніх паветаў. Краіна гэтая высака — на 100—120 саж. паднятая над роўнем мора. Ня глёдзячы на гэта яна саўсім роўная. Ні ўзгоркаў, ні вазёраў тут саўсім блізка няма; навет каменьняў няма ані на паверхні зямлі, ані ў грунтох. На вялікіх прасторах цягнецца аднавобразная, высокая, лясістая, а часта й моцна забалочаная раўніна. Морэннага краявіду тут не засталося й сьледу.

Нельга, аднак, прыраўнаваць гэтае краіны і да палесься. Ня кажучы ўжо аб высокім падняцьці над роўнем мора, гэтая краіна яшчэ і тым розьніцца ад палесься, што мае цяжкія гляістыя ці падзолавыя грунты і адпаведную да іх расьліннасьць. Усё ўзвышшо пакрытае ліставымі лясамі, бярэзьнікамі ды асіньнікамі, часткаю-ж мяшанымі; хваёвых бароў тут вельмі мала. Таксама і рэкі цякуць тут у глыбокіх ды шырокіх далінах і маюць досіць хуткое цячэньне; да іх зьбягаюць глыбокія яры, а ёсьць гэтых яроў досіць многа дзякуючы таму, што Вокаўскі лес пакрыты галоўным чынам мяккімі лёссавіднымі суглінкамі, у якіх саўсім няма каменьня (гэтак, як у лёссе) і якія, падобна як і лёсс, лёгка размываюцца вадою.

Паходжаньне гэтых суглінкаў тлумачаць розна: адны лічаць, што гэта звычайная падысподняя морэна, іншыя думаюць, што

---

*) Парогі гэтыя зложаны якраз з дэвонскага вапняка.

лёссавідныя суглінкі асе́лі з̆а скаламучаных лядавіковых водаў (гл. вышэй, стр. 16). У кожным разе пласт суглінкаў не таўсты і пад ім ляжаць старэйшыя пласты*). Гэтыя апошнія пласты складзены тут найбольш з вапнякоў, якія досіць часта выходзяць наве́рх. Дзеля таго тут, часьце́й чым дзе, можна заўважыць г. зв. карставыя зьявішчы. Вада, якая працякае зьве́рху, робіць у падзе́мных пластох вапны цэлыя пячоры і ходы. Дзякуючы гэтаму часта трапляецца, што рэчка будзе це́кці да пэўнага ме́йсца, а дале́й правалюецца пад зямлю, — гэта яна сходзіць у вапенныя ходы, а цераз некалькі вёрстаў яна йзноў паказуецца з-пад зямлі і цячэ дале́й. Магчыма, што пад зямлёю тут можна было-б знайсьці і досіць значныя пячоры.

Найвышэйшаю часткаю Вокаўскага лесу ёсьць г. зв. **Е́льнінскі вузел;** ляжыць ён каля м. Е́льні. Няглдзячы на сваю значную вышыню (каля 130 саж.) Ельнінскі вузел робіць уражаньне саўсім роўнае мяйсцовасьці. З яго ўва ўсе́ бакі расьцякаюцца досіць значныя рэкі — як Сож, Дзясна, Вугра (прыток Окі) ды інш., дзеля чаго ён і атрымаў свой назоў. На поўнач ад яго, з Вокаўскага лесу выцякае і вялікі Дняпро.

Вокаўскае ўзвышшо ўсё пакрытае лясамі ды гаямі, якіх тут ёсьць шмат больш, чым ворнага поля. Затым-жа яно і называецца ле́сам.

Вокаўскі ле́с ёсьць найбольшым з паміж беларускіх **плоскіх узвышшаў;** аб іншых мы ўспаміналі раней, гэта былі: Лідзкае, Падляскае, Загародзьдзе, ўрэшце Раданская раўніна. Маючы выгляд раўнінаў, яны разам з тым высака паднятыя над роўнем мора і, дзякуючы гэтаму, досіць сухія, ў большасці пакрытыя ўраджайнаю гляістаю зямлёю. Па свайму паходжаньню — гэта найбольш краіны, дзе роўным пластом легла падысподняя морэна, хаця бываюць у нас плоскія ўзвышшы і іншага паходжаньня. Цяпе́р нам застае́цца перайсьці да разгляду нізкіх раўнінаў, або нізінаў.

## § 12. НІЗІНЫ БЕЛАРУСІ.

Нізіны займаюць значную частку Беларусі, каля чверці ўсяго яе́ прастору. Найбольшымі спаміж іх ёсьць дзьве́ — Палеская і Полацкая нізіны. Наагул бяручы абедзьве яны маюць шмат супольнага па свайму паходжаньню і характару; але бывае, з другога боку, што і часткі кожнае з іх моцна непадобныя адна да аднае.

**Пале́ская нізіна** займае галоўным чынам вадазборнік р. Прыпяці, і ў сваёй геолёгічнай гісторыі моцна зьвязана з гэтаю ракою. Аднак на ўсходзе Пале́сьсе даходзіць да Дняпра, ды навет пераходзіць на яго ле́вы бераг каля вусьця Сожу.

---

*) Пласты гэтыя належаць да Вуглявое эпохі (тым часам, як пад Дняпроўскім узгор'ем ляжаць дэвонскія пласты).

Таксама ад Палéскае нізіны адыходзяць даўгія языкі на поўнач уздоўж Бярэзіны, Птыча, Ясельды, і займаюць шырокія лагчыны паміж паўночных узгор'яў. Распасьцéршыся ад Бугу аж за Дняпро і Сож, ды ад успомненага вышэй Наваградзкага гарба з ляжачым на ім Паўднёвым ланцугом узгор'яў — аж да Валынскіх гораў, Палéсьсе займае каля 80 тыс. кв. вёр. і цягнецца з усходу на захад больш як праз 500 вёрст.

Па ўсім гэтым вялізарным prасторы на крыху вышэйшых мяйсцох ляжаць пяшчаныя раўніны, пазарастаўшыя хваёвым борам, а на крыху ніжэйшых — бязьмежныя балоты розных відаў. Лéс і балота пануюць па ўсёй нізіне, пакідаючы ворнай зямлі ды сенажацям мяйсцамі толькі каля пятае часьці ўсяго прастору, прычым лéс займае каля паловы прастору, а рэшту — балота.

Выгляд усяго Палесься — раўнінны. Невялічкія ўзгоркі, якія тут часамі сустракаюцца, створаны ўжо не морэнамі. Ў большасьці — гэта паабрастаўшыя дзёрнам ці лесам пяшчаныя кучугуры (дюны), падобныя да тых, якія і цяпер творацца каля выдмаў, г.ё. там, дзе вецер пачаў раздзьмухаваць пяшчаныя грунты; бывае гэта найчасьцéй, калі з такога пяшчанага грунту зсякуць лéс, які там упéрад рос і стрымліваў раздзьмуханьне. Вось жа такіх кучугураў, а толькі створаных, мусіць, вéльмі даўно, спаткаць можна досіць у Палéсьсі; на іх, як на сушэйшых мéйсцах, любяць будаваць свае вёскі жыхары Палéсься. Вышыня іх, аднак, гэткая нязначная, што ані не зьмяняе раўніннага характару Палéскае нізіны.

Палéская нізіна паднята над роўнем мора ўсяго толькі на 45—70 саж., творачы такім чынам сярод акружаючых яé ўзвышшаў катліну глыбінёю ў 20—50 сажанёў; узвышшы гэтыя часамі падыймаюцца стромкаю сьцяною ў нéкалькі дзесяткаў сажанёў безпасярэдна над самымі палéскімі нізінамі (прыкл., Загародзьдзе, Мазырскае ўзвышшо). Наагул кажучы, дно Палéскае катліны на захадзе крыху вышэйшае, на ўсходзе ніжэйшае, і з гэтае прычыны воды з Палéскае нізіны маюць натуральны сток на ўсход; у гэтым кірунку, як вéдама, і плывé Прыпяць. Спад гэты, аднак, саўсім нязначны, і гэта ёсьць аднэю з прычынаў вялікае забалочанасьці Палéсься. Асабліва гэта адчуваецца ў цэнтральнай частцы Палéсься, каля Пінску. Тут якраз у Прыпяць упадаюць яé найбольшыя прытокі, якія зьбягаюць з акружаючых Палéсьсе ўзгор'яў, дзеля чаго маюць хуткі бéг ды нясуць у сваіх скаламучаных водах шмат мулу, пяску і іншых матар'ялаў размываньня. Але скаціўшыся ў Палéскую нізіну, павéрхня якое па мéры зближэньня да Прыпяці робіцца ўсё раўнéйшаю, з усё больш нявыразным спадам, гэтыя рэкі зьмяняюць свой характар. Цячэньне іх робіцца цішэйшым, і з вады асядаюць скаламучаныя матар'ялы. Што раз то болей зьяўляецца на кожнай з гэтых рэк мялізнаў, астравоў, якія творацца з прынéсеных

ракою зьверху матар'ялаў, цячэньне ракі разьбіваецца на шмат рукавоў, якія ўвесь час зьмяняюць сваё мейсца, вандруючы сярод рачных асадаў. Творыцца цэлая сецьпратокаў, а там, дзе гэтыя рэкі, зьбліжаючыся да свайго ўпаду ў Прыпяць, падыходзяць блізка адна да аднае, сеці іхніх пратокаў злучаюцца і пакрываюць значныя прасторы. Найбольшы з такіх прастораў ляжыць на паўдня ад Пінску і называецца Зарэччам. Вясною і ў часе паводак уся гэтая мяйсцовасьць на дзесяткі вёрст навокала заліваецца вадою і выглядае на адно вялікае возера, сярод якога дзе́ ня дзе́ на вышэйшых грудкох разбудаваліся палескія вёскі, з усіх бакоў абкружаныя вадою. Улетку, як вада спадае, усё Зарэчча зарастае буйнымі балотнымі травамі, сярод якіх прапаўзаюць рачныя пратокі (рыс. 15). Як бачым, рэкі тут цякуць бяз сталых берагоў і, зразумела, забалочуюць вялізарныя прасторы навокала сябе; з гэтае прычыны ўздоўж Прыпяці і важнейшых яе́ прытокаў цягнуцца абшырныя бязьлесныя балоты.



Рыс. 15. Рачны праток на Пале́сьсі.

Шмат дзе можна пабачыць на іх каналы, якія роўнымі лініямі прарэзуюць палескія раўніны, абяртаючы даўнейшыя балоты ў сенажаці ды служачы для сплаву дрэва і комунікацыі (рыс. 16).

Балотная пале́ская краіна з усіх бакоў абкружана паясом палескіх пушчаў. Тут ужо, бязумоўна, пануе лес; ён, аднак, чарадуецца з балотамі, якія тут займаюць ніжэйшыя ме́йсцы, асабліва ўздоўж рэк. Лясы або ляжаць на вышэйшых пяшчаных грудкох, і тады зложаны выключна з хвоі, альбо ў мокрых лагчынах, і тады яны мяшаныя. Сярод лясоў ды балотаў раскідана досіць многа вазёраў з нізкімі, грузкімі берагамі,

паабрастаўшымі буйною травою (рыс. 17). За паясом пушчаў ляжаць ужо на вышэйшых прасторах малалесныя земляробскія раўніны і ўзгор'і, акружаючыя Палесьсе.

Краявід Палесься досіць аднавобразны і на вялізарных яго прасторах мала зьмяняецца. Формы паверхні ў палескім краявідзе іграюць меншую ролю; затое шмат хараства дадаюць яму палескія воды: рэкі, вазёры, балоты, якіх выгляд некалькі разоў у год моцна зьмяняецца, робячы з Палесься то вялікае возера, то непраходны лес траваў, то бязьмежную раўніну, пакрытую празрыстым сьветлым лёдам, па якім ува ўсіх кірунках разьяжджаюць жыхары Палесься, радуючыся магчымасьці лёгкіх зносінаў з сьветам.



**Рыс. 16. Краявід асушанага Палесься.**
(Галоўны канал).

Палеская катліна, відаць, стварылася яшчэ ў перадлядавіковыя часы праз апусканьне старэйшых геолёгічных пластоў. Між іншым трэба лічыць, што і цяпер зямная кара пад Палесьсем апускаецца*), што бязумоўна яшчэ мацней яго забалочуе, ці, прынамся, не дае яму высыхаць. Няглыбока пад паверхняю зямлі ў Палесьсі ляжаць старыя пласты**), найбольш гліны, слаба прапускаючыя ваду. Зьверху на іх ляжыць нягрубы пласт лядавіковых дый пасьля-лядавіковых пяскоў, таўшчынёю ўсяго 10—20 сажняў. Зразумела, што вада мусіць застаівацца ў гэтым верхнім пласьце, ня могучы прасачыцца ў глыбіню праз ляжачыя ніжэй гліны, і гэта таксама дапамагае забалочаваньню Палесься.

---

*) Wołłosowicz.
**) Крэйдавыя і нумулітычныя.



Рыс. 17. Палёскае возера.

Урэшце балоцістасьць Палесься, дый наагул характар яго прыроды трэба лічыць рэзультатам яго гісторыі ў лядавіковую эпоху. Як ужо гаварылася, Палескую катліну залілі воды таючага лядавіка, ствараючы тут вялізарнае лядавіковае возера. Рэкі, якія цяпер працякаюць праз Палесьсе, ці хоць краем яго, ў тым ліку і Дняпро, разам з лічнымі, цяпер ужо няістнуючымі, лядавіковымі рэкамі, несьлі ў гэтае возера шмат скаламучанага ў сваіх водах матар'ялу з размытых лядавіковых глінаў; гэтыя матар'ялы, трапіўшы ў стаячыя, ці павольна плывучыя воды палé скага возера, асядалі на яго дно, творачы цяперашнюю пяшчаную вопратку паверхні Палесься.

Ня глéдзячы на спад Палéскае нізіны ў усходнім кірунку, лядавіковае возера, відаць, даўгі час ня мéла пэўнага стоку на ўсход. Мазырскае ўзвышшо, дый малазначнае цяпер яго прадоўжаньне на поўнач да Бярэзіны перагароджавалі дарогу на ўсход лядавіковым водам і тыя мусілі прабівацца праз узвышшо. Гэта ім ня там хутка ўдалося, дык тым часам лішкі вады спускаліся на паўдня і ўсход праз даліну цяперашняе р. Славечны, якая ляжыць на паўдня ад Мазырскага ўзвышша, дый дзеліць яго ад Оўруцкіх (Валынскіх) гораў. Таксама зыходзілі лішкі вады і на захад, у даліну Буга, а праз яе — у тагочасную Віслу.

Толькі тады, як лядавіковым патокам удалося добра раскапаць Мазырскае ўзвышшо, вада лядавіковага возера зыйшла ў Дняпро. Павéрхня Палéскае катліны пасьля гэтага, мусіць, доўгі час была падобная да спушчанага млыннага ставу; збольшага яна і ў нашыя часы можа быць да яго прыраўнавана. Балоцістыя лагчыны, што чарадуюцца з пяшчанымі грудкамі, разсéяныя між іх пратокі рэкаў, урэшце самы катлінны характар Палéсься, даюць права да гэткага параўнаньня і даводзяць, што лядавіковае возера запраўды істнавала на прасторах Палéсься.

Таксама, як Мазырскае ўзвышшо загароджавала сток водам галоўнага лядавіковага возера, гэтак узвышшы Наваградзкага гарба затрымлівалі лядавіковыя воды ў цяперашнім вадазборніку верхняга Птычу і Сьвіслачы, а Дзьвінскае ўзгор'е — у ваколіцах Полацку. У абодвых выпадках стварыліся лядавіковыя вазёры: першае возера абыймала поўдзень цяперашняга Ігуменскага павету; другое — ўсю Полацкую нізіну. Пасьля гэтых вазёраў пазаставаліся такія самыя сьляды, як і пасьля вялікага палéскага лядавіковага возера.

**Полацкая нізіна** займае большыя часткі паветаў Дзісьненскага, Полацкага ды Лепельскага. Лядавіковае возера заліло тут, відаць, увесь прастор паміж акружаючымі цяпер нізіну ўзгор'ямі: Дзьвінскім, Віцебска-Невельскім і Сьвянцянска-Докшыцкім. Возера гэтае, мусіць, ня было глыбокае і не пакінула па сабé гэткіх значных сьлядоў, як палескае возера. Аднак і тут ёсьць досіць многа балотаў — найбольш уздоўж р. Дзісенкі ды

левага берагу р. Дрысы (прытокі Дзьвіны), навокала якіх ляжаць хваёвыя бары на пяшчаных грунтох. Сярод мяйсцовасьцяў з палескім краявідам тут часам уразаюцца морэнныя кліны, якія пэўне ж зьмяняюць краявід нізіны. Апроч таго, трэба адзначыць вялікі лік вазёроў, спатыканых на нізіне, ды яе значна большую сухасьць у параўнаньні з Палесьсем.

Пяшчаныя раўніны, на якіх ляжаць некаторыя нашыя пушчы, якНалібоцкая, Горадзенская, Аўгустоўская, відаць, стварыліся гэткім самым спосабам, як і вышэйапісаныя палéскія нізіны, у лядавіковыя часы і пакрыты з павéрхні таксама асадамі лядавіковых вазёраў.

# РАЗЬДЗÉЛ II.

## Клімат Беларусі.

### § 13. КЛІМАТЫЧНЫЯ ЎПЛЫВЫ. ВЯТРЫ.

Беларусь ляжыць у ўмеркаваным паясé зямлі, бліжэй да полюса, чым да экватара. Сонца ў нас ходзіць па небе ня дужа высака; навет на пачатку лета, у чэрвені, яно ў паўдня не стаіць у нас проста над галавою, а крыху ніжэй; узімку-ж сонца саўсім мала падыймаецца над кругавідам і мала даé цяпла. Ад гэтае прычыны (географічнае шырыні) перад усім залежыць наш клімат; аднак яé значэньне ў вялікай меры засланяецца ў нас уплывамі іншых прычынаў. Клімат усяé Сярэдняе Эўропы, а ў тым ліку і Беларусі, залежыць найбольш ад Атлянтыцкага акеану і суседніх, зьвязаных з ім мораў. Чым далей каторы з гэтых краёў ляжыць ад акеану, тым больш сухім і халодным робіцца яго клімат, больш падобным да клімату аграмаднага ўсходняга контынэнту Эўропы і Азіі, больш контынэнтальным; чым бліжэй ляжыць край да акеану, тым клімат робіцца цяплейшым, вільгатнейшым і лагаднейшым, ці, адным словам, акеанічным. Беларусь з усіх краёў Сярэдняе Эўропы найдалей адсунутая ад акеану, і затым з усіх старонак Сярэдняе Эўропы мае клімат найбольш халодны і сухі.

Аднак уплывы акеану ці адсутнасьць іх мы адчуваем штодзенна. Вее вецер з захаду, ад акеану, — пачынаецца вільготнае, цёплае надвор'е. Зьмяніўся вéцер, дзьмé ўжо з усходу — надвор'е робіцца сухім і халодным. Па чарзé пануюць у нас то акеанічнае, заходняе надвор'е, то ўсходняе, сухазéмнае. Заўважана, што ўзімку клімат Беларусі збліжаецца да контынэнтальнага, ўлетку-ж ён саўсім блізка акеанічны.

Наагул бяручы, ўплывы акеану ў нас мацнейшыя ад уплываў контынэнту, і затым клімат Беларусі трэба прызнаць яшчэ акеанічным. І нічога ў гэтым дзіўнага. На захад ад Беларусі, аж да самага мора, ляжаць нізіны — Польская і Гэрманская, па якім вольна, без вялікіх перашкод цёплы акеанічны вецер урываецца на прасторы Беларусі, прыносячы з сабою хмарнае надвор'е ды дождж ці сьнег. Узвышшы цэнтральнае Беларусі, асабліва тыя, што цягнуцца з поўначы на паўдня, крыху затрымліваюць гэтыя ве́тры і змушаюць іх аддаць на сва́е заходнія спады частку вільгаці, якую тыя не́сьлі. Значна абсушаныя пасуваюцца заходнія вятры далей па ўсходняй Беларусі і спатыкаюць на нашай мяжы з Маскоўшчынаю новую, яшчэ больш значную перашкоду ў відзе Вокаўскага лесу, на якім гэтак шмат аддаюць вільгаці і гэтак трацяць шмат сва́е сілы, што ўжо на ўсход ад яго, ў прасторах Маскоўшчыны, значэньне акеанічных вятроў робіцца шмат меншым. З сухімі і халоднымі ўсходнімі вятрамі бывае крыху іначай. Плывучы нізам, яны ўжо адразу і ве́льмі значна затрымліваюцца высокім Вокаўскім лесам, які такім чынам засланяе сабою Беларусь ад уплываў сухаземнага клімату. Пераплыўшыя праз Вокаўскі лес усходнія вятры спатыкаюць новую перашкоду ў відзе цэнтральных беларускіх узгор'яў, выцягнутых з поўначы на паўдня, і на заходняй іх старане́ ўплывы гэтых вятроў робяцца нязначнымі.

Такім чынам, мы бачым, што лініі ўзгор'яў дзе́ляць Беларусь на не́калькі розных між сабою кліматычных краінаў і што Вокаўскі ле́с ёсьць ве́льмі паважнаю кліматычнаю мяжою. Уся Беларусь, ле́жачы на захад ад яго, мае, ў параўнаньні з Маскоўшчынаю ды іншымі контынэнтальнымі краямі, клімат мягкі, ме́рны з няве́льмі халоднымі, але многасьне́жнымі зімамі, з няве́льмі гарачымі, пахмурнымі ле́тамі.

У Беларусі дзьмуць найбольш паўднёва-заходнія, заходнія і паўночна-заходнія вятры, якія прыносяць з сабою дождж і пахмурнае надвор'е ўлетку, сьнег і адлігу — узімку. Чым большая сіла гэтых вятроў, тым выразьней выступаюць у Беларусі прыме́ты акеанічнага клімату. Побач з гэтымі вятрамі дзьмуць і ўсходнія, сухія вятры, якія прыносяць яснае і сухое надвор'е ўлетку і вялікія маразы пры сонечным надвор'і ўзімку; чым дале́й на ўсход, тым гэтых вятроў робіцца больш, а значэньне заходніх вятроў ме́ншае; усё-ж і на самай усходняй мяжы Беларусі заходнія вятры пераважаюць над усходнімі. Варта яшчэ адзначыць, што дні бяз ве́тру ў Беларусі здараюцца рэдка.

Ве́цер, як мы бачым, ёсьць бадай ці не найважне́йшым зьявішчам беларускага клімату: ад яго кірунку і сілы зале́жыць надвор'е, ды навет даўжыня і ў значнай ме́ры характар пораў году. Расклад вятроў на працягу году, аб якім будзе гаварыцца пазьне́й, наагул кажучы, спрыяе гаспадарцы і чалаве́чаму здароўю. Заходнія вятры, што прыносяць нам вільгаць і цяпло, дазваляюць самым бе́дным нашым грунтом

даваць добрыя ўраджаі, аслабляюць сілу страшных зімовых марозаў і шкоду ад іх жывёлам і расьлінам. Сухія ўсходнія вятры робяць клімат наш прыятным і здаровым для чалавека.

## § 14. ТЭМПЭРАТУРА ПАВЕ́ТРА.

Важным паказчыкам характару клімату ёсьць сярэдняя тэмпэратура паве́тра за год ды за месяцы — самы халодны (студзень) і самы гарачы (ліпень)*). Выведзеныя з даўгіх, шматгадовых спасьцярогаў, яны адбіваюць у сабе́ нязьме́нныя варункі, характэрныя для кожнае мяйсцовасьці, ад якіх залежыць яе́ клімат. Калі нарысаваць іх на карце ў відзе і з о т э р м а ў (ліній, што злучаюць мейсцы з аднакаваю тэмпэратураю), дык яны наглядна ўяўляюць розьніцы ў клімаце асобных краінаў (рыс. 18 і 19).

Гадавою сярэднюю тэмпэратураю для Беларусі трэба лічыць +6° (Менск мае +5,4°, а Вільня +6,4°). Калі прыраўнуем мы з гэтага боку Беларусь да іншых краёў, дык угледзім, што для Масквы гэтая тэмпэратура +3,4°, для Рыгі, так, як і ў нас, +6°, для Варшавы +7,5°.




Рыс. 18. Ізотэрмы студзеня ў Эўропе.

Невялікія на пе́ршы ўзгляд розьніцы між гэтымі цыфрамі маюць, аднак, дужа вялікае значэньне для клімату. Тыя два градусы, прыкл., якія адрозьніваюць наш клімат ад клімату Маскоўшчыны, дазваляюць расьці ў нас, як то будзе ніжэй паказана, цэламу раду далікатных расьлінаў, гатункаў садовіны і варыва і г. д.

Сярэднія тэмпэратуры самага халоднага месяца ў годзе — студзеня, якія характарызуюць зіму, яшчэ больш між сабою розьняцца. Тады, як для Беларусі тэмпэратураю студзеня трэба

*) Спасьцярогі над тэмпэратураю паве́тра ды іншымі кліматычнымі зьявішчамі стала вядуць м э т э о р о л ё г і ч н ы я с т а н ц ы і. Што дзе́нь у пэўныя гадзіны (7 гадз. раньніцаю, і 9 гадз. пасьля паўдня) вымяраецца і запісуецца тэмпэратура паветра; з гэтых трох паме́раў выводзіцца сярэдняя дзе́нная тэмпэратура, з памераў за месяц — сярэдняя ме́сячная, а за год — сярэдняя гадавая тэмпэратура. У Беларусі мэтэоролёгічныя станцыі перад вайною былі: ў Вільні, Маладэчыне, Друзге́ніках (пад Горадняю), Пінску, Васіле́вічах (у Рэчыцкім пав.), Гомелі, Горках, Новым Каралёве (пад Віцебскам), Корсаўцы (Люцынскага пав.) і інш. мяйсцох.

лічыць —6,5°, для Масквы гэтая тэмпэратура —10,8°, для Рыгі—4,7°, а для Варшавы —3,5°. Значыць, зіма Маскоўшчыны на цэлых 4° халаднейшая, а польская зіма на 3° цяплейшая ад беларускае зімы.

У сярэдняй тэмпэратуры лета (месяца ліпеня) гэткіх розьніцаў няма. Для Беларусі сярэдняя тэмпэратура ліпеня каля +18,5°, для Масквы +18,2°, для Рыгі +17,9°, для Варшавы +18,4°. З гэтага мы бачым, што тады, як зімовыя тэмпэратуры зьніжаюцца пры пасуваньні на ўсход, летнія барджэй навет павялічуюцца чым далей на ўсход.

Гэта самае зьявішча можам мы заўважыць і ў прасторах самое Беларусі. Разглядаючы данныя прыложанае табліцы (стр. 45), мы бачым, што і паміж асобнымі краінамі Беларусі ёсьць досіць значныя розьніцы ў сярэдніх тэмпэратурах. Годзе параўнаць з гэтага боку Смаленск (гадавая тэмпэр. +4,3°) з Вільняю (якая мае +6,4°) або з Берасьцем +7,2°). А сярэднія тэмпэратуры студзеня хістаюцца ў розных краінах Беларусі ад -4,5° (Беласточчына) да -9,0° (Вокаўскі лес).




Рыс. 19. Ізотэрмы ліпеня ў Эўропе.

Сярэднія тэмпэратуры студзеня і ліпеня характарызуюць яшчэ і большы ці меншы континэнталізм клімату краю, да якога яны адносяцца. У краёх контынэнтальных розьніца між тэмпэратураю зімы і лета, а таксама дня і ночы — дужа вялікая; ў акеанічным клімаце — значна меншая. Розьніца гэтая, ці **гадавая амплітуда**, як яе называюць, між іншым паказана ў рубрыцы f табліцы, зьмешчанае на стр. 45; у Беларусі яна хістаецца ад 22° (Падлясьсе) да 27,8° (Лесастэп), а ў сярэднім будзе каля 25°, тады як для Масквы яна 29°, а для краёў прыморскіх — каля 20°.

Карыстаючыся з усіх гэтых цыфраў, можна падзяліць Беларусь на некалькі кліматычных краінаў: 1) **Вокаўскі лес, Смаленскае і Дняпроўскае ўзгор'і** твораць краіну найбольш халоднага і контынэнтальнага клімату ў Беларусі. Сярэдняя гадавая тэмпэратура тут ніжэй +5°, а тэмпэратура студзеня ад -9° да -8°; амплітуда-ж 26—27°. Сваёй сыцюдзёнаю маразянаю зімою гэтая краіна падобна да суседняе Маскоўшчыны. Сьнег ляжыць тут узімку каля 5-х месяцаў, ад палавіны лістапада да палавіны красавіка, і ніколі сярод зімы ня гіне. Насыпаецца яго за гэты час дужа

## Тэмпэратура паветра ў Беларусі.

| Мэтзоролёгічныя станцыі. | Вышыня над роўнем мора. Мэтры. | Сярэдняя тэмпэратура за 50 гадоў. | | | Розьніца між зімою і летам. |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Студзеня | Ліпеня | Гадавая | |
| a | b | c | d | e | f |
| Смаленск . . | 241 | -8,4 | 18,0 | 4,3 | 26,4 |
| Новы Каралёў (Віцебск. п.) . . | 236 | -8,3 | 17,0 | 4,0 | 25,3 |
| Вялікія Лукі . . | 103 | -7,7 | 17,9 | 4,6 | 25,6 |
| Віцебск . . . . | 145 | -7,8 | 17,9 | 5,0 | 25,7 |
| Горкі . . . . . | 206 | -8,2 | 17,9 | 4,5 | 26,1 |
| Бранск . . . . | 200 | -8,6 | 18,5 | 5,0 | 27,1 |
| Чэрыкаў . . . | 168 | -7,9 | 18,0 | 5,0 | 25,9 |
| Магілёў . . . | 179 | -7,5 | 18,2 | 5,1 | 25,7 |
| Быхаў . . . . | 165 | -7,8 | 18,4 | 5,6 | 26,2 |
| Новазыбкаў . . | 170 | -8,2 | 19,6 | 5,7 | 27,8 |
| Барысаў . . . | 166 | -7,0 | 18,2 | 5,4 | 25,2 |
| Менск . . . | 225 | -6,9 | 18,1 | 5,4 | 25,0 |
| Маладэчына . . | 180 | -6,5 | 17,9 | 5,5 | 24,4 |
| Ігналіна (Сьвянцян. пав.) | 166 | -6,5 | 17,9 | 5,3 | 24,4 |
| Корсаўка (Люцынск. пав.) . . | 104 | -7,2 | 18,0 | 5,1 | 25,2 |
| Наднёман (Захад Ігумен. п.) . . | 168 | -6,5 | 18,1 | 5,8 | 24,6 |
| Васілёвічы (Рэчыцкага п.) . | 140 | -6,7 | 18,6 | 6,0 | 25,3 |
| Мазыр . . . . | 129 | -6,4 | 19,0 | 6,3 | 25,4 |
| Пінск . . . . | 142 | -5,4 | 19,0 | 6,8 | 24,4 |
| Вільня . . . . | 106 | -5,3 | 18,8 | 6,4 | 24,1 |
| Друзгенікі (Гарадзенск. п.) . . | 103 | -5,2 | 18,6 | 6,4 | 23,8 |
| Сувалкі . . . | 177 | -5,5 | 18,2 | 6,0 | 23,7 |
| Белыбераг (ля Аўгустова) . . | 130 | -5,3 | 17,6 | 6,0 | 22,9 |
| Асавец (над р. Бабром) . . | 114 | -4,7 | 18,4 | 6,5 | 23,1 |
| Беласток . . . | 136 | -4,6 | 18,6 | 6,8 | 23,2 |
| Берасьце . . . | 136 | -4,8 | 18,9 | 7,2 | 23,7 |
| Масква . . . . | 176 | -10,8 | 18,2 | 3,4 | 29,0 |
| Рыга . . . . . | 13 | -4,7 | 17,9 | 5,9 | 22,6 |
| Варшава . . . | 125 | -3,5 | 18,4 | 7,2 | 21,9 |

таўсты пласт; гэтаму памагае яшчэ і тое, што вялікая частка ападкаў тут прыпадае на зімовы час; а наагул тут ападкаў выпадае шмат. Улетку-ж і гэтая краіна трапляе пад моцныя ўплывы акеану, дзякуючы якім звычайна мае яна лета пахмурнае, халоднае, дажджыстае. Бываюць, аднак, і леты гарачыя ды сухія. Трэба яшчэ адзначыць, што ў гэтай краіне часта бываюць навет сярод лета, ў чэрвені ды ліпені, начныя прымаразкі, ад якіх гінуць ураджаі садоў, гародаў, а навет збожжа.

На захад ад гэтае краіны клімат хутка цяплее, асабліва ўзімку. Польскі географ Ромэр тлумачыць гэта так: «Атлянтыцкія паветраныя цячэньні, аслабленыя даўгім перасуваньнем па няроўнай сухаземнай паверхні, трацяць блізка таго што да рэшты сілу сваіх уплываў на стромкіх берагох усходніх узвышшаў (płyt źródłowych). На вяршынах гэтых узвышшаў пануе ўжо тыповы контынэнтальны клімат, які на вялізарных прасторах расейскіх узвышшаў толькі павольна зьмяняецца»*). У Беларусі, у кірунку на ўсход вельмі моцна ўзрастае контынэнталізм клімату і зьніжаецца тэмпэратура. Тады, як у Польшчы праз кожныя 100 вёрст у кірунку на ўсход гадавая тэмпэратура зьніжаецца на 0,29°, у Беларусі яна зьніжаецца ў 2 1/2 разы хутчэй, бо на 0,69°; у Маскоўшчыне-ж на 0,41°.

2) **Паўднёва-ўсходняя Беларусь** (л е с а с т э п, Р а д а н с к а я р а ў н і н а) хаця і ляжыць значна далéй на паўдня, мае такую самую блізка халодную зіму, як Смалéншчына, але за тое мае гарачае, яснае і сухое лéта (сярэднія тэмпэратуры для Новазыбкава: студзень -8,2°, ліпень +19,6°); дзеля гэтага сярэдняя гадавая тэмпэратура крыху вышэйшая, чым на паўночным усходзе (+5° +6°), але амплітуда большая (27°—28°). Наагул клімат гэтае краіны трэба прызнаць найбольш контынэнтальным у Беларусі, пераходным да клімату стэпаў, хаця ня трэба забывацца, што розьніца між кліматам гэтае, ўсё-ж досіць лясістае ды навет балоцістае краіны і кліматам бязьлéсных, сухіх стэпаў дужа вялікая, куды большая, чым паміж кліматамі якое-хаця з частак Беларусі.

Вясна з асабліва моцнымі сухімі ўсходнімі вятрамі (с у х а в е я м і), гарачае лета, сярод якога, аднак, досіць часта здараюцца прымаразкі, дый наагул значныя розьніцы між тэмпэратураю дня і ночы, ўрэшце сухмяні, моцна шкодзячыя земляробству, найбольш адрозьніваюць клімат паўднёвага ўсходу Беларусі ад клімату іншых яé краінаў.

Мацней выражаны контынэнталізм клімату паўднёва-ўсходняе, ды навет наагул паўднёвае Беларусі, залéжыць ад таго, што яна найдалéй ляжыць ад мора; апрача таго, Карпацкія горы крыху засланяюць яé, таксама як і значную частку Украіны, ад акеанічных паўднёва-заходніх вятроў, што, пэўне-ж, павялічуе контынэнталізм краіны.

---

*) Romer. Klimat Ziem Polskich.

3) **На паўночным захадзе, дый у цэнтры Беларусі,** у краі канцавых морэнаў і бязьлічных вазёраў, пануе халодны акеанічны клімат з сяр. гадавою тэмпэратураю таксама, як і ў папярэдняй краіне, +5°+6°, але цяплейшым студзенем -6°-8°. Зіма звычайна цягнецца каля 3 1/2 месяцаў (з пачатку сьнежня да другое палавіны сакавіка); яна тут значна мягчэйшая, чым на ўсходзе, з лёгкімі марозамі ды з менш глыбокімі сьнягамі. Сярод зімы здараюцца адлігі, у часе якіх бывае навет, што саўсім прападае на нейкі час сьнег; але здараецца гэта рэдка. Наагул клімат гэтае краіны, якую ад усходу засланяюць нашыя ўсходнія ўзвышшы, толькі рэдка і не надоўга трапляе пад уплывы ўсходняга контынэнталізму (гадавая амплітуда 24°—25°); затое ён адкрыты для ўплываў мора. Халоднасьць яго тлумачыцца між іншым тым, што краіна гэтая, высака паднятая, раўнуючы з суседнімі далінамі, над роўнем мора. А, як ведама, з падняцьцем на кожныя 100 саж. ўверх тэмпэратура зьніжаецца на 1°. Дзеля гэтага вяршыны нашых узгор'яў, паднятыя на 150 саж., павінны быць халаднейшымі ад суседніх далінаў, паднятых на якіх 50—70 саж.,— на цэлы градус. Тое, што на ўзгор'ях выпадае больш ападкаў, чым у далінах (гл. вышэй, стр. 42), ад чаго павялічуецца параваньне і зьніжаецца тэмпэратура, ды прысутнасьць масы вазёраў, яшчэ больш павялічуе розьніцу тэмпэратуры ўзвышшаў і далінаў. Гэта асабліва выразна выяўляецца на Сувальскім узгор'і, якое з усіх бакоў (навет з усходу і з поўначы) акружанае краінамі цяплейшымі (сярэдн. гад. тэмпэр. Сувалкі +6,0°, Друзгенікі +6,4°, Вільня +6,4°, Коўна +6,2°).

Шырокія даліны вялікіх рэк, прараззаючых заходнія ўзгор'і (Вяльлі, Нёмна і ін.), трэба аднесьці ўжо да чарговае кліматычнае краіны.

4) **Паўднёва-заходняя Беларусь,** заслоненая ад усходу і поўначы ўжо ня толькі Вокаўскім лесам, але йшчэ і ўзвышшамі цэнтральнае Беларусі, ды ляжачае ў глыбокай катліне **Прыпяцкае Палесьсе** маюць значна цяплейшы клімат. Па далінам вялікіх заходніх рэк Беларусі клімат гэты ўразаецца глыбака ў прасторы папярэдняе краіны. Сярэдняя гадавая тэмпэратура краіны вышэй +6°, а тэмпэратура студзеня каля -5°, -6°, значыць, аж на 3° цяплейшая, чым у Смаленшчыне. Зіма трывае ня больш 3-х месяцаў (ад паловы сьнежня да пачатку сакавіка), прычым вызначаецца частымі адлігамі, ад якіх бывае, што сярод зімы, ў студзені навет, на некалькі тыдняў гіне сьнег і прападае санная дарога. Сьнег узімку ідзе́ць тут дужа часта, што таксама змяншае маразы; толькі на паўдні краіны, ў Палесьсі, зімы бываюць маласьнежныя, мусіць, дзеля агульнага большага контынэнталізму паўднёвае Беларусі (ўплыў Карпатаў)*). Наагул-жа, як бачым, узімку тут пануюць уплывы акеану. Толькі ў асабліва халодныя зімы ўсходнія вятры

---

*) Гл. стр. 46.

здалеюць перакінуць сюды цераз сьцяну ўзгор'яў масы маразянага паве́тра і моцна зьніжаюць тэмпэратуру.

Ле́ты ў паўднёва-заходняй Беларусі бываюць ня ве́льмі гарачыя (ліпень +18,5° +19°), акеанічнага тыпу, моцна дажджыстыя і хмарныя. Бывае, праўда, што і ўлетку сюды дасягнуць уплывы контынэнтальнага ўсходу і робяць ле́та гарачым і сухім; але і ў такім рэдкім выпадку ў другой палавіне ле́та звычайна перамагае акеанічнае надвор'е і пагоду зьмяняюць дажджы.

Аднак, што ве́льмі важна для гаспадаркі, тут саўсім блізка ня бывае летніх прымаразкаў. Дзякуючы гэтаму ды агульнай лагоднасьці клімату (гадавая амплітуда 23°—24°) і, асабліва, мягкой зімé тут ня вымярзае граб і цэлы рад іншых расьлінаў, ды больш чым у папярэдніх краінах магчыма шырокае разьвіцьцё садоўніцтва.

5) Найцяпле́йшы куток Беларусі — гэта **Падлясьсе** і асабліва Берасьце́йшчына, якія маюць сярэднюю гадавую тэмпэратуру вышэй +7°, а тэмпэратуру студзеня каля -4,5°. Тутака, як і ў сусе́дняй Польшчы, зямля бывае пад сьне́гам ня доўга, пласт сьне́гу тонкі, зіма кароткая. Але ў Польшчы акеанічны клімат выяўлены больш рэзка; розьніца польскага і беларускага клімату павялічуецца, мусіць, яшчэ і тым, што навет паўднёва-заходняя Беларусь (Падлясьсе) наагул вышэй паднятая над роўнем мора, чым сусе́днія польскія краіны.

## § 15. ПАВЕ́ТРАНЫЯ АПАДКІ.

Вятры, што дзьмуць з акеану, прыносяць у Беларусь шмат вільгаці, якая выліваецца на нашыя прасторы ў форме паветраных ападкаў — дажджу, сьнегу, расы і г. д. Тым часам, як, прыкл., у Маскоўшчыне ў сярэднім выпадае 470 мілімэтраў, у Беларусі выпадае каля **550 мілім.** ападкаў у год, а мяйсцамі й больш. Гэта мае важнае значэньне ў нашым экономічным жыцьці. Калі-б сьціхлі заходнія вятры і ў Беларусі пачало падаць менш дажджу, дык-бы нашыя лёгкія пяшчаныя грунты не давалі ўраджаю, але абярнуліся-б у выдму, ў пескавую пустыню. А дзякуючы багацьцю вільгаці нашыя бедныя пяскі даюць іншы раз лепшыя ўраджаі, чымся навет усходні чарназём (жывыя прыклады — неўраджайныя 1891 і 1921 гады ў чарназёмнай Маскоўшчыне, ў часе якіх Беларусь мела вельмі добры ўраджай).

Ня толькі лік ападкаў мае значэньне для клімату ды для гаспадаркі, але яшчэ й форма іх. Найбольш важныя тут ападкі цёплае палавіны году, якіх у нас бывае і значна больш, чым зімовых, і якія моцна ўплываюць на жыцьцё расьлінаў. У старонах контынэнтальнага клімату ле́тнія ападкі найбольш выліваюцца на зямлю ў відзе ўлеваў; часамі за адну ўле́ву спадае да чацьвертае часткі ўсяго гадавога ліку ападкаў. Гэткая маса вады, ведама, толькі размывае зямлю, робячы сярод поля глыбокія яры, змывае ўраджайныя грунты, робіць наагул шмат шкоды, і зьбягае ў

рэкі. Зямля пасьля такое ўлéвы хутка абсыхае, і расьліны даўгі час, бывае, сохнуць без вады, навет тады, калі гадавы лік ападкаў досіць значны. Ня тое ў нас. Ападкі ў Беларусі йдуць па крысé, дробнымі порцыямі, але часта і роўнамéрна праз увесь год. Беларуская прырода, як акуратны агароднік, дастаўляе расьлінам у меру вады, гэтулькі якраз, колькі патрэбна ім для буйнога росту, часамі зашмат, але вельмі рэдка — замала. Затым ад сухмéняў нашая гаспадарка саўсім мала церпіць.

**Сухмені** бываюць у Беларусі рэдка, ды і то найбольш на ўсходзе, ў лесастэпу. Тамака з моцна нагрэтых улетку ўсходніх контынэнтальных прастораў Маскоўшчыны і краіны дзьмуць, асабліва вясною, моцныя сухія вятры **сухавеі**, ад якіх расьліннасьць жаўцее і сохне. Аднак, з тае прычыны, што ўсход Беларусі пакрыты найбольш цяжкімі гляістымі грунтамі, якія лёгка могуць падыймаць вільгаць з глыбокіх падзéмных пластоў, сухмéні ў Беларусі вялікае шкоды ня робяць. Навет, наадварот, у Смаленшчыне бывалі выпадкі, што пасьля вельмі даўгое сухмені ўраджаі выходзілі яшчэ лепшыя, чым у звычайны год. Гэта, аднак, ня можна лічыць за правіла, асабліва-ж для пяшчаных грунтоў, на якіх у сухмéню ўраджаі прападаюць.

Контынэнтальныя краіны вéльмі моцна награваюцца ўлéтку і з гэтае прычыны над імі тады ўстанаўляяецца нізкі ціск, і, звычайна, йдуць дажджы. Блізка ўсé ападкі ў контынэнтальных краёх прыпадаюць на лéта; ўзімку-ж устанаўляецца там высокі ціск, яснае надвор'е і саўсім блізка няма ападкаў. У Беларусі значная частка ападкаў прыпадае на зіму, але ўсё-ж у цёплую частку году выпадае іх больш; пры гэтым на поўначы лéтніх ападкаў у два разы больш, чым зімовых, а на паўдні — бязмала ў чатыры разы. З гэтым зьвязана і пэўная маласьнéжнасьць паўднёвых зімаў, аб якой успаміналася вышэй. Наагул-жа па ўсёй Беларусі найбольш ападкаў падае ў л і п е н і месяцы, а найменш — у л ю т ы м.

Апрача дажджу і сьнéгу вéльмі звычайнымі формамі ападкаў ў Беларусі ёсьць **раса і туман.** Маса вазёраў, балотаў і шырокіх лядавіковых далінаў, пакрытых мокрымі сенажацямі, даéць улéтку вéльмі многа пары ў павéтра. А як павéтра пасьля захаду сонца пачнé халадзéць, гэтая пара з яго вылучаецца і кладзéцца на зямлю расою або вісіць у павéтры туманом. Даліны, засланыя туманом, — самы звычайны від у Беларусі ў пагодныя, лéтнія ночы, асабліва пад канéц лéта. У мяйсцовасьцях, далéй ляжачых ад далінаў і вазёр, туманы здараюцца шмат радзéй і ўжо найбольш перанéсеныя вéтрам здалёку.

Лік ападкаў у розных краінах Беларусі няроўны. Залежыць гэта найбольш ад вышыні над роўнем мора, што і зразумéла. Ападкі прыносяцца да нас акеанічнымі вятрамі. Масы цёплага і вільготнага павéтра без затрыманьня праносяцца над раўнінамі (асабліва над катлінамі). Але дайшоўшы да ўзвышшаў, яны

змушаны падыймацца ўверх, мяшацца з шмат халаднейшым паветрам, астыгаць і аддаваць значную частку сваё вільгаці заходнім спадам узвышшаў, якія з гэтае прычыны маюць найбольшы лік ападкаў. Глянуўшы на карту ападкаў Беларусі (рыс. 20), мы бачым, што найбольш ападкаў (больш за 600 мілім. у год) маюць найбольшыя і найбольш лясістыя*) ўзвышшы — Менскае ўзгор'е, Сувальскае ўзгор'е і Вокаўскі лес разам з Смаленскім, а часткаю і з Дняпроўскім узгор'ямі. З другога боку найменш (менш за 500 мілім.) ападкаў маець ляжачае ў катліне




**Рыс. 20. Гадавы лік паветраных ападкаў у Беларусі.**

Палесьсе дый паўднёва-ўсходняя Беларусь (лесастэп).

У краінах з найбольшым лікам і з найменшым ападкаў варункі для земляробства горшыя, чым у краінах з сярэднім лікам ападкаў. Там, дзе ападкаў зашмат, на цяжкіх грунтох збожжа часта вымакае, зямля халодная, рост расьлінаў слабейшы, ўраджаі меншыя; ў такіх варунках добра можа йсьці гаспадарка толькі тады, калі лішкі вады выводзяцца з зямлі праз дрэнаваньне**). На пяшчаных грунтох гэтыя

*) Лясы гэтак сама дапамагаюць кондэнсацыі і вадзяное пары і стварэньню дажджоў.

**) Асушэньне праложанымі пад зямлёю трубамі.

шкадлівыя ўплывы вільгаці звычайна ня бываюць значнымі. За тое нястача вільгаці шмат гарэй адбіваецца на лёгкіх грунтох, якія ў гэтых варунках саўсім перастаюць даваць ураджай. Большая частка Беларусі мае мерны лік ападкаў (500—600 мілім.), што спрыяе земляробству на самых розных грунтох.

## § 16. ПОРЫ ГОДУ Ў БЕЛАРУСІ.

Розьніцы ў клімаце паміж асобнымі краінамі Беларусі, хаця і маюць сваё значэньне, нікольні, аднак, не перашкаджаюць нам гаварыць аб адзіным клімаце ўсяе Беларусі, які выразна адрозьнюецца ад кліматаў суседніх краёў, а добра і наглядна выяўляецца ў асаблівым характары беларускіх пораў году.

Беларуская **зіма** мае характар сталы, перарываецца адлігамі толькі выпадкова і ненадоўга. Трох-чатырохмесячная зіма з трывалым і багатым сьнегавым пакрыцьцём, лёгкімі марозамі, невялікімі адлігамі характэрна для ўсяе блізка Беларусі і адрозьнівае нашую зіму ад суровае, з гострымі марозамі зімы Маскоўшчыны, ды ад гнілое, бязсьнежнае польскае зімы (рыс. 21). На пачатку зімы неба ў нас найбольш хмарнае, ясныя дні здараюцца рэдка, часта ідзе сьнег; у другой палове зімы надвор'е зьмяняецца. У гэтым часе на Беларусь з усходу насуваюцца вялікія маразы пры ясным небе; гэткае надвор'е трывае часамі без пярэрвы некалькі тыдняў. У лютым маразы адвалююцца, настае пара адлігаў, што чарадуюцца з яснымі веснавымі днямі і марознымі начамі. У гэтую пару году (ў лютым) у нас найменш выпадае ападкаў.

Каля 15—25 сакавіка сярэдняя тэмпэратура паветра ўстанаўляецца вышэй 0° і пачынаецца вясна, ці, ляпей кажучы, **прадвесьне**. Сьнег сходзіць з палёў, рэкі аслабаняюцца ад лёду, прылятаюць першыя птушкі з выраю. Лік ясных днёў моцна ўзрастае, а начамі бываюць толькі лёгкія прымаразкі. Ў непагоду-ж сьнег і дождж чарадуюцца між сабою і робяць дарогі моцна гразкімі; але веснавое балота хутка сохне.

Прадвесьне цягнецца звычайна нядоўга, каля 3-х тыдняў. Часамі, аднак, яно зацягуецца. Наагул, раўнуючы да вясны іншых краёў, беларуская вясна надыходзіць досіць марудна.

Ад часу, калі сярэдняя дзенная тэмпэратура паветра падымецца да +5°, можна лічыць, што пачынаецца праўдзівая **вясна**. Зямля хутка абсыхае, жыва расьце трава, зелянеюць дрэвы, адным словам, абуджаецца і нарастае жыцьцё ў царстве расьлінаў і ўва ўсёй жывой прыродзе. Гэты пэрыод вясны пачынаецца ў нас у палове красавіка і цягнецца да пачатку чэрвеня, калі пачынае панаваць тэмпэратура вышэй +15° і вясну зьмяняе лета.

Вясна беларуская адзначаецца сухасьцяю і цёплым ясным надвор'ем, асабліва на пачатку, ў красавіку, калі здараецца навет праўдзівая летняя гарачыня. Але пасьля гэтага цёплага часу настае, звычайна ў пачатку мая, пара больш халодная,



Рыс. 21. Зімовы краявід у цэнтральнай Беларусі.

з моцным **сіверам** пры ясным надвор'і; вецер гэты значна абніжае тэмпэратуру. Часамі-ж, асабліва на паўночным усходзе, бываюць у гэтым часе досіць вялікія прымаразкі. Прычынаю гэтых халадоў лічаць таяньне лёду на вялікіх вазёрах Паўночнае Эўропы (ў Маскоўшчыне ды Фінляндыі), з якіх і дзьмé на нас сярдзіты сівер. Сухасьць беларускае вясны шкодзіць развіцьцю расьлінаў, асабліва ярыны, якую з гэтае прычыны стараюцца сеяць як мага раней, каб захапіць у грунце запас зімовае вільгаці.

З пачаткам **лета** ўся Беларусь трапляе пад наймацнейшыя ўплывы акеану і заходніх вятроў, і лік дажджоў значна ўзрастае. Найбольшы лік ападкаў ува ўсёй Беларусі якраз прыпадае на летнія мéсяцы. Розьніца між асобнымі краінамі Беларусі тут толькі тая, што ўсходнія, больш контынэнтальныя краіны маюць найбольш ападкаў ужо ў чэрвені, тады як у рэшце Беларусі найбольш ападкаў бывае ў ліпені, часамі навет у жнівені. Так ці йначай, але дажджыстасьць і хмарнасць беларускага лета робяць яго вельмі мягкім, халаднаватым; пры гэтым моцна ўзрастае вільготнасьць паветра. Такое гарачыні, каб перашкаджала працаваць на двары, ў нас бадай што ня бывае. Найцяплейшае лета ў лесастэпу, але і тут сярэд. тэмпэр. ліпеня не даходзіць да +20°. Пад канé ц лета вятры і дажджы сьціхаюць, пачынаецца пэрыод яснага надвор'я.

У вéрасьні тэмпэратура зьніжаецца ўжо да +15°, надыходзе **восень**. Прырода, як кажуць, гатуецца да зімовага сну, жаўцéець і абсыпаецца лісьце з дрэваў, адлятаюць птушкі на вырай, па палёх сьцéлецца безканéчнае павучыньне. Разам з тым, дзякуючы высокаму ціску і слабым вятром, стаяць прыгожыя бязвоблачныя ясныя дні, а ў ночы што раз то часьцéй здараюцца прымаразкі. Гэтую пару восені папраўдзе лічаць найпрыгажэйшаю парою году ў Беларусі.

У кастрычніку неба хмурнее, пачынаюцца дажджы, разам з якімі прыходзіць другая пара восені — **позная восень**. Наагул лік ападкаў ад ліпеня кожны месяц правільна зьмяншаецца аж да лютага; але ў кастрычніку, як вынятак, ападкаў больш, чым у верасьні. Тэмпэратура ў позную восень значна ніжэйшая — ўжо менш +5°. Чарадуючыся з дажджом, пачынае зьяўляцца першы сьнег, дарога робіцца моцна гразкаю, а ў вільготным васеньнім паветры гэтая гразь ужо ня сохне. Лісьце абляцела. Неба ўвесь час захмуранае. Ясныя дні здараюцца вельмі рэдка. Вось як выглядае ў нас позная восень. Гэтая няпрыятная пара году цягнецца некалькі тыдняў. Часамі яна расьцягаваецца і на некалькі месяцаў, часамі-ж вельмі скарочуецца, і пасьля ясных дзён восені тэмпэратура спадае ніжэй 0°, зямля замярзае ў груду, замярзаюць рэкі, вазёры, выпадае сьнéг, адным словам, пачынаецца зіма.

---

Прырода, як мы бачым, надзяліла Беларусь дужа прыгожым і карысным кліматам. Сонца грэе ў нас якраз умéру. Ня

бывае ў нас лютых палярных марозаў, спыняючых жыцьцё, а ні тропічных сьпякотаў, што перашкаджаюць працы ды шкодзяць здароўю. Буйныя вятры прачышчаюць павéтра, прыносяць нам ападкі, дый наагул карысныя ўплывы акеану. З аднаго боку маем нашую цудоўную зіму з мéрнымі марозамі, з сталай сьнегавою посьцілкаю, якое блізка што ня бачаць далéй ад нас на захад ляжачыя краі, і нашую прыгожую ясную восень. З другога боку мы ня цéрпім ад лішняга контынэнталізму, які дрэнна ўплывае на нэрвы і шкодзіць гаспадарцы. Мéрная вільготнасьць павéтра толькі памагаé жыцьцю жывёлаў і асабліва карысна для расьлінаў; нашыя ж пяшчаныя грунты лёгка прапускаюць праз сябе лішнюю вільгасць з павéрхні зямлі, і гэта бароніць Беларусь ад малярыі. Клімат Беларусі, адным словам, вéльмі здаровы для чалавéка і карысны для гаспадаркі.

Клімат Беларусі моцна розьніцца ад кліматаў навет сусéдніх з Беларусяю краёў: і чыста акеанічнага клімату нашых заходніх суседзяў, і халоднага контынэнтальнага клімату Маскоўшчыны, і сухога стаповага ўкраінскага клімату. Бела-русу нялёгка навет бывае прывыкнуць да клімату гэтых старонак. Шмат ёсьць людзéй, гадаваных у Беларусі, якія іншы раз мо' й забыліся аб сваёй беларускасьці; але трапіўшы, прыкл., ў Польшчу ў часе яé гразкое дажджыстае зімы, яны з вялікаю тугою ўспамінаюць аб роднай старанé, пакрытай у гэты час бліскучымі бéлымі шатамі сьнéгу; альбо ізноў-жа трапіўшы ў Маскоўшчыну ды ціснучыся ад сярдзітага ўсход-няга холаду, з нямéншаю тугою думаюць аб лагодным паветры сваé Бацькаўшчыны. Гэтак, чыста фізычна зрастаецца беларус з прыродаю сваé Бацькаўшчыны, а перад усім з яé кліматам, яé павéтрам, у якім найлягчэй яму дыхаецца, найздаравéй пачуваецца.

---

# РАЗЬДЗÉЛ III.

## Абводненьне Беларусі.

### § 17. БЕЛАРУСКІЯ РЭКІ.

Беларусь абыймае вéрхнія часткі вадазборнікаў Дняпра, Нёмна і Дзьвіны; апроч таго, да Беларусі налéжаць і часткі вадазборнікаў іншых рэк, як Віслы, Волгі і г. д. Большая частка гэтых рэк цячэ ў Балтыцкае мора, Дняпро-ж цячэ ў Чорнае мора. **Вялікі эўропэйскі вададзéл,** які дзéліць вадазборнікі паўночных і паўднёвых мораў Эўропы, ў даным выпадку — Балтыцкага і Чорнага, праходзіць праз сярэдзіну Беларусі ў кірунку з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад і дзéліць

Беларусь якраз блізка папалам. Праходзіць ён у большасьці па вяршынам нашых узгор'яў, але далёка не заўсёды; часта йдзе́ць вададзе́л па нізкім забалочаным раўнінам, як, прыкл.,— паміж Бугам і Прыпяцяю. Наагул у Беларусі эўропэйскі вададзел найбольш зьніжаецца; гэта дало магчымасць аж у не́калькіх мяйсцох перакапаць яго каналамі, злучаючы гэткім чынам вадазборнікі Балтыцкага і Чорнага мораў.

Вадазборнік Волгі, якая плыве́ ў Касьпійскае мора, захапляе толькі невялічкую частку беларускага прастору, так сама, як і вадазборнікі р. Ловаці ды р. Вялікае. Да таго-ж вададзе́лы паміж гэтымі рэкамі ды Дняпром і Дзьвіною наагул шмат вышэйшыя, чым галоўны эўропэйскі вададзе́л, дый ідуць у значнай ме́ры па мяжы Беларусі ці каля яе́; гэта паказуе, што беларускі народ, разсяліўшыся па вадазборніках Дняпра і Дзьвіны, дайшоў тут да сваіх натуральных ме́жаў. З другога боку вышыня вададзе́лу не дае́ць магчымасьці зьвязаць каналамі Волгу з нашымі рэкамі і яшчэ пабольшуе значэньне вададзе́лу, як натуральнае мяжы. Аднак у некаторых мяйсцох беларусы пераступаюць праз вададзе́льную мяжу і займаюць часткі вадазборнікаў чужых рэк, найбольш, подлуг свайго прызвычаю, вярхоўі гэтых рэк. Дый наагул, як бачым, беларусы, адціснутыя ад мора, пашыраліся на вярхоўі рэк, займалі вададзе́лы і вялікія іх вузлы.

Рэкі ве́льмі моцна ўплываюць на ўве́сь характар прыроды краю і культуры народу, які той ці іншы край засяляе. І ў даным выпадку палажэньне Беларусі на вададзе́льных вузлох моцна адбілася на гісторычнай долі беларускага народу і ў пэўнай ме́ры характарызуе прыроду Беларусі і яе́ культуру.

Усе́ важне́йшыя рэкі Беларусі стварыліся не раней як ў лядавіковыя часы. Рэкі, якія істнавалі перад лядавіковаю эпохаю, ме́лі іншы кірунак. Лядавікі пазасыпалі іх сваімі асадамі, а з другога боку папракопавалі глыбокія боразны — равы на паверхні зямлі; воды-ж таючых лядавікоў паразмывалі шырокія лядавіковыя даліны ў адложаным уперад морэнным матар'яле. Новыя рэкі пастараліся выкарыстаць і лядавіковыя даліны і боразны, але не заўсёды плывуць яны па іх дне. Найчасьце́й сучасныя нам беларускія рэкі самі вышукуюць сабе́ дарогу ў абніжэньнях паміж морэннымі ўзвышшамі ды іншымі няроўнасьцямі паве́рхні зямлі. Дзеля гэтага кірунак рэкаў ве́льмі моцна зале́жыць ад раскладу ўзвышшаў, асабліва канцавых морэнаў, па паве́рхні Беларусі.

Па свайму характару рэкі Беларусі далёка ня роўныя; зале́жыць гэта і ад іх паходжаньня і ад выгляду паве́рхні краіны, па якой яны плывуць. **Рэкі** пакрытага густой се́ткаю вазёраў **морэннага краю** пачынаюцца найбольш з вазёраў ды балотаў; часта гэта толькі пратокі, што злучаюць сусе́днія вазёры. Большасьць морэнных рэкаў, прынамсі ў сваім ве́рхнім

цячэньні, праходзіць праз адно ці некалькі вазёраў; а калі прыглёдзіцца да берагоў іхняе даліны, якія то зыходзяцца, то далёка разыходзяцца адзін ад аднаго, дык зьяўляецца думка, што ня толькі вярхоўі, а і значныя часткі сярэдняга, а можа, і ніжняга цячэньня гэтых рэкаў стварыліся з ланцуга побач ляжаўшых большых і меншых вазёраў, злучаных пратокамі. На паверхні, толькі што аслабоненай ад лядавіка, вазёры, якія займалі тады без параўнаньня большыя прасторы, чым цяпер, ляжалі адны вышэй, другія ніжэй. Вада з вышэйляжачых вазёраў пераліваласся па чарзе ў усе ніжэйшыя, аж пакуль не даходзіла да мора ці да вялікае ракі. З часам праз вазёры ўстанаўлялася сталае цячэньне ракі, якая, зьбіраючы ўсё новыя прытокі, паглыбляла сваё карыта і разам з гэтым пакрысе сьцягавала ваду з вазёраў, праз якія працякала, аж пакуль тыя саўсім ня счэзьлі ці, прынамсі, значна не змялчэлі; дно вазёраў, што пасплывалі, зрабілася паверхняю прырэчнае даліны, берагі возера — берагамі гэтае даліны, значнымі і да нашага часу.

Гэтае паступеннае сплываньне вазёраў у рэкі йдзець і да сёньняшняга дня. А дзеля таго, што розныя часткі морэннага краю аслабаніліся з-пад лядавіка ў розным часе (Лядавіковая эпоха цягнулася пэўне міліёны гадоў), дык старэйшыя морэнныя краіны ўжо пазбавіліся вазёраў (прыкл., Менскае ўзгор'е), тады як малодшыя (прыкл., Віцебска-Невельская града) яшчэ маюць іх шмат.

Большасьць рэк Беларусі пачынаецца ў краінах бедных вазёрамі і выцякае звычайна з б а л о т а ў; магчыма, аднак, што шмат якія з гэтых балотаў стварыліся на мейсцы даўнейшых вазёраў. Балоты, так сама як і вазёры, доўга перахоўвуюць у сабе вільгаць з растаяўшых сьнягоў ды з дажджоў і стала ды раўнамерна жывяць рэкі вадою. Затым рэкі балоцістых і вазёрных краінаў толькі нязначна мялчэюць улетку, а з другога боку і ў часе ўлеваў мала падымаюць ровень свае вады.

Саўсім іншае паходжаньне і характар маюць **рэкі лесастэпу** (так сама, як і стэпу). У гэтай краіне няма вазёраў, а балоты спатыкаюцца толькі на ўзьбярэжжах рэк, у рачных далінах. Уся краіна зрэзана ярамі, якіх пракопуе веснавая і дажджавая вада. Яр досіць хутка расьце ў кірунку вададзелу і адначасна заглыбляецца. Калі яму ўдаецца дакапацца да ваданоснага пласту, ў ім зьяўляюцца крынічкі, ад якіх па дне яру ўвесь час бяжыць ручаінка. Ручаінкі, зліваючыся разам, твораць стаповыя рэчкі і рэкі. Вясною, як тае сьнег, па ярох бягуць вялізарныя патокі вады, а стаповыя рэкі робяцца многаводнымі і шырака разьліваюцца; ўлетку-ж, калі няма дажджоў, яны моцна мялчэюць, а то і перасыхаюць. Але рэк такога тыпу ў нас ня шмат; спатыкаюцца яны ў краінах, пакрытых лёссам, на паўднёвым усходзе Беларусі.

Скатуючыся з увышшаў, набіраюць рэкі тым больш сілы, чым большы спад, і тым больш магутнасьці, чым больш далучылася да іх прытокаў. Чым большы спад і большая скорасьць цячэньня, тым усё больш павялічуецца і **работа ракі**.

Яна размывае берагі, глыбака закапуецца ў дно даліны, выносіць у сваёй вадзé шмат скаламучанага матар'ялу. Пры асабліва вялікім спадзе яна робіцца горнаю ракою, якая рвéцца па камяністым днé, падмываючы высокія берагі, пераносячы масы гліны, пяску і навет буйнога каменьня. Здараюцца ў нас такога тыпу рэчкі, найбольш на захадзе і поўначы.

Але вось спад робіцца лагаднéйшым, рака трапляе ў раўнейшую мяйсцовасьць — і яé бег цішэе, а скаламучанае вады пачынаюць асядаць пяскі ды гліны, творачы сярод ракі астравы ды мялізны. Цячэньне ракі дзéліцца астравамі на цэлую сéць рукавоў, рака ўшыркі робіцца ўсё большаю; перад намі нізінная рака.

Пры саўсім нязначным спадзе мы пабачым палéскую раку. Лянiва і ціха паўзé такая рака пасярод балоцістых, саўсім плоскіх берагоў, паабрастаўшых сітнікамі ды чаротамі; вады ў ёй звычайна роўна з берагамі. Часамі здараецца, што берагі палéскіх рэк вышэйшыя навет за акалічныя раўніны. Рака ўздоўж сваіх берагоў кладзé цэлыя валы з асадаў. Паміж гэтых валоў яна плывé быццам паміж штучных грэбляў (дамбаў), якіх насыпаюць уздоўж берагоў рэк, каб адбараніцца ад паводак або падняць ровень вады ў судаходнай рацэ. З гэтае прычыны бывае, што палéскія нізіны ляжаць ніжэй роўня вады ў суседніх рэках і, зразумéла, вéльмі лёгка заліваюцца. Трэба толькі, каб нéйкі выпадак, прыкл., дождж ці вясною — таяньне сьнéгу, крыху павысіў ровень вады ў рацэ, як яна выліваецца з сваіх берагоў і затапляе значныя прасторы навокала. Калі-ж вада спадзé, часта можна заўважыць, што рака плывé нéкалькімі рукавамі па саўсім новым карыце, якое яé цячэньне пракапала за час паводкі. Дзякуючы гэтаму палéскія рэкі, хаця ў іхняй на выгляд цёмнай вадзé і ня шмат скаламучанага матар'ялу, дзéляцца звычайна на шмат рукавоў, творачы затокі ды астравы. Астравы гэтыя бываюць ужо ня толькі пяшчаныя, але і тарфяністыя, моцна забалочаныя, пароспіыя алéшнікам ды лазою.

Саўсім іншы выгляд маюць рэкі лесастэпу, што нясуць свае заўсёды мутныя воды (ад размытага лёссу і вапнякоў) па днé глыбокага яру або сярод даліны, абмéжанае высокімі лёссавымі берагамі. Урэшце асобна сярод нашых рэк трэба паставіць прападаючыя ў вапельных падзямельлях рэчкі Вокаўскага лéсу.

У краёх, пакрытых значнымі пластамі вапнякоў, як, прыкл., на паўночным узбярэжжы Адрыятыцкага мора, спатыкаецца шмат г. зв. **карставых зьявішчаў.** Вада, насычаная двутленістым вугалем, як вéдама, лёгка расчыняе ў сабé вапну. Такая вада, прасочуючыся праз грунт у ніжэйляжачыя вапéльныя пласты, цячэ па шчэлінах у вапняку (якіх бывае тут заўсёды шмат), увéсь час расчыняючы і размываючы іх сьцéнкі, аж пакуль ня створыць сабé значныя падзéмныя ходы, а то дык і цэлыя

пячоры. Часамі ве́рхнія пласты правалююцца ў пячору і творыцца г.зв. в о ў ч а я  я м а, а б о  л е́ й к а. Бывае, што ў такую пячору ці навет у размытую шчэліну сходзіць цэлая рака. Праз не́йкі час цячэ яна па падзе́мных ходах, а пасьля ізноў выходзіць наве́рх, найбольш у відзе крыніцаў.

Падобныя зьявішчы спатыкаюцца ў нас на Вокаўскім ле́се, які ляжыць, як ве́дама, на вапнякох Вутлявое эпохі. Адна з прападаючых рэчак, П а н і к л я, ў часе разводзьдзяў цячэ ўве́сь час па паве́рхні зямлі, як і звычайная рэчка. Калі-ж вада ў ёй спадае, яе́ цячэньне счазае перад сьцяною, што мае ў вышыню больш сажаня і зложана з гліны, над якою ляжыць вапняк. Рака гіне ў ходах, якія сама пралажыла ў гэтым вапняку, і выходзіць наве́рх толькі праз не́калькі вёрст у відзе крыніцаў, з якіх робіцца невялікае возера; выцекшы з гэтага возера, р. Панікля цячэ ўжо дале́й без пярэрвы і ўпадае ў р. Мяжу (прыток Дзьвіны). Гэткіх рэчак на Вокаўскім ле́се ёсьць не́калькі, а карставых зьявішчаў, пэўне, можна было-б, пашукаўшы, знайсьці там шмат.

У канцы трэба адзначыць, што шмат якія з нашых рэкаў на працягу свайго цячэньня па не́калькі разоў зьмяняюць свой характар, робячыся з горнае рэчкі — вялікаю нізіннаю, а



**Рыс. 22. Дняпро на ўсходняй мяжы Беларусі, вышэй Дарагабужу.**

то дык і пале́скаю ракою, ці наадварот. Асабліва цікава з гэтага боку Вяльля, аб якой будзе гутарка дале́й.

Пяройдзем цяпе́р да апісаньня паасобных рэкаў Беларусі.

## § 18. ВАДАЗБОРНІК ЧОРНАГА МОРА.

**Д н я п р о.** Найвялікшая рака Беларусі, Дняпро, нале́жыць да найвялікшых рэк і ўсяе́ Эўропы, сярод іх пасьля Волгі ды Дунаю займае Дняпро па сваёй вялічыні трэцяе ме́йсца. Уся яго даўжыня перавышае 2.000 вёрст, а вадазборнік Дняпра па свайму прастору бязмала ў два разы перавышае прастор самое Беларусі. Да Беларусі нале́жыць ве́рхняя палавіна цячэньня Дняпра, ніжняя-ж палавіна ляжыць ужо ў Украіне.

Дняпро пачынаецца на Вокаўскім ле́се, каля самае мяжы Беларусі. Выцякае ён каля в. Кле́цаваe, Бельскага павету, з невялікае (вярсты 2 шырыні) імшары, якая ляжыць на ме́йсцы даўне́й тут быўшага возера, ды так і называецца Імшара. Ляжыць гэтая мяйсцовасць у ве́льмі лясістай ды глухой ваколіцы, досіць высака, як і ўве́сь Вокаўскі ле́с, паднятай над роўнем мора. Спачатку Дняпро ў відзе невялікае балотнае рэчкі ўе́цца па шырокай (да 3-х вёрст), мяйсцамі забалочанай даліне і цячэ, наагул кажучы, на паўдня якраз па ўсходняй мяжы Беларусі. Зьбягаючыя да Дняпра зсусе́дніх балотаў прытокі значна яго павялічуюць (рыс. 22), і каля Дарагабужу Дняпро ўжо робіцца судаходнаю ракою для малых судзінаў. Недалёка ад Дарагабужу ён крута заварачуецца і пачынае це́кці на захад; адразу-ж яму прыходзіцца пераразаць узвышшо Вокаўскага ле́су, дзеля чаго даліна яго робіцца вузкою (ўсяго на 1/2 вярсты), а берагі, асабліва ле́вы, становяцца высокімі і стромкімі. Хутка, аднак, Дняпро трапляе ў шырокую лагчыну паміж Смале́нскім і Дняпроўскім узгор'ямі; ад вусьця р. Вопі аж да Смале́нску цячэ ён па шырокай балоцістай даліне і мае дужа няроўную глыбіню, што перашкаджае судаходзтву. Але ад Смале́нску Дняпро, падыйшоўшы да самага краю ўзгор'я, ізноў трапляе ў вузкую даліну, і яго ле́вы бе́раг робіцца высокім, мяйсцамі скалістым і дужа прыгожым на выгляд, як, прыкл., каля самага ме́ста Смале́нску. Недалёка ад Воршы, каля в. Кабялякі, Дняпро такі перарываецца праз узгор'е, што ўве́сь час ня пускала яго цякці на паўдня. Тут на ім творацца ўспамінаныя вышэй Кабяляцкія парогі (зложаныя з дэвонскіх вапнякоў і пяшчанікаў). Адгэтуль Дняпро ўжо цячэ ўве́сь час на паўдня; але яшчэ да Шклова, пераразаючы Дняпроўскае ўзгор'е, рака цячэ ў це́снай даліне з высокімі стромкімі берагамі. Ніжэй даліна Дняпра пакрысе́ шырэе (рыс. 13).

Выйшаўшы з сьце́наў узгор'я і трапіўшы на Раданскую раўніну, Дняпро шырака разьліваецца. Ніжэй Магілёва ўзгоркі трапляюцца яшчэ часамі на ле́вым беразе, а пасьля і саўсім счазаюць. Дняпро вялічавымі закрутамі ўе́цца па раўніне, сярод забалочанае ўжо сваé даліны, прарэзанае старымі рэчышчамі ды вазяркамі, што маюць звычайна выгляд ве́таха.

Ад вусьця р. Друці берагі Дняпра пачынаюць прыймаць пале́скі выгляд. Ужо пад Жлобінам спатыкаецца Дняпро з пе́ршымі пале́скімі балотамі. Што раз іх робіцца больш. У гэтым ме́йсцы ў Дняпро ўліваецца Бярэзіна, пе́ршы вялікі ягоны прыток. Нясе́ яна з сабою ве́льмі многа вады, і Дняпро адразу робіцца магутнаю многаводнаю ракою. Даліна яго даходзіць шырынёю да 5 вёрст, а судаходства павялічуецца ўдвая. Яшчэ большым робіцца Дняпро пасьля ўпадзе́ньня ў яго з ле́вага боку Сожа і ўжо саўсім прыймае выгляд пале́скае ракі. Яго пакрываюць лічныя нізкія астраўкі. Рака дзе́ліцца на шмат рукавоў, выпускае далёка ад сябе́ сваé

затокі. Чым бліжэй падыходзе Дняпро да Прыпяці, тым больш зьяўляецца навокала яго балотаў, вазёраў ды старых рэчышчаў. Урэшце пры вусьці Прыпяці значны прастор паміж абедзьвюма ракамі пакрыты цэлым лябірынтам зьвязаных між сабою рачных рукавоў. Гэткім уваходзіць Дняпро ў мéжы Украіны. Тут ён каля Кіеву прыймае апошні свой вялікі прыток Д з я с н у, якая таксама шмат беларускае вады ў сабé нясе; ад яé ўпаду ўжо мала павялічуецца Дняпро аж да самага свайго вусьця. Ўсю сваю сілу і магутнасьць дастаé Дняпро з беларускіх прастораў і папраўдзі можа быць званы — сынам Беларусі. Прабегшы тысячу вёрст па краіне, пераліўшыся праз в я л і к і я п а р о г і ніжэй Кацярынаслава, Дняпро падыходзіць да Ч о р н а г а м о р а і ўліваецца ў яго праз свой л і м а н.

Хаця Дняпро судаходны ўжо ад Дарагабужу, але ў верхняй яго часьці, аж да Воршы, судаходзтва мае шмат перашкодаў, дзякуючы каменьням, парогам і мялізнам, і адбываецца найбольш у часы веснавога разводзьдзя. За тое ад Воршы ўстанаўляецца сталае і вéльмі жывое судаходзтва ўніз па Дняпру аж да Магілева; ходзяць тут і параходы. Ніжэй Магілева рух на рацэ слабé йшы, бо тут дно ракі не прачышчанае і ёсьць на ёй асабліва шмат мялізнаў, праз якія іншы раз даводзіцца параходы на лінах перацягаваць. Часта пасажырскі рух тут улетку саўсім спыняецца. Затое ад вусьця Бярэзіны і пасажырскі і таварны рух моцна ўзрастаюць; тут судаходзтва ўжо адбываецца без вялікіх перашкодаў і пярэрваў. Значнейшыя беларускія прыстані на Дняпры вось якія: С м а л é н с к, Д у б р о ў н а, В о р ш а, К о п ы с ь, Ш к л о ў, М а г і л е ў, С т а р ы Б ы х а ў, Р а г а ч о ў, Ж л о б і н, Р э ч ы ц а і Л о е ў.

Важнейшыя беларускія прытокі Дняпра: з правага боку — В о п, Х м о с ь ц ь, Д р у ц ь, Б я р э з і н а і П р ы п я ц ь; з левага — С о ж і Д з я с н а.

**Воп** цячэ ля падножжа Вокаўскага лéсу. Яé шырокая даліна дзéліць Вокаўскі лéс ад Смалéнскае морэны. **Хмосьць** — невялікая рака, праразаючая Смалéнскае ўзгор'е, якое ў яé вярхоўях даходзіць найбольшае вышыні. **Друць** пачынаецца на спадах Дняпроўскага ўзгор'я на балоцістай раўніне і цячэ паралéльна Дняпру па днé лядавіковае даліны. У ніжнім сваім цячэньні Друць пераразае малазначнае тут падняцьце Наваградзкага гарба; берагі яé пры гэтым робяцца вышэйшымі і сухімі*).

**Бярэзіна** (рыс. 23) выцякае з Мéнскага ўзгор'я, з таé яго часьці, якою яно злучаецца з Сьвянцянска-Докшыцкаю морэнаю. Пачынаецца яна каля м. Докшыцаў; на пачатку мае хуткі бéг і размывае сабé досіць глыбокую даліну. Гэтак скатуецца яна з узгор'я ў старую лядавіковую даліну, што ідзéць з пад Лéпеля (гл. вышэй); па гэтай даліне калісь воды Полацкага лядавіковага возера сьцякалі на паўдня ў Палéскае возера.

*) гл. Wołłosowicz.

Лядавіковаю далінаю плывé Бярэзіна аж да самага Палéсься, да Бабруйску. Берагі яé тут звычайна досіць высокія, часамі вéльмі стромкія, паабраставшыя лéсам. Дзе-ня-дзé берагі ніжэюць і на іх зьяўляюцца балоты. Асабліва балоцісты — пачатак лядавіковае даліны, там, дзе ў ёй ляжыць в о з. П я- л і к  і  р. С э р г у ч, ўваходзячая ў сыстэму Бярэзінскага каналу. Толькі ад Барысава па Бярэзіне адбываецца рэгулярнае судаходзтва, ды ходзяць навет і параходы, хаця з перарывамі ўлéтку, бо на сярэдняй Бярэзіне трапляецца шмат мялізнаў, дый наагул яé карыта не прачышчанаé і занядбанае. Перасекшы вышэй Бабруйска морэнную граду (Н а в а г р а д з- к і  г о р б), Бярэзіна трапляе на прасторы Палéсься і цячэ па днé даўнéйшага лядавіковага возера. Вéдама, што ўвéсь яé выгляд зьмяняецца. Бярэзіна робіцца палéскаю ракою, якая ціха цячэ ў нізкіх берагох сярод балотных нізінаў, дзéліцца на рукавы, мае на сабé шмат астравоў і г.д. Агульная даўжыня Бярэзіны — 590 вёрст; шырыня яé пад Барысавам — каля 20 саж., а ніжэй Бабруйску даходзіць 70 і больш сажняў.

Бярэзіна мае дужа важнае ваéннае і гандлёвае значэньне. Берагі яé шмат дзé блізка што няпрыступныя: або высокія і стромкія, або нізкія, пакрытыя непраходнымі балотамі ды лясамі. Бярэзіна мае досіць значную глыбіню, а зімою на ёй шмат незамярзаючых мéйсцаў. Усё гэта робіць з яé значную перашкоду для руху з захаду на ўсход, ці наадварот. А дзеля таго, што якраз у гэтым кірунку няраз перасоўваліся па Беларусі значныя масы войска, дык Бярэзіна мéла сваё значэньне ў ваéннай гісторыі сходу Эўропы. Экономічнае значэньне Бярэзіны ў тым, што праз яé найлягчэй злучаюцца вадазборнікі Дняпра і Дзьвіны Бярэзінскім каналам, які цяпéр, на жаль, закінуты і блізка таго што ня ўжываецца; з другога боку сам вадазборнік Бярэзіны вéльмі багаты лéсам, які ў значным ліку сплаўляецца па рацэ ўніз і ўвéрх па канале.

З прытокаў Бярэзіны найвялікшы — **Сьвіслач** (мае ўдаўжкі 250 вёрст), над якою стаіць Мéнск. Пачынаецца яна на Мéнскім узгор'і, і так сама, як і Бярэзіна, мае хуткі вéрхні бéг. Значна абмялéўшы, цяпéр яна пад Мéнскам не судаходная; але вясною і ў часе паводак яна моцна разьліваецца і затапляе частку мéста, прыпамінаючы, відаць, часы лéпшае сваé мінуўшчыны. Ў сваім ніжнім цячэньні Сьвіслач плывé па палéскай мяйсцовасьці; тут даўнéй, відаць, было лядавіковае возера, што займала паўднёвую частку Ігуменскага пав. Ў гэтае возера ўпадала Сьвіслач, а можа, і сама Бярэзіна.

**Прыпяць** (рыс. 24) пачынаецца сярод вялікіх палéскіх вазёраў, што ляжаць недалёка ад Бугу, на паўдня ад Бéрасьця. На ўсім сваім працягу (каля 600 в.) ёсьць яна найбольш тыповаю балотнаю ракою ў Эўропе і агульна вéдама па сваёй някранутасьці й дзікасьці. Прычынаю гэткага характару Прыпяці ёсьць перад ўсім яé дужа малы спад; у вéрхнім цячэньні

Прыпяці агульны схілак Палéскае катліны на ўсход яшчэ ня вéльмі выразны, дзеля чаго цячэ Прыпяць дужа павольна і сонна. Ўжо недалёка ад пачатку на Прыпяці зьяўляюцца астраўкі, створаныя з чорнае, грузкае зямлі ды пазарастаўшыя ўлéтку буйнымі балотнымі расьлінамі. Чым больш расьцé рака, чым больш прыймае ў сябé прытокаў, якія прыносяць у яé з акружаючых узвышшаў шмат вады і шмат размытага ёю матар'ялу, тым астравоў ды мялізнаў робіцца ўсё больш. Рака распаўзаецца лічнымі рукавамі па акружаючых балотах. Рукавы гэтыя часта маюць свае назовы, так што



**Рыс. 24. Р. Прыпяць ля Турава.**

сярод іх мяйсцамі траціцца навет імя самое Прыпяці, а ўжываюцца замест яго імéньні яé рукавоў (П а р о к, С т р у м е н ь). Да таго-ж рукавы Прыпяці ня маюць пэўнага карыта, а ні пэўных берагоў; яны выгінаюцца сярод берагоў, якія рака сама сабé стварыла з асадаў, укладаючы гэтыя асады грэблямі ўздоўж свайго цячэньня, або з рачных траваў, і забалочуюць мяйсцовасьць на дзесяткі вёрст навокала. Рака лёгка выступае з гэтых берагоў, затапляе акалічныя балоты ды прабівае сярод іх новыя карыты для сваіх рукавоў. Асабліва рэзка такі характар ракі выступае на паўдня ад Пінску, на прасторах вышэйапісанага З а р э ч ч а. Тут Прыпяць прыймае цэлы рад вялікіх прытокаў і становіцца магутнаю шырокаю ракою, але яе балотны характар не зьмяняецца, а навет павялічуецца.

Ад Пінску Прыпяць робіцца судаходнаю: ходзяць па ёй тут ужо значныя судзіны і параходы. Плаваньню па Прыпяці найбольш перашкаджаюць карчы і калоды, якіх шмат спатыкаецца ў карыце гэтае балотнае ракі, а таксама мялізны; затое перашкаджаючых плаваньню парогаў на Прыпяці няма. Каля вусьця р. Гарыні Прыпяць перасякае вельмі нязначны парог, але ад яго ўсяго знаку толькі, што на рацэ робіцца больш астравоў, а берагі робяцца крыху сушэйшымі, ды абрастаюць дрэвамі. Гэткі характар рака мае аж да Пётрыкава. Далей, падыходзячы да Мазырскага ўзвышша, яна мае берагі значна вышэйшыя і сухія. А прабіваючыся праз гэтае ўзвышшо пад Мазыром, Прыпяць мае дужа высокі стромкі правы бераг, які падыймаецца над вадою бязмала на 50 саж.

Мінуўшы Мазырскае ўзвышшо, Прыпяць ізноў разьліваецца па нізіне і, зблiжаючыся да Дняпра, дзеліцца на множства рукавоў, як і сам Дняпро ў гэтым мейсцы. Шырыня ніжняе Прыпяці даходзіць да 200 саж. У веснавое-ж разводзьдзе яна разьліваецца на 10—15 вёрст. Вады ў ёй тады бывае гэтулькі, што параходы могуць хадзіць па тых мяйсцох, дзе ўлетку аралі ці касілі. Варта заўважыць, што веснавое разводзьдзе на Прыпяці дзеля таго яшчэ бывае асабліва значным, што вярхоўі яе паўднёвых прытокаў раней аслабаняюцца ад лёду, чым сама рака, дзеля чаго, як рушыць лёд на Прыпяці, ў яе трапляе адразу масса затрыманае лёдам вады і рака шырака разьліваецца па Палескай нізіне.

Апроч свайго цікавага прыроднага характару Прыпяць мае дужа важнае экономічнае значэньне як вадзяны шлях. Яе прытокі Ясельда і Піна злучаныя каналамі з рачнымі сыстэмамі Віслы і Нёмна. Гэта надае Прыпяці шырэйшае значэньне ўжо міжнароднага вадзянога шляху. Праз яе злучаюцца вадазборнікі Чорнага мора і Балтыцкага, збажжавыя ўкраінскія стэпы ды багатая лесам паўднёвая Беларусь з Заходняю Эўропаю, якая патрабуе і нашага лесу і ўкраінскага хлеба. Важнейшыя прыстані на Прыпяці — Пінск, Тураў, Пётрыкаў і Мазыр, дый яшчэ Давыд-Гарадок на прытоку Прыпяці Гарыні.

З правага боку Прыпяць прыймае прытокі: Стаход, Стыр, Гарынь, Вубарць і Славечну. Першыя тры — гэта вялікія судаходныя рэкі; пачынаюцца яны на Валынскім узвышшы, дзеля чаго іх верхняе цячэньне хуткое, берагі высокія і сухія. Трапляючы-ж на прасторы Палескае нізіны, гэтыя рэкі саўсім зьмяняюць свой характар, сьцішаюць бег і робяцца палескімі рэкамі; зразумела, што пры гэтым з іх асядае шмат скаламучанага ў вадзе матар'ялу, які яны прынесьлі з узвышша. Рэкі Стаход і Стыр іграюць важную роль у стварэньні балотаў Зарэчча і наагул у сваім ніжнім цячэньні вызначаюцца асабліва дзікім, балотным характарам. Вубарць і Славечна на ўсім сваім працягу застаюцца тыповымі палескімі рэкамі.

Левыя прытокі — Ясельда (яе прыток — Піна), Лань, Случ і Птыч пачынаюцца на розных беларускіх узвышшах і таксама рэзка дзеляцца на дзьве часткі — ўзвышшовую і палескую. З усіх іх найбольшы — **Птыч**; пачынаецца ён недалёка ад Менску на Менскім узгор'і, але хутка трапляе ў Палесьсе, якое якраз уздоўж яго вадазборніка асабліва далёка языком высоўвуецца на поўнач (Ігуменскае Палесьсе). Тут, як ужо ўспаміналася, было даўней асобнае лядавіковае возера, аддзеленае з паўдня Наваградзкім гарбом ад вялікага палескага возера. Спад Птыча досіць значны, як на палескую раку. Судаходзтва па ім блізка што не адбываецца. **Ясельда з Пінаю** абыймаюць з двох бакоў Загародзьдзе. Ясельда злучана Агінскім каналам з Шчараю, прытокам Нёмна, а Піна — Каралеўскім каналам з Мухаўцом, прытокам Бугу. Наагул большая часьць успомненых прытокаў Прыпяці судаходная, па Стыру-ж, Стаходу, Гарыні і Ясельдзе ходзяць параходы. Ў варунках палескага бездарожжа гэта надае ім вялізарнае значэньне: толькі па гэтых рэках жыхары Палесься могуць рэгулярна зносіцца з сьветам.

Левы прыток Дняпра, **Сож**, пачынаецца пад самым Смаленскам, некалькі вёрст на паўдня ад яго. Скатуючыся з Дняпроўскага ўзгор'я, верхні Сож хутка цячэ ў досіць глыбокай даліне; берагі даліны стромкія, зрэзаныя ярамі. Сярэдні Сож цячэ ў шырокай (да 4-х вёрст), крыху балоцістай даліне. Ніжні-ж Сож узыходзіць на Палескую нізіну і пакрысе набывае прыметы палескіх рэк; бег яго робіцца цішэйшым, берагі — нізкімі, а часам і балоцістымі, сярод ракі зьяўляецца ўсё больш астравоў і мялізнаў. Шырыня ракі ўзрастае да 70—100 саж., і яна дзеліцца на рукавы. Адным словам, паўтараюцца, толькі ў меншым разьмеры, тыя самыя зьмены, праз якія пераходзіць цячэньне Дняпра.

Агульная даўжыня Сожа 552 вёрсты. Ад м. Крычава ён робіцца судаходным, а ад м. Прапойску — ходзяць па ім і параходы. Моцна перашкаджаюць судаходзтву па Сожу — мялізны. Важнейшыя прыстані на Сожы — Крычаў, Чэрыкаў, Прапойск, Ветка і асабліва Гомель. Пад Лоевам Сож упадае ў Дняпро, значна павялічуючы яго воды.

Важнейшыя прытокі Сожа: Асьцёр, Беседзь ды Іпуць, так сама, як і сам Сож, выцякаюць з Дняпроўскага ўзгор'я. Гэта досіць вялікія рэкі, па якім сплаўляецца шмат дрэва з глухіх закуткаў Раданскае нізіны і суседніх краінаў. Сіла цячэньня р. Іпуці, апроч таго, недалёка ад яе вусьця выкарыстана Добрушскімі фабрыкамі; дзеля гэтае мэты шырокая рака перагароджана грэбляю (рыс. 25). Разам з сваімі прытокамі Сож абвадняе значны прастор паўднёва-ўсходняе Беларусі і ў гэтай краіне, саўсім ня маючай чыгунак, ёсьць дужа важным шляхам.

**Дзясна**, найбольшы з усіх Дняпровых прытокаў (936 в. даўжыні), выцякае з Ельнінскага вузла і хутка трапляе на ўсходнюю мяжу Беларусі; уздоўж гэтае мяжы цячэ

яна каля 250 вёрст, дзелячы Беларусь упéрад ад Масковшчыны, а далéй ад Украіны. Цячэ яна тут шырокаю далінаю. Правы, беларускі, бераг яé — высокі, з багатаю гляістаю зямлёю, густа засéлены. На ім пабудаваліся мéсты Бранск і Трубчаўск. Лéвы бéраг нізкі, пяшчаны і лясісты. Штогод Дзясна залівае яго на дзесятак вёрст сваімі грознымі разводзьдзямі. Звычайна-ж шырыня Дзясны каля 70 саж. Ад Бранску яна робіцца судаходнаю, а вышэй Бранску часта бывае запруджаная бярвéньнем, якое па ёй сплаўляюць розсыпам. З беларускіх прытокаў Дзясны варта



**Рыс. 25. Р. Іпуць і грэбля на ёй каля м. Добрушу.**

адзначыць рэкі лесастэпу Сноў і Судасьць. Ніжняе цячэньне Дзясны належыць ужо саўсім да Украіны.

---

Калі мы цяпéр абвядзéм на карце вадазборнік Дняпра, дык пабачым, што вадою Дняпра і яго прытокаў жывіцца ўся паўднёва-ўсходняя палавіна Беларусі. Паўночную і заходнюю Беларусь займаюць вадазборнікі Нёмна і Дзьвіны.

## § 19. ВАДАЗБОРНІК БАЛТЫЦКАГА МОРА.

**Нёман** (рыс. 26) па сваёй вялічыні і па экономічнаму значэньню ня можа раўнавацца да Дняпра. Аднак-жа спаміж рэк Беларусі якраз Нёман акружаны асабліваю пашанаю сярод беларусаў, абвéяны і народнаю, і навéйшаю мастацкаю паэзіяю. Прычына гэтага, мусіць, тая, што на берагох Нёмна ўзгадаваўся дух беларускага адраджэньня; бо-ж то яго хвалі моліць-просіць вуснамі свайго песьняра абуджаны Беларускі

Народ, каб расказалі чужому краю пра жыцьцё сваіх сыноў. І Нёман зрабіўся сымболем сувязі нашага адраджэнскага руху з Захадам, з шырокім сьветам.

Выцякае Нёман з паўднёва-ўсходняе часткі Ме́нскага ўзгор'я. Ме́йсца, дзе пачынаецца Нёман, не саўсім яшчэ выясьнена. Адны лічаць за пачатак Нёмна р. Вусу, якая выцякае з-пад Сьвятое гары (на поўнач ад м. Койданава) і, скатуючыся з высокага ўзгор'я, аж да м. Пясочнага цячэ на паўдня, а там злучаецца з другою значнаю рэчкаю Лошаю, пачынае цекці на паўночны захад і ўжо адгэтуль ўве́сь час носіць назоў Нёмна. Іншыя за пачатак Нёмна ўважаюць невялічкую рэчку, якая пачынаецца ўжо ля паднож-жа Менскага ўзгор'я, ў балоцістых лясох каля м. Вуззы і, працекшы каля 20 вёрст, таксама пад Пясочным злучаецца з Вусаю і Лошаю. Ўсе́ ўспомненыя рэкі сьцягуюць ваду з досіць значных лясных прастораў, акружаючых Ігуменскае Пале́сьсе, і дзеля таго пад Пясочным, пасьля злучэньня ўсіх трох рэчак, Нёман ужо досіць вялікі ды многаводны. Тут ён якраз узыходзіць на шырокую лядавіковую даліну, па якой яму даводзіцца це́кці бязмала да самае Горадні.

Трэба адзначыць, што і геолёгічная гісто́рыя і цяпе́рашні выгляд Нёмна асабліва моцна зьвязаныя з лядавіковаю эпохаю і яе́ рэзультатамі. Ўве́сь час, плывучы па Беларусі, Нёман старанна выкручуецца паміж морэнных узвышшаў заходняе Беларусі, па сьлядох, якія пакінулі па сабе́ лядавіковыя рэкі. І ня толькі сам Нёман, але і ўсе́ яго правыя прытокі плывуць у лядавіковых далінах; берагі гэтых далінаў робяць крыху весяле́йшым выгляд Лідзкае раўніны.

Ад м. Сьве́ржаня Нёман робіцца судаходным, шырыня яго тут каля 20 саж.

Плывучы па шырокай даліне, сярод падмочаных сенажацяў ды зялёных гаёў, абгінаець Нёман з поўначы Наваградзкае ўзгор'е. Берагі яго тут няроўныя. На ле́вым бе́разе, які досіць высака падыймаецца над далінаю ракі, ляжыць багатая, густа засе́леная і блізка бязьле́сная Наваградчына; на нізкім правым беразе, на пяскох і балотах раскінулася Налібоцкая пушча, абшырнымі балотнымі сенажацямі падыходзячая да самага Нёмна. Трэба лічыць, што і на ме́йсцы цяпе́рашняе Налібоцкае пушчы не́калісь было няглыбокае лядавіковае возера, ў якім сабіраліся воды з лядавіка, што ляжаў на паўночных узгор'ях; цяпе́р на памятку аб гэным возеры засталіся вялізарныя прасторы пяскоў, досіць значныя балоты ля Нёмна ды не́калькі вазёраў, з якіх найбольшае Кроман вызначаецца сваёю глыбінёю (каля 12 саж.).

Выпаўзаючы з пушчы, уліваецца ў Нёман Бярэзань*), якая блізка праз уве́сь час цячэ ў лядавіковай даліне; даліна гэтая з Бярэзані пераходзіць дале́й на паўночны ўсход аж да Вяльлі і гэтым даводзіць, што ў часы лядавіковыя ве́рхняя

*) Называюць яе́ яшчэ Бярэзінаю Заходняю, ці Нёманскаю.

Вяльля мéла сток праз Бярэзань у Нёман. Бярэзань з сваймі прытокамі праразае ўва ўсіх кірунках Налібоцкую пушчу, забіраючы ў сябé яé воды. Ад вусьця гэтае многаводнае ракі Нёман становіцца ўдвая шырэйшы (да 40 саж.) і ўжо мае выгляд запраўды вялікае ракі, а досіць хуткі бéг яго робіць тое, што праз некалькі дзесяткаў вёрст, аж да м. Дакудава, на рацэ няма мялізнаў, гэтак звычайных і вышэй і ніжэй гэнага кавалка ракі. Нéйкі час яшчэ плывé Нёман на паўночны захад, а пасьля, дайшоўшы да канца Наваградзкага ўзгор'я, завяртаецца на паўднёвы захад і яшчэ з другога боку абыймае гэтае-ж узгор'е. Прыгожаю, глыбокаю і сьвéтлаю ракою плывé Нёман сярод дубовых Дакудаўскіх лясоў, а прыймаючы ў сябé ўсё новыя прытокі з правага боку, робіцца ўсё шырэйшым; ды, на жаль, пачынаюць ізноў на ім спатыкацца мялізны, моцна перашкаджаючыя судаходзтву.

Яшчэ большым робіцца Нёман пасьля ўпаду ў яго Шчары. Зьмяніўшы ізноў свой кірунак на паўночна-заходні, ды шырака разьліўшыся сярод пяшчаных берагоў лядавіковае даліны, цячэ тут Нёман аж да самага Горадзенскага ўзгор'я, якое загароджуе яму дарогу. Тут сьляды лядавіковае даліны, па днé якое плыў Нёман аж да Пясочнага, пачынаюць губляцца. Праразаючы Горадзенскае ўзгор'е, Нёман на працягу дзесятку вёрст каля Горадні цячэ ў значна вузéйшай (каля 30 саж.) даліне з высокімі і вéльмі стромкімі берагамі; на гэткіх берагох разбудавалася Горадня — ў тым якраз мейсцы, дзе Нёман ізноў крута паварачуе, каб далéй плысьці проста на поўнач. Выгляд даліны Нёмна пад Горадняю наводзіць на думку, што Нёман ужо ў пасьлялядавіковыя часы сам прабіўся праз сьцяну Горадзенскага ўзгор'я, адсякаючы ад яго, праўда, досіць нязначную паўночную частку. А лядавіковая даліна, якою ён дагэтуль увéсь час плыў, відаць, абмінала Горадзенскае ўзгор'е і кіравалася на паўдня да Нарві, пад Белысток. Зьяўляецца дзеля таго саўсім зразумéлае запытаньне, якія-ж прычыны змусілі Нёман прабівацца праз узгор'е замéста таго, каб спакойна плысьці старым сьлéдам лядавіковае ракі? Галоўнымі прычынамі, відаць, былі — абмяленьне лядавіковае даліны ад заносу яé асадамі і, з другога боку, — агульнае падняцьце павéрхні зямлі пад ланцугом паўднёвых узгор'яў, сярод якіх ляжала ды з якімі разам мусіла падымацца і лядавіковая даліна, аб якой мова; цяпéр сьляды гэтае даліны ня лёгка разшукаць. Апроч таго, магчыма, што даліна Нёмна ў тым мéйсцы, дзе ён праразае ўзгор'е, была пракапана самым лядавіком альбо патокамі вады, якія цяклі падысподам лядавікá пад яго значным ціскам. У кожным разе пад Горадняю Нёман досіць глыбака раскапуе навет старэйшыя геолёгічныя пласты (Крэйдавае ды Нумулітычнае эпохаў), якія выступаюць тут часамі на яго берагох у відзе, прыкл., крэйдавых скалаў ніжэй Горадні і г.д.

Перасékшы Горадзенскае ўзгор'е, Нёман ізноў трапляе ў лядавіковую даліну, якая гэтым разам ідзé ўжо ўпоперак яго кірунку. Па днé гэтае даліны цяпéр плывуць з правага боку Нёмна — р. Марачанка, з лéвага — р. Чорная Ганжа, дый пракапаны Аўгустоўскі канал. А ў лядавіковую эпоху па ёй сьцякала вада з Віленскага ўзгор'я ў даліну Бабра і далéй у Нарву і Буг. Пераплыўшы гэтую даліну, кіруецца Нёман далéй на поўнач, ў Літоўскую зямлю да Коўны, таксама пракопуючы сабé вузкую ды глыбокую даліну сярод старэйшых геолёгічных пластоў, а ад Коўны, прыняўшы там да сябé Вяльлю, плывé Нёман на захад, спакойна разьліўшыся па нізіне, і ўпадае ўжо ў Усходняй Прусіі ў затоку Балтыцкага мора Курыш-Гаф.

У ніжнім сваім цячэньні Нёман дзéліцца на два вялікіх рукавы — Рус і Гільгэ (Лялé я). Недалёка ад вусьця Нёмна знаходзіцца над Курыш-Гафом порт Клайпэда, якога нéмцы называюць Мэмель (гэтак сама паняméцку называецца і сам Нёман).

Агульная даўжыня Нёмна 821 вярста; з гэтага на Беларусь прыходзіцца каля палавіны, рэшта на Літву. Шырыня Нёмна ў нас даходзіць да 70 саж. улéтку; у часы-ж разводзьдзяў Нёман мяйсцамі разьліваецца на 8 вёрст. Як ужо ўспаміналася, ад Сьвéржаня Нёман робіцца судаходным. Ходзіць па ім нéкалькі відаў непаравых судзінаў (баркі, байдакі, галяры, стругі, віціны), з якіх найбольшыя, **віціны**, падыймаюць да 12.000 пудоў; будуюцца гэтыя судзіны ў вярхоўях Нёмна і Шчары. Параходы ў беларускай частцы Нёмна ходзяць толькі па некаторых кавалках ракі, бо па ўсім блізка цячэньні Нёмна ў Беларусі трапляецца шмат падводнага камéньня і мялізнаў, а галоўнае, што карыта Нёмна неаглéджанае і непрачышчанае. Толькі ў Няméччыне Нёман прачышчаны і абвéдзены грэблямі ячшэ ў XVII сталéцьці. Ў даўнéйшыя часы значэньне Нёмна, як вадзянога шляху, і ў нас, відаць, ляпéй разумéлі. Аб гэтым сьвéдчыць факт: у палове XVI в. Адам Тарло сваім коштам прачышчаў карыта Нёмна, каб зрабіць яго больш прыдатным для судаходзтва. Грамадзянства, відаць, ацаніла гэтую ахвяру, бо навéт шмат пазьнéй паэты ўкладалі вéршы на чэсьць Тарла.

Цяпéр па беларускай частцы Нёмна ідзéць значны сплаў лесу з вярхоўяў ракі. Значнейшыя прыстані — Стоўбцы (адгэтуль найбольш адпраўлялася даўней тавараў), Масты, Горадня, Коўна.

З прытокаў Нёмна адзначым: лéвыя — Шчару, Зэльву і Чорную Ганжу і правыя — Бярэзань, Марачанку і Вяльлю.

**Шчара** (рыс. 27) мае досіць дзіўны кірунак цячэньня. Пачынаецца яна на Наваградзкім узгор'і з невялічкага, на палавіну заросшага возера Каўдычаўскага і цячэ спачатку на паўдня. Перасекшы морэнную граду Наваградзкага

ўзгор'я, што адыходзіць у Случчыну, Шчара трапляе ў паўночнае Палесьсе, але пасьля зам́еста таго, каб плысьці да Прыпяці, як можна было-б спадзявацца, завяртаецца назад і плыв́е на паўночны захад да Нёмна, яшчэ раз перараза ючы сваёю глыбокаю тут далінаю Паўднёвы ланцуг узгор'яў. Берагі Шчары найбольш пяшчаныя і лясістыя. Асабліва каля Нёмна Шчара стварыла значныя пяшчаныя прасторы, на якіх разьляглася Л і п і ч а н с к а я п у ш ч а. Ў большай сваёй часьці Шчара судаходная. Агінскім каналам яна зьвязана праз воз. Выганошчы з Ясельдаю.

**Чорная Ганжа** гэтак сама служыць для злучэньня Нёмна Аўгустоўскім каналам з сыстэмаю Віслы. Ў сваім в́ерхнім цячэньні яна плыв́е па Сувальскім узгор'і сярод лічных вазёраў; цераз найбольшае з гэтых вазёраў, В і г ́е р с к а е,



**Рыс. 27. Р. Шчара пад Слонімам.**

рака праходзіць, а крыху ніжэй трапляе ў шырокую лядавіковую даліну, па якой і даплывае да Нёмна. **Марачанка**, якая цячэ ў гэтай самай даліне, а толькі на другі бок ад Нёмна, пачынаецца пад Ашмяною. Я́е шырокая, з высокімі берагамі даліна, па якой калісь плыла адна з найбольшых лядавіковых рэк, цяп́ер дз́еліць раўнінную Лідчыну ад Віленскага ўзгор'я. Уздоўж правага б́ерагу гэтае даліны ляжаць пяскі, на якіх раскінулася Р у д н і ц к а я п у ш ч а.

**Вяльля** (рыс. 28) найпрыгажэйшая з беларускіх рэкаў. Вялікі Міцкевіч ды іншыя паэты Беларусі складалі аб ёй поўныя захвыту і замілаваньня п́есні, а ў даўныя часы над я́е ўзьбярэжжамі будавалі нашыя продкі сва́е паганскія сьвятыні.

Цячэ Вяльля ў шырокай лагчыне, паміж Сьвянцянска-Докшыцкім, Віленскім ды Ме́нскім узгор'ямі, якія, абкру-



Рыс. 28. Вяльля пад Вільняю.

жуючы гэтую лагчыну, ляжаць навокала яе́ ў форме падковы. Вяльля выцякае з Ме́нскага ўзгор'я, ў Барысаўскім пав., каля

в. Шылінцы (на паўдня ад Докшыцаў). Верхняя Вяльля аж да Смаргоняў цячэ па лядавіковай даліне, ў балоцістых берагох, сярод шырокіх пяшчаных і лясістых прастораў. Дно яе́ тут часта бывае грузкае, заваленае карчамі, а шырыня даходзіць да 15 саж. Недаходзячы м. Вяле́йкі, Вяльля прыймае з правага боку досіць значны прыток р. Сэрвач*) і робіцца глыбокаю і шырокаю (18 саж.) ракою. Правы бераг яе́ робіцца вышэйшым, пяшчаным, на ім досіць густа пабудаваліся вёскі; ле́вы-ж пакрыты вялізнымі балотнымі сенажацямі, пасярод якіх параскіданы паадзінокія дубы. Ніжэй Вялейкі плыве́ Вяльля сярод досіць значных балотаў, выходзячы з якіх, зьмяняе свой пачатковы паўднёва-заходні кірунак — на паўночна-заходні. Разам з тым яна пакідае лядавіковую даліну, якая і далей кіруецца на паўднёвы захад, ды, перасе́кшы ўзгор'е, трапляе ў вадазборнік Бярэзані Нёманскае; гэта апошняя рака выкарыстуе лядавіковую даліну і цячэ па ёй аж да ўтоку ў Нёман.

А Вяльля тым часам ад Смаргоняў пракопуе сабе́ сваю ўласную, досіць глыбокую, але вузкую даліну сярод узгор'яў, якія тут падыходзяць часамі да самых яе́ берагоў, робячы іх высокімі (да 35 саж. над вадою, як, прыкл., каля м. Жодзішак), ды стромкімі. Ня гледзячы на гэта, берагі Вяльлі тут найбольш пяшчаныя, мяйсцамі толькі гліністыя; яны застаюцца стромкімі і мала абсыпаюцца толькі дзякуючы вільготнасці нашага клімату. Дно Вяльлі тут засе́яна каме́ньнямі ўсякае вялічыні, а навет парогамі, з якіх найбольшы — Прывітальня, і гэта ёсьць паважнаю перашкодаю судаходзтву, якое пасьля прачысткі ракі было-б магчымым прынамсі ад вусьця Сэрвача. Шырыня Вяльлі ў сярэднім цячэньні ўжо досіць значная; пад Вільняю, прыкл., яна даходзіць да 45 саж. Пад Вільняю берагі Вяльлі асабліва прыгожыя; тут яе́ няшырокую даліну акружаюць высокія, стромкія горы, часамі навет няпрыступныя скалы, часта пакрытыя густым ле́сам ды закіданыя рознае вялічыні каме́ньнем. Ніжэй Вільні Вяльля, выйшаўшы з Панарскіх цясьнінаў, значна шырэе (даходзіць да 130 саж.), а яе́ берагі ад Ке́рнава робяцца ніжэйшымі і пяшчанымі. Пад Коўнаю Вяльля ўліваецца ў Нёман.

Як бачым, цячэньне і, асабліва, берагі Вяльлі па свайму характару дзе́ляцца на тры часткі; адрозьніваюць: ве́рхнюю Вяльлю — балотную, сярэднюю — камяністую і ніжнюю пяшчаную.

Агульная даўжыня Вяльлі 430 вёрст. Лічыцца яна судаходнаю ад м. Вяле́йкі. Спробы наладзіць шырэйшы параходны рух па Вяльлі не ўдаліся з-за яе́ невялікае глыбіні і асабліва дзеля падводных каме́ньняў. У 1851 годзе была навет створана спэцыяльная параходная кампанія, але і яе́ стараньні не далі рэзультатаў; пе́ршы параход быў падняўся з Вільні да Вяле́йкі ў часе веснавога разводзьдзя, аднак, як вада спала, ён ужо ня мог навет вярнуцца назад у Вільню. Цяпе́р па Вяльлі

*) Ёсьць яшчэ адзін Сэрвач; плыве ён па Наваградчыне і ўпадае ў Нёман.

ходзяць параходы толькі па невялічкім кавалку ракі каля Вільні. Затое па Вяльлі сплаўляецца шмат лéсу плытамі.

З прытокаў Вяльлі варта адзначыць: С э р в а ч, які плывé ў шырокай лядавіковай даліне сярод вялікіх балотаў (Г а б с к і я б а л о т ы), што ляжаць на спадах Сьвянцянска-Докшыцкае морэны; многаводную, сплаўную р. І л ь л ю; р. Н а р а ч, што, прабіваючыся праз узгор'і, ў сваіх стромкіх берагох нясé да Вяльлі воды вялікага возера Н а р а ч ы; р. Жаймяну, праз якую злучаюцца з Вяльлёю шмат вазёраў, ляжачых у морэнай краіне каля Сьвянцянаў, ды р. В я л é й к у, пры ўпадзе якое ў Вяльлю ляжыць Вільня.

---

На паўднёвы захад ад вадазборніка Нёмна ляжыць **вадазборнік Бугу**, прытока Віслы; частка вярхоўяў гэтага вадазборніка засéленая беларусамі. Налéжыць да яго мéнш, як 1/10 частка ўсяго прастору Беларусі (каля 20 тыс. кв. вёрст). Значэньне яго для Беларусі, аднак, не малое. Тут ляжыць і Беласток, і Белавéжская пушча, і важнéйшыя нашыя каналы.

Буг пачынаецца ў украінскай Галічыне, а ўпадае ў Віслу ўжо ў Польшчы. Толькі нéйкаю часткаю свайго сярэдняга цячэньня (каля 170 в.) датыкаецца ён Беларускае зямлі, плывучы па яé заходняй мяжы. Яго даліна тут шырокая, але няглыбокая і часта, асабліва на паўдня ад Бéрасьця, моцна забалочаная. Выгінаючыся ў шырокія лукі, плыве ён па безгранічнай Падляскай раўніне паміж зялёных сенажацяў, праз цёмныя гаі ды лясы. На поўнач ад Бéрасьця яго берагі падыймаюцца і робяцца сушэйшымі. На высокім правым бéразе Бугу пабудавалася шмат вёсак, ды найдалéй на захад высунутыя нашыя старыя мéсты і мястэчкі, як, прыкл., Драгічын.

Правыя прытокі Бугу, ляжачыя ў Беларусі, Н а р в а, Н у р э ц і М у х а в é ц, ды прыток Нарві Б а б ё р маюць выгляд тыповых нізінных балотных рэкаў, асабліва Нарва і Бабёр. Сонна цякуць гэтыя рэкі па шырачэнным, але плоскім лядавіковым далінам, далёка навокала сябé забалочуючы сусéднія раўніны ды робячы гэтым сваé берагі няпрыступнымі.

**Нарва**, пачаўшыся і даўгі час плывучы сярод Б е л а в é ж с к а е п у ш ч ы, прыймае ў сябé шмат багатых на ваду лясных рэчак і такім спосабам робіцца значнаю ракою. Да Беларусі Нарва налéжыць толькі сваім вéрхнім цячэньнем; ніжняе-ж яé цячэньне знаходзіцца ўжо ў мéжах Польшчы. Па свайму характару гэтыя дзьвé часткі ракі саўсім адна да аднаé непадобныя. Беларуская Нарва (да вусьця Бабра) цячэ павольна па абшырнай балоцістай нізіне сярод бязьмéжных лазовых зарасьнікаў, падмоклых лясоў і сенажацяў. Дзéліцца яна тут на множства рукавоў, а па яé ўзьбярэжжах параскіданы невялічкія вазяркі, пазарастаўшыя чаротам, сітнікам, вадзяною мятаю і г. д. Каля вусьця Бабра гэтыя балоцістыя прасторы разыходзяцца ўжо на дзесяткі вёрст і твораць натуральную беларуска-польскую мяжу.

Увайшоўшы ў Польшчу, Нарва замыкаецца ў вузкой даліне з высокімі і сухімі берагамі, навет ня прыпамінаючымі таго балотнага раздольля, якое мае рака ў Беларусі*).

Уздоўж прытока Нарві **Бабра**, які сьцягуе ваду з Аўгустоўскае пушчы, ды вазёраў Сувальшчыны, ляжыць яшчэ шырэйшы пояс няпрыступных балотаў. Характар берагоў Нарві і Бабра робіць іх вельмі важнымі натуральнымі межамі Беларусі з Захаду; у значнай сваёй частцы яны й плывуць па этнографічнай мяжы Беларусі.

Правыя, беларускія прытокі Бугу і Нарві, зьбіраючы свае воды з балоцістых лясоў, балотаў і вазёраў, хаця і дзеляцца на рукавы, застаюцца, аднак, глыбокімі, многаводнымі і прыдатнымі да судаходзтва. Два з іх — Бабёр (з сваім прытокам Нетаю) і Мухавец уваходзяць у сыстэмы каналаў: першы — Аўгустоўскага, а другі — Каралеўскага.

---

Вадазборнік Дзьвіны, большая частка якога належыць да Беларусі, а меншая — да Латвіі, мае выгляд досіць



**Рыс. 29. Дзьвіна пад Віцебскам.**

даўгое, але няшырокае паласы; тлумачыцца гэта тым, што Дзьвіна ня мае гэткіх значных прытокаў, як Дняпро або Нёман.

**Дзьвіна** (рыс. 29) пачынаецца на паўночнай мяжы Беларусі. Невялікаю ручаінкаю выцякае яна з воз. Дзьвінца, ды праз некалькі вёрст ізноў упадае ў вялікае воз. Жадзеньне (Ахват); абодвы вазёры ляжаць на заходніх спадах Вокаўскага лесу і Валдайскіх гораў; з воз. Жадзеньня Дзьвіна выходзіць

---

*) Rehman. Niżowa Polska.

ужо досіць значнаю ракою (8 саж. шырыні) з высокімі прыгожымі берагамі.

Ў сваім ве́рхнім цячэньні Дзьвіна кіруецца на паўдня, пазьней-жа — на паўднёвы захад. Мае яна тут значны спад, хутка цячэ, скатуючыся з узвышша, і перакопуе наскрозь няглыбокія тут лядавіковыя пласты, ды навет уразаецца глыбе́й, у старыя геолёгічныя*) пласты, адкрываючы часамі значныя мінэральныя багацьці. Цячэ яна тут у глыбокай даліне; лясістыя берагі яе́ высокімі вапе́ннымі ды даламітавымі скаламі падыймаюцца над далінаю ракі. Каля вёскі Веражуня ёсьць скала 60 саж. вышынёю; там-жа на рацэ ёсьць парогі. Наагул дно Дзьвіны ў ве́рхнім цячэньні няроўнае, цьвярдое, закіданае каменьнямі, якія робяць на рацэ г. зв. **з а б о р ы**; а часта спатыкаюцца і досіць значныя парогі, створаныя старымі геолёгічнымі скаламі**).

Мінуўшы Веражунскія парогі, Дзьвіна робіцца сплаўнаю ракою. Не́йкі час яна плыве́ па даўгой ды шырокай лагчыне, не́калісь, відаць, занятай возерам ці, можа, радам вазёраў, ве́льмі шырака разьліваецца і робіць уражаньне вялікае ракі, а яе́ бе́рагі пакрытыя заліўнымі сенажацямі. Пасьля берагі яе́ звужаюцца.

Ад вусьця р. Мяжы на Дзьвіне́ пачынаецца судаходзтва. Ў гэтай судаходнай часьці верхняе Дзьвіны найбольшыя парогі: каля Вяліжу (**П у ш к а р с к і я**) ды вёрст 20 вышэй Віцебску (**Р у б а**, **К а п а ч ы** і ін.). Апошнія парогі цягнуцца па рацэ на якіх 15 вёрст. Стварыліся яны, відаць, дзякуючы не́йкаму выгінаньню ў гэтым мейсцы старых (дэвонскіх) пластоў, дзеля чаго рака, размыўшы лядавіковыя пласты, ўразаецца ў цьвярдыя долёміты. Ня могучы іх адразу перапілаваць, Дзьвіна ля в. **Р у б а** марудна падыймаецца на перагараджуючы яе́ каменны вал, а пераплыўшы праз яго, з вялікаю скорасьцяю спадае ўніз; творыцца тут быццам невялічкі вадапад. Толькі ў адным ме́йсцы сярод ракі вада здалела прарэзаць сабе́ глыбокі, але вузкі ход праз парог і тут ляціць яна з шалёнаю скорасьцяю.

Іншыя парогі больш перапілаваныя, і там вада цячэ спакайней. У даўнейшыя часы, калі вышэйапісаны вал быў яшчэ не перапілаваны, на мейсцы цяперашніх парогаў, відаць, быў цэлы рад большых і меншых вадападаў; гэта былі часы моладасьці ракі Дзьвіны. Цяпер яна, што раз то больш размываючы сваё дно, робіцца спакайнейшаю. Ўсё-ж парогі, аб якіх была мова, і цяпер яшчэ моцна перашкаджаюць судаходзтву.

Ве́рхняя Дзьвіна прыймае шмат невялікіх прытокаў, па якім у яе́ цякуць воды лясістага ды багатага вазёрамі паўночнага ўсходу Беларусі. Найбольш дадаюць ёй сілы і павагі яе́ ле́выя судаходныя прытокі **М я ж а** і **К а с п л я**. Пад Віцебскам ужо шырыня Дзьвіны каля 50 саж., а пад Полацкам — да 120

---

*) Дэвонскае ды Вуглявое эпохаў.
**) Дэвонскімі.

саж. Прамінуўшы Віцебск, Дзьвіна пакрысе́ спускаецца на Полацкую нізіну. Пад м. Бешанковічамі яна заламуецца ды цячэ адгэтуль ужо на паўночны захад. Крыху ніжэй гэтага залому ў Дзьвіну ўпадае р. Вула; гэтая рэчка плыве́ па дне́ лядавіковае даліны, якою сьцякала ў Бярэзіну Дняпроўскую ды ў Палескае возера вада з Полацкага лядавіковага возера.

Прамінуўшы парогі, што пад Віцебскам, Дзьвіна плыве́ шмат спакайне́й сярод берагоў, зложаных з лядавіковых пяскоў ды чырвонае гліны, часамі досіць высокіх і стромкіх. Каме́ньня ў рацэ мала, парогаў саўсім няма, за тое шмат мялізнаў. Мяйсцамі да яе́ берагоў падыходзяць морэнныя грады і робяць краявід весяле́йшым.

Ад вусьця р. Дзісе́нкі пачынаецца йзноў парожыстая частка Дзьвіны. Каля самага ме́ста Дзісны на рацэ ёсьць досіць трудны для плаваньня і небясьпе́чны парог; у гэтым ме́йсцы якраз Дзьвіна спускаецца ў найглыбе́йшую частку Полацкае нізіны, і яе́ дно завалена каме́ньнем, праз якое, разьбіваючыся, з шумам і ве́льмі хутка бяжыць вада. Дале́й Дзьвіна пэўны час плыве́ спакойна па пяшчаным дне́.

Прамінуўшы вусьце р. Дрысы, Дзьвіна выходзіць з Полацкае нізіны і перасякае Дзьвінскае ўзгор'е. Дно яе́ ізноў робіцца цьвярдым ды камяністым; часта яно бывае зложанае з старадаўніх вапе́нных і даламітавых пластоў, якія твораць на рацэ ў ме́йсцы яе́ пераломy праз узгор'е групу Краслаўскіх парогаў. На працягу бязмала 20 вёрст рака скрозь закідана каме́ньнем і на ёй творыцца цэлы рад забораў ды парогаў. Высокія прыгожыя берагі Дзьвіны (рыс. 12), зложаныя тут з глінаў ды вапе́нных пяшчанікаў, густа засе́яныя морэнным каме́ньнем, паабрасталі ле́сам, або пакрыты ўраджайнымі палямі. Ваколіцы Краслаўкі адзначаюцца вялікаю прыгожасьцяю.

Падыходзячы да Дзьвінску, Дзьвіна прыймае выгляд вялікае, шырокае і многаводнае ракі. Ад Дзьвінску ж і пачынаецца найбольш жывы рух па рацэ ўніз, а шмат судзінаў, што падыймаюцца ўве́рх па рацэ, ў Дзвінску перагружаюць тавар на чыгункі; ўсё гэта моцна павялічуе гандлёвае значэньне Дзьвінску.

Ніжняе цячэньне Дзьвіны знаходзіцца ўжо ў прасторах Латвіі. Пераваліўшыся праз парогі каля Ілукштаў, на самай мяжы Беларускага прастору, ды праз асабліва вялікія і небясьпечныя парогі каля Крэйцбургу і Якобштату (Паракорыш), Дзьвіна каля м. Рыгі некалькімі рукавамі ўпадае ў Рыжскую затоку.

Агульная даўжыня Дзьвіны — 920 вёрст; з гэтага ліку каля 600 вёрст цячэ Дзьвіна па Беларусі. Як ужо адзначана, судаходнаю яна робіцца ад вусьця р. Мяжы. Вясною судзіны сплаўляюцца па Дзьвіне́ навет ад вусьця р. Таропы, што ляжыць крыху ніжэй Веражунскіх парогаў. За тое ўле́тку большыя судзіны падыймаюцца ўве́рх па рацэ толькі да Дзьвінску, а там павінны перагружаць тавары на чыгунку.

Агульны характар Дзьвіны, асабліва-ж яе́ камяністаць і парожыстасьць, робіць шмат перашкод судаходзтву па ёй. Ня глёдзячы на гэта, ў мінуўшчыне Дзьвіна была адным з важнейшых вадзяных шляхоў, якія злучалі Эўропу з Усходам; у наш час таксама пры ўсёй конкурэнцыі чыгунак судаходзтва па Дзьвіне́ досіць разьвітае; а пры нале́жным выпраўле́ньні берагоў і дна ракі, пры яе урэгуляваньні, што пэўне будзе зроблена ў недалёкай будучыне, значэньне Дзьвіны, як вадзянога шляху, зьвязуючага ■ морам паўночную і ўсходнюю Беларусь, будзе вялізарнае. З непаравых судзінаў найбольш ходзяць па Дзьвіне́ невялікія лайбы. Даўней шмат хадзіла вялізарных стругоў; звычайна яны толькі сплаўляліся ўніз і ў Рызе прадаваліся на дровы. Параходы ходзяць ад Вяліжа ўніз аж да самага Дзьвінску. Бярэзінскім каналам Дзьвіна праз р. Вулу, Лепельскае возера ды р. Эсу злучаная з сыстэмаю р. Бярэзіны. Важне́йшыя прыстані на Дзьвіне: Вяліж, Сураж, Віцебск, Бешанковічы, Полацак і Дзьвінск, ды Ле́пель на Бярэзінскім канале, Парэчча на Касплі, а Бе́лы на р. Вобшы, прытоку Мяжы.

З прытокаў Дзьвіны адзначым: правыя — Таропа, Усьвят, Вобаль, Полата і Дрыса, левыя — Мяжа, Каспля, Вула і Дзісе́нка. У большасьці гэта невялікія рэчкі, выцякаючыя з вазёраў морэннага краю і выносячыя іхнія воды ў Дзьвіну. Віцебска-Не́вельская града ды іншыя ўзгор'і, падыходзячы досіць блізка да Дзьвіны, не дазваляюць ёй ме́ць вялікія прытокі. Найбольшым з прытокаў Дзьвіны ёсьць **р. Мяжа**, якая з упадаючай у яе́ **Вобшая** цякуць па глухой, лясістай краіне на захад ад Вокаўскага ле́су. З прычыны багацьця гэтае краіны лясамі сплаў ле́су па абедзьвём рэкам надта вялікі. **Каспля** выцякае з досіць значнага **Каспдінскага** возера, якое ляжыць сярод Смале́нскае морэны. Па ёй так сама, як і па р. Мяжы, з прычыны адсутнасьці ў паўночнай Смале́ншчыне чыгунак, ідзе́ць досіць жывы рух непаравых судзінаў. **Р. Дзісе́нка** цікавая тым, што кірунак яе́ бе́гу блізка што праціле́жны бе́гу самое Дзьвіны. Верхняе яе́ цячэньне знаходзіцца на Дзьвінскім узгор'і; перасякаючы яго Дзісе́нка дакапуецца мяйсцамі да старых геолёгічных пластоў, якія паказуюцца ў яе́ глыбокай даліне. У ніжнім сваім цячэньні, на прасторах Полацкае нізіны, Дзісе́нка мае выгляд балотнае ракі. **Р. Дрысса** таксама ў большай часьці плыве́ па Полацкай нізіне; аднак яе́ правы бе́раг высокі і сухі, а гэта паказуе, што гэтую раку трэба лічыць паўночнаю граніцаю даўне́йшага лядавіковага возера і цяперашняе Полацкае нізіны. Прыток Дрысы **Сволна** зьвязаны каналам ■ Асьве́йскім возерам, а вазёрнамі пратокамі — з воз. Се́бежскім; па ім сплаўляецца шмат ле́су.

З усіх прытокаў Дзьвіны судаходныя толькі Мяжа, Каспля і Вула.

На поўнач ад вадазборніку Дзьвіны праз нявысокі вададзе́л ляжаць падзе́леные між сабою Віцебска-Не́вельскай градою вадазборнікі рэк **Ловаці і Вялікае**. Беларусы жывуць па ве́рхніх частках гэтых вадазборнікаў. Пачынаюцца абе́дзьве ракі паміж узгоркаў і вазёраў нашага морэннага краю, а ўпадаюць: Ловаць праз воз. Ільмень і р. Волхаў, а рака Вялікая праз Пскоўскае возера і р. Нарову — у Фінскую затоку Балтыцкага мора. Ў старыя часы па пе́ршай ішоў вадзяны шлях у Ноўгарад, па другой у Пскоў, а дале́й і па аднэй і па другой — у мора; абодвы шляхі мусіць былі часткамі меўшага гэткае важнае тады значэньне вялікага вадзянога шляху «з Варагаў у Грэкі». Далей на паўдня гэты апошні шлях пераходзіў на прытокі Дзьвіны, на самую Дзьвіну і яшчэ далей — у сыстэму Дняпра, па якому варажскія чаўны даплывалі да Чорнага мора і Бізантыі. Цяпе́р аб гэтым шляху засталіся толькі гістарычныя ўспаміны. Аднак і нядаўна былі праекты, каб злучыць каналам р. Ловаць з прытокам Дзьвіны Вобальлю, што можна было-б лёгка зрабіць, бо абедзьве ракі ве́льмі блізка адна да аднае́ падыходзяць.

Урэшце на паўночным усходзе мяжа Беларусі на працягу не́калькіх дзесяткаў ве́рст ідзе́ правым бе́рагам ве́рхняе **Волгі**, найбольшае ракі Маскоўшчыны і ўсяе́ Эўропы. Беларусы, дайшоўшы да Волгі, разсяліліся па яе́ невялікім правым прытокам р. Моладому Туду і р. Жукопе, якія выцякаюць з Вокаўскага ле́су. Таксама з Вокаўскага ле́су, з Ельнінскага вузла выцякае яшчэ адна рака сыстэмы Волгі — Вугра, прыток Окі. Вадазборнік Волгі займае нязначную частку беларускага прастору; дзякуючы досіць высокаму вададзе́лу дый, відаць, і гістарычным прычынам каналы ня зьвязуюць яго з іншымі вадазборнікамі Беларусі.

## § 20. ГІСТАРЫЧНАЕ ЗНАЧЭНЬНЕ РЭКА.

У старадаўныя часы ўве́сь наш край быў пакрыты непраходнымі балоцістымі лясамі — пушчамі. Ве́льмі многа трэба было патраціць часу і працы, каб праз тую не́тру пралажыць хоць якую-такую дарожку. Дзеля гэтага людзі пераяжджалі з аднаго ме́йсца ў другое па рэках і наагул — вадою. Гэта была лёгкая і хуткая дарога. Ня йначай-жа як па рэках перавозілі і ўсе́ тавары. На берагох рэк будавалі ме́сты, а ў іх на рынках ішоў торг, ме́на тавараў. Можна сказаць, што ўсё жыцьцё нашых продкаў адбывалася каля рэк і на рэках, на гэтых вадзяных шляхох.

Вось-жа Дзьвіна была ве́льмі важным вадзяным шляхам: па ёй ве́зьлі тавары з усходу, з Азіі да культурных заходніх народаў — у Нямеччыну, Скандынавію, і наадварот. Дзеля гэтага першыя беларускія гарады — Полацк ды Віцебск пабудаваныя над Дзьвіною.

Вялікае значэньне мéў і Дняпро. Па ім ішла дарога з Бізантыі (Грэцыі) у Скандынавію. Бізантыйскія або кіеўскія г о с ь ц і (гандляры) падымаліся ўверх па Дняпру, ці па якім ■ яго прытокаў, аж пакуль можна было плысьці, а пасьля перацягавалі свае чаўны ў бліжэйшы прыток Дзьвіны або Нёмна і плылі далéй. Тое мéйсца, па якому цягнулі (валаклі) чаўны, называлася в о л а к а м. Між іншым успамінанае ўжо намі ўзвышшо — Вокаўскі лес называўся даўней Валокаўскім дзеля таго, што цераз яго якраз ішло шмат волакаў.

Цяпéрака няма даўнéйшых лясоў, высыхаюць і рэкі. Апроч таго людзі папракладалі новыя, нязнаныя ўпярод дарогі — чыгункі, па якіх éзьдзіць і выгодна і скора. Дык цяпéр рэкі ня маюць ужо ўсяго даўнéйшага значэньня.

Але ўсё-ж значэньне гэтае вялізарнае. Ня глéдзячы на тое, што нашымі вадзянымі дарогамі мала апекаваліся і яны, неаглéджаныя, пакрысé псаваліся, усё-ж па іх ішла ў чужыя краі большая частка важнейшага нашага вывознага тавару — лéсу і дрэва.

А шмат якія мяйсцовасьці, дзе няма чыгункі, і дагэтуль яшчэ зьвязаны з рэштаю сьвéту толькі вадою. Прыходзіць параход — прывозіць почту, тавары, новых людзей. У надрэчным мястэчку адразу ўсё ажывае, пачынае кратацца, мітусіцца. Хто прадае, хто купляе, хто зьбіраецца ў дарогу — на параход. Адыйшоў параход — і йзноў ціха ў мястэчку, усé занятыя сваёй штодзéннаю працаю.

Каб больш увагі ў нас зварочавалася на вадзяныя шляхі, шмат багацьця знайшлі-б мы ў нашым глухім і дзікім Палéсьсі.

## § 21. В А З Ё Р Ы.

У Беларусі трапляюцца вазёры нéкалькіх відаў. Найбольш розьняцца між сабою м о р э н н ы я і п а л é с к і я вазёры. Вазёры морэннага краю займаюць звычайна заглыблéньні лядавіковага паходжаньня. Лядавік, пасуваючыся па прасторы Беларусі, часта выкапаваў або, як кажуць, выараваў глыбокія і даўгія равы, якія бываюць выцягнутыя з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, значыць, у тым самым кірунку, у якім пасуваўся па Беларусі лядавік, што і зразумéла. У гэтыя равы сабралася вада і стварыліся даўгія вузкія вазёры, як прыкл. **воз. Бéлае** (на паўн.-ўсх. ад Горадні), **воз. Сьвірскае** (у Сьвянцянскім пав.). Выцягнутыя на дзесяткі вёрст і ня вéльмі шырокія (1—2 вер. шырыні), яны робяць ураженьне нéйкіх вялізарных рэк. Але большая частка в а з ё р а ў м о р э н н а г а краю ляжыць проста ў найніжэйшых мяйсцох, у лагчынах між морэннымі ўзгоркамі; ад разьмяшчэньня гэтых узгоркаў ды наагул ад выгляду павéрхні акружаючае возера мяйсцовасьці залéжыць форма возера, і зразумéла, што гэтая форма звычайна бывае дужа неправідловая, дзіўная, з зубцамі, затокамі, паўвастравамі і астравамі. Гэткія зрэзаныя вазёры звычайна спатыкаюцца ў мяйсцох з добра выяўленым морэнным

краявідам, там, дзе ляжаць канцавыя морэны. Там-жа, дзе морэнны краявід нявыразны, а таксама ў краінах падысподняе морэны форма вазёраў робіцца значна больш правідловаю, закругленаю, падобнаю на кола, эліптычнаю і г. д. У кожным разе вазёры морэннага краю, ле́жачы між лясістых узгор'яў, маючы сухія, а часамі высокія ды стромкія берагі, моцна адрозьніюцца ад п а л е́ с к і х  в а з ё р а ў (рыс. 18). Апошнія ляжаць на вялізарнай нізкой раўніне Пале́сься і зьяўляюцца рэшткамі вялікага лядавіковага возера, якое ў даўне́йшыя часы пакрывала бязмала ўсю паўднёвую Беларусь. Вакола кожнага з іх абручом у не́калькі вёрст шырыні ляжаць



**Рыс. 30. Пале́скае возера.**

непраходныя балоты, пазарастаўшыя буйнымі вадзянымі расьлінамі: чаротамі, сітнікамі і г. д.; гэтымі-ж травамі зарастае і значная больш ме́лкая частка возера ўздоўж берагоў, уве́сь час звужаючы прастор вады, вольны ад расьлінаў (рыс. 30). Дно пале́скіх вазёраў пакрытае цэлым ле́сам вадзяных расьлінаў, творачых т в а н ь. Форма гэтых вазёраў звычайна досіць правідловая, круглая ці эліптычная, бяз рэзкіх выступаў.

Трэба яшчэ ўспомніць аб асобным відзе невялічкіх вазёраў, якія ляжаць у далінах вялікіх нізінных рэк. Ствараюцца яны звычайна з рачных пратокаў і рукавоў, зане́сеных мулам і пяском ды аддзе́леных такім чынам ад ракі. Гэткія азяркі маюць звычайна форму в е́ т а х а. Уздоўж берагоў Прыпяці, Нарві і Дняпра ў яго пале́скай часьці гэткіх вазёраў ёсьць бяз ліку.

Трэба адзначыць, што шмат якія з вазёраў Беларусі злучаюць у сабé прымéты нéкалькіх тыпаў вазёраў і да ніводнага ў цэласьці іх аднéсьці нéльга.

---

Найвялікшым з беларускіх вазёраў ёсьць воз. **Нарач**, якое ляжыць у вадазборніку Вяльлі на поўнач ад яе і злучанае з Вяльлёю праз р. Нарач. Возера гэтае мае закругленую форму, і тыповым морэнным возерам лічыць яго нéльга. Займае яно 72,4 кв. вярсты прастору; яго даўжыня больш 12 вёрст, а шырыня даходзіць да 10 вёрст. Дзеля гэтага процілежнага бéрагу возера саўсім блізка ня відаць, асабліва пры пахмурным надвор'і. Калі-ж да гэтага вéцер узбурыць павéрхню вады і па возеры пачнуць хадзіць высокія хвалі, робіць яно ўражаньне вялікае ды дужа харошае марское затокі, акружанае вянком залёных бароў. Гэтае ўражаньне яшчэ пабольшуецца дзеля таго, што хвалі выкідаюць на бéраг шмат вадзяных расьлінаў, творачы ўзьбярэжны вал, які прыпамінае такія-ж валы на марскіх узьбярэжжах*).

З аднаго боку возера акружана нявысокімі ўзгор'ямі, з другога — вялікімі балотамі ды лясамі. Ўзгор'і перасечаны няглыбокімі ярамі, якія пазарасталі цёрнам ды дзікімі рожамі. З заходняга бéрагу ў возера спускаецца даўгая каменная грэбля, называная Скок. Цягнецца яна да невялікага каменчага востраву, што ляжыць сярод возера. Возера досіць глыбокае (да 20 саж.). Дно яго наагул цьвярдое, глiністае, вада вéльмі чыстая. Воз. Нарач вéльмі багатае на рыбу; у часе бураў вада выкідае на бéраг шмат рыбы; істнуе навет легенда аб тым, як у адзін неўраджайны год возéра, выкінуўшы на бéраг шмат рыбы, выратавала акалічнае насялéньне ад голаду.

У суседзтве з воз. Нарач ляжыць цэлая група досіць вялікіх вазёраў; з іх вызначаецца сваім хараством **воз. Баторын**. Акружанае высокімі ўзгор'ямі ды адвéчнымі барамі, з нязвычайна чыстаю вадою, яно вéльмі надаéцца на ўстройства тут нéйкага курорту з вазёрнымі купальнямі. На поўнач ад воз. Нарач ляжыць адзéленае ад яго высокаю камяністаю морэннаю градою **воз. Мядзёл**; яно налéжыць ужо да вадазборніку Дзьвіны, зрэзана паўвастравамі і мае выгляд тыповага морэннага возера. На захад ад Нарачы ляжыць ужо ўспомненае даўгое Сьвірскае воз., а каля яго круглае **Вішнеўскае воз.**

На поўнач ад гэтае групы вазёраў ляжаць вазёры чыста морэннага тыпу. У Браслаўскім павéце вéльмі шмат вазёраў. Некаторыя з іх досіць вялікія, як, прыкл., воз. **Дрысьвяты** (41 кв. вяр.), **Дрывяты і Снуды** (22 кв. вяр.). Воз. Дрысьвяты вéльмі глыбокае; мяйсцамі глыбіня яго даходзіць да 25 саж. Усé гэтыя вазёры багатыя на рыбу. Часамі ў іх знаходзяць шчупакоў па пуду вагі дый большых.

---

*) Rehman. Polska Niżowa.

Віцебшчына ўся засеяна большымі ды меншымі вазёрамі. Ў адным толькі Лепельскім павеце іх налічуюць некалькі сотняў. Большая частка іх мае тыповы морэнны выгляд.

З паўночных беларускіх вазёраў трэба адзначыць **воз. Лепельскае** — невялікае, але важнае з тае прычыны, што праз яго праходзіць Бярэзінскі канал, у сыстэме якога гэтае возера іграе далёка не апошнюю ролю; над гэтым возерам стаіць м. Лепель. Досіць значнае **Себежскае воз.** акружае сабою паўвостраў, на якім стаіць м. Себеж. У Себежскім-жа павеце, на мяжы з Невельскім ляжыць рыбнае воз. **Сьвібла** (14 кв. вёрст), слаўнае з сваіх вялізарных і тлустых ляшчоў; ў яго ўразаецца каменная града, як яе называюць Чортава Ґрэбля. Недалёка ад гэтага возера, ужо ў Полацкім пав., ёсьць досьць вялікае (24 кв. в.) і выцягнутае воз. **Няшчорда**. Яго паўночны бераг абкіданы прыгожымі ўзгоркамі, на якіх густа пабудаваліся вёскі. Возера рыбнае, водзяцца ў ім вялікія ляшчы. Рыбалоўства дае добры зарабатак акалічнаму насяленьню. На паўвостраве, што далёка ўразаецца ў возера, віднеюцца руіны старасьвецкага замку, якога пабудаваў калісь Іван Грозны на страх нашым дзядом. Недалёка ад руінаў ёсьць г. зв. княжая магіла. Легенда кажа, што нейкі князь напаў на замак, што ўпярод тут стаяў, узяў яго дый перабіў безміласэрна ўсіх людзей. За тое Бог пакараў яго, — паслаў мор, ад якога паўмірала ўся дружына князева. Сам князь закапаў свае скарбы ў гары ды хацеў уцякаць адгэтуль; але захварэў і таксама памёр.

Да найбольшых вазёраў морэннага краю належыць воз. **Асьвея** — у Дрысенскім павеце; цягнецца яно праз 12 вёрст і займае 49 кв. вёрст прастору. Возера гэтае глыбокае і бурнае. Пасярод яго ляжыць значны востраў, які называецца Д у. Сваёй моцна закругленай формаю гэтае возера адрозьнюецца ад тыповых вазёраў канцавое морэны. З акружаючых воз. Асьвею балотаў пачынаецца р. С і н я я , прыток р. Вялікае. Само возера каналам злучана з р. С в о л н а ю і Д р ы с а ю. Па канале сплаўляецца шмат лесу. Рыба ў возеры нясмачная і рыбалоўства на ім неразьвітае.

На паўднёвы ўсход ад Лепеля морэнны край заканчуецца групаю вялікіх вазёраў, з якіх найбольшае **Лукомскае** (каля 30 кв. вёр.); вазёры гэтыя ляжаць яшчэ ў вадазборніку Дзьвіны.

Цэнтральная Беларусь наагул вельмі бедная на вазёры. Паверхня яе пакрытая морэнамі старэйшага веку і з яе вазёры ўжо пасьпелі пасьцякаць у рэкі ды павысыхаць. Пазаставаліся цяпер толькі дзе-ня-дзе невялічкія азяркі, даючыя, ведама, толькі слабое ўяўленьне аб даўнейшым багацьці краіны вазёрнымі водамі. Да такіх вазёраў належаць вазёры Наваградчыны — Сьвітазь, Каўдычаўскае і Кроман, цікавыя і па сваёй прыродзе і па культурна-гістарычным успамінам.

**Сьвітазь** (рыс. 31), невялічкае дужа прыгожае вазярко, ляжыць сярод старых мяшаных лясоў у Наваградчыне, каля м. Валяўкі (на паўдня ад Наваградку). Берагі яго абкружаныя векавым лесам, зложаным з хвойкі, елкі, дубоў, бярозы, ліпы, грабу, ясені ды іншых дрэваў. Возера ня мае стоку ні ў адну раку. Заўважана, аднак, што яно пашыраецца ў паўночным і паўднёвым кірунках, падмываючы высокія берагі, а за тое яго ўсходні і заходні берагі адступаюць, пакідаючы па сабе на берагох возера, балота, заросшае бліжэй да вады лазьняком і чаротам, а далей — пераходзячае ў звычайную імшару, з багуном, якога тут называюць **ц а р з е л ь л е м**. На мейсцы даўнейшых берагоў возера застаюцца валы, створаныя з выкінутых на бераг вадзяных расьлінаў ды вазёрнага мулу.



**Рыс. 31. Воз. Сьвітазь у начы.**

Глыбіня Сьвітазі даходзіць да 6 сажанёў. З берагу возера зарасло шмат дзе чаротамі ды іншымі травамі; таксама мае Сьвітазь і багатую падводную расьліннасьць. Спатыкаюцца на Сьвітазі між іншым некаторыя рэдкія расьліны. З іх асабліва цікавая Лёбэлія (Lobelia Dorthmani — з сям'і Campanulaceae). Яе сінія кветкі надзвычайна прыхарошуюць паверхню вады ў Сьвітазі. Вада ў Сьвітазі вельмі чыстая і смачная, як у крыніцы, берагі і дно высланыя шмат дзе, быццам сумысьля, разнакалёрнымі каменьчыкамі. Робіць Сьвітазь, адным словам, чаруючае ўражаньне асабліва на людзей, якія з вялікіх местаў прыяжджаюць сюды, каб паглядзець на возера.

Сьвітазь праславіў на ўвесь сьвет сваімі творамі вялікі Міцкевіч, які ў Наваградчыне радзіўся і пражыў лепшыя часы свае моладасьці. Над Сьвітазяю, пэўне, пісаў ён не адзін з сваіх няўмірушчых твораў; некаторыя з іх безпасярэдна ёй пасьвячаны. Затым падарожныя, якіх шмат езьдзіць аглядаць цудоўную бацькаўшчыну Міцкевіча, ніколі ня мінаюць Сьвітазі; з гэтай-жа прычыны возера добра апісана ў навуковай літэратуры ды ў красным пісьменстве. А об'ектыўна кажучы, шмат ёсьць вазёраў на Беларусі, ня менш прыгожых за Сьвітазь, ня менш цікавых з навуковага боку; толькі няма каму зьвярнуць на іх належнае ўвагі.

На паўдня ад Сьвітазі ляжыць воз. **Каўдычаўскае**, гэтак сама зьвязанае з імям Міцкевіча, які радзіўся ў невялікім засьценку З а в о с ь с і, што ляжыць над гэтым возерам, ці, ляпей кажучы, над акружаючаю возера шырокім абручом балотнаю сенажацяю, што ня так даўно пэўне была дном возера. Праз Каўдычаўскае возера працякае р. Шчара; недалёка адгэтуль яна і пачынаецца. Возера наагул мае падобны да палескіх вазёраў характар. У ім таксама спатыкаецца шмат рэдкіх расьлінаў.

Варта яшчэ адзначыць воз. **Кроман**, якое ляжыць на правым беразе Нёмна, ў Налібоцкай пушчы. Акружанае з усіх бакоў нізкою роўнаю мяйсцовасьцяю даліны Нёмна, яно аднак вызначаецца сваёю глыбінёю (12 саж.). Такую глыбіню нізіннага возера можна вытлумачыць тым хіба, што ў часы лядавіковыя тут быў стварыўся нейкі вір, мажа дзякуючы лядавіковаму вадападу, і размыў глыбокую яму, у якой цяпер зьмяшчаецца возера.

Іншае цікавае возера, гэтак сама ляжыць на ўзьбярэжжы Палескае нізіны, на паўночны ўсход ад Гомеля. Гэта возера **Равучае**. Часамі чутно, што гэтае возера быццам равець; магчыма, што гэта зьвязана з нейкімі карставымі зьявішчамі і што возера злучана падземнымі ходамі з недалёка ляжачаю р. Іпуцяю. Так сама, мусіць, трэба тлумачыць і тое, што на дне возера ляжыць цэлы лес нейкіх затопленых дрэваў, а мяйсцовая лягенда кажа, што тут адбыўся ўжо ў часы гістарычныя правал мяйсцовасьці.

З паміж палескіх вазёраў важнейшыя: воз. Князь, якое ляжыць на поўнач ад Прыпяці паміж Случам і Птычам; паміж Ясельдаю і Шчараю ляжаць воз. Выганошчы і група Зьдзітаўскіх вазёраў, ды воз. Пагоскае. А найбольш вазёраў на Палесьсі (некалькі дзесяткоў) ляжыць уздоўж верхняе Прыпяці. Ужо каля самага Бугу ляжыць група **ладаўскіх вазёраў**, займаючы лагчыну, якою некаліс, мусіць, злучаліся воды лядавіковага возера з Бугам. Урэшце па ўсім Палесьсі параскідана нямала невялікіх напоўзарастаючых вазёраў, наагул кажучы, мала дасьледжаных.

Возера **Князь** ляжыць у самым глухім Палесьсі, значную частку году адрэзаным ад усяго сьвету вялізарнымі балотамі. Берагі возера крыху сушэйшыя, і на іх пабудавалася некалькі вёсак. Цягнецца возера праз якіх вёрст 15, мае круглаватую форму і займае прастору каля 45 кв. кілём. Ня зьвязанае яно

ні з якою ракою; толькі ўпадае ў яго невялікая рэчка Яма. Ў канцы прошлага веку возера было злучана каналам з Прыпяцяю, і тады шмат вады з яго сплыло, а ўперад возера займала ўдвая больш прастору. Воз. Князь вельмі рыбнае; ўсё акалічнае насяленьне жывець з рыбы. Засталося на возеры ад старадаўных часоў шмат паляў, на якіх даўней, мусіць, была нейкая будоўля. Легенда кажа, што сярод возера слуцкі князь (да якога ваколіцы возера належылі) пабудаваў замак, ды ў гэтым замку замкнуў свайго брата. А ў часе разводзьдзя вада затапіла гэты замак, дык утапіўся й той князёў брат; нібы-то дзеля гэтага і возера называюць Князем. Магчыма, што тут было адно з старэйшых дрыгвіцкіх пасяленьняў.

Воз. **Выганошчы** ляжыць на мяжы Пінскага і Слонімскага пав., некалькі вёрст на паўдня ад р. Шчары; праз яго-ж праходзіць Агінскі канал, злучаючы Шчару з Ясельдаю. Возера знаходзіцца ў вельмі дзікай мяйсцовасьці: з усіх бакоў на якіх 10—15 вёрст яно акружана непраходнымі, грузкімі балотамі, што парасьлі лазовым зарасьнікам, і да яго з сухаземля ў цёплую пару году немагчыма даступіцца. Толькі ў чаўне па канале можна дастацца ў возера і ляпей яго разглядзіць. Возера мае дзікі, гмуры выгляд. Займае яно каля 30 кв. вёрст прастору, але ў часе разводзьдзяў залівае суседнія лясы на шмат вёрст навокала. Воз. Выганошчы, ня глядзячы на сваю вялічыню, няглыбокае, але дно яго надта грузкое; даўгая жэрдка апускаецца ў яго і не дастае да цьвярдога дна. Мусіць, дзеля гэтага ў часе буры на возеры ўздымаюцца высокія ды моцныя хвалі, небясьпечныя для рыбацкіх чаўноў. Воз. Выганошчы зьвязана з сыстэмамі рэк толькі каналамі; ляжыць яно да таго-ж вышэй акалічных рэк, і яго вадою карыстаюцца для павышэньня роўня вады ў Агінскім канале. Возера багатае на рыбу, а таксама і на птаства; паляваньне і рыбалоўства даюць значны заработак рэдкаму тутэйшаму насяленьню.

У Палесьсі спатыкаюцца яшчэ вазёры навейшага паходжаньня — выжары. Ў балотах часта глыбокім пластом ляжыць торф. Улетку торф падсыхае, а ў часе пажараў у акалічных лясох — навет выгарае. Тады на мейсцы яго застаецца яма, ў якую пасьля набіраецца вады і творыцца выжара.

## § 22. БАЛОТЫ.

Мала якая старана мае гэтулькі балотаў, як нашая Бацькаўшчына. Восьмая частка Беларускае зямлі ляжыць пад балотамі; варта дзеля таго з імі бліжэй пазнаёміцца.

Балоты бываюць розныя. Галоўныя іх віды гэта — балоты сфагнавыя (імшары) і травяныя.

**Сфагнавыя балоты** называюцца гэтак затым, што парасьлі мохам сфагнумам (Sphagnum). Гэты мох мы ўсе добра ведаем: гэта белаваты мох, які кладуць у нас у сьцены

дзераўляных будынкаў. Трапляюцца сфагнавыя балоты досіць часта ўва ўсіх частках Беларусі, асабліва-ж на поўначы, і маюць вéльмі характэрны выгляд, па якому іх лёгка пазнаць. Парастаюць яны звычайна нізкою, карлаватаю, хаця ўжо і старою, на палову засыхаючаю хвойкаю. На цэлыя вёрсты і дзесяткі вёрст цягнуцца гэтыя прасторы, пакрытыя малéнькаю хвойкаю, знаёмыя з выгляду кожнаму беларусу. Гэта сфагнавае балота; называюць такое балота у нас часта імшараю, або мохам. Ляжаць гэтыя балоты найчасьцéй паміж лясоў; а як лясы высякаюць, дык пакрысé высыхае і сфагнавае балота.

Сфагнум мае вялікую здольнасьць прыцягаваць вільгаць і навет паглынае яé з павéтра. Затым тамака, дзе пасяліўся і разрастаецца сфагнум, пакрысé робіцца ўсё вільгатнéй і творыцца сфагнавае балота іншы раз навет на саўсім роўным мéйсцы, дзе-нéбудзь у глыбінé палéскіх бароў. Але творацца сфагнавыя балоты яшчэ і накшымі спосабамі — праз зарастаньне вазёраў; у гэтым выпадку, аднак, упéрад творыцца травяное балота, якое ўжо пасьля перарабляецца ў сфагнавае балота.

Травяныя балоты часта займаюць мéйсца заросшых вазёраў. А зарастаюць вазёры і з берагоў і з сярэдзіны. Вазёры, асабліва палéскія, бываюць акружаныя з берагоў паясом буйных балотных траваў — чароту, сітніку, прыгожых касачоў, аеру, асакі і г. д., якіх карані ўпéрад знаходзяцца пад вадою, пасьля-ж падыймаюцца пакрысé навéрх, звужаючы прастор возера і займаючы яго травяным балотам — д р ы г в о ю, якая ўгінаецца пад нагамі чалавéка. Пасярэдзіне возера расьцéць шмат падводных расьлінаў; кожную восень яны адміраюць і кладуцца на днé, творачы тое, што мы называем тваньню (ціна). Праз даўгія гады гэтае твані зьбіраецца ўсё больш і больш, возера з кожным годам мялчэець; урэшце і пасярод яго пачынаюць расьці такія расьліны, якія, ўкараняючыся ў днé возера, выносяць сваё лісьцё над павéрхню вады — тыя-ж самыя чароты, сітнікі і г. д. Гэтак у пэўным часе выявіцца, што ўся павéрхня даўнéйшага возера пакрыта лéсам высокіх балотных траваў; на мéйсцы возера мы ўжо маем **травяное балота**.

Творацца так сама травяныя балоты на ўзьбярэжжах рэк з нязначным спадам і цячэньнем; узьбярэжжы гэтыя заліваюцца вадою, падмочуюцца, у іх пачынае пераважаць балотная расьліннасьць і творыцца торф; яны, адным словам, забалочуюцца.

Калі возера досіць глыбокае, яно зарастае галоўным чынам з берагоў. Прастор вольнае ад расьлінаў вадзяное павéрхні ўвéсь час звужаецца, і ў канцы ад яé застаéцца толькі невялікае «в а к н о», ляжачае сярод вялізарных прастораў дрыгвы. Гэткіх вокнаў ёсьць шмат сярод палéскіх балотаў. Паляшукі лічаць іх бяздоннымі; гэта вéдама, няслушна, але ўсё-ж трэба адзначыць іхнюю значную глыбіню. Акружаючая іх дрыгва, якая ёсьць як-бы таўстым дзёрнам, сплéценым з каранёў, моху і торфу, ляжачым на павéрхні вады, часта

бывае гэткая моцная, што па ёй ідуць вялікія шляхі; у некаторых мяйсцох навет чыгунка праходзіць па дрыгве́.

Травяное балота, што стварылася ад зарастаньня возера, можа і надале́й заставацца травяным, а можа абярнуцца ў сфагнавае. У апошнім выпадку паміж чаротаў і асакі зьяўляецца сфагнум і што далей — усё больш разрастаецца ў балоце, выціскаючы балотныя травы. Дзякуючы сваёй жывучасьці, робіць ён гэта лёгка, і такім спосабам на ме́йсцы травянога балота маем сфагнавае. Але сфагнум ня ў кожным травяным балоце можа пасяліцца. Ня любіць ён праточнае вады, а таксама мутное і цьвёрдае вады (цьвёрдая вада тады, калі ў ёй распушчана вапна, або іншая якая соль). А любіць ён пасяляцца ў ціхіх прэсных вазёрах з чыстаю вадою і пяшчаным дном; гэткія вазёры, зарастаючы, звычайна абяртаюцца ў сфагнавыя балоты.

У вазёрах-жа і балотах з цьвёрдаю або праточнаю ці мутнаю вадою сфагнум не расьце́; няма яго і ў мяйсцох, якія заліваюцца ў вясну рачнымі водамі; тамака могуць істнаваць толькі травяныя балоты. Усьле́д за буйнымі балотнымі травамі зьяўляюцца драбнейшыя — асокі, кураськле́пы і г.д.; растуць тут і некаторыя імхі — прыкл., мох Hypnum. З часам і гэтыя балоты зарастаюць хмызьнякамі, але ўжо ня хвойкаю, а больш лазою, бярозаю ды але́шнікам (гл. рыс. 4).

З травяных балот лёгка можна скарыстаць для гаспадаркі, калі яны крыху падсохлі: выцерабіў лазу і ўжо ёсьць сенажаць. Трава там ня дужа добрая, б а л о т н і н а, але скаціна е́сьць. На сфагнавых-жа балотах трава па большай часьці не расьце́. Ляжаць іхнія вялізарныя прасторы ў нас цяпе́р без усялякае карысьці для людзе́й. А ўсё затым, што ня ўсюдых яшчэ навучыліся нашыя людзі карыстацца з вялікага скарбу, які схаваны ў гэтых балотах, з торфу. Торф робіцца з адміраючых частак расьлінаў, як траваў, так асабліва імхоў, якія пера-гніваюць на дне́ балотаў пры недахваце паве́тра. У сфагнавых балотах пласт торфу бывае звычайна большы, чым у травяных, з прычыны асаблівае жывучасьці і буйнога росту сфагнуму; апрача таго, спаліўшы сфагнавы торф, дастае́цца ме́нш попелу, значыць, гэты торф чысьце́йшы. У травяных-жа балотах, хаця і творыцца торф, але ён нячысты, з пяском і мулам, якога сюды прыносяць паводкі ды наагул дае́ць шмат больш попелу ўжо дзеля таго, што ў травяных балотах вада цьвярдая (гл. вышэй). Затым торф з травяных балотаў звычайна ня йдзе́ на апал, а затое выкарыстуецца для гнае́ньня зямлі, ды наагул для земляробства.

Сфагнавыя балоты найбольш пашыраны ў морэнных краінах Беларусі, а таксама і ў Пале́сьсі, дзе займаюць ніжэйшыя ме́йсцы ў паясе́ пале́скіх пушчаў. Бліжэй-жа да Прыпяці, там, куды даходзяць веснавыя разводзьдзі гэтае ракі і яе́ прытокаў, пануюць травяныя балоты.

Найвялікшы прастор (каля 1400 кв. вёрст) займаюць травяныя балоты **Зарэчча**, аб якіх успаміналася вышэй, на стр. 37. Значную частку году Зарэчча бывае залітае вадою, над якою падыймаюцца высокія чароты ды іншыя вадзяныя расьліны. Сярод ле́су траваў прабіваюцца пратокі, ўве́сь час зьмяняючыя сваё карыта. Ўздоўж берагоў гэтых пратокаў, сярод чаротаў і сітнікаў трапляюцца і невялікія нядаўна намытыя астраўкі, пазарастаўшыя мягкою, зялёнаю травою. Часта балоты гэтыя косяць; прыходзіцца рабіць гэта стоючы ў чоўне, альбо — да паяса ў вадзе́. Дзе-ня-дзе над балотам высяцца большыя пяшчаныя грудкі, паабрастаўшыя борам; на такіх-жа астравох будуюцца і пале́скія вёскі.

На ўсход ад Зарэчча травяныя балоты, якія ляжаць крыху вышэй і радзе́й, заліваюцца разводзьдзямі, маюць ужо іншы характар. Вялізарныя прасторы балотаў пакрытыя тут купінамі і густою травяною расьліннасьцяю, сярод якое мяйсцамі толькі паднімаюцца лазьнякі. На гэтых балотах ручаі праточнае вады спатыкаюцца рэдка, часта, затое, можна спаткаць вокны, акружаныя паясом чаротаў; гэта любімае ме́йсца балотнага птаства, якога тут зьбіраецца ве́льмі многа. Гэтага тыпу балоты называюцца ў нас г а л а м і. Чым далей на ўсход, тым яны займаюць усё большыя прасторы. Асабліва шырака расьцягнуліся яны між Гарынем і Вубарцяю, ды гэтак і называюцца **Вялікія Галы** (немцы называюць гэтыя балоты — Р а к і т н е н с к і м і). Падобны-ж выгляд маюць балоты вакола воз. Князь. Пад галамі ляжыць досіць глыбокі пласт торфу, які тут хутка нарастае.

На поўнач ад Зарэчча гэтаксама ляжаць вялікія травяныя балоты, пакрытыя звычайна масаю астравоў, паабрастаўшых цёмным хваёвым борам, які прыдае асаблівы характар усяму тутэйшаму краявіду. Найбольш гэтых астравоў на самым паўночным захадзе Пале́сься, ў вадазборніку Ясельды, каля м. Зьдзітава, дзе ляжыць балота **Малочкава**. Дале́й на ўсход ляжыць вялізарнае балота **Качайла**. Яно акружае воз. Выганошчы і праразаецца Агінскім каналам. Лічаць, што гэтае балота займае больш 1000 кв. вёрст прастору. Яшчэ дале́й на ўсход, паміж р. Цною і Случаю, ляжыць балота **Грычын**; цікаўнае яно тым, што цягнецца ўве́сь час без перарыву, непраходнае і адкрытае. Прастору яно займае каля 500 кв. вёрст. З берагоў балота косяць, трава тут расьце́ добрая; ніколі, аднак, не дакошаваліся да сярэдзіны балота.

Спаміж балотаў паўночнае Беларусі найвялікшае — **Верацейскае балота**, у Аршанскім паве́це, цягнецца на якіх вёрст 25 удаўжкі, балота **Лоньніца** ў Полацкім пав. паміж рэкамі Дрысаю і Полатаю, пасярод Полацкае нізіны; яно займае каля 75 кв. вёрст прастору. Па ім раскідана се́м невялічкіх вазёраў. У паўночнай Смале́ншчыне ляжаць значныя балоты **Жакаўскі Мох і Сьвіцкі Мох**. Пе́ршае ляжыць на мяжы Парэцкага і

Бельскага пав., а другое — ў Бельскім пав. Абодвы яны цягнуцца ўдаўжкі на вёрст 15.

У заходняй Беларусі значнейшыя балоты — ў Вялейскім павеце — **Габскія балоты** (ў вадазборніку р. Сэрвача), балота **Чысьці** — на ўсход ад Маладэчына і балота **Ўюнішча** ў Налібоцкай пушчы.

Балоты, якія дагэтуль у нас саўсім мала выкарыставаліся, пры налéжнай гаспадарцы могуць даваць вялікі прыбытак. Перад усім т о р ф ёсьць вельмі важным апаловым матар'ялам; важна яшчэ, што ён хутка расьцé. Лічаць навет, што торф даé большы гадовы прырост, чым найлéпшы лéс. У некаторых мяйсцох ў Эўропе ўжо гадуюць торф, запускаючы кавалкі зямлі пад балота; праз 25—30 гадоў тарфянік ужо гатовы і з яго можна карыстацца*). Ў паўднёвай Нямéччыне палавіну ўсяго апалу складае торф. Ідзéць торф яшчэ і ў



**Рыс. 32. Асушанае Палéсьсе.**

дэстыляцыю (сухую перагонку), прычым з яго атрымліваюцца розныя хімічныя прадукты, як парафін, крэозот і г. д.

Балоты лёгка можна выкарыстаць і для гаспадарскіх мэтаў. Шмат якія з балотаў ужо і цяпéр косяць. Асушыўшы-ж балота, можна зрабіць з яго ня толькі добрую сенажаць, але й добрае ворнае поле. Аднак пéршым варункам для таго, каб можна было карыстацца з балота, ёсьць яго асушэньне.

Ў апошняй чвéрці XIX вéку ў Палéсьсі вяліся шырокія работы па асушцы балот урадоваю экспэдыцыяю пад загадам ген. Жылінскага. Было тады пракапана каля 4500 вёрст каналаў, якімі падсушана каля 3-х міліёнаў дзесяцін. Асушка вялася

*) Rehman. Polska niżowa.

найбольш у скарбовых лясох. Вялікая карысьць ад яе́ хутка выявілася. На мейсцы непраходных балот — цяпер багатыя сенажаці, якія даюць вялікі даход скарбу (рыс. 32); мокрыя лясы, ў якіх даўне́й ве́льмі блага расло дрэва, цяпе́р паправіліся ды сталі шыбка расьці. Апроч таго, па каналах сплаўляецца дрэва з такіх ме́йсцаў, да якіх упе́рад ніяк не́льга было даступіцца. Вартасьць усяго асушанага прастору паднялася больш як у дзе́сяць разоў. Зрасходавана-ж было на ўсю асушку каля 4 міл. руб. Асушка 1 дзесяціны каштавала такім чынам 1,33 руб.

Апроч таго, экспэдыцыя зрабіла і другую вялікую работу: яна добра абсьле́давала і апісала Пале́сьсе, адкрываючы тым вочы грамадзянству на вялікія яго багацьці. Экспэдыцыя залажыла і не́калькі ве́льмі патрэбных навуковых устаноў, напр. — мэтэоролёгічныя станцыі ў Васілевічах, у Пінску, пробныя гаспадаркі на балотах і г. д.

У апошнія часы ў Ме́нску залажылася балотная пробная станцыя, якая робіць навуковыя дасьле́ды над балотамі і спосабамі іх выкарыставаньня.

# РАЗЬДЗЕЛ IV.

## Жывая прырода.

### § 23. ГРУНТЫ БЕЛАРУСІ.

Грунтам называецца ве́рхні пласт зямное кары, той, у якім пашыраецца карэньне расьлінаў, які жывіць гэтае карэньне сваёй вадою і мінэральнымі солямі. Усім добра ве́дама, што ад таго, які дзе ёсьць грунт, зале́жаць і ўраджаі і дабрабыт вясковага насяле́ньня. Ў Беларусі, экономічнае жыцьцё якой заснавана на гадоўлі расьлінаў, грунты йграюць асабліва важную ролю, а іхняя надзвычайная рознароднасьць на самых невялікіх прасторах кладзе́ свой рэзкі знак на беларускія краявіды; гэта ўсё прымушае нас зьвярнуць асаблівую ўвагу на беларускія грунты.

Мы ўжо ведаем, што першыя часы пасьля лядавіковага пэрыоду ўвесь прастор Беларусі быў пакрыты лядавіковым (морэнным) матар'ялам і што зьверху каменьне, прынесенае лядавіком, пакрысе́ разсыпалася, аж пакуль з яго не зрабілася ўперад ж а р с т в а, а пасьля г л і н а і п я с о к. Ведаем яшчэ, што на паўднёвым усходзе Беларусі ляжаў між іншым і лёсс, які асеў у відзе пылу, што прыне́сены быў ветрам з поўначы. Вось на гэтых глінах, пяскох ды лёссе і павырасталі грунты.

Грунты ствараюцца з г о р н ы х п а р о д а ў*) пры помачы

*) Гліна, пясок, усялякае каме́ньне ды іншыя матар'ялы, з якіх складаецца зямная кара, называюцца г о р н ы м і п а р о д а м і.

расьлін і мікроорганізмаў. На дзікой скалé пасяляюцца ўперад самыя неператворлівыя расьліны — лішайнікі, імхі ды інш. Пасьля зьяўляюцца ўсё больш і больш пераборлівыя, вышэйшыя расьліны. Ўсé яны, ўміраючы, перагніваюць на зямлі і ўгнойваюць яé для тых расьлінаў, што растуць пасьля іх. Вось-жа дзікая гліна, або жвір, угноены рэшткамі перагніўшых расьлінаў ці **п е р а г н о е м**, і робіцца грунтам. У грунце пашыраецца карэньне траў і збожжа, ворны грунт пераварачуе гаспадар сахою і бараною, гатуючы яго да сяўбы.

Характар і якасьць грунту залéжаць перад усім ад таго, з якое горнае пароды ён стварыўся: на цяжкім гляі — творыцца **г л я і с т ы** грунт, на пяску **п я ш ч а н ы**. Як бачым, навет назвы грунтоў часта паходзяць ад горнае пароды, з якое яны стварыліся. Апроч таго, характар грунту залéжыць ад клімату, ў якім грунт стварыўся, бо кожны клімат мае сваю расьліннасьць і пры помачы яé на аднэй і тэй самай горнай пародзе розныя кліматы ствараюць розныя грунты; ад клімату залéжыць і запас вільгаці ў грунце, дый наагул, ўвесь ход выветраваньня горныхародаў.

Мы ўжо казалі, што ў старадаўныя часы ўся Беларусь была пад лéсам, апрача паўднёва-ўсходняга краю, тамака ляжалі стэпы. Праўда, пасьля і там парос лéс, але ўсё-ж стэп пакінуў па сабе вéльмі значныя сьляды, дзеля чаго і паўднёва-ўсходні край завуць **л е с а с т э п а м**. Грунты лесастэпу моцна розьняцца ад грунтоў лясное Беларусі, і дзеля таго мы іх будзем разглядаць асобна.

**Грунты лясное Беларусі (Дзярновыя)** ня вéльмі багатыя перагноем. Хаця ў лéсе перагнівае досіць многа рэштак расьлінаў, але перагною шмат ня зьбіраецца. Гэта дзеля таго, што тут вельмі многа **в і л ь г а ц і**.

Дзякуючы вільгаці робяцца **п е р а г н о й н ы я к і с ь л і**. Гэтыя кісьлі апушчаюцца ў ісподнія пласты грунту, вымываючы з усяго грунту шмат частак яго, пажыўных для расьлінаў. Ад гэтага грунт робіцца бялéйшым, асабліва яго йсподні пласт; гэткі пабялеўшы, выпаласканы грунт завецца **п а д з о л і с т ы м**.

Бывае, што грунт бялеé да самага вéрху і падобны зьвéрху на попел. Тады яго завуць **п а д з о л а м**. Падзол, калі ён мокры, — сьлізкі, як высахне — цьвярдзее, і з яго пры расьціраньні робіцца пыл. Гэтым ён прыпамінае гляісты грунт. Але з яго ўсé пажыўныя для расьлінаў часткі выпаласканы. Дык падзолы — вельмі бедныя і благія грунты. Па ўраджайнасьці яны стаяць, можа, ніжэй навет за пяшчаныя грунты. Падзолы ляжаць у паўночнай Беларусі, іх там досіць многа. Найбольш іх на поўначы Парэцкага і Бéльскага пав., ў Вяліскім і Полацкім павéтах (рыс. 33).

Найбольш ураджайным грунтом лічыцца ў нас **г л я і с т ы г р у н т**. У ім, так сама, як і ўва ўсіх іншых грунтох, ёсьць шмат і пяску (да 40 %, рэшта 60 % — глей). Гэты пясок яму, вéдама, толькі памагае, бо іначай-бы ён, высахшы, быў цьвярды, як скала. І так ён да вырабу цяжкі, асабліва ў сушу.

Але ў. ім ёсьць шмат пажыўных для расьлінаў частак, і дзеля гэтага ён дае́ць добрыя ўраджаі, якія аплачуюць цяжкую працу. Гляістага грунту найбольш ёсьць у паве́тах Слуцкім, Наваградзкім, Ме́нскім, Не́вельскім і Гарадоцкім. Слуцкія і Наваградзкія грунты лічацца самымі ўраджайнымі на ўсю Беларусь.

Сугліністы грунт мае ў сабе больш пяску. Тут пяску роўна з гле́ем, або й больш чымся гле́ю. Праз гэта сугліністы грунт лягчэйшы за гляісты. Ён таксама лічыцца добра ўраджайным. Гляісты і сугліністы грунты завуць цяжкімі




**Рыс. 33. Грунты Беларусі.**

грунтамі і яшчэ завуць пшанічнымі грунтамі, дзеля таго што на іх добра ўдаецца пшаніца. З лясных дрэваў на гэтых грунтох растуць: елка, дуб, асіна, ляшчына і інш. Сугліністых грунтоў на Беларусі шмат. Найбольш іх у цэнтральнай Смале́ншчыне, паўночнай палавіне Магіле́ўшчыны, Віленшчыне і паўночна-заходняй Горадзеншчыне.

Супяшчаны грунт мае ў сабе́ яшчэ менш глею, а больш пяску. Гэты грунт дае́ ве́льмі добры ўраджай, калі яго акуратна гнаіць. Аднак ён па ўраджайнасьці лічыцца горшым за пе́ршыя два. Яго завуць жытнім грунтом.

Супяшчаных грунтоў у Беларусі яшчэ больш, як суглїністых. Іх ёсьць вельмі многа ўва ўсіх частках Беларусі, апрача Прыпяцкага і Дняпроўскага Палесься.

Пяшчаныя грунты маюць у сабе мала глею (ня больш за 5—7 %), рэшта пясок. Таксама мала ў іх бывае і перагною, і дзеля гэтага яны даюць ураджай толькі, калі іх добра гнаіць. Іначай ня толькі нічога не парасьце, але яшчэ да таго зямлю, непакрытую расьлінамі, вельмі лёгка разьдзьмухае вецер і зробіць з поля пескавую пустыню, выдму (рыс. 34). На гэтых грунтох добра ўдаецца толькі грэчка (дзеля чаго іх завуць грачанымі). З лясных дрэваў на пяску добра расьце хвоя. Пяшчаныя грунты найбольш парастаюць чыстымі хваёвымі барамі.



**Рыс. 34. Пяшчаная выдма.**

Пяшчаныя грунты параскіданы па ўсёй Беларусі, асабліва каля вялікіх рэкаў. Але найбольш іх у паўднёвай Беларусі. Тут яны, перамяжаючыся з балотамі, запаўняюць усё Палесьсе — Прыпяцкае, Бярэзінскае і Дняпроўскае, г. зн. вялізарныя прасторы на паўдня ад лініі Берасьце—Магілёў.

Грунты, што стварыліся з горных пародаў (маргеляў), у якіх ёсьць шмат вапны, наз. маргельнымі. Яны належаць да цяжкіх грунтоў і досіць ураджайныя. Ёсьць іх шмат у Наваградчыне.

Прырэчныя грунты, якія ляжаць у далінах рэк і заліваюцца веснавымі разводзьдзямі, ў нас звычайна бываюць занятыя сенажацямі (паплавы); расьце на іх трава вельмі

добра, дзякуючы багатаму мулу, які ў часе разводзьдзяў прыносяць сюды рэкі з акалічных палёў. Пад мéстамі на гэтых грунтох часта разводзяць гароды. Найбольш прырэчных грунтоў ёсьць у нас у Палесьсі ды ўздоўж больших рэк.

Пасьля асушэньня ды пры ўмелай гаспадарцы і балотныя грунты (тарфовыя) даюць добрыя ўраджаі траваў і збожжа.

**Грунты лесастэпу.** У лесастэпе сустракаецца шмат пяшчаных, супяшчаных і сугліністых грунтоў, зусім ня розьнячыхся ад толькі што апісаных. Але побач з імі ёсьць новыя грунты — гэта грунты, ляжачыя на лёссе.

Лёсс багацéйшы за морэнную гліну вапнаю і іншымі пажыўнымі матарялямі. Апроч таго, пад стэпам грунт ня гэтак выпаласкуецца, як у лясох. Дзеля гэтых прычын стаповыя грунты на лёссе, — чарназёмы, зьяўляюцца вéльмі багатымі і даюць найвялікшыя ўраджаі. У лесастэпе на даўнéйшых стаповых грунтох, чарназёмах, калісь парос лéс і гэныя чарназёмы пад ім балéй ці мéней выпаласкаліся і пашарэлі. Вось гэткія выпаласканыя грунты завуцца шэрымі суглінкамі. А калі грунты выпаласкаліся да таго, што аж ніжэйшы іхні пласт пабялеў, дык яны лічацца ўжо падзолістымі суглінкамі. Уся розьніца іх ад звычайных падзолістых суглінкаў тая, што яны ляжаць на лёссе.

Шэрыя суглінкі ляжаць у нашым лесастэпе астравамі. Найвялікшыя такія астравы ёсьць: 1) у Старадубскім павéце, дзе займаюць каля палавіны гэтага павéту, 2) на мяжы Клімавіцкага і Чэрыкаўскага паветаў, 3) у Мсьціслаўскім павéце, каля самага мéста.

Суглінкі на лёссе займаюць вялікшыя прасторы. Яны пакрываюць увéсь правы бéраг Дзясны і пашыраны ў паветах — Рослаўскім, Бранскім, Мглінскім, Трубчаўскім, Старадубскім, Ноўгарад-Сéверскім; крыху мéней іх ёсьць у павéтах Новазыбкаўскім, Суражскім і Гараднянскім і ўрэшце ёсьць тры іхніх больших астравы — ў Мазырскім павеце (каля мéста), ў Рачыцкім і ў Наваградзкім пав.

Хаця гэтыя грунты стварыліся пад лясамі, аднак цяпéр на іх лясоў блізка што няма. Іх, як і ўсé наагул багацéйшыя грунты, чалавéк расьцерабіў і загараў у пéршы чарод.

## § 24. РАСЬЛІННАСЬЦЬ БЕЛАРУСІ.

Расьлінная вопратка краёў, а разам з тым і характар краявіду зьмяняецца ў залéжнасці ад клімату і ад грунтоў. Кожны з кліматычных паясоў зямлі мае сваю расьліннасьць. Беларусь ляжыць галоўным чынам у паясé мяшаных лясоў, які займае большую частку Сярэдняе Эўропы, а ў Ўсходняй Эўропе клінам уразаецца паміж тайгою — чыстым шыльнікавым (хвойным) лесам, і стэпам, якія, такім чынам, абмéжуюць пояс мяшаных лясоў з поўначы і паўднёвага ўсходу.

Грунты, іхні склад і асабліва большая ці ме́ншая іх вільготнасьць таксама ўплываюць на характар расьліннасьці. Дзякуючы ім, найбольш, іншую расьліннасьць мае бор, іншую сенажаць, ці балота, ці поле, ці зрэшта пяшчаная выдма. У кожным з гэтых выпадкаў мы спатыкаем не́йкую асобную групу расьлінаў, ці як кажуць, расьліннае згуртаваньне. З тае прычыны, што характар грунтоў у нас вельмі хутка зьмяняецца на самых невялікіх адлегласьцях, у кожным блізка нашым краявідзе выступае па не́калькі расьлінных згуртаваньняў, якія ўвесь час чарадуюцца між сабою, што дадае́ нашым краявідам шмат разнавобразнасьці і хараства.



**Рыс. 35. Тайга зімою (у Віцебшчыне).**

Важне́йшымі расьліннымі згуртаваньнямі Беларусі ёсьць: лес, балота, сенажаць ды расьліннасьць вадзяная.

**Ле́с.** У стараве́чныя часы бязмала ўся Беларусь была пакрытая бязьмежнымі лясамі; як слабы ўспамін аб іх пазаставаліся нашыя цяперашнія пушчы. Паверхня зямлі ў Беларусі тады была падзе́лена паміж ле́сам і балотам*); узвышшы былі пакрытыя лесам, а нізіны — балотам. І толькі на паўднёвым усходзе, за Сожам, ляжалі бязьлесныя стэпы, ад якіх у прасторы лясоў заходзілі затокамі ды астравамі кавалкі таго-ж стэпу пад назовам палёў. Гэткія палі займалі звычайна прасторы, дзе ляжаў лёсс. У працягу вякоў, аднак, лясы адваявалі сабе́ й гэтыя невялікія кавалкі беларускага стэпу і даішлі да Дзясны; стэпы засталіся толькі за ме́жамі Беларусі. Цяпе́р значная частка лясоў павысякана, а з пасекаў зроблена поле. Усё-ж лясы і ў нашыя часы з'яўляюцца ў Беларусі, можа, найбольш характэрным дый найбольш важным з натуральных згуртаваньняў.

Хаця большая частка Беларусі ляжыць у паясе́ мяшаных лясоў, аднак у Беларусь заходзяць ды займаюць невялікія яе́

*) Гл. вышэй, на стр. 17, апісаньне Гэродота.

часткі і тайга і стэп (лесастэп). На поуначы, галоўным чынам у вярхоўях Дзьвіны, ды на Дзьвінскім узгор'і досіць вялікія прасторы займаюць лясы тыпу т а й г і (рыс. 35). У тайзе — скрозь шыльнікавыя лясы, ў якіх пераважае е́лка, часта на забалочаных грунтох; паміж лясоў ляжаць імшары. Лясоў тут ве́льмі шмат, за што адну з краінаў беларускае тайгі навет і называюць Б е́ л ь с к і м   П а л е́ с ь с е м.

Большую частку прастору Беларусі займаюць м я ш а н ы я л я с ы. Побач з імі растуць і чыстыя шыльнікавыя ды ліставыя лясы. На поўначы Беларусі шыльнікавыя лясы пераважаюць над ліставымі; чым дале́й на паўдня, тым % ліставога ле́су робіцца большым. Узяўшы для прыкладу 4 паве́ты, што ляжаць ме́нш-больш на адным мэрыдыяне, мы пабачым: у Барысаўскім паве́це — 15 % ліставых лясоў, у Ігуменскім і Бабруйскім па 20 %, а ў Рачыцкім 30 %.



**Рыс. 36. Мяшаны ле́с у Наваградчыне.**

Аднак і на поўначы Беларусі ёсьць цэлыя краіны, дзе ліставыя лясы маюць пераважаючае значэньне. Гэтак, Вокаўскі лес — у значнай частцы пакрыты бярозавымі ды асінавымі лясамі з невялікаю домешкаю е́лкі. Старыя бярозавыя ды асінавыя лясы з домешкаю дубу і е́лкі пакрываюць і ўзгор'е каля Не́веля. Тамака трапляюцца таксама і чыстыя дубнякі ды наагул чыстыя ліставыя лясы.

У мяшаных лясох большае часьці Беларусі найчасьцей спатыкаюцца гэткія дрэвы: е́ л к а, б я р о з а ды а с і н а, а таксама б е́ л а я в о л ь х а; радзей спатыкаецца х в о й к а, а яшчэ радзей — д у б, к л ё н і л і п а. У цені гэтых дрэваў густа растуць хмызьнякі, асабліва л я ш ч ы н а (арэшнік), м а л і н а, л а з а, к р у ш ы н а (Rhamnus frangula), б р у ж м е́ н ь

(Evonymus europaeus) ды інш., ствараючы часамі непраходныя гушчары. Чым далей на паўднёвы захад, тым домешка ліставых дрэваў робіцца большаю і больш рознароднаю (рыс. 36). Да ўспомненых дрэваў далучаюцца новыя, якія ня зносяць клімату паўночна-ўсходняе Беларусі, — перад усім граб (Caprinus betulus), а таксама — вяз (Ulmus effusa), ясень (Fraxinus excelsior), ясакар (Populus nigra), топаль бéлы (Populus alba), ціс (Taxus baccata), явар (Acer pseudoplatanus). Затое éлка, гэтае найважнейшае дрэва поўначы, чым далé й на паўдня, тым усё мéншае значэньне мае ў мяшаных лясох, спатыкаецца астравамі і ўрэшце ў паўднёвым Палéсьсі саўсім счазае, дайшоўшы паўднёвае мяжы свайго пашырэньня.

Мяшаныя лясы паўднёва-заходняе Беларусі ўжо маюць



**Рыс. 37. Хваёвы бор.**

шмат супольнага з лясамі сумежнае — заходне-эўропэйскае расьліннае краіны, ў якую ўваходзіць, прыкл., Польшча. Тамака, аднак, у мяшаных лясох вéльмі віднае мéйсца займае бук (Fagus silvatica). Дрэва гэтае даходзіць да самае мяжы Беларусі, у Беларусі-ж не расьцé. Наагул у мяшаных лясох Заходняе Эўропы шыльнікавыя дрэвы займаюць малазначнае мéйсца, што ў нас здараецца рэдка.

У лесастэпе лясоў засталося мала — і то найбольш у далінах рэк, ды на стромкіх спадах, у ярох і г. д. Рэдка яны выходзяць з далін і лагчынаў і сярод палёў зьяўляюцца ліставыя лясы, найбольш дубровы. У ярох ды на стромкіх спадах расьліннасьць таксама складаецца найбольш з дубу, бярозы, асіны ды іншых дрэваў і хмызьнякоў звычайных у паўднёвай Беларусі.

У старадаўнія часы, пакуль уплывы чалавéка на характар лясоў былі нязначнымі, апісаныя паясы расьліннае вопраткі

Беларусі выдзяляліся, выразна, адбіваючы ў сабé характар клімату краінаў. Чалавéк-жа, каб найлéпш выкарыстаць грунты, расьцярэбліваў лясы на лéпшых грунтох, а пакідаў на горшых; з гэтае прычыны ў нашыя часы характар ляснога пакрыцця краіны можа найбольш залéжыць ад яé грунтоў.

Усім вéдама, што на пяскох саўсім добра расьцé хвоя і што з усіх дрэваў толькі яна зносіць самы бéдны пяшчаны грунт, ды навет любіць яго: вільгаць, якая ў ім знаходзіцца, ня мае ў сабé лішне шмат расчыненых мінэральных матар'ялаў, і гэта падабаецца хвойцы; з другога боку, яна вéльмі глыбака запускае сваё карэньне і дастаé сабé ваду з самых глыбокіх пластоў зямлі. Мы бачым, што хвоя, як ня трэба лéпей, дапасаваная да пяшчаных грунтоў. У нас на гэтых грунтох яна творыць чыстыя хваёвыя бары (рыс. 37), ў якіх апрача хвойкі іншых дрэваў ды навет і хмызьнякоў саўсім блізка не спатыкаецца. Высака падыймаюцца роўныя, гонкія, бранзовыя хвойкі, быццам колюмны, выцягуючы да сонца сваё гальлё; а пад імі на вялізарных прасторах звычайна растуць толькі ягадныя поўхмызьнякі — чарніцы, брусьніцы ды апроч таго — вéрас, папарацьі г. д. Часта расьцéць тут і хмызьняк ялавéц (Juniperus communis). На самых бéдных пяскох грунт пакрыты толькі шыльнікам і пад высокімі хвойкамі ніякіх расьлінаў не расьцé. Там, дзе пяшчаны грунт больш вільготны, да хвойкі дамéшуецца гэтак сама непераборлівая на грунты — бяроза. На больш ураджайных пяскох і супяскох да хвойкі дамéшуецца ўжо шмат іншых дрэваў, перад усім éлка, а паверхня зямлі пакрытая багатаю травяною і хмызьняковаю расьліннасьцяю: гэта ўжо мяшаны бор.

Хваёвыя бары займаюць пяшчаныя грунты па ўсёй Беларусі — і на поўначы сярод вазёраў ды ўзгоркаў морэннага краю, і на захадзе ды паўдні — ў Палесьсі, і ўрэшце — у шырокіх рачных далінах лесастэпу. Дзеля таго-ж, што пяскоў у Беларусі ёсьць шмат, і як раз яны пакідаюцца чалавéкам бяз ужытку дзеля сваé беднасьці,— бароў у Беларусі ўва ўсіх краінах ёсьць вéльмі шмат. Асабліва шмат іх у Заходняй Беларусі ды Палéсьсі, дзе яны зьяўляюцца пераважаючым расьлінным згуртаваньнем, чарадуючыся ў Заходняй Беларусі і лесастэпе з загаспадаранымі палямі і сенажацямі, а ў Палесьсі — з дзікім балотам ды балотнымі сенажацямі. Трэба адзначыць у канцы, што расьліннасьць старадаўніх бароў была наагул багацéйшая; чалавéк і хатняя жывёла шмат дапамаглі зьбяднéньню баравое расьліннасьці. Ў глухіх, маладаступных палéскіх закутках, асабліва-ж — на астравох, раскіданых між балотам, і цяпéр на досіць бéдных навет пяскох у бары растуць і ліпы, і кляны, і шмат хмызьнякоў.

На цяжэйшых грунтох расьцé ў нас найбольш éлка, а таксама — дуб, асіна, граб, ды наагул іх пакрываюць ужо апісаныя мяшаныя лясы. Грунты мокрыя маюць сваю асобную

лясную расьліннасьць, звычайна вéльмі багатую (рыс. 38). Каля ручаёў і рэк любяць расьці вольхі, вéрбы ды лаза. Асабліва цікавую расьліннасьць маюць а л é ш н і к і.

Расьцéць чорная вольха на мокрым пяшчаным грунце і навет у ня вéльмі глыбокай вадзé; у апошнім выпадку яé карэньне моцна разрастаецца на павéрхні вады і каля кожнае вольхі твораца малéнькія, але высокія астраўкі. Для расьлінаў тут шмат раскошы, шмат сьвятла, якое не зацямняюць рэдкія алéшыны, вады ўволю, бясьпéчнасьць ад жывёлаў і чалавéка, якім трудна бывае сюды далéзьці, бо паміж вольхамі грунт надта грузкі; ўсё гэта спрыяе разьвіцьцю багатае і буйное расьліннасьці. Тут густа растуць парэчкі, маліны, лаза, па пнёх



**Рыс. 38. Расьліннасьць у даліне Прыпяці.**

дрэваў паўзé дзікі хмéль, а ў вадзé каля вальховага карэньня — поўна незабудак. Аб алéшніках Палéсься польскі географ Рэман піша вось што: «Від высокіх траваў і шыракалістнага зéльля, што буйна расьцé сярод хаотычнае блутаніны карэньня, на палавіну пакрытага вадою, ды высокіх пнёў дрэваў, пакрытых празрыстым дахам надзвычайнае зялёнасьці, робіць такое ўражаньне, якое можна прыраўнаваць толькі да ўражаньня ад згуртаваньня мангляў і бананаў». Вéдама, на паўдні расьліннасьць алéшнікаў багацéйшая, на поўначы — крыху беднéйшая.

**Прастор лясоў.** Чалавéк у беларускім прасторы з самага пачатку свайго тут істнаваньня вёў заядлую барацьбу з лéсам,

які адгароджаваў яго ад сьвету, зарастаў узаранае поле, акружаў старасьвецкага чалавека і яго гаспадарку масаю ворагаў — дзікіх зьвяроў. Найважней, што лес быў перашкодаю для вольнага пашырэньня і разьвіцьця даўнейшае гаспадаркі. І чалавек палажыў канец яго панаваньню. Ён павысякаў лясы, вырабіў п а с е к і на поле, парасьцярэбліваў балоты і зрабіў сенажаці. І цяперака, ў нашыя часы, ужо і палавіны даўнейшых лясоў не засталося, а мяйсцамі дык і саўсім на цэлыя дзесяткі вёрст няма лесу (як, прыкл., у Наваградчыне). Застаўся фактычна лес толькі на такіх грунтох, якія ня прыгодныя да палявое гаспадаркі. Цяпер лясы займаюць усяго толькі каля трэцяе часьці ўсяго прастору Беларусі (каля 10 міл. дзесяцін). Найбольш ёсьць лясоў — у Бярэзінскім, Прыпяцкім і Дняпроўскім Палесьсі, на Вокаўскім лесе і ў вярхоўях Дзьвіны ды Дняпра. Ўва ўсіх гэтых краінах лясы займаюць больш за 40 % усяго іх прастору. Ў Заходняй Беларусі і ў лесастэпе лясоў мала — толькі на пяшчаных грунтох. Таксама ня шмат засталося лясоў і каля вялікіх местаў — прыкл., Віцебску, Смаленску, Гомеля і інш. Для патрэб гэных местаў навокала лясы ўжо ў апошнія часы моцна павысяканы.

**Значэньне лесу.** Ня гледзячы на гэта, лясы ўсё-ж ёсьць галоўным багацьцем Беларусі. Хоць і ня лішне шмат іх у нас засталося, але ўсё-ж шмат больш, чым у нашых суседзяў. Дзеля гэтага Беларусь свой лес вывозіць ува ўсе бакі — і ў Нямеччыну, і ў Украіну, і ў іншыя эўропэйскія краі. Да таго-ж, мусіць, дзякуючы нашаму вільготнаму і мягкому клімату лес у нас вельмі хутка і моцна расьце, шмат ляпей, чым у нашых суседзяў. У Расеі, агулам бяручы, што год прырастала дрывяное масы на дзесяціну 5,5 куб. мэтраў, у Польшчы, ды наагул на Захадзе — толькі каля 4 кб. мэтр., а ў Беларусі 6,5 кб. мэтр. Пры гэткім прыросьце ды пры нашых 10 міліёнах дзесяцінаў лесу даход ад лясное гаспадаркі бадай ці ня мог-бы зраўнаважыць увесь гадавы выдатак у дзяржаўным бюджэце Беларусі.

На жаль, лясная гаспадарка, пры якой толькі й магчыма атрымліваць сталы даход з лесу, стаіць у нас нявысока.

Апроч гэтага лясы маюць яшчэ й іншыя значэньні. Праз увесь час гісторыі лясы баранілі наш народ ад чужаземных нападаў, дый цяпер, лежачы на беларускіх паграніччах, яны саўсім натуральна абараняюць нашыя межы.

Таксама трэба адзначыць вялікае кліматычнае значэньне лясоў. Яны задзержуюць у сабе вільгаць, дапамагаюць кондэнсацыі вадзяное пары, павялічуюць лік ападкаў і не дапускаюць да нас сухменяў. Яны раўнамерна жывяць рэкі крынічнаю вадою і робяць іх многаводнымі. Лясы-ж бароняць пяшчаныя грунты ад раздзьмуханьня. Часта бывае гэтак, што высякуць стары, магутны хваёвы бор і на мейсцы яго робіцца выдма (рыс. 34). У лясох, у канцы, водзіцца цэнная зьвярына,

паляваньне на якую ў больш некранутых лясох дае пражыўленьне і даход насяленьню.

Ўсе гэтыя прычыны прымушалі дзяржаўныя ўлады зьвярнуць увагу на абарону лясоў. З даўных часоў было забаронена высякаць пэўныя лясы — галоўным чынам з мэтаю, каб мець дзе паляваць розным важным асобам, і гэткім чынам паўсталі п у ш ч ы.

**Пушчы** — гэта, ўласьціва кажучы, значныя прасторы някранутага лесу. Цяпер у нас называюць пушчамі і наагул вялікія лясныя прасторы.



**Рыс. 39. Глухі закутак у Белавежскай пушчы.**

Найбольш вядомая ня толькі ў нас, але і на ўвесь сьвет пушча — гэта Б е л а в е ж с к а я п у ш ч а (рыс. 39). Займае яна больш за 100 тыс. дзесяцін зямлі ў Пружанскім, найбольш, павеце і цягнецца наагул вёрст на 50. Даўней яе прастор быў разы ў два большы, ды пэўныя яе часткі дасталіся ў рукі прыватных людзей і тыя іх параспродавалі ды парасьцярэблівалі. Як і іншыя кавалкі первабытнага лесу, Белавежская пушча складзена з шмат якіх пародаў дрэў. Найбольш у гэтай мешаніне ўсё-ж ёсьць хвойкі, елкі і дубу, бо зямля тут лёгкая, хаця й ня дужа бедная. Ёсьць у пушчы, аднак, і ўсе іншыя дрэвы, спатыканыя ў Беларусі, ды навет такія рэдкія, як м о д р ы н а (лістаўніца), ц і с ды інш.

Белаве́жская пушча ёсьць найвялікшым прасторам некранутага старасьве́цкага ле́су ўва ўсёй Эўропе і дзеля гэтага прыцягавала да сябе́ ўвагу шмат якіх вучоных і пісьме́ньнікаў. І запраўды тут ёсьць на што паглядзе́ць. «Перад падарожным, піша ўкраінскі географ Рудныцкый, ўве́сь час адкрываюцца вобразы старадаўняга ле́су ўва ўсім яго дзіўным харастве́. Высокімі, на не́калькі сажняў зваламі пакрываюць зямлю спарахне́лыя гніючыя пні старых дрэваў, якіх павыварачавала бура. Іхняе карэньне тарчыць уве́рх, а пад вывярнутым дрэвам — глыбокі дол, наліты вадою, якая зарастае балотнымі травамі. Над гэтымі балотнымі ламамі ўздымаюцца стромкімі высокімі пнямі векавыя хвойкі ды е́лкі, дубы, ліпы і асіны. Усе́ яны пнуцца ўве́рх, да сонца, бо ўнізе ве́чная це́мра, і іхняе гальлё пачынаецца толькі высака над зямлёю. Навет там, дзе вывяртняў няма, ўве́сь грунт пакрыты сухім ле́ташнім лісьцём, шыльнікам і парахном, якое ў начы сьве́ціцца тае́мным сіняватым сьвятлом. Усюдых пануе мёртвая ціша; хіба ў гальлі зашуміць паважным шумам ве́цер». Дрэвы ў пушчы і сапраўды растуць нязвычайна проста. Навет ліпы, што гэтак шырака і паважна разрастаюцца ў нашых садох, ды звычайна выкручаныя дубы ў пушчы выцягуюцца ў гонкія высокія дрэвы.

Белаве́жская пушча да апошніх часоў досіць добра перахавалася. Не́льга таго сказаць аб іншых нашых пушчах. Звычайна — гэта вялізарныя лясныя прасторы, але праўдзівага старога ле́су там ужо мала. Большая-ж частка пушчы гэтак зрэджана і прачышчана, што прыпамінае сабою барджэй пасеку.

Пасьля Белаве́жскае — найбольшай па прастору ёсьць Н а л і б о ц к а я п у ш ч а, якая раскінулася на правым беразе ве́рхняга Нёмна ў вадазборніку Бярэзані. Ў гэтай пушчы мяйсцамі пазаставаліся кавалкі ве́льмі старога мяшанага ле́су, акружаныя балотамі, дзеля чаго да іх трудна даступіцца. Найбольш аднак у пушчы хваёвых бароў. Цягнецца яна ў шыркі вёрст на 40.

Г о р а д з е н с к а я і А ў г у с т о ў с к а я пушчы ляжаць на поўнач ад Горадні: пе́ршая па правым, другая на ле́вым бе́разе Нёмна. Каля Вільні, на паўдня ад яе, ляжыць Р у д н і ц к а я п у ш ч а, ў якой калісь ме́лі звычай паляваць вялікія князі літоўскія. Пры вусьці Шчары ляжыць Л і п і ч а н с к а я п у ш ч а. Вялізарны лясны прастор на ўсход ад Бярэзіны, што цягнецца аж пад Магілеў, — называюць Л ю б а ш а н с к а ю п у ш ч а ю. На ўсходзе Беларусі — ёсьць значная А к у л і ц к а я п у ш ч а ў заходняй часьці Бранскага павету; каля яе, на ўсход ад Дзясны, ляжаць вялізарныя Б р а н с к і я л я с ы. У канцы нязьмераныя лясныя прасторы твораць Б е́ л ь с к а е П а л е́ с ь с е дый палескія краіны над Прыпяцяю і Бярэзінаю.

**Вадзяная расьліннасьць** у нас зале́жыць найбольш ад глыбіні вады ды скорасьці яе́ цячэньня. Найбольш багатую расьліннасьць маюць нашыя стаячыя воды, вазёры. Ў вазёрах, якіх глыбіня

памалу павялічуецца ад берагоў да сярэдзіны, можна заўважыць нékалькі концэнтрычных паясоў расьліннасьці. Пры самым бéразе ды на саўсім мéлкіх мяйсцох, цéсна пасплятаўшыся карэньнямі ў адну вялізную дзярніну, расьцé аер (Acorus), сéчаным лісьцем якога ў вёсках пасыпаюць падлогі. Побач з ім спатыкаецца сітнік (Juncus), касачы (Iris), ежагалоўка (Sparangium), балотны хвошч, балотная папарась, вадзяная мята, высокія віды асакі ды інш. Самыя-ж берагі рэк і вазёраў у нас вéльмі часта прыхарошуюць вольхі, якія прысадамі цягнуцца ўздоўж берагоў, асабліва мéншых рэчак. Усé гэтыя расьліны карэньнямі дастаюць вады, а іхнія сьцёблы паднятыя ў павéтра.



**Рыс. 40. Чароты ў Зарэччы.**

Далéй у глыбіню вазёраў і рэк ідуць чароты (Phragmites), рагозы-пухоўкі (Typha), сітнікі (Juncus, Scirpus) дый інш. расьліны з высокімі цыліндрычнымі сьцёбламі, частка якіх схавана пад вадою (рыс. 40). Спатыкаюцца гэтыя расьліны і ля берагоў, і на мялчэйшых мяйсцох пасярэдзіне вазёр і рэк, займаючы часта значныя прасторы, асабліва ў мéлкіх палéскіх вазёрах. Побач з імі на крыху ўжо глыбéйшых мяйсцох павéрхня вады пакрыта шырокімі плаваючымі лісьцямі ды прыгожымі квéткамі вадзяных лялéяў (Nymphaea alba), гарлачыкаў (Nuphar), гэтак у нас усюдых звычайных і кожнаму вядомых; тут-жа мы спаткаем разака (Stratiotis), стрэлалістніка (Sagittaria) ды інш. На яшчэ большай

глыбіні жывуць такія расьліны, як вадніца (рдест — Potamogeton), што падыймаюць на павéрхню вады толькі свае́ кве́ткі, а карэньнем усё-ж прымацаваныя да глыбокага дна. Тут часамі можна ў нас спаткаць, асабліва ў глухіх закутках Палéсься, шмат рэдкіх расьлінаў, як, прыкл., Aldrovanda vesiculosa, Salvinia natans, успамінаная вышэй Lobelia Dorthmani, якая прыхарошуе воды Сьвітазі, ды цікавая расьліна вадзяныя арэхі (Trapa natans); яé плады зьбіраюць і ядуць.

Паміж усіх гэтых вышэйшых расьлінаў расьцé бязьмéры шмат ніцявідных водарасьляў, якія, сплятаючыся між сабою ды з некаторымі іншымі расьлінамі, твораць г. зв. твань; сьцёблы і карані вадзяных расьлінаў пакрытыя часта діатомавымі водарасьлямі, і праз гэта выглядаюць саўсім бурымі.

**Расьліннасьць балотаў** інакшая ў сфагнавых балотах, а йнакшая ў травяных. Прагавіта паглынаючы ваду з грунту і павéтра, сфагнум (рыс. 41) гэтак сама моцна выпаруе яé, і затым сфагнаванае балота звычайна пакрысé абсыхае; тады на ім зьяўляецца цэлы рад расьлінаў, ствараючых характэрнае згуртаваньне. Растуць тут найчасцéй: багун (Ledum palustre), з дурманячым моцным пахам, загарадушка (Drosera), з мясістымі лісткамі, якімі яна ловіць кузурак, ды ягаднікі — буякі (Vaccinium uliginosum), брусьніцы, журавіны; зьбіраючы ягады гэтых расьлінаў, чалавéк заходзіць часамі ў самую глыбіню сфагнавага балота. А над гэтымі ўсімі дробнымі расьлінамі падыймаюцца нізéнькія старыя хвойкі, паабрастаўшыя лішайнікамі, карлаватыя бярозы й вéрбы; сярод апошніх здараюцца рэдкія віды, паходзячыя з поўначы.



**Рыс. 41. Мох сфагнум, або тарфяны (Sphagnum).**

У травяных балотах растуць расьліны, ў складзе якіх ёсьць шмат крамяня — асокі, сітнікі, чароты, хвашчы і г. д. Калі балота асабліва мокрае — на ім растуць грубыя вадзяныя і балотныя расьліны. Калі-ж з такога балота

вада сойдзе і яно пачнé падсыхаць, грубыя балотныя травы пакрысé счазаюць; іх мейсца займае расьлінасьць балотных сенажацяў. Растуць тут тады асокі (Carex), балотныя хвашчы (Eguisetum), бабоўнік (Menyanthes), латацень (Caltha) і маса курасьлéпу (Ranunculus). Расьцéць тут і мох, але ўжо не сфагнум, а гіпнум (Hypnum); ім звычайна абрастаюць купіны, якіх у гэтых балотах спатыкаецца вéльмі шмат. Зьверху травяное балота зарастае хмызьнякамі — лазою, алéшнікам ды нізкімі бярозкамі.

Травяныя балоты такога тыпу лёгка перарабляюцца ў культурныя сенажаці. Для гэтага цярэбяць лазу і абсушуюць балота канавамі; хутка ўжо пасьля гэтае мэліорацыі характар расьліннасьці пачынае зьмяняцца. Тыповыя балотныя травы, як, прыкл., бабоўнік, — прападаюць, зьмяншаецца лік асокаў, а за тое павялічуецца % салодкіх траваў, якія скаціна ахвотна éсьць. З дальнéйшым асушэньнем пачынаюць зьяўляцца ў большым ліку матыльковыя расьліны, ад якіх сéна робіцца значна больш пажыўным. Матыльковыя любяць ужо сухі дый добра правéтраны грунт.

Травяное балота часта на нашых вачох перарабляецца ў багатую **сухую сенажаць** дзякуючы працы і ўмéласьці чалавéка, дзякуючы асушэньню. Ёсьць, аднак, у нас досіць сухіх сенажацяў, якія паабсыхалі бяз помачы чалавéка, або навет ніколі ня былі балотамі; апошняга тыпу сенажаці, апроч пазарастаўшых травою палёў, знаходзяцца яшчэ ў далінах рэк; яны заліваюцца што год на нéйкі час разводзьдзямі, якія прыносяць на іх змытыя з палёў багатыя гляістыя наносы, натуральна ўгнойваючы зямлю. З гэтае прычыны такія сенажаці, як іх называюць, паплавы вызначаюцца сваёю ўраджайнасьцяю. На іх старавéчны жыхар Беларусі, які толькі што браўся за земляробства, зьвярнуў сваю асаблівую ўвагу. Багатая расьліннасьць паплаваў давала яму магчымасць запасаць сéна для скаціны, а ўраджайны іхні грунт вéльмі надаваўся для засéву ярыны. Затым-жа сушэйшыя паплавы чалавéк абярнуў у полі ды гароды. З узростам насялéньня, вéдама, паплаваў стала помала і земляроб пайшоў сячы, паліць, карчаваць ляды, каб адваяваць ад лéсу мéйсца для палёў. У паўднёвай-жа Беларусі апроч паплаваў ужо ў самыя даўнейшыя часы земляробства разьвівалася на палянах, або «палёх», кавалках і астравох стэпу, закінутых сярод лясоў.

## § 25. ПАХОДЖАНЬНЕ РАСЬЛІННАСЬЦІ ДЫ МÉЖЫ ПАШЫРЭНЬНЯ РАСЬЛІНАЎ У БЕЛАРУСІ.

У мінуўшчыне клімат Беларусі нéкалькі разоў зьмяняўся; разам з ім зьмянялася і расьліннасьць; сьляды даўнéйшае расьліннасьці мы можам і цяпéр аглядаць у скамянéлым відзе,

а навет часамі і ў відзе жывых прадстаўнікоў. Ад перадлядавіковых часоў да нашых дзён засталася ў нас, мусіць, толькі адна азале́я, або турэцкі багун (Azalea pontica). Гэта досіць высокая расьліна з вялікімі ды прыгожымі чырванаватажоўтымі пахнючымі кве́ткамі нале́жыць да вялікіх рэдкасьцей. Перахавалася яна на імшарах у паўднёвым Пале́сьсі і больш нідзе́ яе́ ў Эўропе няма; а можна знайсьці азале́ю яшчэ толькі ў горах Каўказу ды Малое Азіі.

Найбольш памятак даўне́йшае расьліннасьці ў Беларусі засталося ад Лядавіковае эпохі. Разам з лядавіком у тыя часы надыходзіў полярны клімат і полярная расьліннасьць, якая йшла перад лядавіком, замяняючы сабою гінучую ад лядавога холаду расьліннасьць папярэдняе эпохі. Полярная-ж расьліннасьць панавала ў Беларусі і пе́ршыя часы пасьля лядавікоў, навет тады, калі клімат зрабіўся і цяпле́йшым, і сухім, бо іншае яшчэ ня было. Але пазьне́й у Беларусь прыйшла з краёў, якія ня былі занятыя лядавіком, расьліннасьць больш дапасаваная да панаваўшага ўжо тады ме́рнага клімату і саўсім блізка выціснула полярную расьліннасьць; толькі слабыя рэшткі яе́ перахаваліся да нашага часу, найбольш у імховых балотах, якія давалі ёй варункі істнаваньня, падобныя да радзімае тундры. Да такіх полярных расьлінаў нале́жаць: a) прыгожая расьлінка, носячая імя вялікага швэдзкага ботаніка — **Linnaea borealis** (рыс. 42); спатыкаецца яна толькі ў паўночнай Беларусі і на паўдня ад лініі Віцебск—'Ельня — не расьце́; b) два віды нізенькіх бярозак Betula nana і Betula humilis; c) Dryas octopetala, Polygonum viviparum, не́калькі відаў полярных ве́рбаў (Salix laponica) ды інш.



**Рыс. 42. Ліннэя (Linnaea borealis).**

Пасьля лядавіковага пэрыоду яшчэ не́калькі разоў зьмяняліся і клімат, і расьліннасьць Беларускага прастору. Некаторыя лічаць, што пасьля тундраў значная частка Беларусі пакрылася шыльнікавымі лясамі, якія прыйшлі да нас з Сыбіру і ў значнай ме́ры складаліся з лістаўніцы (мадрыны — Larix europaea). У нашыя часы лістаўніца ў Беларусі спатыкаецца ве́льмі рэдка. Ў часы сухога контынэнтальнага клімату, які надыйшоў пасьля ў Беларусь, з паўдня, з краёў, куды не дайшоў лядавік, з украінскага Падольля ды з Вэнгрыі (цераз Карпацкія даліны) прыходзяць у Беларусь шмат матыльковых, губацьве́тных ды інш. расьлінаў.

Вільготны клімат, які ў канцы запанаваў у Беларусі і пануе да цяпе́рашняга часу, дазволіў пашырыцца ў нас заходнеэўропэйскай расьліннасьці; яна пакрыла ўсю блізка Беларусь сучаснымі мяшанымі лясамі.

Такім чынам, расьліннасьць Беларусі разьвівалася пад рознымі ўплывамі — ўсходу і захаду, поўначы і паўдня; яна і складаецца з расьлінаў, якія прывандравалі да нас з розных бакоў.

**Ме́жы пашырэньня паасобных расьлінаў** (рыс. 43) зале́жаць найбольш ад клімату і з свайго боку характарызуюць




**Рыс. 43. Ме́жы пашырэньня важне́йшых расьлінаў, праходзячыя праз Беларусь.**

клімат краю. З расьлінаў поўначы і ўсходу, якіх пашырэньне канчаецца ў Беларусі, апрача вышэй ўспомненых полярных расьлінаў (Linnaea ды інш.), трэба перад усім сказаць а б е́ л ц ы (Abbies excelsa), гэтак звычайным дрэве ў паўночнай і цэнтральнай Беларусі; яна паходзіць з усходу, а складае ў нас, у паўночнай Беларусі, вялізарныя лясы. У паўднёвай Беларусі яе́ робіцца што раз, то ме́нш (тут не бяз прычыны і пяшчаныя грунты паўднёвае Беларусі), у Пале́сьсі яна спатыкаецца толькі астраўкамі і ўрэшце саўсім прападае ў паўднёвым Пале́сьсі ды лесастэпе. Дале́й на паўдня, у Украіне, яе́ ужо саўсім няма. Там для яе́ замала вільгаці.

Мягкі, вільготны клімат Беларусі, асабліва паўднёва-заходняе, дазволяе расьці тут і не вымярзаць некаторым расьлінам, якія далéй на паўночны ўсход расьці ня могуць. Так дрэва граб (Caprinus betulus) спатыкаецца ўва ўсёй паўднёва-заходняй Беларусі аж да Вільні, Мéнску і Гомеля; даўнéй, відаць, клімат наш быў яшчэ цяплéйшы, бо граб рос аж у паўночнай Смалéншчыне. Ў балоце, з якога выцякае Дняпро, знойдзена насéньне граба. Сьліва (Prunus communis) спатыкаецца ўва ўсёй Беларусі апрача паўночных узьмéжкаў; далéй жа на поўнач яé няма. У паўночна-ўсходняй Беларусі вымярзае ўжо і хмызьняк цёран (Prunus spinosa). Таксама далéй на поўнач і ўсход ад Беларусі няйдуць гэткія расьліны, паходзячыя з захаду: Топаль бéлы (Populus alba), ясакар (Populus nigra), чарэшня (Prunus avium), барвінак (Vinca), чамярычнік (Helleborus), Litorella, Hydrilla ды інш., і паходзячыя з паўдня: вербéна (Verbena), Anthericum, Colchium ды інш. Гэтых расьлінаў у Маскоўшчыне ўжо няма. Паразіт вамéла (Viscum album, рыс. 44), які расьцé на гальлі дрэваў, творачы як-бы зялёнае памяло, добра значнае на ліставых дрэвах пасьля ападу лісьця, ён гэтаксама ўжо ня выжывае ў паўночна-ўсходняй Беларусі і далей Мéнску ў гэты бок ня йдзé. Ў канцы ў паўднёвай Беларусі, ў Палéсьсі, расьцé ракітнік (Cytisus biflorus), а на самым захадзе Беларусі ў лясох пачынае спатыкацца ўсё больш прадстаўнікоў флёры заходне-эўропэйскіх мяшаных лясоў. Знаходзім мы тут, напр., ціс (Taxus baccata), блюшч (Hedera helix), а ў Белавéжскай пушчы спатыкаецца, хаця й вельмі рэдка, піхта (Abies pectinata). Вельмі цікава адзначыць, што ўсходняя граніца бука (Fagus silvatica), дрэва, вельмі характэрнага для заходніх мяшаных лясоў, адпавядае якраз заходняй мяжы Беларусі і гэтым даводзіць, што этнографічная мяжа Беларусі мае тут пад сабою і пэўныя прыродныя асновы.



**Рыс. 44. Расьліна-паразіт вамéла (Viscum album).**

Аб пашыраных цяпéр у Беларусі культурных расьлінах будзе гаварыцца ніжэй. Тут толькі ўспомнім аб пробах акліматызацыі некаторых культурных расьлінаў. Рабіліся, прыкладам, дасьледы акліматызацыі шаўковага дрэва — морвы (Morus), лісьцём якога жывяцца шаўковыя чарвякі, ў Лéпельскім павéце, значыць, ужо на поўначы Беларусі. Ў гэтага дрэва ў нашым клімаце часамі мéрзнуць вярхі і яно

не расьцé. Але ў дв. Іванску, каля Чашнікаў (Лéпельскі пав.), жыло да апошняга часу каля 10 дрэваў морвы, якія мéлі па 40 гадоў; гадавалі тут навет шаўковых чарвякоў і мéлі ад іх ужо каконы, якія між іншым былі на выстаўцы ў Віцебску. Культура морвы даючы магчымасьць разьвіцца гэткай даходнай галіне гаспадаркі, як шоўкаводзтва, заслужуе на ўсякую ўвагу. Ў Парэччы, Пінскага пав., гэтаксама разводзяць паўднёвую расьліну Dipsacus Fullonum, патрэбную для вырабу сукна (варсаваньня). Гэтыя цікавыя дасьлéды паказуюць, што пры пэўных высілках клімат Беларусі дазваляе істнаваць апрача ўсіх цяпéрашніх дзіка растучых і культурных расьлінаў яшчэ шмат якім іншым, а між імі й вельмі важным для гаспадаркі.



**Рыс. 45. Паляваньне ў Белавéжы.**

## § 26. СЬВÉТ ЖЫВЁЛАЎ.

У старадаўнія, але ўжо гістарычныя часы ў Беларусі было гэтак шмат зьвярыны, што галоўным заняткам і спосабам пражыўлéньня тагочаснага досіць ужо густога насялéньня Беларусі было паляваньне. Ў вялікім ліку скуры і дарагія футры лясных зьвяроў вывозіліся заграні́чнымі купцамі ўва ўсé канцы тадышняга сьвéту; скуркі зьвяроў былі важнейшым прадмéтам гандлю ў Беларусі, замянялі яны былі сабою навет грошы; гэтак на к у н ы ды на в е к ш ы

разьлічаліся розныя дзяржаўныя падаткі і дань чужынцом. Цяпе́рака няма даўнейшых лясоў, няма і даўне́йшае зьвярыны; шмат відаў згінула саўсім у нас, шмат якія выміраюць. У культурных краёх Заходняе Эўропы, аднак, з гэтаю справаю яшчэ гарэй. Тамака ўжо даўно паабсушаваны балоты і вазёры, ўрэгуляваны рэкі, ў далёка большай ме́ры, чым у нас, павыцярэбліваны лясы; мы-ж тым часам маем кавалкі першабытнага ле́су, недаступныя балоты і вазёры і рэдкае людзкое насяленьне, — адным словам, гэткія варункі для жыцьця зьвярыны, як ні ў адным з суседніх з намі краёў; затым у нас спатыкаюцца зьвяры, ў іншых эўропэйскіх краёх нале́жачыя ўжо да гісторыі.

Зьвярыны сьве́т у мінуўшчыне зьмяняўся разам са зьменаю клімату і расьліннасьці. Ў часы лядавіковыя фауна папярэдняе эпохі счэзла і пасьля лядавіковага пэрыоду Беларусь засялялася жывёламі нанова. Сярод жывёлаў Беларусі маем прадстаўнікоў не́калькіх кліматычных паясоў. Маем прадстаўніка тундравай фауны ў відзе п а р д в ы (бе́лая курапатва); яна, відаць, засталася ў нас ад пэрыоду панаваньня ў нас тундры, якое было ў пе́ршыя часы пасьля лядавіка. Цэлы рад жывёлаў, як, прыкл. ж а ў р а н к а, п е р а п ё л к а, г р а к, д р о х в а і г. д., перабраўся да нас з с т э п а ў тады, калі пасьля расьцяробкі лясоў значна павялічыўся прастор палёў у Беларусі і стварыліся варункі істнаваньня для жывёлаў падобныя, як у стэпу. Гэтыя жывёлы — супольныя для нашае і ўкраінскае фауны. Спатыкаюцца ў нас і зьвяры паўночных хвойных лясоў, або тайгі, як, прыкл., б у р ы м я д з ь в е́ д з ь, р ы с ь, л о с ь, і таксама зьвяры заходніх мяшаных лясоў (д з і к, с а р н а ды інш.). Першыя — супольныя для фауны Беларусі і Маскоўшчыны, другія — злучаюць беларускую фауну з заходне-эўропэйскаю.

З важне́йшых дзікіх **сысуноў** (Mammalia), апроч пашыраных па ўсёй Эўропе — ваўка, ліса, зайца і барсука, ў Беларусі спатыкаецца і больш рэдкая зьвярына. Як памятка мінуўшчыны перахаваўся ў Белаве́жскай пушчы з у б р (Bison bonasus, рыс. 46), не́калісь ве́льмі пашыраны па ўсёй Эўропе і Беларусі (называлі яго таксама т у р а м); цяпер апрача Белавежскае пушчы яго ўжо нідзе ў Эўропе няма, дый у пушчы, ня гле́дзячы на людзкі догляд і апеку, лік зуброў навет у спакойныя часы, пе́рад апошняю вайною, зьмяншаўся.

Ў глухіх лясох па ўсёй Беларусі водзіцца л о с ь. С а р н ы спатыкаюцца найбольш у цэнтральнай і паўднёва-заходняй Беларусі. На поўначы іх ужо няма. Гэтаксама няма там і д з і к а, які часта спатыкаецца ў заходняй і паўднёвай Беларусі, ды мяйсцамі навет значна шкодзіць палём. Б а б ё р (Castor tiber) не́калісь быў ве́льмі моцна пашыраны ў Беларусі; яго імя носіць цэлы рад беларускіх рэк, ме́стаў і г. д. Цяпе́р баброў спаткаць яшчэ можна, хаця і ве́льмі рэдка, ў Пале́сьсі, на паўночных прытоках Прыпяці, над р. Сьвіслачаю каля яе́

вусьця, ды наагул у глушэйшых закутках Палéсься. Хаця пасловіца кажа: хто заб'éць бабра, ня будзе мéць дабра, аднак баброў не шкадуючы зьніштажаюць дзеля дарагое скуркі.

З рэдкіх відаў грызуноў спатыкаецца ў нас часамі чорны стаповы заяц — т у м а к.

У бóльшых лясох, асабліва ў хвойных, спатыкаецца нярэдка і цяпéр к у н а, якая звычайна ловіць вавёрак і гэтым жывіцца. На ўзьбярэжжах рэк і вазёр у норах жывець в ы д р а. Усé гэтыя зьвяркі з дарагімі скуркамі ў сусéдніх з Беларусяю краёх або саўсім счэзлі, або спатыкаюцца шмат радзей.

Вéльмі рэдка ў хвойных лясох паўночнае Беларусі спатыкаецца р ы с ь.



**Рыс. 46. Зубры.**

У канцы трэба адзначыць, што ў глушэйшых ды бóльшых лясох па ўсёй Беларусі яшчэ нярэдка мóжна спаткаць гаспадара лясоў — м я д з ь в é д з я. Ён у нас цяпéр спакойны, шкоды вялікае ня робіць. Гадоў 50 назад, як мядзьвéдзяў было больш, палажэньне было крыху іншае; тады здараліся напады мядзьвéдзя на коней і кароў.

Спаміж **птушак** асабліва характэрны для Беларусі тыя, што жывуць на вазёрах, балотах ды мокрых сенажацях. Там спаткаем мы к н і г а ў к у, якая, як лічыць народ, сваім крыкам просіць дажджу, крыклівага дзергача, што голасна дзярэцца

над балотам у ле́тнія ночы, не́калькі чаек, кулікаў ды інш. З больвых птушак найчасьцей спаткаем на балоце ш э р у ю ч а п л ю. Да балотных-жа птушак трэба аднесьці і б у с л а (бацяна — Ciconia alba), які, аднак, гнёзды свае́ робіць на стрэхах ды дрэвах каля будынкаў. Бусел дале́й на ўсход за Беларусь ня йдзе́: ў Маскоўшчыне яго ўжо няма. Шмат ёсьць у нашых балотах дзічыны з смачным мясам, на якую старанна палююць. Найважне́йшыя з такіх птушак д з і к і я к а ч к і, якіх усюдых ёсьць шмат, с л о н к і (вальдшнэпы), якія гне́зьдзяцца больш на поўначы Беларусі, б е к а с ы ды інш. Ве́льмі цікавыя для паляўнічых і птушкі нашых хвойных лясоў, з дужа смачным мясам: г л у ш э ц, ц е ц я р у к, р а б е́ ц, п а р д в а ды інш. У мяшаных лясох большае часьці Беларусі птушыная сям'я значна большая, чым на поўначы. Спатыкаюцца тут к а р о з а (сойка), і в а л г а, д з я ц е л б е л а с ь п і н н ы, с а р о к а, у д о д, с і в а в а р о н к а, ш п а к і, с а л а ў і, ш э р а я к у р а п а т в а і шмат іншых пяючых і непяючых птушак.

На палёх спатыкаем найчасце́й жаваранка, перапёлак, гракоў ды інш. У паўднёва-заходнюю Беларусь заходзіць вялікая стаповая птушка д р о х в а.

Ў рэках і асабліва ў вазёрах Беларусі жыве́ багатае р ы б н а е н а с я л е́ н ь н е, ўсяго больш 40 відаў. Апрача звычайнае і ўсюдых спатыканае рыбы, як шчупак, вокунь, плотка, ме́нь, уюн і інш., водзяцца ў большых нашых рэках, у Дняпры, ды Прыпяці, — асятры, сьцерлядзі ды іншыя марскія рыбы. У беларускіх вазёрах жывуць у значным ліку рэдкія рыбы, як с я л я в а, ў с т ы н к а, с е́ я, с і г, а ў быстрых рэчках на захадзе Беларусі шмат л а с о с я ў. Усё гэта невялікія рыбы, а вызначаюцца сваім смакам.

Спаміж **кузурак** у Беларусі асабліва шмат відаў, зьвязаных з лесам. Важнае значэньне маюць ж у к і-к а р а е́ д ы ды іншыя шкоднікі дрэваў, ад якіх моцна це́рпяць нашыя лясы, гароды і палявыя культуры. Ў балотах улетку разводзіцца бязьмеры к а м а р о ў, м о ш а к, а в а д н ё ў ды інш. кузурак, якія не даюць спакою людзям і жывёлам. Мяйсцамі, відаць, пашыраны і м а л я р ы й н ы к а м а р; там насяленьне моцна це́рпіць ад трасцы (малярыі). Аднак гэты камар далёка ня так пашыраны ў Беларусі, як можна было-б спадзявацца па яе́ балоцістасьці.

## § 27. БЕЛАРУСЬ ЯК ФІЗІЧНА-ГЕОГРАФІЧНАЯ СУЦЭЛЬНАСЬЦЬ.

Апісуючы паасобныя праявы беларускае прыроды, мы ўжо зьвярталі ўвагу на іх характэрныя асобнасці, якія дазваляюць выдзеліць Беларусь з паміж акружаючых яе́ краёў ў асобную фізычна-геаграфічную краіну. Каб характар гэтае краіны і яе́ суцэльнасьць ляпе́й вырысоўваліся перад нашымі вачамі, прыпомнім важне́йшыя з гэтых адзнакаў.

Паве́рхня Беларусі тым адрозьнюецца ад паверхні Маскоўшчыны, што мае агульны спад на захад, часткаю на паўдня, што пакрытая яна ў значнай меры морэннымі ўзгор'ямі або зьяўляецца саўсім асобнаю палескаю нізінаю. З другога боку яна значна вышэйшая за ўсе́ сумежныя заходнія нізіны. Асабліва характэрна для Беларусі разнароднасьць паверхні на самых невялікіх адлегласьцях, частая зьмена краявіду, чаго мы не пабачым ні ў аднавобразным украінскім стэпе, ні ў надбалтыцкіх і літоўскіх нізінах, ні ў безграні́чных прасторах плоскіх узвышшаў Маскоўшчыны. Стаіць гэта, як мы ведаем, у зьвязку з вялікаю стракатасьцяю нашых грунтоў, якая нідзе́ ў нашых суседзяў гэтак рэзка ня выяўлена; вызначаецца Беларусь яшчэ перавагаю лёгкіх грунтоў. Абедзьве гэтыя прыметы адрозьнююць нашыя грунты ад чарназёмных грунтоў Украіны ды цяжкіх літоўскіх грунтоў. Грунты Маскоўшчыны гэтак сама больш цяжкія і халодныя; сярод іх вельмі значную ролю йграюць падзолы. Беларускія грунты ёсьць у большасьці прадоўжаньнем грунтоў Паўночна-нямецкае і Польскае нізінаў і маюць з імі шмат супольнага.

Гэтае-ж самае трэба сказаць і аб расьліннасьці Беларусі, перад усім аб гэтак пашыраных і ў нас, і ў нашых заходніх сусе́дзяў хваёвых барох. Беларуская расьліннасьць наагул вызначаецца сваёю буйнасьцяю і багацьцем. Беларускія мяшаныя лясы і травяныя балоты робяць з Беларусі саўсім асобную расьлінную краіну. Як заходнія мяшаныя лясы, так і мяшаныя лясы Маскоўшчыны адрозьнююцца ад беларускіх складам пародаў; галоўнае-ж, што нідзе ў паясе́ мяшаных лясоў ле́с не займае такога пануючага палажэньня ў краявідзе, такіх прастораў, як ў Беларусі. І ў Маскоўшчыне ў паясе мяшаных лясоў і на Захадзе лясоў пазаставалася мала: іх зьніштожылі растучыя ме́сты, дый густое насяле́ньне; ў нас яшчэ на дзесяткі вёрст цягнуцца пушчы, а на паўдні, ў Пале́сьсі, лясная стыхія яшчэ пануе ў прыродзе, мала што менш, чым у старадаўнія часы. Ў гэтыя вялікія нашыя лясы сабралася выгнаная адусюль зьвярына, на якую мы бязумоўна багаце́йшыя ад ўсіх нашых сусе́дзяў.

Вялізныя лясы й балоты ствараюць натуральныя ме́жы, дзелячыя Беларусь ад суседніх краёў, асабліва ад Украіны, Польшчы і Маскоўшчыны. Гэткай самай мяжою трэба лічыць і зрэзаны вазёрамі ды ўзгор'ямі морэнны край на поўначы.

Аб асобнасьці беларускага клімату досіць ужо гаварылася: ён вызначаецца сваёю сувязяю з Захадам, з акеанам; з другога боку, ён ужо значна больш контынэнтальны, чым клімат заходніх краёў. Выразныя кліматычныя ме́жы адзяляюць Беларусь ад Польшчы, ад Украіны і ад Маскоўшчыны.

Паасобныя часткі Беларусі найбольш можа зьвязуюцца ў адну суцэльнасьць се́ткаю рэкаў. Гэтая-ж сетка і вызначыла ме́жы Беларускага простору. Беларусь займае цалком ве́рхнія часткі вадазборнікаў трох вялікіх рэк: Дняпра,

Дзьвіны і Нёмана, а значная частка яé мéжаў ідзе прыблізна па вададзéлам гэтых рэк. Вялікі-ж эўропэйскі вададзéл перасякае Беларусь дыяганаляю праз самую яé сярэдзіну і якраз у Беларусі найбалéй зьніжаецца. Яго праразаюць шмат дзе глыбокія лядавіковыя даліны і прасторы даўнéйшых ды сучасных вазёраў; дзякуючы ім сыстэмы двух мораў зьвязуюцца ў Беларусі ў адну рачную сéтку, і сувязь гэтая выяўляецца папракопаванымі ў нéкалькіх мяйсцох каналамі. Такія-ж каналы ды лядавіковыя даліны вяжуць нашыя рэкі з іншымі рэкамі Захаду; з вадазборнікам-жа Касьпійскага мора гэткае сувязі няма: паміж Беларусяю й Маскоўшчынаю ляжыць выразная гідрографічная мяжа. Але ад заходніх і паўднёвых краёў, з якімі Беларусь зьвязана рэкамі, яé адрозьнюе вададзéльнае палажэньне, якое перад усім накладае свой знак на краявіды Беларусі, робячы іх непадобнымі да краявідаў, прыкл., Латвіі, ды наагул прыморскіх краёў, якое гэтак моцна адбіваецца на беларускай гісторыі.

Здавалася-б, што беларускі народ, займаючы такое выгоднае палажэньне на важнéйшым рачным вузьлé Ўсходняе Эўропы, павінен-бы быў вырасьці ў моцную дзяржаўную сілу ды ймкнуцца, каб апанаваць прасторы, ляжачыя пры вусьцях сваіх рэк. У досьвітках беларускае гісторыі мы падобны рух і бачым. Дзякуючы яму беларускі прастор пашырыўся на захад па Нёману і Бугу аж да сучасных мéжаў Беларусі, а па Дзьвінé — яшчэ ніжэй. Заваладаць вусьцямі Нёмана і Дзьвіны беларусы, аднак, не пасьпéлі: тамака яны ўжо спаткалі дужэйшых конкурэнтаў, нéмцаў, — і мусілі адступіць. У іншых кірунках беларуская колёнізацыя йшла мéнш энэргічна; тут беларусы толькі займалі да канца рачныя вадазборнікі, часткі якіх ужо імі былі занятыя ўпéрад. Адрэзаная ад мора Беларусь траціць магчымасьць мéць шырокія зносіны з сьвéтам ды йграць значную ролю ў сусьвéтным жыцьці. Гэта было адным з рэзультатаў вадападзéльнага палажэньня Беларусі.

Гэтыя асобнасьці прыроды Беларусі кладуць свой знак на ўсё яé жыцьцё і дазваляюць нам гаварыць аб Беларусі, як аб асобнай фізычна-географічнай краіне, аб прыроднай аснове, на якой разьвіваўся беларускі народ. Пэўныя розьніцы паміж прыродаю асобных частак Беларусі ня толькі не перашкаджаюць, а навет памагаюць злучэньню іх усіх у адзіны нацыянальны прастор, дазваляючы абмéн вытворамі прыроды і гаспадаркі. Дый наагул розьніцы гэтыя не нагэтулькі значныя, каб перашкаджаць суцэльнасьці Беларусі.

Мéрны, здаровы клімат, багацьце і буйнасьць жывое прыроды, align="">розьнароднасьць краявіду і выключна шырокае разьвіцьцё вадзяных шляхоў ствараюць у Беларусі вéльмі спрыяючыя варункі для разьвіцьця народу. Але гістарычныя і палітычныя прычыны не далі беларусам магчымасьці скарыстаць з гэтых варункаў. Географічнае палажэньне Беларусі на мяжы Ўсходняе і Заходняе Эўропы ў сваé часы вельмі

спрыяла разьвіцьцю гандлю ў Беларусі; але яно-ж было прычынаю яе́ дальне́йшых няшчасьцяў. На прасторах Беларусі адбывалася і да нашага часу адбываецца векавая барацьба паміж Усходам і Захадам, руйнуючы нашую гаспадарку, дэмаралізуючы грамадзкае і нацыянальнае жыцьцё, не даючы магчымасьці беларусу стаць на сваé ўласныя ногі.

З кожным сталéцьцем, аднак, барацьба цывілізацыяў прыймае ўсё больш спакойныя формы, а ме́жы народаў робяцца выразьне́йшымі і трывале́йшымі, нявыгоды-ж геаграфічнага палажэньня зьніштажаюцца дарогаю вольных міжнародных умоваў. На даўне́йшых арэнах бітваў спатыкаюцца народы для абме́ну культурнымі вартасьцямі. Старыя вае́нныя шляхі пакрысé зарастаюць зялёнаю травою. Прыйдзе пэўне час міру і спакойнае творчае працы і для Беларусі. Калі Беларускі Народ, увабіраючы ў сябé ўплывы розных культураў і цывілізацыяў, патрапіць ператравіць і пагадзіць іх у сваёй істоце, дык зробіцца ён важне́йшым зьвяном у сусьве́тнай чарадзé народаў, вогнішчам агульна-людзкае культуры. Да гэтага вядзé ў роўнай ме́ры і геаграфічнае палажэньне яго краю і поўная цяжкіх дазнаньняў ягоная гісторыя.

---

# НАСЯЛЕНЬНЕ БЕЛАРУСІ І ЯГО ГАСПАДАРНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ.

## РАЗЬДЗЕ́Л V.

## Этнографічны агляд.

### § 28. ЛІК, РАЗЬМЯШЧЭНЬНЕ, РУХ І ПАДЗЕ́Л НАСЯЛЕ́НЬНЯ БЕЛАРУСІ.

Вызначыць саўсім точна **лік насяле́ньня** Беларусі цяпе́р яшчэ не́льга; пасьля вайны хаця і праводзіліся ва ўсіх частках Беларусі народныя перапісы, але рабіліся яны найбольш насьпе́х, а часамі і з пэўнымі палітычнымі мэтамі, дык надта ве́рыць ім не́льга. Самы агульны і досіць добры перапіс быў зроблены яшчэ ў 1897 годзе. Тады на ўсім Беларускім прасторы налічылі каля 10 $^{1}/_{2}$ міліёнаў усяго насяле́ньня. Пазьне́йшыя падлічэньні выявілі, што насяле́ньне ў нас у сярэднім прырастае на 2 % ў год. Карыстаючыся з гэтых цыфраў, можна разьлічыць, што ў мамэнт пачатку вайны (у 1914 годзе) жыло ў Беларусі **каля 14 $^{1}/_{2}$ міліёнаў насяле́ньня.** За час вайны ня толькі рост насяле́ньня спыніўся, але адбылося вялізарнае яго зьмяншэньне. Паводле пе́рапісу, зробленага польскай уладаю ў 1919 годзе ў заходняй і цэнтральнай Беларусі (рыс. 47), выходзіць, што навет найме́нш зачэпленыя вайною паве́ты Ме́ншчыны страцілі праз вайну больш 25 % насяле́ньня, далей-жа на захад — яшчэ большае спусташэньне. Паўночна-заходняя Беларусь (Віленшчына) страціла каля 35 %, а паўднёва-заходняя (Горадзеншчына) — каля 60 % насяленьня, пры чым у паасобных паве́тах страта гэтая даходзіць аж да 70 % (Берасьце́йскі пав.). Наагул выходзіць, што заходняя Беларусь страціла больш трох міліёнаў людзе́й, а калі лічыць, што рэшта Беларусі гэтак сама спустошана, як Ме́ншчына, дык выйдзе, што наагул Беларусь за вайну страціла каля пяцёх міліёнаў насяле́ньня.

Гэткае вялікае зьмяншэньне насяле́ньня ёсць бязумоўна толькі часовым зьявішчам. Бо з тых 3-х міліёнаў людзе́й, якія былі выгнаны расе́йскім войскам з Беларусі ў бе́жанства, хаця значная іх частка загінула па дарозе і ў чужой старане́,




**Рыс. 47. Зьмяншэньне насяле́ньня ў заходняй Беларусі за час апошняе вайны (1914—1919).**

а значная частка ўжо вярнулася на Бацькаўшчыну, шмат яшчэ застае́цца і цяпер параскіданых на вялізарных прасторах Маскоўшчыны і Сыбіру. Ня гле́дзячы на бязьме́ры цяжкія варункі дарогі ў Бацькаўшчыну, яны усё-ж ня кідаюць надзе́і вярнуцца да сваіх спаленых хатаў, на родную зяме́льку. І пэўне шмат іх яшчэ ве́рнецца назад; ды навет і тых, якія

застаюцца на чужыне́, павінны мы заўсёды ме́ць на ўвазе, калі будзем выясьняць агульны лік беларусаў.

З гэтых прычынаў, кажучы **аб гушчыні насяле́ньня** паасобных частак Беларусі, мы будзем разглядаць не выпадковыя данныя аб спустошаных паве́тах, а перадвае́нныя лічбы, калі жыцьцё было ме́нш-больш сталае. Гушчыня насяле́ньня мае дужа вялікае значэньне і ўплыў перад усім на экономічнае жыцьцё стараны, а праз гэта і на культурнае ды палітычнае яе́ палажэньне. Найбольш культурныя староны ў сьве́це маюць і найгусьце́йшае насяле́ньне; староны, дзе жывуць някультурныя народы, звычайна бываюць рэдка




**Рыс. 48. Гушчыня насяле́ньня ў Беларусі (1897 г.).**

засе́лены. І хоць з гэтага правіла бываюць выняткі (Фінляндыя, гл. вышэй), але трэба прызнаць, што згушчэньне насяле́ньня це́сна зьвязана з разьвіцьцём матар'яльнае і духоўнае культуры краю. Гушчыня насяле́ньня Беларусі перад вайною дайшла ў сярэднім да 50 чал. на кв. вярсьце́, цяпер яна — каля 35 чалаве́к, гэтак сама ме́нш-больш, як была 25 гадоў назад, у часе перапісу 1897 году.

Паводле данных гэнага перапісу насяле́ньне разьме́шчана на прасторы Беларусі няроўна (гл. карту, рыс. 48). У краінах

з лепшымі грунтамі, з разьвітым эканомічным жыцьцём насяленьне гусьцейшае; на бедных грунтох, далёка ад местаў і шляхоў, адным словам у бедных і глухіх закутках, насяленьне жыве рэдка. Найгусьцейшае насяленьне мела тады (у 1897 г., гл. табліцу далей) Наваградчына, Амсьціслаўшчына і Лепельскі павет дзякуючы сваім багатым грунтом і, з другога боку, Беласточчына і лесастэп, дзе асабліва моцна разьвівалася прамысловасьць. Усе гэтыя краіны ўжо тады (ў 1897 г.) мелі гушчыню 45—50 чал. на кв. вярсьце аднаго толькі вясковага насяленьня, ня лічучы меставага насяленьня. Вакола гэтых гусьцейшых краінаў ляжалі радзей засеrange прасторы, а найрадзейшае насяленьне было ў Палесьсі, асабліва ў Прыпяцкім (Мазырскі пав. — 12 чал. на 1 кв. вяр.) і ў паўночнай Смаленшчыне (Бельскае Палесьсе — 16 чал. на 1 кв. вяр.). Цяпер лічбы гэтыя моцна зьмяніліся, але да самае вайны адносіны між імі заставаліся даўнейшыя, і мы на гэтыя лічбы будзем увесь час апірацца, як на найбольш пэўныя і адпавядаючыя нормальным варункам. Трэба аднак адзначыць, што ў Прыпяцкім Палесьсі насяленьне перад вайною дужа шыбка ўзрастала і, калі-б усё было спакойна, магчыма, што гэтая краіна ўжо была-б цяпер не апошняю ў Беларусі па гушчыні насяленьня.

Калі Беларусь мае цяпер ня вельмі густое насяленьне, дык затое ёсьць у яе цьвёрдая надзея, што ў будучыне з гэтага боку яна дагоніць, прынамсі, калі не перагоніць, сваіх заходніх суседзяў. Надзею гэтую дае надзвычайна шыбкі прырост насяленьня ў Беларусі. У часе скасаваньня прыгону ў Беларусі жыло крыху больш за 5 міліёнаў людзей; за 60 гадоў, якія мінулі з таго часу, насяленьне Беларусі пасьпела было павялічыцца ў тры разы. Што году на кожную тысячу чалавек прыбывае 20 новых. Важна адзначыць, што гэтае павялічэньне насяленьня адбывалася ў спакойныя часы, і яго прычынаю была значная перавага радзінаў над сьмерцямі ў Беларусі, а не перасяленьне у Беларусь чужых людзей (іммігpацыя), якое калі і адбывалася тады, дык у саўсім малых разьмерах. На 1000 чалавек што год ў Беларусі радзжаецца ў сярэднім 45 чалавек, а паміpае — 25.

З эўропэйскіх краёў толькі ў Маскоўшчыне ды ў Украіне лік радзінаў крыху большы, чым у Беларусі, ўсе-ж іншыя краі з гэтага боку застаюцца далёка ззаду (ў Францыі на 1000 жыхараў — толькі 21 радзіны). Праўда, і паміpае ў нас людзей больш, чым у культурных старонках Захаду, але ўсё-ж шмат менш, чым у Маскоўшчыне і Украіне; праз гэта й прырост у нас адзін з найбольшых у Эўропе. Пачаўся гэты шыбкі прырост пасьля скасаваньня прыгону; прычынаю яго ёсьць значнае зямельнае раздольле, якое мае Беларусь раўнуючы да іншых краёў, здаровы клімат ды крыху мо большая агульная культурнасьць насяленьня, чым у нашых усходніх суседзяў, і праз тое — меншая сьмертнасьць. Цікава, што чым далей

пасуваецца па Беларусі на ўсход, у бок Маскоўшчыны, тым сьмертнасьць насяленьня павялічуецца: ў Віцебшчыне на 1000 жыхараў памірае ў год 22, ў Меншчыне — 26, у Магілеўшчыне — 27, а ў Смаленскай губэрні (разам з велікарускімі паветамі) — 39 чалавек, і гэта ня гледзячы на тое, што ў Смаленшчыне істнуе ўвесь час земскае самаўрадаваньне, якое клапоціцца аб мэдыцынскай помачы і якога ў цэнтральнай Беларусі да апошняга часу ня было. На захадзе Беларусі лік радзінаў крыху меншы, чым на ўсходзе. Найбольшы прырост у Беларусі маюць **палескія** паветы (найбольш — Мазырскі), дзе найбольшае зямельнае раздольле і куды таксама пакрысе перасяляецца, купляючы зямлю, насяленьне з гусьцей заселеных краінаў Беларусі.

Насяле́ньне Беларусі жыве́ або ў ме́стах і мястэчках, або ў вёсках, засьце́нках, дварох, фаліварках і хутарох. Розьніца паміж ме́стамі і мястэчкамі галоўным чынам па вялічыні; мястэчкі маюць ме́ншы лік жыхараў, чым ме́сты. Мястэчкі-ж адрозьнююцца ад вёсак перад усім заняткамі жыхараў, але таксама і вялічынёй. У вёсцы ўсе́ блізка жыхары займаюцца гаспадаркаю; ў мястэчках значная частка іх занята гандлем і ў прамысловасьці. Кожнае мястэчка ёсьць гандлёвым цэнтрам для свае́ ваколіцы і ўве́сь гандаль у нас адбываецца ў местах ды мястэчках. У Беларусі ёсьць каля 70 ме́стаў і больш 500 мястэчак. Жыве́ ў іх каля 25 % усяго насяленьня Беларусі. Найбольшыя ме́сты Беларусі (рыс. 49): В і л ь н я — перад вайною мела 200 тыс. жыхараў, Д з ь в і н с к — 120 тыс., М е́ н с к — 110 тыс., В і ц е б с к — 115 тыс., Б е л а с т о к — 90 тыс., Г о р а д н я — 70 тыс., С м а л е́ н с к — 70 тыс., Г о м е л ь — 65 тыс., М а г і л ё ў — 60 тыс., Б е́ р а с ь ц е — 60 тыс. Месты Беларусі ве́льмі шыбка растуць, асабліва калі праз іх пройдзе чыгунка. Тады, як гэта відна з таблічкі, праз кожныя




Рыс. 49. Лік жыхараў у большых местах Беларусі ў 1911 г.

**Рост вялікіх местаў** (паводле Э. Ромэра).

| Гады / Мéсты | Насялéньне ў тысячах: | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1860 | 1870 | 1880 | 1890 | 1900 | 1910 |
| Вільня . . . . . | 50 | 60 | 88 | 125 | 165 | 200 |
| Дзьвінск . . . . | 25 | 29 | 57 | 70 | 77 | 108 |
| Мéнск . . . . . | 25 | 36 | 48 | 70 | 95 | 105 |
| Віцебск . . . . . | 24 | 31 | 45 | 60 | 80 | 100 |

блізка 20 гадоў яны падвойваюць сваё насялéньне, якое зьбіраецца ў іх найбольш з вёсак акалічных краінаў. Апрача правядзéньня чыгунак росту мéстаў моцна дапамагае разьвіцьцё прамысловасьці. Ад шыбкасьці росту мéстаў залéжыць іхні знадворны выгляд. Тыя мéсты, што вéльмі хутка растуць, ў значнай мéры зложаны з новых, недабудаваных кварталаў, маюць рух і ажыўленьне на вуліцах. У мéстах з слабым ростам новыя будоўлі спатыкаюцца рэдка, за тое шмат руінаў, жыцьцё йдзé цішэй. У апошнія часы перад вайною найшыбчэй расьлі з вялікіх мéстаў: Віцебск, Гомель і Дзьвінск; Мéнск і Вільня расьлі цішэй. Цяпéр, аднак, палажэньне саўсім зьмянілася і аб сучасным росьце і выглядзе нашых мéстаў можна будзе гаварыць толькі праз нéйкі час.

**Вялічыня вёсак** у паасобных краінах Беларусі ня роўная; залéжыць гэта ад прыродных варункаў. У морэнным краі вёскі малéнькія, з нéкалькіх хат, у сярэднім маюць па 40—60 і ня больш 100 жыхараў. Зразумéла, што большым вёскам трудна было-б раскінуць свае шнуры на няроўнай, зрэзанай вазёрамі павéрхні гэтае краіны. Далéй на паўдня і ўсхад, мéнш-больш у краінах паўднёвага ланцуга ўзгор'еў і наагул у краінах з слабазыбістаю павéрхняю, вёскі большыя, па 100—200 чалавéк у кожнай. На паўднёвых-жа нашых раўнінах, асабліва ў паўднёва-ўсходнім Палéсьсі і лесастэпе, вялічыня вёсак найбольшая — ў сярэднім больш, як па 200 жыхараў у кожнай. Вёскі даўжынёю часамі па нéкалькі вёрст раскідаюць на дзесяткі вёрст свае палéткі і ляжаць адна ад аднае далёка; гэтаму якраз спрыяе раўнінасьць мяйсцовасьці.

Насялéньне Беларусі налéжыць да нéкалькіх нацыянальнасьцяў, якія розьняцца між сабою мовою і звычаямі (рыс. 50). Найбольш у Беларусі ёсьць — беларусаў. На кожную сотню чалавéк прыходзіцца ў сярэднім **77** чалавéк **беларусаў**. У

розных частках Беларусі гэты процэнт няроўны: на ўсходзе ён большы, насяле́ньне мае тут больш аднародны выгляд; на захадзе насяле́ньне больш мяшанае з значнаю ўсё-ж перавагаю беларусаў. Усіх беларусаў у Беларусі жыве́ць цяпе́р каля 8 міліёнаў; калі-ж палічыць усіх беларусаў, разсе́яных у бе́жанстве, на эміграцыі ў Амэрыцы, Сыбіру і ў ме́стах даўне́йшае Расе́і, дык агульны лік іх будзе пэўне каля 11—12 міліёнаў.

Пасьля беларусаў найбольш жыве́ ў Беларусі **жыдоў**, у сярэднім каля 14 % ўсяго насяле́ньня, значыць, каля $1\,^1/_2$ міліёнаў людзе́й.

**Палякоў і маскоўцаў** жыве́ ў Беларусі тысяч па 400 адных і другіх, па не́йкіх 4 % ўсяго насяле́ньня; палякоў больш жыве́ на захадзе Беларусі, маскоўцаў на ўсходзе.

Жывуць у нас і іншыя народы: не́мцы, латышы, ліцьвіны, украінцы, татары, але кожнага з гэтых народаў жыве́ ў нас ня шмат, па не́калькі дзесяткаў тысяч. Не́мцы і татары раскіданы па ўсёй Беларусі, іншыя ўспомненыя народы жывуць найбольш пры граніцах Беларускага прастору з прасторамі адпаве́дных народаў.




**Рыс. 50. Нацыянальны склад насяле́ньня Беларусі.**

## § 29. БЕЛАРУСЫ.

Беларусы жывуць масай па ўсім краі. Больш як 90 % усіх беларусаў жыве́ць па вёсках і дварох дый займаецца гаспадаркаю. Мястэчковыя беларусы займаюцца таксама найбольш гаспадаркаю, але шмат хто е́сьць хле́б і з майстроўкі. У ме́стах беларусы займаюцца рамяством, дробным гандлем і навет гаспадаркаю. Але ня ме́ншая частка, а ў вялікіх ме́стах у некалькі разоў вялікшая часьць, працуе работнікамі на хвабрыках, у майстроў-раме́сьнікаў і ў прыватных багацейшых людзе́й. Апроч таго, значная частка ме́ставых беларусаў займаецца службаю ўва ўсякіх урадах, так званай інтэлігэнцкай працай, і ўрэшце нале́жыць да тае́ клясы народу, якая жыве́ з капіталаў.

Ня ўсé яшчэ беларусы зразумéлі, хто яны, і дзеля гэтага шмат хто, можа, і не прызнаéцца, што ён беларус. Неграматны, цёмны чалавéк не прызнаéцца таму, што ён ня вéдае, ніхто яго не навучыў; але ёсьць шмат і добра вучаных беларусаў, якія прызнаюць сябé палякамі або маскоўцамі. Гэта таму, што іхнія дзяды і прадзеды, а можа й яны самі, здрадзілі свайму народу, выракліся роднае мовы і самога імя беларускага. Дык цяпéр, хоць яны і вéдаюць іншы раз, што яны беларусы, але ўжо ня хочуць адступаць ад сваéпрызвычкі, ад прызвычайнае мовы і ад чужога народу, да якога яны або дзяды іхнія прылучыліся. Вéдама, гэта толькі зьява пераходнага часу. Сьвéдамасьць беларуская гэтак расьцé, што за нéкалькі гадоў вéрнуцца да народу беларускага ўсé яго збаламучаныя сыны.

Пакуль што, аднак, трэба мéць на ўвазе, што нацыянальныя асобнасьці выяўлены найляпéй у сялянстве; затым, характарызуючы беларускую нацыянальнасьць, мы будзем гаварыць перад усім аб сялянстве.

**Беларуская мова і мяйсцовыя гаворкі.** Адзнакаю беларуса ёсьць яго мова. Праўда, ёсьць шмат такіх беларусаў, што ня хочуць, а то й ня ўмéюць гаварыць пабеларуску. Гэта іхняе няшчасьце. Ёсьць паміж беларусаў і зусім нéмыя людзі. Іх усё-ж мы павінны лічыць беларусамі, бо іхнія бацькі, дзяды і прадзеды гаварылі пабеларуску.

Беларуская мова ад Горадні і Беластоку аж да Бранску — адна мова. Адныя ў ёй словы і звароты, бо яé стварыў адзін народ, што мае сваю асобную і рэзка выдзеленую душу. Але на вялізарным прасторы Беларусі стварыліся розныя прызвычкі ў мове, розныя гаворкі і розныя вымовы (рыс. 51).

У паўночна-ўсходнім куцé Беларусі ёсьць цокаючая гаворка. Тамака заместа гуку **ч** часта вымаўляюць **ц**, прыкл. рэцка (зам. рэчка), цужы (зам. чужы), цалавéк (зам. чалавéк). Апроч таго, тут пасьля гуку **р** могуць быць мягкія галосныя гукі, чаго звычайна ў беларускай мове ня бывае. Кажуць, прыкл., ряка (зам. рака), Прячыстая (зам. Прачыстая). Гэтая гаворка пашырана ў Бéльскім, Парэцкім і Вяліскім паветах, а часткаю і ў суседніх.

У рэшце Смалéншчыны ды ў Чарнігаўшчыне ўжо ня цокаюць, але мягкі гук **р** застаецца. І тут кажуць: бéряг (зам. бераг), ряка (зам. рака); апроч таго, ў Смалéншчыне часамі замéста **а** кажуць **ы**: мыладзік (зам. маладзік), зылаты (зам. залаты).

У абедзьвёх гэтых гаворках сустракаецца досіць многа маскоўскіх слоў, бо ўспомненыя краіны найдаўжэй былі пад уладаю Масквы. Мяжою моцных уплываў маскоўшчыны на беларускую мову проф. Карскі лічыць лінію, што йдзé цераз Сéбеж, Віцебск, Мсьціслаў, Клімавічы і Навазыбкаў.

На захад ад гэтае мяжы беларуская мова зусім чыстая. Ва ўсіх гаворках, якія там ёсьць, ніколі ня бывае мягкога **р**. Дзеля гэтага ў літэратурнай мове мягкое **р** ня ўжываецца.

Галоўная беларуская гаворка займае сабою блізка ўсю цэнтральную і заходнюю Беларусь: і Ме́нск, і Магілёў, і Полацак, і Слуцак, г. зн. больш за палавіну ўсяго прастору Беларусі. У гэтай гаворцы пішуцца беларускія кніжкі.

У трох паветах на захадзе — Аўгустоўскім, Сакольскім і Беластоцкім на беларускай мове




**Рыс. 51. Беларускія гаворкі.**

засталіся сьляды ўплываў польскае мовы дзеля блізкога сусе́дзтва і суме́жнасці гэтых паве́таў з Польшчаю. Тамака беларусы досіць часта ўжываюць польскія словы.

На паўдня ад лініі Горадня — Слонім — Гомель, г. зн. у Прыпяцкім Палесьсі і ў Горадзеншчыне, ёсьць паўднёвая гаворка. Рэзкай яе́ адзнакаю ёсьць ужываньне заместа — ся на канцы дзеясловаў сярэдняга стану — **са** (прыкл., зваліўса, глядзе́ўса), дзеля чаго тамашніх беларусаў завуць сакунамі. У іхняй гаворцы ёсьць і яшчэ некаторыя асобнасьці. Прыкл., яны часамі заме́ста: буду хадзіць, буду рабіць ужываюць старадаўнія формы: хадзіціму, рабіціму і г.д.

Гэтыя асобнасьці ўжываюцца часамі і ў літэратурнай беларускай мове.

Урэшце на паўднёвым захадзе Беларусі, ў Пінскім, Кобрынскім і часткаю ў сусéдніх павéтах жывуць **пінчукі**. Гаворка іх апрача провінцыянальных беларускіх асабліvasьцяў розьніцца яшчэ й тым, што ў ёй ёсьць вялікі ўплыў украінскае мовы. Піншчына, аднак, заўсёды была часткаю Беларусі, а жыхары яé ўважаюць сябé за беларусаў.

**Фізычны тып беларуса.** (Рыс. 52, 53, 54 і 65). Сярод народаў Усходняе Эўропы беларус зьяўляецца найбольш чыстым прадстаўніком славянскага тыпу. Яго ўсходні сусéд маскоўскі, або велікарускі народ вырас на фінскім грунце, паўстаў ад зьмяшаньня славянскіх колёністаў з манголамі-фінамі. Беларус спрадвéку сядзіць на сваёй зямлі, і гісторыя не памятаець на беларускім прасторы значнéйшых неславянскіх тубыльцаў, апрача хіба часткі заходняе Беларусі, дзе калісь жыла яцьвезь ды іншыя літоўскія плямёны, наагул кажучы, досіць блізкія да славянаў. З другога боку, няпрыступнасьць радзімых балот і лясоў баранiла беларусаў ад паўднёвых качаўнікоў, і беларусня мае ў сабé тюркскае (гэтаксама мангольскае) крыві, якая налажыла гэткі моцны знак на тып украінца. Гэтая-ж дзікасць і няпрыступнасьць прыроды баранiла Беларусь і ад заходняе колёнізацыі, якая дала паляком значную домешку нямецкае крыві. Гістарычныя прычыны, дзякуючы якім на працягу некалькіх вякоў Беларускі народ складаўся з адных блізка сялян і наагул прыгнечаных клясаў, гэтаксама дапамаглі яму перахаваць чыстату свайго славянскага тыпу, ў якой з ім ня можа сьпірацца навет такі чысты славянін, як паляк.



**Рыс. 52. Стары гаспадар.**

Штогоднімі памéрамі новабранцаў устаноўлена, што беларусы найбольш бываюць сярэдняе ўросласьці; яны ніжэйшыя ад украінцаў і латышоў, роўныя з маскоўцамі і шмат вышэйшыя

за палякоў. Прыблізны сярэдні рост навабранцаў*): беларусы — каля 1640 мілімэтраў, украінцы — 1650 мм., латышы — 1670 мм., ліцьвіны — 1640 мм., маскоўцы — каля 1640 мм., палякі — 1620 мм. У розных частках Беларусі ўросласьць гэтая няроўная. Найбольш нізкае ўросласьці навабранцы ў цэнтральным Палесьсі ды Радані, найбольш высокія — ў паўночнай Віцебшчыне, ды наагул у заходняй Беларусі. Абыймо грудзéй у беларуса гэтка сама сярэдняе. Наагул беларус мае крэпкі, выносьлівы організм. Будова цéла ў яго крыху далікатнéйшая, чым у маскоўца. Аб'яўляецца гэта і ў агульным яго выглядзе, і асабліва ў рысах твары — тонкіх і мяккіх, як у праўдзівага эўропэйца і славяніна. Скулы ў беларуса, прыкл., ня гэтак рэзка выдаюцца, як у татараў ды маскоўцаў, мясісты нос спатыкаецца рэдка. Коляр скуры ў беларуса звычайна белы. Коляр вачэй і валасоў бывае розны, але паміж беларусаў, раўнуючы да іншых суседніх нацыяў, асабліва вялікі % людзей з блакітнымі і шэрымі вачыма; таксама часьцей у нас спатыкаюцца людзі з сьветлымі валасамі, а % чыстых брунэтаў малы. Што датычыць будовы галавы, дык на паўдні і паўднёвым усходзе выразна пераважае тып з кароткай, круглай галавою, а на поўначы ўсё большае значэньне мае тып з даўгаватаю галавою.



**Рыс. 53. Беларускі шляхціц.**

Гэткі пераважаючы фізычны тып беларуса. Спатыкаюцца, аднак, у нас мяйсцовасьці з беларускім насялéньнем, але іншых тыпаў, прыкл., з асабліва вялікаю ўросласьцяю, брунэтаў і г.д.

---

*) Саўсім даросьлыя людзі — крыху вышэйшыя.

Часта гэта паказуе нам сьляды якое-небудзь старадаўняе колёнізацыі, ад якое іншага і ўспаміну не засталося апрача ўросласьці ці колеру валасоў. Каля этнографічных мéжаў Беларусі тып беларуса часта зьмяняецца, бо там ідзéць і да апошняга часу зьмешаваньне беларусаў з іншымі народамі (мэтысацыя). Асабліва гэта значна у ўсходняй Смалéншчыне, дзе беларусы мяшаюцца з маскоўцамі, ды ў паўднёвым Палéсьсі, дзе, зьмяшаўшыся з украінцамі (было гэта, відаць, досіць ужо даўно), яны стварылі асобны этнографічны тып пінчукоў, пераходы ад беларусаў да ўкраінцаў.



Рыс. 54. Селянін з-пад Мéнску.

**Вопратка** (рыс. 55, 64). Беларуская нацыянальная вопратка бывае найчасьцéй белага ды сьвéтла-шэрага калёраў. Мужчынская вопратка складаецца з кашулі з адкладаным каўняром, завязаным жычкаю (вузенькаю стужачкаю) або каляроваю хустачкаю (шалікам). Кашуля падпіразуецца паяском, а навéрх на яé надзяецца камізэлька. Палатняныя або з саматканнага корту штаны закладаюцца ў боты, або ў парцянкі ад лапцéй.

Вéрхняю адзежаю служаць насоў і сьвіта. Найчасьцей як сьвяточная вопратка і наагул для выхаду на людзі ўжываецца мужчынамі і кабéтамі сьвіта з бéлага, найбольш, сукна хатняга вырабу. Шыецца яна да стану, мае дзьвé распоркі з бакоў (што яé рэзка адрозьнюе ад маскоўскае

«поддевки»); берагі сьвіты і кішэні абшываюцца або скураю, або каляроваю тасе́мкаю. Гэткаю-ж тасемкаю вышываецца і не́йкі рысунак на грудзёх. Насоў шыецца з палатна і мае найбольш такую самую форму, як і сьвіта.

На галаве́ мужчыны носяць мяйсцамі шапкі з хатняга сукна — «маге́ркі», а найбольш нейкія куплёныя шапкі.

Жаночная вопратка (рыс. 56, 61) складаецца з вышытае на рукавох кашулі, саматканае каляровае з прыгожым рысункам спадніцы, або андарака, і гарсэціка, ці кітліка, з сукна, а то і шоўку ды аксаміту, які надзяваецца на кашулю. Заме́ста гарсэціка часта надзяе́цца звычайны каптан. На галаве́ замужнія кабе́ты носяць наметкі (рыс. 57) з доўгое палатніны, якою абкручуецца галава, а канцы спускаюцца ўніз. Носяць гэтаксама чапцы і найзвычайней — хусткі.



Рыс. 55. **Беларускія тыпы.**

Беларуская нацыянальная вопратка мае ў сабе́ шмат прыгожага; няма каму, аднак, у нас на вёсцы яе́ нале́жна цаніць. Ме́ста і салдатчына прышчапляюць вёсцы грубы смак да ме́ставых модаў; да гэтага яшчэ далучаецца дзешавізна фабрычных тканін, раўнуючы іх да самадзе́лкавых і дзякуючы ўсім гэтым прычынам нацыянальная вопратка шмат дзе́ пачала гінуць; яе́ замяняюць вопраткі з крамніны, пашытыя, як у паноў. Інтэліге́нцыя вясковая ў нас, на жаль, саўсім нядбае аб нацыянальнай вопратцы і навет, наадварот, пагладае часта на яе́ звысока, сама стараючыся пераймаць панскія моды і панскія звычаі. Усё-ж шмат дзе вопратка гэтая дажыла да нашага часу ў поўнай чыстаце́ і цяпе́р, калі настроі беларускага грамадзянства значна зьмяніліся ў нацыянальным кірунку, пэўне, не загіне.

**Будоўля.** Беларускі селянін жывець у дзераўляных хатах (рыс. 58), якія ў невялікіх сем'яў складаюцца з аднаго вялікага пакою, кле́ці і сяне́ц. У большых ды больш заможных се́м'ях дабудоўвуецца другі і трэці пакой. Да клеці-ж пристаўляецца паве́тка, дзе́ перахоўвуюцца



Рыс. 56. Жаночая вопратка з-пад Клецку.



Рыс. 57. Наметка.



Рыс. 58. Беларуская хата.



Рыс. 59. Гумнішча, ток і пуня.



Рыс. 60. Пераплот (азярод).

гаспадарскія прылады і дрэва, ды хлявы, так што ўвесь будынак звычайна выцягнуты ў адну лінію. Асобна, дзé-небудзь на вотшыбе, стаіць гумно, акружанае спэцыяльным дзядзінцам, або гумнішчам (рыс. 59). На гумнішчы стаяць азяроды, або перaплоты (рыс. 60), ў якіх сушаць снапы. Таксама для сушкі снапоў у гумнé будуюцца асеці (ёўні), з каменнай пéчкаю; карыстаюцца імі і як лазьнямі.



**Рыс. 61. Вопраткі малых дзяўчатак (з-пад Слуцку).**

Увесь будынак крыюць у нас саломаю, часам, у больш лясістых мяйсцовасьцях,— драніцаю, ў замажнейшых — гонтамі, навет бляхаю; на захадзе спатыкаецца ў вёсках і пакрыцьцё з дахоўкі, а таксама і дамы з цэглы. Мураванага фундамэнту пад дзераўляную хату звычайна не кладуць, замéста яго хату абсыпаюць зямлёю, робячы прызбу.

Увайшоўшы ў хату, бачым направа ад дзьвярэй вялікую пéч, проста перад дзьвярыма — ў левым куцé абразы, пад імі стол, вакол стала тапчаны і ўслоны або зэдлі. За печкаю каля правае сьцяны стаяць ложкі, робіцца палок і наагул тут сьпіць сямя гаспадара. У клéці селянін хавае сваё дабро і адзежу. Проці хаты на дзядзінцы стаіць звычайна сьвіран; там гаспадар перахоўвуе збожжа. Будуюць часамі яшчэ і варыўню, ў якой перахоўвуецца ўзімку варыва, вараць éсьці жывёле, робяцца катухі для курэй і г. д.

Каля хаты-ж звычайна бывае невялічкі садок, стаяць пчолы. Сад і дзядзінец з усіх бакоў абгароджваюць плотам; гэтым беларуская вёска моцна адрозьнюецца ад маскоўскае.

Беларуская вёска (рыс. 62, 63) складаецца звычайна з двох радоў хат, роўна адна пры аднэй пабудаваных паабапал шырокае вуліцы. Гэткі роўны і правідловы выгляд мае, аднак, толькі вёска, пабудаваная на роўнядзі. У гарыстых-жа мяйсцовасьцях, ды калі вёска будуецца ўздоўж рэчкі, фігура вуліцы і ўсяé вёскі залéжыць ад формы даліны і наагул павéрхні зямлі. Ўздоўж усяé вёскі за хатамі цягнецца паласа гародаў



Рыс. 62. Беларуская вёска ў Барысаўшчыне.

і канаплянікаў. Дзядзінец кожнага гаспадара разам з гародам і гумнішчам называецца с я л і б а ю.

У канцы вёскі звычайна бывае адгарожаны пляц зямлі, в ы г а н; там пасецца вясковая скаціна.

На ўсёй сялібе беларускага селяніна ляжыць знак гаспадарнасьці і парадку. Нічога тут няма лішняга, ўсё на сваім мéйсцы, ўсё мае сваё прызначэньне.



**Рыс. 63. Вёска ў Наваградчыне зімою.**

**Характар беларуса.** Розныя аўтары па рознаму апісавалі характар беларуса. Каб давéсьці, што беларусы ёсьць нéйкаю ніжэйшаю расаю, а гэта было патрэбна нашым імпэрыялістычным сусéдзям, шмат хто з этнографаў пануючых народаў прадстаўляў беларуса напоўдзікуном. Трэба было шмат сумлéннае працы праўдзівых вучоных, каб разьвéяць гэтыя памылковыя пагляды.

Беларус ня мае ў характары таé рызыкі, адкрытае і грубае прастаты, характэрнае для маскоўца; ня мае, йзноў-жа, лёгкадумнасьці, сьвéцкасьці і самахвальства, якімі гэтак часта вызначаюцца палякі. І ад украінца, з якім беларус мае наагул шмат супольнага, адзначаецца ўсё-ж ён сваім шчырэйшым сэрцам, ды можа, крыху большаю рухавасьцяю. Наагул,

характар беларуса больш паважны, спакойны і рахманы з добра разьвітаю воляю, панаваньнем над сабою і вытрываласьцяю ў працы. На пе́ршы пагляд здае́цца беларус крыху недаве́рчывым і скрытным; у кожным разе ён ня гэтак лёгка зыходзіцца з людзьмі, як масковец. Затое, як толькі ён абзнаёміцца з новым чалаве́кам і пераканаецца ў яго няшкоднасьці, робіцца ён і даве́рчывым, і шчырым, можа не праз ме́ру, але ў кожным разе нагэтулькі, каб завязаць самыя прыязныя адносіны.



**Рыс. 64. Даўнейшыя беларускія тыпы.**

Беларус добры гаспадар, шануе капе́йку, а крыху, можа, і скупаваты. Гэта не перашкаджае, аднак, яму быць ве́льмі гасьцінным; як, можа, ні ў аднаго з народаў, перахавалася ў беларусаў гэтая старая славянская цната. Ве́даюць добра аб

гэтым людзі, якім даводзілася пехатою праходзіць па Беларусі. Падарожнага ў беларускай хаце вельмі ахвотна прыймуць, накормяць і ня толькі ня возьмуць за гэта платы (што ўважаюць сабе за абразу), але яшчэ й падзякуюць, што зайшоўся. Беларус ізноў-жа любіць павесяліцца; вясёласьць у яго шчырая, ад усяе душы; гэта відно ўжо з адпаведных песьняў, прыкл., прыпевак да танцаў.

Ёсьць у характары беларуса адна важная рыса, якую згодна прызнаюць усе лепшыя этнографы. Беларус ня помніць злога і лёгка даруе сваім крыўдзіцялём. Пачуцьцё помсты ў ім неразьвіта, што адрозьнюе яго навет ад украінца, дый шмат ад якіх народаў. Гэтая рыса беларускага характару мела, мусіць, немалое значэньне ў беларускай гісторыі. Агульна ведама, што беларус у мінуўшчыне асабліва ваяўнічым настроем ніколі не вызначаўся і часткаю праз гэта, мусіць, у тыя часы, калі адны народы будавалі сваю дзяржаўнасьць і незалежнасьць на няволі і прыгнечаньні другіх, трапіў ён ня ў лік першых — прыгнятаючых, а ў лік другіх — прыгнечаных. Цікава адзначыць, што, ня гледзячы на ґэта, беларус у расейскай арміі лічыўся найлепшым салдатам: адважным, цьвёрдым, вытрывалым. Недахват ваяўнічасьці, значыць, трэба тлумачыць толькі гэтай лагоднасьцяю, рахманасьцяю беларускага народнага характару; беларус рад каму хаця саступіць, абы была згода. Зразумела, што пры гэткай лішняй, можа, міралюбівасьці гісторыя беларускага народу і не магла ўлажыцца іншым спосабам, як яна ўлажылася. Беларус быў увесь час вельмі прыдатным да ролі грамадзяніна будучыны, тае будучыны, калі справядлівасьць запануе між народамі, але быў мала падгатаваным да змаганьня за быт, за жыцьцё, якое йшло вакола яго і яго коштам, але на яго шкоду. Варта яшчэ адзначыць, што беларус саўсім ня знае рэлігійнага фанатызму ды шовінізму. Ня гледзячы на ўсе стараньні розных клерыкальных і шовіністычных групаў абудзіць у ім расавую або рэлігійную нянавісьць, гэта саўсім блізка не ўдавалася: беларус як найляпей жыве з сваімі суседзямі розных вераў ды розных нацыяў. Часта можна заўважыць, што беларускі селянін ходзіць па чарзе і ў царкву і ў касьцёл з аднакавай набожнасьцяю, ня гледзячы на забароны і дакоры духавенства, а найлепшым яго дарадчыкам у справах практычных звычайна ёсьць вясковы крамнік-жыд.

Тых навет, хто прадстаўляў сабе беларуса з найгоршага боку, заўсёды дзівіла прыгожасьць і багацьце яго **народнае паэзіі**, якую стварыў ён у жыцьці цяжкім, запрацаваным, загнаным. Мае беларус душу мягкую, з надзвычайна разьвітаю ўражлівасьцяю ды фантазіяю. Дзякуючы ім, стварыў ён бяз ліку цудоўных казак і прыгожых высокапоэтычных песьняў, насяліў сьвет вакола сябе разнароднымі духамі, благімі й добрымі, і жыве́ць напалову ў сьвеце гэтых духаў, не раўнуючы бы які чараўнік. У варунках народнае цемнаты гэткая асаблівасць беларускае душы параджае, з аднаго боку, бяз меры ўсякіх забабонаў, часамі навет і шкадлівых. З другога боку,

багацьце творчае энэргіі выяўляе беларус у цэлым кульце орыгінальных звычаяў і абрадаў, якімі абстаўлена ўсё яго жыцьцё ад калыскі да магілы. Гэтыя звычаі і абрады, ў большасці вельмі цікавыя, прыгожыя і поэтычныя, цесна зьвязаны з працоўным жыцьцём беларускага селяніна і сымболізуюць паасобныя момэнты гэтага жыцьця. На кожную пару году, кожную палявую работу мае вясковы беларус асобныя абрады і звычаі, асобныя песьні. Вясну ён спатыкае песьнямі — закліканьнямі, якія пяе вясковая моладзь, вышаўшы на абтаяўшы ад сьнегу ўзгорак у полі. Маладую рунь і свае надзеі на ўраджай вітае ён вялікоднымі песьнямі; веснавы расьцьвет прыроды і аканчальную перамогу лета над зімою — сёмушнымі звычаямі. У часе летняга сонцастаяньня, калі прырода ў найбольшай сіле ды красе, беларус сьвяткуе найпрыгажэйшае сваё сьвята—купальле, сьвята, выразна сымболізуючае рух сонца і яго жыватворную дзейнасьць. Прыгожымі старасьвецкімі песьнямі і абрадамі адзначаюцца ў нас дні зажынак і дажынак ды сьвяты ўраджаю і сялянскае заможнасьці:—багач, дзяды, каляды і г. д. А калі ўспомніць увесь ход абрадаў беларускага вясельля або хрэзьбінаў, дык трэба прызнаць, што беларускі селянін стварыў абрадавы культ шмат багацейшы, чым усе суседнія з ім народы. Праняты наскрозь поэзіяю працы, ён ёсьць, бязумоўна, карысным і патрэбным элемэнтам у нялёгкім сялянскім жыцьці.



**Рыс. 65. Беларус (з абраза Рэпіна).**

Тады, як у казках і легéндах, ды ў народных звычаях, адбіваецца багатая фантазія беларуса, ў пéсьнях выяўляецца глыбіня яго душы, далікатная, поэтычная, глыбака задуманая і найчасьцéй нéйкая засмучаная. Богушэвіч у «Дудцы Беларускай» гаворыць аб беларускай жалéйцы, што яна «éнча, а ня йграе, як ні выйгравай ты, а яна смутная», смутны голас даé. Гэныя словы можна сьмéла аднéсці і да народнае беларускае пéсьні; калі ня зьмéст, дык голас яé ў большасці поўны задумы і смутку. Гэта можа і зразумéла. У жыцьцёвай і гістарычнай барацьбé гэтулькі разоў беларус мéў няўдачы, што жыцьцёрадасны і сьвяточны настрой ніяк ня можа ў яго быць частым і звычайным.

**Прававыя паняцьці** беларускага селяніна і беларускае звычаёвае права найляпéй можна выясьніць, разглядаючы склад і будову сялянскае сям'і. Ува ўсёй блізка Беларусі, апрача самага крайняга яé ўсходу, пануе гэтак званая парасéйску «падворная» форма землеўладаньня, пры якой зямля налéжыць, як уласнасьць, да асобнае сялянскае сям'і і пераходзіць у ёй, як спадчына, ад бацькоў да дзяцéй і да сваякоў. Гэтая форма землеўладаньня моцна адрозьнюецца ад пануючае ў Расéі «обшчыннае» формы, калі зямля налéжыць да цэлае вясковае грамады і ў разе патрэбы перадзяляецца паміж асобнымі гаспадарамі.

Такім чынам, і ўласьнікам і гаспадаруючай сілай на зямлі ў нас ёсьць сям'я. Сем'і ў беларускай вёсцы часта бываюць дужа вялікія, па 30—50 і больш чалавек. Пакуль жывы стары бацька, пры ім жывуць жанатыя сыны і ўнукі, разам працуюць і ўсю гаспадарку маюць супольную. Часамі і пасьля сьмерці бацькі сям'я ўтрымліваецца; на мейсца бацькі гаспадаром становіцца старэйшы сын, іншыя яго слухаюць. Здараецца гэта, аднак, рэдка. Часьцей-жа пасьля сьмерці бацькі вялікая сям'я дзеліцца, і браты разыходзяцца кожын на сваю асобную гаспадарку.

На чалé сям'і наагул стаіць г а с п а д а р: ён кіруе работаю, яé парадкам, судзіць малодшых, загадуе грашыма. Улада яго, аднак, моцна абмяжаваная. Сваé загады ён робіць, парадзіўшыся з іншымі сябрамі сям'і; калі-ж выявіцца, што гаспадар няздольны вéсьці гаспадарку, бывае, што сям'я замяняе яго іншым сваім сябрам. Прыкл., на мéйсца бацькі-п'яніцы становіцца сын, калі ён сам лéпшы. У беларускай сям'і саўсім няма тога дэспотызму, які пануе ў маскоўскай сялянскай сям'і ды наагул на ўсходзе. Жанкі лічацца раўнапраўнымі сябрамі сям'і, а г а с п а д ы н я па свайму значэньню саўсім ня мéншая ад гаспадара. Яна, праўда, загадуе сваёй асобнай галіною працы — каля хаты і ў хаце, алé мяшаецца і ў «мушчынскую» гаспадарку; ўплыў яé залéжыць, вéдама, ад асабістых здольнасьцяў. Кабéта ў беларускай сям'і мае сваю ўласную маетнасьць, якая складаецца з пасагу і грошай ад прадажы ўсялякіх прадуктаў жаночае гаспадаркі — за масла, курэй, яйкі і г. д.

Беларуская сям'я часта прыймае да сябе здольнікаў, староньніх людзей, якія за сваю працу карыстаюцца ўсімі правамі сем'яніна і навет спадчынаю зямлі. Гэты факт саўсім выразна выяўляе, што беларуская сялянская сям'я ёсьць перад усім організацыяю працы. Усё ўнутраныя адносіны ў сям'і пабудаваны на працоўным прынцыпе і навет асабістае жыцьцё прыносіцца яму ў ахвяру. Гэтак, жэняцца ды выходзяць замуж у нас на вёсцы часта толькі для таго, каб мець патрэбнага ў сям'і работніка.

Апошнія часы парадкі ў беларускай сям'і пачынаюць зьмяняцца. Сярод крыху адукаванае маладзёжы расьцё пэўны індывідуалізм, імкненьне да асабістага, незалежнага жыцьця. З гэтае прычыны ўсё часьцей і часьцей здараюцца разьдзелы паміж братамі яшчэ за жыцьця бацькоў і вялікія патрыярхальныя сем'і робяцца рэдкасьцяю, асабліва ў мяйсцовасьцях каля чыгункі ды пад местам. Аднак і ў меншай на лік сям'і пануюць у значнай меры старыя пагляды і звычаі. Мэтаю сям'і застаецца перад усім належная організацыя працы.

**Рэлігійныя адносіны.** Беларусы бываюць найбольш дзьвёх вераў — праваслаўныя і каталікі. Сустракаюцца беларусы і іншых вераў — кальвіны, стараверы, мусульмане, але іх вельмі мала. Паміж беларусамі-каталікамі і праваслаўнымі апрача веры ніякае больш розьніцы няма. Толькі цёмныя і несьвядомыя людзі ды ашуканцы, бывае, кажуць, што каталікі — гэта палякі, а праваслаўныя — маскоўцы. Якой-бы веры ні дзяржаўся беларус, ён усё роўна беларусам астаецца.

У вялікшай часьці Беларусі беларусы-каталікі і праваслаўныя жывуць перамяшаўшыся. Але ў усходняй Беларусі (Магілеўшчына, Смаленшчына) вялізарная большасьць праваслаўных, а ў заходняй (Віленшчына, частка Горадзеншчыны і Віцебшчыны) большасьць каталікоў, а праваслаўных мала (рыс. 66).

Беларусаў праваслаўных лічаць у тры разы больш, чымся каталікоў, значыцца, першых ёсьць усяго каля 9-х міліёнаў, а другіх каля 3-х міліёнаў.

**Культурнае жыцьцё** беларусаў да апошняга часу прадстаўлялася, наагул кажучы, няцікава. З таго часу, як старая беларуская культура пасьля свайго пышнага расьцвету ў XYI і XYII вякох упала, а адукаванае грамадзянства ў значнай большасьці прыняло польскую культуру і мову, масы беларускага народу замкнуліся ў крузе народнае творчасьці, народнае мудрасьці, пераказванае ад пакаленьня да пакаленьня. Уплывы чужых культураў толькі ледзьве значнымі сьлядамі адбіваліся на народнай творчасьці і жыцьці беларускага селяніна. Калі-ж пасьля ўпадку Польшчы польскае і спольшчанае грамадзянства горача ўзялося за прасьвету, тады на працягу больш як паўвека ў краі нашым запанавала польская школа і польская культура. Не без карысьці яны былі для краю, але спольшчылі да канца беларускую шляхту; да сялянства, аднак, іх уплывы не дайшлі. Пасьля апошняга польскага паўстаньня 1863 г. расейцы пачалі

зялéзнаю рукою заводзіць у краі сваé парадкі, а перад усім сваé школы, адначасна ціснучы і касуючы польскія. Начас пачатку вайны расéйская школа ў Беларусі вéльмі моцна разраслася, пашырылася і зрабілася вéльмі паважным фактарам у краёвым жыцьці. Так сама, як і польская школа, яна была чужою для беларуса і мéла заданьнем перарабіць яго на маскоўца. Аднак мéла яна і свой карысны бок, як карысна наагул усякая прасьвéта. Асаблівай-жа заслугаю расéйскае школы трэба лічыць тое, што яна дала магчымасьць прасьвéты шырокім народным масам, дала ім магчымасьць выдзяляць сваю




**Рыс. 66. Рэлігія беларускага насялéньня.**

ўласную інтэлігенцыю, якая ўжо распачала будаваньне ўласнае беларускае школы і культуры.

Перад вайною ў Беларусі істнавала каля 10.000 расейскіх пачаткавых школ з поўміліёнам вучняў. На кожную тысячу жыхараў у Беларусі было каля 45 вучняў, пры гэтым найбольшы процант вучняў быў на ўсходзе — у Магілеўскай, Смаленскай і Чарнігаўскай губэрнях, а найменшы — у заходняй Беларусі, у Віленшчыне і Горадзеншчыне. Цікава адзначыць, што граматнасьць насялéньня, ня

глéдзячы на большы лік школ на ўсходзе, была там мéншая, чым на захадзе; з даложанае таблічкі можна навет зрабіць

Расейская школа і граматнасьць ў Беларусі.

| Губэрні: | На кожную 1000 жыхараў выпадала (у 1897 г.). | |
|---|---|---|
| | Вучняў расейскіх школ. | Неграматных. |
| Горадзенская . . . | 42 | 620 |
| Віленская . . . . . | 42 | 620 |
| Віцебская . . . . . | 46 | 670 |
| Мéнская . . . . . | 42 | 760 |
| Магілéўская . . . | 56 | 780 |

такі дзіўны вывад, што расéйскія школы перашкаджалі народнай прасьвéце і пашыралі няграматнасьць. Справа, аднак, тлумачыцца да пэўнай мéры тым, што на захадзе частка насяленьня, асабліва беларусы-каталікі, — байкатавала расейскія школы: дзяцéй па хатах вучылі г. зв. дарэктары, хатнія вучыцялі, звычайна без вялікае адукацыі. Але, з другога боку, трэба адзначыць, што расéйская школа ў Беларусі была далёкая ад дасканаласьці з боку пэдагогічнага. Вучні — беларусы, не разумеючы расейскае мовы, мусілі гэтак шмат часу і энэргіі страціць на абзнаёмленьне з ёю, што не маглі добра ўсвоіць самы зьмéст школьнае навукі і, выйшаўшы з расéйскае школы, хутка забываліся ўсё, чаго вучыліся, праз 4—5 гадоў ды йзноў рабіліся няграматнымі.







**Рыс. 67. Лік вучняў (у % да агульнага ліку насяленьня) ў Беларусі і ў Нямéччыне.**

Да таго-ж трэба заўважыць, што й лік гэтых школ быў ня дужа вялікі. У старонах з агульным навучаньнем (прыкл., у Нямéччыне) ў пачаткавых школах вучыцца каля 20 % насялéньня, тады як у нас у лéпшым выпадку было 6 %. (Рыс. 67, 68).

Было ў Беларусі перад вайною каля 100 гімназіяў з 40 тысячамі вучняў і каля 90 спэцыяльных школ (вучыцельскіх, гандлёвых, гаспадарскіх і інш.) з 8 тыс. вучняў. Вышэйшыя

школы істнавалі ў першай палове XIX в. (Віленскі унівэрсітэт (рыс. 69), Гарыгарэцкі гаспадарскі інстытут, Полацкая акадэмія), але былі закрыты расейскім урадам. Апошняя з іх — Гарыгарэцкі інстытут — істнавала да 1863 году. Перад вайною ні аднае вышэйшае школы ў Беларусі ня было.




**Рыс. 68. Граматнасьць насяленьня ў Беларусі і ў Нямеччыне.**

Толькі ў часе вайны пачала адраджацца беларуская школа; значна пашырацца пачала яна пасьля рэволюцыі. У нашым часе істнуець ужо ў Менску Беларускі дзяржаўны унівэрсітэт, ды ў Вільні істнуе унівэрсітэт з польскаю выкладовай моваю, а ў Смаленску й Віцебску — вышэйшые школы, ў якіх выклады йдуць толькі парасейску. Істнуе некалькі дзесяткаў сярэдніх беларускіх школ і шмат ніжэйшых, прычым у паасобных частках Беларусі ўжо заводзіцца агульнае навучаньне. Істнуе шмат беларускіх культурных організацыяў і ўстановаў па ўсёй Беларусі, а разбуджаныя нацыянальным адраджэньнем і рэволюцыяю народныя масы актыўна далучаюцца да культурнага жыцьця і творчасьці.

## § 30. НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ МЕНШАСЬЦІ.

Важнейшымі нацыянальнымі меншасьцямі ў Беларусі з'яўляюцца — жыды, палякі і маскоўцы. Іншыя нацыянальныя меншасьці значна меншыя лікам.

**Жыды** пачалі сяліцца ў Беларусі ад часоў Вітаўта. Прыйшлі яны да нас праз Польшчу з Нямеччыны; адтуль яны прынеслі і сваю мову, якой гавораць дагэтуль, г. зв. жаргон, або новажыдоўскую мову; яна вельмі блізкая да нямецкае мовы, але на яе мелі ўплыў і іншыя мовы. Моляцца-ж жыды ў даўнейшай жыдоўскай мове (або гэбрайскай), у якой гаварылі яны калісь, як яшчэ жылі ў Палестыне.

Быт жыдоўскага насяленьня знаходзіцца ў залежнасьці ад дзьвёх важнейшых прычынаў: ад загадаў жыдоўскае рэлігіі, якімі вызначаецца амаль што ня кожны крок людзкога жыцьця, і, з другога боку, спэцыяльнымі проціжыдоўскімі законамі розных урадаў; у апошнія часы асабліва гэтым уславіўся маскоўскі ўрад. Па расейскім законам, якія нядаўна яшчэ ў нас мелі сілу, жыды мелі права жыць толькі ў Беларусі, Польшчы і заходняй Украіне. Па ўсходняй мяжы гэтых краёў ішла г. зв. «черта осѣдлости», на ўсход ад якое, ў прасторах Маскоўшчыны, жыд ня меў права жыць. Шмат

абмежаваньняў істнавала для жыда і на захад ад «черты». Ён перад усім ня меў права жыць у вёсках, а толькі ў мéстах і мястэчках; гэта, між іншым, і было аднэю з прычынаў вялікае



**Рыс. 69. Віленскі унівэрсітэт. Астраномічная обсэрваторыя.**

гушчыні мястэчак у Беларусі, дый тога, што ў мéстах і мястэчках Беларусі жыды складаюць усюдых блізка большасьць насялéньня. З другога боку, гэтыя законы не дапускалі жыдоўскія масы да земляробства. Толькі рэдка калі ўдавалася

жыдом дастаць кавалак зямлі, каб залажыць там земляробскую колёнію. Гэткіх колёніяў ёсьць досіць многа ў Беларусі; яны паказуюць, што жыды маглі-б быць саўсім някепскімі землеробамі.

Была жыду закрыта дарога да дзяржаўнае ды шмат якое грамадзкае службы. Заставалася яму займацца толькі гандлем ды рамяством і прамысловасьцяю. У гандлёвай справе жыды гэтак выспэцыялізаваліся, што спрытнейшых ад іх гандлёвых пасрэднікаў няма. Але вельмі значны % жыдоў займаецца рамяством (шаўцы, краўцы, бляхары, кавалі і г. д.), дробнымі промысламі (вазакі, анучнікі), працуюць работнікамі ў буйной прамысловасьці і як хатняя служба. Сьціснутыя ў мястэчках і местах нашага краю, яны змушаны конкураваць між сабою, і затым навет гандляры жывуць небагата; маса-ж народная жывець вельмі бедна.

Жыды перахавалі да нашага часу сваю ўласную ўнутраную організацыю ў відзе рэлігійнае грамады — кагалу. Хаця расейскі закон не прызнаваў яго афіцыяльна, але толераваў ды дазваляў навет зьбіраць для патрэб кагалу спэцыяльныя падаткі з жыдоў, г. зв. сьвечны і каробачны падатак. Кагал выбіраў сам сваіх духоўных асоб. Адным словам, у часы самага цяжкога прыціску старога расейскага ўраду жыды мелі пэўнае самаўрадаваньне, мелі свае школы; ўсё гэта дазволіла ім моцна згуртавацца і зрабіць вялікую культурную працу сярод сваіх масаў. Наагул жыды ў наш час з'яўляюцца найляпей арганізаваным грамадзкім элемэнтам у Беларусі.

Найбольш жыдоў жывець у Горадзеншчыне і Меншчыне, ды ў Палесьсі (16—17 % усяго насяленьня). Найменш іх жыве ў Смаленшчыне, якая ўжо лічылася «праўдзіваю Расеяю» і ляжала на ўсход ад «черты оседлости».

**Палякі**. Да палякоў, жывучых у Беларусі, належаць: частка шляхты, буйных земляўласнікаў і іхняе дворнае адміністрацыі, частка інтэлігенцыі і частка мяшчанства некаторых местаў, як, прыкл., Вільні. Перабраліся яны да нас з Польшчы найбольш пасьля Люблінскае вуніі; частка-ж палякоў складаецца з выракшыхся свае мовы беларусаў. Польскія вучоныя, каб апраўдаць дзеяньні польскіх імпэрыялістычных палітыкаў, залічаюць часта палякамі ўсіх беларусаў каталіцкае веры, спадзяючыся на тое, што яны хутка сполёнізуюцца. Ў гэтым, аднак, ёсьць саўсім сьвядомы фалш. У наш час 3 міліёны беларусаў-каталікоў, хаця шмат хто з іх і ўмее па польску, ўжываюць звычайна беларускае мовы, беларускіх звычаяў і павінны лічыцца жывою часткаю Беларускага народу; разьвіваючыся сярод іх, нацыянальны рух робіць дарэмнымі ўсе надзеі на іх полёнізацыю.

Па перапісу 1897 г., які рабіўся досіць безстаронна*), палякоў у Беларусі налічана каля 4 %. Найбольш палякоў у Віленшчыне і Горадзеншчыне; ў Магілёўшчыне іх ужо вельмі мала, а ў Смаленшчыне — саўсім блізка няма.

**Маскоўцы** сяліліся ў Беларусі ў часы маскоўскага панаваньня. Маскоўскі ўрад, хочучы мацней зьвязаць Беларусь з Маскоўшчынаю, прысылаў сюды сваіх урадоўцаў, духаўнікоў, раздаваў двары маскоўскім вяльможам і перасяляў навет маскоўскіх сялян на беларускую зямлю. Найбалей такога насланага элемэнту ў усходняй Беларусі, асабліва ў Смаленшчыне.

Апрача таго, у Беларусі жывé досіць многа маскоўцаў-старавéраў, якія перабраліся сюды з Маскоўшчыны найбольш у XVII ды XVIII вякох, уцякаючы ад рэлігійнага прыціску свае Бацькаўшчыны.

Найбольш старавéраў жывéць у двох гнёздах: адно каля Навазыбкава, другое каля Дзьвінску. У сусéдніх з гэтымі мéстамі павéтах лік старавéраў хістаецца каля 10—15 % і даходзіць часамі аж да 20 % усяго насялéньня. Найбольш іх ёсьць у Брацлаўскім, Дзісьненскім і Дзьвінскім павéтах на поўначы, ды Навазыбкаўскім, Суражскім і Гомельскім пав. на паўдні. Навазыбкаўскія старавéры жывуць найбольш вялікімі мястэчкамі-пасадамі, якіх шмат ёсьць у лесастэпе. Жывуць старавéры ў мéншым ліку і ў іншых краінах Беларусі.

Старавéры-маскоўцы **) і па быту, і па нацыянальнаму характару вéльмі рэзка аддзяляюцца ад беларусаў, прадстаўляюць з сябé чысты маскоўскі тып і блізка што ня зьмéшаваюцца з акружаючым беларускім насялéньнем. Займаюцца яны найбольш гандлем, рамяством, а мяйсцамі — гародніцтвам; да земляробства вялікага замілаваньня ня маюць.

Нéкалькі дзесяткаў тысяч **татараў**, якія жывуць у Беларусі, пасяліліся тут яшчэ ў часы Вітаўта, які іх запрасіў да сябé на вайсковую службу. Дзякуючы свайму нязначнаму ліку, яны саўсім блізка зьліліся з акружаючым беларускім насялéньнем, адрозьнюючыся ад яго толькі музульманскаю рэлігіяю. Гавораць яны найбольш па беларуску. Асобную і цікавую этнографічную групу прадстаўляюць **цыганы**, выхадцы з Індыі, якія гавораць сваёй мовою і вядуць качавое жыцьцё. Частка іх, праўда, пакрысé асядае ў мéстах і бярэцца за рамяство.

## § 31. ЭТНОГРАФІЧНЫЯ І ГІСТАРЫЧНЫЯ МЁЖЫ БЕЛАРУСІ.

Тыя мéжы, якія аддзяляюць прастор, засéлены ў большасьці беларусамі, ад прастораў, занятых іншымі народамі, называюцца этнографічнымі мéжамі Беларусі. Як

*) Шмат безстароньней, прынамсі, чым апошнія польскія перапісы.

**) Есьць і беларусы-стараверы, быт якіх мала выдзяляецца ад быту беларусаў іншых вераў.

ве́дама, мяжуецца беларускі прастор з польскім, літоўскім, латыскім, маскоўскім і ўкраінскім (рыс. 70).

Мяжа беларускага й **польскага** пастораў ідзе́ ад м. Ме́льніка, што над Бугам, па гэтай рацэ ўніз, пасьля па р. Нурцу і далей пераходзіць на р. Нарву і Бабёр. Далей мяжа кіруецца на Аўгустоў і, падыйшоўшы да самае няме́цкае мяжы, пераходзіць пасьля ў край Літоўскі. Мяжа з **ліцьвінамі** йдзець каля мястэчкаў Друске́нікі, Рудзішкі, Еўе, Мусьнікі, Янішкі, Сьвянцяны і Езяросы (Нова-Аляксандраўск).

Ад Езяросаў пачынаецца мяжа з **латышамі**. Йдзе́ яна праз м. Ілукшты, Вышкі, Дагду, м. Люцын і да станцыі Корсаўкі.

Ад ст. Корсаўкі пачынаецца мяжа беларуска-**маскоўская**. Яна йдзець каля м. Апочкі, Вялікіх Лукаў, вярхоўя Дзьвіны ў кірунку на м. Ржэву і Зубцоў, датыкаючыся тут р. Волгі. Адгэтуль мяжа павяртае на паўдня, нейкі час ідзе́ па верхнім Дняпры аж да Дарагабужу. Не даходзячы гэтага места, мяжа паварочвае крыху на ўсход, а пасьля йдзе́ць ізноў у паўднёвым кірунку на места Бранск і далей па р. Дзясьне́ да м. Грамяча.

Ад м. Грамяча ўжо пачынаецца беларуска-**ўкраінская** мяжа. Йдзе́ць яна адгэтуль на поўдзень і паўднёвы ўсход, перасякаючы папалам Чарнігаўшчыну, аж пакуль ня трапіць да Дняпра каля Любеча. Ад Любеча мяжа йдзе́ ўніз па Дняпры да вусьця Прыпяці і там трапляе на старую гістарычную беларуска-ўкраінскую мяжу, якая йдзе́ цераз пустынныя лясы й балоты, што ляжаць на паўдня ад Прыпяці (Вялікія Галы й іншыя). Гэная мяжа ў нядаўныя часы разьдзяляла Ме́нскую і Горадзе́нскую губэрні ад Валынскае. Гэткім парадкам даходзіць мяжа Беларусі да Бугу каля ме́ста Ўладавы і далей ідзе́ ўніз па ім аж да м. Мельніка. У Мельніку канчаецца мяжа беларусаў з украінцамі і пачынаецца мяжа з палякамі.

Найдаўжэйшая мяжа Беларусі — з Украінаю; яна цягнецца каля 1000 вёрст. Мяжа з Маскоўшчынаю цягнецца на 900 вёрст, мяжа з Літвою — 400 вёрст, з Польшчаю — каля 250 вёрст і з Латвіяю — каля 200 вёрст.

На нашых ме́жах з Маскоўшчынаю праз уве́сь час гісторыі Беларусі йшлі войны, якія спусташалі ме́сты і вёскі і не давалі людзём добра асе́сьці і заве́сьці гаспадарку. Дзеля гэтага тамака даўне́йшае поле пазарастала ле́сам і цяпе́р Беларусь ад Маскоўшчыны аддзяляюць вялікія лясы — Вокаўскія, Бранскія ды іншыя. Ад Украіны Беларусь аддзе́лена або глыбокімі рэкамі, або непраходнымі балотамі. Вялікія пушчы растуць і ўздоўж нашых ме́жаў з Польшчаю ды Няме́ччынаю (Белаве́жская, Горадзенская), дый балотаў там даволі. А па нашых ме́жах з Літвою ды Латвіяй няма ні лясоў вялікіх, ні рэкаў, ні балотаў; толькі вазёраў ёсьць там шмат.

Межы Вялік. Кн. Літоўскага:
xxxxx заходняя перад Люблінскай Вуніяю
oooo заходняя і паўднёвая пасля Люблінскае Вуніі
— — — усходняя ў пачатку XVI в.
~~~ усходняя пасьля Дзевулінскага міру (1618)
••••• усходняя пасьля Андрусаўскага міру (1667)
—·— усходняя мяжа Інфлянтаў
—··— усходняя мяжа Беласточчыны (1795)
—— этнографічная мяжа

Корсаўка, 1667 - 1772, Інфлянты, Себеж, В. Лукі, Ржэва, Белы, 1514, Дзьвінск, Езаросы, Полацак, Сьвянцяны, Віцебск, Смаленск, Дарагабуж, Серпейск, Вільня, Сувалкі, Аўгустоў, Друскенікі, Богушы, Горадня, Менск, Магілеў, Навагрудак, Візна, Беласток, Слуцак, Бранск, Драгічын, Мельнік, Грамяч, Гомель, Берасьце, Пінск, Бела, Лоеў, Чарнігаў, Дубровіца, Олеўск, 1618

**Рыс. 70. Гістарычныя мéжы на прасторах Беларусі.**
**Увага.** Крыжыкамі назначана мяжа В. Кн. Літ. перад Люблінскай вуніяю; сьветлымі колкамі — мяжа пасьля Любл. вуніі (1569).
~~~

**Гістарычныя ме́жы**. Гэтак выглядаюць сучасныя межы Беларусі. У мінуўшчыне Беларусь ня раз была аддзелена ад суседзяў дзяржаўнымі межамі. Ня раз гэтыя межы рэзалі яе́ самую на часткі, не раўнуючы, як цяпер, а заўсёды пакідалі яны па сабе́ значны сьлед, які мае географічнае значэньне.

Першыя пэўныя гістарычныя ве́сткі аб Беларусі адносяцца да IX в. па Нар. Хр. Аб тым, што было ўпярод, мы можам толькі дадумавацца, апіраючыся перад усім на данныя, здабытыя раскопкамі курганоў (рыс. 71). Гэныя данныя кажуць, што старана нашая была заселена яшчэ ў самай далёкай мінуўшчыне — больш за 1500 гадоў назад. Ведама, цяжка ўгадаць, які тады тут народ жыў, але некаторыя вучоныя думаюць, што гэта маглі быць продкі беларусаў. На берагох тады яшчэ быўшага вялікага пале́скага возера яны жылі цэлымі асе́ліцамі, вёскамі; дале́й-жа на поўнач, у Наддзьвіньне, заходзілі толькі невялікія іх групы. Народ гэты ўжо вёў гандаль з сваймі суседзямі. У пазьнейшыя часы аб нашай старане́ пачалі пісаць розныя грэцкія географы і гісторыкі. Яны зьмяшчалі тут народы з рознымі йме́ньнямі, апавядалі аб іх і аб самой старане́ шмат фантастычнага, але іхнія ве́сткі мала памогуць нам дзеля сваё супярэчнасьці. Вучоныя нашых часоў будуюць сваё уласныя гіпотэзы аб тым, які народ жыў на прасторах цяпе́рашняе Беларусі і чым ён займаўся.



**Рыс. 71. Спрадве́чныя могілкі.**

Лічаць, што досіць значная частка Беларусі ў даўныя часы была занята літоўскімі і фінскімі пляме́ньнямі; асабліва пе́ршымі. Аднак у паўднёва-ўсходнім Пале́сьсі аж да Бярэзіны, бязумоўна, жыў народ славянскага пляменьня — продкі беларусаў. І да нашага часу якраз тут перахаваўся славянскі тып у найбольшай чыстаце́. З часам яны крыху адціснулі сваіх суседзяў — адных на захад, другіх на паўночны ўсход і занялі блізка той простор, які цяпе́р займае Беларускі народ.

**Полацкі пэрыод.** Подлуг пе́ршага ле́тапісу ў IX ве́ку на Беларускай зямлі жылі тры славянскія пляменьні — крывічы, дрыгвічы і радзімічы.

Крывічы займалі паўночную Беларусь. Яны жылі па ўсім Наддзьвіньні і па ве́рхнім Дняпры і спускаліся на паўдня аж да Вяльлі і вытокаў Сожу і Дзясны. На поўнач і ўсход пад крывічамі лічыліся прасторы, ляжачыя навет за цяпе́рашнімі ме́жамі Беларусі, найбольш над Ве́рхняю Волгаю і яе́ прытокамі. Ў зямлі крывічоў былі такія гарады, як Полацак, Віцебск, Смале́нск, Ме́нск, Лагойск і шмат іншых.

Дрыгвічы займалі Прыпяцкае Палесьсе і Наднёманскі край. На ўсходзе іхнія сёлы даходзілі да Дняпра, на захадзе — да Бугу і Нарві. Іхнімі найвялікшымі гарадамі былі: Тураў, Мазыр, Бе́расьце, Драгічын, Горадня і Слуцак.

Частка пляме́ньня Дрыгвічоў у часох перасяле́ньня народаў пакінула свой край, прабілася на Балканскі паўвостраў і асе́ла навакол Салонік. Грэкі звалі іх другувітамі. Мовы другувітаў навучыліся сьв. Кірыла і Мэфодзі, дый пераклалі на яе́ Св. Пісаньне.

Радзімічы жылі над Сожам і займалі ўвесь край паміж Дняпром і Дзясною. Іхнія паўднёвыя і ўсходнія ме́жы йдуць блізка што па цяпе́рашняй мяжы Беларусі. На Дзясьне́ яны сустракаліся з северанамі, а на Жыздры (прыток Окі) і вяцічамі — двума суседнімі славянскімі пляменьнямі. На поўначы яны ня йшлі далей лініі Ельня — Мсьціслаў — Магілеў.

Навукаю даве́дзена, што гэныя тры пляме́ньні ўжо ў тыя часы ня розьніліся паміж сабою ані моваю, ані правам сваім, ані рэлігійнымі абрадамі, ды ўсімі гэтымі супольнымі адзнакамі розьніліся ад пляме́ньняў, якія становяць пачатак Маскоўскага і Ўкраінскага народаў.

Беларускія пляме́ньні гісторыя знаходзіць ужо з сваймі князямі, з знакамі дзяржаўнае арганізацыі. Як раз, відаць, у IX і X вякох сярод беларускіх пляме́ньняў, як і сярод іхніх сусе́дзяў, пачынаецца процэс утварэньня моцных і вялікіх дзяржаваў.

На пе́ршы плян тут высоўваецца Полацак. Полацкія князі патрапілі падгарнуць пад сябе́ ўсю паўночна-заходнюю Беларусь аж да ве́рхняга Нёмна і Дняпра. Скора побач з Полацкам становіцца яго малодшы брат Смале́нск, пашырыўшы сваé ме́жы далёка на ўсход. На чале́ гэтых дзьвёх дзяржаваў стаялі крывічы. Два іншыя пляме́ньні — дрыгвічы і радзімічы вельмі хутка падпалі пад чужую ўладу, — іхнія зе́млі разабралі князьствы: Валынскае, Кіеўскае, Чарнігаўскае і Се́верскае.

**Гістарычныя ме́жы Беларуска-Літоўскае дзяржавы.** Але прыйшоў час больш шырокага і поўнага злучэньня Беларускіх пляме́ньняў і Беларускае зямлі. Літоўскі князь Міндоўг залажыў аснову новае дзяржаўнасьці, Літоўска-Беларускае, у беларускім ме́сьце Наваградку. Гэтая дзяржаўнасьць ужо пры

Міндоўгу абняла вялікшую частку Беларускае зямлі. Гедымін (1315—1340 г.) ўмацаваў Беларуска-Літоўскую дзяржаву і давёў яе́ ме́жы аж да Гомельскага паве́ту, Смале́ншчыны і Чарнігаўшчыны. Пры Ольге́рдзе была прылучана Чарнігаў-шчына і адрэзаны вялікі кавалак ад Смале́ншчыны. Апроч таго, Вялікае Князьства пашырылася далёка на паўдня на зе́млях украінскіх. Урэшце Вітаўт давяршыў зьбіраньне зямлі Беларускае, забраўшы Смале́нск. Пад ім знаходзілася ўжо ўся Беларусь.

Каля 100 гадоў жыла ўся Беларусь злучанаю — аж да часоў маскоўскага вялікага князя Васіля III, якому і яго наступнікам удалося адарваць у часе стогадовае вайны вялікі кавалак Беларускае зямлі. У пачатку XYI в. ад Беларусі была адрэзана ўся Смале́ншчына, паўночная і ўсходняя Віцебшчына (Се́беж, Не́вель, Вяліж), Гомельшчына і Чарнігаўшчына.

Масква добра ўмацавалася, і доўга не маглі вялікія князі літоўскія адабраць ад яе́ гэтых зе́мляў. Наадварот, маскоўцы ня раз пераходзілі з вагнём і мячом цераз усю Беларусь з канца ў кане́ц, а ў забранай частцы пазаводзілі свае́ маскоўскія парадкі, панасялялі маскоўскіх людзе́й, а тамашніх беларусаў масамі высялялі ў Маскоўшчыну.

Настаў, аднак, у Маскве́ «смутны час», і яе́ наступная сіла троху аслабела. Карыстаючыся гэтым, Літва, якая тады ўжо была ў сувязі з Польшчаю, адабрала назад тое, што заваяваў Васіль III і Іван IV, адабрала Смаленск, і йзноў давяла мяжу Літвы-Беларусі да яе́ прыроднага палажэньня. Па Дэулінскаму замірэньню (1618 г.) мяжа паміж Масквою і Літвою праходзіць па Дзясьне́ і верхняму Дняпру, — значыцца, па тэй мяжы, якая й цяпер дзеліць Беларускі народ ад Маскоўскага. Ізноў Беларусь злучылася, але ненадоўга. Пасьля цяжкіх войнаў, па Андрусаў-скай згодзе (1667 г.), Маскоўшчына йзноў адабрала Смален-шчыну і Чарнігаўшчыну. Мяжа ўстаноўлена была акуратна па цяперашніх усходняй і паўночнай межах Магілеўскае ды Віцебскае губэрняў.

У гэткім стане заставалася Беларусь ажно да разьдзе́лаў Польшчы. Па пе́ршым разьдзе́ле (1772 г.) Масква забрала паўночную і ўсходнюю Беларусь. Мяжа праходзіла па Дзьвіне і па Друці. У другі разьдзе́л (1793 г.) да Масквы адыйшла Ме́ншчына і прылягаючыя паве́ты. Мяжа йшла ад Дзьвінску на Пінск. Урэшце па 3-м разьдзе́ле да Масквы адыйшла ўся Беларусь апрача паве́таў Беластоцкага, Бе́льскага, Сакольскага і Аўгустоўскага, каторыя адыйшлі да Прусіі. Гэтыя паветы ў 1814 г. па Тыльзіцкай згодзе таксама прылучаны былі да Расе́і.

Гэткім парадкам у 1814 г. ўся Беларусь ізноў злучылася, пад Расе́яю, і гэтак была ажно да вялікае вайны 1914 году.

Мы разглядалі мяжу Літоўскага Князьства, як мяжу Беларусі, дзеля таго, што фактычна гэта была дзяржаўнасьць беларуская — з беларускаю культураю, моваю, законамі і з пераважаючым уплывам на дзяржаўныя справы б е л а р у с-

кага грамадзянства. На захадзе Вялікае Князьства Літоўскае межавалася з Польшчаю, або Каронаю, па лініі Граева — Візна — Драгічын — Бела. Каля в. Багушоў пры самай даўнейшай расе́йска-няме́цкай граніцы (недалёка ад ст. Граева) і дагэтуль стаіць каме́нны стоўб, паказуючы граніцу Літвы і Кароны (Польшчы); пастаўлены ён у 1545 г.*). Пазьне́й Літоўскае дзяржава злучылася ў фэдэрацыю з Польшчаю, але юрыдычна ўве́сь час лічылася самастойным гаспадарствам. На Люблінскай уніі была замацавана мяжа паміж Польшчаю і Літвою-Беларусяю. Яна йшла па цяпе́рашняй паўднёвай мяжы Ме́нскае і Горадзе́нскае губэрняў і дале́й на Бе́лу, Ме́льнік і Аўгустоў.

**Значэньне гістарычных ме́жаў** вялізарнае. Як мы бачылі, Беларускі народ блізка цераз уве́сь час сваé гісторыі жыў пад уладаю ці прынамсі пад моцнымі ўплывамі іншых народаў: маскоўцаў і палякоў. Народ уладар заўсёды стараўся налажыць сьле́д сваé культуры на зямлю Беларускую і на самую душу Беларускага народу; ён стараўся тую частку зямлі Беларускае, якая была пад ім, назаўсёды зьвязаць з сабою. І трэба сказаць, што хоць Беларускі народ сьвядома й несьвядома бараніўся ад палітычнае і культурнае няволі, аднак шмат удалося пакінуць сьлядоў свайго панаваньня і маскоўцам і палякам. Гэтыя сьляды пазаставаліся, ве́дама, толькі на тых краёх Беларусі, якія ў свой час былі даўжэй пад Маскоўшчынаю ці Польшчаю.

Вось-жа ве́даньне гістарычных ме́жаў Беларусі ве́льмі паможа нам разабрацца ў шмат якіх фактах сучаснасьці. Прыкладам, проф. Карскі вызначыў лінію, да якое даходзяць моцныя ўплывы маскоўскае мовы на беларускую. Гэная лінія йдзе блізка што па тэй самай мяжы, якая ўстанавілася ў часе стогодніх войнаў з Маскоўшчынаю пры Васілі III. Краі, ляжачыя на ўсход ад лініі, праве́дзенае проф. Карскім, былі пад Маскоўшчынаю на 100 гадоў больш, а частка іх, што адыйшла да Масквы па Андрусаўскай згодзе, — на 200 гадоў больш, чымся рэшта Беларусі.

Заходняя і цэнтральная Беларусь была пад Маскоўшчынаю каля 125 гадоў, паўночная Віцебшчына і Гомельскі край — каля 230 гадоў, а Смаленшчына і Чарнігаўшчына — 335 гадоў.

---

*) Gloger. Encvklopedja staropolska.

# РАЗЬДЗЕЛ VI.

## Се́льская гаспадарка.

### § 32. ЗЕМЛЯРОБСТВА.

Блізка тры чве́рці насяле́ньня Беларусі займаецца каля зямлі. Рэшта — працуе на хвабрыках, займаецца рамяством, гандлем і ўсякаю службаю, й жыве́ найбольш у местах.




**Рыс. 72. Заняткі насяле́ньня ў Беларусі і ў Няме́ччыне.**

У тых краінах Беларусі, дзе ёсьць вялікія ме́сты, дзе шмат хвабрыкаў і заводаў, там ме́нш людзе́й працуе каля зямлі, а больш мае іншыя заняткі. На ўсходзе Беларусі найбольш народу займаецца гаспадаркаю, на захадзе-ж, у Горадзеншчыне, — наадварот, найме́нш. Аднак і ў Горадзеншчыне з сотні чалаве́к больш як 60 займаецца каля зямлі.

Гэткім парадкам Беларусь трэба лічыць краем землеробскім. Толькі Маскоўшчына ды Ўкраіна спаміж эўропэйскіх краёў маюць гэткі самы, як і Беларусь, землеробскі характар. Ужо ў Польшчы каля зямлі занята толькі крыху больш палавіны насяленьня. У Заходняй Эўропе % землеробаў (рыс. 72) яшчэ ме́ншы (ў Няме́ччыне 35 %, а ў Англіі — ўсяго 12 %).

**Ужыцьцё зямлі** (рыс. 73). Значная часьць зямлі ў Беларусі ляжыць зусім бяз усякага ўжытку, — гэта балоты, пяшчаныя выдмы, а гэтаксама й прасторы, занятыя вазёрамі й рэкамі. Усіх такіх няўжыткаў каля 4 міліёнаў дзесяцін. Праўда, значную частку гэтых зе́мляў можна было-б выкарыстаць, абсушыўшы балоты, пасе́яўшы ле́с на пяскох ды завёўшы добрую рыбную гаспадарку на вазёрах. Але пакуль што — ад іх карысьці ніякае.

Яшчэ большы прастор занялі лясы і гаі. Трэба лічыць, што іх ёсьць каля 10 міліёнаў дзесяцін. З лесу нашая гаспадарка мае вялікую падмогу. Гаспадарка бяз грошай, бяз капіталу ня можа паляпшацца. Вось гэты капітал даюць лясы,

якія патрабуюць ад гаспадара самых малых на сябе затратаў і даюць чысты зыск. Хто мае свой лес, зарабляе на продажы, хто лесу ня мае, наймаецца на работу, зарабляе сваёй мазольнаю працаю ў лесе.

Разам лясы і няўжыткі займаюць бязмалага палову ўсяго прастору Беларусі. Значыцца, пад гаспадарку застаецца крыху болей паловы ўсяе зямлі, каля 16 міліёнаў дзесяцін.

З гэтага ліку прымерна трэцяя часка — пад сенажацямі. Найбольш сенажацяў ёсьць на прасторах Палескае нізіны. Тамака яны займаюць безканечныя даліны рэкаў і падсушаныя і расьцярэбленыя балоты. З усіх сенажацяў Беларусі накошуецца каля 300 міліёнаў пудоў сена. Дзесяціна сенажаці дае у нас небагата — ўсяго каля 60 пудоў сена (3—4 вазы-калясьнікі).



Рыс. 73. Ужыцьцё зямлі ў Беларусі.

Па прастору сенажацяў Беларусь можа лічыцца багацейшаю за ўсе суседнія з ёю краі, асабліва на ўсходзе Эўропы. Калі прыняць пад увагу, што пасьля асушэньня шмат балотаў абярнулася-б у сенажаці, ды што скаціна мае пашу яшчэ ў вялізарных нашых лясох, трэба прызнаць, што ў Беларусі выключна добрыя варункі для гадоўлі скаціны.

Ворнае зямлі ў Беларусі каля 11 міліёнаў дзесяцін.

**Дворная і вясковая гаспадарка.** Накшая гаспадарка ў дварох, накшая ў вёсках. Вясковы гаспадар мае некалькі дзесяцінаў зямлі і працуе на ёй сам з сям'ёю. У двары зямлі некалькі сотняў, а то й тысячаў дзесяцін. Гаспадар двара сам не працуе на полі; за яго працуюць найміты-парабкі.

Вясковаму гаспадару трудна пракарміцца з сваго кавалку зямлі. З усіх сіл стараецца селянін, каб павялічыць свой палетак: расьцярэблюе пасекі, хмызьнякі й балоты, ні аднаму кавалку зямлі ня дасьць гуляць. Лесу вясковы гаспадар па большай часьці ня мае; калі й меў, дык упатрэбіў.

У двары хлеба хапае. Лепшую зямлю гаспадар гарэ, горшую запускае пад лес. Чуць ня ўсе нашыя лясы стаяць на дворнай зямлі. Шмат дворнае зямлі ляжыць пад зарасьнікамі і дзірванамі. За тое дворныя балоты часьцей бываюць асушаныя, чымся сялянскія, часамі больш іх і расьцярэблена. Больш сілы ў двара, больш капіталу.

Ёсьць яшчэ ў нас зямля скарбовая; яна ўся блізка ляжыць пад лясамі і няўжыткамі. Да дзяржаўнага скарбу належыць каля 2 міліёнаў дзесяцін.

Даўнéй (гадоў 50 назад) дворнае зямлі было шмат больш, чымся сялянскае. Дворнае было 15 міліёнаў, сялянскае 12 міліёнаў дзесяцін. Але з кожным годам і лік двароў, і дворнае зямлі зьмяншаецца: яé раскуплялі сяляне і наагул дробныя гаспадары. На мéйсцы даўнéйшых двароў разсыпаліся дробныя фаліваркі, засьцéнкі і хутары пакупцоў.

Апошнімі часамі дворнае зямлі, трэба лічыць, было гэтулькі, прымéрна, колькі сялянскае, г. зн. каля 12 міл. дзес. Рэшта даўнéйшае дворнае зямлі перайшла да дробных пакупцоў.

У Беларусі перад вайною было каля 10.000 двароў і да іх належыла 40 % усяго прастору зямлі Беларусі, тады як міліёны дробных гаспадароў валадалі толькі паловаю зямлі. Гэткая няроўнасьць у падзéле зямлі была прычынаю апошняе зямéльнае рэволюцыі, якая скончылася ў усходняй Беларусі пераходам значнае часткі дворнае зямлі ў карыстаньне сялянства і гэткім чынам грунтоўна зьмяніла там зямéльныя адносіны. У Заходняй Беларусі разьвіваецца пакрысé працэс парцэляцыі дворнае зямлі, прадажы яé дробным пакупцом.

## § 33. ЗАСÉВЫ І ЎРАДЖАІ ПАЛЯВЫХ РАСЬЛІНАЎ.

Культура палявых расьлінаў, якая вядзéцца на 11 міліёнах дзесяцін ворнае зямлі, ёсьць асноваю экономічнага жыцьця Беларусі. Яна жывіць людзкое насялéньне нашага краю, хатнюю жывёлу, даé сыры матар'ял для пераробкі ў фабрычнай прамысловасьці. На пéршы плян выступаюць у нас патрэбы пражыўлéньня насялéньня; беларускі земляроб перадусім думае аб тым, каб уласным хлебам пражывіцца да будучага ўраджаю. Гаспадарка нашая яшчэ вéльмі слаба ўцягнута ў мéжы ўплываў сусьвéтнага таваразамéну і ў значнай меры ёсьць *натуральнаю*, г. зн. абслужуе сваімі прадуктамі самаго гаспадара і яго сям'ю, — і толькі ў малой мéры прадаé сваé прадукты на старану.

З гэтых прычынаў найбольш сеюць у нас на полі — **жыта**, якое разам з бульбаю зьяўляецца галоўным спосабам пражыўлéньня жыхараў Беларусі. Да таго-ж яно ня вéльмі пераборлівае на зямлю, наагул якраз адпавядае нашаму мéрнаму і вільготнаму клімату і добра ўдаéцца навет на досіць бéдных грунтох. Звычайна займае жыта трэцюю частку ворнага поля ў гаспадарцы — *жытнюю зьмяну*. Апрача жытняе зьмяны бываюць яшчэ звычайна ў кожнай гаспадарцы — яравая і папарная. У яравой зьмянé сеюць ярыну: авёс, ячмéнь, бульбу і г. д. Ў папарнай зьмянé зямлю падгатаўляюць на жыта. Цэлы год яна быццам адпачынае, яé нéкалькі разоў пераворуюць, скародзяць (барануюць) і ў канцы — сеюць на ёй жыта. Такім чынам, беларускі гаспадар, як бачым, не шкадуе працы і stратаў (год-у-год траціна зямлі гуляе, ня прыносячы даходу) — толькі каб запэўніць сабé ўраджай жыта.

Парадак гаспадаркі, калі зямля падзе́лена на тры зьмяны і з іх адна ёсьць папарная, называецца трохпалёўкаю.

У паўднёва-заходняй Беларусі ў жытняй зьмяне́ апрача жыта се́юць яшчэ **пшаніцу-азімку**. Любіць гэтая збажына ўжо ле́пшыя зе́млі, дый наагул больш капрысная, чым жыта. За тое й се́юць яе́ ў нас наагул мала.

Прасторы культурных расьлінаў у Беларусі
і ў Няме́ччыне (Прусіі).

| На 1000 дзесяцін, занятых 4-ма важне́йшымі гатункамі збожжа, займалі дзесяцін: | У Беларусі (1911) | У Прусіі (1913) |
|---|---|---|
| Пшаніца | 36 | 117 |
| Жыта | 596 | 498 |
| Ячме́нь | 98 | 92 |
| Авёс | 270 | 293 |
| Грэчка | 58 | 4 |
| Проса | 5 | — |
| Гарох | 36 | 10 |
| Сачоўка | 1 | — |
| Бульба | 149 | 235 |
| Буракі | — | 34 |
| Лён | 39 | 1 |

Найбольшыя прасторы ворнае зямлі пасьля жыта займаюць у Беларусі авёс, бульба і ячме́нь. Шмат яшчэ сеюць у нас грэчкі, лёну й гароху; сеюць таксама — пшаніцу-ярыцу, каноплі, проса дый інш. расьліны.

**Аўса** сеюць у Беларусі ўсюдых шмат, а найбольш — у Смале́ншчыне. Расьліна гэтая добра зносіць мокры й халодны клімат, падзолістыя грунты, дый клопату з ёю мала; за тым яго й любіць халодная, з кароткім ле́там, ды нявысокай гаспадарнай культурай Смале́ншчына. Наагул займае авёс прастору ў два разы ме́нш, чым жыта. Але на паўднёвым усходзе Беларусі (ў Чарнігаўшчыне ды ля Прыпяці й Сожу) се́юць яго ме́нш. Тут яго ме́йсца займаюць грэчка й бульба.

**Ячме́ню** найбольш се́юць у Віцебшчыне, што тлумачыцца блізкім сусе́дзтвам Балтыцкіх краёў (Латвіі), дзе ячме́ню се́ецца асабліва шмат. Наагул у цэнтральнай і заходняй Беларусі ячме́нь займае значныя прасторы (разы ў $2^1/_2$ ўсё-ж

ме́нш, чым авёс). У Віцебшчыне значная частка ячме́ню йдзе́ць на бравары і перакуруецца на піва.

**Бульбы** садзяць у нас шмат, дый добра яна ўдае́цца ў Беларусі, асабліва на лёгкіх грунтох, якіх тут ёсьць гэтак многа. Найбольш яе́ садзяць на паўдні й захадзе. Займае тут яна вялікія прасторы, а йдзе́ найбольш на бравары, дзе з яе́ гоняць сьпірт. Найбольшыя прасторы засаджуюць бульбаю ў паве́тах Рачыцкім, Суражскім, Гомельскім, Навазыбкаўскім, і асабліва ў Беласточчыне ды Горадзеншчыне.

У ле́пшых гаспадарках се́юць **кармовыя буракі**, на корм скаціне. Яны патрабуюць добрае гнойнае зямлі й шмат працы, але даюць вялікую карысьць.

Урэшце на паўдні дзе-ня-дзе се́юць **цукровыя буракі**, з якіх робяць цукар. Гэтыя буракі, аднак, могуць расьці таксама блізка што і па ўсёй Беларусі на ле́пшых глыбокіх грунтох. Даўне́й у нас былі й сває́ цукраварні, напр., у Пінскім павеце, у двары Парэччы, а навет у паўночнай Беларусі — у Ле́пельшчыне (Бешанковічы), ды пазакрываліся дзеля розных прычынаў.

**Грэчкі** найбольш се́юць на пяшчаных грунтох у паўднёвай Беларусі. На поўначы яе́ се́юць мала, бо яна баіцца халадоў і дзеля таго, што там наагул больш цяжкія грунты. На паўдня ад лініі Пінск — Магілеў — Рослаў грэчкі сеюць асабліва шмат. На пескавых разлогах паўднёвага Пале́сься іншае збожжа родзіць слаба, а грэчка ўдае́цца. У Чарнігаўшчыне і суме́жных з ёю частках Магіле́ўшчыны грэчкі се́юць так многа, што яна займае часамі большую палавіну яравое зьмяны. Шмат се́юць грэчкі і ля Нёмну, ў паўночнай Горадзеншчыне, і ў Лідзкім паве́це.

На поўначы Беларусі, ў Віцебшчыне й Смале́ншчыне, вялікае значэньне мае **лён**. Для дамовага ўжытку се́юць лён усюдых, але ў вышэйпамянёных краёх се́юць лён на продаж. Се́юць яго найбольш на дзерванох і пасьля канюшыны. Лён тут удае́цца добры і дае́ вялікае грашавое падтрыманьне гаспадарцы. Найбольш лёну се́юць у паўночнай Смале́ншчыне (Бе́льскі, Духаўшчынскі, Красенскі, Парэцкі, Дарагабужскі паве́ты). Даўне́й і ў Заходняй Беларусі лён займаў вялікія прасторы. З павышэньнем земляробскае культуры сталі яго се́яць ме́нш, бо ён занадта моцна вынішчуе зямлю.

**Каноплі** ўва ўсёй Беларусі се́юць у гародах па якім гарцы. На паўднёвым-жа ўсходзе Беларусі (Чарнігаўшчына, суме́жныя з ёю часьці Магіле́ўшчыны й Смале́ншчыны) канопляў се́юць шмат і продаюць пяньку. Пянька тут мае такое самае значэньне, як на поўначы лён. Яна прыносіць у гаспадарку вольны грош на зварот, на падаткі і на патрэбную ў гаспадарцы куплю. Затое яна так сама, як і лён, моцна вынішчуе поле. Там, дзе се́юць больш канопляў, пад іх ідзе́ ўве́сь гной і для рэшты поля нічога не застае́цца.

Ў паўднёвай Беларусі се́юць патроху **проса** — ў Мазырскім, Рачыцкім, Гомельскім ды інш. паве́тах. Так сама ў паўднёвай Беларусі, асабліва ў Чарнігаўшчыне, се́юць досіць многа **табакі**. Тамашнія гаспадары маюць з табакі вялікую карысьць. Прыказка навет кажа, што «без табакі няма чым падаткаў плаціць». Трэба заўважыць, што якраз у беларускай Чарнігаўшчыне разводзяцца найбольш цэнныя сарты табакі (амэрыканскія, або цыгарныя).

Апрача збожжа се́юць яшчэ на полі **траву:** к а н ю ш ы н у, в ы к у, с а р а д э л ю, ц і м а х в е́ й к у ды інш.; найбольш се́юць канюшыны й выкі. Шмат канюшыны й цімахве́йкі се́юць у Смале́ншчыне й Віцебшчыне, бо пасьля іх добра ўдае́цца лён. Іншых траваў там мала знаюць. Затое на захадзе Беларусі побач з канюшынаю, якой се́юць так сама багата, знаходзіцца шмат выкі (на цяжэйшых грунтох) і сарадэлі (на пяскох). З гэтых траваў выходзіць сена надта дагоднае для малочных кароў.



**Рыс. 74. Сяве́ц у Магіле́ўшчыне.**

Се́юць яшчэ ў нас на палёх **лубін**. Лубін увосені, як ён вырасьце высокі, заоруюць, і ён угнойвае зямлю. Асабліва карысны лубін на бе́дных пяшчаных грунтох, якія ён можа праз не́калькі год зрабіць ураджайнымі. Лубін — гэта новая расьліна. Се́яць яго пачалі гадоў 10—20 таму назад, а ўперад у нас яго ня знаді. Так сама нядаўна пачалі се́яць сарадэлю, выку і наагул траву.

**У р а д ж а й н а с ь ц ь** зямлі залежыць ад характару грунтоў і клімату, але яшчэ больш — ад працы, энэргіі і ўмеласьці чалаве́ка. На такіх самых грунтох, якія ў нас даюць ураджаі ў сярэднім па 40—50 пудоў жыта з дзесяціны, няме́цкі гаспадар (у крыху, можа, лагадне́йшым клімаце) зьбірае 100 і больш пудоў.

Сярод краінаў Беларусі найбольш ураджайнаю лічыцца С л у ч ч ы н а і Н а в а г р а д ч ы н а. Добрыя ўраджаі дае́

зямля і ў Горадзеншчыне ды Падлясьсі (Бе́льскі пав.), дый яшчэ — у Смаленшчыне. Самыя нізкія ўраджаі ў Віцебшчыне й Віленшчыне.



Рыс. 75. Араты ў Смале́ншчыне.

Ўсяго збожжа, якое йдзе́ на пражыўле́ньне людзям (апрача аўса і бульбы), намалочуюць у Беларусі каля 180

**міліёнаў пудоў,** у гэтым ліку каля 140 міліёнаў пуд. жыта. Часамі свайго збожжа не хапае на пражыўле́ньне ўсяго насяле́ньня Беларусі. Так, прыкл., у 1910 годзе з Беларусі было вывезена каля 10 міліёнаў пуд. збожжа, а прывезена — каля 30 міл. пуд. Вывозім мы наагул найбольш жыта й ячме́нь, а прывозім блізка што адну толькі пшаніцу й пшанічную муку: гэтыя прадукты йдуць да нас з Украіны.

Увесь блізка прывозны хлеб ідзець у нас у месты: Вільня прывозіла да сябе́ 4 міл. пуд. збожжа і мукі, Беласток — каля 3 міл. пуд., Віцебск — 3 1/2 міл. пуд. і г. д. Лічаць, што значная частка гэтага хлеба йшла на харчаваньне войска, якога ў расейскія часы асабліва шмат стаяла ў Беларусі, як краі, блізкім да расейска-нямецкага рубяжу. Вёска-ж мала карысталася прывозным хлебам. Толькі ў некаторых палескіх паветах, дзе насяленьне, занятае ляснымі промысламі, мала зьвяртала ўвагі на гаспадарку, ды ў Віцебшчыне*) прывозны хлеб ішоў пакрысе́ і ў вёску; здаралася гэта найбольш у неўраджайныя гады. Затое багацейшыя паветы, як, прыкл., Случчына, увесь час вывозілі збожжа ў іншыя паветы ды за межы Беларусі. Недахват уласнага хлеба вясковае насяленьне найчасьцей запаўняе бульбаю, якое ўсюдых годзе.

З іншых прадуктаў палявое гаспадаркі Беларусь (ляпе́й кажучы, яе́ ўсходняя частка) вывозіць за свае́ ме́жы каля 2-х міліёнаў пуд. ільнянное кудзе́лі і каля 1 міліёну пуд. пянькі. Рэшта-ж Беларусі, асабліва Меншчына й Палесьсе, вывозіць заграніцу шмат сьпірту (каля 9 міл. вёдраў). Вывазам гэтых прадуктаў, асабліва апошніх, дзякуючы іх высокай цане́, заўсёды пакрываецца прывоз у Беларусь не хапаючае ёй для харчаваньня ме́стаў пшанічнае мукі, а гэта дазваляе лічыць, што палявая гаспадарка Беларусі ў поўнасьці задавальняе харчоўныя патрэбы насяле́ньня Беларусі.

Дзякуючы роўнаму і лагоднаму клімату, зямля нашая дае́ калі ня надта багатыя, дык затое сталыя ўраджаі. Вялікіх неўраджаяў, якія часта здараюцца на ўсходзе, у нас блізка што ня бывае. Ды наагул прывозіць Беларусь хле́б са староны не таму; што ня можа прахарчавацца сваім, а таму, што

---

*) Заслужоны віцебскі вучоны А. Сапуноў лічыць, аднак, што Віцебшчыне свайго хле́ба саўсім хапае. «Віцебская губэрня, — піша ён, — прывозіць выключна толькі пшанічную муку, якую з лішкам аплочуе сваім вывазам жыта, ячме́ню, аўса, лёну і льнянога сяме́ньня, ня кажучы ўжо аб вывазе вялізарнага ліку дрэва. А значыць, пашыраная думка (ўвайшоўшая навет у ўсе́ падручнікі географіі) аб нашай губэрні, як найбяднейшай у Расеі, — несправядлівая. Гэткі пацяшаючы вывад пацьвярджаецца й даннымі Віцебскага Статыст. Камітэту: ў 1892 г. ў Віцебскай губэрні лішкі азімага збожжа было 48 тыс. чэцьвярцяў, яравога — 604 тыс. чэцьв. і бульбы — 48 тыс. чэцьв. Трэба дадаць, што 1892 г. па свайму ўраджаю ня ве́льмі вызначаўся між ураджаямі апошніх гадоў». Трэба спадзявацца, што новыя й больш старанныя дасьле́ды выявяць, што рэшта Беларусі яшчэ ляпе́й, чым Віцебшчына, забясьпе́чана сваім збожжам і можа абыходзіцца без прывозу.

гаспадарка яé цяпéр ужо мéнш цікавіцца вытварам зярна й сваю ўвагу што раз, то больш зьвяртае на больш зыскоўныя галіны гаспадаркі, асабліва на гадоўлю скаціны, дзеля якое трэба разводзіць шмат траваў, бульбы й буракоў, ды на тэхнічныя расьліны — лён і каноплі. Усé на захад ад Беларусі ляжачыя эўропэйскія краі гэтак сама, як і Беларусь, маюць недахват уласнага хлеба і прывозяць яго са стараны. Наадварот, Маскоўшчына і асабліва Ўкраіна вывозяць шмат хлеба заграніцу.

Пры павышэньні роўня земляробскае культуры Беларусь, аднак, магла-б, бязумоўна, ня толькі заўсёды абыйсьціся сваім хлéбам, але ў значнай мéры і вывозіць яго заграніцу.

## § 34. СЫСТЭМЫ АБО СПОСАБЫ ЗЕМЛЯРОБСТВА.

Мы ўжо абзнаёміліся з адным са спосабаў земляробства — з трохпалёўкаю, якая найбольш пашырана ў сялянскіх гаспадарках па ўсёй Беларусі. Пры т р о х п а л ё ў ц ы ворная зямля падзелена на тры зьмяны і з гэтых зьменаў адна — папарная (кожын год іншая) — гуляе. У восень на папары сéюць жыта.

Апрача трохпалёўкі ёсьць і іншыя способы гаспадаркі, і лéпшыя й горшыя, ці, можа, сказаць ляпéй, і вышэйшыя, і ніжэйшыя. Бо ўсюдых гаспадарка ўпéрад была горшаю, а пасля паднялася ўгару — зрабілася вышэйшай, лепшаю. Паляпшаецца гаспадарка ад таго, што на яé чалавéк больш працы й капіталу кладзé, што бярэцца за яé з большай умéласьцяю, карыстаючыся даннымі навукі й практыкі. Вось-жа чым людзям цясьнéй жыць робіцца, тым больш яны стараюцца й больш кладуць працы на свой кавалачак зямлі, тым і гаспадарка вышэйшая. В ы ш э й ш а я г а с п а д а р к а д а é з к о ж н а е д з е с я ц і н ы з я м л і б о л ь ш п р ы б ы т к у, ч ы м с я н і ж э й ш а я.

Як стала цясьнéй жыць у нас, аглéдзіліся гаспадары, што цэлая траціна поля заўсёды гуляе. Сталі патроху займаць папар — то выкай ці канюшынаю, то бульбаю. Цяперака ўсюдых, дзе сялянская гаспадарка паднялася, ўсюдых частку папару нéчым займаюць.

Па дварох рэдка дзе можна стрэць трохпалёўку. Найбольш пашыраны там с п о с а б п л а д а з ь м é н н ы. Ворная зямля пабіта на 4—6—8 і больш зьмéнаў, і на кожнай зьмянé накшае збожжа, дый кожны год у парадку зьмяняецца. Бывае й тут папар, але яго мала — найбольш чацьвертая частка. Затое шмат сéюць травы, бульбы і буракоў.

Пладазьмéнная гаспадарка вялася апошнія часы блізка па ўсіх дварох у цэнтральнай і заходняй Беларусі і ў вялізарнай большасьці двароў у ўсходняй і паўднёвай Беларусі. Так сама гэты спосаб гаспадаркі мы знойдзем у большасьці дробных гаспадароў, што сядзяць на адзіноце, на фаліварках і хутарох, асабліва на захадзе.

Па вёсках пладазьмéн спатыкаецца рэдка, бо гэтаму перашкаджаюць вясковыя парадкі — напр., супольная паша скаціны на папары і г.д. Праўда, што за апошнія гады перад вайною шмат вёсак разсялілася на хутары і завяло пладазьмéн, але большасць сядзіць на мéйсцы і толькі што год усё зьмяншае і зьмяншае свой папар, займаючы яго засéвамі.

Пладазьменны спосаб гаспадаркі вышэйшы за трохпалёўку. Ёсць і ніжэйшыя за трохпалёўку спосабы. Гэта лядавы і абложны.

Пакуль у Беларусі было лішне многа лéсу, была досіць пашырана **лядавая**, альбо пасечная, **гаспадарка**. Поля тады не гнаілі, а сéялі дабро на пасеках. Ссякуць лéс, лéпшае бярвéньне зьвязуць, а ссéчаныя хмызьнякі, ламачча пакідаюць на мéйсцы. Як яно падсохне, пасеку падпалююць. Як-жа перагарыць усё гэтае ламачча і пні, пасека застаéцца пакрытаю попелам. Тады яé аруць, барануюць спэцыяльнай бараною-«смыкам» (рыс. 76), і сеюць адразу лён, пасьля жыта, авёс і год-у-год усялякае збожжа, аж пакуль ляда зусім ня спусьцее. Тады яго кідаюць і паляць другое ляда. Першае ляда патроху зарастае лесам.



**Рыс. 76. Барана «смык», якою вырабляюць пасекі.**

Ясна, што такі спосаб гаспадаркі можа **існаваць** толькі там, дзе вельмі рэдка жывé народ і дзе вялізарныя прасторы пакрытыя лéсам. На Беларусі цяпéр лядавага спосабу ў чыстым відзе блізка што не спатыкаецца. Толькі ў Смаленшчыне пры агульнай трохпалёўцы запускаюць часамі пусьцейшыя кавалкі зямлі (**пустошы**), каб зарасьлі лесам, а пасьля, расьцерабіўшы іх цераз нéкалькі дзесяткаў гадоў ды выпаліўшы ляда, сéюць лён.

Пасекі выпалююць і па ўсёй Беларусі, дзе яшчэ хапае лéсу на паліва.

**Абложная**, або **дзярванная**, **гаспадарка** спатыкаецца ў рэдка засéленых мяйсцовасьцях, на бéднай зямлі, дзе ў гаспадароў не хапае гною, а бяз гною зямля ня родзіць. Там звычайна пакідаюць пусьцейшую частку поля **дзервам**, і на ёй ня сеюць некалькі год. Яна тым часам вылéжуецца й крыху папраўляецца сама. Тады яé йзноў гаруць і засяюць.

Найчасьцéй спатыкаецца такі спосаб гаспадаркі ў нашым паўднёвым Палéсьсі.

**Выраб зямлі**. З кожным годам гаспадарка ў Беларусі паляпшаецца. Гэта асабліва знаць па вырабу зямлі. Зусім яшчэ нядаўна ўсюдых у нас гаралі сахою. Ня толькі аб якіх машынах, але і аб плугу мала хто чуў. Цяпе́р саху (рыс. 77) мала ўжо можна пабачыць. Толькі хіба дзе ў самым глухім закутку, за не́калькі дзясяткаў вёрст ад гарадоў і чыгунак спатыкаюцца ме́йсцы, дзе яшчэ гаруць сахою. У больш-жа культурных мяйсцовасьцях ужываюцца для вырабу зямлі і спранжыновыя бароны, і рандалі (дысковая барана).

Гараць сталі глыбе́й. Навучыліся гараць у пару, пад ярыну



**Рыс. 77. Старасьве́цкая беларуская саха.**

ўвосень, пад жыта сталі гараць два, а то й тры разы (мяшаць і траіць).

Ляпей сталі й гнаіць зямлю. Гаспадар зразумеў, што бяз гною ўраджаю ня будзе, і цяпе́р з усіх сіл дбае аб гной. Побач з звычайным гноем сталі ўжываць штучныя гнаі («парашкі») і ўрэшце пачалі сеяць лубін.

Усе гэтыя пале́пшаньні ўвайшлі ў гаспадарку за апошнія 20—30 гадоў. Ішлі яны да нас з захаду, дзеля таго найране́й з імі абзнаёмілася Заходняя Беларусь, а пасьля яны пакрысе́ перадаліся і на ўсход.

## § 35. ГАРОДНІЦТВА, САДОЎНІЦТВА І ПЧАЛЯРСТВА.

**Гародніцтва** ў Беларусі слаба разьвіта. Найле́пшыя гароды й найбольш іх бывае каля вялікіх ме́стаў. Сяляне-ж звычайна

маюць гароды ве́льмі мале́нькія і садзяць тамака варыва толькі як для сябе́. Гароднiцтвам, як профэсiяй, займаюцца ў нас найбольш мяшчане-беларусы, а так сама жыды й старавéры. Найбольш праславiлiся сваiмi гародамi магiлёўскiя мяшчане. Досiць добрыя гароды маюць стараве́ры пад Гомелем і Навазыбкавам, ды троцкiя мяшчане. Добра пастаўлена гароднiцтва ў Падлясьсi. Тамака мяйсцамi, прыкл. ў Кляшчэлях, жыхары займаюцца спэцыяльна разводкаю гароднага насе́ньня.

**Садоўнiцтва** ў Беларусi за апошнiя гады шмат пасунулася напе́рад, і цяпе́р Беларусь з гэтага боку займае адно з пе́ршых ме́йсцаў на ўсходзе Эўропы. Прамысловае садоўнiцтва ве́льмi зале́жыць ад разьвiцьця чыгунак, па якiх фрукты можна дастаўляць у далёкiя ме́йсцы спажываньня, ў вялiкiя гарады. Побач з прамысловымi пашыраюцца й аматарскiя садкi.

П р а м ы с л о в ы я с а д ы знаходзяцца па большай часьцi ў дварох, а так сама пад ме́стамi і ў ме́стах. Звычайна яны займаюць якiх адну-дзьве́ дзесяцiны, але ў большых дварох спатыкаюцца сады па дзесятку й больш дзесяцiн. Дворныя сады найбольш здаюцца кожын год у арэнду; толькi ў некаторых дварох самi займаюцца садам. Прамысловае садоўнiцтва асаблiва моцна разьвiта на паўднi Беларусi (ў Рагачоўскiм, Гомельскiм пав. і г. д.).

У прамысловых садох найбольш бывае яблынаў а н т о н а в а к. Гэты сорт вельмi прытарнаваны да нашага клiмату. Грушы ме́нш трымаюць, бо з iх не такi пэўны ўраджай. Аднак на паўднi Беларусi ў садох ве́льмi многа йгрушаў. Тут навет выведзены вельмi цэнныя беларускiя сарты йгрушаў: С л у ц к а я Б э р а (пад Слуцкам) і С я п я ж а н к а (ў Слонiмскiм пав., м. Дзярэчын). На сваёй бацькаўшчыне гэныя сарты даюць ве́льмi добрыя ўраджаi.

Разводзяць яшчэ ў нашых садох сьлiўкi, вiшнi, чарэшнi, аграст, парэчкi й iнш. Апошнiя часы сталi шмат дзе займацца т р у с к а ў к а м i (клубнiкаю), якiя вывозiлi перад вайною ў большыя ме́сты Расе́i.

Звычайных непрамысловых садоў і садкоў у Беларусi ве́льмi многа. Ў кожным двары, фальварку будзе заўсёды не́калькi дзесяткаў садовых дрэўцаў. Так сама і пры кожнай блiзка сялянскай хаце ёсьць невялiчкi садок. Ве́дама, што ў бядне́йшых ваколiцах, дзе хлеба не хватае, там і садоў няма. Мала садоў у пяшчаным Пале́сьсi. Але, мiж iншым, і ў Смале́ншчыне, хоць там сялянства ня ве́льмi бе́днае, садоў па вёсках зусiм мала. У такiх хатнiх садкох садзяць розныя дрэўцы ўсякiх гатункаў, садзяць яшчэ й дэкоратыўныя расьлiны: бэз, рожы, акацыi, таполi.

Па клiматычным варункам садоўнiцтва магло-б у нас вельмi добра разьвiвацца. Мягкiя зiмы дазваляюць расьцi ў Беларусi шмат якiм заходнiм і паўднёвым гатункам фруктаў. Мерная вiльгаць спрыяе iхняму росту і разьвiцьцю. Спрыяюць садоўнiцтву й нашыя грунты. Для належнага разьвiцьця садовае гаспадаркi ў Беларусi трэба найбольш трох рэчаў — густое сеткi выгодных

шляхоў, асабліва чыгунак, стварэньня коопэратыўнага збыту і пашырэньня садовых знаньняў у народзе.

**Пчалярства** нékaлісь мéла вялікае значэньне для Беларусі. Мёд і воск былі аднымі з важнéйшых тавараў, якія Беларусь вывозіла ў чужыя краі. Цяпéр пчалярства падупала. Толькі ў паўднёвым Палéсьсі (асабліва ў Пінскім, Мазырскім ды Бабруйскім павéтах) пчалярства шмат памагае ў гаспадарцы. Пчолы там дзержацць найбольш у калодах — б о р ц я х, зачым і пчаляры называюцца б о р т н і к а м і.

У заходняй Беларусі значная частка пчаляроў мае ўжо р а м о в ы я вульлі. У ўсходняй больш ужываюцца к а л о д ы.

## § 36. ГАДОЎЛЯ СКАЦІНЫ.

Умéлая гадоўля скаціны даéць вялікі зыск гаспадару. Хатнія жывёлы — гэта быццам фабрычныя машыны, якія перарабляюць сыры прадукт — корм у высокацэнныя продукты — малако, сала, мяса і г. д. Скармліваць корм скаціне звычайна бывае выгаднéй, чым проста прадаваць яго на старану. Апрача прадуктаў, ідучых на продаж, гаспадарка атрымлівае ад скаціны г н о й, гэтак патрэбны для нашых ня вéльмі багатых грунтоў. У канцы важна й тое, што пры гадоўлі скаціны чалавéк мае занятак круглы год, тады як у земляробстве ён заняты крыху балéй за паўгода; калі гадоўля скаціны неразьвітая, гаспадар змушаны на зімовыя мéсяцы йсьці ў сьвéт шукаць зарабаткаў. Добра пастаўленая гадоўля скаціны даé яму гэтыя зарабаткі на мéйсцы, у сваёй гаспадарцы.

Найважнéй, аднак, тое, што ў нашым клімаце і на нашых грунтох якраз найляпéй растуць расьліны, патрэбныя для гадоўлі скаціны. Бязьмéрныя прасторы сенажацяў даюць нам масу сéна; у лясох, па балотах скаціна мае годзе пашы; лёгкія грунты спрыяюць разводцы бульбы, якое ў нас і садзяць шмат, ды толькі без вялікае патрэбы ў большасьці пускаюць на бравары замéста таго, каб выкармліваць, прыкл., сьвіньні; ў канцы, дзякуючы багацьцю вільгаці, добра растуць у нас кармовыя травы, даючыя пажыўны й смачны корм для скаціны. У гэткіх варунках, зразумéла, гадоўля скаціны павінна надзвычайна шырака разьвіцца; і яна разаўéцца, як толькі больш навукі атрымае нашая вёска, ды прызвычаіцца вéсьці гаспадарскія справы — хаўрусам. Тады, бязумоўна, гадоўля скаціны стане асноваю багацьця і гаспадарнага росквіту Беларусі.

Каб выясьніць палажэньне гэтае галіны гаспадаркі, разгледзім перад усім статыстычныя данныя*). Хаця яны ня вéльмі точныя, але пэўнае ўяўлéньне справы даюць; адносяцца яны да 1912 году.

*) Паводле Э. Ромэра.

| Губэрні | На 1 кв. кілёмэтр (каля 100 дзес.) | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Коней | Кароў | Авечак і коз | Сьвіньняў |
| Горадзенская | 17 | 32 | 36 | 18 |
| Ме́нская . . | 21 | 55 | 31 | 29 |
| Магілеўская . | 31 | 46 | 30 | 28 |
| Віленская . . | 20 | 42 | 26 | 22 |
| Віцебская . . | 21 | 49 | 36 | 23 |
| Сярэдняя па Беларусі . . . | 22 | 45 | 32 | 24 |
| Сяр. па Расе́і | 10 | 15 | 20 | 5 |
| „ „ Прусіі . | 18 | 68 | 30 | 88 |

З гэтае табліцы відно, што наагул найшырэй гадоўля скаціны стаіць у Ме́ншчыне, найбольш багатай на сенажаці. Цікава адзначыць вялізную перавагу Беларусі над Расе́яю ў гэтай справе, асабліва ў гадоўлі сьвіньняў і кароў. У Няме́ччыне, старане з падобнымі на нашыя прыроднымі варункамі, якраз гэтае жывёлы разводзяць найбольш.

У абсалютных лічбах Беларусь мае каля 2-х міліён. коней, 4,5 міл. кароў, 3 міл. аве́чак і коз і 2,5 міл. сьвіньняў. Значэньне гэтых лічбаў, на жаль, аслабляецца тым, што скаціна ў нашых вясковых гаспадароў найбольш дробная і малапродукцыйная.

У большасьці гаспадарак трымаюць к о н е й мяйсцовых народаў, памяшаных з усякімі заводзкімі. Аднак у некаторых мяйсцох разьвілася гадоўля заводзкіх коней — найбольш цяжкіх пародаў. Шмат займаюцца гэтай справаю, напр., у Наваградчыне, ў Случчыне, у Магіле́ўшчыне, дзе гадоўля коней наагул найбольш разьвіта. У Ме́ншчыне коней у сялянства ўсё-ж не хапае: каля пятае часьці сялянскіх гаспадарак ня маюць коней.

К а р о ў найбольш трымаюць у нас ч ы р в о н а е б е л а р у с к а е п а р о д ы. Скаціна гэта невялікая на ўросласьць, але неперабарлівая на яду і дае́ досіць многа тлустога малака. Аднак гэтая парода на благіх кармох зьмізарне́ла й пагоршылася. Апошнімі часамі ў некаторых дварох (прыкл., двор Ігнаціцы пад Ме́нскам) сталі сумысьне разводзіць беларускую пароду і дайшлі добрых рэзультатаў.

У большасьці двароў трымаюць заводзкую скаціну, найбольш галяндзкае пароды, дзеля яе́ малочнасьці.

Значная частка двароў прадае малако пактарам, якія выробляюць з яго масла і сыры.

Сыраварняў ёсьць досіць многа ў Меншчыне і ў Смаленшчыне, асабліва-ж у паветах: Бельскім, Парэцкім і Красенскім. Беларускія «галяндэрскія» сыры збываюцца ў Вільню, Менск, Варшаву, Маскву ды інш. вялікія гарады. Аднак дзела ў сыраварнях і ў пактах пастаўлена досіць дрэнна і затым ад малочнае гаспадаркі няма таго зыску, які яна з часам, напэўна, дасьць. У сялян з малаком яшчэ горай. Малочных коопэратываў зусім няма. Скаціну трымаюць толькі дзеля гною.

Разумеецца, іншы вобраз — пад вялікімі гарадамі. У Менск, напр., вязуць малако з усяе ваколіцы на некалькі міль ува ўсе бакі. Ведама, што тут іначай кароў даглядаюць і маюць ад іх вялікі зыск.

Наагул кажучы, малочнаю гаспадаркаю найбольш займаюцца ў Меншчыне і Віцебшчыне.

Вялікае значэньне ў гаспадарцы мае гадоўля сьвіньняў. Калі масла на вёсцы спажываюць мала, дык намагаюць сьвіным салам і тлустасьцяю; наагул гэта вельмі важны спажыўны прадукт. Апроч таго, вельмі значная частка сьвіньняў ідзець на продаж, скупляецца гандлярамі і вывозіцца ў вялікшыя гарады і заграніцу. Сьвінаводзтва найбольш пашырана ў Меншчыне, Віленшчыне, Магілеўшчыне і Чарнігаўшчыне.

Даўней шмат разводзілася ў нас авечак, звычайна, праўда, для ўласнае патрэбы. Цяпер іх засталося найбалей у Смаленшчыне. У іншых краінах заместа авечак сталі трымаць больш кароў і сьвіньняў. Толькі ў Горадзеншчыне лік авечак мала зьмяншаецца. Да таго-ж там разводзяць шмат заводзкіх авечак з тонкаю, далікатнаю воўнаю. Гэта дзеля блізкасьці Беластоку й яго раёну, дзе знаходзяцца ткацкія суконныя хвабрыкі, якім патрэбна шмат воўны.

# РАЗЬДЗЕЛ VII.

## Прамысловасьць і гандаль.

### § 37. ЛЯСНЫЯ ПРОМЫСЛЫ. РЫБАЛОЎСТВА.

У лясістых мяйсцовасьцях Беларусі гандаль лесам і праца ў лесе зьяўляюцца заняткам вельмі значнае часткі жыхараў. У Палесьсі мяйсцамі мала ўвагі зьвяртаюць на гаспадарку. Усе здаравейшыя, дужэйшыя мужчыны йдуць на працу ў лес.

Галоўная работа ў лесе — гэта павал лесу і дастаўка яго на рум. Румам называецца бераг сплаўнае ракі, на які звозіцца

дрэва з акалічных лясоў. Тут купе́ц прыймае дрэва. Павал і возка дрэва йдзе́ць у восені і праз усю зіму. Вясною, як толькі рушаць рэкі, дрэва сплаўляецца — па малых рэчках розсыпам, г. зн. асобнымі калодамі, па вялікіх — плытамі. Розсыпам дрэва ідзець аж да вялікіх рэкаў. Там яго ловяць і вяжуць у плыты. У плыту бывае па 300—500 калод, у залежнасьці ад вады. Калі вада глыбокая — кладуць больш. Плыт сядзіць у вадзе́ ня больш, як на аршын, а над вадою высунуты на які вяршок. З 10—20 плытоў складаецца сотня,



**Рыс. 78. Плыты.**

або гонка. Пры кожнай гонцы ёсьць цэлая грамада плытнікаў. На чале́ іх знаходзіцца дубавік, або рэтман, які загадуе сплавам. Для плытнікаў на адным з плытоў ёсьць хатка з пе́чкай, дзе яны вараць сабе́ е́сьці (рыс. 78).

Плыты найбольш гоняць у Рыгу, Коўну (Клайпэду) і Кацярынаслаў. Часамі плытнікі пасьпяваюць зьвярнуцца за ле́та па не́калькі разоў.

Па Дняпры гоняць найбольш нячэсанае бярве́ньне. Найле́пшы ле́с ідзе́ да Хе́рсону і Адэсы. Драбне́йшы ле́с ідзе́ бліжэй — у Кіеў ды Кацярынаслаў — для капальняў, на падпоркі ў шахтах.

Па Дзьвіне́ і Нёмну гоняць найбольш ужо чэсаны і выраблены тавар: шліпэры (кароткія брусы), шпалы, бэлькі, маўэрлаты, клёпку і ў канцы — мачты. На мачты йдзець самае

высокае, здаровае і таўстое дрэва (каля 15—18 саж. вышыні пры 3—4 вяршкох таўшчыні зьве́рху). Найбольш мачтавага ле́су йшло з ваколіц м. Халопеніч у ўсходняй Барысаўшчыне. Апошнімі часамі ў Беларусі пабудавалася шмат пільняў і цяпе́р значная частка лясного тавару вывозіцца заграніцу ў пілаваным відзе, на чым край наш, ве́дама, зарабляе.

Насяле́ньне лясістых мяйсцовасьцяй шмат зарабляе дастаўкаю дроў на станцыі чыгунак і ў ме́сты. Пад большымі ме́стамі гэты промысел мае саўсім сталы характар і з'яўляецца адным з важне́йшых, як для вясковага насяле́ньня, якому дае́ зарабатак, так і для ме́ставага, якому дае́ такі неабходны прадукт, як паліва.

Блізка ўве́сь прастор лясоў Беларусі да апошніх часоў нале́жыў да двароў і скарбу; сялянскіх лясоў было гэтак мала, што толькі ў рэдкіх выпадках селянін мог здаволіваць свае́ патрэбы на паліва і будаўляны матар'ял з уласнага ле́су. У вялізарнай большасьці выпадкаў мусіў ён карыстаць з дворных і скарбовых лясоў, адтуль атрымліваць і паліва, і матар'ял на будоўлю і майстроўку, там пасьвіць сваю скаціну, зьбіраць ягады, грыбы, паляваць і г.д. На захадзе Беларусі, дзе двары вядуць больш-ме́нш акуратную лясную гаспадарку, дзе цана на дрэва вышэйшая, селянін мала мог карыстацца з лясоў, — і то ўвесь час за плату; з гэтае прычыны і лясныя промыслы тут слаба разьвітыя. На ўсходзе і паўдні Беларусі, асабліва ў Пале́сьсі, дзе лясное гаспадаркі, ці з прычыны малое культурнасьці двароў, ці бязьме́жнасьці лясных прастораў, ня было, дзе селянін ме́ў магчымасьць вольна карыстацца ле́сам і ўсімі яго багацьцямі, там разьвіваюцца гэткія лясныя промыслы, як гонка смалы і дзёгцю, выраб паташу, драніцаў, гонтаў, лыкаў, абадоў, колаў, палазоў, дугаў, пале́ньне вугальля, будоўля судзінаў і г. д. А ў больш глухіх лясных закутках і паляваньне трэба лічыць адным з промыслаў насяле́ньня, дастаўляючым больш разнародную яду тамашняму селяніну, а часамі — й лішні грош за праданую дзічыну.

Лясныя зарабаткі і промыслы шмат памагаюць у селянскім бюджэце, даючы магчымасьць працы селяніну якраз у найбольш вольных ад земляробскае працы зімовых ме́сяцах.

**Рыбалоўства.** Хаця ў Беларусі ве́льмі многа рэкаў і вазёраў, аднак рыбалоўствам спэцыяльна займаецца толькі не́калькі тысячаў чалаве́к, якія жывуць ля берагоў большых рэк і вазёр. Найбольш рыбалоўствам займаюцца ў вазёрных краёх: у Наддзьвіньні ды ў Пале́сьсі. З наддзьвінскіх вазёраў рыбу адпраўляюць навет за ме́жы Беларусі. А ў Пале́сьсі, у Кожан-Гарадку, Давыд-Гарадку рыбакі копцяць рыбу і ў гэткім відзе адпраўляюць на продаж у большыя гарады — гал. чынам у Бе́расьце і ў Варшаву.

Гаспадары найбольш займаюцца рыбалоўствам як дадатковым заняткам. Рыба робіць яду ўзьбярэжнага селяніна больш разнароднай і сытнаю.

Да гадоўлі рыбы толькі цяпер пачынаюць брацца лепшыя гаспадары. Пры дастатку на Беларусі прыродных вазёраў гадоўля рыбы магла-б даць вялікі даход.

Апроч рыбы ў нас па дробных рэчках вельмі многа ловяць ракаў, якіх купцы адпраўляюць у вялікія месты, навет заграніцу — напр., у Бэрлін.

## § 38. МІНЭРАЛЬНЫЯ БАГАЦЬЦІ Й ІХ ЗДАБЫВАНЬНЕ.

Мінэральныя багацьці Беларусі схаваны ад чалавека пад таўстым пластом лядавіковых наносаў і выходзяць наверх ня дужа часта. Дзеля гэтага знаем мы аб іх вельмі мала і прывыклі да думкі, што й наагул гэтых багацьцяў у нас вельмі мала. Трэба спадзявацца, што грунтоўныя дасьледы ў гэтай справе моцна запярэчылі-б гэткай пашыранай думцы. Пакуль што маем мы аб мінэральных багацьцях Беларусі толькі адрывачныя ведамасьці.

Зялёзныя руды спатыкаюцца па ўсёй Беларусі, але мала асочаны. Найчасьцей спатыкаецца **буры зелязьняк** (лімоніт), асабліва ў Віленшчыне й Меншчыне. У Сеньнінскім пав. ля дв. Віхры знайшлі нейкую зялёзную руду, ў якой было каля 43 % зялёза. Але асабліва ў нас пашыраныя й вядомыя **балотныя** (або дзярновыя) **зялёзныя руды**. Яны творацца ў вазёрах і балотах, з таго зялёза, якое расчыняюць у сабе і вымываюць з грунтоў перагнойныя кісьлі, і ляжаць часамі на вялікіх прасторах нягрубым пластом. Ёсьць гэтых рудаў усюдых шмат, але асабліва — у паўднёвым і паўднёва-ўсходнім Палесьсі. На дне Дняпра проці м. Быхова ляжыць значны пласт гэтае руды, які тут называюць «скалою».

У мінулым веку шмат дзе ў Беларусі паміж глухіх лясоў працавалі зялёзныя гуты, якія выплаўлялі зялеза з балотнае руды. Багацьце паліва — ляснога і тарфянога, што ёсьць адным з важнейшых варункаў разьвіцьця зялёзнае прамысловасьці, суліла гэным гутам добрую будучыну. І аднак да нашага часу, здаецца, не дажыла ні адна такая гута: усе яны пазакрываліся й засталося ад іх усяго ўспаміну — груды шлякаў, закінутыя ў глухіх лясных закутках. Прычынаў упадку гэтае прамысловасьці дзьве: a) лясное паліва падаражэла і ня было рахунку яго паліць у гутах і b) тое, што з балотнае руды пры тагдышнім спосабе выплаўкі выходзіла зялёза з вялікаю домешкаю фосфару (бо фосфару шмат ёсьць у самой балотнай рудзе — вівіаніце), і з гэтае прычыны было яно крохкае, а ў кожным разе ня вытрымлівала конкурэнцыі з прывозным зялёзам. Цяпер, аднак, палажэньне моцна зьмяняецца. З адкрыцьцём бэссэмэраўскага спосабу выплаўкі сталі прысутнасьць фосфару аказалася ня толькі ня шкоднаю, а яшчэ й карыснаю. А што асабліва важна, гэта тое, што шлякі ад балотнае руды вельмі багатыя фосфарам і з іх можна рабіць важнейшы мінэральны гной для гнаеньня зямлі томас

шляк, або тамасоўку. У Прусіі ды ў Пазнані ў апошнія часы йзноў узяліся за распрацоўку балотнае руды; ў самым недалёкім часе пэўне і ў нас гэтая важная прамысловасьць разаўецца. Таксама ў балотах у Смаленшчыне (Красенскі пав.), у Амсьціслаўшчыне ды каля м. Апочкі знаходзяць і здабываюць **вохру**, з якое робяць хварбу.

Аб знаходжаньні ў Беларусі дарагіх мэталяў і дарагіх каменьняў вядома дужа мала. Найбольш пэўныя весткі адносяцца да вярхоўяў Дзьвіны. Тамака, у скалістых берагох ракі знаходзяць дарагія каменьні — халцэдон, сэрдолік, горны крышталь. А каля в. Адрыянопалю над Дзьвіною, ля самае беларуска-маскоўскае мяжы, у пачатку XIX веку знайшлі навет **золата**; было яго, праўда, там няшмат.

Ці ёсьць у Беларусі **каменны вугаль**, гэтае «чорнае золата», дзякуючы якому так разьвілася сучасная прамысловасьць, аб гэтым сказаць, напэўна, нельга. У кожным разе досіць значныя залежы вугаля знойдзены ў вадазборніку р. Маладога Туду — у самым паўночна-ўсходнім куце Беларусі. Каля Мазыра, на беразе Прыпяці, ды і ў іншых мяйсцох (прыкл., у Рослаўскім пав.) знойдзены **буры вугаль**, а ў Лідзкім пав. — **лігніт** (буры вугаль, у якім яшчэ значна будова дрэваў, з якіх ён стварыўся). Усе гэтыя віды вугаля ў нас яшчэ добра не асочаны і не эксплёатуюцца.

**Торф** хаця й ня можа раўнавацца да каменнага вугаля, але ўсё-ж пры пэўных варунках мог-бы хоць часткаю замяніць яго для нашае прамысловасьці. Торфу ўва ўсіх краінах Беларусі ёсьць шмат, але найбольш — у Палесьсі, ў балотах тыпу галаў. Найтаўсьцейшыя пласты торфу ляжаць у ўсходнім Палесьсі, ў вадазборніку р. Віці (Рачыцкі пав.); тут таўшчыня яго даходзіць да трох сажанёў. Апошнімі часамі, калі шмат дзе ўжо стала лесу на паліва не хапаць, пачалі там капаць торф. Асабліва шырака гэтым займаюцца ў бязьлеснай Наваградчыне ды пад большымі местамі.

У Рослаўскім павеце знаходзяць **горны воск** (озокэрыт), з якога выrабляецца парафін; па хімічнаму складу й паходжаньню гэты матар'ял падобны да нафты. У заходнім Палесьсі (найбольш у Піншчыне) знаходзяць **бурштын**, які меў вялізарнае значэньне ў старавечным гандлю.

Важнае значэньне для гаспадаркі маюць **фасфарыты** — каменьні з вялікім зьместам фосфару. Іх мелюць на муку і гэтаю мукою гнояць зямлю. Фасфарыты пакуль што разрабляюць толькі ў Рослаўскім павеце (каля ст. Сешчы) у некалькіх мяйсцох. Але апошнімі часамі знаходзяць шмат фасфарытаў і ў іншых краінах, прыкл., у Наваградчыне, ля Гарадні, у Падлясьсі і г. д. З часам здабываньне фасфарытаў пэўне шырака разаўецца й пойдзе хутчэй, бо значэньне іх у гаспадарцы вялізарнае. Пасьля хімічнае пераробкі з фасфарытаў выrабляюць найцаньнейшы штучны фосфарны гной — суперфасфат.

Шмат дзе ў Беларусі выходзіць наве́рх бе́лая пішучая **крэйда**, асабліва на Паўднёвым ланцугу ўзгор'яў, прыкл., каля м. Міра, ды і ўва ўсёй Наваградчыне. «Праяжджаючы гэтымі мяйсцамі, ўжо здалёку можна пабачыць сярод палёў і сенажацяў досіць вялікія, бе́лыя, быццам сьне́гам пакрытыя прасторы; гэта якраз і ёсьць ме́йсцы, дзе крэйда выходзіць наве́рх і ня мае на сабе́ ніякага пакрыцьця. Дарога, што йдзе́ тудою, уле́тку бе́лая, у восені-ж бе́ла-шэрая, трудная для праезду, пакрытая моцна прыліпаючай да колаў гразёю»*). Здабываюць крэйду мяйсцовыя сяляне раньняю вясною ды позьняю восеньню, адным словам — калі ёсьць час. Капаюць для гэтага ямы глыбінёю 3—4 саж.; пасьля іх пакідаюць без дагляду і яны заплываюць ды засыпаюцца. Толькі ў в. Лукі (на захад ад м. Міра) здабываюць крэйду ў большым разьме́ры і збываюць яе́ ў Ме́нск, Барысаў і Вільню. Здабываюць яшчэ крэйду шмат дзе ў Рослаўскім пав., у паўднёвай Магілеўшчыне ды ў Аўгустоўскім пав. ля в. Лабна.

**Вапна** спатыкаецца па ўсёй Беларусі. Багатыя залежы яе́ эксплюатуюцца пад Ме́нскам (Смалявічы), ў Се́ньнінскім пав., ля Смале́нску, Віцебску, пад Воршаю і ў шмат іншых мяйсцох. Пад Воршаю на бе́разе Дняпра ляжыць пласт вапны таўшчынёю каля 2 саж. Што год выпалююць тут да 200 тыс. пудоў вапны. Аршанская вапна наагул лічыцца ў нас найле́пшаю. Па ўсёй Віцебшчыне здабываюць долёміты ды вапнякі і ўжываюць іх як будаўляны матар'ял. Каля Смале́нску і ў Рослаўскім пав. ляжыць нявыкарыстаны вапе́нны туф, дзюркаваты матар'ял, зложаны з вуглякіслае вапны, асе́ўшай з вапе́нных крыніцаў; як будаўляны матар'ял здабываюць мяйсцамі (ў Бабруйскім, Рачыцкім пав.) **пяшчанікі** ды іншае каме́ньне. У канцы трэба адзначыць, што Беларусь ве́льмі багата ўсялякімі **глінамі**, пачынаючы каолінам (самая чыстая гліна, з якое робяць парцалянавае і фаянсавае судзьдзё), якога знаходзяць у розных мяйсцох, прыкл., ля м. Таляханаў у Пінскім пав. Трывалыя на вагонь гліны знаходзяць у старых пластох у Чавускім ды Дарагабужскім пав. Шмат дзе здабываюць дужа добрыя ганчарныя гліны — прыкл., ля в. Ясянца (у Наваградчыне над р. Сэрвачам), ля м. Ракава (ў Ме́нскім пав.), у Смале́ншчыне, Віцебшчыне і г.д. Каля Смале́нску, м. Копыся, Іве́нца (Ме́нск. пав.) ды ў іншых мяйсцох здабываюцца добрыя гліны для вырабу кахляў. У канцы ўсюдых капаюць гліну для вырабу цэглы. Гліны, як і ўсе́ іншыя мінэральныя багацьці Беларусі, саўсім не асочаны і ве́льмі слаба выкарыстаны.

**Мінэральныя крыніцы**. Шмат ёсьць у Беларусі й мінэральных крыніцаў. Закіданыя ў розных глухіх закутках, вядомы яны найчасьце́й толькі акалічнаму насяле́ньню, якое карыстаецца часамі з іх лячэбнае сілы і звычайна лічыць іх сьвятымі. Рэдка каторыя з іх робяцца шырэй вядомымі і ме́нш-больш эксплюатуюцца.

---

*) Dybowski. Wszechswiat. 1899.

Найляпей выкарыстаны Друскé ніцкія крыніцы (у м. Друскéніках над Нёмнам, на поўнач ад Горадні, рыс. 79)



Рыс. 79. Курорт Друскéнікі.

з брома-ёдавымі солямі. Ляжаць яны ў прыгожай і здаровай мяйсцовасьці сярод хваёвых бароў над Нёмнам. Штогод

зьяжджаюцца сюды тысячы хворых і наагул людзéй, патрабуючых супачынку, з усяé Беларусі й Літвы. У прошлым веку эксплюатаваліся яшчэ серныя і зялезныя крыніцы ў Лагойску (Барысаўскага пав.), дзé быў досіць вядомы, але цяпер закінуты курорт, ды ў Баркоўшчыне Лепельскага пав. (ля м. Вушача) — серна-зялезныя. Ў 30-х гадох прошлага вéку ў Баркоўшчыне над возерам быў невялічкі курорт, ад якога цяпéр засталіся адны руіны.

Па ўсёй Беларусі, асабліва ў паўночнай яé палавіне, раскідана шмат нявыкарыстаных мінэральных крыніцаў. Ёсьць яны й сярод вазёраў Браслаўскага (Відзы), Люцынскага (Адэлінова) ды Лéпельскага (Вішковічы) павéтаў, і наагул у морэнным краі; ёсьць гэтаксама мінэральныя крыніцы ў вярхоўях Дзьвіны ды ў беларускай частцы вадазборніку Волгі (Акоўцы, Адрыянопаль) і на спадах Дняпроўскага ўзгор'я, у Магілéўшчыне (Любавічы, Дворыца, В. Слабада, Трошчыцы, Рудня). Недалёка ад Магілéва ёсьць таксама невялікае возера Хіцемля, якога вадою вылéчуюцца розныя наскурныя хваробы. Большасьць усіх успомненых крыніцаў — серныя і зялезныя. У Наваградчыне, ля в. Ясянца (над р. Сэрвачам), ёсьць нéкалькі крыніцаў, якія знаходзяцца на лясістым крэйдавым узгорку «Сьвяціцы» на 15 сажанёў вышэй роўня вады ў сусéдняй рацэ. Вада ў гэтых крыніцах выходзіць булькаючы пад моцным напорам. З яé асядае вакола крыніцаў крэйдавы пыл.

Цэлы рад мяйсцовасьцяй у Беларусі, дзякуючы сваёй цудоўнай прыродзе і здароваму клімату, напрашуецца на тое, каб там зрабіць нéйкія кліматычныя станцыі. З гэтага боку была выкарыстана толькі мяйсцовасьць Пагулянка, каля Дзьвінску, на бéразе Дзьвіны; сярод прыгожых хваёвых бароў. Пабудаваны тут мураваныя вадзяныя і кумысовыя лячэбніцы, дзе хворыя мéлі ўсякія выгоды і камфорт. Сюда прыяжджала перад вайною шмат хворых на лячэньне, асабліва з сусéдняга Дзьвінску.

## § 39. РАМЯСЛО.

**Хатнія рамёслы.** Хатнія рамёслы ў Беларусі ня маюць шырокага разьвіцьця. У даўнейшыя часы хатнія рамёслы мéлі вельмі важнае значэньне. Асабліва іх падтрымлівалі багатыя двары, якія ўсё патрэбнае да раскошнага, другі раз, жыцьця выраблялі на мейсцы рукамі падданых — рамесьнікаў. Як зьбяднелі двары — подупалі й хатнія рамёслы. Асабліва-ж ім пашкодзіла канкурэнцыя танных хвабрычных вырабаў — тандэты. Цяпер хатнія вырабы найбольш пашыраны ў глухіх закутках, куды яшчэ не дайшлі моцныя ўплывы грашавое гаспадаркі.

Спаміж хатніх рамёслаў найбольш пашырана і разьвіта ткацтва. Даўней Беларусь славілася сваім ткацтвам. І да гэтых часоў у музэях перахоўвуюцца залататканыя слуцкія паясы, вядомыя калісь з свайго хараства па ўсім сьвеце.

Ткалі ў нас і дываны, на якіх вытыкаліся цэлыя малюнкі ды абразы, дый іншыя дарагія й прыгожыя тканіны.

Цяпе́рака ў той самай Случчыне вырабляюць грубыя, бе́дныя тканіны, якія патрэбны для штодзе́ннага ўжытку сялян.

Ткацтва пашырана ўва ўсёй Беларусі; толькі хіба ў усходняй Смале́ншчыне яно мала дзе ёсьць. У рэшце Беларусі сялянства адзяе́цца ў вопратку дамовага вырабу. Праўда, ве́рхняя вопратка, асабліва сьвяточная і ў маладзе́жы, бывае крамная. Гэта асабліва значна ў заходняй Беларусі і каля гарадоў. У ўсходняй-жа і паўднёвай ад Слуцку да Смале́нску пануе ўсюдых і ве́рхняя вопратка свае́ работы.



**Рыс. 80. Беларускі гарсэцік старое работы.**

У большай часьці вясковае Беларусі ткуць усе́ кабе́ты. Ткуць яны — паясы, палатно, ручнікі, абрусы, гунькі, коўдры, дываны, сукно, корт і інш. Усе́ гэтыя тканіны маюць чыста беларускі рысунак, які перадае́цца ад матак дочкам (рыс. 80, 81 і 82).

Цяпе́рашняе ткацтва ў Беларусі абслужуе найбольш сялянства. Аднак у апошнія часы, за прыкладам іншых старонак, сталі заводзіцца і ў нас ткацкія школы, прыкл. школа ў Рэжыцы. Дзякуючы працы гэтай школы, стала ізноў разьвівацца ў нас артыстычнае ткацтва. Пазакладаліся варштаты ў шмат якіх дварох у Наддзьвіньні і Віленшчыне. На жаль толькі, Рэжыцкая школа мала займалася беларускімі матывамі ў рысунках тканін. Рысункі браліся найбольш польскія з-пад Кракава. А як заводзілі школу маскоўцы, дык яны заводзілі маскоўскія рысункі.



Рыс. 81. Палéскія дзяўчаткі ў вопратках сваé работы.




Рыс. 82. Дэсані (рысункі) сучасных беларускіх паясоў:
1) «тры éлачкі», 2) «крывыя крыжыкі», 3) «крывулькі», 4) «два капыцікі», 5) «сыркі», 6) «капыцікі», 7) «ланцужок», 8) «грабелькі».

Другім досіць важным вясковым рамяслом ёсьць ганчарства і наагул вырабы з гліны (рыс. 83). Часамі цэлая ваколіца, дзе знайшлася добрая гліна, бярэцца за ганчарства і закідае гаспадарку. Гэтак ля м. Гарадзішча (Наваградзк. павéту) цэлы рад вёсак робіць глінянае судзьдзё, найбольш простае, а такрама і паліванае. Цэнтр гэтага рамясла — в. Ясянéц. Вёска ляжыць у прыгожай мяйсцовасьці, піша адзін падарожны. Па абодвых бакох р. Сэрвача высяцца вялізарныя ўзгоркі, паабраставшыя лéсам. Хаткі вёскі ў іншых мéйсцах быццам пазрасталіся з гэтымі ўзгоркамі. Перад вачамі — прыятны від. Каля паўтара дзесятка ганчарных печаў, пабудаваных на гародах, паўрастала ў гэтыя вялізарныя ўзгоркі. Дух зямлі адступае перад духам прамысловасьці. Відаць, што жыхары моцна парвалі з землеробствам: гумны невялікія, хлявы — таксама. Над пéчамі паробляны йзрубы, пакрытыя гонтамі ці дахоўкаю. Найбольш вядомы ганчары з Крэва (Ашмян. пав.), Ракава (Мéнск. пав.), Дзісны, Чашнікаў (Лéпельск. пав.), Чарняўкі (Барыс. пав.), Горадна (Пінск. пав.) і г. д.



**Рыс. 83. Ганчар.**

У Івéнцы (Мéнск. пав.) выробляюць добрыя кахлі (для пéчак). У Горадзеншчыне вырабляюць дахоўку. У Лепельскім пав. шмат людзéй займаецца вырабам цэглы.

Дзякуючы багацьцю лéсам, у Беларусі досіць пашыраныя і разьвітыя хатнія рамёслы дзераўляных вырабаў.

Стальмахоў (што робяць калёсы) найбольш у Ігуменскім, Лідзкім, Чавускім, Аршанскім павéтах і ў Смалéншчыне. Можна гэтых майстроў спаткаць блізка ў кожным мястэчку. Яшчэ больш пашырана рамясло бандарскае. У Смаленшчыне (Красенскі павет) робяць шмат лыжак і точанае дзераўлянае пасуды.

У Глуску і Любані (Бабруйск. пав.), ў Старобіне (Слуцк. пав.) і ў Магілеўшчыне робяць дзераўляныя мэблі — шафы, сталы, ложкі і інш., а таксама судзьдзё (рыс. 84, 85). Сталяроў, наагул кажучы, ёсьць досіць многа, і яны, ня маючы працы, часта займаюцца цесьлярскай работай.

У Ракаве (Менск. пав.) робяць дзераўляныя малатарні і арфы, якія вéльмі падабаюцца гаспадаром дзеля прастаты ўстройства і лёгкасьці рамонту.

У Чавускім і Клімавіцкім паве́тах шмат раме́сьнікаў займаюцца вырабам **рэшатаў** і **бёрдаў**. Для гэтых мэтаў там-жа, а таксама і ў іншых мяйсцовасьцях, дзяруць ліповую кару на лыкі. Шмат дзе плятуць на продаж **кошыкі** з лазы (рыс. 86). А ў Лахве (Мазыр. пав.) плятуць кошыкі з ракітавага караня.

З іншых хатніх рамёслаў трэба ўспомніць аб **шаве́цтве** і **кравецтве**, пашыраных больш-менш усюдых, аб **гарбарстве** (галоўным чынам аб вырабцы кажухоў), і аб прыгатаваньні **жорнаў**, якое асабліва пашырана ў Аршанскім і Сеньнінскім пав. Урэшце ў Гомельскім і Чавускім паветах пашырана **валё́ньне шапак** **і вайлакоў**. Асабліва гэтае рамясло разьвіта ў мяст. Дрыбіне (Чавуск. пав.).



**Рыс. 84. Бажніца (рама для вобразу) свае́ работы.**

**Ме́ставыя раме́сьнікі**. У нашых ме́стах і мястэчках значная частка жыхараў займаецца рамёсламі. Сярод местачковых рамесьнікаў найбольш **шаўцоў**, **краўцоў**, **муляроў**, **кавалёў**, **сталяроў** і інш. Местачковыя рамесьнікі працуюць на ўсе́ акалічныя вёскі й двары і робяць тавар на заказ.

У ме́стах, апроч успомненых раме́сьнікаў, зьяўляецца шмат новых прафэсыяў, выкліканых патрэбамі ме́ставых жыхараў. Апроч таго, зьяўляецца шмат раме́сьнікаў, якія працуюць ужо не на заказ, але для магазынаў і крамаў. Іхнія

Рыс. 85. Дзераўляныя конаўкі і міса (работы вясковых рамесьнікаў).



Рыс. 86. Кашыкар (майстар, што пляцé кашы).

вырабы называюцца тандэтнымі; яны бываюць звычайна ня вéльмі трывалыя, затое вельмі танныя і дзеля гэтага маюць самы шырокі збыт.

Такога роду рамёслы найбольш разьвітыя ў вялікіх мéстах. У Вільні і Віцебску вéльмі многа вырабляецца гатовае адзéжы. Гэтаксама ў Вільні і яшчэ ў Мéнску вырабляецца харошае тандэтнае абуцьцё. Апроч таго, у Вільні нéкалькі сотняў рамéсьнікаў займаецца вырабкаю дарагіх скурак, якія закупляліся ў Расéі і нават у Нямéччыне, і шыцьцём з іх футраў. Наколькі разьвіты гэтыя рамёслы, паказуе тое, што адзéжа і абуцьцё беларускага вырабу разыходзіліся па ўсёй даўнéйшай Расéі.

## § 40. ХВАБРЫЧНА-ЗАВОДЗКАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ.

Хвабрык і заводаў на Беларусі мала, а якія й ёсьць, то найбольш дробныя. У справе хвабрычна-заводзкае прамысловасьці Беларусь вельмі адстала. Яна вырабляла перад вайной усіх хвабрычных прадуктаў ня больш як на 150 міліёнаў рублёў, тым часам як расейская толькі Польшча выраблała на 800 міліёнаў, а ў Маскоўшчыне толькі прамысловасьць Падмаскоўскага району давала тавараў больш чым на міліярд рублёў. У найбольш-жа разьвітай з прамысловага боку краіне — Злучаных Штатах Паўночнае Амэрыкі тавараў вырабляецца ў год на 30 міліярдаў рублёў.

Такое палажэньне Беларусі тлумачыцца шмат якімі прычынамі. На Беларусі не здабываюць каменнага вугаля, ані зялеза. Істнуючыя хвабрыкі прывозяць сабе гэтыя два важнейшыя сырыя прадукты са стараны — з Польшчы або з Данецкіх капальняў (на краіне). Другая прычына — гэта палітыка расейскага ўраду, якая рознымі спосабамі памагала прамысловасьці ў Маскоўшчыне коштам іншых краёў даўнейшае Расеі. Дзякуючы гэтаму, шырака разьвілася прамысловасьць каля Масквы і Петраграду. З другога боку, ў Польшчы, багатай каменным вугалём і блізкой да Нямеччыны, нямецкі найбольш капітал стварыў другі моцны цэнтр прамысловасьці — ў Лодзі і Варшаве. На Беларусь-жа ня трапілі ні нямецкія капіталы, ні падмогі ўраду, а сваймі сіламі Беларусь змагла стварыць толькі тую прамысловасьць, якую цяпер мае.

Але беларуская прамысловасьць шыбка расьце. Напрыклад, у Магілёўшчыне за 10 апошніх гадоў перад вайною лік работнікаў павялічыўся на $^1/_3$, а выраб тавараў падвоіўся. Трэба спадзявацца, што з часам, калі Беларусь стане на свае ногі і спрабуе выкарастаць усе свае прыродныя багацьці, прамысловасьць нашая дойдзе ня меншае ступені, як і ў іншых эўропэйскіх народаў.

---

У Беларусі, старане найбольш земляробскай, да таго яшчэ багатай лесам, найшырэй павінны былі-б разьвіцца тыя віды прамысловасьці, якія перарабляюць прадукты гаспадаркі і дрэва. Аднак і гэтыя віды прамысловасьці ня лішне ў нас разьвітыя. Толькі бравароў у нас досіць многа.

**Бравары** гоняць спірт найбольш з бульбы. Бульба, як мы ведаем, любіць лёгкую зямлю. Вось дзеля чаго ў пяшчаным Палесьсі, — Прыпяцкім, Дняпроўскім і Бярэзінскім, — па дварох садзяць вельмі многа бульбы і амаль ня ў кожным двары ёсьць бровар. Бравары, аднак, не абыходзяцца сваёю толькі дворнаю бульбаю, а яшчэ скупляюць бульбу ад дробных гаспадароў з усяе ваколіцы. У глухім Палесьсі, дзе гаспадару, каб прадаць што, трэба цягціся за дзесяткі вёрст па дрэннай дарозе, аказуецца такім чынам вельмі выгадна для дробных гаспадароў садзіць бульбы як найбольш і прадаваць яе ў бравары.

Усяго ў беларускіх браварох выкуравалася каля 15-цёх мі-ліёнаў вёдраў сьпірту. З гэтага ліку на Беларусі зужывалася каля 6 міліёнаў вёдр., рэшта-ж вывозілася за яе межы. Цікава адзначыць, што Беларусь была амаль ня самым цьвярозым краем ува ўсёй даўнейшай Расеі, асабліва заходняя Беларусь. Толькі ў Смале́ншчыне ўжываецца гарэлкі гэтулькі сама, як і ў Маскоўшчыне.

У Горадзеншчыне і ў Віцебшчыне выганяюць шмат піва, дзеля чаго там і се́юць больш ячме́ню. На ўсходзе Беларусі, дзе шмат се́юць лёну і канапе́ль, часта спатыкаюцца маслабойныя заводы-**аляярні** (Смале́нск, Гомель, Бранск). Апроч таго, ў розных мяйсцох спатыкаюцца **крухмальныя** і **дражджавыя** заводы. Апошнія істнуюць найбольш пры браварох.

Па ўсёй Беларусі параскіданы **сыраварні**, найбольш пры пактах у вялікіх дварох. Асабліва многа сыраварняў у Смале́ншчыне.

Апошнімі часамі адкрываецца ўсё больш **паравых млыноў**, якія патроху выціскаюць звычайныя вясковыя вадзяныя млыны і ветракі.

**Цукраварняў** цяпе́р на Беларусі блізка што*) няма, затое ёсьць хвабрыкі цуке́ркаў, шакаладу і іншых прысмакаў; найбольшая з гэтых хвабрыкаў у Вільні.

У лясістых мясьцінах Беларусі досіць густа разсе́яны невялікія заводы па пераробцы дрэва ды іншых лясных прадуктаў — **пільні, смалярні** й інш. Даўней з Беларусі вывозіўся толькі непілаваны ле́с. Дзякуючы гэтаму, паадкрывалася шмат пільняў у Кіеве, Кацярынаславе, Рызе і г. д. Тады й нашыя лясныя гандляры сталі рабіць пільні, і цяпе́р ужо значная частка лясных матар'ялаў з Беларусі йдзе́ць пілаванаю. Заводаў такіх яшчэ, аднак, мала, і на гэтым наш край шмат траціць.

Дагэтуль яшчэ шмат дрэва з Беларусі прадае́цца заграніцу **на папе́рныя хвабрыкі** і там з яго вырабляецца папе́ра, тым часам у нас паперняў пакуль што — толькі каля дзесятку. Важне́йшыя паперні знаходзяцца: ў Дабрушу (Гомельскага павету), ля Чашнікаў (Лепельскага павету), пад Вільняю і ў Барысаве. Дабрушская хвабрыка вырабляе найбольш папе́ры, і прытым ле́пшых сартоў. Па свайму ўстройству і па вялічыні займае яна пачэснае ме́йсца паміж папе́рняў усяе́ Эўропы. Папе́ру на ёй робяць: ле́пшыя сарты — з анучаў, горшыя — з дрэва й саломы, якія перарабляюцца ўпе́рад на асобых заводах. Хвабрыка апрыч пары працуе яшчэ й вадой. Для гэтага выкарастана аграмадная сіла р. Іпуці (гл. рыс. 25). На Дабрушскай хвабрыцы працуе каля 1500 работнікаў.

---

*) Ёсьць некалькі цукраварняў на самай паўднёвай мяжы Беларусі, у Чарнігаўшчыне.

Найбольш дрэва йдзé на тыя хвабрыкі, дзе выраблююцца горшыя сарты папéры (на вокладкі, абіцьцё) і бібула. Такіх хвабрык нéкалькі ёсьць у Віцебшчыне.

Выраб **сярнічак** на Беларусі досіць разьвіты. Беларускімі сярнічкамі карысталася амаль не палавіна даўнéйшае Расéі. Найбольш пашырана гэтая прамысловасьць у Чарнігаўшчыне (Сафіяўка, Злынка, Навазыбкаў), Мéншчыне і ў Віцебшчыне. Найбольшыя хвабрыкі сярнічак у Пінску, Барысаве, Гомелі. Прамысловасьць гэтая вéльмі хутка расьцé. З кожным годам адкрываюцца ўсё новыя хвабрыкі.

**Ткацкія хвабрыкі** гуртуюцца каля нéкалькіх цэнтраў: Беластоку, Клінцоў (Суражскага пав.) і Ярцава (Духаўшчынскага пав.). Найшырэй разьвіта гэтая прамысловасьць у Беластоку і каля яго. Тамака працуюць хвабрыкі, што прадуць воўну і выраблююць сукно, корт і драп. Хвабрыкі гэтыя былі пазакладаны нéмцамі каля 1800 г., калі яны тамака гаспадарылі пасьля III падзéлу Польшчы. Хаця па Тыльзіцкай згодзе Беласточчына і адыйшла да Расéі, аднак прамысловасьць разьвівалася далéй, дзякуючы блізкасьці мяжы і чужазéмным капіталам. Беластоцкія хвабрыкі выраблююць найбольш танныя сарты сукна й драпу, а таксама корт. Шмат гэтых матар'ялаў ідзéць на тандэтную вопратку.

Ткацтва разьвілося ня толькі ў самым Беластоку, але і ўва ўсіх яго ваколіцах. Па дробных мястэчках пад Беластокам пабудаваліся вялікія хвабрыкі з сотнямі работнікаў, а таксама шмат ёсьць і дробных рамéсьнікаў-ткачоў, якія маюць у хаце варштаты. З гэтых мястэчак важнейшыя — Заблудаў, Харошча, Супрасьль.

Беластоцкія хвабрыкі выраблююць у год тавараў больш як на 10 міліёнаў рублёў. На іх працуюць каля 10 тысяч работнікаў. Гэта самы важны цэнтр хвабрычнае прамысловасьці ў Беларусі.

Другім важным цэнтрам ткацтва трэба лічыць Клінцы Суражскага пав. разам з яго прадмесьцямі — Стадоламі, Казённаю Туросьняю й іншымі. Тут істнуюць вялікія хвабрыкі, найбольш суконныя; яны выраблююць у год тавараў (сукна, драпу, коўдраў, ваты й інш.) на $3^1/_2$ міліёны рублёў пры 4000 работнікаў.

У Ярцаве Духаўшчынскага пав. асобна стаіць вялізная ткацкая хвабрыка, г. зв. Ярцаўская мануфактура. Тутака прадуць бавоўну і ткуць найбольш танныя паркалі. Усяго вырабляе гэтая хвабрыка ў год тавараў на 3 міліёны руб.; а на ёй працуюць больш 4000 работнікаў.

Трэба ўрэшце зьвярнуць увагу на адну невялікую хвабрыку сукна ў Парэччы (Пінск. пав.). На гэтай хвабрыцы выраблююцца добрыя гатункі сукна што году на 180 тысяч рублёў.

Ткацкая прамысловасьць найбольш разьвітая пры межах Беларусі, перарабляе галоўным чынам прывозныя прадукты (бавоўну, воўну) і падтрымліваецца найбольш чужаземным

капіталам. Аднак пры дагодных варунках у гэтых існуючых ужо цэнтрах магла-б разьвіцца й пашырыцца і буйная беларуская прамысловасьць.

Вельмі шкада, што ў нас мала хвабрыкаў, якія выраблялі-б ільняныя тканіны з нашага-ж лёну, які мы ў аграмадным ліку вывозім за мяжу. Гэткая хвабрыка ёсьць у Крынках Варшанскага пав.

У большых гарадох Беларусі разьвіваюцца буйныя прамысловасьці кравецкая, шавецкая й інш. Апрача мэханічнага вырабу ботаў, панчох і інш. (Вільня, Менск) ёсьць шмат кантораў, якія раздаюць працу на дом сотням рамесьнікаў: шыцьцё адзежы, бялізны, вобую, панчох. У Вільні перад вайною было каля 60 кантораў, якія займаліся толькі панчохамі (Вільня ў гэтай справе займала вельмі выдатнае мейсца).

Досіць часта ў местах і мястэчках заходняе Беларусі сустракаюцца **хвабрыкі табакі**. Яны выпісуюць табаку са стараны, найбольш з паўдня, і, пасьля мэханічнае і хымічнае пераробкі яе, выпускаюць на рынак табаку да курэньня й нюханьня. У табачных хвабрыках працуе вельмі многа жанок і дзяцей. Найбольшыя хвабрыкі ў Горадні, Пінску, Віцебску.

**Гарбарні**. Віднае мейсца ў беларускай прамысловасьці займаюць гарбарні — г. зн. заводы, на якіх вырабляецца скура. Найбольш гарбарняў у Віленшчыне і ў Віцебшчыне. З гэтага боку асабліва вызначаюцца м. Смаргоні (Ашмянскага пав.), дзе было перад вайною каля 20 гарбарняў, а таксама Вільня, Крынкі, Дзьвінск, Ашмяна, Магілеў, Падабранна (Гомельскага пав.), Клінцы, Беласточчына.

Нашыя гарбарні найбольш зьяўляюцца невялічкімі заводамі. У адным Магілеве да 70 дробных гарбарняў. Яны даюць малы даход, але харчуюць шмат работнікаў. Буйных гарбарняў мала. Найбольш іх было ў Вільні.

Гарбарні выпісуюць сырую скуру здалёку — з Усходу, Каўказу і г.д. Выробленыя тавары прадавалі таксама найбольш у Маскоўшчыне. Устройства нашых гарбарняў нялішне добрае, і ім трудна бывае конкураваць з чужаземнымі гарбарнямі.

Ёсьць на Беларусі мылаварні і заводы сьвечак. Найбольш іх у Меншчыне.

**Хвабрыкі мінэральных вырабаў**. Пры большых местах, якія з пашырэньнем сеткі чыгунак, з разьвіцьцём прамысловасьці і гандлю сталі моцна будавацца, павырастала шмат цагельняў. Шмат іх ёсьць пад Вільняю, Менскам, Смаленскам. Гэтаксама каля местаў або чыгунак на лепшых глінах пабудаваліся кахельныя заводы. Найбольш іх (каля 15) ёсьць у м. Копысі (Гарэцкага пав.).

У лясістых пяшчаных мяйсцовасьцях досіць часта сустракаюцца — **хвабрыкі шкла (гуты)**. Прамысловасьць гэтая моцна разьвіваецца, бо для гэтага ў Беларусі ёсьць усе патрэбныя

ўмовы. Найбольшыя гуты ў Талочыне (Варшанскі пав.), у Рослаўскім павéце, у Залéсьсі (Вялéйскага пав.). Даўнéй славілася прыгожасьцяю судзьдзя, якое выраблялa Урэцкая шкляная гута (Бабр. пав.).

**Мэталёвая прамысловасьць** ў нашым краю разьвіта вéльмі слаба. Даўнéй у нас, асабліва ў Віленшчыне, было нéкалькі з я л é з н ы х  г у т а ў, дзе з балотнае руды выплаўляўся чыгун. Цяпéр гэтыя заводы пазакрываліся і ўся мэталéвая прамысловасьць працуе з прывазным матар'ялам. Найбольш важным ёсьць тут в ы р а б  г а с п а д а р с к і х  м а ш ы н  і  п р ы л а д а ў. Гэтыя вырабы былі разьвітыя каля Вільні і ў Віцебшчыне. Пад Вільняю была хвабрыка косаў (у Н.-Вялéйцы), а ў Віцебшчыне выраблялі плугі.

Іншыя мэталёвыя хвабрыкі сустракаюцца прыпадкова ў



**Рыс. 87. Чыгункавыя майстроўні.**

розных мяйсцох. Гэтак пад Воршаю ёсьць вялікая хвабрыка цьвякоў, у Гомелі, Менску і інш. — чыгуналітныя хвабрыкі.

Вéльмі важнае значэньне ў Беларусі маюць усякага роду ч ы г у н к а в ы я  м а й с т р о ў н і  (рыс. 87). Хаця яны па большай часьці толькі папраўляюць папсаваныя часьці ў паравозах, вагонах і інш., але займаюць значны лік работнікаў. Такія майстроўні ляжаць у большых чыгункавых вузлох — Мéнску, Гомелі й інш.

Хвабрычна-заводзкая прамысловасць можа зьмяняцца вельмі моцна і ў кароткім часе ў залежнасьці ад усякіх прычынаў. Той агляд прамысловасьці, які тут дадзены, адносіцца да часу перад вайною. Вайна 1914 г. зрабіла вялікія ўплывы на нашую прамысловасць. Некаторыя прамысловыя цэнтры, напр. Смаргоні, навет зусім разваленыя. Пасьля вайны, калі ўсё прыдзе да нармальнага стану, ведама, нашая прамысловасць будзе йначай выглядаць, чымся ўперад. Але аб гэтым трудна ўгадаваць.

## § 41. АДХОДНЫЯ ПРОМЫСЛЫ І ЭМІГРАЦЫЯ.

З прычыны малога разьвіцьця прамысловасьці ў Беларусі, малазямельнасьці, нізкое ўраджайнасьці зямлі і няўменьня на ёй гаспадарыць значная частка насяленьня Беларусі змушана шукаць заробкаў на старане, а часамі й зусім выяжджаць з роднага краю ў чужыну.

За апошнія гады вельмі многа стала выяжджаць на заробкі ў Паўночную Амэрыку, асабліва з Заходняе Беларусі: з Горадзеншчыны, Віленшчыны. Уперад ехала з Беларусі ў Амэрыку асабліва шмат жыдоў, якім цяжка ў нас жылося пры старых парадках. За жыдамі ўсьлед паехалі і сялянебеларусы, звычайна — лепшыя, здаравейшыя работнікі, адважнейшыя людзі. Іх цягнула туды высокая, раўнуючы да звычайнае ў нас, плата за працу, жаданьне паправіць за зробленыя грошы гаспадарку, прыкупіць зямлі. «Апынуўшыся на амэрыканскай тэрыторыі,— піша беларускі дзеяч з Амэрыкі п. Бубешка,— бяз веданьня англійскае мовы, найчасьцей у вялікіх местах — з звычаямі вясковага жыцьця, часамі саўсім няпісьменныя, натуральна, павінны былі сяліцца паміж сваіх (беларускіх) жыдоў. А таму, што жыды жывуць найчасьцей у вялікіх местах, як Нью-Йорк і Чыкаго, дык і нашыя беларусы туляцца там паміж іх; шмат хто навучыўся навет жыдоўскае мовы і зжываюцца наагул досіць дружна. Апрача Нью-Йорку, у якім жыве больш як 5 тыс. беларусаў, што працуюць найчасьцей у кравецкай прамысловасьці, шмат жыве ў Чыкаго, працуючы ў ведамых Чыкагскіх рэзьнях, значны лік працуе на сталелітных заводах Пітсбургу, у Дэтроіце на самаходных хвабрыках і іншых заводах. Вельмі шмат пасялілася ў ново-англійскіх штатах Конэкцікут і Масачуэт, дзе працуюць у паперна-ткацкай прамысловасьці, на цэмэнтовых і цагельных заводах, у лясістых мяйсцовасьцях Канады, на чыгунках, у рудніках, капаюць канавы, пракладаюць падземныя чыгункі, будуюць дамы, займаюцца сельскаю гаспадаркаю; у кожнай галіне ёсьць добрыя спэцыялісты, якія прынясуць шмат карысьці нашай Беларусі. Працуюць беларусы ўва ўсіх галінах прамысловасьці, праходзяць практычную школу абсолютна ўва ўсіх майстроўнях; ёсьць свае коопэратывы, як у краўцоў у Бронзьвілі (ваколіцы Нью-Йорку), у сталяроў і цесляў, дома-будаўляны і г. д.»

Ліку беларусаў, жывучых цяпер у Амэрыцы, трудна вызначыць; ёсьць іх там у кожным разе сотні тысяч. Працуюць беларусы ў Амэрыцы цяжка і зарабляюць менш, чым амэрыканскія работнікі, бо ня прыймаюць удзелу ў амэрыканскім работніцкім руху. Каля 95 % нашых эмігрантаў жыве ў Амэрыцы ня ведаючы англійскае мовы і дзеля гэтага застаюцца саўсім чужымі амэрыканскай культуры, грамадзкаму й палітычнаму жыцьцю. Да апошняга часу ня было сярод іх і свайго грамадзкага жыцьця, нацыянальных і культурных

арганізацыяў. Цяпе́р ужо гэныя арганізацыі йстнуюць, паадчынялася шмат школаў, раме́сьленых майстроўняў і г. д.

Значную частку зарабляных грошай амэрыканскія беларусы пасылаюць і прывозяць у Бацькаўшчыну.

Толькі малая частка эмігрантаў застае́цца ў Амэрыцы назаўсёды; у большасьці яны вяртаюцца назад і за заробляныя ў Амэрыцы грошы купляюць зямлю ды садзяцца на гаспадарку. Дзякуючы ім, вялікія прасторы дворнае зямлі ў Заходняй Беларусі перайшлі да сялянства. Гэта робіць эміграцыю ў Амэрыку карысным для Беларусі зьявішчам. Была б яна яшчэ больш карыснаю для нашага краю, калі-б беларусы з Амэрыкі прывозілі ня толькі грошы, але й амэрыканскае культурнае і грамадзкае ўзгадаваньне, ды каб іхняя туга па Бацькаўшчыне перарабілася ў нацыянальную сьве́дамасьць; здае́цца, гэтага ўжо чакаць ня доўга засталося.

З усходняе Беларусі — з Чарнігаўшчыны, з паўднёвае Смале́ншчыны, з Клімавіцкага, Чэрыкаўскага, Мсьціслаўскага пав. вельмі многа выяжджае на работу ў Дане́цкія капальні (на Ўкраіне). Заробкі там таксама досіць высокія, але варункі працы надта цяжкія й нездаровыя. Асабліва шмат выяжджала з Навазыбкаўскага, Суражскага, Клімавіцкага пав. З Навазыбкаўскага паве́ту выяжджала на заробкі ад $^1/_4$ да $^1/_2$ ўсяго дарослага насяле́ньня.

З паўднёвых частак Беларусі шмат хто выяжджае на летнія заробкі ў чарназёмныя стэпы, на Ўкраіну, Дон, Кубань.

Урэшце з усіх частак Беларусі выяжджала шмат народу на працу ў большыя ме́сты Расе́і — Петраград, Маскву, Адэсу і г. д. Шмат хто з выехаўшых у Расе́ю заставаўся там назаўсёды. Гэткім парадкам у гэтых ме́стах стварылася досіць вялікае беларускае насяле́ньне. Хаця акуратных падрахункаў не рабілася, але можна лічыць, што ў некаторых з гэтых ме́стаў лік беларусаў даходзіў да 100.000 і больш. Да таго-ж трэба сказаць, што выяжджалі на чужыну ле́пшыя працаўнікі, шмат выяжджала і інтэліге́нцыі.

Апроч таго, шмат беларускіх земляробаў выехала ў Сыбір. Лічаць, што ў Сыбіру беларусаў павінна быць каля 700.000 чалаве́к. Хаця яны разсыпаліся па ўсім Сыбіру, але найбольш іх жыве́ ў Енісейскай губ. — у Канскім, Ачынскім і Красноярскім паве́тах. У пе́ршым з гэтых паве́таў беларусы складаюць 1/3 частку ўсяго насяле́ньня. Таксама шмат беларусаў жыве́ ў Усурыйскім краі, ў Табольскай і Томскай губ. У Сыбіру беларусы выбіраюць ме́йсцы, якія прыпамінаюць ім пакінутую Бацькаўшчыну. Найбольш се́ляцца яны ў мяйсцох лясістых, ля вады.

## § 42. ГАНДАЛЬ.

Значная частка ме́ставых і местачковых жыхараў займаецца гандлем. Найбольш гандлем займаюцца жыды, а гэта затым,

што ім закрыты былі палітыкай расейскага ўраду іншыя прафэсіі. З гэтае прычыны ў Беларусі, дзе жыдом было дазволена жыць (у Маскоўшчыне жыдом расейскі ўрад не дазваляў жыць), асабліва моцна разраслася кляса людзей, якія займаюцца гандлем. Чым больш гандляроў, тым большая паміж іх конкурэнцыя, а чым большая конкурэнцыя, тым пакупцы дастаюць лепшы тавар і таней. Вось-жа ў Беларусі, дзякуючы значнай лічбе гандляроў і іхняй конкурэнцыі, гандаль стаіць досіць добра.

Памагае гэтаму і само геаграфічнае палажэньне Беларусі, а таксама і досіць значнае разьвіцьцё ўсякіх дарог. Гэтыя прычыны ўжо з даўных часоў далі магчымасьць разьвіцца ў Беларусі шырокаму гандлю.

Яшчэ ў часы дагістарычныя цераз Беларусь ішлі важнейшыя гандлёвыя дарогі і ў беларускіх местах ішоў бойкі торг і мена тавараў з усяго тадышняга сьвету. Найбольш ходкімі таварамі былі: бурштын, скура, мёд, воск, віны, тканіны, хлеб і інш. Усімі гэтымі таварамі й таргавалі нашыя продкі, і для гэтае мэты, мусіць, наўпярод і пазакладаліся старыя беларускія месты — Полацак, Віцебск, Менск, Смаленск, Горадня, Тураў, Пінск ды інш. Некаторыя месты, напрыклад Менск, навет самае імя сваё дасталі, відаць, ад галоўнага занятку сваіх жыхараў — гандлю, м е н ы. Месты гэтыя ляжаць найбольш у тых мяйсцох, дзе гандляры перацягвалі свае тавары з аднае ракі ў другую, калі па першай нельга было далей ехаць, ля в о л а к а ў.

Пастаянныя войны, якія адбываліся сотні гадоў на Беларускай зямлі, зруйнавалі нашыя месты. Даўнейшыя беларускія гандляры зьбяднелі й сталі займацца іншымі заняткамі. Да таго-ж у тыя часы (ў Сярэднія Вякі) занятак гандлем лічыўся для шляхціца, напрыклад, паніжаючым ягоную годнасьць. Вось як раз тады за гандаль у нас бяруцца жыды, пакрысе арганізуюць яго і займаюць усяго цалком у свае рукі.

За мяжу Беларусь, як ужо можна было бачыць з апісаньня гаспадаркі й промыслаў, вывозіць найбольш л е с і л я с н ы я м а т а р ' я л ы, а таксама л ё н, п я н ь к у, с а д о в і н у, с ь п і р т, с я р н і ч к і і г. д. Увозіцца найбольш п ш о н н а е мукі і ўсялякага з б о ж ж а, а таксама ўвозяцца: к а м е н н ы в у г а л ь, г а з а, ц у к а р, у с я л я к і я м э т а л і і м э т а л ё в ы я в ы р а б ы, ш т у ч н ы я г н а і (парашкі), к р а с н ы я т а в а р ы і г а л я н т э р ы я ды інш. Акуратнага падрахунку загранічнага гандлю Беларусі яшчэ ня зроблена.

Як бачым, вывозіць Беларусь заграніцу адны блізка сырыя прадукты, а прывозіць — фабрыкаты. На пераробцы нашага сырцу зарабляюць іншыя краі, мы-ж, купляючы іхнія вырабы, павінны аплачваць іхнія зыскі. Беларускі лён, прыкл., купляе бэльгійская хвабрыка, вырабляе з яго палатно, якое пасьля мы купляем, аплочуючы і працу бэльгійскага работніка, і зыскі бэльгійскага фабрыканта, і цэлы рад мытных падаткаў. Беларусь

такім чынам іграе ролю калёніі для сусьвéтнага капіталу. Прычынаю гэткага палажэньня ёсьць лішне малое разьвіцьцё ў нас прамысловасьці, на чым Беларусь вéльмі шмат траціць. Мы маглі-б саўсім ня прывозіць з заграніцы або прывозіць шмат мéнш, чым цяпéр: цукру, штучных гнаёў, мэталёвых вырабаў; наадварот, пры шырэйшым разьвіцьці нашае прамысловасьці мы маглі-б вывозіць заграніцу — шмат паперы, ільняных тканінаў, гатовых дзераўляных вырабаў і прадуктаў перагонкі дрэва й торфу; а пры належнай пастаноўцы гаспадаркі наш малазначны цяпéр вываз мясных і малочных прадуктаў (масла, сыроў) і садовіны мог-бы прыняць вялізарныя разьмéры.

Гэткія магчымасьці ёсьць перад нашым краем у будучыне. Іх зьдзéйсьненьне залéжыць у значнай мéры ад палітычных варункаў, шмат, аднак, у гэтай справе можа зрабіць сваімі высілкамі само сьвéдамае грамадзянства, ня глéдзячы ні на якія палітычныя варункі. Можа яно перад усім падняць прасьвéту народных масаў і іх экономічную самадзéйнасьць.

Галоўнымі тарговымі цэнтрамі, мéйсцамі гуртоўнага гандлю і складаў ёсьць месты: Вільня, Мéнск, Віцебск, Беласток, Гомель, Дзьвінск, Пінск. З гэтых цэнтраў разыходзяцца тавары па дробных мястэчках, адкуль іх і дастае насялéньне.

Вялікаю перашкодаю для гандлю, як і для прамысловасьці, ёсьць недахват буйнога капіталу. Затое дробныя капіталы, якія ў Беларусі ёсьць, зварочуюцца скора і, значыць, даюць добры зыск. Гэта паказуе, што старана нашая ў гандлёвых адносінах стаіць высака.

Добрая пастаноўка прыватнага гандлю доўга перашкаджала разьвіцьцю ў Беларусі спажывéцкае коопэрацыі. Толькі за апошнія гады, і то перш-наперш пад уплывам палітычных абставін, спажывéцкая коопэрацыя стала значна разьвівацца, усё больш і больш выціскаючы прыватных гандляроў. Стварылася нéкалькі вялікіх коопэратыўных арганізацыяў, як «Цэнтрабелсаюз» (Цэнтральны Саюз спажывецкіх таварыстваў Беларускага Краю) — у Менску, у якім злучаны сотні вясковых коопэратываў цэнтральнае Беларусі, «Віленскі Саюз Коопэратываў», які абыймае коопэратывы Заходняе Беларусі. Значныя коопэратыўныя арганізацыі існуюць і на ўсходзе Беларусі — у Віцебску, Смаленску, Гомелі і г. д. Усé яны абслужуюць найбольш спажывéцкія коопэратывы, якія за час вайны асабліва моцна разрасьліся, дзякуючы тavailable таварнаму голаду.

Іншыя віды коопэрацыі, а перад усім гэтак важныя для гаспадарнага жыцьця Беларусі, як земляробская, крэдытовая, у нас, на жаль, яшчэ вéльмі слаба разьвітыя. Наагул коопэрацыя мацнéй разьвіваецца на ўсходзе Беларусі, дзякуючы ўплывам магутнага коопэратыўнага руху Ўкраіны і Маскоўшчыны.

## § 43. Дарогі.

Беларусь мае густую сéтку прыродных дарог. Яна ўся зрэзана рэкамі, якіх вытакі ляжаць недалёка адзін ад аднаго, а да таго-ж яшчэ й не разьдзéлены высокімі гарамі. Дзеля гэтага няма вялікіх перашкод, каб правéсьці злучаючыя каналы. Гэтыя каналы й праведзены — імі злучаюцца рэкі, што цякуць у Чорнае мора, з тымі, што цякуць у Балтыцкае мора.

Апроч вадзяных дарог, у Беларусі, асабліва Заходняй, разьвіта досіць густая сéтка чыгунак і шосаў. Хаця гэтыя дарогі будаваліся найбольш дзеля ваéнных мэтаў, аднак яны маюць і вялізарнае эканамічнае значэньне.

Дарогі Беларусі маюць і вялікае паміжнароднае значэньне. Беларусь ляжыць як раз на вузьле ўсіх галоўных дарог, якія йдуць з Украіны й Маскоўшчыны ў Заходнюю Эўропу. Ведама, што і для Украіны, і для Маскоўшчыны надзвычайна важна, ці гэтая іхняя брама ў Эўропу будзе адчынена, ці не. Гэтае значэньне Беларусі было, бадай, ці не найважнейшаю прычынаю безканечных войнаў, якія вяла, пачынаючы з XV веку, Маскоўшчына, а перад ёю — кіеўскія князі на нашых прасторах.

---

**Мора.** Марскія дарогі, як ведама, найвыгаднейшыя дый найтаньнейшыя. Беларусь ляжыць паміж двох мораў — Балтыцкага й Чорнага, пры гэтым да пéршага значна бліжэй, чымся да другога. Але нідзé Беларуская зямля да самага бéрагу мора не даходзіць. Дзеля гэтага мусіць наш гандаль карыстацца марскімі портамі, якія ляжаць на чужой зямлі.

З портаў Балтыцкага мора найбольшае значэньне для Беларусі маюць: Рыга, Лібава, Клайпэда, Кёнігсбэрг (Каралевец) і Гданск.

**Рыга** — ля Рыжскае затокі над р. Дзьвіною, якая ў сваім вéрхнім і сярэднім цячэньні абвадняе паўночную Беларусь; Бярэзінскім-жа каналам злучана Дзьвіна з Дняпром. Такім парадкам уся паўночна-ўсходняя Беларусь — прымерна аж да р. Бярэзіны, цягне да Рыжскага порту. Чыгункі таксама злучаюць Рыгу найпрасьцéй з поўначай і ўсходам Беларусі. Тым часам з Заходняй Беларусяй сувязь не такая моцная. Цераз Рыжскі порт вывозіцца шмат лéсу, лёну й пянькі з Беларусі, а таксама збожжа з паўднёвае Маскоўшчыны.

На жаль, Рыжскі порт вéльмі доўга (каля 4 мéсяцаў) узімку бывае замéрзшы.

Значэньне Рыжскага порту, як мы бачым, для Беларусі надта вялікае. Яно яшчэ пабольшала-б, калі-б нашыя вадзяныя дарогі былі расчышчанымі і каб судаходзтва па іх ня мéла гэтулькі перашкодаў.

**Лібава** зьвязана з цэнтрам Беларусі старой чыгункавай лініяю (Лібава-Роменскаю). Лібава мае блізка што



Рыс. 88. Беларускі гасьцінец.

незамярзаючы, вельмі выгодны і добра ўстроены порт. Дзеля гэтага мéла яна дагэтуль вéльмі важнае значэньне для

беларускага гандлю. Асабліва гэтае значэньне павялічылася тым, што порты, ляжачыя далéй на паўдня, былі адрэзаны ад Беларусі нямéцка-расéйскай мяжой. Шмат ішло цераз Лібаву і ўкраінскага збожжа.

Рыга й Лібава ляжаць на латышскай зямлі.

На Літоўскай зямлі, пры вусьці Нёмна ляжыць порт **Клайпэда** (па нямецку — М э м э л ь). Клайпэда павінна-б быць адным з найважнéйшых для Беларусі портаў. Сыстэма Нёмна абыймае ўсю заходнюю Беларусь, а каналы Агінскі да Аўгустоўскі злучаюць з ёю й рэкі паўднёвае Беларусі. Ня глéдзячы на тое, што Клайпэда перад вайною была аддзéлена ад Беларусі дзяржаўным рубяжом, праз яé шмат вывозілася заграніцу беларускага лéсу. Калі-б палітычныя варункі не перашкаджалі, а карыта Нёмна й яго прытокаў і каналаў, зьвязаных з Нёмнам, было добра ўрэгулявана, Клайпэда магла-б мéць для беларускага гандлю дужа вялікае значэньне.

Ніжні Нёман Ф р ы д р ы х с г р а б э н с к і м к а н а л а м і р. Прэгелям зьвязаны з Кёнігсбэргам; па гэтым канале значная частка тавараў ішла з Нёмну проста ў Кёнігсбэрг.

**Кёнігсбэргскі** порт (Піллау) — найбліжэйшы з усіх марскіх портаў да Беларускаé зямлі, ляжыць у Нямéччыне, пры ўтоку р. Прэгеля. Нéкалькі лініяў чыгункі зьвязуе яго з беларускімі местамі (Б е л а с т о к а м, Г о р а д н я ю) безпасярэдна, а лінія Коўна — Кёнігсбэрг, якая йдзé цераз Літоўскую зямлю, зьвязуе яго з Вільняю. Апроч таго, р. Прэгель, як сказана, злучана каналам з Нёмнам.

Кёнігсбэрг з даўных часоў вёў шырокі гандаль з Беларусяй. І дагэтуль праз яго вывозіцца шмат беларускае пянькі, лёну і г. д.

Урэшце для паўднёвае й заходняе Беларусі можа мéць значэньне й **Гданскі порт**, што ляжыць пры ўтоку Віслы. Рэкі сыстэмы Віслы — Буг, Нарва і Бабёр абвадняюць заходнюю Беларусь, а Каралéўскі канал зьвязуе з Віслаю паўднёвае Палéсьсе.

З портаў **Чорнага мора** пэўнае значэньне могуць для нас мець: Х э р с о н, што ляжыць пры ўтоку Дняпра (цераз яго йдзé шмат лесу з Беларусі) і суседнія порты — А д э с а, М і к а л а я ў і г. д. Аднак усé яны ляжаць занадта далёка ад Беларусі. Налéжаць яны да Ўкраіны.

Ня маючы сваіх марскіх портаў, Беларусь мусіць нéяк умовіцца з сваімі заходнімі сусéдзямі, каб карыстацца іхнімі портамі і тым забясьпéчыць беларускаму гандлю дарогу на шырокі сьвéт.

---

**В а д з я н ы я д а р о г і**. Аб прыродных вадзяных дарогах мы ўжо казалі, апісуючы рэкі ды вазёры. Беларусь мае густую сетку судаходных рэк — больш **12 тыс. вёрст** даўжыні маюць яé вадзяныя дарогі, а на 100 кв. вёрст прастору прыходзіцца каля **4,5 вёр.** вадзяных дарог. Навет Нямеччына, у эканамічным жыцьці якое вадзяныя дарогі йграюць вялікую ролю, мае

радзейшую, чым у нас, іх сетку (3,5 в. на 100 кв. вёр.). Праўда, нашыя рэкі й каналы найбольш закінутыя, неагледжаныя й дзеля гэтага карыстацца імі часта няма як. Але пры пэўных клопатах гэтыя заганы можна было-б зьніштожыць, дый навет значна павялічыць даўжыню судаходных частак рэкаў.

З непаравых судзінаў, якія ходзяць па беларускіх рэках і каналах, важнейшыя: віціны — на Нёмне, падыймаюць да 14.000 пуд, стругі і баркі — вялікія бязмачтавыя судзіны, якія ўжываюцца выключна для сплаву ўніз па цячэньню; бэрліны — вялізарныя судзіны, падыймаюць па некалькі дзесяткаў тысяч пудоў, маюць мачту і ходзяць часамі на парусох. Зьверху пакрытыя яны двухскатнаю страхою. Лайбы — гэтаксама маюць мачты і парусы, але ня маюць страхі. Невялікія гэтыя судзіны (падыймаюць да 5000 пуд.) апошнімі часамі вельмі пашырыліся, асабліва на Дзьвіне.

Па большых рэках Беларусі ходзяць апрача непаравых судзінаў — і параходы. Лік іх даходзіў у вадазборніку Дняпра — да 150, Дзьвіны — да 100. У некалькіх мяйсцох у Беларусі былі заводы, дзе будаваліся новыя параходы й судзіны. З паміж іх найбольшы перад вайною істнаваў у Пінску.

Найважнейшымі беларускімі рачнымі пристанямі ёсьць: 1) Гомель, 2) Пінск, 3) Магілёў і 4) Віцебск.

Штучныя вадзяныя дарогі, ня глядзячы на вялізарную працу, якая была затрачана, каб іх правесьці, неагледжаныя і мала ўжываюцца. Важнейшых судаходных каналаў у Беларусі чатыры: Бярэзінскі, Агінскі, Каралёўскі і Аўгустоўскі.

**Бярэзінскі канал** злучае Бярэзіну з Дзьвіною. Ідзе ён праз рэчкі Сэргуч (прыток Бярэзіны), возера Манец, якое злучана каналам з воз. Бярэшта; з апошняга-ж возера выплывае рэчка Бярэшта, прыток Эссы. Эсса ўпадае ў Лепельскае воз., а з гэтага возера ўжо выплывае прыток Дзьвіны Вулла. Уся гэтая сыстэма рэчак і вазёр ляжыць у лядавіковай даліне, што злучала Бярэзіну з колішнім Полацкім лядавіковым возерам.

Бярэзінскі канал быў выкапаны ў 1805 годзе. Роблены ён быў няўмела і нядбала, і затым ужо адразу пасьля адкрыцьця быў ён мала прыдатны да судаходзтва. Пасьля некаторы час у Барысаве быў гэткі нізкі мост праз Бярэзіну, што пад ім не маглі праходзіць судзіны, і з гэтае прычыны рух судзінаў па канале саўсім спыніўся; бяз належнага дагляду канал, рэкі і вазёры, уваходзячыя ў яго сыстэму, зьмялчэлі, іх пазаносіла пяском, і калі ў Барысаве пабудавалі новы, вышэйшы мост, дык судаходзтва па канале не магло ўжо аднавіцца; цяпер па ім толькі сплаўляюць плыты.

**Агінскі канал** злучае Ясельду (прыток Прыпяці) з Шчараю. Даўжыня яго каля 50 вёрст. Ідзе канал па балоцістых прасторах Палесься і праходзіць праз два вялікіх возеры — воз. Выганошчы і воз. Вульку. Выкапаны канал яшчэ

ў XVIII веку стараньнем і коштам князя Агінскага, у чэсьць якога й носіць сваё імя. Цяпер служыць ён найбольш для сплаву плытоў, але перацягуюць па ім і баркі на лінах.

**Каралеўскі канал** (або Дняпроўска-Бужскі) злучае Піну (прыток Ясельды) з Мухаўцом (прыток Бугу). Гэта найбольшы з каналаў Беларусі. Ён мае ўдаўжкі каля 75 вёрст, ■ ўшыркі — каля 10 саж. Пракапаны ён яшчэ ў XVIII веку. У 1848 годзе быў ён паглыблены. Канал гэты мае вялікае значэньне, злучаючы Дняпро з Віслаю. Па ім ідзе лясны тавар, а таксама й хлеб з Украіны ў Гданскі порт, што ляжыць пры вусьці Віслы.

**Аўгустоўскі канал** злучае Віслу з Нёмнам цераз р. Бабёр (прыток Нарві), ягоны прыток Нэтту і р. Чорную Ганжу (прыток Нёмна). Ідзе ён увесь час па дне даўнейшае лядавіковае даліны, па якой воды Марачанкі сьцякалі ў Бабёр, Нарву й Віслу. Рух па канале малы, бо вады ў ім мала.

Усе апісаныя чатыры каналы злучаюць Чорнае мора з Балтыцкім. Даўно ўжо зьявілася думка, каб каторы з гэтых каналаў, а таксама й рэкі, з ім злучаныя, моцна паглыбіць і разчысьціць, ствараючы такім чынам Вялікі Балтыцка-Чарнаморскі вадзяны шлях. Праектавалі для гэтае мэты выкарыстаць Бярэзінскую сыстэму, паглыбляючы Дзьвіну і Дняпро гэтак, каб па канале маглі хадзіць самыя вялікія судзіны. Калі-б гэтыя праекты зьдзейсьніліся, па нашай зямлі йзноў, як у старадаўныя часы, прайшоў-бы вялікі вадзяны шлях, злучаючы ўсход Эўропы з яе захадам. Пэўне, што на гэтым шмат-бы выйгралі ўзьбярэжныя мясты і ўся Беларусь.

---

**Чыгункі.** Агульная даўжыня ўсіх чыгунак Беларусі каля **7 тыс. вёрст**. Прымаючы пад увагу вялізарны прастор Беларусі, трэба прызнаць нашую сетку чыгунак рэдкаю. Тады як у Нямеччыне **на 100 кв. вёрст** прастору выпадае 12 вёрст чыгункавае лініі, у Беларусі толькі **2 вярсты**. Затым-жа ў нас, асабліва на ўсходзе, ёсьць шмат мясьцінаў, якія ляжаць ад найбліжэйшае станцыі за 50—60, а то й 80 вёрст. Найгусьцей чыгункі ляжаць на захадзе Беларусі, у Горадзеншчыне, дзе яны будаваліся дзеля ваенных мэтаў, бо там недалёка праходзіў расейска-нямецкі рубеж. Найменш чыгунак у Магілеўшчыне, Палесьсі і Смаленшчыне.

Шмат якія з паміж чыгунак Беларусі маюць важнейшае транзітовае значэньне: па ім перавозяцца тавары й людзі з Маскоўшчыны і Украіны на захад і наадварот. Да гэткіх належаць перад усім чыгункі, якія кіруюцца да марскіх портаў: Лібава-Роменская, па якой гэтак шмат ішло ўкраінскага збожжа ў Лібаву, Рыга-Арлоўская, што злучала з Рыжскім портам чарназёмныя краіны Маскоўшчыны, і Маскоўска-Віндаўская — гэты найкарацейшы шлях ад Масквы да мора й да Нямеччыны. Разам з тым гэтыя чыгункі йграюць вялізарную ролю і ў унутраным жыцьці Беларусі. Лібава-Роменская чыгунка злучае між сабою тры

важнейшыя гандлёвыя цэнтры Беларусі — Вільню, Менск і Гомель, зьвязуе з захадам і з морам найдалéй ад іх ляжачую паўднёва-ўсходнюю Беларусь. Рыга-Арлоўская чыгунка, што праходзіць праз Бранск, Смалéнск, Віцебск і Дзьвінск, ня мéншае значэньне мае для паўночнае і ўсходняе Беларусі.

Нéкалькі чыгунак ідуць у кірунку на Варшаву. Яны створаны па большай часьці для стратэгічных мэтаў, але таксама і для падвозу грузаў да граніцы з Нямéччынаю і абслужаваньня прамысловасці Польскага краю. Гэта лінія Паўночна-Заходняя, лінія з Полацку на Сéдлец, Маскоўска-Берасьцéйская і Палéская (лінія Бéрасьце — Бранск).

Паўночна-Заходняя йдзець каля заходняе мяжы Беларусі і злучаець важнейшыя месты Заходняе Беларусі — Вільню, Горадню, Беласток, Дзьвінск. Гэта найстарэйшая з усіх чыгунак Беларусі.

Лінія Полацак — Сéдлец адкрыта нядаўна; яна праходзіць па Заходняй Беларусі, зьвязуючы найбольш разьвітыя з экономічнага боку часткі краю. Яна йдзéць праз мéсты: Ваўкавыск, Ліду, Маладэчына, Вялéйку, Полацак і Нéвель.

Маскоўска-Берасьцéйская мае найбольш палітычнае і ваéннае значэньне. Яна злучае цэнтр Маскоўшчыны з цэнтрам Польшчы — Варшавай і праходзіць цераз самую сярэдзіну Беларусі. На ёй стаяць мéсты: Смалéнск, Ворша, Барысаў, Мéнск, Бéрасьце. Для Беларусі мае яна апрача палітычнага і вялікае экономічнае значэньне.

Лінія Бéрасьце-Бранск праложана праз самую глухую сярэдзіну Палéсься, праз непраходныя лясы і балоты, йдзéць часамі навет па дрыгвé. Лінія гэтая мае і стратэгічнае і аграмаднае экономічнае значэньне, злучаючы з сьвéтам бязьмéжныя прасторы Палéсься і Беларускага лесастэпу. Яна праходзіць праз Пінск, Мазыр, Рэчыцу, Гомель і Навазыбкаў.

З Кіева і Заходняе Ўкраіны йдуць праз Беларусь тры лініі: 1) Карасьцéнь — Жлобін — Петраград, 2) Вільня — Роўна і 3) Ковель — Граева. Першая лінія праходзіць цераз Віцебск, Воршу, Магілéў і Рагачоў. Нядаўна яна прадоўжана далéй (на Мазыр і Карасьцéнь) і цяпéр праразае глухую краіну цэнтральнага Палéсься. Перасéкшы сярэдзіну Магілéўшчыны, яна адрадзіла ў гэтай краіне экономічнае жыцьцё: гарады сталі хутка расьці, разьвіўся гандаль і прамысловасьць.

Лініі Вільня — Роўна і Ковель — Граева маюць вялікае транзітовае значэньне — гэта найбольшыя і найвыгаднéйшыя шляхі з хлебароднае Ўкраіны ў Нямéччыну і да Балтыцкіх портаў. Пéршая лінія йдзéць праз Лунінéц, Баранавічы, Ліду і Вільню, а другая — праз Бéрасьце, Бéльск і Беласток — каля нашае мяжы з Польшчаю.

Апроч гэтых галаўнéйшых шляхоў, ёсьць яшчэ нéкалькі мéншых, якія маюць больш мяйсцовае значэньне. Так, для

Горадзеншчыны важная — лінія Беласток — Баранавічы і таксама лінія Горадзен — Сувалкі — Маргра-бова, якая йдзе́ць проста да няме́цкага рубяжу. Лініі гэтыя, аднак, маглі-б ме́ць і шырокае транзітовае значэньне, як дарогі, вядучыя з цэнтра Беларусі безпасярэдна ў Няме́ччыну. Для паўночнае Віленшчыны важная лініяя Сьвянцяны — Глыбокае (вузкакалейная), для Случчыны — лінія Асіпа-вічы — Слуцак і г. д.

З правядзе́ньнем чыгункі жыцьцё мяйсцовасьці рэзка зьмяняецца. Моцна ажыўляецца гандаль, людзкі рух, зьяўляюцца ў глушы новыя людзі, будуюцца пры станцыях новыя гарады й мястэчкі і патроху гінуць усе́ акалічныя лясы на не́калькі дзесяткаў вёрст ад лініі. Горад, цераз які прайшла чыгунка, адразу пачынае моцна расьці і багаце́ць. Найбольшыя ме́сты Беларусі як раз ляжаць на крыжаваньні некалькіх чыгунак.



**Рыс. 89. Вясковая дарога.**

Цікава гісторыя некаторых новых местаў, павырастаўшых пры станцыях. 50 гадоў назад Баранавічы былі маленькаю вёскаю. Цераз іх прайшла тады Маскоўска-Берасьцейская дарога і была пабудавана станцыя. Праз гадоў дваццаць цераз Баранавічы перайшла другая дарога, а пасьля й трэйцяя. Баранавічы пачалі моцна расьці. Перад вайною ўжо яны ме́лі каля 30 тысяч жыхараў. Такіх зялезнадарожных местаў ёсьць яшчэ некалькі — Луніне́ц, Маладэчына, Жлобін, Асіпавічы і інш.

На **шосы** Беларусь небагатая; маець іх усяго каля **$4^1/2$ тыс. вёрст**, і то большая частка знаходзіцца ў Горадзеншчыне. На ўсходзе-ж, асабліва ў Пале́сьсі, шосаў саўсім мала. Важнейшыя шосы — Маскоўска-Варшаўская і Петраграда-Кіеўская. Першая перасякае Беларусь з усходу на захад і йдзе́ цераз Рослаў — Чэрыкаў — Бабруйск — Слуцак і Бе́расьце. Яна праходзіць праз шмат глухіх закуткаў Беларусі і зьяўляецца там, напрыклад, у Чэрыкаўскім паве́це, адзіным ле́пшым спосабам комунікацыі.

Петраграда-Кіеўская шоса йдзе́ць найбольш каля зяле́зных і вадзяных шляхоў і дзеля таго мае ме́ншае значэньне для Беларусі. Яна йдзе́ праз Не́вель, Віцебск, Воршу, Магіле́ў і Гомель.

Найбольш шосаў у Горадзеншчыне, дзе яны пабудаваны дзеля вае́нных мэтаў. Тым часам ад іх вялікая карысьць і для гаспадарнага жыцьця краю. Па заходняй Горадзеншчыне і Сувальшчыне йдзе́ ў розных кірунках больш дзесятка шосаў. Ад аднаго Беластоку шосы разыходзяцца ў 7-х кірунках.

**Гасьцінцы.** Па ўсёй Беларусі йдуць, злучаючы гарады між сабою, даўне́йшыя пачтовыя дарогі — гасьцінцы. Яны па большай часьці досіць выгодныя для руху, маюць значную шырыню, добра ўтрыманы. Гасьцінцы з бакоў звычайна абсаджаны бярозамі (рыс. 88). Гэтыя безкане́чныя прысады старых бяроз робяць ве́льмі прыятнае ўражаньне на падарожных. Ды і папраўдзе яны шмат прыхарошуюць гасьцінец, робяць яго выгадне́йшым і зьяўляюцца важнай рысаю ў беларускім краявідзе. Гасьцінцы і наагул звычайныя нябрукаваныя дарогі (рыс. 89) і ёсьць важне́йшымі унутраннымі шляхамі Беларусі.

---

## § 44. ДЗЯЛЕ́НЬНЕ БЕЛАРУСІ НА КРАІНЫ.

Мы ўжо шмат чаго даве́даліся аб розных бакох жыцьця і сучаснага палажэньня Беларусі: аб паве́рхні Беларусі, яе́ расьліннасьці, яе́ гаспадарцы. Але ўсё гэтае, узятае паасобку, — і горы, і рэкі, і гаспадарка і г.д. ёсьць толькі як-бы асобнымі штрыхамі вялікага вобразу, якім ёсьць край і яго жыцьцё. Нам-жа трэба сабе́ гэты вобраз так пазнаць, як ён ёсьць папраўдзе, — адразу з усімі яго хварбамі і рысамі. Для гэтага трэба разгле́дзіць усе́ бакі жыцьця краю, усе́ яго адзнакі адразу.

Зрабіць гэта ня так лёгка. Занадта многа будзе гэтых штрыхоў, і няма яшчэ ў іх акуратнага парадку. Калі трудна пазнаць уве́сь край у суцэльнасьці адразу, дык ці ня можам мы ўпе́рад у суцэльнасьці-ж пазнаць хоць асобныя паве́ты, краіны і г. д.? Гэта ўжо будзе шмат лягчэй. Наагул можна заўважыць, што чым больш падрабязна захочам мы пазнаць край, тым на ме́ншыя прасторы павінны яго разьдзяліць, каб пасьля кожны такі прастор разглядаць асобна.

У гэтай кнізе далей мы будзем разглядаць асобна паве́ты, ня дзелячы ўжо іх на меншыя раёны, бо аб беларускіх ме́ншых раёнах у навуцы блізка што няма данных.

Паве́таў у Беларусі ёсьць каля 65. Калі мы іх будзем разглядаць уважне́й, пабачым, што часта сусе́днія паветы ве́льмі адзін да аднаго падобныя. Паўстае пытаньне, ці не маглі-б мы разглядаць па не́калькі суме́жных паве́таў разам, злучыўшы іх у адну краіну? Гэтак нам і трэба зрабіць. Бо-ж, разгле́дзіўшы кожны паве́т з усіх бакоў, пазнаўшы яго ў суцэльнасьці, мы захочам таксама ў суцэльнасьці пазнаць і ўсю Беларусь, як мы знаем яе́

паасобныя павéты. Шмат лягчэй будзе нам сабé ўявіць усю Беларусь, калі мы гэтыя 65 паветаў паскладаем у групы — **краіны.**

Павéты, злучаныя ў краіну, маюць шмат у сабé падобнага. Але ў чым, у якой адзнацы для нас ёсьць найважнéйшая гэтая падобнасьць? Па якіх адзнаках будзем мы злучаць паміж сабою павéты ў краіны?

Беларусь — край земляробскі, а палажэньне земляробства, ды гэтаксама і разьвіцьцё прамысловасьці вéльмі зьвязана з шчыльнасьцяю або гушчынёю насяленьня; адзнака гэтая — г у ш ч ы н я   н а с я л é н ь н я — усюдых добра вымерана, людзі палічаны і таксама — прастор зямлі. Вось-жа гэтую адзнаку — г у ш ч ы н ю   н а с я л é н ь н я   мы   п р ы м е м   з а   а д н у   з   в а ж н é й ш ы х. Гушчыню насялéньня павéту мы будзем лічыць, як-бы выкінуўшы павéтавае мéста, дзеля таго, што ў мéсьце народ, вéдама, жывé надта густа, а на гаспадарку гэта не заўсёды моцна ўплывае. Дзеля гэтага мы будзем разглядаць   г у ш ч ы н ю   в я с к о в а г а   н а с я л é н ь н я.

На гаспадарку, апроч жыхараў, іх гушчыні, уплывае п р ы р о д а — грунты, клімат і г. д. Але наймацнéй прырода залéжыць ад павéрхні краіны і яé падняцьця над роўням мора. Адну прыроду маюць узгор'і, другую нізіны. Дзеля таго ў с т р о й с т в а   п а в é р х н і мы прымем за д р у г у ю в а ж н é й ш у ю   адзнаку; гэтаксама і іншыя прыродныя асобнасьці будуць прыняты пад увагу.

Вобраз краіны стварыла прырода яé і яé насялéньне. Дзéйнасьць насялéньня цягнецца вось ужо праз тысячы гадоў і ёсьць вéльмі разнароднаю. Не заўсёды зможам мы паводле аднаé толькі гушчыні насялéньня злучыць разам тыя павéты, якія прыродна паміж сабою злучаныя ў жыцьці. Дзеля таго павінны мы зьвярнуць увагу на   э к о н о м і ч н ы я   с у в я з і (напрыклад, гандлёвыя) асобных павéтаў, на іхнія   с у в я з і   ў   м і н у ў ш ч ы н е,   а   з н а ч ы ц ь — і на сыстэмы рэк, якія ў гэтай справе не малое маюць значэньне, на   з в ы ч а і   м я й с ц о в а е   г а с п а д а р к і,   л я с і с т а с ь ц ь   і г. д.

Урэшце і палітычная сувязь накладае часамі моцныя свае знакі на край. Ня шкодзіць, іншы раз, прыняць пад увагу, прыкладам,   п а л і т ы ч н ы я   м é ж ы   к р а ю   ў   м і н у ў ш ч ы н е.

Возьмем-жа мы карту Беларусі і панадпісуем на кожным павéце, якая там ёсьць гушчыня насялéньня. А каб лягчэй было нам разглéдзіцца ў гэтых цыфрах, замалюем павéты хварбамі такім спосабам, каб там, дзе найгусьцéй насялéньне жывé, была й хварба найгусьцéй паложана (гл. рыс. 48).

---

Гляньма цяпéр на карту. У нéкалькіх яé мяйсцох хварба ляжыць найгусьцéй. Возьмем такі найгусьцéйшы павéт, прыкладам Наваградзкі, і паглядзём, якія павéты да яго падобныя, якія нé. Возьмем, з другога боку, павéт з найбольш рэдкім насяленьнем — Мазырскі. Калі Наваградзкі будзе асяродкам

аднае́ краіны, найгусьце́йшае, Мазырскі будзе асяродкам найрадзе́йшае. Паміж гэтых двох паве́таў ляжыць пав. Слуцкі. Куды яго адне́сьці?

Па гушчыні насяле́ньня ён займае якраз блізка сярэдзіну паміж Наваградзкім і Мазырскім. І мы ве́даем, што і папраўдзе яго заходняя й паўночная часткі зусім падобныя да Наваградзкага пав. — гэта край земляробскі, ляжыць на ўзгор'і; затое паўднёвая частка — ёсьць такім самым Палесьсем, як і Мазырскі паве́т.

Але паве́таў мы ня можам дзяліць. Значыцца, трэба яго туды ці сюды адне́сьці. Прыймаючы пад увагу, што большая частка паве́ту і па паве́рхні, і па грунтох, і па сваіх сувязях экономічных цягне да Наваградчыны, мы Слуцкі паве́т злучаем з Наваградзкім.

Такім самым спосабам ідучы, зьвяжам з Мазырскім паве́там рад падобных да яго паве́таў Пале́сься, а з Наваградзкім — паветы, ляжачыя на ўзгор'ях.

Калі мы ўважне́й прыгле́дзімся да некаторых такіх групаў паве́таў, мы пабачым, што такую, напр., Пале́скую, рэдка засе́леную групу варта разьдзяліць, бо Барысаўскі паве́т па сваёй прыродзе досіць мала падобны да Мазырскага, хаця засе́лены рэдка. Мы зьвяжам Барысаўскі паве́т з Ігуменьскім і назавем гэтую краіну Верхне-Бярэзінскім Пале́сьсем (бо ляжыць ўздоўж ве́рхняе Бярэзіны), а краіну, зложаную з Мазырскаго, Рачыцкага і Бабруйскага пав., дзеля вялізарнаго яе́ прастору можам назваць, напр., Вялікай Пале́скай нізінаю.

Прыняўшы пад увагу ўсё толькі што сказаное, мы дзе́лім Беларусь на 14 краінаў. Вось іхнія назовы:

1. Полацкае Наддзьвіньне.
2. Віленская краіна.
3. Ме́нская краіна.
4. Наднёманская краіна (Горадзеншчына).
5. Надбужанская краіна (Падлясьсе).
6. Піншчына.
7. Вялікая Пале́ская нізіна.
8. Беларускі лесастэп (Чарнігаўшчына).
9. Радань (Паўднёвая Магіле́ўшчына).
10. Верхне-Бярэзінская краіна.
11. Амсьціслаўшчына.
12. Варшанская краіна (Паўночная Магіле́ўшчына).
13. Віцебская краіна.
14. Смале́ншчына.

Разглядаючы ўважна карту Беларусі, падзе́лянае на гэтыя краіны, мы можам зрабіць такі вывад.

Паўднёвы край Беларусі і яе́ Цэнтр займаюць краіны нізінныя, у большай часьці рэдка заселеныя і лясістыя — Піншчына, Вялікая Палеская нізіна, Радань і

Ве́рхне-Бярэзінская краіна, а таксама і Надбужанская краіна (хаця яна густа засе́леная). Гэта **пояс нізінаў**. Ён дзе́ліць пояс узгор'яў, што аблягае яго з трох бакоў — з усходу, поўначы і паўночнага захаду, на **пояс Заходніх узгор'яў**, у якім ляжаць пе́ршыя чатыры краіны, і **пояс Усходніх узгор'яў**, у якім ляжаць чатыры апошнія краіны; сюды-ж трэба адне́сьці і Беларускі лесастэп.

З прыложанае таблі́цы (стр. 199) можна бачыць, як і ў якія краіны зграмаджаны паасобныя паве́ты Беларусі, як пры гэтым зьмяняецца гушчыня насяле́ньня і лясістасьць.

---

# ПАВÉТЫ БЕЛАРУСІ,

## іх падзéл паміж краінамі, гушчыня іхняга вясковага насялéньня і лясістасьць.

| Краіны і павéты | Гушчыня вясковага насялéньня *) | % прастораў, занятых лéсам**) |
|---|---|---|
| **I. Полацкае Наддзьвіньне** | **37** | **30** |
| Полацкі павéт | 29 | 37 |
| Лéпельскі „ | 45 | 23 |
| Дрысьсенскі пав. | 36 | 34 |
| Дзісьненскі „ | 39 | 25 |
| Ілукштанскі „ | — | — |
| Браслаўскі (Нова-Александр.пав.) | — | — |
| **II. Віленская краіна** | **37** | **28** |
| Віленскі павéт | 36 | 27 |
| Троцкі „ | — | — |
| Сьвянцянскі пав. | 37 | 24 |
| Ашмянскі пав. | 37 | 32 |
| Вялéйскі „ | 36 | 28 |
| **III. Мéнская краіна** | **43** | **29** |
| Мéнскі павéт | 41 | 29 |
| Слуцкі „ | 35 | 32 |
| Наваградзкі пав. | 53 | 27 |
| **IV. Наднёманская краіна (Горадзеншчына)** | **38** | **26** |
| Горадзенскі павéт | 42 | 23 |
| Лідзкі „ | 40 | 29 |
| Слонімскі пав. | 34 | 28 |
| Ваўкавыскі „ | 41 | 21 |
| Сакольскі „ | 38 | 20 |
| Аўгустоўскі „ | 35 | 30 |
| Пружанскі „ | 36 | 34 |
| **V. Надбужанская краіна (Падлясьсе)** | **48** | **21** |
| Бéластоцкі павéт | 53 | 21 |
| Бéльскі „ | 47 | 18 |
| Берасьцéйскі „ | 43 | 23 |
| **VI. Піншчына** | **28** | **25** |
| Пінскі павéт | 19 | 34 |
| Кобрынскі пав. | 38 | 17 |
| **VII. Вялікая Палеская нізіна** | **17** | **44** |
| Мазырскі павéт | 12 | 40 |
| Рачыцкі „ | 19 | 44 |
| Бабруйскі „ | 20 | 47 |
| **VIII. Верхне-Бярэзінская краіна** | **25** | **47** |
| Ігуменьскі пав. | 26 | 46 |
| Барысаўскі „ | 25 | 48 |

*) Цыфры ўзяты з перапісу 1897 году. Цяпéр яны шмат зьмяніліся.

**) Цыфры ўзяты з зямéльнага пéрапісу 1887 г. Цяпéр яны значна зьмяніліся.

| Краіны і павéты | Гушчыня вясковага насялéньня | % прастораў, занятых лéсам | Краіны і паветы | Гушчыня вясковага насялéньня | % прастораў, занятых лéсам |
|---|---|---|---|---|---|
| **IX. Беларускі лесастэп . . . . . .** | **44** | **23** | **XII. Варшанская краіна (Паўночная Магілéўшчына) . .** | **37** | **40** |
| Гомельскі пав. . . | 41 | 25 | Варшанскі пав. . | 36 | 43 |
| Навазыбкаўскі пав. | 47 | 20 | Магілéўскі ,, . . | 38 | 47 |
| Суражскі пав. . . | 51 | 22 | Сéньнінскі ,, . . | 37 | 31 |
| Старадубскі пав. | 45 | 20 | **XIII. Віцебская краіна . . . . . . .** | **32** | **33** |
| Мглінскі ,, . . . . | 40 | 24 | Віцебскі пав. . . . | 38 | 34 |
| Трубчаўскі ,, . . | — | — | Гарадоцкі ,, . . . | 34 | 29 |
| Бранскі ,, . . . . . | — | — | Нéвельскі ,, . . . | 30 | 33 |
| Гараднянскі ,, . . | 43 | 26 | Сéбежскі ,, . . . | 28 | 35 |
| **X. Радань (Паўднёвая Магілéўшчына) . . . . . .** | **34** | **40** | Люцынскі ,, . . . | — | — |
| Рослаўскі пав. . . | 31 | 42 | Апочацкі ,, . . . . | — | — |
| Клімавіцкі ,, . . . | 38 | 41 | **XIV. Смалéншчына . . . . . . .** | **28** | **43** |
| Чэрыкаўскі ,, . . | 36 | 40 | Смалéнскі пав. . | 35 | 34 |
| Быхаўскі ,, . . . . | 29 | 40 | Парэцкі ,, . . . . | 25 | 45 |
| Рагачоўскі ,, . . . | 34 | 36 | Вяліжскі ,, . . . . | 23 | 46 |
| **XI. Амсьціслаўшчына . . . . . . .** | **42** | **37** | Духаўшчынскі пав. | 33 | 39 |
| Мсьціслаўскі пав. | 43 | 39 | Ельнінскі ,, . . . . | 32 | 39 |
| Чаўскі ,, . . . . . | 38 | 42 | Дарагабужскі ,, . | 30 | 41 |
| Гарэцкі ,, . . . . . | 46 | 35 | Бéльскі ,, . . . . | 16 | 55 |
| Красенскі ,, . . . | 42 | 31 | Ржэўскі ,, . . . . | — | — |
| | | | Асташкаўскі ,, . . | — | — |
| | | | Тарапéцкі ,, . . . | — | — |

*Увага.* Для павéтаў, якія цалком ня ўходзяць у склад Беларусі, цыфры шчыльнасьці і лясістасьці не падаюцца.

# ПААСОБНЫЯ КРАІНЫ БЕЛАРУСІ

## I. Полацкае Наддзьвіньне.

Апісаньне паасобных краінаў пачынаем мы з паўночна-заходняга кута Беларусі, дзе найпе́рш выявілася гістарычнае бытаваньне Беларускага народу, з Полацкага Наддзьвіньня. Да гэтае краіны трэба залічыць даўнейшыя расе́йскія паве́ты: **Полацкі, Ле́пельскі, Дрысенскі, Дзьвінскі, Ілукштанскі, Браслаўскі** (Нова-Аляксандраўскі) і **Дзісьненскі**. Першыя чатыры з іх адносіліся да Віцебскае губэрні, Ілукштанскі — да Курляндзкае, Нова-Аляксандраўскі — да Ковенскае, а Дзісьненскі да Віленскае. У даўнейшыя часы прасторы гэтых паветаў складалі з сябе́ ядро Полацкага Князьства, Полацкую зямлю ў це́сным значэньні гэтага слова. Прырода і географічнае палажэньне, а таксама і ѣарункі экономічнага разьвіцьця зьвязуюць і цяпе́р гэтыя паве́ты ў адну краіну, якая розьніцца ад сусе́дніх: 1) большаю гушчынёю насяле́ньня, 2) палажэньнем у вадазборніку сярэдняе Дзьвіны, у замкнёнай з усіх бакоў лагчыне, 3) адпаведным гэтаму кліматам — мягкім, вільготным, досіць халодным, 4) рэзка выяўленым морэнным краявідам і 5) гістарычнай мінуўшчынай (Полацкая зямля), аб якой толькі што гаварылася.

Ад часоў лядавіковых у вадазборніку сярэдняе Дзьвіны засталіся сьляды быўшага тут вялікага возера. У гэтае возера сабраліся былі воды таяўшых лядавікоў, стрыманыя ў сваім імкне́ньні да мора Дзьвінскім узгор'ем і заняўшыя шырокую лагчыну паміж гэтым узгор'ем і Віцебска-Не́вельскім на паўночным усходзе, а Сьвянцянска-Докшыцкім на паўдні, ужо знаёмую нам П о л а ц к у ю н і з і н у. Дзьвіна, прарваўшыся праз узгор'е не́дзе, мусіць, ля Краслаўкі, пакрысе́ сьцягнула ваду з гэтага возера; на яго ме́йсцы аж да нашага часу засталіся абшырныя імховыя балоты, з невялічкімі вазяркамі пасярод, якія ляжаць галоўным чынам у Полацкім пав. (балота Лоньніца) і ў Дзісьненскім, ды яшчэ большыя пяшчаныя нізіны, звычайна занятыя хваёвымі барамі. Краявід тут, у цэнтральнай часьці Полаччыны, у вадазборніку Дрысы, Полаты і Дзісе́нкі крыху падобны да Пале́скага; рэкі, аднак, маюць у Полацкай нізіне досіць значны спад і хуткое цячэньне і дзякуючы гэтаму мяйсцовасьць тут моцна абсушаная, высыхаюць пакрысе́ і тутэйшыя балоты, а лясы — даўно парасьцярбліваў чалавек і абярнуўў у ральлю. Пяскі і балоты займаюць дно Полацкае

нізіны, а яе́ берагі пакрысе́ падыймаюцца, пераходзячы ў суседнія ўзгор'і. Адхоныя спады гэтых узгор'яў, а таксама і блізка ўсё Дзьвінскае ўзгор'е маюць добрыя грунты і найгусьцей засе́леныя. На іхніх прасторах якраз і разьвівалася гістарычнае жыцьцё Полаччыны, тады як самае пале́скае дно Полацкае нізіны, дзеля сваé бе́днасьці было як быццам адным вялікім няўжыткам і вялікае ролі ў эканамічным і грамадзкім жыцьці Полаччыны йграць не магло. Затым жа да Полаччыны мы адносім і гэтыя вышэйпаднятыя прасторы, нахіленыя ў бок Дзьвіны. Яны маюць ўсе́ прыметы тыповае морэннае краіны. Засеяны яны безканечным лікам большых і меншых вазёраў, з самымі дзіўнымі рысамі берагоў, з масаю затокаў



**Рыс. 90. Над возерам у Полаччыне**
(Спэц. фот. А. Трэпкі).

і выстравоў. Вазёры гэтыя злучаны ў цэлую се́тку межытокамі, йдучымі ад аднаго да другога. Над сьве́тлым люстрам вазёраў падыймаюцца высокія, часта лясістыя ўзгоркі; часамі-ж іх акружуюць досіць роўныя прасторы палёў (рыс. 90). Асабліва ґуста вазёры ляжаць у трох паве́тах: 1) Браслаўскім, дзе мы спатыкаем гэткія вялізныя вазёры, як Снуды, Дрысьвяты, Браслаўскае, 2) у Лепельскім — дзе пераважаюць дробныя вазёры і 3) у Дзьвінскім пав. Паве́рхня гэтых паве́таў чыста зрэзана вазёрамі.

На захадзе краіны падыймаецца Дзьвінскае ўзгор'е. Массы морэнных узгоркаў, то выцягнутых, то абкругленых, як бохан хлеба, робяць тутэйшыя краявіды разнароднымі і вельмі прыгожымі. На ўсходзе, у Лепельскім пав. краіна гэтаксама паднятая. Узгоркі тут зьбіраюцца вялікімі гнёздамі і маюць часамі значную вышыню. З такіх гарыстых гнёздаў асабліва вызначаецца Пышнагор, невялікае ўзгор'е, што ляжыць на захад ад Лепеля. На самай усходняй мяжы Лепельскага пав. падыймаецца ўзгор'е Каторсы; гэтаксама высака паднята і сумежная з Лепельскім частка Дзісьненскага пав.

Тады, як у нізінах ляжаць бедныя і неўраджайныя пяшчаныя або балотныя грунты, вышэйпаднятыя часткі краіны пакрытыя бываюць звычайна ўраджайнымі суглінкамі й супескамі. Побач з імі, аднак, і на ўзгор'ях спатыкаюцца значныя прасторы пяшчаных грунтоў (яны асабліва пашыраныя ў Ілукштанскім ды Браслаўскім пав.), дый неўраджайных падзолаў (у Полацкім пав.). Наагул грунты ў Полаччыне моцна выпаласканыя, дзякуючы значнай вільготнасьці клімату.

Для агульнай характарыстыкі краявіду краіны цікавы матар'ял даець апісаньне вядомага польскага географа Налкоўскага. Ён, між іншым, піша: «Вакола Лепеля ёсьць вельмі многа ўзгор'яў закругленых, купалаватых, а найчасьцей эліпсоідальных, выцягнутых у магутныя валы. Парасьлі гэтыя ўзгор'і лясамі, найбольш шыльнікавымі (хвойнымі), часта нізкою рэдкаю хвойкаю, верасам, чаборам ды несьмяртэльнікамі, а часамі зьмяняюцца ў пяшчаныя выдмы. Староньняму з пэўнаю фантазіяю глядзельніку гэтыя ўзгор'і ды ўся краіна здаліся б нейкім нязьмераным, адвечным полем бітвы Тытанаў (волатаў), якія сваім палёгшым таварышом сыпалі вялізарныя магілы. Такое зданьнё яшчэ пабольшуецца дзеля таго, што між узгор'яў спатыкаюцца і папраўдзе насыпаныя чалавекам курганы. Побач з узгор'ямі ёсьць тут і абшырныя высокія раўніны, занятыя лясамі, палямі ды дзірваном з яго спэцыяльнымі расьлінамі, сярод якіх уюцца рухавыя яшчаркі ды палявыя конікі».

Цікава яшчэ ўвага таго-ж аўтара аб тым, што вывятраваньне ў Наддзьвіньні адбываецца вельмі хутка. «Здаецца, што нейкія магутныя жорны перамалолі тутэйшыя граніты», піша Налкоўскі*).

Ня гледзячы на гэта, паверхня краіны наагул мае характар геолёгічнае моладасьці: тут найдаўжэй быў затрымаўшыся лядавік (цераз Себеж і Дзісну праводзяць граніцу, да якое дапаўзаў 2-гі лядавік), і з гэтае прычыны рэкі Полаччыны не пасьпелі яшчэ належна разьвіцца, пракапаць сабе глыбокія карыты ды пасьцягаваць ваду з вазёраў, як гэта сталася, прыкл., на Менскім узгор'і.

---

*) Nałkowski. Jezioro Lepelskie.

Толькі Дзьвіна, якая цячэ пасярод усяе́ краіны, займаючы найніжэйшыя яе́ ме́йсцы, раскапала сабе́ глыбокі ход між узгор'яў і вырасла ў вялікую раку. Аднак і яна мае яшчэ шмат прыметаў сваé моладасьці — яна яшчэ не пасьпе́ла згладзіць свайго дна, камяністага, часта парожыстага. У вясну яна грознымі разводзьдзямі залівае амаль ня ўсé ўзьбярэжныя ме́сты й мястэчкі. Характар карыта Дзьвіны моцна перашкаджае судаходзтву, якое пры варунку разчысткі і ўрэгуляваньня ракі магло-б тут моцна разьвіцца: Дзьвіна тут ужо і шырокая, і глыбокая; навет пры цяпе́рашнім сваім палажэньні зьяўляецца яна важне́йшым вадзяным шляхам. З прытокаў Дзьвіны праразаюць краіну — Вулла, Дзісе́нка, Дрыса і Полата. Усé яны маюць важнае значэньне як сплаўныя рэкі. Гэткае самае значэньне мае і Бярэзінскі канал, які часткаю праходзіць па Лепельскаму пав., і яшчэ канал, які злучае вялікае возера Асьве́й з воз. Лісна і ракою Сволнаю (прыток Дрысы). Наагул краіна надзвычайна багатая вадзянымі шляхамі, што і высунула яе́ напе́рад у гісторыі, даўшы магчымасьць разьвіцца тут шырокаму старавéчнаму гандлю, ды старой беларускай культуры і дзяржаўнасьці.

Полацкае Наддзьвіньне ляжыць найбліжэй з усіх краінаў Беларусі да мора. Ад Рыжскае затокі да Ілукштаў ўсяго 170 вёрст. Да таго-ж краіна яшчэ й зьніжаецца ў кірунку да мора і дзеля гэтага вільготны і мягкі марскі клімат без перашкод уразаецца ўздоўж Дзьвіны далёка на ўсход. Сярэдняя гадавая тэмпэратура каля +6°, ападаў за год бывае каля 600 мілімэтраў, не́ба па большай часьці закрыта воблакамі.

Лесу ў Наддзьвіньні няшмат. З даўніх часоў сядзіць тут народ досіць густа і дзеля таго ле́пшыя зе́млі парасьцярэбліваны і ўзараны. Толькі на нізінных пяскох, у Полацкім паве́це, затрымаліся значныя лясныя прасторы, ды досіць лясісты захад Дзісьненскага пав.

Аб мінэральных багацьцях краіны ве́дама дужа мала. Дзе-ня-дзе толькі здабываюць ганчарныя гліны, будаўляны камень, торф. Ве́дамыя не́калькі мінэральных крыніцаў: у Відзах, Браслаўскага пав. — сернiстая, з моцным, далёка чутным пахам серавадароду, да каля Краслаўкі — зялезістыя.

Насяле́ньне ў Полаччыне жыве́ досіць густа, гусьце́й, у кожным разе, чым ува ўсіх сусе́дніх краінах. Найгусьце́йшае насяле́ньне ў Ле́пельскім паве́це. Тлумачыць гэта трэба, мусіць, тым, што краіна мае крыху ле́пшыя грунты, ды ляжыць яна ля вялікае ракі, з незапамятных часоў была засе́лена і загаспадарана. У мінуўшчыне гушчыня насяле́ньня, мусіць, была тут яшчэ большая, ды безкане́чныя ваéнныя спусташэньні, якія ня раз абярталі край у пустыню, перашкаджалі дальне́йшаму згушчэньню насяле́ньня й яго спакойнай працы. Засе́лена краіна была яшчэ ў самыя далёкія дагістарычныя часы. У курганох і гарадзішчах, якіх тут ёсьць ве́льмі густа, асабліва ў Полацкім ды Ле́пельскім пав.,

знаходзяць рэчы, што адносяцца да камéннага вéку (нэолітычнага); ужо тады жылі тут людзі і, можна думаць, вялі навет менавы гандаль. Гісторыя знаходзіць тут моцны й багаты Полацак, які мае шырокія гандлёвыя зносіны з Усходам і Заходняю Эўропаю. Палачане пазакладалі і ўсé важнéйшыя мéсты краіны: Дзісну, Браслаў, Дрысу, Друю і г.д.; мéсты гэтыя праз увéсь час былі цéсна зьвязаныя з Полацкам, мéлі з ім супольных князёў, а пасьля ваяводаў былі полацкімі прыгарадамі. Уплывы Полацку пашыраліся, як вéдама, й далéй на захад, уніз па Дзьвінé, у зéмлі, засéленыя цяпéр латышамі. Тамака, над Дзьвіною, будавалі яны моцныя замкі, якія пасьля паадбіралі ад іх нéмцы, што ўмацаваліся пры



**Рыс. 91. Руіны замку ў Кокенгаўзене (Кукейносе).**

вусьцях Дзьвіны. З такіх замкаў найбольш вядомыя — **Кукейнос** (Кокенгаўзен, рыс. 91) і **Герсіка.** Як памятка з слаўных часоў Полацку пазаставаліся да нашага часу камяні-памятнікі з беларускімі надпісамі, зробленымі па загаду полацкіх князёў. Гэткіх камянёў шмат ляжыць па ўсім сярэднім цячэньні Дзьвіны.

У пазьнéйшыя часы, асабліва ў XVI і XVII вяках, на прасторах Полаччыны разыгралася вялікая барацьба паміж

Літвою і Польшчаю з аднаго боку і Масквою з другога. Барацьба вялася з-за Беларускае зямлі і здабыцьцё або абарона Полацку было галоўнаю мэтаю ваяваўшых. Дзеля гэтае мэты ўся вазёрная краіна пакрыта была невялікімі замкамі. Будавала гэтыя замкі і Літва з Польшчаю, будавала й Масква. Уся краіна была як быццам адзінаю вялікаю крэпасьцяю ў сучасным значэньні гэтага слова. Руіны гэткіх замкаў, сьляды валоў і равоў і да нашых часоў значныя шмат дзе ў Полаччыне над яе вазёрнымі водамі, сярод лясоў і балотаў.



Рыс. 92. Маладзіца-мяшчанка з Лепельшчыны.

На захадзе Дзьвінскага пав. жывуць ужо найбольш латышы (летгальцы), з невялікаю толькі домешкаю беларусаў. Латышы рана трапілі пад уладу нямецкіх рыцараў, якія пазакладалі ў іхняй зямлі, а часткаю і на Беларускіх узьмежжах шмат местаў і моцных каменных замкаў, прыкл., Крэйцбург, Дзьвінск; у руках іхніх патомкаў знаходзяцца і дагэтуль блізка ўсе двары.

Вясковае насяленьне ў Полаччыне займаецца блізка што выключна—гаспадаркаю. На полі сеюць найбольш жыта, аўса. Вельмі многа сеюць ячменю, асабліва ў Лепельскім ды Дзьвінскім пав. Краіна гэтая на засеву ячменю займае другое мейсца ў Беларусі пасьля Віцебшчыны. Ячмень часткаю вывозіцца, часткаю на мейсцы перакуруецца на піва. Досіць многа садзяць бульбы, шмат сеюць лёну. Краіна вывозіць заграніцу шмат ільняное кудзелі. Ураджаі наагул бываюць сярэднія.

У некаторых мяйсцовасьцях у Лéпельскім пав., асабліва-ж у Дзьвінскім, пад самым мéстам Дзьвінскам, шырака разьвіваецца гародніцтва. Разводзяць на палёх рэпу, бручку, а ў гародах — капусту і агуркі. Досіць добра разьвіваецца і садоўніцтва, хаця халодны клімат яму ня вельмі спрыяе.

Промыслы ў Полаччыне разьвітыя слаба. У больш лясістых мяйсцовасьцях насялéньне зарабляе ў лéсе. Досіць многа людзéй, асабліва на ўзьбярэжжах Дзьвіны, займаецца сплавам лéсу, будоўляй судзінаў і інш. рачнымі промысламі. Разьвітае досіць добра рыбалоўства. Хатнія рамёслы найшырэй разьвітыя ў Лéпельскім і асабліва ў Дзьвінскім павéтах. У Лéпельскім пав. шмат хто займаецца гарбарствам, вырабкаю аўчынаў і вырабам цэглы. У Дзьвінскім павéце ёсьць шмат рамéснікаў усякіх прафэсіяў: сталяроў, кавалёў, краўцоў, каменацёсаў і інш. У гэтых двох павéтах пакрысé разьвіваецца і буйная **хвабрычная прамысловасьць**. Дзьвінск вырас у вялікае прамысловае мéста. У Лéпельскім-жа пав. па дварох шмат бравароў, а ў некаторых мяйсцох разьвіваюцца й іншыя галіны прамысловасьці. Гэтак пад Чашнікамі істнуе вялікая хвабрыка паперы «Скіна» з 500 работнікамі, якая працуе сілаю пары і таксама выкарыстуе вадзяную сілу сусéдняе рэчкі.

Вёскі ў Полаччыне невялікія, асабліва ў Ілукштанскім ды Браслаўскім паветах, — там яны найменшыя ў Беларусі. Наагул у сярэднім на вёску прыходзіцца ў краіне каля 50 людзéй. У краіне шмат дробных мястэчак, у якіх бойка йдзé гандаль. Дзякуючы выгодным шляхом — вадзяным і чыгункам, хутка растуць мéсты. Найбольшымі мéстамі краіны ёсьць Полацак і Дзьвінск.

### Важнéйшыя мяйсцовасьці:

**ПОЛАЦАК** (рыс. 93 і 94) — старэйшае з мéстаў беларускіх, калыска беларускае культуры й дзяржаўнасьці, ляжыць на высокім правым бéразе Дзьвіны, пры ўтоку ў яé рэчкі Полаты. Пачаткі яго істнаваньня трацяцца ў імглé вякоў. Найдаўнéйшыя вéсткі аб ім маемо з скандынаўскіх народных пéсьняў-сагаў. Пачынаючы з IX в. аб ім выразна пішуць лéтапісы, як аб цэнтры найбольшага з беларускіх плямéньняў — крывічоў. Якраз у гэтым часе пачынаецца сярод беларускіх плямéньняў працэс стварэньня незалéжнае вялікае дзяржавы, і Полацак робіцца сталіцаю абшырнага княства, абыймаўшага большую частку Беларусі, ды вядзé даўгую, але досіць удачную барацьбу з Кіевам за сваю незалéжнасьць. Тут буйна кіпіць грамадзкае жыцьцё, расьцé беларуская прасьвéта і культура. Роля Полацку крыху толькі зьмяншаецца з пераходам яго пад уладу Літвы. З экономічнага боку ён навет нічога ня траціць. Наагул ад IX аж да XVII вéку быў Полацак вялікім і вéльмі багатым гандлёвым мéстам. Ужо ў XII вéку вядзé

ён шырокі гандаль з нямéцкімі краямі (напр., з Готляндам пасьля з Рыгаю) і таксама — з Усходам. У XVI веку Полацак мéў больш за 100 тыс. жыхараў і славіўся сваім багацьцем; лічылі, што быў ён тады багацéйшы навет за Вільню, сталіцу Вял. Кн. Літоўскага, да якога сам налéжыў.

У тыя часы быў Полацак і моцнаю крэпасьцяю. Было ў ім два замкі — Верхні й Ніжні, якія займалі высокія берагі




**Рыс. 93. Плян Полацку (у XIX в.).**
I. Вéрхні замак. II. Ніжні замак. III. Запалоцьце.
1. Сабор Сьв. Софіі. 2. Мікалаяўскі сабор (даўн. езуіцкі). 3. Будынкі Акадэміі. 4. Манастыр Богаяўлéньня (XII в.). 5. Домініканскі касьцёл (XVII в.).

Дзьвіны пры самым вусьці Полаты; апошняя акружала іх з захаду і з поўначы. Гара, на якой стаяў Вéрхні замак, — з усіх бакоў абрывістая; яé няпрыступнасьць яшчэ ўзмацнялі глыбокія равы ды высокія валы. Замак быў акружаны моцнымі дубовымі сцьéнамі, у якіх было 7 вéжаў. Найбольшая і



Рыс. 94. Полацак. Від з-за Дзьвіны.

найпрыгажэйшая з іх называлася «Краснаю»; яна была каменная. У Верхнім замку знаходзіўся сабор Сьв. Софіі (пабудаваны ў XII в., рыс. 95) ды княжыя палацы. Ніжні замак стаяў на ніжэйшым угорку і быў аддзелены ад Верхняга шырокім ровам.

Грозныя й моцныя былі Полацкія замкі і славіліся сваёю няпрыступнасьцяю. З павышэньнем ваéннае тэхнікі яны нéкалькі разоў адпавéдна перарабляліся. «Ад Усяслава да Баторыя замкі гэтыя,— піша Кіркор,— былі галоўнаю цьвярдыняю ўва ўсёй старанé; з імі зьвязана гісторыя не аднаго Полацку, але і ўсяго сямёх вякоўвага дзяржаўнага жыцьця Беларусі, прадстаўнікком якога заўсёды быў Полацак». На правым бéразе Полаты ў XVI веку была раскінута гандлёвая частка места — Запалоцьце; яно расьцягнулася на нéкалькі вёрст уздоўж Полаты і даходзіла аж да Спаскага манастыру, пабудаванага ў XII вéку Сьв. Еўфрасіньняю, княжнай Полацкаю, унучкаю слаўнага князя Ўсяслава. У нашыя часы мéста разбудавалася найбольш на ўсход ад замкаў.


**Рыс. 95. Сабор Сьв. Софіі ў Полацку.**

Полацку шмат давялося перацярпéць за свой даўгі вéк. Усé ўдары, якія былі скіраваны на Беларусь, перад усім валіліся на Полацак. Ня раз зьніштажалі яго пажары, ня раз пусьцéў ён ад чумы, ды халéры, ад голаду, а найгорш яму даводзілася ў часы маскоўскіх нападаў. Тады разам ішлі ўсé гэныя бéды і да іх яшчэ дадаваліся няміласэрныя звычаі вайны. Для прыкладу досіць сказаць, што Іван Грозны, узяўшы Полацак у 1563 г., загадаў утапіць у Дзьвінé ўсіх да аднаго жыўшых у мéсьце жыдоў з іхнімі сéм'ямі. А Пётра І, толькі спыніўшыся там на нéкалькі дзён, павéсіў шмат манахаў-базыліянаў. У канцы Полацак гэтак змалéў, што ў 1780 годзе ў ім заставалася ўсяго каля 1000 жыхараў.

Пасьля Полацак пачаў пакрысé аджываць. У 1812 годзе там на мéйсцы даўнéйшага езуіцкага калéгіуму была адкрытая езуітамі-ж вышэйшая школа — Акадэмія.

Складалася яна з трох факультэтаў: 1) лінгвістычнага, на якім выкладалася 7 моваў і літэратураў: расéйская, польская, француская, нямéцкая, лацінская, грэцкая і жыдоўская; 2) вольных навукаў — філёзофіі, поэзіі, рэторыкі, этыкі, лёгікі,

мэтафізыкі, фізыкі агульнае, спэцыяльнае і экспэрымэнтальнае, хіміі, матэматыкі чыстае і прыкладнае, архітэктуры, права і гісторыі і 3) т э о л ё г і ч н а г а. У Акадэміі было каля 600 студэнтаў усіх станаў і рэлігіяў і каля 40 прафэсараў. Былі пры Акадэміі багатая бібліатэка, цэнны музэй і дужа добрыя навукавыя габінэты, з паміж якіх асабліва вызначаліся фізычны і мэханічны, дый хімічная ляборатория.

Усé гэтыя падрабязгі цікавыя тым, што характарызуюць высачыню тагдышняе культуры ў мéсьце і краі, якое і цяпéр праз 100 гадоў мы яшчэ ня можам дагнаць.

Полацкая Акадэмія істнавала [redacted] гадоў. У 1820 годзе расéйскі ўрад яé закрыў, а маетнасьць вывез з Полацку ў Расéю. Шмат дарагіх і рэдкіх кніг і рэчаў пры гэтым загінула. Бібліатэка перавéзена была ў Пецярбург і Маскву, фізычны й іншыя габінэты адпраўлены ў Пецярбург, друкарня, істнаваўшая пры Акадэміі, — у Кіеў, у вялізарных-жа будынках Акадэміі адкрылі ваéнную школу, якая там зьмяшчалася і да апошняга часу.



**Рыс. 96. Царква Хрыста-Спаса ў Полацку (XII в.).**

Пасьля разгрому Акадэміі Полацак зрабіўся самым звычайным ціхім і нязначным павéтавым мéстам, якім і застаéцца дагэтуль. Жыхараў у ім каля 30 тыс. чал., хвабрык і заводаў вялікіх няма. На Дзьвінé ёсьць значная прыстань. Будуюць тут шмат лайбаў ды іншых судзінаў.

У апошнія дзесяцілéцьці Полацак пачаў ізноў аджываць і досіць шыбка расьці, дзякуючы правядзéньню праз яго чыгунак. Цяпéр з Полацку чыгункі разыходзяцца ў 5-х кірунках і трэба спадзявацца, што ў гэтым адвéчным мéсьце хутка йзноў абудзіцца экономічнае і грамадзкае жыцьцё.

Старасьвéччыны засталося ў Полацку мала. Ад замкаў засталіся толькі равы, якія іх абкружвалі ды сабор Сьв. Софіі, якога, праўда, перабудавалі ў XVIII вéку. Гэта аб гэтым саборы гаворыцца ў «Слове аб полку Ігараве», яго званы чуў князь Усяслаў, сéдзячы ў далёкім Кіеве... Да найцікавéйшых будынкаў у Полацку належыць старасьвецкая царква Хрыста-Спаса ў Спаскім манастыру, пабудаваная ў XII вéку і саўсім блізка не перарробляная пазьнéй (рыс. 96).

Харошыя й любыя, а разам з тым балючыя ўспаміны абуджае Полацак у сэрцы беларускім. Мéста гордае Рагнéды, якая не хацéла разуць нагі кіеўскаму князю, мéста Усяслава Чарадзéя, найслаўнéйшага з князёў беларускіх, мéста вялікае багамоліцы і кніжніцы сьв. Еўфрасіньні ды слаўнага вучонага Францішка Скарыны — заснула на даўгія вякі. Ня зьбіраецца шумнае вéча, ня плывуць чаўны беларускіх купцоў полацкіх у варажскае мора; ды й купцоў беларускіх у Полацку ўжо даўно няма. А званоў Сьв. Софіі даўно ўжо ніхто ня чуў, ня то што ў Кіеве, а навет куды бліжэй — па местах і вёсках беларускіх.

Як заціх і замёр Полацак, так заціхла і замёрла жыцьцё на ўсёй Беларусі. Калі-ж яно адродзіцца і Беларусь стане на свае́ ногі, пэўне, зусім іначай будзе выглядаць і Полацак.

Полацкі павéт ляжыць блізка ўвéсь на правым бéразе Дзьвіны. Грунты яго найбольш неўраджайныя. У павéце шмат лясоў і балотаў, а насялéньне рэдкае. На поўначы Полацкага пав. між вазёр над р. Дрысаю паказуюць легендарную гару Рагнéды, на якой быццам быў забіты камéнным молатам князь Рагвалод, а пасьля пахавана Рагнéда.

Над Лéпельскім возерам, ля р. Вуллы, ляжыць мéста **Лéпель**. Р. Вулла, як вéдама, ёсьць часткаю сыстэмы Бярэзінскіх каналаў. Ня глéдзячы на гэта, Лéпель мае малое прамысловае і таргговае значэньне. Такое значэньне маюць затое мястэчкі Лéпельскага павéту, якіх ёсьць больш дзесятку. Сярод іх найбольш вызначаюцца два: Бешанковічы і Чашнікі.

**Бешанковічы** досіць вялікае (каля 5000 чал. жыхараў), бойкае таргговае мястэчка, на стромкіх берагох Дзьвіны, там, дзе яна крута заварочуецца на паўночны захад. Мястэчка мае добры выгляд, усё брукаванае. На Дзьвіне́ ёсьць бойкая параходная прыстань. Навакол Бешанковіч ляжыць добрая ўраджайная зямля і гаспадарка вядзéцца добра. Дзеля гэтага з Бешанковіч вывозіцца шмат збожжа. У мястэчку шмат рамéснікаў (мылавараў, ганчароў і інш.).

**Чашнікі** — старасьвéцкае мястэчка, над р. Вуллаю, слаўнае гістарычнымі ўспамінамі. У сярэдзіне XYI в. беларускія ваяводы мéлі тут дзьве́ вялікія ваéнныя перамогі. Мікалай Радзівіл Чорны разьбіў тут у 1567 годзе маскоўскае войска, а цераз тры гады Сангушка разьбіў маскоўцоў і татараў. Цяпéр Чашнікі вялікае таргговае мястэчка, маюць да 7 тыс. жыхараў, спаміж каторых шмат рамéсьнікаў.

Пад Чашнікамі ёсьць хвабрыка папéрыВаладковіча **«Скіна»**, на якой працуе больш 500 работнікаў. Папéры ў год вырабляецца больш 200 тыс. пудоў. У двары Валадковіча ёсьць вéльмі добрыя сады з школкамі; тут разводзілі таксама морву (стр. 109). У прошлым вéку была тут цукраварня, самая паўночная ў Беларусі.

У двары **Цяпіне** каля Чашнікаў радзіўся ве́дамы рэлігійны і грамадзкі дзе́яч старое Беларусі, перакладчык Эвангельлі Васіль Цяпінскі.

У Ле́пельшчыне ёсьць не́калькі мінэральных крыніцаў — у **Баркоўшчыне** (каля Вушача) се́рна-зяле́зная, у **Вішковічах** (пад Чашнікамі) се́рныя і інш. Хаця яны выле́чуюць хворых, аднак застаюцца нявыкарыстанымі.

Ле́пельскі паве́т нале́жыць да найгусьце́й засе́леных паве́таў Беларусі. У ім шмат шляхоцкіх засьце́нкаў. Грунты ў ім ляжаць гляістыя, ураджайныя. Се́юць шмат ячме́ню. У мястэчках шмат раме́сьнікаў.

**Дрыса**, над Дзьвіною, пры ўтоку р. Дрысы, даўне́йшы прыгарад Полацку. Цяпе́р гэта невялікае ме́ста з 6 тыс. жыхараў.

У паўночнай часьці Дрысенскага пав. ёсьць возера Асьве́й з вялікім востравам пасярод. Возера злучана з р. Сволнаю (праз воз. Лісну) каналам, даўжынёю 14 вер., па якому сплаўляецца шмат дрэва. На бе́разе возера ляжыць старасьве́цкае таргове **м-ка Асьве́й**, даўне́йшы Полацкі прыгарад. Над Дрысаю ляжыць **м-ка Валынцы**, дзе́ ўпе́рад была гімназія, якую пасьля расе́йцы закрылі. У гэтым мястэчку ёсьць гарбарня, бровар.

**Дзісна** таксама, відаць, была пабудавана палачанамі; праз даўгі час яна нале́жыла да полацкіх архірэяў. Ляжыць над Дзьвіною, за дзьве́ мілі ад чыгункі. У Дзісьненскім паве́це ёсьць тры важных мястэчкі: Глыбокае, Паставы і Друя. **М-ка Глыбокае** ляжыць на паўдні паве́ту, сярод двох вазёраў. Мае каля 7 тыс. насяле́ньня, якое займаецца найбольш гандлем. За возерам знаходзіцца **м-ка Беразьвеч** — з старым манастыром, пры вузкакале́йнай чыгунцы з Сьвянцян, якая йдзе́ паўднёвым краем Дзісьненскага пав. Пры гэтай-жа чыгунцы ляжыць **м-ка Паставы**. Не́калісь Паставы нале́жылі да Тызенгаўза, вядомага прасьве́тнага і эканамічнага дзе́яча, які жыў у XVIII в. Тызенгаўз быў пабудаваў тут не́калькі хвабрыкаў — палатняную, папе́рню, гарбарню ды інш. Быў тут даўне́й і багаты музэй, які пасьля быў перане́сены ў Вільню. Цяпе́р Паставы маюць каля 3 тыс. жыхараў. **Друя** — значная прыстань на Дзьвіне́. Лічыцца ме́стам, мае каля **6 тыс**. жыхараў.

Дзісьненскі паве́т ляжыць на добрых грунтох і досіць густа засе́лены, апрача заходняе яго часткі, дзе цягнуцца вялікія хваёвыя бары на пяшчаных грунтох (Полацкая нізіна).

Беларускія часткі паве́таў Ілукштанскага і Браслаўскага (Нова-Аляксандраўскага) ляжаць на бе́дных пяшчаных грунтох. Прасторы гэтых паве́таў засе́яны сотнямі вазёраў, між якіх ёсьць і такія вялікія, як Снуды (22 кв. в.). Дрысьвяты (41 кв. в.), Дрывяты (або Браслаўскае). Лясоў тут мала. Насяле́ньне займаецца, апрача гаспадаркі, рыбалоўствам на вазёрах. З Браслаўскага воз. часамі выцягуюць па 500 пуд. рыбы.

Над воз. Браслаўскім стаіць стары горад **Браслаў** (або **Братыслаў**) — равéсьнік Полацку, даўнéйшае павéтавае мéста. У XI в. быў ён заваяваны ліцьвінамі. Цяпéр гэта невялікае мястэчка. Павéтавым мéстам зрабілі былі пасьля **Езёросы**, якое называлі **Нова-Аляксандраўскам**. Езёросы ляжаць на мяжы паміж Беларусяй і Літвою. На гэтай-жа мяжы ляжаць яшчэ **Ілукшты**, другое павéтавае мéста і **Відзы** — значнае мястэчка, вядомае з сваіх мінэральных крыніцаў. Крыніцы гэтыя — сéрныя з моцным, далéка чутным пахам серавадароду.

**ДЗЬВІНСК** (або Дынабург, рыс. 97) ляжыць на нізкім бéразе Дзьвіны і возера Шчуні. Дзьвіна ў гэтым мейсцы значна



**Рыс. 97. Дзьвінск.**

паддаéцца на паўдн. захад, у кірунку на Вільню. Недалёка ад мéйсца, дзе цяпéр ляжыць Дзьвінск, лівонскія рыцары ў XIII в. залажылі моцны замак Дынабург (рыс. 98) на страх літоўскім і беларускім князём, каб зачыніць дарогу пашырэньню іхняé ўлады на Лівонію. Замак гэты ў часе ваéнных падзéяў нéкалькі разоў разбуравалі і руйнавалі; ўрэшце кароль Баторы ў канцы XVI в. перанёс яго ў цяпéрашняе мéйсца, а разам з ім і мéста, якое было вырасла пры замку. На новым мéйсцы гэтаксама неспакойна жылося Дынабургу: у часе войнаў яго нéкалькі разоў аблягалі, штурмавалі і палілі. У пачатку XIX в. расéйцы пабудавалі тут моцную крэпасьць, якая гэтаксама перашкаджала экономічнаму

разьвіцьцю мéста. Калі, аднак, праз Дзьвінск прайшлі дзьвé гэтакія важныя чыгункі, як Паўночна-Заходняя і Рыга-Арлоўская, мéста стала шыбка расьці і разьвівацца. Цяпéр чыгункі разыходзяцца з Дзьвінску ў 5-х кірунках, адыходзяць ад яго некалькі шосаў, а на Дзьвінé — значная прыстань. Трэба прыняць пад увагу, што Дзьвіна вышэй Дзьвінску ня вéльмі прыдатная для судаходзтва і што дзеля гэтага грузы, што йдуць па ёй зьнізу, ў большасьці ў Дзьвінску перагружаюцца на чыгункі. Усё гэта стварае Дзьвінску вéльмі выгодныя варункі для разьвіцьця, дзякуючы якім зрабіўся ён вялікім мéстам. Перад вайною было ў ім больш 100 тыс. жыхараў. Насялéньне мéста моцна мяшанае: найбольш жыдоў, шмат беларусаў, латышоў і маскоўцаў-старавéраў.



**Рыс. 98. Замак Дынабург у даўнéйшыя часы.**

Прамысловасьць Дзьвінску шыбка расьцé. Перад вайною было ў ім каля 2000 хвабрычных работнікаў. Былі ў ім вялікія гарбарні, якія да таго-ж мéлі добрае ўстройства і выраблялі лéпшыя сарты скуры. Было таксама тут аж 3 вялікіх хвабрыкі гузікаў, млыны, бравары і г.д. Асабліва шырака быў разьвіты ў Дзьвінску гандаль. Найбольшыя звароты рабіліся з мануфактураю, лéсам і лёнам.

Цяпéр Дзьвінск знаходзіцца ў мéжах Латвіі, дзякуючы вольным парадкам якое, зрабіўся ён за кароткі час цэнтрам культурнага беларускага жыцьця на ўсю паўночна-заходнюю Беларусь.

За мілю ад Дзьвінску, над Дзьвіною, ёсьць курорт **Пагулянка.** У харошай мяйсцовасьці, у адвéчным хваёвым бары пабудаваны мураваныя вадзяныя і кумысовыя лячэбніцы, дзе хворыя

маюць усялякія выгоды і камфорт. Хворых сюды зьяжджаецца досіць многа. З Дзьвінску у Пагулянку ходзяць параходы.

У харошай мяйсцовасьці, над Дзьвіною, за 6 міль ад Дзьвінску, ляжыць **Краслаўка**, прамысловае і гандлёвае мясцэчка (рыс. 99). Пабудавана яна вельмі даўно. Кажуць, што ў ёй жыла кн. Рагнеда. Краслаўка даўно славілася сваімі дыванамі, аксамітамі, сукнамі, броняю, срыбнымі, залатымі ды іншымі вырабамі краслаўскіх рамесьнікаў. Цяпер у Краслаўцы найбольш разьвітае гарбарства ды гандаль лёнам і льняным сяменьнем. Недалёка ад Краслаўкі ёсьць зялезістыя крыніцы.

У Краслаўцы ёсьць вельмі харошы касьцёл і палац з вялізарным паркам, якія пабудаваў краслаўскі дзедзіч, гр.



**Рыс. 99. Від у Краслаўцы.**

Броэль Плятэр. Даўгі час Краслаўка была рэлігійным цэнтрам для каталіцкага насяленьня ўсіх суседніх паветаў.

У Д з ь в і н с к і м п а в е ц е беларусы жывуць перамяшаныя з латышамі. Чыста беларускімі трэба лічыць толькі ваколіцы Дзьвінску і наагул узьбярэжны паяс уздоўж Дзьвіны, ад Дзьвінску да Друі. У гэтай часьці павету грунты ўраджайныя, народ жыве багата, шмат зарабляе ад рыбалоўства, сплаву і будовы судзінаў і г. д. У Дзьвінскім і суседніх паветах жыве шмат старавераў.

## II. Віленская краіна.

Да Віленскае краіны мы залічуем павéты даўнéйшае Віленскае губэрні: **Віленскі, Сьвянцянскі, Вялéйскі, Ашмянскі і Троцкі***). Павéты гэтыя абыймаюць сабою ўвéсь вадазборнік Вяльлі, якая іх зьвязуе ў адну прыродную і экономічную краіну. Гэтая сувязь узмацняецца, дзякуючы ўплывам гэткага вялікага мéста, як Вільня, да якое цягне ўся краіна. Ад сусéдніх краінаў адзначаецца Віленшчына між іншым — сваімі бяднéйшымі грунтамі, радзéйшым вясковым насялéньнем, у якім да таго-ж, у заходняй часьці Віленшчыны, апрача беларусаў ёсьць досіць многа нацыянальных мéншасьцяў — ліцьвіноў, палякоў і г. д.

Віленшчына займае два плячы Вялейскае падковы ўзгор'яў — Віленскае і Сьвянцянска-Докшыцкае ўзгор'і, ды шырокую даліну паміж імі, па якой плывé Вяльля. Узгор'і гэтыя зьяўляюцца, відаць, канцавымі морэнамі, якія пакінуў па сабé нейкі вялікі клін лядавіка, што сучаснаю далінаю Вяльлі ўразаўся быў далёка на паўднёвы ўсход. На поўначы, у прасторах Сьвянцянска-Докшыцкага ўзгор'я мяйсцовасьць мае тыповы морэнны выгляд. Ляжыць там досіць многа вазёраў, якія можна лічыць працягам сéткі морэнных вазёраў Полаччыны. Сéтка гэтая тут, аднак, і заканчуецца групаю вялікіх вазёраў (Нарач, Мядзёл, Сьвір ды інш.), што ляжаць на паўднёвых спадах узгор'я, аб якім мова, і ўжо адзначаюцца ад тыповых морэнных сваімі роўнымі берагамі ды правільнаю формаю. На паўдня ад гэтае групы вазёраў — ані ў даліне Вяльлі, ані на Віленскім узгор'і вазёраў ужо блізка што й няма.

Шырокая даліна Вяльлі, асабліва ў верхнім яé цячэньні, ўяўляе з сябé роўную сухую мяйсцовасьць, заросшую вялікімі хваёвымі барамі, якія падыходзяць да самых берагоў Вяльлі. Часамі, аднак, невялікія ўзгор'і зьбліжаюцца да ракі і ствараюць на ёй ды на яé прытоках прыгожыя высокія берагі. Узгор'і гэтыя звычайна ўжо бязьлéсныя, пакрытыя хмызьнякамі ды нягуста параскіданымі дубамі, а найбольш абéрнутыя пад поле. У іншых мяйсцох, асабліва ў ваколіцах Маладэчына (лядавіковая даліна), вакола Вяльлі ляжаць вялізарныя прасторы мокрых сенажацяў і балотаў, якія цягнуцца на дзесяткі вёрст і робяць там краявід больш смутным і аднавобразным.

На паўдня ад даліны Вяльлі падыймаецца прыгожае Віленскае ўзгор'е, у значнай мéры пакрытае палямі або дубовымі ды яловымі лясамі на вéрсе, густымі хмызьнякамі ляшчыны, барбарысу ды бружмéню на стромкіх спадах.

Вяльля, сабраўшы шмат вады з сваіх лясістых ды

*) Дзісьненскі павéт прылучаны намі да Полацкага Наддзьвіньня, а Лідзкі пав., які таксама налéжыў да Віленскае губ., мае больш у сабé падобнасьці з Горадзеншчынаю, куды мы яго й прылучаем.

балоцістых вярхоўяў выглядае ў большай часьці Віленшчыны вялікаю многаводнаю ракою. Цячэньне яé досіць жывое, а яé прытокі, скатуючыся з высокіх сусéдніх узгор'яў, маюць часамі выгляд хуткіх горных ручаёў. Яны пракопуюць сабé глыбокія даліны і выносяць у Вяльлю шмат пяску. Карыта Вяльлі наагул неаглéджанае, непрачышчанае, шмат у ім камéньняў і невялікіх парогаў, і затым судаходзтва па ёй блізка што не адбываецца. Гэтая вялікая вадзяная дарога застаéцца саўсім мала выкарыстанаю; толькі вясною па ёй гоняць шмат плытоў.

К л і м а т у Віленшчыне цёплы, вільготны і наагул мяккі, дзякуючы блізкасьці мора, асабліва-ж на заходніх спадах узгор'яў, найбольш адкрытых з боку мора. Гэтак у Вільні сяр. гадавая тэмпэратура +6,5°, аападкаў бывае звычайна 600 мілім.; у ўсходніх частках Віленшчыны клімат робіцца ўжо крыху сушэйшым і сьцюдзянéйшым.

Г р у н т ы ў Віленшчыне найбольш супяшчаныя і суглінístыя, часта моцна камяністыя. Суглінкі пакрываюць спады ўзгор'яў, а супяскі ляжаць у больш паніжаных раўнінных мяйсцовасьцях, найбольш уздоўж вéрхняга цячэньня Вяльлі. На паўдні Ашмянскага павéту, у басэйне Бярэзіны і іншых правых прытокаў Нёмна, якія разам ствараюць цэлую сéтку рэчак, ляжаць на вялікім прасторы пяшчаныя грунты, занятыя хваёвымі барамі аднаé з найбольшых беларускіх пушчаў — Н а л і б о ц к а е. Бары гэныя бліжэй да Нёмна зьмяняюцца досіць вялікімі балотамі і сенажацямі. Значныя лясныя і балотныя прасторы знаходзяцца і ў Вялéйскім павеце, паміж Вялейкаю ды Маладэчынам (бал. Ч ы с ь ц і) ды на поўначы павету (Г а б с к і я б а л.). Апрача таго, на паўдня ад Вільні, якраз ля мяжы Беларусі з Літвою, ляжыць Р у д н і ц к а я п у ш ч а, над р. Марачанкаю. Тут таксама пяшчаны грунт і хваёвыя бары, але побач з імі — багатыя мяшаныя лясы з дубамі, клянамі, грабам і вязам; сустракаецца тут яшчэ й нéкалькі вазёраў.

Дзякуючы сваёй лясістасьці, ды невялікай ураджайнасьці грунтоў, вясковая Віленшчына засéлена крыху радзéй, чым суседнія краі — Полаччына, Менская краіна, Горадзеншчына. Затое тут шмат мéставага насялéньня, дзякуючы прысутнасьці вялікага мéста Вільні і масы мястэчак. Вялічыня вёсак тут з большага такая самая, як і ў Полаччыне (каля 50 чалавéк у вёсцы) і таксама на захадзе крыху мéншыя вёскі, на ўсходзе — большыя. Вясковае н а с я л е н ь н е займаецца гаспадаркаю, і толькі ў лясістых частках Ашмянскага і Вялéйскага пав. маюць значэньне лясныя заробкі; шмат хто заняты рыбалоўствам; у вазёрах і рэках тут часамі спатыкаецца цэнная рыба — сялява, форэль і г. д. Х а т н і я р а м ё с л ы разьвітыя слаба, навет ткацтва. Насялéньне на захадзе краіны носіць ужо найбольш крамную вопратку, ужываючы саматканы толькі да работы. Затое ў больш лясістых мяйсцовасьцях на

ўсходзе, асабліва ў Налібоцкай пушчы, хатнія рамёслы значна пашыраныя.

На полі сеюць жыта, а з ярыны найбольш аўса, ячменю і бульбы. Грэчкі сеюць вельмі мала. На лепшых грунтох спатыкаецца пшаніца. Гаспадарка стаіць досіць высака, асабліва ў дварох. Часьцей, чым дзе, можна сустрэць тут заводзкую карову, каня, садок ля хаты, лубін на пяскох.

Нізкая ўраджайнасьць грунтоў краіны тлумачыцца, між іншым, няхватам сенажацяў, дзеля чаго гаспадары трымаюць мала скаціны, ня могуць належна гнаіць зямлю, якая, дзякуючы сваёй беднасьці, гэтага гнаеньня асабліва патрабуе.



**Рыс. 100. Вільня**
(Від на р. Вялейку, Замковую гару і цэнтр места).

Ня глядзячы на невялікую ўраджайнасьць грунтоў, вясковай Віленшчыне саўсім хватае свайго хлеба; можа яна навет у значнай меры пры невялікім падвозе прахарчаваць і сталіцу ўсяго краю — Вільню.

Выгоднае географічнае палажэньне і багацьце шляхоў стварылі ў Віленшчыне вялікі гандлёвы і прамысловы цэнтр — Вільню, дый меншыя ў Смаргонях, Ашмяне і дробных мястэчках, якіх ёсьць тут бяз ліку. Ў мястэчках гэтых ідзе бойкі гандаль, цесна зьвязаны з Вільняю, ёсьць шмат рамесьнікаў.

Віленшчына мае досіць пярэсты нацыянальны склад насяленьня. У часы дагістарычныя жылі тут, відаць, ліцьвіны, (бо сялібы ліцьвіноў даходзілі і да самых усходніх рубяжоў Беларусі). На пачатку гістарычнага жыцьця краіна была засе́лена або не́йкім пераходным між беларусамі ды ліцьвінамі пле́мям, або ме́ла мяшанае насяле́ньне, дзе побач жылі і беларусы, і ліцьвіны. Наагул справа гэтая нявыясьненая. У часы Вялік. Князьства Літоўскага, асабліва перад Люблінскаю вуніяю, калі Віленшчына сталася цэнтрам вялікае дзяржавы з беларускаю культураю і беларускім пануючым клясам, у яе́ шырокаю хваляю палілася беларуская колёнізацыя з прастораў усходняе Беларусі*). Гэтая колёнізацыя моцна павялічыла тут сілу і значэньне беларускага элемэнту і адсунула ліцьвіноў далей на захад. Побач з колёнізацыяй павялічэньне беларускага насяле́ньня адбывалася яшчэ і іншым спосабам. Ліцьвіны, прыймаючы культуру беларускую, як вышэйшую і пануючую ў дзяржаве, пакрысе́ пераймалі і мову і звычаі беларускія, зьме́шваліся з чыстым беларускім насяле́ньнем і праз некалькі вякоў там, дзе ўпе́рад скрозь жылі ліцьвіны, пазаставаліся толькі невялічкія іх астраўкі. Адзін з найцікаве́йшых такіх астраўкоў ляжыць вёрст 40 на ўсход ад Вільні (Гярвяцкая парахвія) і перахаваўся да нашага часу. У рэзультаце абодвых успомненых процэсаў беларускае насяле́ньне акружыла Вільню, зрабіла яе́ беларускім ме́стам і пашырылася значна далей на захад. Пасьля Люблінскае вуніі, калі і беларуская і літоўская шляхта пачала польшчыцца, беларускі напор на захад аслабе́ў; ня згас ён, аднак, і да апошняга часу, бо хіба толькі ў цяпе́рашнім ве́ку, пад уплывам разьвіцьця літоўскае нацыянальнае сьве́дамасьці спыніўся пераход ліцьвіноў на беларускую мову. Але з другога боку сярод нядаўна зьбеларушчаных ліцьвіноў стала асабліва моцна пашырацца польская мова, і ў нашыя часы на этнографічнай мяжы паміж ліцьвінамі і беларусамі можна сустрэнуць шмат людзе́й, ужываючых галоўным чынам польскае мовы і прызнаючых сябе́ палякамі. Ці застануцца яны і назаўсёды палякамі, ці, можа, ве́рнуцца да сваé даўнейшае, літоўскае мовы, ці мо' да

---

*) Колёнізацыя гэтая была выклікана, між іншым, страшэнным спусташэньнем Вільні і суме́жных з ёю паве́таў у сярэдзіне XVII і пачатку XVIII сталецьця, калі ад голаду і пошасьцяў вымералі дзесяткі тысяч людзе́й (у 1710 г. у самой толькі Вільні паме́рла 35000 людзе́й). Тады ў спустошаныя вёскі Віленшчыны сталі перасяляцца масамі беларускія сяляне з усходняе Беларусі; аб гэтым дбалі, пэўне-ж, земляўласьнікі, асабліва тыя, якіх двары часта бывалі параскіданыя па ўсім ваяводзтвам Беларусі і якім саўсім лёгка было перасяляць сваіх падданых з аднаго двара ў другі. Балінскі ў гэтай справе піша: «Даўне́йшыя інвэнтары, або апісаньні валасьце́й, даводзяць, што зьме́на гэтая (насяле́ньня) бярэць пачатак ад швэдзкіх войнаў і часоў Яна-Казіме́ра (1649—1669), калі войны супольна з пошасьцяю, якая пасьля іх лютавала ў краі, шмат выцерабілі насяле́ньня. Новыя насе́льнікі, што перабраліся сюды з глыбе́йшае беларуска-літоўскае часьці Вялікага Князьства, дапамагалі зьме́не мовы і паміж таго насяле́ньня, якое заставалася». (Balinski i Lipinski. Staroytna Polska).

беларускае — цяпер угадаць трудна. У кожным разе на беларуска-літоўскім узьмежжы нацыянальныя процэсы яшчэ і дагэтуль не закончыліся, і гэта ёсьць важнейшай прычынаю сучасных палітычных спрэчак з-за Віленшчыны.

## Важнейшыя мяйсцовасьці.

**ВІЛЬНЯ** (рыс. 100) — культурны і экономічны цэнтр усяе Беларусі й Літвы, сталіца вялікіх князёў літоўска-беларускіх,




**Рыс. 101. Плян Вільні.**
1. Замковая гара. 2. Трохкрыжовая гара. 3. Бакешавая гара. 4. Унівэрсітэт. 5. Беларуская гімназія (Траецкія муры). 6. Катэдральны касьцёл. 7. Прачысьценскі сабор. 8. Вострая Брама. 9. Касьцёл Пётры і Паўла. 10. Хімічная школа. 11. Юнкерская школа. 12. Вагзал. Надпісы на пляне — назовы частак места. Штрыхоўка і цыфры пры ёй паказуюць абсалютную высачыню ў мэтрах (праведзены горызанталі: 120 м., 150 м. і 190 м.).

найбольшае места на ўсім прасторы Беларусі. Ляжыць Вільня ў катліне, акружанай з усіх бакоў гарамі. З захаду і паўдня йдуць Панарскія горы, а з усходу, ля самае Вільні, высяцца

пяшчаныя горы — Замковая, Трохкрыжовая і Бакéшавая. З поўначы катліну замыкае ўзгор'е Шашкіні. Пасярод катліны цячэ Вяльля, і тут у яé, ля падножжа Замкавае гары, упадае Вялéйка. Вільня пабудавана на лéвым бéразе Вяльлі, пры ўтоку Вялéйкі (гл. плян рыс. 101).

Хаця лягéнда прыпісуе залажэньне Вільні Гедыміну і адносіць яго да пачатку XIV вéку, аднак можна з пэўнасьцяю сказаць, што Вільня куды старэйшая. Хто і калі яé залажыў, навет які народ — нямаведама. У летапісу першая вестка аб Вільні гаворыць, што віленцы выбралі сабé за князя **аднаго**



**Рыс. 102. Вільня. Ратуша і рынак перад ёю**
(у пачатку XIX в.).

**з беларускіх полацкіх князёў** — Расьціслава (унука Ўсяслава Чараўніка); было гэта ў **1128 годзе**. Гэта дазваляе нам лічыць, што Вільня ад самага пачатку была беларускім мéстам. Пасьля, калі вялікія князі літоўскія перанéсьлі сюды сваю сталіцу і абкружылі сябé беларускім баярствам, Вільня перахавала свой беларускі характар. Ліцьвіны займалі толькі паўночную частку гораду, каля Замкавае гары, каторая і звалася Літоўская палавіца. Беларуская палавіца займала паўднёвую частку Вільні, пад Вострую Браму.

Вільня тых часоў была вялікім, багатым і культурным

мéстам. Насялéньня ў ёй было да 200 тысячаў; апроч беларусаў і ліцьвіноў было шмат жыдоў, нéмцаў і інш. Прыдворнае жыцьцё вымагала раскошы, і вяльможы, жывучы самі ў Вільні, сьцягвалі з усяго прастору дзяржавы ўсё, што было лéпшага ў іхніх маемасьцях, а перад усім лéпшых майстроў, рамéсьнікаў. У сталіцу зьяжджаліся і ўсé лéпшыя культурныя сілы. Затым у Вільні былі вéльмі моцна разьвітыя рамёслы, было шмат школаў, друкарняў. Урэшце красавала тады й гандлёвае жыцьцё Вільні. Для нас гэта цікава, між іншым, яшчэ й таму, што ўсé культурныя і тэхнічныя сілы йшлі ў Вільню найбольш з Беларусі, і Вільня, дзеля таго, мéла характар чыста-беларускага мéста.

У XVII вéку беларускую культуру ў Вільні стала выціскаць польская. З гэтага-ж часу пачаўся і ўпадак Вільні. Рэлігійная барацьба, давéдзеная да крайнасьці, пажары, хваробы, голад, напады чужазéмцаў — усё гэта памагала ўпадку Вільні.

У канцы XVIII і пачатку XIX в. у Вільні йзноў закіпéла культурнае жыцьцё. Справы прасьвéты пайшлі моцна ўпéрад, паадчынялася шмат новых школаў; з старое, істнаваўшае яшчэ з 1578 г., вышэйшае школы — езуіцкае акадэміі быў створаны **Віленскі ўнівэрсітэт** (рыс. 69), які стаў на чалé гэтага прасьвéтнага руху. Было ў ім 4 факультэты: фізыка-матэматычны, мэдыцынскі, этыка-палітычны (з тэолёгіяю) і літэратурна-мастацкі. Хаця ўся навука ў ім ішла ў польскай і лацінскай мовах, аднак значэньне Віленскага унівэрсітэту для ўсяé Беларусі было вялізарнае. Там выгадаваліся шырокія кадры краёвае інтэлігéнцыі, якая кінула пéршыя іскры беларускага адраджэньня. З паміж 47 яго прафэсараў — аж 36 было родам з Беларусі й Літвы і толькі 2 — з Польшчы.

Праістнаваўшы каля 30 гадоў, унівэрсітэт быў у 1832 г. зачынены расéйскім урадам. Толькі мэдыцынскі факультэт яго стнаваў яшчэ 9 гадоў (1832—1841), ужо з выкладаньнем парасéйску, ды тэолёгічны факультэт перайтвораны ў Каталіцкую духоўную акадэмію. У 1849 г. і гэтая акадэмія была перавéдзена з Вільні ў Пецярбург. Тады-ж, у царстваваньне Мікалая I, была пазачыняна большая частка школ у Беларусі. Лéпшыя школы разам з іхняй маемасьцяй перавéдзены былі ў Маскоўшчыну. У будынках унівэрсітэту і іншых школ паадчыняліся расéйскія сярэднія школы. У палацах вяльможаў, у каталіцкіх манастырох расéйскі ўрад зрабіў вастрогі, казармы. З эўропэйскага культурнага цэнтру, якому дзіваваліся чужазéмцы, маскоўцы стараліся зрабіць звычайны «губэрнскі горад», поўны казармаў і чыноўнікаў.

З другога боку, за апошнія 3 вякі, насялéньне Вільні вéльмі моцна спольшчылася. Патомкі беларусаў і ліцьвіноў часта ўжо не разумéюць роднае мовы і шчыра лічуць сябé палякамі. Гэткім парадкам **з беларускае Вільні сталася Вільня польска-маскоўскаю.**

За апошнія часы і гэтае палажэньне зьмянілася. Абудзіліся нацыянальна і беларусы, і ліцьвіны, і пакрысе́ адбіраюць адну па аднэй свае́ старыя пазіцыі ў палякоў. А маскоўцы былі наносным элемэнтам і з выхадам расе́йскіх войскаў з Вільні счэзлі.

У Вільні засталося шмат старасветчыны. Цэлыя дзесяткі старасьве́цкіх касьцёлаў і цэркваў падыймаюць свае́ вежы над Вільняю. Як памятка сівое мінуўшчыны над ме́стам на Замковай гары высяцца руіны вялікакняжскага замку, пабудаванага Гэдымінам. Апроч гэтага Верхняга замку дзе ля падножжа гары быў вялікі ды пышны Ніжні замак, дзе звычайна й жылі вялікія князі. Не́йкае паняцьце аб замках дае́ прыложаны рысунак (рыс. 103).

У Катэдральным касьцеле і ў Прачысьценскім саборы пахаваны вялікія князі літоўска-беларускія. У Катэдры знаходзяцца і іхнія партрэты і статуі. У капліцы над Востраю Брамаю ёсьць найслаўнейшы беларускі абраз Багародзіцы, да якога з усяе́ Беларусі ходзяць на багамольле. Шмат якія з касьцёлаў і цэркваў годныя ўвагі, дзеля свае́ архітэктуры, скульптуры і малярства. З гэтага боку Вільня ёсьць найцікаве́йшым ме́стам Беларусі. Нідзе́ не захавалася гэтулькі цікавых і харошых будынкаў і абразоў. У Трае́цкім манастыры (адным з старэйшых) зьмяшчаецца беларуская гімназія.

У Вільні культурнае жыцьцё йдзе́ байчэй, чымся ў якім іншым ме́сьце. Выдае́цца шмат газэт і журналаў у розных мовах, істнавалі ўве́сь час культурныя і палітычныя таварыствы і гурткі, іншыя адкрыта, а то й патае́мна. Усё гэта рабіла з Вільні культурны цэнтр усяго краю.

Вільня была да апошніх часоў цэнтрам і нацыянальнага беларускага руху. Тут выдаваліся пе́ршыя беларускія газэты й кніжкі, закладаўся пе́ршы тэатр беларускі і навуковыя таварыствы, а таксама і беларускія школы. Вільню таксама лічаць сваім галоўным культурным цэнтрам і жыды (іх у Вільні больш палавіны жыхараў) і ліцьвіны.

Вільня — найвялікшае места Беларусі; у ім жыве́ больш за **200.000** чалаве́к. Апрача палітычных і гістарычных прычынаў гэтаму спрыяе палажэньне Вільні на важным вузьле́ чыгунак. З Вільні разыходзяцца чыгункі ў пяцёх кірунках. Яны злучаюць Вільню простымі лініямі з захадам і паўднём Беларусі. Паўночны ўсход Беларусі гэтак добра з Вільняю не зьвязаны.

Хвабрычная прамысловасць у Вільні досіць разьвітая і вызначаецца сваёю разнароднасьцяю. Па вырабу тавараў Вільня займае другое пасьля Беластоку ме́йсца сярод местаў Беларусі, па ліку работнікаў хвабрычных займае першае мейсца. Работнікаў у Вільні да 15.000 чал. У Вільні ёсьць 8 вялікіх гарбарняў (з іх 4 паравыя), 2 паравых хвабрыкі панчохаў, шмат пільняў, ткацкія хвабрыкі, хвабрыкі

мэталёвых вырабаў і інш. Але найбольшае значэньне ў прамысловасьці Вільні маюць дробныя хвабрыкі і майстроўні рамéсьнікаў. У Вільні працуюць больш за 8000 краўцоў, шмат шаўцоў і іншых рамéсьнікаў. Частка іх працуе на сваю руку,



**Рыс. 103. Віленскія замкі ў XVII в.**
(з старое гравюры).

але большая частка бярэ работу з кантораў і магазынаў, што прадаюць тандэтную адзéжу і вобуй.

П а г а н д л ю гатоваю адзежаю, футрамі, вобуем Вільня

займала перад вайною вельмі віднае мейсца на ўсім усходзе Эўропы. Апроч таго, Вільня зьяўлялася галоўным гандлёвым цэнтрам Беларусі і для іншых тавараў. Тут зьмяшчаліся



**Рыс. 104. Скульптура ў касьцёле Сьв. Пётры і Паўла на Антокалі.**

найбольшыя гандлёвыя фірмы, склады тавараў, адгэтуль тавары разыходзіліся ня толькі па ўсёй Беларусі й Літве, але навет і далей за іх межамі.

Ваколіцы Вільні надта харошыя. Ад самага места ўва ўсе бакі расьцягнуліся прадмесьці аж да лясоў, што абкружваюць з усіх бакоў Вільню. Ужо і сярод лесу вырастаюць вуліцы, кварталы і цэлыя новыя прадмесьці.

Адно з важнейшых і старэйшых прадмесьцяў — **Антокаль,** якое цягнецца на 6 вёрст уздоўж левага берагу Вяльлі. Тут ёсьць таксама некалькі цікавых старых будынкаў; асабліва варт увагі, па сваёй скульптуры, касьцёл Сьв. Пётры і Паўла (рыс. 104).

З гораў, што акружаюць Вільню, адкрываюцца надзвычайна харошыя віды на места Вільню і на ўсю ваколіцу (рыс. 100). Асабліва часта публіка бывае на Замковай гары, што высіцца над самаю Вільняю.

За мілю ад Вільні, у сасновым бары на правым беразе Вяльлі параскіданы 33 каплічкі з абразамі, прадстаўляючымі цярпеньні Хрыстовыя. Гэта **Кальварыя**. Пачынаючы з Сёмухі, сюды ўсё лета йдуць і йдуць дзесяткі тысяч багамольцаў. Пабудавана Кальварыя ў XVI веку. Яшчэ з поўвярсты далей за Кальварыяй, над Вяльлёю відаць на высокай гары надзвычайна прыгожая мяйсцовасьць **Вэркі**; сюды прыяжджаюць Віленцы ўлетку аддыхнуць сярод прыроды. Паміж Вэркамі і Вільняю ходзяць параходы*).

З іншых харошых ваколіцаў Вільні трэба ўспомніць аб **Панарскіх горах, Закрэце** (лес пад Вільняю), **Паплавах** (на ўсход ад Вільні, ля р. Вялейкі). Мала хіба ёсьць местаў, каторыя-б мелі такія прыгожыя ваколіцы, як Вільня.

**Новая Вялейка** пад Вільняю, дзе разыходзяцца чыгункі на Менск і Дзьвінск, у харошай мяйсцовасьці сярод гор і лясоў ля р. Вялейкі. Досіць значнае (больш за 5 тыс. насяленьня) прамысловае мястэчка. Шмат хвабрыкаў: напр., хвабрыка косаў, 2 хвабрыкі анталяжаў і інш. Каля Н.-Вялейкі ёсьць вялікая больніца для хворых змысламі (вар'ятаў). На захад ад Вільні, пры **ст. Ландварове**, ёсьць хвабрыка тэлеграфнага дроту.

Недалёка ад Вільні, пры Ашмянскім гасьцінцы, ляжыць **Барэйкоўшчына**, невялічкі фальварак, дзе жыў апошнія гады жыцьця адзін з беларускіх паэтаў — Сыракомля (Л. Кондратовіч), што пісаў пабеларуску і папольску. Далей на паўдня, над р. Марачанкаю, ляжыць двор **Паўлаў**. Канонік Бжастоўскі, да якога належыў гэты двор, у 1769 годзе аслабаніў усіх сваіх падданых, аддаў ім зямлю і ўстанавіў у Паўлаве маленькую рэспубліку, у якой сам стаўся звычайным грамадзянінам. Але ўдзячныя грамадзяне абралі яго на прэзідэнта. Сэйм зацьвердзіў статут гэтае рэспублікі, і яна праіснавала аж да 1824 году. У Паўлаўскай рэспубліцы былі школы, больніцы,

---

*) У Вэрках, між іншым, ёсьць паперня Шварца. Другая паперня знаходзіцца ў Кучкурышках: заложаная яна Пуслоўскім, відным экономічным дзеячам прошлага веку.

народ жыў вольна і багата. Гэта ўсё было ў часе найбольшага росквіту паншчыны.

Над Вяльлёю, на мяжы з ліцьвінамі, ляжыць беднае мястэчка **Кернова** — некалісь, у XI—XIII вякох, — сталіца Літвы.

**Віленскі павет** мае добрыя, ўраджайныя грунты, асабліва на поўначы, дзе жывуць ліцьвіны. Усходняя часьць павету лясістая і радзей заселеная. У паўднёва-заходнім рагу павету пачынаюцца лясы Рудніцкае пушчы, якая ляжыць найбольш у Троцкім павеце. Насяленьне павету шмат зарабляе на дастаўцы розных прадуктаў у Вільню. На поўнач і захад ад Вільні насяленьне хаця і гаворыць пабеларуску, але нацыянальна мала сьведамае; спатыкаюцца часамі тут і літоўскія вёскі.

У Троцкім павеце беларусы займаюць толькі заходнюю частку павету, прымерна 1/5 частку ўсяго яго прастору; зямля тут пяшчаная. На паўдні беларускае часткі павету ляжыць Рудніцкая пушча на пяскох і балотах ля р. Мара-чанкі. На поўначы беларускае часткі павету, за 4 мілі ад Вільні, у вазёрным краю, ляжаць **Трокі**, паветавае места, слаўнае сваёй мінуўшчынаю. Места ляжыць на паўвостраве, паміж вазёраў (рыс. 105); на востраве сярод возера высяцца руіны старасьвецкага вялікакняжскага замку. Тут жылі Кейстут і Ольгерд; тут жыў і памёр слаўны Вітаўт, тут жылі Казімір і Аляксандра, вялікія князі беларуска-літоўскія. Цяпер Трокі славяцца гародніцтвам (агуркамі), якім займаюцца тутэйшыя жыхары — караімы (жыдоўская сэкта).

Сьвянцянскі павет ляжыць на правым беразе Вяльлі. У паўднёвай яго палавіне, засёленай беларусамі, ляжаць лёгкія супяшчаныя грунты. На поўначы-ж падыймаецца Завялейскае ўзгор'е, пакрытае суглінкамі. На ўсходняй мяжы павету ляжыць найбольшае возера Беларусі — Нарач, а недалёка ад яго — другое вялікае возера — Сьвір. Ля апошняга возера знаходзіцца старасьвецкае мястэчка **Сьвір** — некалісь сталіца вудзельных князёў Сьвірскіх.

Сьвянцянскі павет досіць лясісты, асабліва ў заходняй частцы. Як і Віленскі, ён увесь засыпаны дробнымі вёсачкамі, засьценкамі. Гаспадарка вядзецца добрая. Шмат садзяць бульбы.

У Ашмянскім павеце ёсьць шмат мясцінаў з вялікай гістарычнай мінуўшчынаю. Сярод іх вызначаецца **Крэва** — з старым вялікакняжскім замкам, дзе быў забіты Кейстут. Некалькі мястэчак Ашмянскага пав. маюць асаблівае прамысловае і гандлёвае значэньне. З іх найбольшыя — Смаргоні і Ашмяна.

У **Смаргонях** (больш 7 тыс. жыхараў) было вельмі разьвітае гарбарства. Там працавала некалькі дзесяткаў гарбарняў. Даўней тут князь Радзівіл быў зрабіў школу для вывучкі

медзьведзянятаў, якую на жарт называюць да гэтых часоў «Смаргонскай акадэміяй». Вядомы Смаргоні яшчэ з сваіх



Рыс. 105. Трокі.

абаранкаў. У часе вайны Смаргоні страшэнна зруйнаваны. У **Ашмяне** (каля 8 тыс. жыхароў) таксама шмат гарбарняў. Таксама

ёсьць гарбарні ў досіць значным мястэчку **Гальшанах** (3 тыс. жых.), даўнейшай рэзідэнцыі князёў Гальшанскіх. У мястэчку шмат рамесьнікаў, якія займаюцца воўнаю, вырабляюць рукавіцы, панчохі і інш. У двары **Кушлянах**, ля Смаргоняў, жыў і памёр вялікі беларускі пясьняр Пранцішк Багушэвіч (Бурачок). Пахаваны ён у суседнім м. Жупранах.

Два вялікія мястэчкі — **Іўе** (5 тыс. жых.) і **Валожына** (3 тыс.), ляжаць ля чыгункі з Полацку на Седлец і вядуць асабліва бойкі гандаль. У Валожыне ў мінуўшым веку была на ўвесь сьвет вядомая жыдоўская акадэмія (е ш ы б о т), дзе вучыліся на рабінаў.

Усе гэтыя мястэчкі ляжаць у гарыстай паўночнай часьці павету, пакрытай найбольш ураджайнымі суглінкамі. На паўдні, у наднёманскай нізіне, ляжаць вялізарныя пяшчаныя прасторы, занятыя хваёвымі барамі, — гэтак званаю Н а л і б о ц к а ю п у ш ч а ю. Пушча даўней славілася дастаткам усякае дзічыны, а таксама зялезнаю балотнаю рудою, для выплаўкі якое ў Вішневе, пад Налібокамі, былі пазакладаныя зялезныя гуты.

Пры пушчы ляжыць мястэчка **Налібокі**. Апроч зялезнае гуты тут была яшчэ й шкляная, і паташовы завод. Усе гэтыя хвабрыкі цяпер пазачыняліся, дзеля розных прычынаў; між іншым, дзеля таго, што падаражэў апал — дровы.

У Вялейскім павеце ёсьць некалькі большых мястэчак, аднак досіць ціхіх і бедных. Гэтак **Радашкавічы**, у паўднёвай частцы павету, з 5 тыс. жыхараў, досіць чыстае брукаванае мястэчка, ляжыць у харошай мяйсцовасьці між узгоркаў, за 5 міляў ад Менску. Ля Радашкавіч у фальв. **Вязынцы** радзіўся слаўны сучасны паэта беларускі — Янка Купала. **Вялейка** з 5 тыс. жыхараў, ля Вяльлі, апошнімі часамі пасьля правядзеньня чыгункі пачынае моцна разьвівацца. Таксама і **Маладэчына**, якое ляжыць на вузьле дзьвёх чыгунак. У Маладэчыне была старая, першая ў Расеі, вучыцельская сэмінарыя, праз якую прайшло шмат беларускае народнае інтэлігенцыі. Каля мяст. **Ільлі** ёсьць адна з найбольшых беларускіх шкляных гутаў — З а л е с к а я.

В я л е й с к і п а в е т мае грунты на поўначы і на паўдні — сугліністыя, а пасярэдзіне павету, ля Вяльлі, супяшчаныя. Увесь павет досіць лясісты, але лясы з кожным годам моцна высякаюцца. Пасярэдзіне павету цячэ В я л ь л я з сваім прытокам І л ь л ё ю. На поўначы павету ёсьць шмат дробных вазёраў і вялікія Г а б с к і я б а л о т ы; на паўдні вазёраў няма; ёсьць толькі значныя балоты на ўсход ад Маладэчына (Ч ы с ь ц і). Насяленьне займаецца найбольш гаспадаркаю, жыве небагата; толькі з правядзеньнем новых чыгунак край гэты пачаў аджываць у эканамічных адносінах.

## III. Ме́нская краіна.

У самым цэнтры Беларусі падыймаюцца ўзгор'і Ме́нскае і Наваградзкае, якія з'яўляюцца найвышэй паднятымі прасторамі ня толькі ў Беларусі, але і на ўсёй Усходне-Эўропэйскай раўніне. Хаця геолёгічнае паходжаньне іх, быць можа, і рознае, аднак у сучасным іх выглядзе і палажэньні ёсьць шмат супольнага, што дазваляе нам злучыць іх у адну Ме́нскую краіну, абыймаючую паве́ты **Ме́нскі, Наваградзкі** ды **Слуцкі**. Значная частка абодвых успомненых узгор'яў ляжыць усё-ж за ме́жамі гэтых паве́таў у сусе́дніх Барысаўскім, Ігуменьскім ды Слонімскім пав., займаючы ме́ншыя часткі гэтых паве́таў, дзеля чаго апошнія прыходзіцца далучыць да іншых краінаў. Можа, найле́пш было-б гэтыя паве́ты разьдзяліць; тады можна было-б злучыць разам у адну краіну ўсе́ прасторы, занятыя Ме́нскім і Наваградзкім узгор'ямі.

Тады як абе́дзьве разгле́джаныя ўжо краіны, Полаччына і Віленшчына, ве́льмі це́сна зьвязаныя з вадазборнікамі вялікіх рэк — Дзьвіны і Вяльлі, Ме́нская краіна, наадварот, ёсьць самай тыповаю вадападзе́льнаю краінаю і ні да якага вадазборніку яе́ ў цэласьці адне́сьці не́льга. Вялікі Эўропэйскі вададзе́л дый цэлы рад іншых ме́ншых вададзе́лаў праходзяць це́раз гэтую краіну; у ёй зьмяшчаюцца вытакі цэлага раду рэк і рэчак, нале́жачых да сыстэмаў Нёмна, Вяльлі, Бярэзіны і Прыпяці. Найбольш тут ёсьць дробных рэчак, з камяністым звычайна дном, што цякуць часта ў шырокіх і досіць глыбокіх далінах. Толькі Нёман, які тут пачынаецца і плыве́ даўгі час па ўзьме́жжы краіны, даходзіць у ёй значных разьме́раў, і па ім пачынаецца ўжо судаходзтва. Іншых-жа судаходных рэкаў краіна ў наш час ужо ня мае. Ня гле́дзячы на гэта, краіна, дзякуючы сваім багатым грунтом, густа і з даўных часоў засе́лена, пераганяючы з гэтага боку ўсе́ сусе́днія краіны.

Паве́рхня краіны мае ў сабе́ шмат характэрных рысаў. Значная частка краіны, асабліва на захад ад Ме́нску ды па паўдня ад Наваградку, мае рэзка пасе́чаны, амаль не гарысты выгляд. Тут знаходзяцца гэткія высокія пункты, як Лысая гара (161 саж.), Сьвятая гара (160 саж.) на Ме́нскім узгор'і, ды Замковая гара (151 саж.), Каменка — на Наваградзкім, з якіх адкрываюцца віды на шмат дзесяткаў вёрст наўкола. Моцна разьвітая канцавая морэна ляжыць тут на таўстым пласьце́ падысподняе морэны, або на выпятых уве́рх старых геолёгічных пластох (Наваградзкі горб). Магчыма, такім чынам, што ўзгор'і Ме́нскае і Наваградзкае ляжаць на геолёгічна розных пластох, аднак сучасны іхні выгляд даводзіць, што яны стварыліся ме́нш-больш аднапасна і пераджылі адзінакавую гісторыю. Тыповага морэннага краявіду на абодвых узгор'ях мы не спатыкаем, дзякуючы поўнай

нямаль адсутнасьці вазёраў. Калісь, пэўне, вазёраў і тут было ня мéнш, чым мы бачым, прыкл., у Полаччыне; да нашага часу, аднак, яны пасьпéлі пасплываць і павысыхаць, а гэта даводзіць, што Мéнская краіна шмат ранéй аслабанілася ад лядавіковага пакрыцьця, чым Полаччына. Толькі ў нéкалькіх мяйсцох, як памяткі па даўнéйшым яé краявідзе, засталіся невялічкія вазяркі, як, прыкл., Сьвітазь, ды напоўвысахшыя тарфяныя балоты.

В я р х і абодвых узгор'яў пакрыты масаю каменьня і паабрасталі лéсам, найбольш яловым і мяшаным. Грунты тут найбольш сугліністыя ды супяшчаныя, моцна камяністыя, сярэдняе ўраджайнасьці. Лясоў на іх пазаставалася досіць шмат, гушчыня насялéньня ядужа вялікая, да таго-ж яно раскідана ў бязьлічных засьцéнках і маленькіх вёсачках — па 35 хат, дый паасобнымі хутарамі.

Іначай выглядаюць с п а д ы ўзгор'яў, асабліва паўднёвыя ды ўсходнія. Тут ляжыць на вялікіх прасторах падысподняя морэна з сваімі багатымі, цяжкімі грунтамі. Ад даўнéйшых лясоў мала тут засталося й сьлéду: яны парасьцярэбліваны і абéрнуты на поле густым земляробскім насялéньнем, якое займае гэтыя прасторы. У наш час паўднёва-ўсходняя палавіна Мéнскага і Наваградзкага павéтаў ды поўнач Слуцкага ўяўляюць з сябé бязьлéсную, землямробскую раўніну, крыху збунтаваную невялічкімі ўзгор'ямі ды далінамі рэк. А на паўдні краіны (асабліва ў Наваградчыне), дзе спатыкаецца на значных прасторах лёсс, пакрыты багатымі поўчарназёмнымі грунтамі, мяйсцовасьць часамі прыймае выгляд лесастэпу. На землябскай раўніне, як і трэба было спадзявацца, насялéньне жывé вялікімі даўгімі вёскамі, найбольш выцягнутымі ўздоўж рачных далінаў. Ад іх на шмат вёрст цягнуцца вузкія сялянскія шнуры, пакрытыя рознародным буйным збожжам. Тут гаспадары сéюць шмат пшаніцы-азімкі, і яна добра родзе. Наагул Слуцкія і Наваградзскія грунты лічацца ў Беларусі найлéпшымі па ўраджайнасьці. Шмат збожжа адгэтуль вывозіцца ў іншыя краіны Беларусі ды за яé мéжы.

Саўсім іншы характар маюць паўднёвыя часткі Слуцкага, а часткаю і Наваградзкага пав. Гэта ўжо праўдзівае Палесьсе. Пяшчаная лясістая раўніна перасéчана вялізнымі балотамі ды рэкамі, што ціха плывуць сярод нізкіх берагоў. Рэдкае насяленьне жывець найбольш з гадоўлі скаціны. Па ўсім прыметам — і прыродным, і экономічным — гэтую мяйсцовасьць трэба аднесьці да сумéжных Палéскіх краінаў і толькі немагчымасьць падзелу паветаў прымушае нас успамінаць аб гэтым «Слуцкім Палесьсі» пры апісаньні Мéнскае краіны. Вялікія пяшчаныя прасторы ляжаць, аднак, і на паўдні Мéнскага пав., на правым беразе Нёмна, дзе гэтаксама перахавалася шмат хваёвых лясоў. Гэтая лясная паласа, йдучая ўздоўж Нёмна, злучае Налібоцкую пушчу з палéскімі прасторамі, што ляжаць на паўдні ды захадзе Ігуменьскага павéту.

Клімат Менскае краіны досіць яшчэ мяккі й цёплы. Тут, аднак, уплывы ўсходу ўжо мацнéйшыя, чым у апісаных упéрад краінах, асабліва на ўсходніх спадах узгор'яў, не закрытых, як Віленшчына, ад сухіх і маразяных сухазéмных вятроў; дзякуючы гэтаму зіма тут трывалéйшая і халаднéйшая, чым у Віленшчыне, а лéта сушэйшае; нéба тут таксама часьцéй бывае яснае. Клімат гэтае мяйсцовасьці наагул налéжыць да найбольш здаровых і прыятных у Беларусі. Вярхі ўзгор'яў маюць ужо клімат халаднéйшы, бо вышэй паднятыя над роўнем мора. Апроч таго, на іх і, асабліва, на заходніх спадах узгор'яў выпадае дужа многа ападкаў (больш за 600 міл. у год). Гэтыя варункі ўжо мéнш спрыяюць земляробству, асабліва на цяжкіх і без таго халодных грунтох, і затым тут пазаставалася шмат лясоў (Налібоцкая пушча і сумéжныя з ёю лясы на захадзе й поўначы Мéнскага пав., лясісты захад Наваградзкага пав.). Прытокі вéрхняга Нёмна, асабліва правыя, маюць дзякуючы гэтым прычынам шмат вады. На паўднёвым усходзе краіны, у Случчыне, ападкаў ужо бывае замала (мéнш 500 мм.), як і ў сусéднім Палéсьсі.

Мяшаныя лясы Менскае краіны маюць у сабé найбольш éлкі, побач з якою шмат расьцé дубу, хвойкі, асіны, бярозы, грабу, ляшчыны і г.д. На паўдні краіны éлка ўжо пачынае гінуць; тут пераважаюць чыстыя хваёвыя бары, што, праўда, залéжыць перад усім ад грунту. Наагул лéсу ў краіне засталося мала. Спатыкаецца шмат такіх мéйсцаў, асабліва ў Наваградзкім пав., дзе саўсім няма лéсу, навет на дровы, і насялéньне пачынае апаліваць хаты торфам, каб не вазіць дрэва за дзесяткі вёрст з Палéсься. У лясістых мяйсцовасьцях, асабліва каля Мéнску, лясныя зарабаткі — дастаўка дроў у Мéнск і на чыгункавыя станцыі, маюць важнае экономічнае значэньне.

Гаспадарка ў краіне наагул стаіць добра і гаспадары найбольш заможныя, хаця часта — малазямéльныя. У Наваградзкім ды Слуцкім пав. разьвітая гадоўля коней, цяжкіх найбольш пародаў. Усюдых стараюцца дзяржаць палéпшаныя пароды сьвіньняў і кароваў. У некаторых мяйсцох разьвіваецца пакрысé сыраварэньне. Сяляне сéюць шмат кармовых траваў, а на пяшчаных грунтох усюдых сéюць лубін. Зямлю акуратна гнояць, выпрабляюць яé плугам, а часамі і спранжыноўкаю. Высака стаіць гаспадарка ў дварох.

У краіне значна разьвіта садоўніцтва і гародніцтва, асабліва — у Случчыне. Гэтыя галіны гаспадаркі маюць тут бязумоўна дужа добрую будучыну. Слуцак, Клéцак, Ляхавічы, Замір'е і шмат іншых мястэчак і вёсак славяцца сваімі гародамі. Апроч гаспадаркі вясковае насялéньне часта займаецца хатнімі рамёсламі. Асабліва разьвітае ткацтва, хаця яно за апошнія гады перад вайною крыху было падупала праз конкурэнцыю дзяшовае крамніны. Усё-ж шмат дзе, асабліва ў Случчыне ды Наваградчыне, сялянкі вытыкаюць

дужа прыгожыя паясы, рушнікі, корты (поўваўняныя тканіны), чыста-ваўняныя тканіны, сукны і г.д. У не́калькіх мяйсцох выкарыстаны добрыя ганчарныя гліны, на якія краіна багатая. Так, ганчарка разьвітая ў в. Ясянцы, Навградз. пав., м. Іве́нцы,



Рыс. 106. Ме́нск.
(Від ад Плябанскіх млыноў на места і на Сьвіслач).

Ракаве і г. д. У Іве́нцы ды інш. мяйсцох, апроч таго, вырабляюць кахлі. У лясістых мяйсцовасьцях Слуцкага й Ме́нскага пав. разьвітыя дзераўляныя вырабы. Над ве́рхнім Нёмнам будуюць чаўны і судзіны ды займаюцца сплавам дрэва.

Хвабрычная прамысловасьць краіны разьвітая слаба. Толькі Мéнск пакрысé робіцца вялікім хвабрычным мéстам. У ім на хвабрыках працуе каля 2000 работнікаў. У іншых мéстах і мястэчках вялікіх хвабрыкаў няма, але па дварох ўва ўсіх трох павéтах, асабліва ў Слуцкім, вéльмі многа бравароў. Таксама ў лясістых мяйсцовасьцях часта спатыкаюцца пільні.

Па краіне густа разсéяны жывыя, людныя мястэчкі. Ёсьць іх тут шмат, вядуць яны значны гандаль, падзяляючы між вясковым насялéньнем тавары, якія дастаўляе ім усім Мéнск. Ня вéльмі багатая краіна на шляхі. Толькі Мéнскі павéт, можна лічыць, багаты на чыгункі; у Слуцкім-жа пав. да апошняга часу чыгункі як і ня было (праходзіла па досіць глухой мясьціне на самым краю павéту); затое цераз усю Случчыну йшла шоса.

Гісторыя вадападзельнае Менскае краіны была саўсім непадобная да гісторыі сусéдніх краінаў. Тут ня мог стварыцца гэткі вялікі цэнтр рачное цывілізацыі, як Полацак, бо, хаця некаторыя з нязначных цяпéр рэчак і былі ў даўнéйшыя часы судаходнымі, усё-ж на вадзяныя шляхі краіна была заўсёды вéльмі бéдная. Праўда, яé перасякалі досіць важныя вадзяныя шляхі, што вялі з Нёмна й Вяльлі ў Прыпяць ды Бярэзіну, але ў самой краіне знаходзіліся якраз найбольш нявыгодныя часткі гэтых шляхоў — волакі; тут купцы павінны былі з вялікімі тратамі і небясьпéкаю перацягаваць сваé чаўны праз вададзéл. Пэўне-ж і тут міжнародны гандаль быў магчымы і некаторыя мéсты, як, прыкл., Мéнск, маглі навет іграць пры гэтым значную ролю. Але больш цікавыя хіба былі вадападзéльныя прасторы для князёў, што зьбіралі дань з праéздных, і дзеля гэтае мэты, мусіць, будавалі тут большасьць старадаўніх гарадоў краіны, — як Заслаўе, Наваградак, Нéсьвіж дый інш. Асаблівае-ж значэньне ўжо на пачатках гісторыі павінна была мéць краіна, як асяродак земляробскае культуры. Разьвіцьцю земляробства спрыялі тут наагул багатыя грунты; на прасторах-жа, пакрытых лёссам, спрадвеку былі вольныя ад лéсу кавалкі стэпу — паляны; калі прыняць пад увагу, як трудна было первабытнаму чалавéку расьцярэбліваць лéс пад поле, лёгка зразумéць, што на гэтых палянах, да таго-ж вéльмі ўраджайнай зямлёю, павінна была ў пéршы чарод разьвіцца земляробская культура, што тут ужо ў самыя старыя часы згуртавалася густое земляробскае насялéньне, якое з культурнага боку стаяла шмат вышэй жыхараў акалічных пушчаў, паляўнічых і бортнікаў. У Наваградчыне й Случчыне мы маем краіну з найстарэйшаю земляробскаю культураю, якая адгэтуль пашыралася ўва ўсé бакі, а перад усім — на поўнач і захад. Цікава адзначыць, што культура гэтая была створана, відаць, дрыгвічамі, жыхарамі балот і лясоў, якія з Прыпяцкае нізіны падняліся на паўднёвыя спады сусéдніх узгор'яў і апанавалі вадазборнік Нёмна. Крывічы засялялі толькі паўночную частку краіны і адгэтуль пашыраліся далéй на захад па вадазборніку Вяльлі. У іх зямлі ляжалі і Мéнск, і Заслаўе.

Абсалютная высачыня ў сажанёх :




Масштаб :




**Рыс. 107. Пляи Ме́нску.**

I. Замчышча пры вусьці Нямігі. II. Нізкі рынак. III. Высокае ме́ста. IV. Трае́цкая гара. V. Залатая Горка. VI. Камароўка. VII. Ляхаўка. VIII. Людамонт. IX. Татарская Слабодка. X. Пярэспа. (VI—X — прадме́сьці). 1. Віленскі гасьцінец. 2. Лагойскі гасьцінец. 3. Барысаўскі гасьц. (на Воршу). 4. Ігуменьскі гасьц. (на Кіяў). 5. Койданаўскі гасьц. (на Слуцак і ў Польшчу). 6. Ракаўскі гасьц. 7. Чыгунка на Смале́нск. 8. Чыг. на Бе́расьце. 9. Чыг. на Гомель. 10. Чыгунка на Вільню. 11. Берасьце́йскі вагзал. 12. Віленскі вагзал. 13. Тэатр. 14. Жоўтая царква («Кацярынінская»). 15. Новы касьцёл. Штрыхоўка паказуе абсолютную высачыню; праве́дзены горызанталі: 80, 90, 100 і 110 саж.

## Важне́йшыя мяйсцовасьці.

**МЕ́НСК** (рыс. 106, 107, 109). На нявысокіх узгорках над р. Сьвіслачаю ляжыць цяпе́рашняя сталіца Беларусі — Менск. Заняў ён вялікія прасторы на абодвых берагох гэтае ракі: на восем вёрст цягнецца ён з поўначы на паўдня і на шэсьць вёрст — з усходу на захад; хацеўшы-ж аб'ехаць Менск наўкола — трэба ехаць каля трыццацёх вёрст.

Вялікі цяпе́р Ме́нск, а Сьвіслач, рака, над якою ён стаіць, у нашыя часы саўсім мала зьвяртае на сябе́ ўвагі. Пачынаецца



**Рыс. 108. Узгорак пры вусьці Нямігі, на якім стаяў Ме́нскі замак.**
Спэц. рыс. Я. Драздовіча.

яна за 4 мілі ад Ме́нску і працякае праз ме́ста невялікаю несудаходнаю ракою. Даўне́й, аднак, Сьвіслач была куды большаю і глыбе́йшаю. Ня толькі па ёй, але і па яе́ прытоках вышэй Ме́нску хадзілі вялікія судзіны з усялякімі таварамі. А недалёка на захад ад Ме́нску праходзіць вялікі вададзе́л, пачынаюцца значныя прытокі Нёмна і Вяльлі, па якіх з самых даўніх часоў падыймаліся чаўны эўропэйскіх гандляроў. Хочучы трапіць у вадазборнік Дняпра, каб плысьці на ўсход

або на паўдня, яны перацягавалі тут сваé чаўны ў Сьвіслач, або ў які іншы прыток Бярэзіны ці Прыпяці. Праз мяйсцовасьць, дзе цяпер стаіць Менск, праходзілі волакі. Тут сустракаліся тавары з захаду, што плылі Вяльлёю й Нёмнам, з усходнімі ды паўднёвымі таварамі, прывéзенымі па Сьвіслачы, Бярэзіне і г.д. Саўсім натуральна, што тут ужо ў самай далёкай мінуўшчыне пасяліліся людзі, вырасла мéста (мéстам у нас і да гэтае пары называюць гандлёвы пляц), у якім пачаўся бойкі гандаль — мена. Мусіць, ад гэтага пайшоў і самы назоў места — Менск.

Такая, мусіць, была прычына залажэньня Мéнску і такі характар мéў ён і яго жыцьцё ў тыя далёкія часы, аб якіх нічога ня вéдае гісторыя. У летапісах пéршы раз успамінаецца аб ім у XI в. (ад **1066** году). Тады ён ужо істнаваў і мéў важнае значэньне як гандлёвы, а можа, і палітычны пункт. Налéжыў ён тады да Полацку, і вось кіеўскія князі, асабліва Ўладзімір Монамах, вядучы заядлую барацьбу з Полацкам, заўсёды вялікую ўвагу зьвяртаюць на Мéнск і шмат разоў нападаюць на яго. З-за валаданьня Мéнскам адбываліся цяжкія крывавыя бітвы, што сваёю няміласэрнасьцяю задзівілі навет аўтара «Слова аб полку Ігаравым», які піша:

На Нямізе сьцéлюць галовы, бы снапы,
А малоцяць булатнымі цапамі;
Кладуць жыцьцё на таку, ды вéюць душу ад цéла.
Не дабром засéяны крывавыя берагі Нямігі, —
Яны засéяны касьцямі рускіх сыноў.

«Крывавыя берагі Нямігі» знаходзяцца якраз у самым цэнтры Мéнску, дзе гэтая невялічкая цяпéр рэчка ўпадае ў Сьвіслач.

Ужо тая заўзятасьць, з якою кіеўскія князі дабіваюцца сабé панаваньня над Мéнскам, выяўляе яго немалое ў тыя часы значэньне. У пачатку XII вéку робіцца ён сталіцаю вудзéльнага князьства, якое досіць рана трапляе пад уплывы вырастаючага ў блізкім сусéдзтве, у Наваградку, а пасьля ў Вільні, Вялікага Князьства Літоўскага. Пасьля скасаваньня вудзéлаў пры Вітаўце Мéнск робіцца ваяводзкім мéстам; бадай ці не найважнéйшым пасьля Вільні ўва ўсім Вялікім Князьстве. У тыя часы, — у XV і XVI вякох, шырака разьвіваецца мéнскі гандаль, расьцé і багацéе мéста, якое атрымала шырокае самаўрадаваньне паводле Магдэбурскага права.

На пачатках гісторыі, калі сухазéмных гандлёвых шляхоў было дужа мала, калі для іх правядзéньня трэба было скрозь валіць векавую пушчу, асаблівае значэньне мéлі вадзяныя шляхі, а значыць, высоўваліся наўпéрад найбольш мéсты, стаячыя над вялікімі рэкамі. У пазьнéйшыя часы, з ростам насяленьня й яго культуры, побач з вадзянымі сталі сухазéмныя шляхі. Палажэньне Менску на сухім, значна

расьцярэбленым вададзéле, што градою цягнéцца ў кірунку Масквы, гэтак выгодным для правядзéньня гасьцінцаў, зрабіла гэтае мéста зборным пунктам для падарожжа ў Маскву. Дарогі на Маскву з Польшчы, Літвы, з Вільні і навет з заходняе Ўкраіны зыходзіліся ў Мéнску і адгэтуль ужо шырокім гасьцінцам праз Лагойск, Барысаў і Воршу йшлі разам у



**Рыс. 109. Мéнск. Высокае мéста.**
(Від з паўночнага боку, з-за Сьвіслачы).
Спэц. рыс. Я. Драздовіча.

Маскву. Сюдою йшлі войскі ў маскоўскія паходы, што, праўда, часамі было для мéста і шкодна, але гэтымі-ж шляхамі карыстаўся й гандаль. Менск зрабіўся гандлёвым пасярэднікам паміж Масквою і ўсім Захадам, асабліва-ж паміж Масквою й Вільняю. Маскоўскія купцы мéлі тут вялікія склады. Славіўся Мéнск і сваім гандлем з ганзéйскімі мéстамі. Вывозіў ён заграніцу шмат сваіх тавараў, найбольш воску, мёду, смалы і скураў. Экономічнаму разьвіцьцю Мéнску спрыяла тады, мусіць, і яго палажэньне ў зацішнéйшым, чым, прыкл., Полацак, ад вайны мéйсцы. Ваéнныя падзéі адбіваліся на Мéнску далёка ня так балéсна, як на ўсходніх мéстах Беларусі; ляжаў ён у глыбіні краю, абшырнае Палéсьсе бараніла яго ад татарскіх нападаў ды ад казацкіх войнаў.

Усё-ж у часы ўпадку Рэчы Паспалітае нялёгка даводзілася Мéнску, асабліва ў швэдзкую вайну; пажары й пошасьці моцна затрымлівалі яго разьвіцьцё, як і іншых беларускіх мéстаў. Аднак і гэтыя часы пакінулі па сабé не адны толькі благія ўспаміны. У XVII і XVIII вякох Мéнск, які ўпéрад быў чыста дзераўляным мéстам, узбагаціўся цэлым радам вялікіх камяніцаў, якіх асабліва тады будавалі каталіцкія манастыры. Пры манастырох-жа паадкрываліся школы і друкарні; з другога боку, закіпéла культурная і нацыянальная дзéйнасьць праваслаўных брацтваў. Ня глéдзячы на войны і спусташэньні, йшла творчая культурная работа, пакінуўшая глыбокія сьляды ў гісторыі і жыцьці.

З далучэньнем да Расéі мéнскі гандаль стаў чэзнуць. Толькі ў часе штогодняе вялікае ярмаркі, — кантрактаў, ён крыху аджываў. З другога боку, заняпала і культурнае жыцьцё мéста. Пачалося ўпартае змаганьне маскоўскае ўлады з грамадзянствам, якое было ў Мéнску дужа моцна спольшчанае. Гэтае змаганьне надоўга спыніла мяйсцовую культурную працу, замéста якое запанавала казённая прасьвéта і самадурства губэрнатараў. У гэтым часе было зьнішчана шмат памятак старое архітэктуры; улада расéйская старалася зраўнаваць з зямлёю ўсё, што толькі прыпамінала аб мінуўшчыне Мéнску, аб яго самабытнасьці, не шкадуючы навет і праваслаўных цэркваў. Так, над Нямігаю, недалёка ад старога Мéнскага замку, у пачатку XVII в., у часе змаганьняў за вéру была пабудавана беларускім баярствам Петра-Паўлаўская царква на знак таго, што яно ніколі ня вырачацца сваé вéры і народнасьці. І хаця патомкі закладчыкаў гэтага абяцаньня не датрымалі, аднак-жа царква, пабудаваная ў старым прыгожым стылю, прыпамінала сьвéту аб іх здрадзе. Маскоўцы замéста таго, каб шанаваць гэтую, чыста ўжо праваслаўную і навет прыхільную для іх традыцыю, пастараліся яé саўсім зглfavadзіць. Па загаду імпэратрыцы Кацярыны II царква была названа Кацярынінскаю, а пасьля яé перарабілі гэтак, што ад старое архітэктуры не засталося й сьлéду. На прыложаным рысунку (рыс. 110) відна гэтая царква яшчэ ў

сваім даўнейшым відзе, якраз у той час, калі ўжо было пастаўлена рыштаваньне для яе пераробкі. Гэтаксама былі зруйнаваны або перароблены на маскоўскі лад у XIX в. амаль ня ўсе старыя будынкі — замак, ратуша, шмат манастыроў, касьцёлаў і цэркваў.

Ад старасьвэтчыны ў Менску пры яго тысячагадовай гісторыі засталося гэтак мала памятак, што іх і адшукаць бывае нялёгка. Новы Менск, гандлёвы й прамысловы, схаваў пад сваімі кварталамі валы старога Менскага замку, гістарычную Нямігу пакрыў на ўсім яе працягу дзераўляным мастом, па якім праведзена вуліца, і пашырыў свае межы далёка ўва ўсе бакі, асабліва-ж каля вагзалаў. Зьніштажэньню старасьветчыны дапамагала яшчэ й тое, што будынкі старога Менску, навет у замку, былі найбольш дзераўляныя і пры кожным пажары гінулі масамі.

Менскі замак стаяў на нявысокім узгорку над Сьвіслачаю пры вусьці Нямігі, якая абкружвала яго з двох бакоў. У XIII в. ён быў умацаваны высокімі землянымі валамі; гэтаксама і ўсё места было абкружана валам. Апроч таго, істнавала крэпасьць на прадмесьці Менску — Камароўцы, на востраве сярод возера. У наш час на мейсцы возера засталося толькі балота, а ад крэпасьці — ніякага знаку. Замак-жа над Нямігаю істнаваў да канца XVIII в.; пасьля стаў бяз догляду руйнавацца, будынкі яго перайшлі ў прыватныя рукі (адзін з такіх будынкаў відзён на рыс. 111), і толькі дзе-ня-дзе з-пад бедных мяшчанскіх хатак выглядаюць часткі валоў, што абкружвалі замак (рыс. 108); таксама мала знаку засталося і ад валу, якім было абведзена места.



**Рыс. 110. Жоўтая царква ў Менску**
(у часе пераробкі).

На паўдня ад замку, на суседнім узгорку, значна большым і вышэйшым, знаходзіцца Высокае места. Па бакох вялікага пляцу, дзе даўней, мусіць, адбываўся гандаль, разьмясціліся важнейшыя цэрквы, касьцёлы і манастыры ды розныя ўрадовыя ўстановы, якія найбольш займаюць старыя манастырскія будоўлі. Даўней тут стаяла вялікая і прыгожая

ратуша, дзе месьціўся кіруючы справамі места магістрат (рыс. 112); ратуша згарэла у 40-х гадох прошлага веку, а адбудоўваць яе расейцы не хацелі.

На Высокім месьце стаяць цяпер — Праваслаўны сабор, перароблены на маскоўскі лад з прыгожае старое Сьвята-Духаўскае царквы, Катэдральны касьцёл і цэлы рад будынкаў каля яго, пабудаваных у XVIII в., што належылі даўней езуітам (рыс. 113), праваслаўны манастыр (будаваны ў XVII в.) і даўнейшыя каталіцкія манастыры — бэнэдыктынскі (абернуты пад архіў), даміниканскі (зробляны казармы і каланча) ды інш., — будаваныя найбольш у XVII в. Высокае места цяпер лічыцца цэнтрам Менску; на пляцы яго адбываюцца важнейшыя народныя сходы, маніфэстацыі і г. д.



**Рыс. 111. Менск. Адзін з уцалеўшых замковых будынкаў.**

У шырокай лагчыне паміж замкам і Высокім местам знаходзіцца гандлёвы асяродак Менску. Такую ролю гэтая мяйсцовасьць іграе спрадвеку; наагул, мусіць, тут і пабудаваўся спачатку Менск. Ня дар-ма-ж народ дагэтуль называець гэтую лагчыну — Старым местам, або яшчэ — Нізкім местам, ці Нізкім рынкам. На краю Нізкога места знаходзіцца ўжо ўспамінаная Кацярынінская царква, якую народ называе проста Жоўтаю царквою (рыс. 110).

На левым беразе Сьвіслачы, паміж ёю і Камароўскім балотам, падыймаецца нявысокая Траецкая гара, на якой даўней стаяла шмат манастыроў. Побач ляжыць уздоўж гасьцінцаў, што йдуць на Маскву, прадмесьце Залатая Горка з прыгожым касьцёлам.

У другой палове XIX в. пачалося экономічнае адраджэньне Ме́нску. Асабліва аджыло гэтае стараве́чнае ме́ста, калі ў ім скрыжаваліся (у 70-х гадох) дзьве́ чыгункі, якія вельмі шчасьліва прайшлі якраз сьле́дам старадаўніх шляхоў, падтрымліваўшых гандлёвае значэньне Ме́нску. Ме́нск зрабіўся дужа важным чыгункавым вузлом. Асабліва карыснаю трэба лічыць створаную чыгункамі сувязь з Украінаю. Праз Ме́нск пайшло на захад, да Лібаўскага порту — украінскае збожжа;



**Рыс. 112. Ме́нск. Высокае ме́ста ў 40-х гадох XIX в.**
(від з паўдня; зправа старая ратуша).

у Украіну-ж пайшло беларускае дрэва. У Ме́нску стварыўся цэнтр ляснога гандлю, зьме́сьціліся чыгункавыя ўрады й майстроўні. Разам з тым хутка стала расьці і разбудоўвацца само ме́ста, і такім чынам на пачатку XX ве́ку Ме́нск зрабіўся пасьля Вільні найбольшым ме́стам Беларусі.

Займаў ён да таго-ж ве́льмі выгоднае цэнтральнае палажэньне ў краі, а чыгункі, разыходзячыся з яго ў чатырох кірунках, зьвязвалі яго безпасярэдна з Вільняю, Смале́нскам, Гомелем і Бе́расьцем, значыць, з усімі, блізка важне́йшымі часткамі Беларусі, большымі яе́ цэнтрамі. Раскіданыя, разлучаныя часткі Беларусі Ме́нск злучаў у адну экономічную суцэльнасьць. Побач з экономічным злучэньнем

пачалося і культурнае, і палітычнае, цэнтрам і прадстаўніком якога зрабіўся Ме́нск. У 1917 годзе шырокі народны беларускі рух выбраў сваім цэнтрам Ме́нск; з гэтага часу зрабіўся ён агульна-прызнанаю сталіцаю Беларусі.

Перад вайною Ме́нск ме́ў каля 110120 тыс. жыхараў. У часе вайны лічба насяле́ньня падвоілася. Цяпе́р трэба лічыць заўсёднага насяленьня ў Менску каля 150 тысячаў. Гэткім парадкам павялічыні Менск займае другое ме́йсца пасьля Вільні. Як і ў іншых нашых ме́стах, больш палавіны



**Рыс. 113. Ме́нск. Пляц Высокага ме́ста**
(від з захаду).

жыхараў Менску — жыды, рэшта — беларусы, а таксама палякі, маскоўцы і інш. Трэба лічыць, што на кожную сотню мянчан ёсьць каля 40 беларусаў.

Беларусы ў Ме́нску найбольш — дробныя дамаўласьнікі, раме́сьнікі, чыгункавыя працаўнікі, чыноўнікі, хвабрычныя і падзённыя работнікі. Жыды ў Ме́нску займаюцца найбале́й рамёсламі, гандлем і работаю на хвабрыках. Палякі — гэта жме́нька інтэліге́нцыі, моцная толькі дзеля падтрыманьня ад несьвядомых беларусаў-каталікоў, а расейцы — гэта абжыўшыяся ў Ме́нску нае́здныя чыноўнікі.

Хвабрычна-заводзкая прамысловасьць Ме́нску шыбка расьце́ і зьмяняецца; за апошнія 20 гадоў, напр., лік работнікаў павялічыўся ў 4 разы.

Найбольш разьвітая мэталёвая прамысловасьць. Хвабрыкі будовы машынаў (іх усіх 5) займаюць каля 500 работнікаў. Дале́й ёсьць 5 хвабрыкаў абояў (з 300 работнікамі), 3 гарбарні, 5 цаге́льняў, 2 хвабрыкі мэханічнага вобую, 3 дражджовых заводы (бравары), 1 хвабрыка грабянёў, хвабрыкі табачныя, мылаварныя, гільзавыя і інш.

Усе́ хвабрыкі займаюць больш 2000 работнікаў і вырабляюць тавару на 4 міліёны рублёў. Апроч хвабрычных работнікаў, у Ме́нску шмат ёсьць раме́сьнікаў, якія вырабляюць тандэтныя адзе́жу і абуцьцё.

Ле́жачы блізка што на мяжы паміж земляробскаю Ме́нска-Наваградзкаю краінаю і поўным лясных багацьцяў Пале́сьсем, пры ве́льмі выгоднай сувязі чыгункаю з вялізарнаю правінцыяю, Ме́нск і ў нашыя часы мае ве́льмі добры грунт для разьвіцьця гандлю. Менскі гандаль разьвіты досіць добра. Тутэйшыя гуртаўнікі раздаюць тавары на сотні ляжачых навакола мястэчак і зьбіраюць, сартуюць і прадаюць мяйсцовыя вырабы. Ме́нск вывозіць досіць многа збожжа й іншых сельска-гаспадарскіх прадуктаў у Лібаву і ў Варшаву. Але асабліва добра разьвіўся тут лясны гандаль. На ле́се ме́нскія купцы шмат зарабляюць, адпраўляючы яго найбольш на Ўкраіну, а таксама і ў Няме́ччыну.

У Ме́нску за часы вайны залажыўся цэнтр беларускага коопэратыўнага руху — Цэнтральны саюз спажывецкіх таварыстваў Беларусі (Цэнтрабелсаюз), у якім аб'ядналіся сотні вясковых коопэратываў і не́калькі дробных коопэратыўных саюзаў.

За апошнія гады аджыло і буйна разраслося культурнае жыцьцё ў Менску. У месьце йзноў стаў працаваць цэлы рад прасьве́тных, навуковых і інш. установаў і арганізацыяў. Пазакладаліся новыя школы і між імі гэтак даўно чаканыя Менскам — вышэйшыя школы. З 1918 г. істнаваў тут вышэйшы Беларускі пэдагогічны інстытут, які зьліўся з адкрытым крыху пазьне́й Беларускім дзяржаўным унівэрсітэтам. Апроч таго, сярэдняя політэхнічная школа рэфармавана ў Беларускі політэхнічны інстытут. Істнуе, ўрэшце, Беларускі дзяржаўны тэатр ды вышэйшая навуковая ўстанова, якая з часам, пэўне, разаўецца ў Беларускую Акадэмію Навукаў — Інстытут Беларускае Культуры.

Найлепшы выгляд мае Менск, калі глядзець на яго з поўначы. Над ме́стам пануе ўзгорак Высокага ме́ста, на якім падыймаюцца ў вышыню ве́жы цэркваў і касьцёлаў. Калі падыйсьці бліжэй да цэнтру і глядзе́ць на Высокае ме́ста з-за Сьвіслачы (рыс. 109), дык яно выдае́ адным вялікім

каменным гмахам, што падыймаецца проста ад берагоў Сьвіслачы на высачыню некалькіх дзесяткаў сажняў. Прыятна пе́сьцяць вочы перахаваныя з гэтага боку сьляды старое, прадве́чнае архітэктуры, і тут толькі хіба й можна добра ўсьве́даміць сабе́, што цяпе́рашні Ме́нск мае тысячагадовую багатую гісторыю. А калі ўзыйсьці на каторую з ве́жаў, што высяцца над Высокім ме́стам, дык воку адкрыецца шырокі від на Ме́нск і яго прадме́сьці. На пе́ршы пагляд уве́сь прастор, заняты імі, выглядае адным вялікім садам. Але прыглє́дзіўшыся мы пабачым затопленыя ў садох дзераўляныя дамкі ме́нскіх мяшчанаў. Гэтымі-ж дамкамі, дзераўлянымі, абкружанымі садком і гародчыкам, і забудована большая часьціна вялікага прастору, занятага Ме́нскам.

Ваколіцы Ме́нску досіць прыгожыя, асабліва на захадзе, дзе зараз-жа за ме́стам высака падыймаецца Ме́нскае ўзгор'е. Нале́жачыя да яго глі́ністыя ўзгоркі твораць мяйсцамі, асабліва на берагох сусе́дніх прытокаў Сьвіслачы, (напр., у Лошыцы) ве́льмі харошыя горныя краявіды. З паўночнага і ўсходняга боку да Менску прылягаюць больш роўныя прасторы з небагатаю пяшчанаю зямлёю, пакрытыя хваёвымі барамі (Камароўскі, Антонаўскі лясы). Цікава адзначыць, што паўночны край ме́ста падыходзіць да самага бе́рагу досіць абшырнага Камароўскага балота, якое ня так даўно, як ужо ўспаміналася, было возерам. Камароўскае балота тым, між іншым, цікавае, што на ім робяцца навуковыя дасьле́ды адзінае ў Беларусі Балотнае пробнае станцыі. Станцыя гэтая знайшла спосабы, як з дзікога балота зрабіць добрую багатую сенажаць і навет ураджайнае поле.



**Рыс. 114. Тэатр у Ме́нску.**

З мястэчак Ме́нскага пав. трэба адзначыць **Заслаўе**, дзе ў X в. была пасялілася напоўлегендарная княгіня Рагне́да з сынам сваім Ізяславам. Тады было яно сталіцаю абшырнага вудзе́льнага князьства; цяпе́р гэта невялічкае мястэчка над р. Сьвіслачаю. Аб слаўнай яго мінуўшчыне сьве́дчыць толькі вялічавае гарадзішча ды шмат курганоў у ваколіцах. Недалёка ад Заслаўя — гандлёвае і прамысловае мястэчка **Ракаў**, з 3500 чал. жыхараў. У мястэчку шмат раме́сьнікаў, што вырабляюць машыны для гаспадаркі — сячкарні, арфы ды інш., якія разыходзяцца па ўсёй Беларусі і навет за яе́ ме́жы. Апроч таго, ёсьць тут шмат ганчароў. На захад ад Ракава ёсьць м. **Івяне́ц**,

якога жыхары займаюцца ганчаркаю і вырабам кахляў. Недалёка ад Івенца знаходзіцца маленькі фаліварачак **Люцынка**, у якім жыў беларускі паэта В. Дунін-Марцінкевіч.

На паўднёвы захад ад Менску, пры чыгунцы, ляжыць у ўраджайнай мяйсцовасьці досіць вялікае і багатае мястэчка **Койданава**. Пад ім у XIII веку дзьвяма ўдачнымі бітвамі Скірмунту і Міндоўту ўдалося спыніць татараў і адбараніць Беларусь ад татарскае няволі. Ад XVI веку Койданава было адным з цэнтраў беларускага кальвінізму; памяткай гэтае яго ролі застаўся старасьвецкі кальвінскі збор, абкружаны валам. Над Нёмнам, пры самай чыгунцы, ляжыць значнае мяст. **Стоўбцы** з важнаю прыстаняю. Недалёка ад Стаўбцоў Нёман становіцца судаходным. Асабліва разраслася была Стаўпецкая прыстань у часе Крымскае вайны, калі для расейскага гандлю было замкнёнае Чорнае мора. Пасьля гэтае вайны рух у мястэчку ізноў зьменшыўся. У мястэчку ёсьць хвабрыка сярнічак; рамесьнікі займаюцца будоўляю чаўноў і паленьнем вапны. Недалёка ад Стаўбцоў у в. **Міколаяўшчыне** радзіўся вядомы сучасны беларускі паэта Якуб Колас.

На паўдні і захадзе М е н с к а г а  п а в. каля Стаўбцоў, Івенца грунты лёгкія, бедныя; рэшта павету ляжыць на цяжкіх гляістых грунтох, на якіх добра родзіць збожжа; лясоў тут мала. Толькі на ўсход ад Менску грунты робяцца бяднейшымі і мяйсцовасьць лясістаю.

**Слуцак** — найзначнейшае места ў зямлі дрыгвічоў, адзін са старэйшых беларускіх гарадоў, перахаваўшы да таго-ж шмат памятак мінуўшчыны. Ляжыць ён на шляху — сухаземным і вадзяным з Менску і Вільні — на Ўкраіну (Валынь), і за сваю гісторыю ня раз вытрымліваў напады татараў і маскоўцаў. Даўгі час Слуцак быў сталіцаю вудзельнага князьства. Князі слуцкія (Олельковічы, патомкі Гедыміна) адзначаліся сваім спагадам да навукі і мастацтва. У пачатку XVI в. праславілася сваім героізмам княгіня слуцкая Анастазія, удава аднаго з Олельковічаў. Яна некалькі разоў на чале случчан адбівала напады вялікіх татарскіх ды маскоўскіх войскаў. У XVII в. Слуцак перайшоў да магутнага роду Радзівілаў і пад іхняю апекаю закрасаваў яшчэ больш, чым упёрад. Радзівілы спагадалі, як ведама, кальвінізму, і па ўсёй Случчыне пазакладалі кальвінскія школы і зборы. У Слуцку ў XVII в. залажылася кальвінская гімназія, якая ператрывала ўсю езуіцкую рэакцыю.

Старасьвецкі Слуцак быў багатым прамысловым местам; тут у XVII в. пасялілася шмат шкотляндцаў, якія ўцяклі з сваё бацькаўшчыны ад рэлігійных прасьледаваньняў. Дзякуючы ім, разьвілася ў Слуцку прамысловасьць і гандаль; пазьней у ім працавала х в а б р ы к а  ш о ў к а в ы х  п а я с о ў, вядомых з свайго хараства і далікатнасьці па ўсёй Эўропе (С л у ц к і я  п а я с ы).

У Слуцку ёсьць некалькі старых цэркваў і касьцёл, а таксама Т р а е ц к і  м а н а с т ы р, у якім перахавана шмат

беларускае старасьве́тчыны; перахавалася таксама не́калькі вялікіх замчышчаў і курганоў.

Цяпе́р Слуцак мае каля 18 тыс. насяле́ньня. Да апошніх часоў гэта было ціхое ме́ста. Значная частка яго жыхараў займаецца гаспадаркаю. Асабліва славіцца Слуцак сваймі гародамі і садамі. З слуцкіх садоў выйшаў вядомы сорт ігруш — Слуцкія Бэры. Нядаўна ў Слуцак праведзена чыгунка, і ме́ста значна аджыло.

**Капыль** — старасьве́цкое ме́ста, цяпе́р невялічкае мястэчка з 4 тыс. жыхараў, якія апроч гаспадаркі займаюцца ткацтвам. Даўне́й гэтае рамяство стаяла тут шмат вышэй і больш было пашыранае.

**Нясьвіж** (рыс. 115) — старое места, заложанае крывічамі. З даўных часоў тут зьмяшчаецца рэзідэнцыя Радзівілаў. Ме́ста



**Рыс. 115. Нясьвіж.**

ляжыць між двох вазёраў, а на другім баку вазёраў высіцца вялізны і стары (XVI в.) замак Радзівілаў. Замак гэты быў сьве́дкаю жыцьця нашае найбуйне́йшае арыстакратыі ў часы яе́ найбольшае вагі. Даўне́й у замку зьмяшчаліся неапісанае вартасьці музэальныя коле́кцыі — галерыі абразоў, архівы, бібліатэкі. Самыя важныя дакумэнты з беларускае гісторыі перахоўваліся ў Радзівілаў, якім гэта было даручана каралём Жыгімонтам-Аўгустам. Нясьвіжскі замак быў адным з галоўных культурных цэнтраў Беларусі ў той час, калі беларуская культура магла йсьці побач оз ожнаю заходня-эўропэйскаю. У XVI в. Нясьвіж быў цэнтрам беларускае рэформацыі; істнавала тут адна з старэйшых у краі друкарняў, дзе кальвіністы друкавалі сваю літэратуру. Пазьне́й тут было пабудавана не́калькі манастыроў і школ.

З старасьве́тчыны Нясьвіжскае засталося мала; самае каштоўнае вывезена ў Петраград, Бэрлін і нямаве́дама куды.

Нясьвіж, маючы каля 10 тыс. насяле́ньня, нале́жыць і цяпе́р да культурне́йшых ме́стаў Беларусі. Шмат камяніцаў, брукаваных вуліц, не́калькі сярэдніх школаў, між імі — старая вучыцельская сэмінарыя, урэшце шмат прыватных таварыстваў, якія вядуць шырокую культурную працу.

**Кле́цак** — даўнейшае дрыгвіцкае ме́ста. На памятку аб мінуўшчыне засталося тут абшырнае замчышча, абкружанае з усіх бакоў балотам. Цяпе́р Кле́цак вялікае търговае і прамысловае мястэчка (7 тыс. жыхараў) ля р. Лані. У мястэчку не́калькі млыноў, хвабрыка грабянёў, і моцна разьвіта гародніцтва. Тут-жа істнавала адна з старэйшых і мацне́йшых пазычковых касаў. У Кле́цку вядзе́цца значны гандаль збожжам, ільняным сяме́ньням ды інш. **Ляхавічы** — значнае мястэчка (каля 5 тыс. жыхараў); у ім разьвіта гародніцтва, шмат ёсьць муляроў. Ляхавічы гандлююць мясам, сырымі скурамі і збожжам. Апошнімі часамі гандаль тут стаў падаць дзеля таго, што шмат купцоў перабралася ў Баранавічы, якія ляжаць недалёка. Калісь была тут наймацне́йшая ў Беларусі крэпасьць. Гэтая крэпасьць вытрымала між іншым 6-х ме́сячную аблогу маскоўцаў.

На поўначы Слуцкага пав. цераз Кле́цак і Капыль ідзе́ць узгор'е, што памалу зьніжаецца к паўдню паве́ту. На ўзгор'і і яго спадах ляжаць багатыя гляістыя грунты. Мяйсцовасьць тут ве́льмі густа засе́леная, лясоў мала. Паўднёвая частка паве́ту мае пяшчаныя грунты, пакрыта лясамі і балотамі. Тут вёскі сустракаюцца рэдка, наагул гэта край бязьлюдны. Па ўсім сваім адзнакам ён найбольш падобен да Мазырскага Пале́сься; тут між іншым пачынаецца вялізнае балота Грычына, аб якім народная леге́нда кажа, што яно злучана падзе́мным каналам з Чорным морам.

Таксама пале́скі характар мае і поўдзень Наваградзкага паве́ту, але тут лясы ўжо шмат больш парасьцярэбліваны і мяйсцовасьць досіць густа засе́леная. Большая-ж часць Навагрaдчыны зусім блізка бязьле́сная. Толькі дубовыя і бярозавая гаі тут часьце́й спатыкаюцца.

На мяжы поля і лясоў ляжаць **Баранавічы**. Навакола — пяшчаныя неўраджайныя грунты, бе́дныя вёскі. Такою-ж бе́днаю вёскаю былі й Баранавічы не́калькі дзесяткаў гадоў назад. Але прайшлі цераз Баранавічы тры чыгункі й шоса, пабудаваліся 2 вагзалы, і Баранавічы сталі значным мястэчкам з больш чым 10-х тысячным насяле́ньнем. Расьлі Баранавічы найбольш коштам іншых суседніх мястэчак, якіх чыгунка абмінула. Аднэй з прычынаў росту Баранавіч былі вае́нныя лагеры, якія штогод раскідваліся ў ваколіцах мястэчка.

Старасьвéцкае беларускае мéста **Наваградак** заложана немавéдама калі. У XI в. тут на старым гарадзішчы быў пабудаваны замак, як лічаць, кіеўскімі князямі. У XIII в. яго заваяваў літоўскі князь Рынгольт. Сын Рынгольта Міндоўг зрабіў Наваградак сталіцаю Беларуска-Літоўскае дзяржавы. Тут ён прыняў хрысьціянства і каранаваўся на караля Літвы. У XV в. тут закладаецца беларуская праваслаўная мітраполія. Пасьля Наваградак даўгі час зьяўляецца галоўным мéстам ваяводзтва. У ім, таксама, адбываюцца сэссіі Галоўнага Трыбуналу, ды перахоўваюцца судовыя архівы. З гэтае



**Рыс. 116. Наваградак. Руіны замку.**

прычыны сюды зьяжджалася шмат шляхты з усяé дзяржавы, што падтрымлівала гандаль і наагул разьвіцьцё мéста. Цяпéр гэта глухое, невялікае мéста. Насялéньня ў ім каля 10 тыс., прамысловасьць неразвітая, гандаль слабы. Уся бяда Наваградку — што яго абмінула чыгунка.

Ляжыць Наваградак у мяйсцовасьці гарыстай і вéльмі прыгожай. З яго ваколіцаў расьцякаецца шмат ручаёў у прытокі Нёмна. На адным з узгоркаў (Замковая гара) высяцца руіны замку Наваградзкага (рыс. 116). Адгэтуль адкрываюцца цудоўныя віды вёрст на 70 і больш. Другі ўзгорак, відаць, насыпны, называюць м а г і л а ю  М і н д о ў г а. У Наваградку вучыўся і жыў Адам Міцкевіч.

На ўсход ад Наваградку, у ве́льмі ўраджайнай мяйсцовасьці, ляжаць **Карэлічы**, дзе даўне́й была цукраварня, і **Шчорсы**, ля Нёмну, на надта цяжкой, але добрай зямлі, слаўныя на ўсю Беларусь з свае́ гаспадаркі. У Шчорсах была вялікая і каштоўная бібліатэка, у якой перахоўваліся ўсе́, якія калі выдаваліся географічныя карты Белару́сі. На паўдня ад Наваградку ляжыць праслаўленае Міцкевічам **воз. Сьвітазь**, а недалёка ад воз. Каўдычаўскага ме́йсца ўрадзін яго — засьце́нак **Завосьсе**. У гэтым глухім закутку радзіўся найвялікшы з паэтаў Беларусі. Там-жа па блізкасьці, у **Тугановічах**, ёсьць сельска-гаспадарская пробная станцыя. У в. **Ясянцы**, каля Гарадзішча, і сусе́дніх вёсках моцна разьвітае гарбарства. Вакола — мяйсцовасьць гарыстая, зямля неўраджайная.

**Мір** — даўне́й ве́льмі значнае таргове мястэчка; калісь быў сядзібаю цыганскага старшыні, або «караля». Мірскія цыганы тады займаліся промысламі, між іншым, ткацтвам, ме́лі навет хвабрыкі суконныя, палатняныя і гарбарні, — і жылі на ме́йсцы. Пасьля сьме́рці свайго апошняга «караля» яны пацягнуліся па сьве́це. У Міры ёсьць ве́льмі цікавыя руіны вялізарнага замку, пабудаванага ў XVI ве́ку Радзівіламі. У мястэчку каля 3 тыс. жыхараў, бываюць конскія ярмаркі два разы ў год.

**Гарадзе́я** — або **Замір'е**, станцыя чыгункі, пе́ршая ў Беларусі па вялічыні вывазу збожжа. Ляжыць у ве́льмі ўраджайнай мяйсцовасьці. Пры станцыі вырасла мястэчка. У сусе́днім двары ёсьць вялікая сыраварня, у якой вырабляюцца вядомыя навет на Петраградзкім і Варшаўскім рынках «швайцарскія» сыры. Добра пастаўлена гадоўля скаціны і гародніцтва.

Наваградзкі паве́т ляжыць найбольш на ўраджайных гляістых грунтох, часткаю навет на лёссавых, і мае густое насяле́ньне. Ня гледзячы на малазяме́льле, сялянства жыве́ добра. Моцна разьвітая гадоўля коней, якіх гуртаўшчыкі закупляюць на кірмашах і адпраўляюць заграніцу. Скаціну дзяржаць пале́пшаных пародаў. Шмат садоў і добрыя гароды. Разьвітае ткацтва. Наднёманскія сёлы зарабляюць на сплаве лесу.

«Але ня толькі ўраджайнасьцяй адзначаецца Наваградзская зямля,— піша Кіркар,— а яшчэ і чаруючым выглядам сваім. Маса рэчак, ручаёў і вазёраў прарэзуюць паве́т ува ўсіх кірунках і зьліваюцца ў дзьве́ галоўныя ракі, у вялічавы Нёман, на паўночным усходзе і Шчару — на паўдні. Высокія ўзгор'і, абшырныя лагчыны, усюдых багатая расьліннасьць, дубовыя гаі, цёмныя лясы прыхарошуюць Наваградзкую зямлю, уве́сь час зьмяняюць яе́ краявіды і не даюць супачынку вачом. Шмат перажыла гэтая старэйшая славянская зямля, зрошаная патокамі беларускае й літоўскае крыві. Шмат захавалася тут і памятак ад часоў пракаве́тных.

Харошы й ясны край гэты, з сваймі цікавымі гістарычнымі ўспамінамі, знаходзіцца як быццам на мяжы хмарнага, туманнага, балотнага Надпрыпяцкага Пале́сься».

Апошнія словы Кіркара можна аднесьці і да ўсяе Менскае краіны. Далей за ёю на ўсход і паўдня ўсюдых цягнуцца бары й балоты Палесься.

Наваградзкая зямля радзіла і выгадавала **Адама Міцкевіча.** За гэта ён яе праславіў на ўвесь сьвет, як не праслаўляў ніадзін паэта свае Бацькаўшчыны.

---

**ВЕРХНЕБЯРЭЗІНСКАЯ КРАІНА.** З паўночнага ўсходу да Менскае краіны прылягаюць два вялікія паветы **Ігуменьскі** і **Барысаўскі**, на прасторы якіх перамешуюцца прыметы вадападзельнае земляробскае Менскае краіны з прыметамі тыповага нізіннага, пяшчанага і лясістага Палесься. Лежачы у безпасярэднім суседзтве з Менскам, гэтак, што з некаторых частак абодвых паветаў гаспадары часьцей езьдзяць у Менск, чым у суседняе мястэчка, яны ў значнай меры адчуваюць на сабе экономічныя і культурныя ўплывы сталіцы Беларусі.

У большай часьці іх, аднак, палеская прырода переважае гэты ўплыў вялікага места. Затым, наагул бяручы, паветы гэтыя маюць вельмі нізкую, раўнуючы да Менскае краіны, гушчыню насяленьня (амаль ня ў два разы меншую), значна большы % лесу і няўжытаў — балотаў, і іх можна было-б, пры жаданьні, разглядаць, як натуральны працяг Вялікае Палескае нізіны.

Большую ўсходнюю частку абодвых паветаў абвадняе верхняя й сярэдняя Бярэзіна (рыс. 23) з сваімі прытокамі, з паміж якіх важнейшы — Сьвіслач. У заходняй часьці працякае прыток Прыпяці — Птыч, ды тут-жа пачынаецца Нёман з сваімі першымі зьверху прытокамі і Вяльля. Бярэзіна тут судаходная і ў экономічным жыцьці ўсходняе часьці паветаў іграе важную ролю.

Паверхня заходніх частак абодвых паветаў падобная да суменжных мяйсцовасьцяй Менскае краіны. У Барысаўскім пав. высокім валам з паўдня на поўнач праходзіць Менскае ўзгор'е, якое на самай мяжы павету з Менскім дайшло найбольшае высачыні (Лысая гара). Грунты тут суглiністыя, моцна камяністыя, сярэдняе ўраджайнасьці; расьце шмат лясоў, паміж якімі пераважаюць яловыя й мяшаныя.

Паўночна-заходнюю частку Ігуменьскага павету займаюць лагодныя спады Менскага ўзгор'я, складзеныя, гэтаксама, як і ў Менскай краіне, з падысподняе морэны, на якой ляжаць ураджайныя суглінкі і супяскі. Лясоў тут мала, насяленьне густое, займаецца земляробствам. Па меры збліжэньня да Бярэзіны грунты пачынаюць бяднець, суглінікі зьмяняюцца супескамі, а ўздоўж самое Бярэзіны, асабліва-ж на ўсход ад яе, ляжыць шырачэнны пояс пяшчаных грунтоў, на якіх разьляглiся вялізарныя пушчы — **Барысаўская**, у Барысаў-

скім пав., і **Любашанская** ў Ігуменьскім. Такім чынам тут паўтараюцца тыя-ж тыпы мяйсцовасьцяй, што і ў Ме́нскай краіне, з тэю розьніцаю, што земляробская мяйсцовасьць займае досіць малую частку краіны, а пале́ская — вялікую. На паўдні-ж Ігуменьскага пав. мяйсцовасьць прыймае ўжо рэзкі пале́скі выгляд; тут сярод вялізарных пушчаў, што ляжаць уздоўж р. Птыча і ніжняе Сьвіслачы, значныя прасторы займаюць ч а р о т а в ы я   б а л о т ы. У часы лядавіковыя тут істнавала, мусіць, вялізнае возера, у якое ўлівалася [illegible] Бярэзіна. Ад вялікага Пале́скага возера яно аддзялялася малазначным павышэньнем паве́рхні, якое стварае паміж імі Наваградзкі горб.

Бязьлюдныя пале́скія прасторы ляжаць і на поўначы Барысаўскага пав., у ваколіцах Бярэзінскага каналу; лічаць, што й тамака знаходзілася лядавіковае возера.

Наагул краіна зьяўляецца аднэю з найбольш лясістых у Беларусі. Трэба лічыць, што к а л я   40 % яе́   п р а с т о р у   п а к р ы т а   л я с а м і. У мяшаных лясох тут пераважае е́лка; граб спатыкаецца толькі на паўдні. Наагул на паўдні краіны, у вадазборніку Сьвіслачы і Птыча, шмат чыстых ліставых лясоў з ліпы і дубу. На пяскох-жа і тут усюдых хвойка.



**Рыс. 117. Даўне́йшыя тыпы сялян з Барысаўшчыны** (кане́ц XVIII в.).

Краіна мае рэдкае н а с я л е́ н ь н е; з усіх бакоў, апрача паўдня, абкружваюць яе́ краіны значна гусьце́й засе́леныя, больш расьцярэбленыя і земляробскія. Не́льга сказаць, аднак, каб і тут г а с п а д а р к а стаяла дрэнна. Насяле́ньне вядзе́ й тут яшчэ досіць культурную гаспадарку, — прыкл., ужывае шмат штучных гнаёў, гарэ — найбольш плугамі. Се́юць тут шмат ячме́ню й бульбы, а таксама кармовых траваў. Дый натуральных сенажацяў тут хватае. Усё гэта, асабліва ў сувязі з выгоднымі шляхамі, якія абслужуюць значную частку краіны, моцна дапамагае́ разьвіцьцю гадоўлі скаціны.

Буйная прамысловасьць у краіне слаба разьвітая. Аднак у Барысаве пакрысé вырастае досіць значны прамысловы цэнтр. Палажэньне на судаходнай рацэ пры перасячэньні яé вялікаю чыгункаю шмат гэтаму дапамагае. Па вёсках-жа краіны шмат бравароў і пільняў. У розных мяйсцох шмат таксама смалярнаў і тэрпэтынных заводаў. Моцна разьвітыя тут, як і трэба было спадзявацца, усé віды лясных промыслаў: і рубка, і возка, і сплаў. Вывозіцца адгэтуль надта многа лéсу, да таго ж найлéпшага сорту (найлéпшы мачтавы лéс — з ваколіцаў Халопеніч, у Барысаўскім пав.), вывозіцца гэтаксама шмат смалы, скіпідару, дзёгцю і інш. лясных тавараў. Гэтыя тавары йдуць убольшасьці на Ўкраіну, але таксама, па Бярэзінскім



**Рыс. 118. Вясковая вуліца ў Барысаўскім Палéсьсі.**

канале і па чыгунках, у Рыгу ды ў Заход. Эўропу. Шмат дрэва йдзé ў Мéнск. У некаторых мяйсцовасьцях насялéньне гэтак занятае ляснымі зарабаткамі, што закідае гаспадарку й жывіцца прывозным хлéбам. Гэта, аднак,— выняткі. Наагул краіне свайго хлéба хапае, а пэўныя яé часьці навет вывозяць хлéб на старану.

Хатнія рамёслы асабліва пашыраныя ў Ігуменьскім пав. Пераважаюць тут вырабы з дрэва. Так, у районе ліставых лясоў шмат сялян займаецца драньнём лыка, вырабам рагожаў, палазоў, дугаў, лапцяў, кашоў ды іншых рэчаў з ясені, дуба, асіны й ліпы. Шмат дзе займаюцца бандаркаю. У Барысаўскім пав. ля Смалявічаў паляць вапну. У іншых мяйсцох — робяць

цэглу, варацъ мыла, займаюцца гарбарствам, ганчаркаю і г.д. Мяйсцамі пачынаюць капаць торф, якога тут ёсьць шмат; даўнéй разраблялі й балотную руду. Ёсьць тут нéкалькі мінэральных крыніцаў; з іх Лагойскія — былі нейкі час, навет эксплёаталіся: там быў зроблены невялічкі курорт, цяпéр закінуты.

З гістарычнага і экономічнага боку большая часьць краіны вéльмі цéсна зьвязаная з Мéнскам. Густа расьсéяныя мястэчкі вядуць бойкі гандаль таварамі мéнскіх гуртаўнікоў. Галоўным рынкам для збыту таксама зьяўляецца Мéнск. Туды вядуць і чыгункі, перасякаючыя краіну. Толькі ўсходняя, пáлéская паласа краіны зьвязана безпасярэдна з Бярэзінскім вадзяным шляхам, і ўплывы Мéнску тут ужо крыху мéнш адчуваюцца.

**Важнéйшыя мяйсцовасьці.** Найбольшае места краіны — **Барысаў**, з 20 тыс. жыхараў. Ляжыць ён на левым беразе Бярэзіны, на якой мае параходную прыстань, і пры чыгунцы. Барысаў вядзé досіць жывы гандаль лесам, смалою, дзёгцем, найбольш з Украінаю. Хвабрычная прамысловасьць разьвітая. Ёсьць дзьвé вялікіх хвабрыкі сярнічак, 6 пільняў, шкляная гута, папéрня, картонная хвабрыка і дзесяткі два дробных заводаў. Лік работнікаў даходзіць да 1700 чал.

Барысаў налéжыць да старых мéстаў; яго пабудаваў у XII в. полацкі князь Барыс Усяславіч. На востраве сярод Бярэзіны быў даўнéй замак, якога расéйцы абярнулі ў вастрог. Са старых будынкаў ёсьць цікавы касьцёл, пабудаваны ў XVII вéку. На правым бéразе ракі на ўзгор'ях высяцца акопы, зробленыя ў часе расéйска-французскае вайны 1812 г. Барысаў іграў у часе гэтае вайны значную ролю. Недалёка ад яго была нешчасьлівая пераправа цераз Бярэзіну Наполеонавых арміяў.

На захад ад Барысава у гарыстай і лясістай мяйсцовасьці над р. Гайнаю ляжыць старасьвецкае мястэчка **Лагойск**. Быў тут даўнéй вялікі замак, навакола якога былі на цэлую мілю параскіданыя мéншыя замкі. Цяпéр ад замкаў пазасталіся толькі руіны, пазарастаўшыя лéсам. Лагойскі двор налéжыў да Тышкéвічаў, адзін з якіх быў вучоным архэолёгам; ён шмат папрацаваў над памяткамі мінуўшчыны Беларусі. Тышкéвічы сабралі цэнны архіў і музэй і залажылі хвабрыкі ткацкую й зялéзную. Цяпéр Лагойск невялікае мястэчка, з досіць разьвітым гандлем. У ваколіцах Лагойску ёсьць нéкалькі сéрных і зялéзістых крыніцаў, якія ў мінулым вéку славіліся сваімі лячэбнымі прымéтамі, а цяпéр аб іх забыліся.

Ніжэй Барысава ёсьць на Бярэзіне прыстань **Чарняўка** і пры ёй невялікае, але прамысловае мястэчка, вядомае з сваіх ганчарскіх вырабаў. Недалёка ад яго ёсьць зялéзныя хвабрыкі Радзівіла, якія працавалі на балотнай рудзé. Цяпéр яны нячынныя.

На поўначы Барысаўскага пав., на мяжы яго з Дзісьненскім, знаходзіцца невялікі, глухі гарадок **Докшыцы**, з 5 тыс. жыхараў.

Барысаўскі павéт р. Бярэзінаю дзéліцца на дзьвé розныя часьці. На захад ад Бярэзіны — Ме́нскае ўзгор'е, грунты супяшчаныя і, хаця лясоў шмат, але ўсё-ж ме́нш, чым у ўсходняй часьці, дзе цягнуцца, асабліва ўздоўж вярхоўяў Бярэзіны, аграмадныя пушчы, на пяшчаных грунтох. Праўда, й на ўсход ад Бярэзіны падыймаюцца (каля Халопе́ніч) канцы Дняпроўскага ўзгор'я, але яно тут займае нязначны куток. Даўне́й Барысаўскі пав. лічыўся адным з найбагаце́йшых у Беларусі.

Ігуменьскі павéт ляжыць шырокім паясом, працягнутым ад Нёмна аж за Бярэзіну. Прырода яго на гэтым вялікім прасторы няроўная. Паўночна-заходняя часьць ляжыць на ўраджайнай зямлі, лясоў мае мала, а насяле́ньне густое. Паўднёвая часьць, над Птычом, ляжыць найбольш на пяскох і пакрытая хваёвымі барамі і чаротавымі балотамі — такімі самымі, як і ў сусе́дняй Пале́скай нізіне. Рэшта паве́ту ляжыць на пяшчаных і супяшчаных грунтох, мае шмат лясоў, хвойных і ліставых.

Хвабрычная прамысловасьць у паве́це, апрача бравароў і пільняў, разьвіта слаба. Даўне́й, аднак, было тут не́калькі суконных хвабрыкаў — у Раванічах, Сьмілавічах і Бярэзыні.

З мястэчак, апроч паве́таваra ме́ста **Ігуменя** (з 5 тыс. жыхараў), які ляжыць у глухой мяйсцовасьці сярод аграмадных лясоў і мае ве́льмі малое эканамічнае значэньне, трэба сказаць аб мястэчку **Бярэзыні**. Ляжыць яно над р. Бярэзінаю, у цэнтры аграмаднага пале́скага району. Мае параходную прыстань і вядзе́ значны гандаль дрэвам і смалою. У ваколіцах ёсьць вапе́льні. Люднасьці каля 4 тыс. чал.

У заходняй часьці паве́ту ляжыць рад дробных мястэчак, як Вузда, Дукора, Пухавічы, Пясочнае і г.д. Кожнае з іх мае сваю, часта ве́льмі цікавую, гістарычную мінуўшчыну, а цяпе́р зьяўляецца гандлёвым пунктам. Спаміж іх выдзяляюцца **Сьмілавічы** — невялікае, але прамысловае і гандлёвае мястэчка, што ляжыць за 5 міль ад Ме́нску. Тут ёсьць не́калькі гарбарняў, дзе найбольш працуюць татары, якіх у мястэчку шмат.

Сярод Ігуменьскіх і Барысаўскіх пушчаў шмат захавалася рэлігійных ляге́ндаў аб асобных мяйсцовасьцях, зьвязаных найбольш з абразамі Багародзіцы. У такія ме́йсцы, гэтак званыя прошчы, у пэўныя дні, найбольш у маладзіковыя нядзе́лі, зьбіраюцца багамольцы з усяе́ ваколіцы, а часта і здалёку. З такіх прошчаў выдзяляецца **Мар'іна Горка** — на паўдня ад Ігуменя. Была тут даўне́й, мусіць, паганская сьвятыня. Ляге́нда кажа, што не́хта ахвяраваўся пабудаваць капліцу, пабачыўшы ў сьне́ Матку Божую, і, выздаравеўшы, пабудаваў. У гэтай капліцы аказаўся цудоўны вобраз, які не гарэў пры пажарах і шмат каго ўздараўляў. З часам гэты вобраз стаў далёка вядомы. Кожную маладзіковую нядзе́лю атпраўляецца тут служба Божая.

У Мар'інай Горцы істнуе сярэдняя сельска-гаспадарская школа.

## IV. Наднёманская краіна (Горадзеншчына).

Да Наднёманскае краіны мы адносім тыя павéты, што ляжаць уздоўж сярэдняга бéгу Нёмна й яго прытокаў, **Горадзенскі, Сакольскі, Ваўкавыскі, Пружанскі й Слонімскі** павéты Горадзенскае губэрні, **Лідзкі** павéт Віленскае губ. й беларускую частку Сувальскае губэрні (**Аўгустоўскі павéт** і часьці іншых). Шмат падобнасьці з імі маюць і ляжачыя далéй на захад паветы П а д л я с ь с я; але іх мы, аднак, будзем разглядаць як асобную краіну.

Як і ў вышэйапісаных Полацкай і Віленскай краінах, вялікая рáка, у даным выпадку Н ё м а н, зьвязуе павéты Горадзеншчыны ў адну прыродную, экономічную і асабліва гістарычную суцэльнасьць. Апроч таго, для Наднёманскае краіны характэрны: в ы с о к а я г у ш ч ы н я н а с я л е н ь н я, з паміж якога з н а ч н ы % заняты ў п р а м ы с л о в а с ь ц і, м я к к і к л і м а т і, дзякуючы гэтаму, б а г а т а я р а с ь л і н н а с ь ц ь, г р у н т ы досіць лёгкія, а л е ў р а д ж а й н ы я, досіць в ы с о к а я г а с п а д а р с к а я к у л ь т у р а.

Горадзеншчына мае выгляд лагчыны, на днé якое, пасярод краіны, цячэ **Нёман**. Ад Нёмна і на паўдня, і на поўнач мяйсцовасьць робіцца вышэйшаю. На поўначы падыймаецца Лідзкая краіна падысподняе морэны. Досіць значная яé высачыня прымушае Нёман рабіць вялікую дугу ад Наваградку да Горадні. На паўдня ад Нёмну разьляглíся невялікія і нявысокія ўзгор'і Ваўкавыскае й Горадзенскае, разьдзяляючы вадазборнікі Нёмна й Віслы. Нёман і яго прытокі выкапуюць сабé ў гэтых узгор'ях глыбокія даліны з досіць стромкімі спадамі. Але наагул у краіне пераважаюць раўнінныя краявіды. Асабліва гэта трэба сказаць аб Лідчыне. Там толькі лядавіковыя даліны прытокаў Нёмна ствараюць пэўныя няроўнасьці грунту.

На захадзе краіны ляжыць шырокая пяшчаная і балоцістая даліна р. Бабра, якая пераходзіць навет праз вададзéл і даходзіць далінаю Чорнае Ганжы да самага Нёмна. У часах лядавіковых гэтаю далінаю плыла вялікая лядавіковая рака, уліваючы сваé воды ў Віслу праз Нарву і Буг. Цяпéр старым сьлéдам лядавіковае ракі плывуць успомненыя рэкі: Бабёр і Чорная Ганжа, ды правéдзены Аўгустоўскі канал. Уздоўж Чорнае Ганжы пяшчаная раўніна робіцца гэткаю шырокаю, што прыходзіцца думаць, што тут было навет цэлае л я д а в і к о в а е в о з е р а. Возера гэтае абыймала, мусіць, вялізныя прасторы й на правым бéразе Нёмна, дзе гэтаксама ляжаць пяшчаныя раўніны, занятыя Г о р а д з е н с к а ю п у ш ч а ю. На левым-жа беразе на пяскох разьляглася А ў г у с т о ў с к а я п у ш ч а. На паўночны захад ад яé падыймаецца высокае Сувальскае ўзгор'е.

Узгор'і Горадзенскае і Ваўкавыскае, пакрытыя наагул досіць ураджайнымі грунтамі, на паўдні пераходзяць у пяшчаныя і супяшчаныя раўніны Падлясься. На ўсходзе краіны ў Слонімскім пав. за р. Шчараю ляжыць значная частка Наваградзскага ўзгор'я, якое тут даходзіць значнае высачыні (ля в. Тарасаўцы — 132 саж.). Затое паўднёвая частка Слонімскага пав. мае ўжо чыстапалéскі характар і нічым ня розьніцца ад сусéдняга з ёю паўночнага Палéсься.

Клімат Наднёманскае краіны цяплейшы й мягчэйшы, чымся ўсіх папярэдніх, што зусім зразумéла. Наднёманская краіна моцна пасунута на паўдня й захад, калі прыраўнаваць яé навет да Мéнскае, або Віленскае краінаў. Зіма тут бывае мягкая, сьнéг у адлігу часта зыходзіць. Затое ўлéтку йдзé больш дажджоў, нéба пахмурнéйшае. Сярэдняя гадавая тэмпэратура каля $+6{,}5^{\circ}$. Блізкасьць мора моцна ўплывае на клімат гэтае краіны. (Ад Аўгустова да мора — 170 вёр.) Асабліваю вільготнасьцяю павéтра адзначаюцца лядавіковыя даліны. Над імі ў лéтнія ночы заўсёды блізка стаяць туманы.

Грунты краіны ў большасьці — лёгкія, супяшчаныя, досіць ураджайныя. Паміж супяскоў, на больш павышаных мяйсцовасьцях, ляжаць астравамі цяжэйшыя суглінкі, гэтак званыя пшанічныя зéмлі. Але затое спатыкаецца досіць многа й зусім бéдных пяшчаных грунтоў. Найбольш іх у Слонімскім пав., на правым бéразе Шчары, а таксама ля Нёмна ў Горадзенскім пав. (правы бéраг) і ў Аўгустоўскім (лéвы бéраг). Хаця большая частка ґэтых пяскоў ляжыць пад лясамі, але шмат ужо лясоў парасьцярэблівана. Не заўсёды ўмéў, аднак, гаспадар скарыстаць з пяшчанага грунту; часта вéцер раздзьмухвае палéткі й робіць на іх мéйсцы сьвéтла-жоўтую пяшчаную пустыню-выдму. Пакрысé пясок перасоўвуецца й далéй, засыпаючы сабою ўраджайнае поле і навет сялібы.

Сярэдзіна Наднёманскае краіны мае мала лясоў; часта спатыкаюцца зусім бязьлéсныя мяйсцовасьці, дзе на дзесяткі вёрст наўкола няма лéсу. Затое ўздоўж мéжаў краіны цягнуцца вялікія лясы — пушчы. Паўночныя наднёманскія пяскі займаюць пушчы Горадзенская і Аўгустоўская. З усходу йдуць дубовыя Дакудаўскія лясы, ля Нёмна, і цэлы лясны пояс уздоўж пяшчанага правага бéрагу Шчары (Ліпічанская пушча). Урэшце на паўднёвых адхонаватых спадах Ваўкавыскага ўзгор'я ляжыць слаўная Белавéжская пушча.

У лясох Горадзеншчыны расьцé ўжо шмат ліставога дрэва, часта спатыкаюцца й цэлыя ліставыя лясы, напр., дубнякі. Шмат тут ёсьць грыбоў, ягад. Водзіцца ў пушчах яшчэ шмат і ўсялякае зьвярыны, навет і рэдкае. Гэтым асабліва славіцца Белавéжская пушча.

Вазёраў у краіне мала. Толькі ў Горадзенскай пушчы, як сьляды краявіду сусéдніх морэнных краінаў, ляжаць вялікія

выцягнутыя вазёры, прыкл., воз. Белае*), ды яшчэ ў даліне Нёмна спатыкаюцца невялікія вазяркі — астаткі старых рэчышчаў. На паўднёвым усходзе, у Слонімскім і Пружанскім паветах, ляжаць абшырныя балоты, праўда, ужо моцна падсушаныя. Частка іх улетку косіцца. Сенажацяў наагул уздоўж рэкаў краіны ёсьць шмат, асабліва ў Слонімскім і Пружанскім пав.; гэта дазваляе трымаць больш скаціны.

Гаспадарка ў Наднёманскай краіне стаіць высака і да таго-ж ня толькі ў дварох, а і па вёсках. На лёгкіх грунтох, якіх у краіне найбольш, дзе даўне́й се́ялі толькі авёс ды грэчку, ды яшчэ каноплі, цяпе́р садзяць ве́льмі шмат бульбы, се́юць канюшыны, сарадэлі і інш. Се́юць таксама і ячме́нь, і грэчку, прычым грэчкі тут се́юць больш, чымся ў сусе́дніх краінах. Гадуюць заводзкую скаціну: коней, сьвіньні. Разводзяць значныя сады й гароды; се́юць, між іншым, шмат табакі.

Як мы ве́даем, цераз краіну праходзіць апрача Нёмна яшчэ Шчара, злучаная з Прыпяцяю Агінскім каналам. Гэтыя вадзяныя дарогі, калі-б былі добра выкарыстаныя, маглі-б моцна падняць экономічнае жыцьцё краю. Цяпе́р яны служаць найбольш для сплаву ле́су, даючы заработак насяленьню, асабліва ў Пружанскім і Слонімскім паве́тах.



**Рыс. 119. Тыпы беларускіх сялян з Сакольскага пав. (канца XIX в.).**

Беларускае насяленьне Горадзеншчыны ўжывае найбольш паўднёвае гаворкі (сакуны); на захадзе краіны ў мове беларусаў сустракаюцца полёнізмы. Істнуюць і пераходныя беларуска-мазурскія гаворкі (суседняя з беларусамі польская гаворка — мазурская), але займаюць яны дужа малы прастор. Наагул беларуска-польская этнографічная мяжа тут, гэтаксама, як і ў сусе́днім Падлясьсі, ве́льмі выразная. На поўначы Лідзкага пав., перамяшаўшыся з беларусамі, жыве́ досіць многа ліцьвіноў. Сяляне Горадзеншчыны апошнія часы адзначаліся сваёю культурнасьцяю, імкне́ньнем да навукі і сьве́дамасьцяю.

---

*) У памяці людзкой тут яшчэ перахаваўся выпадак, калі адно з вазёраў гэтага тыпу (воз. Салаты), якое ляжала значна вышэй роўня вады ў Нёмне, за адну ноч у 1841 г. пракапала сабе́ канал да р. Ротнічанкі (прыток Нёмна) і зыйшло ўсё праз яе́ ў Нёман.

Вайна зрабіла няшчысьлёную шкоду гэтай краіне. Больш палавіны насяле́ньня было выгнана расе́йскімі ўладамі ў бе́жанства; толькі малая частка гэтых людзе́й вярнулася на родныя пажарышчы. Дзеля гэтага ў даным часе краіна мае моцна зрэджанае насяле́ньне.

Па ўсёй краіне разсыпана шмат дробных мястэчак, насе́леных найбольш жыдамі. У мястэчках звычайна шмат раме́снікаў, ■ ў некаторых вырастаюць і хвабрыкі, як, прыкладам, у мяст. Крынках. З прамысловага боку Наднёманская краіна досіць разьвітая. Найбольшы прамысловы цэнтр — Горадня. Моцна йдзе́ ў гару і Слонім. Хатнія рамёслы ў краіне пашыраныя. Асабліва добра стаіць усюдых ткацтва.

Апроч вадзяных дарог краіна досіць багатая на чыгункі і асабліва на шосы. Краіну перасякаюць 7 чыгункавых лініяў і шмат шосаў. Ёсьць 5 вузлавых станцыяў: Горадня, Ваўкавыск, Ліда, Масты і Гайнаўка. З Горадні разыходзяцца чыгункі ў 4 кірунках, а шосы ў 5-х.

## Важнейшыя мяйсцовасьці.

На высокім правым беразе Нёмна, пры ўтоку р. Гараднічанкі разьлёгся паміж лясістых глыбокіх яроў стары Горадзен, або, як яго часьце́й цяпер называюць, **Горадня** (рыс. 120). Гэта адно з цікаве́йшых і харашэйшых беларускіх ме́стаў, астравок старое эўропэйскае цывілізацыі сярод наднёманскіх пушчаў.

Горадня ляжыць як раз у тым ме́йсцы, дзе Нёман, найбліжэй падыйшоўшы да рэк сыстэму Віслы (Бабёр) і вялікіх мазурскіх вазёраў, што ляжаць у Прусіі, на найбліжэйшай дарозе да мора, крута заварочваецца і цячэ ўжо дале́й на поўнач у краіны літоўскія.

Мяйсцовасьць з такім добрым географічным палажэньнем была, пэўне-ж, засе́лена яшчэ ў самыя далёкія дагістарычныя часы. Гісторыя-ж застае́ тут дрыгвічоў, якія, прыплыўшы па Нёмну й Шчары, занялі гэты важны пункт і ўсю яго ваколіцу. На беразе Нёмна пабудавалі яны замак Горадзен (абгароджаны сьцяною) і адгэтуль пачалі расьсяляцца далей па Бабру і ўніз па Нёмну сярод дзікіх, бязьлюдных пушчаў, што ляжалі ўздоўж гэтых рэкаў, аж пакуль не дайшлі да літоўскіх сялібаў на поўначы й захадзе.

Ніжэй Горадні над Нёмнам відны й дагэтуль яшчэ руіны старога беларускага замку Лішкава; тут, мусіць, і затрымалася дале́йшае расьсяле́ньне дрыгвічоў, бо дале́й ляжаць ужо літоўскія вёскі.

З часам Горадзенскі замак быў яшчэ больш умацаваны, а каля яго вырасла вялікае й багатае ме́ста, ме́ўшае шырокія гандлёвыя зносіны. Яго разьвіцьцю, аднак, моцна перашкаджалі напады чужынцоў на гэты, далёка на захад высунуты клін

Беларускае зямлі. Праз XII і XIII вякі мéста нéкалькі разоў забіралі, палілі і грабавалі рыцары-крыжакі, палякі, ўкраінцы, татары. Беларускія горадзенскія князі й выгадаванае ў бітвах насялéньне моцна баранілі роднага мéста.

У XIII в. Горадня апынулася пад літоўскімі князямі. Вялікія князі літоўскія вéльмі любілі Горадню, часта й падоўгу тут жылі. Так сама пасьля ўпадабалася Горадня каралём польскім. Апроч свайго хараства была яна з вялікіх беларускіх мéстаў найбліжэйшым да Польшчы. Найбольш у Горадні жыў кароль польскі Стафан Баторы. Ён-жа пабудаваў тут каменны замак, які йстнуе і да нашых часоў (Стары замак).

Пазьнéй Горадню зрабілі сэймовым мéстам і кожын па чародзе трэці сойм адбываўся тут у сумысьле на тое пабудаваных палацах. Тут былі каралéўскія канцалярыі, а ў



**Рыс. 120. Горадня ў 1880 г.**
(Від з-за Нёмна).

канцы XVIII в. сюды перавéдзены быў Галоўны Трыбунал (суд) і Грашавая Камісія (міністэрства фінансаў). У Горадні-ж адбыўся вядомы «нéмы сойм», які згодзіўся аддаць большую часьць Беларусі маскоўцам, падпісаны быў акт аб другім падзéле Польшчы ў 1793 годзе і тут-жа, яшчэ цераз два гады, апошні кароль польскі зрокся свайго каралéўскага пасаду, дый з Горадні-ж выехаў ён на заўсёднае жыцьцё ў Пецярбург.

З старых будынкаў (а ёсьць іх у Горадні даволі) асаблівае ўвагі варта Барысаглéбская царква, што знаходзіцца ў Каложы (прадмéсьце Горадні за р. Гараднічанкаю, проці замку (рыс. 122). Царква гэтая стаіць ля самага бéрагу Нёмна, і дзеля таго частка яé сьцéнаў разам з бéрагам абвалілася. Царква будавана ў бізантыйскім стылю; яé сьцены маюць у сярэдзіне ўмураваныя гаршкі—галась-

нікі для лепшага гуку сьпеваў. Зьверху над гэтай цэннай памяткай старасьвецкага беларускага будаўніцтва зроблена дзераўляная павецьь.

З касьцёлаў на найбольшую ўвагу па свайму хараству заслугуе Фарны (даўней езуіцкі) касьцёл, будаваны ў XVII веку. У капліцы пры гэтым касьцеле ёсьць цудоўны абраз Багародзіцы; на сьценах гэтае-ж капліцы зьмешчаны старасьвецкія абразы цудаў Багародзіцы, на якіх мы можам пабачыць, між іншым, старасьвецкія беларускія вопраткі, павозкі і г.д.

Ёсьць яшчэ некалькі старых касьцёлаў і цэркваў, прыкл., у манастыры Бэрнардынаў, які пабудаваны яшчэ ў XV веку. У мурох Барысаглебскага манастыру зьмяшчаецца адна з першых і лепшых беларускіх школак.



**Рыс. 121. Горадня. Новы замак і мост да Старога замку.**

Асаблівае ўвагі варт таксама Стары замак Гарадзенскі, пабудаваны ў часы Баторыя, у XVI в. Стаіць ён у вясёлым мейсцы на высокім беразе Нёмна пры самым утоку р. Гараднічанкі, а ад места ён аддзелены глыбокім ровам, цераз які перакінуты стары каменны мост. Стромкія спады гары паабрасталі густым хмызьняком, а ўнізе плыве стары Нёман. Зьверху-ж, з замку адкрываюцца цудоўныя віды ў далячыню на пяшчаныя берагі Нёмна і надбярэжныя хваёвыя бары.

У канцы XVIII веку Горадня з культурнага й прамысловага боку стала адным з першых местаў у Беларусі. Падскарбі

літоўскі (міністар фінансаў) Антоні Тызенгаўз залажыў тут вэтэрынарную і мэдыцынскую, каморніцкую і архітэктурную школы, бібліатэку, батанічны сад, кадэцкі корпус, тэатр, балет і аркéстр, друкарню і славалітню (дзе робяць друкарскія шрыфты) і выдаваў газэту. Зьбіраўся пабудаваць астраномічную обсэрваторыю і ўвéсь час мéў на думцы, каб залажыць у Горадні Акадэмію Навукаў.

Вéльмі многа зрабіў Тызенгаўз і ў справе экономічнай. Апроч усякіх палéпшаньняў у гаспадарцы каралéўскіх маетнасьцяй, якімі ён загадваў, апроч правядзéньня дарогаў, асушэньня балотаў, пракапаньня Каралéўскага каналу, ён залажыў у Горадні, галоўным чынам у яé прадмéсьці Гародніцы, паложанай на правым беразе р. Гараднічанкі, і ў Ласосьне — за Нёмнам, каля 15 хвабрыкаў: палатняную, якая па сваім вырабам была нягоршая ад вядомых галяндзкіх



**Рыс. 122. Руіны Каложскае царквы.**

хвабрыкаў, суконную, шаўковых вырабаў, аксамітаў, хвабрыку мэталёвых вырабаў, карэтную і інш. Больш 3000 чал. працавала на гэтых хвабрыках. Аднаé толькі вышэйшае адміністрацыі (выпісанае з заграніцы) было каля 70 чалавéк. Паадкрываныя былі хвабрычныя крамы па ўсім краі. А ў Горадні заложаны быў банк і гандлёвая кантора, якая зносілася з заграні́чнымі фірмамі.

Тызенгаўз хацéў зрабіць Беларусь адразу прамысловым краем. Але яго хутка скінулі з пасады, дзякуючы прыдворнай інтрызе; без яго ж і школы, і хвабрыкі хутка паразвальваліся. Толькі аб балéту і аркéстры кароль паклапаціўся і забраў іх у Варшаву.

Аднак і цяпéр Горадня ёсьць адным з найбольш прамысловых местаў у Беларусі. Асабліва варты ўвагі тут вялізар-

ныя табачныя хвабрыкі; ёсьць, апрача таго, хвабрыкі гільзавыя, мылаварныя, бравары, цагéльні і г.д. Работнікаў больш 3 тыс. чалавéк; шмат ёсьць рамéсьнікаў. Разьвіта гароднiцтва, асабліва разводка табакі. На Нёмне — значная прыстань, адпраўляе лéс і збожжа; даўнéй шмат адпраўляла пянькі. Апроч таго, шмат чыгунак і шосаў, якія злучаюць Горадню з Вільняю, Беластокам, Варшаваю ды іншымі мéстамі. Улéтку вялікі кірмаш. Наагул гандаль Горадні значны, але куды мéншы, чымся яму трэба было быць пры такім дагодным географічным палажэньні гэтага мéста. Жыхараў перад вайною ў Горадні было каля 70 тыс.

Горадзенскі павет Нёмнам дзеліцца на дзьвé часткі, мала адна да аднаé падобныя. Паўночная мае пяшчаныя грунты і ў большай часьці занята лясамі Горадзенскае пушчы (займае каля 97 тыс. дзес.). На ўсходзе пушчы шмат глыбокіх тарфяных балотаў і вялікія вазёры — Белае, Задубенскае і інш. Вазёры гэтыя злучаны каналам (Тызенгаўзенскім) з прытокам Нёмна р. Пыром; па канале йдзé сплаў дрэва з пушчы. Паўднёвая частка Горадзенскага пав. пакрытая больш цяжкімі, ураджайнымі грунтамі, узгоркаватая (Горадзенскае ўзгор'е), гусьцéй засéленая і блізка што бязьлéсная.

На поўнач ад Горадні, над Нёмнам, ляжаць **Друзгéнікі.** Сюды зьяжджаюцца штогод дзесяткі тысяч хворых на лячэньне друзгéніцкімі водамі (бромо-іодовымі) і на супачынак сярод цудоўнае прыроды гэтае мяйсцовасьці. Гэты адзіны добра выкарыстаны наш курорт сваёю славаю абавязаны д-ру І. Пілéцкаму, які яго арганізаваў у 30-х гадох мінулага вéку. Друзгéнікі ляжаць пры этнографічнай мяжы паміж ліцьвінамі і беларусамі.

**Масты** — на ўсход ад Горадні, значная прыстань на Нёмне з складамі для ссыпкі збожжа. Ад Мастоў разыходзяцца чыгункі ў 3-х кірунках — на Горадню, Ліду і Ваўкавыск. Паміж Мастамі і Горадняю ляжыць фалів. **Мілкоўшчына,** дзе радзілася Эліза Ожэшкавая, якая гэтак хараша апісала Наднёманскі край і тамашніх людзéй.

На паўдня ад Горадні ляжыць значнае мястэчка **Крынкі**, у якім ёсьць нéкалькі вялікіх гарбарняў.

**Ліда** — невялікае старое мéста, на вузьлé дзьвёх чыгунак. Насялéньня каля 11 тыс. чал. Нéкалькі дробных хвабрык з 500 работнікамі. Гандаль досіць значны — скацінаю, сьвіньнямі і коньмі і наагул прадуктамі гаспадаркі. Ёсьць тут руіны вялізарнага замку, пабудаванага яшчэ Гедымінам. Руіны гэтыя досіць добра перахаваліся (рыс. 123).

**Эйшышкі** — старое беларускае мястэчка з вялізарным гарадзішчам і $2^1/_2$ тыс. насялéньня. Даўнéй называлася Вострава м, а ліцьвіны, заваяваўшы яго ў XIII в., зьмянілі назоў. Мястэчка вядзé бойкі гандаль скацінаю і сьвіньнямі. З ваколіцаў шмат выяжджаюць у Амэрыку. **Жалудок**, невялікае мястэчка, славіцца

сваім конскім кірмашом. Тут пахаваны адзін з віднéйшых эканомічных дзéячаў Беларусі Антон Тызенгаўз.

Лідзкі павет заняты плоскім узвышшом, перасечаным лядавіковымі далінамі, па днé якіх плывуць прыток Нёмна і



Рыс. 123. Ліда. Руіны Старасьвéцкага замку.

якое ступянёва зьніжаецца ў кірунку да Нёмна. Грунты мае, асабліва ў паўднёвай часьці, ўраджайныя. Насяле́ньне тут жыве́ густа, як ні ў адным з паве́таў даўне́йшае Віленскае губэрні. На поўначы паве́ту, за Эйшышкамі, беларусы жывуць перамяшаўшыся з ліцьвінамі.

**Слонім** (рыс. 27), над р. Шчараю, — старое беларускае ме́ста. Найбольшы яго росквіт быў у XVIII ве́ку, калі тут была рэзідэнцыя важнага магната, князя Агінскага (каторы за свой кошт пракапаў Агінскі канал). Тады Слонім моцна вырас.



**Рыс. 124. Жыровіцы.**

Пасьля ён крыху padупаў, а цяпе́р з правядзе́ньнем чыгункі й шосаў на Бе́расьце, Беласток і Баранавічы йзноў пачаў шыбка разьвівацца. Цяпер у ім насяленьня больш за 20 тыс. Ёсьць прыстань, якая адпраўляе шмат ле́су й збожжа ў Прусію. Ёсьць суконная хвабрыка і не́калькі заводаў. Татары, якіх тут досіць многа жыве́, займаюцца гародніцтвам, разводзяць, між іншым, ве́льмі добрую цыбулю.

За 10 вёрст ад Слоніма над Шчараю знаходзіцца м. **Жыровіцы** (рыс. 124). У XV ве́ку тут у лясной не́тры, на йгрушы пастухі знайшлі абраз Багародзіцы, які праславіўся пасьля на ўсю Беларусь. Быў пабудаваны манастыр, акружаны

высокаю каме́ннаю сьцяною, а каля яго вырасла мястэчка. I да цяпе́рашніх часоў сюды зыходзяцца тысячы багамольцаў з усе́дніх паве́таў.

На поўнач ад Слоніма, недалёка ад Нёмна, ў гарыстай мяйсцовасьці ляжыць прамысловае м-ка **Дзятлава.** Тутэйшыя раме́сьнікі вырабляюць найле́пшы парке́т. Мястэчка наагул торговае і багатае. Насяле́ньня каля 5 тыс. чал.

У заходняй часьці Слонімскага пав. ёсьць два мястэчкі: **Дзярэчын і Ражана**, ў якіх даўне́й жылі магнаты Сапе́гі з сваім казачна-пышным дваром. Упе́рад рэзідэнцыя Сапе́гаў была ў Ражане, але пасьля Сапе́гі залажылі там не́калькі хвабрыкаў, з якіх суконная істнуе і дагэтуль, а самі перабраліся ў Дзярэчын, дзе ў прыгожай мяйсцовасьці пабудавалі раскошны палац, якога называлі Малым Вэрсалем. Дзярэчын славіцца сваймі садамі, адкуль выйшаў вядомы беларускі сорт ігрушаў сапяжанкі. У мястэчку ёсьць гарбарня; спаміж жыхараў шмат ёсьць муляроў і каменяроў. У дв. **Азярніцы** была не́йкі час перад вайною ніжэйшая гаспадарская школа. У **Марачоўшчыне**, невялічкім фальварку каля м-ка Косава, радзіўся Тадэуш Касьцюшка, слаўне́йшы начальнік польскага войска.

Рака Шчара дзе́ліць Слонімскі паве́т на дзьве́ розных часьці. На ўсходзе мяйсцовасьць надзвычайна гарыстая, з харошымі відамі, за якія яе́ называюць **Слонімскай Швайцарыяй**. Грунты тут найбольш лёгкія, а ля р. Шчары — шырачэнны пояс пяскоў, пакрытых вялікімі лясамі. Захад Слонімскага паве́ту ляжыць на ніжэйшых узгор'ях (Ваўкавыскае), мае ўраджайныя грунты, густа засе́лены. На паўдні паве́ту, за Шчараю, ляжаць абшырныя балоты (Малочкава ды інш.) і лясы, з беднымі грунтамі і рэдкім насяле́ньнем. Гэта ўжо Пале́сьсе.

Усходняя частка Пружанскага паве́ту зьяўляецца таксама пераходнаю да Пале́сься. Ёсьць у ёй шмат балот і балоцістых сенажацяў, зямля, аднак, досіць ураджайная. У гэтай часьці паве́ту галоўным экономічным цэнтрам зьяўляецца **Бяроза Картуская**, торговае і прамысловае мястэчка ля чыгункі. З м. **Пружанаў** у 5-х кірунках разыходзяцца шосы. Насяле́ньня ў гэтым ме́сьце каля 10 тыс. чал.

Усю заходнюю частку Пружанскага паве́ту займае найбольшая ў Эўропе **Белавежская пушча**. Прырода яе́ апісана ўжо ў агульнай часьці (стр. 102—103). Грунты тут лёгкія, пяшчаныя і супяшчаныя. Насяле́ньне, досіць рэдкае, найбольш займаецца ляснымі промысламі. У самы цэнтр пушчы, вёску **Белавежу,** праве́дзена чыгунка з Бе́льску.

На краю пушчы ляжыць значнае мястэчка **Шэрашава**.

**Ваўкавыск** з 10 тыс. насяле́ньня ляжыць пры крыжаваньні дзьвёх чыгунак. Старое беларускае ме́ста, заложанае ў X ве́ку. У яго паве́це асабліва вызначаюцца два старасьве́цкіх гандлёвых мястэчкі — **Зэльва і Сьвіслач**, з вялікімі кірмашамі, на якія

зьяжджаліся даўнéй з далёкіх навет павéтаў. Асабліва вялікі кірмаш бывае ў Зэльве. Ён цягнецца аж 2 мéсяцы ўлéтку. У Сьвіслачы істнавала беларуская вучыцельская сэмінарыя. Мястэчка досіць прамысловае.

У в. **Мастаўляны** радзіўся Каліноўскі, галава паўстаньня проці расéйцаў у 1863 г. Быў ён шчырым беларусам.

У Сакольскім павéце, апроч самое **Саколкі**, невялікага мéста з 5 тыс. жыхараў, ёсьць яшчэ нéкалькі гандлёвых і прамысловых мястэчак; у **Янове** ёсьць хвабрыка зялéзных вырабаў, у **Васількаве**, — які ўжо трэба аднéсьці барджэй да Беласточчыны, ёсьць прадзільная хвабрыка. Багатыя гандлёвыя мястэчкі **Сухаволя, Дуброва**. У апошнім, у касьцéле, ёсьць крыж з надзвычайнай па мастацтву свайму разьбою.

У манастыры, ў **Ражаным Стоку**, ёсьць цудоўны абраз Багародзіцы, дзеля чаго сюды зыходзяцца штогод дзесяткі тысяч багамольцаў.

Увесь Сакольскі павет пакрыты нявысокімі харошымі ўзгоркамі, якія зьніжаюцца ў бок даліны р. Бабра; павéт мае добрую ўраджайную зямлю. У тутэйшых рэчках шмат рыбы, у некаторых сустракаецца форэль. На паўдні павéту ляжыць досіць абшырная Букштэльская пушча. Сялянства ў Сакольскім павéце заможнае і мае вялікую ахвоту вучыць дзяцéй. За апошнія дзесяткі гадоў шмат выйшла з Сакольскага сялянства інтэлігéнцыі — асабліва духаўнікоў.

Аўгустоўскі павет і частка Сэйнінскага, якія засéлены беларусамі, займаюць абшырныя лясы, вядомыя пад назовам **Аўгустоўскае пушчы**. У гэтай пушчы ёсьць шмат рэчак і дробных вазёраў. З рэчак найбольшая — р. Чорная Ганжа, якая ўваходзіць у сыстэму Аўгустоўскага каналу. Спаміж балотаў найбольшае — Воўчае. Насялéньне тут чыста беларускае, але ёсьць крыху высяленцаў з Польшчы — мазураў, якія займаюцца гонкаю смалы й дзёгцю. Іх называюць буднікамі. Апроч гаспадаркі жыхары тутэйшыя займаюцца рыбалоўствам (рыбы тут шмат) і дабычаю балотнае руды й торфу на паліва. На краі пушчы ў м-ку **Штабіне** ёсьць хвабрыка зялéза й гаспадарскіх прыладаў. Вырабляюць тут таксама жорны для млыноў.

**Аўгустоў** ляжыць паміж вялікіх двох вазёраў сярод бедных лясістых і пяшчаных ваколіцаў пры Аўгустоўскім канале. Рух на канале малы дзеля малое вады, а яшчэ затым, што побач правéдзена чыгунка і ўсé грузы йдуць па ёй. Ад Аўгустова чыгунка йдзець праз Сувалкі проста ў Нямеччыну.

У паўднёвай частцы Аўгустоўскага павéту, каля Горадні, мяйсцовасьць бязьлéсная і гарыстая (Горадзенскае ўзгор'е), зямля ўраджайная, шмат садоў. Ёсьць тут навет свая асобая парода скаціны — зуброва́я, якае мае кароткія рогі і надта малочная. Каля в. **Лабна** капаюць тут крэйду, якая ляжыць няглыбака пад зямлёю.

Над Нёмнам, у Сэйнінскім пав., ляжыць в. Лішкаў з руінамі старога замку, нékаліcь, яшчэ у XI вéку пабудаванага горадзенскімі беларускімі князямі.

У Аўгустоўскім пав. значная частка беларускага насялéньня ня так даўно перайшла ў каталіцтва і з таго часу пачала моцна польшчыцца; па цемнацé сваёй тамашнія жыхары, мяшаючы нацыянальнасьць з рэлігіяю, уважаюць, што яны прынялі «польскую» вéру і, значыць, зрабіліся палякамі. Нацыянальная сьвéдамасьць пашыраецца, аднак, і тут, хоць значна тужэй, чым у суcéдніх павéтах.

---

**НАДБУЖАНСКАЯ КРАІНА (ПАДЛЯСЬСЕ).** Тыя самыя прымéты, якімі адзначаецца між краінамі Беларусі Горадзеншчына, яшчэ мацнéй выяўлены ў суcéдняй з ёю Надбужанскай краіне, да якое налéжаць павéты **Бéльскі, Беластоцкі** ды **Берасьцéйскі**. Гэта самая заходняя з краінаў Беларусі; мае найгусьцейшае ўёй насяленьне і наймацней разьвітая з прамысловага боку. Клімат яé яшчэ мягчэйшы, чым у Горадзеншчыне, расьліннасьць яшчэ багацéйшая. Ляжыць яна ўся ў вадазборніку Бугу, над самай гэтай ракою ды яé прытокамі: Нарвяй, Нурцом, Бабром, Мухаўцом ды інш., за што мы яé й назвалі Надбужанскай краінаю. За тое-ж, што краіна ляжыць на самым узьмéжжы з палякамі (ляхамі), яé яшчэ часта называюць Падлясьсем.

Краіна мае выгляд роўны, пахілены на захад і на паўдня ў бок Бугу й Нарві (Падляская раўніна). Берагі р. Нарві і яé прытока р. Бабра маюць ужо зусім нізінны, балотны характар. У Бéльскім-жа павéце, на вададзéле Бугу й Нарві, мяйсцовасьць крыху больш паднятая, шмат ёсьць і ўзгоркаў, сярод якіх найвышэйшыя завуцца Княжымі гарамі (на ўсход ад Бельску). Гэтаксама высака паднятая і паўночная частка Берасьцéйскага пав. Берагі Бугу тут найбольш стромкія і лясістыя.

Грунты Надбужанскае краіны досіць ураджайныя, асабліва ў Бéльскім павéце. Найбольш пашыраныя тут суглінкі й супяскі. Толькі ўздоўж р. Бабра, асабліва пры яго вусьці, ляжаць пяшчаныя грунты. Апроч таго, паўднёвая палавіна Берасьцéйскага павéту мае характар Палéсься з бéднымі пяшчанымі грунтамі й вялізарнымі балотамі.

Клімат Надбужанскае краіны — цёплы й лагодны з сярэдняй гадавою тэмпэратураю каля $+7{,}0^\circ$, цёплай, маласьнежнаю зімою і вільготным лéтам. Лясы пераважаюць ліставыя, але засталося іх небагата, шмат ёсьць і хваёвых бароў, але побач з імі — дубнякі, бярэзьнікі ды грабавыя лясы. Толькі на паўдні Берасьцéйскага пав. ды каля Беластоку пазаставаліся значныя лясныя прасторы. Затое шмат сенажацяў.

Пасьля III разьдзе́лу Польшчы паўночная частка краіны, Беласточчына, так сама, як і Сакольскі ды Аўгустоўскі паве́ты, былі адыйшлі пад Прусію і былі пад ёю аж да 1808 году. За гэтыя паўтара дзесяткі гадоў не́мцы патрапілі стварыць такі моцны прамысловы цэнтр, як Беласток. Пасьля далучэньня краю да Расе́і Беластоцкая прамысловасьць не пабурылася, а разьвівалася і разьвіваецца да нашых часоў. Дзякуючы гэтаму, гушчыня насяле́ньня тут вялікая і ня толькі ў местах, але і ў вёсках. Ізноў-жа і з боку гушчыні насяленьня Беластоцкі павет займае пе́ршае ме́йсца ў Беларусі. Рэшта краю засе́лена таксама досіць густа, хаця ўжо значна радзе́й, чымся Беласточчына.

Паводле занятак жыхараў краіна распадаецца на дзьве́ часьці. У паўночнай, каля Беластоку, вялізарнае значэньне маюць хвабрычныя промыслы. Каля 15 тысяч работнікаў працуюць на хвабрыках у самым Беластоку і людных вялікіх мястэчках каля яго. Шмат дробных раме́сьнікаў працуюць на ўласных варштатах. З поўным правам Беласточчына займае ў Беларусі першае мейсца па разьвіцьцю прамысловасьці. Паўднёвая палавіна краіны носіць ужо больш гаспадарскі характар, хаця і тут трапляюцца прамысловыя мястэчкі й ме́сты.

Па ўсёй краіне гаспадарка стаіць высака. Значны лік ме́ставага прамысловага безьзяме́льнага насяле́ньня патрабуе, каб гаспадарка прахарчавала яго, а дзеля таго гаспадару лёгка прадаць і дабро, і бульбу, і малако. Дзякуючы добрай зямлі ды лагоднаму клімату се́юць тут шмат пшаніцы-азімкі, асабліва ў Бе́льскім паве́це, які ў гэтай справе займае пе́ршае ме́йсца ў Беларусі. У Высокім Літоўскім навет выведзены сваé сарты пшаніцы й жыта. Ве́льмі многа садзяць бульбы. З гэтага боку асабліва адзначаецца Беластоцкі павет: у ім найбольш з усіх беларускіх паветаў садзяць бульбы. Гаспадары маюць добрую, часта заводзкую, скаціну, сьвіньняў і коней; па вёсках шмат садоў; ў некаторых мяйсцох займаюцца разводам гароднага насе́ньня на продаж (напр., у Кляшчэлях).

З даўных часоў над Бугам жылі дрыгвічы; тут былі імі пазакладаныя месты — Берасьце, Драгічын (рыс. 126). Сумежна з дрыгвічамі жыло літоўскае плямя яцьвезь, якое да нашых часоў не дажыло, згінуўшы ў барацьбе з мацне́йшымі сусе́дзямі. За надбужанскія гарады даўгі час ішла барацьба паміж Польшчаю, Літвою і валынскімі ды галіцкімі (ўкраінскімі) князямі. Некаторы час гэтыя апошнія валадалі краем, і ў Драгічыне навет каранаваўся на караля Даніла, князь галіцкі. Пасьля край адыйшоў да Літоўска-Беларускае дзяржавы.

У заходняй частцы краіны пры ўтоку Нурца і Бабра, перамяшаўшыся з беларусамі, жывуць палякі (мазуры), а на паўдні Берасьце́йскага павету — пінчукі. Надбужанскія беларусы — самая заходняя частка Беларускага народу, су-

ме́жная з іншымі славянскімі народамі, блізкімі па мове і быту да беларусаў — палякамі і ўкраінцамі. Дзеля гэтага ў мове надбужанскіх беларусаў спатыкаюцца польскія і ўкраінскія словы.

Важне́йшыя мяйсцовасьці. **Беласток** (рыс. 125) — заложаны ў XIV ве́ку, але даўгі час быў нязначнаю вёскаю. Толькі ў XVIII ве́ку, калі тут пасяліўся гэтман Браніцкі з сваім дваром, Беласток пачаў расьці. У хуткім часе ён трапіў пад Прусію і не́мцы тут завялі хвабрычную прамысловасьць. Гэтая прамысловасьць яшчэ больш узрасла, калі ў 30-х гадох мінулага ве́ку была зроблена мытная граніца на мяжы Беларусі з Польшчаю. Шмат хвабрыкантаў пераéхала тады з Польшчы ў Беласток разам з сваймі хвабрыкамі. Аднак яшчэ ў 1857 г.



**Рыс. 125. Беласток.**

ме́ў Беласток усяго 14 тыс. насяле́ньня. За дале́йшых паўвека вырас ён у 6 разоў. У нашыя часы Беласток самае большае хвабрычнае ме́ста Беларусі. У ім больш за 300 хвабрыкаў, на якіх працуе каля 6 тыс. работнікаў; тавараў выробляецца больш як на 6 міл. руб. Найбольш разьвіта суконна-картавая прамысловасьць. Картавых хвабрык 175, прадзільных 50, шэрсьцяных каля 20. Апроч таго, ў Беластоку ёсьць не́калькі гарбарняў, шаўковых, табачных хвабрыкаў, мылаварных заводаў, пільняў, млыноў і г. д.

Беластоцкія тканіны адзначаюцца сваёю дзяшовасьцяю, шмат іх ідзе́ць на тандэтную адзе́жу. Над шыцьцём гэтае

адзе́жы ў самым Беластоку працуюць больш за 3000 краўцоў, ды на беластоцкім-жа матар'яле працуюць найбольш і віленскія краўцы. Свае́ вырабы Беласток вывозіў і далёка за ме́жы Беларусі — найбольш у расейскія ме́сты, а навет і загранiцу даўн. Расе́і.

З Беластоку разыходзяцца чыгункі ў 5-х кірунках і не́калькі шосаў. Жыхараў у Беластоку каля 100 тыс. чалавек, паміж якіх найбольш (каля $^2/_3$) жыдоў.

Ня ме́нш важныя з прамысловага боку, чымся сам Беласток, яго ваколіцы. У Беластоцкім павеце ёсьць каля дзесятку вялікіх мястэчак з моцна разьвітаю прамысловасьцяю. Важне́йшыя з іх: Супрасьль, Заблудаў, Харошча, Гарадок, Ясяноўка, Гонёндз, Кнышын.



**Рыс. 126. Драгічын над Бугам.**

У **Заблудаве** (на паўдня ад Беластоку) кортавая і суконная хвабрыка, 5 вялікіх гарбарняў, 2 паравых млыны і шмат рамесьнікаў — ткачоў. У **Супрасьлі** (рыс. 127) істнуюць суконныя хвабрыкі. Абодва гэтыя мястэчкі, між іншым, слаўны сваймі старасьвецкімі праваслаўнымі манастырамі з багатымі бібліатэкамі, якіх залажылі ў XVI в. Ходкевічы. Былі тут даўне́й (да пачатку XIX в.) і важныя друкарні, з якіх шмат выйшла тады беларускіх кнігаў. У Супрасельскім манастыры ў царкве́ сьце́ны размаляваныя ве́льмі цікавымі старымі, з XVI в., рысункамі-фрэскамі.

У **Харошчы**, якая ляжыць над Нарвяю (на захад ад Беластоку), знаходзіцца адна з большых і ле́пшых суконных хвабрыкаў. Недалёка ад Харошчы ёсьць пакрытая карлаватымі дубамі гара Сьвіткавізна, на якой, як кажа ляге́нда, за часоў паганскіх, адпраўляліся малітвы богу Сьветавіду. Пад самым Беластокам ляжыць вёска **Дайліды**, у якой ёсьць кортавая хвабрыка, бровар і хвабрыка ільняных вырабаў. А ў **Гарадку** (пры чыгунцы з Беластоку на Ваўкавыск) сярод жыхараў шмат ткачоў — рамесьнікаў, што ткуць у сябе ў хаце корты. У невялікім



**Рыс. 127. .Супрасьль.**

мястэчку **Ясяноўцы** (на поўнач ад Беластоку) моцна разьвітае гарбарства. Істнуе каля 30 гарбарняў. Акалічныя сяляне ткуць з воўны дываны.

**Гонёндз** — вялікае мястэчка ў паўночнай часьці павету пры чыгунцы Беласток — Граева; значная прыстань на р. Бабру, адпраўляе збожжа і ле́с. На другі бок Бабра ляжыць крэпасьць **Асаве́ц**, пабудаваная гадоў 30 назад. Дале́й чыгунка йдзе́ па Шчучынскаму паве́ту каля 3-х міляў і даходзіць

урэшце граніцы Нямеччыны ў м. Граеве. Адгэтуль чыгунка йдзе проста цераз Лык на Кёнігсбэрг (Каралевец).

Беластоцкі павет, як ужо казалася, займае вельмі выдатнае палажэньне ў Беларусі. Гэта найбольш прамысловы і найгусьцей засёлены спаміж паветаў Беларусі. У ім вельмі многа меставага насяленьня ў вялікіх прамысловых мястэчках; гаспадарка стаіць высака. Грунты Беласточчыны хоць камяністыя, але досіць ураджайныя; ёсьць, аднак, шмат пяскоў і балотаў, асабліва ўздоўж р. Бабра. Затое над Бабром-жа ляжаць і вельмі добрыя сенажаці.

У Бельскім павеце прамысловасьць мае ўжо меншае значэньне: на першы плян выступае гаспадарка. Грунты тут вельмі добрыя, клімат лагодны. Дзеля таго тут сеюць вельмі многа пшаніцы-азімкі, а таксама і шмат садоў і добрых гародаў. Моцна разьвітыя тут хатнія рамёслы, асабліва вырабы з дрэва. Вырабляюць тут абады, колы, дугі, сані, дзераўлянае судзьдзё і г.д.

Апроч досіць старога паветавага места **Бельска** з 9 тыс. жыхараў, якія займаюцца найбольш земляробствам і гароднiцтвам, у павеце ёсьць вялікія ды прамысловыя мястэчкі: **Бранск, Семяцічы, Цехановец** і інш. **Бранск-заходні** (не мяшаць з Бранскам з-над Дзясны) над р. Нурцом — мае больш 7 тыс. жыхараў. Вельмі старое места. Цяпер у ім ёсьць вялікая гарбарня, ткацкая хвабрыка і млын. **Семяцічы** — на паўдні павету, значнае мястэчка з 6 тыс. жыхараў. Ёсьць табачная і суконная хвабрыкі. У XVIII в. княгіня Ганна Сапяжанка залажыла тут бібліатэку, габінэты натуралістычны, фізычны, музэй старасьвецчыны і шмат хвабрыкаў. Усё гэта пасьля яе сьмерці разваліласяю. Княгіня, між іншым, клапацілася і аб долі сялянства. Яна напісала 8 томаў статутаў для сялянства і подлуг гэтых статутаў упраўляла ў сваіх дварох. Яна старалася прывучыць народ да супольнага, грамадзкага жыцьця, заводзіла коопэратывы. У яе часы Семяцічы далёка былі вядомы. З усіх бакоў з'яжджаліся сюды, каб прыглядзіцца да новых парадкаў, паглядзець на вучоныя габінэты і музэі.

На харошых усхонаватых берагох Бугу стаіць стары **Драгічын** (рыс. 126), адзін з важнейшых дрыгвіцкіх гарадоў, іх заходняя сталіца. Шмат бачыў ён за сваю гісторыю. Цяпер гэта невялікае мястэчка. Цікавая тут досіць высокая Замковая гара, якая ўздымаецца на 45 саж. над самым Бугам, а на ёй — руіны замку, падзямельлі. Буг што-год ўсё больш і больш падмывае Замковую гару, і значныя яе часткі ўжо абваліліся ў раку.

На абодвух берагох Нурца ляжыць прамысловае мястэчка **Цехановец** з 5 тыс. жыхараў. Ёсьць у ім некалькі суконных хвабрыкаў, 2 млыны, цагельня, бровар. Ваколіцы Цеханоўца засёлены дробнаю шляхтаю, якая моцна спольшчылася.

Невялікае мястэчка **Кляшчэлі** ляжыць пры крыжаваньні чыгунак, што абяцае яму з часам шыбкае разьвіцьцё. Цяпер Кляшчэлі славяцца разводкаю гароднага насеньня, найгалаўней — агурковага ды хмелю.

У Бельскім-жа павеце знаходзіцца м-ка **Мельнік**. Проці яго, за Бугам, стыкаецца беларуска-польская і беларуска-ўкраінская межы. Мельнік — старое мястэчка. Цяпер яго жыхары займаюцца, між іншым, паленьнем вапны, якую капаюць у акалічных горах над Бугам.

У паўночнай часьці Берасьцейскага павету, якая мае шмат супольнага з суседнім Бельскім паветам, ляжаць, між іншым, старасьвецкія мястэчкі — **Высокае і Камянец***).

**Высокае** мае каля 5 тыс. жыхараў, занятых гандлем і промысламі. Славіцца Высокае вельмі добра пастаўленаю гаспадаркаю ў яго ваколіцах. Адгэтуль выйшлі беларускія сарты збожжа: высока-літоўская пшаніца і жыта. Разводка заводзкага насеньня і цяпер вядзецца ў шырокіх разьмерах. У тутэйшым двары надзвычайна харошы парк.

**Камянец** — значнае мястэчка (каля *7,500* жыхараў) на краі Белавежскае пушчы. Ад старых часоў (з XIII веку) перахавалася тут вежа, пабудаваная валынскімі князямі, якая служыла для абароны. Завуць яе «стаўпом».

Старое дрыгвіцкае места, **Берасьце**, або, як яго яшчэ называюць, Брэст-Літоўскі, ляжыць над Бугам, пры ўпадзе ў яго Мухаўца. Дзякуючы свайму палажэньню ў самым паўднёва-заходнім куце Беларусі, Берасьце ўвесь час было прычынаю спрэчак паміж рознымі дзяржавамі. Валадалі ім палякі, розныя ўкраінскія князі, нападалі татары, аж пакуль не адыйшоў ён пад Літву. У XV—XVI вякох Берасьце зрабілася вялікім і багатым местам. У гэтыя часы тут моцна разьвіўся рэфармацкі рух, была заложана друкарня, у якой друкавалася кальвінская біблія. У Берасьці было шмат старасьвецкіх манастыроў, касьцёлаў і цэркваў, але ў 1831 годзе пачалі тут будаваць крэпасьць і большую частку гэтых будоўляў абярнулі пад казармы альбо зусім зьніштожылі.

З Берасьця ў 6-х кірунках разыходзяцца чыгункі, ёсьць некалькі шосаў. Апроч таго, Мухавец і Буг зьяўляюцца надзвычайна важнымі вадзянымі шляхамі. Дзякуючы такому свайму палажэньню, Берасьце мае вялікае гандлёвае значэньне.

Прамысловасьць у Берасьці таксама пачынае разьвівацца. Цяпер ёсьць некалькі сотняў дробных прадпрыемстваў з 1200 работнікамі. Усіх жыхараў — каля 50 тысяч.

---

*) Іх у літэратуры звычайна называюць літоўскімі (Высокае-Літоўскае, Камянец-Літоўскі), дзеля таго, што яны належылі, як і ўся Беларусь, да Літвы, і на тое, каб адрозьніць іх ад іншых местаў з такім самым назовам, што ляжалі ў Польшчы або ў Украіне. Ведама, што ніякіх ліцьвіноў тут няма.

Берасьцейскі павет досіць рэзка дзеліцца на дзьве часткі. На поўнач ад Берасьця грунты глiністыя, ураджайныя, насяленьне жывё густа, лясоў мала. На паўдня ад Берасьця — звычайнае Палесьсе з пяшчанымі беднымі грунтамі, з рэдкім насяленьнем, багатае на лясы й балоты. На паўдня ад Берасьця жывё народ найбольш падобны да жыхараў Пінскага і Кобрыньскага паветаў — пінчукоў.

---

## V. Вялікая Палеская нізіна.

У агульным аглядзе Беларусі досіць многа гаварылася аб Палескай нізіне, асабліва-ж аб яё прыродзе (стр. 35—40). Уяўляе яна з сябё вялізную катліну, што расьцягнулася ад Бугу да Сожа і мае невялікі нахіл на ўсход і паўдня, пакрытую бязьмежнымі балотамі ды лясамі. Прырода яё, а таксама і экономічнае жыцьцё маюць гэтулькі рэзка выяўленых асобнасьцяй, як ні ў аднаё, можа, з краінаў Беларусі. У поўнай мёры адносіцца гэта, праўда, толькі да цэнтральнае часткі нізіны; яё ўзьмежжы ня так ужо рэзка адрозьнююцца ад сусёдніх краінаў, ды навет, наадварот, маюць з імі шмат супольных рысаў: тут ствараюцца пераходныя мяйсцовасьці ды краіны. Адну з такіх краінаў — Верхнебярэзінскую, якая займае высунуты на поўнач рог нізіны, мы ўжо разглёдзілі побач з Менскаю краінаю, з якою яна моцна зьвязаная з боку экономічнага жыцьця, а ў значнай мёры — і прыроды. Заходняя частка нізіны, Піншчына, гэтаксама мае ў сабё шмат пераходных рысаў, якія зьбліжаюць яё характар з характарам сусёдніх Падлясься й Горадзеншчыны: апроч таго, ёсьць у ёй і шмат вельмі орыгінальных рысаў, а гэта ўсё прымушае нас разглядаць яё асобна. Затое цэнтральныя паветы нізіны **Мазырскі, Рачыцкі** ды **Бабруйскі** блізка што на ўсім сваім прасторы носяць чыста палескі характар і асабліва рэзка выдзяляюцца спаміж паветаў Беларусі. Гэта краіна з найменшаю гушчынёю насяленьня і з найбольшым лікам зямлі, няпрыгодняе для гаспадаркі. Паветы гэтыя мы ўперад і разгледзім, называючы краіну, з іх зложаную, Вялікаю Палескаю нізінаю.

Вялікая Палеская нізіна ляжыць уздоўж Прыпяці й ніжняе Бярэзіны. Мяйсцовасьць тут усюдых роўная, слаба пахіленая на паўднёвы ўсход. З акалічных узгор'яў скатуюцца сюды чысьленныя рэкі, якія, трапіўшы на нізіну, сьцішаюць свой бег і плывуць у нізкіх берагох, абкружаныя часамі на шмат вёрст забалочанымі прасторамі. Апрача слабога спаду для вады, забалочаньню тут памагае яшчэ й тое, што пад усім блізка Палесьсем ляжаць старыя геолёгічныя пласты гліны, толькі

прыкрытыя зьверху пяскамі. А значная частка балотаў Палесься зьяўляецца, мусіць, апошнімі сьлядамі быўшага тут некалісь Герадотавага мора, пазарастаўшымі травою і мохам вазёрамі.

Балоты спатыкаюцца тут усіх відаў, але найчасьцей — травяныя, паросшыя лазою: імшары са сфагнумам спатыкаюцца таксама дзе -ня-дзе — плямамі сярод хваёвых бароў.

Балоты займаюць чуць ня чверць усяго прастору краіны. Безканечныя балотныя пустыні, паросшыя то дробнаю лазою, то высокімі чаротамі, цягнуцца дзесяткамі вёрст; іх перарываюць векавыя бары, павырастаўшыя на пяшчаных узгорках, вастравох, параскіданых сярод балота. На гэтых-жа вастравох пабудаваны рэдкія вёскі паляшукоў ды знаходзіцца іхняе ворнае поле.

Ад вёсак цераз балота цягнуцца гаці (рыс. 128), замошчаныя хворастам і бярвеньнем. Язда па гэтых гацях трудная. А па іх ідзець палеская дарога часамі па некалькі вёрст.

У гаспадара поле часамі бывае на некалькіх вастравох, якія закінуты далёка ад вёскі ў балотнай і лясной глушы. Каб дайсьці да іх, прыходзіцца йсьці па кладках, намошчаных цераз балота. Аруць тут часта валамі. Вось-жа гаспадар бярэ саху на плечы і йдзе на свой востраў па кладцы, а валы йдуць па вадзе. Калі востраў дзе далёка ад хаты, дык там робіцца будка, раскладаецца вагонь і гаспадар жыве тут аж пакуль скончыць работу. Часамі навет малоцяць дабро на востраве, а перавозяць ужо ўсё ўзімку, як замерзьне балота. Бывае, што дабро гадамі ляжыць на востраве немалочанае. Паляшук пакідае яго на запас, на галодны год.

Сярод усяе Палескае нізіны адзінока падыймаецца высокі бераг Прыпяці каля Мазыра. Ён, паміж іншым, пакрыты лёссам, на якім утварыліся шэрыя суглінкі (грунты лесастэпу). Тут яны займаюць невялікі прастор. У Рачыцкім-жа павеце шэрыя суглінкі цягнуцца шырокім паясом цераз сярэдзіну павету, каля мяст. Брагіня, Хойнікаў і Юравіч. Апроч таго, уздоўж правага берагу Прыпяці, каля Турава, спатыкаюцца гляістыя грунты ды кавалкі гляістых, сугліністых і супяшчаных грунтоў пераходзяць у Бабруйскі павет з суседніх паветаў і займаюць яго краі. Па за гэтым-жа ўвесь прастор Палесься пакрыты лёгкімі пяшчанымі грунтамі на «вастравох» і пластамі торфу, травяністага ды імховага, — ў балотах.

Торф гэты, які мяйсцамі ляжыць вельмі таўстымі пластамі (найтаўсьцейшыя пласты торфу ў Рачыцкім павеце, каля Васілевічаў), нідзе блізка ня ўжываецца на паліва і не разрабляецца, бо дровы надта танныя, а насяленьне рэдкае.

Лясы ў Палесьсі зусім нядаўна займалі амаль што не палавіну ўсяго прастору. Цяпер іх моцна падцерабілі і на мейсцы даўнейшых векавых пушчаў цягнуцца цяпер пасекі, часамі выкарчаваныя і выраблены пад поле, а часьцей

паросшыя маладым лéсам і хмызьнякамі. Тады, як балоты ляжаць найбольш каля Прыпяці, лясы адсуваюцца галоўнаю сваёю масаю на ўзьмежжы нізіны, ствараючы вакола яé пояс пушчаў.

Аднак усё-ж лясоў тут вéльмі многа. Найбольш у Палéсьсі хваёвых бароў. Ёлкі зусім блізка няма, бо пяшчаныя грунты; дый праз сярэдзіну краіны праходзіць паўднёвая мяжа пашырэньня гэтага дрэва. Але тут-жа больш, чым дзе ў Беларусі, ёсьць і ліставых лясоў, найбольш дубовых і бярозавых. Дубы тут часамі даходзяць вялізарнае вялічыні; спатыкаецца таксама шмат вольхі, ліпы, клёну і інш. У Палéсьсі перахавалася шмат рэдкіх расьлінаў, асабліва такіх, што растуць толькі ў полярных краёх.

Ува ўсіх гэтых лясох, часта яшчэ не закранутых рукою чалавéка, водзіцца бяз меры ўсякага зьвяр'я і дзічыны. Ласі, медзьвядзі, сарны, дзікі спатыкаюцца тут часта. Навет бабры водзяцца па глухіх рачных затоках у некаторых закутках Палéсься, дзе да іх яшчэ не дабралася рука паляўнічага.

На полі сеюць тут найбольш грэчкі й бульбы, бо зямля звычайна вéльмі лёгкая, пяшчаная. Гаспадарацьць, аднак, някéпска. Гаспадары трымаюць шмат скаціны, часамі па дзесятку й больш галоў, бо пашы хапае, і добра дзеля таго гнояць зямлю. Каровы, аднак, тут ня малочныя; часамі іх навет і саўсім ня доюць. Трымаюць тут досіць многа сьвінéй і кормяць іх жалудамі. Народ аб гаспадарцы рупіцца; у некаторых мяйсцох навет полюць засевы.

Сенажацяў у Палесьсі хаця й больш, чым у іншых краінах Беларусі, але ня так шмат, як можна было-б спадзявацца. Вялізарныя прасторы, якія з невялікім накладам, расьцерабіўшы, можна было-б абярнуць у сенажаці, цяпéр лічацца безкарыснымі балотамі, няўжыткамі.

Насяленьня ў Палесьсі пакуль што замала, і яно яшчэ далёка ня можа і ня ўмée выкарыстаць вялікія багацьці, якія крыюцца ў гэтым краі. Дый замала зварочавала ўвагі на Палéсьсе дзяржаўная ўлада і грамадзянства. Аднак ужо пéршыя ступяні ў гэтай справе зробленыя. Ужо зроблена проба вялікага асушэньня Палéсься экспэдыцыяю ген. Жылінскага (стр. 90—91). Трэба спадзявацца, што ў недалёкім часе работы па асушцы йзноў павядуцца ў шырокіх разьмéрах. У рэзультаце гэткае асушкі выгляд Палéсься і яго характар і значэньне саўсім зьмéняцца.

З боку гушчыні насяленьня Палесьсе займае ў Беларусі апошняе мейсца. У Мазырскім павеце і цяпер яшчэ на 1 квадр. вярсьцé жывé ўсяго каля 20 чалавéк. Праўда, за апошнія часы Палесьсе стала засяляцца. Аграмадныя лясы павысяканы, а пасéкі двары прадаюць сялянам, якія сюды зьяжджаюцца з усяé Беларусі, ды прыносяць з сабою і сваé звычаі, бытавыя і гаспадарскія, моцна адзначаючыяся ад палéскіх.

Апроч гаспадаркі вясковае насялéньне займаецца й рамёсламі. У глухіх палескіх мяйсцовасьцях пануе г. зв. на-



Рыс. 128. Гаць на дарозе ў Палесьсі.

туральная гаспадарка: людзі нічога не прадаюць і вельмі мала або нічога ня купляюць. Усé патрэбныя да жыцьця рэчы робяць самі. Вéдама, што хатнія рамёслы павінны быць тут моцна разьвітыя. І запраўды, у Палéсьсі, напр., пашырана ткацтва, шмат людзéй займаецца вырабамі з дрэва. Асабліваe значэньне мае рыбалоўства; часамі цэлыя вёскі жывуць найбольш з гэтага промыслу. Жыхар Палесься мае досіць найлепшае рыбы для свайго ўжытку, шмат прадаé яé ў мястэчках і гандляром для вывазу ў далёкія мéсты і за мéжы краю. На вываз ідзé рыба ў копчаным, салёным і сушаным відзе. Вéльмі пашыранае пчалярства, ці, ляпей, бортніцтва, асабліва ў Мазырскім павéце.



**Рыс. 129. Беларус-паляшук.**

Народ зарабляе ў лéсе, на сплаве, займаецца гонкай смалы й дзёгцю, паляваньнем ды інш. ляснымі промысламі.

Хвабрычная прамысловасьць досіць разьвітая. Найбольш спатыкаецца пільняў і бравароў. Апошніх асабліва многа ў Рачыцкім павеце, які з гэтага боку займае першае мейсца ў Беларусі. Апроч таго, ёсьць нéкалькі хвабрыкаў сярнічак, нéкалькі шкляных гутаў, гарбарняў і г. д. Прамысловасьць Палéсься толькі яшчэ пачынае разьвівацца, і перад ёю шырокая дарога.

Тубыльцы Палесься, або паляшукі (рыс. 129), налé - жаць да найбольш чыстых прадстаўнікоў беларускага і наагул славянскага тыпу. Гавораць яны чыстаю прыгожаю беларускаю моваю, ужываючы яé паўднёвую гаворку (сакуны). На паўдня ад Прыпяці, аднак, можна заўважыць пэўныя ўплывы ўкраінскае мовы на мяйсцовую беларускую гаворку. Уплывы гэтыя, аднак, значна слабéйшыя, чым у суседняй Піншчыне. Паляшук — добра загартаваны ў барацьбе з дзікою прыродаю, трымаецца дзéдаўскіх звычаяў і неахвотна прыймае навіны ды зьмéны гэных звычаяў. Зразумела, што культурны стан палéскага насялéньня досіць нізкі; цяжка прасьвéце і культурным уплывам дастацца ў глухія закуткі гэтае бездарожнае вялізарнае краіны.

Беларусы жывуць у Палéскай нізіне ад самых далёкіх дагістарычных часоў; магчыма, што яны былі яé пéршымі насéльнікамі, бо сьлядоў істнаваньня тут калі-нéбудзь якога іншага народу няма.

Гісторыя застала Палесьсе заселеным дрыгвічамі. Тутака быў і галоўны іхні палітычны цэнтр Тураў. Але дрыгвічом не ўдалося стварыць моцнае дзяржавы і яны ўвéсь час былі то пад кіеўскімі, то пад іншымі суседнімі князямі, аж пакуль ня злучыліся з рэштаю беларускіх пляменьняў пад уладаю Літвы.

Палéсьсе мéла вялікае значэньне ў гісторыі Беларусі й Літвы. Яно бараніла іх увéсь час ад нападаў з паўдня. Пад сьцéнамі палéскіх замкаў і гарадоў, а найбольш у балотах і лясох Палéсься спыняліся магутныя напоры паўднёвых народаў на Беларусь.

### Важнейшыя мяйсцовасьці.

У Мазырскім павéце ёсьць нéкалькі вялікіх мястэчак, з каторых кожнае зьяўляецца важным цэнтрам для свае ваколіцы. Гэткія — Давыд-Гарадок, Тураў, Пéтрыкаў — зьяўляюцца цэнтрамі вялікае ваколіцы, роўнае па прастору цэлай дзяржаве. Усé яны ляжаць на берагох Прыпяці, або яé найбольшых прытокаў, і зьвязаны з сьвéтам найбольш вадзянымі дарогамі.

**Давыд-Гарадок** ляжыць на вастравох р. Гарыні; старое мястэчка, заложанае, пэўне, яшчэ ў дагістарычныя часы. Цяпéр у ім каля 4 тыс. жыхараў, якія займаюцца, між іншым, будоўляй судзінаў, а таксама — рыбалоўствам, гародніцтвам (разводзяць цыбулю), служаць лоцманамі на судзінах і г. д.

Тутэйшыя мяшчане — народ прамысловы. Яны вырабляюць, між іншым, вянгліну, кілбасы і сыры, загатаўляюць дзічыну, сушаную рыбу й грыбы, сушаную садовіну і вывозяць усё гэта на продаж у вялікія беларускія мéсты, а таксама й далёка за мéжы Беларусі (навет у Бесарабію). Давыд-Гарадзéцкія рамéсьнікі вырабляюць спэцыяльныя боты з даўгімі халявамі, якія таксама вывозяцца на старану; робяць тут яшчэ вéльмі добрыя пляцёныя брычкі. Давыд-Гарадок нéйкі час лічыўся павéтавым мéстам.

Над Прыпяцяю, на яé правым бéразе, пасярэдзіне Мазырскага павéту стаіць стары **Тураў**, даўнéйшы рэлігійны й культурны, ■ часткаю й палітычны цэнтр дрыгвіцкае зямлі — Палесься (рыс. 24). Лічуць, што залажыў яго ў IX вéку нéйкі вараг Тур, таварыш Рагвалода. У X вéку тут была заложаная найстарэйшая ў Беларусі праваслаўная эпархія, тут жылі архірэі аж да сярэдзіны XV вéку. Тады Тураў быў вялікім мéстам, разсаднікам хрысьціянства й прасьвéты ў Палéсьсі. Пасьля, як вырас Пінск, значэньне Тураву зьмéншылася. Ад слаўнае мінуўшчыны Тураву засталіся толькі лягéнды, якія жывуць сярод акалічнага люду, ды Замковая гара і шмат курганоў і гарадзішчаў. Цяпер Тураў — невялікае мястэчка, з 5 тыс.



**Рыс. 130. Лёссавы яр у ваколіцах Мазыра.**

жыхараў, якія найбольш займаюцца гаспадаркаю, рыбалоўствам, сплавам лéсу, а таксама гандлем. Ёсьць у Тураве досіць бойкая прыстань і бываюць два кірмашы ў год.

Ніжэй Турава, на высокім лéвым бéразе Прыпяці, стаіць гандлёвае мястэчка **Пéтрыкаў** з 5 тыс. жыхараў, сярод якіх шмат шаўцоў. Пéтрыкаўскія мяшчане адзначаюцца сваёю прамысловасьцяю і здольнасьцяю да гандлю. Некаторыя з іх маюць сваé баркі і возяць на іх лéс; шмат хто займаецца

рыбалоўствам. У Пётрыкаве ёсьць прыстань і зьбіраецца ў год два вялікіх кірмашы.

Павётавае мёста **Мазыр** ляжыць на высокім правым бёразе Прыпяці, у надзвычайна харошай мяйсцовасьці, зрэзанай глыбокімі ярамі, якіх пракапала вада ў лёссе (рыс. 130). Гэта досіць старое мёста, вёльмі часта цярпёўшае ад чужазёмных нападаў. Быў тут нёкалісь і замак. Цяпёр у Мазыры каля 12 тыс. жыхараў, ёсьць вялікая хвабрыка сярнічак і дробныя гарбарні, прыстань на Прыпяці, зьбіраюцца два кірмашы, йдзё досіць жывы гандаль. Да апошніх часоў чыгунка йшла за 12 вёр. ад мёста. Цяпёр правёдзена новая чыгункавая лінія цераз самы Мазыр, што павінна значна падняць яго экономічнае жыцьцё.

Мазырскі павет — найбольшы па прастору з усіх беларускіх паветаў і найрадзей заселены. У ім найбольш балотаў і лясоў і наймёнш зямлі, прыгоднае для гаспадаркі. Значная частка лясоў павысякана, а балотаў абсушана.

Толькі берагі Прыпяці й ваколіцы Мазыра густа засёленыя. Рэшта павету — глухі палёскі край, вельмі слаба зьвязаны з сьвётам. Сваёю адрэзанасьцяю ад сьвёту асабліва адзначаюцца ваколіцы воз. Князь (Дзякавіцкая воласьць). Тут да нашых часоў пануе натуральная гаспадарка, што робіць гэтую мяйсцовасьць вёльмі цікаваю для навукі. Асабліваю бязьлюднасьцяю вызначаюцца берагі р. Ствігі дый наагул паўднёвае Палесьсе — на правым беразе Прыпяці.

У сярэдзіне Рачыцкага Палёсься пры чыгунцы ляжыць **с. Васілевічы.** Тут экспэдыцыяй Жылінскага былі абсушаны значныя прасторы, заложана мэтэоролёгічная станцыя. Апошнімі часамі Васілевічы сталі шыбка расьці (цяпер каля 3 тыс. жыхараў), стаў разьвівацца гандаль.

З Васілевічаў у глыбіню павету адыходзіць галіна чыгункі. Яна канчаецца ў м. Хойніках.

**Хойнікі і Брагінь** — два значныя мястэчкі (Брагінь старое мёста), ляжачыя недалёка адно ад аднаго, у мяйсцовасьці з багатымі грунтамі (лёссавы пояс). У Хойніках была да нядаўна зялёзная гута.

На Дняпры, недалёка ад Брагіня, проці вусьця Сожу ёсьць значнае гандлёвае мястэчка **Лоеў** з прыстаньню і вэрфяй для будовы судзінаў. На Лоеўскай прыстані складаюцца тавары для развозкі па прыстанях Дняпра, Бярэзіны й Сожу.

**Рачыца**, павётавае мёста, над Дняпром, пры перасячэньні яго Палёскай чыгункай. Мае 10 тыс. жыхараў, з якіх шмат хто займаецца гаспадаркаю (між іншым, адкормам сьвінёй), рыбалоўствам і сплавам лёсу. Разьвіты гандаль збожжам і лёсам; бойкая прыстань. З хвабрыкаў ёсьць нёкалькі вялікіх пільняў і хвабрыка сярнічак.

Рачыцкі павет у большай сваёй часьці мае палескі характар з пяшчанымі грунтамі і рэдкім насяле́ньнем. Але па сярэдзіне павету йдзе́ пояс лёссавых грунтоў, мацне́й засе́лены. Таксама густа засе́леныя й берагі Дняпра. У гаспадарках Рачыцкага пав. садзяць шмат бульбы; у паведе найбольш бравараў, чымся дзе ў Беларусі.

**Бабруйск** (рыс. 131) — адно з большых паве́тавых местаў Беларусі, з 42 тыс. жыхараў, ляжыць на правым беразе р. Бярэзіны, там, дзе яе́ перасякае Лібава-Роменская чыгунка. У трох кірунках з Бабруйску разыходзяцца шосы. Такое палажэньне робіць Бабруйск важным гандлёвым пунктам.



**Рыс. 131. Бабруйск.**

Разьвіцьцю яго перашкаджала дагэтуль Бабруйская крэпасьць, пабудаваная тут у пачатках XIX ве́ку расе́йскім урадам.

Бабруйск вядзе́ значны гандаль лесам і збожжам; пры ім ёсьць прыстань на Бярэзіне. Прамысловасьць Бабруйску няве́льмі значная. Ёсьць каля 30 дробных хвабрыкаў і заводаў — найбольш пільняў і цагельняў.

Ніжэй Бабруйску, над Бярэзінаю, ў пале́скай мяйсцовасьці ляжыць значнае мястэчка **Парычы** з прыстаняю, з якое найбольш адпраўляюць ле́с.

На захадзе паве́ту ля м. Урэчча была даўне́й шкляная гута, якая вырабляла дужа прыгожую пасуду.

У глыбіні Палéсься над р. Птычом ляжыць м. **Глуск**, з 5 тыс. жыхараў; ня глé дзячы на сваё, папраўдзе, глухое палажэньне (далёка ад чыгунак), мястэчка досіць бойка гандлюе скацінаю. Мяшчане займаюцца гаспадаркаю, рыбалоўствам і пчоламі, а таксама вырабам г. зв. глускае гарбаты (разбаўляюць праўдзівую гарбату розным зéльлем). Апроч таго, ёсьць нéкалькі гарбарняў.

Навакола Глуску палéская мяйсцовасьць з пяшчанаю няўраджайнаю зямлёю. Такі-ж характар мае і ўвéсь блізка Бабруйскі павéт. Толькі на ўсход і поўнач ад Бабруйску мяйсцовасьць вышэе, грунты лéпшыя, жыхары жывуць гусьцéй, лясоў і балотаў мéнш. Гэты досіць значны земляробскі востраў пераходзіць і ў сумéжныя павéты, але хутка за мéжамі Бабруйскага пав. канчаецца; яго зьмяняюць пяшчаныя разлогі Раданскіх раўнінаў.

---

**ПІНШЧЫНА**. Піншчына ляжыць над вéрхняй Прыпяцяю й яé прытокамі, а таксама займае вададзéл паміж Прыпяцяю й Бугам. Да яé мы адносім павéты **Пінскі і Кобрыньскі**.

Па прыродзе сваёй гэтая краіна выразна дзéліцца на тры часткі, якія навет маюць сваé асобныя назовы: Зарэчча, Загародзьдзе й Палесьсе. Найбольш тыповая і характэрная з іх — Зарэчча, Загародзьзе з'яўляецца працягам Падляскае раўніны, а палéская частка Піншчыны нічым асаблівым ня розьніцца ад сумéжнага Мазырскага Палéсься.

**Зарэчча** (рыс. 132) — гэта балоцістая нізіна, якая ляжыць на паўдня і на ўсход ад Пінску. Яé паўночную мяжу творыць Прыпяць (ад чаго й назоў), да якое тут зьбягаюцца з усіх бакоў яé важнéйшыя прытокі: Стаход, Стыр, Ясельда ды інш. Трапіўшы ў краіну Зарэчча, з яé вéльмі малым спадам, гэтыя рэкі, шырака разьліўшыся, плывуць ляніва, памалу, дзéляцца на шмат пратокаў, якія пакрываюць усё Зарэчча густою сéцьцю. Сярод гэтае вадзяное сéці прападае часамі навет галоўнае цячэньне ракі, а разам з тым і яé імя. Гэтак навет Прыпяць вышэй Пінска ў некаторых мяйсцох траціць свой назоў і вядомая пад наймéньнямі Парок, Стаход, Струмень.

Берагі рэк у гэтай краіне нізкія й балоцістыя. Трэба толькі, каб крыху паднялася вада і ўсё Зарэчча на шмат дзесяткаў вёрст навакола залітае. Вясною і ўвосень Зарэчча зьяўляецца праўдзівым возерам. Аж да сярэдзіны лéта стаіць вада, пры тым гэтак глыбака, што можна éзьдзіць у чоўне ў якім-хочаш кірунку. Над вадою віднéюцца толькі вольхі й лозы, якімі звычайна абрастаюць берагі пратокаў, ды на пяшчаных узгорках — вастравох — вёскі пінчукоў. За час веснавое паводкі вада заносіць пяском старыя пратокі і пракопуе новыя, наносіць пяшчаныя ўзгоркі і пласты глéю.

За ле́та ўсе́ гэтыя вадзяныя прасторы зарастаюць буйнымі балотнымі травамі: чаротамі, сітнікамі ды інш. (рыс. 40), але паміж імі на сушэйшых гляістых мяйсцох трапляюцца вастравы, пазарастаўшыя асакою, а часта й ве́льмі добрым мурагом.

Л е с у ў Зарэччы мала, і толькі дзе-ня-дзе пяшчаныя грады і ўзгоркі паабрасталі хваёвым борам. Значыць, называць Зарэчча Пале́ськсем навет ня ве́льмі выпадае.

Жывуць тутэйшыя гаспадары досіць заможна. Значную часьць году яны адрэзаныя ад усяго сьве́ту і наве́т да бліжэйшых сусе́дніх вёсак перапраўляюцца ў чаўнох. У часе непагоды гэтая комунікацыя робіцца досіць небясьпе́чнаю.



**Рыс. 132. Зарэчча.**

На ле́вым бе́разе Прыпяці мяйсцовасьць адразу вышэе на не́калькі сажняў і пераходзіць у высокую раўніну, якую называюць звычайна Загародзьдзем.

**Загародзьдзе** займае клін паміж ракою Ясельдаю і яе́ прытокам Пінаю і цягнецца на захад аж да р. Мухаўца, прытыкаючыся там да Падляскае раўніны. Загародзьдзе на ўсім яго досіць вялікім прасторы не перасякае ні адна значная рэчка, таксама й балотаў спатыкаецца ве́льмі мала, і то найбольш па краёх Загародзьдзя, за Пінаю і Карале́ўскім каналам. Грунты Загародзьдзя гляістыя, ураджайныя. Жыхары жывуць густа й багата і займаюцца найбольш земляробствам.

Лясы ў Загародзьдзі павысяканыя, засталося іх ве́льмі мала (каля 15 %); затое вельмі многа сенажацяў, — як нідзе́ ў Беларусі. Гэта дазваляе гаспадаром трымаць шмат скаціны й сьвіньняў.

Паўночна-ўсходнюю частку Піншчыны займаюць безкане́чныя пушчы і непраходныя балоты **Пале́сься** , якія адгэтуль пераходзяць у Мазырскі паве́т і цягнуцца далёка на ўсход. З гэтаю часткаю Піншчыны аднародная паўднёвая часьціна Слонімскага паве́ту і паўднёва-заходні край Слуцкага. У Слонімскім паве́це пачынаецца пояс аграмадных балотаў паўночнага Пале́сься, аб якім мы ўжо казалі. У Пінскім паве́це ляжыць як раз балота К а ч а й л а і таксама пачынаецца балота Г р ы ч ы н а. У лясох тут ве́льмі многа ўсялякага зьвяр'я й дзічыны. Жыхары займаюцца ляснымі промысламі, паляваньнем, гадоўляй скаціны і інш. Край гэты, у якім так многа прыроднага багацьця, зусім рэдка засе́лены: на вялізарным прасторы налічуюць усяго не́калькі дзесяткаў вёсак. А ўздоўж бе́рагу Прыпяці, на ўсход ад Пінску, на дзесяткі вёрст цягнуцца зусім бязьлюдныя балотныя прасторы.

К л і м а т П і н ш ч ы н ы нале́жыць да найцяпле́йшых і найлагадне́йшых у Беларусі. Гадавая тэмпэратура Пінску +6,8, зіма бывае кароткая, мяккая; цягнецца яна ме́нш 3-х ме́сяцаў. У гэты час, калі замярзаюць рэкі й балоты, усходняя і паўднёвая Піншчына аджывае. Па лёдзе пракладаюцца простыя дарогі, па якіх лёгка трапіць уусе́дняе мястэчка і ў самы Пінск жыхарам якое-не́будзь адрэзанае балотамі ад сьве́ту вёскі. Узімку найбольш аджывае тут і гандлёвае жыцьцё.

Піншчына вельмі багатая на в а д з я н ы я ш л я х і. Прыпяць, Стаход, Стыр, Гарынь, Ясельда, Піна — судаходныя рэкі. А Карале́ўскі і Агінскі каналы злучаюць іх з басэйнамі Віслы й Нёмна. Існуе яшчэ цэлы рад дробных каналаў, якія злучаюць глухія пале́скія вазёры з большымі рэкамі ды служаць для сплаву. Апроч таго, цераз усю краіну праходзіць Пале́ская чыгунка з Бе́расьця — на Гомель і другая, што йдзе́ць па ўсходняй Піншчыне з Вільні — на Лунінец і Роўнае. Гэтыя чыгункі мяйсцамі праве́дзеныя цераз непраходныя балоты, дзе-ня-дзе навет ідуць па дрыгве́. Значэньне іхняе для Пале́сься і цяпе́р вялізарнае, а з часам, пэўне-ж, яшчэ пабольшае.

У большай часьці Піншчыны, а ласьне ў Загародзьдзі і ў Зарэччы, жывуць п і н ч у к і, аб якіх мы ўжо казалі вышэй (стр. 126).

У Піншчыне ёсьць шмат дробных мястэчак, насе́леных раме́сьнікамі. Таксама й вясковае насяле́ньне апроч гаспадаркі займаецца шмат-дзе хатнімі рамёсламі. Напр., у м-ку Г о р а д н е шмат ганчароў, а ў П а г о с ь ц е — ткачоў.

В а ж н е й ш ы я м я й с ц о в а с ь ц і. **Пінск** (рыс. 133) — старое дрыгвіцкае места, пабудаванае ў дагістарычныя часы,— высіцца на левым беразе Піны над аграмаднымі нізінамі Зарэчча. У XIII в. быў ён сталіцаю значнага вудзе́льнага

князьства, пасьля, разам з усёю Беларусяю, увыйшоў у склад Літвы. Да правядзе́ньня чыгункі Пінская прыстань ме́ла надзвычайна важнае значэньне. Тут ішоў бойкі гандаль збожжам і салам, якія дастаўляліся з Украіны па Прыпяці і яе́ правых прытоках і адпраўляліся ў Няме́ччыну й Польшчу па каналах. Цяпе́р з гэтага боку Пінск мае ме́ншае значэньне. Але яго палажэньне на сярэдзіне важне́йшае вадзяное дарогі з Украіны ў Няме́ччыну, на вялікім вадзяным вузьле́, абяцае яму вялікую будучыну.

Хвабрычная прамысловасьць Пінску разьвіта досіць слаба. Ёсьць каля 20 хвабрыкаў і заводаў, з якіх найбольшыя — хвабрыка сярнічак і 4 пільні, а таксама завод будоўлі параходаў ды інш. судзінаў. Усіх жыхараў у Пінску каля 35 т ы с я ч а ў. З старых будынкаў найцікаве́йшыя — гэта манастыр, пабудаваны ў XVI ве́ку, ды касьцёл, пабудаваны ў XIV ве́ку.

На захад ад Пінску, над р. Ясельдаю, ляжыць вядомы двор



**Рыс. 133. Пінск.**

**Парэчча** (рыс. 134)*). Гаспадары гэтага двара, Скірмунты, пабудавалі тут не́калькі хвабрыкаў, — між іншым, вялікую суконную хвабрыку, якая працуе й дагэтуль. Спецыяльна для яе́ патрэбаў разводзіцца тут-жа ў Парэччы патрэбная да вырабаў сукна паўднёвая расьліна д і п с а к у с. Некалькі дзесяткаў год назад была тут і цукраварня, якая што-год выробляла да 10.000 пуд. цукру (пасьля згарэла); цукровыя буракі разводзіліся ў Парэччы й яго ваколіцах. Трэба адзначыць, што ўсе́ парэцкія хвабрыкі добра пастаўленыя, работнікі някепска забяспе́чаны.

---

*) Ня блутаць з ме́стам Парэччам, што ў Смале́ншчыне, над р. Касьпляю.

У Пінскім павéце ёсьць досіць многа невялікіх мястэчак, якія ў мінуўшчыне йгралі досіць важную ролю для ўсяé Беларусі, а цяпер яны — толькі цэнтры экономічнага жыцьця для сваіх ваколіцаў. Такія: Любяшоў, Таляханы, Нобель, Столін, Пагост, Кажан-Гарадок. За апошнія часы моцна расьцé **Лунінéц** — мястэчка пры станцыі таго-ж імéньня, дзе крыжуюцца дзьвé важнéйшыя палéскія чыгункавыя лініі. Мае каля 8.000 жыхараў.

**Кобрынь** — паветавае места пры р. Мухаўцу, з 10-ма тыс. жыхараў, досіць гандлёвае, дзякуючы свайму палажэньню пры сыстэме Каралéўскага каналу й чыгунцы; значная прыстань.

З мястэчак Кобрыньскага павету адзначаецца **Антопаль**. Гэта прамысловае мястэчка: ёсьць у ім нéкалькі гарбарняў



**Рыс. 134. Двор Парэчча ў Піншчыне.**

і маслабойных заводаў. У м. **Янаве** (на ўсходзе павéту) жыў і замучаны езуіт Андрэй Баболя, якога каталіцкі касьцёл лічыць сьвятым.

---

## VI. Беларускі лесастэп.

Да гэтае краіны мы адносім 9 паўднёва-ўсходніх павéтаў Беларусі: **Гомельскі, Суражскі, Мглінскі, Навазыбкаўскі, Старадубскі** і беларускія часткі: **Гараднянскага, Ноўгарад-Сéверскага, Трубчаўскага і Бранскага павéтаў**. Ласьне назоў лесастэпу з усім правам заслужуюць толькі паветы Старадубскі, Трубчаўскі, Ноўгарад-Сéверскі, Мглінскі і часткаю

сусе́днія з імі, бо толькі ў іх грунты, утвораныя на лёссе, займаюць значныя прасторы і толькі тут у часы дагістарычныя скрозь быў стэп, пасьля выцесьнены ле́сам. У іншых паве́тах спатыкаюцца толькі большыя ці ме́ншыя выстравы лёссавых грунтоў, на якіх даўне́й былі паляны, абкружаныя пушчамі. Ёсьць, аднак, шмат супольнага ў сучасным стане ўсіх гэтых паветаў: перад усім высокая гушчыня насяленьня, шырокае разьвіцьцё прамысловасьці й рамёслаў, побач з тым незавіднае земляробства, нізкія ўраджаі ды значны адыход на старану; апроч таго, лініі чыгунак і рэкі зьвязуюць экономічнае жыцьцё іх, а перад усім гандаль, у адну суцэльнасьць. Шмат асобнасьцяй ёсьць і ў складзе іх насяле́ньня.

З другога боку, трэба адзначыць, што значныя вастравы лёссавых грунтоў і мяйсцовасьцяй з лесастаповым краявідам ёсьць і ў паве́тах, што ляжаць дале́й на поўнач, на прасторах Раданскае раўніны — Чэрыкаўскім, Рослаўскім ды інш. Аднак іхняя значна ме́ншая гушчыня насяле́ньня, слаба разьвітае экономічнае жыцьцё прымушаюць нас разглядаць гэтыя паве́ты як асобную краіну — Радань.

Паверхня лесастэпу найбольш роўная, значна паніжаная на захадзе. На ўсходзе, аднак, у яе́ ўходзяць адарваныя лапіны Дняпроўскага ўзгор'я, якія ствараюць высокія, зрэзаныя ярамі, правыя берагі р. Дзясны пад Бранскам і Трубчаўскам. Таксама значна павышаная мяйсцовасьць у Навазыбкаўскім, Старадубскім і Мглінскім пав. (Старадубскае ўзвышшо). На берагох Дзясны часамі выступаюць высокія крэйдавыя скалы, а ў іх шмат фасфарытаў. Рэшта краіны моцна нізінная, асабліва Гомельскі паве́т, заходняя частка якога мае ўжо зусім пале́скі выгляд — з аграмаднымі прасторамі балотаў і лясоў.

На Старадубскім узвышшы і ўздоўж правага берагу р. Дзясны залёг лёсс. Пад Старадубам на ім стварыліся досіць ураджайныя шэрыя суглінкі, якія й займаюць большую часьць Старадубскага паве́ту. Навакол іх няшырокім абручом ляжаць падзолістыя суглінкі на лёссе. Досіць шырокі пояс гэтых суглінкаў адыходзіць у Мглінскі й Бранскі паве́ты; у апошнім паве́це яны займаюць значныя прасторы, пакрываючы высокі правы бе́раг р. Дзясны. Досіць значныя вастравы гэтых самых падзолістых суглінкаў на лёссе знаходзяцца і ў Трубчаўскім павеце, а таксама ў Навазыбкаўскім і Гараднянскім паве́тах. Урэшце ў Суражскім і Гомельскім паве́тах гэтыя грунты сустракаюцца досіць рэдка.

Ле́выя берагі рэк звычайна пакрытыя тут шырокімі палосамі бе́дных пяшчаных грунтоў. Дзякуючы гэтаму, уся заходняя і паўднёвая частка Гомельскага паве́ту, блізка ўве́сь Суражскі, заходняя частка Бранскага і значныя прасторы ў іншых паве́тах займаюць пяшчаныя грунты, пакрытыя найбольш хваёвым борам. Рэшту прастору займаюць супяскі,

ды ў Гомельскім і Гараднянскім паветах ёсьць досіць многа чаротавых балотаў, а на поўначы Гомельскага — кавалак звычайных дзярновых суглінкаў на морэннай гліне.

Апроч хваёвых бароў у лесастэпе сустракаецца шмат ліставых лясоў, асабліва ў Старадубскім пав. У гэтых лясох найбольш расьце дуб, клён, і то толькі на поўначы краіны. Ёлка тут сустракаецца рэдка, а на паўдні яе зусім няма; таксама мала бярозы, ялаўцу. Наагул тут, папраўдзе, канчаецца прырода лясное Беларусі і далей ужо — стаповая Ўкраіна. Трэба заўважыць, што лясы, якіх тут даўней было вельмі многа, цяпер моцна расьцярэбленыя і з кожным годам іхнія прасторы зьмяншаюцца, зьмяняючыся ральлёю навет на зусім бедных пяшчаных грунтох, з якіх пасьля вецер робіць пяшчаныя выдмы.

Гаспадарка наагул стаіць тут нявысака, асабліва ў дварох, якія ня маюць заўсёдных парабкоў, а здаюць зямлю палавіншчыкам. Годзе сказаць, што, як у вёсках, так і ў дварох, яшчэ вельмі часта аруць сахою, а ў лясістых мяйсцовасьцях яшчэ й дагэтуль часамі паляць ляды, як у самым глухім Палесьсі.

У вёсках-жа перашкодаю гаспадарцы зьяўляецца абшчыннае ўладаньне зямлёю, якое не дае магчымасьці культурнейшым гаспадаром вёскі заводзіць палепшаньні ў гаспадарцы. Уся вёска мусіць гаспадарыць ці добра, ці дрэнна, але аднолькова. З гэтага знаходзяць выхад толькі такі, што выдзяляюць лапіны зямлі пры хаце ў кожнага гаспадара, на якіх ён можа гаспадарыць сваім адумам. На гэтыя лапіны гаспадары вывозяць большую частку гною і сеюць тут больш пераборлівыя і выгаднейшыя расьліны: ячмень, бульбу, каноплі, табаку.

Апошнія дзьве расьліны йграюць у гаспадарцы лесастэпу важную ролю. З гаспадаркі йдуць на продаж толькі пянька, або табака. Найбольш канапель разводзяць у Старадубскім, Трубчаўскім, а таксама ў Суражскім і Мглінскім паветах. Прадаюць пяньку найбольш у Трубчаўску, Почапе і інш. мястэчках. Гандляры з гэтых мястэчак яшчэ з вясны езьдзяць па вёсках і даюць задаткі на пяньку, пры чым сяляне, ведама, прадаюць яе на самых нявыгадных умовах.

Табаку разводзяць найбольш у Мглінскім, Суражскім і Старадубскім пав. Разводзяць тут апрача прасьцейшых сартоў яшчэ й далікатны сорт гундзі. Як канаплямі, так і табакаю найбольш займаюцца сяляне, дзеля таго, што гэтыя расьліны патрабуюць каля сябе шмат клопату.

Ува ўсім гэтым краі шмат сеюць грэчкі. Побач з ёю на захадзе краіны шмат мейсца займае бульба, значная часьціна якое йдзе на бравары.

Клімат лесастэпу ня вельмі спрыяе гаспадарцы. Ападкаў тут менш, чымся ў рэшце Беларусі, часьцей бываюць засухі і дзьмуць сухія ўсходнія вятры-сухавеі. Гэта часамі нядобра адзываецца на пяшчаных грунтох.

Уся краіна, аднак, вельмі густа заселеная, і з гэтага боку займае адно з першых мейсцаў у Беларусі. Найгусьцей заселены Суражскі павет.

Галоўная маса жыхараў (85—90 %) — беларусы, патомкі даўнейшых радзімічаў, якія спрадвеку жылі ля Іпуці, а пазьней занялі і ўсходнюю частку краіны, спустошаную татарамі, аж да самае р. Дзясны і навет за Дзясною. Мова тутэйшых беларусаў досіць чыстая й харошая, хаця ў ёй і сустракаецца крыху расейскіх слоў.

Апрача беларусоў у гэтай краіне жывёць шмат (да 7 %) старавераў-маскоўцаў, якія ўцяклі сюды з Маскоўшчыны, дзе ім не давалі верыць па свойму, яшчэ ў XVII веку. Жывуць староверы найбольш у вялікіх мястэчках — пасадах і займаюцца рамёсламі, гандлем, а таксама прамысловым гародніцтвам і садоўніцтвам. Найбольш староўераў у Навазыбкаўскім павеце. Затое жыдоў у лесастэпавай краіне менш, чым на захадзе Беларусі. Так сама, як і там, насяляюць яны найбольш месты й мястэчкі і займаюцца гандлем і прамысловасьцяй.

На ўзьмежжах краіны, часткаю і ў ёй самой, спатыкаюцца тры народы, гэтак блізкіх па мове, а непадобных па характару і звычаям: беларусы, украінцы і маскоўцы. Беларусы тутэйшыя — народ працавіты, спрытны і адважны, ня гледзячы на сваю досіць нізкую ўрасласьць, благое харчаваньне, бедныя грунты. «На тых землях,— піша расейскі географ,— з якіх маскоўцы даўно ўжо паўцякалі ў адыходныя промыслы, беларусы будуюць свае надзеі з вялікаю ўпартасьцяй, энэргіяй і сталасьцяй»*).

Прамысловасьць лесастаповае краіны моцна разьвітая. З гэтага боку займае яна пасьля Беласточчыны другое мейсца.

Сярод хвабрыкаў і заводаў важнейшыя суконныя, якія знаходзяцца ў Клінцох (Сураж. пав.). Ёсьць таксама вялікія хвабрыкі сярнічак, вялізарная хвабрыка паперы ў Дабрушу, шкляныя гуты (рыс. 135), хвабрыка гарматаў і іншыя зялезныя хвабрыкі ў Бранску, асабліва-ж шмат ёсьць пенькатрапальных заводаў і аляярняў. Урэшце на паўдні краіны сустракаюцца чынныя й дагэтуль цукраварні.

З рамёслаў у Гараднянскім і Суражскім паветах пашырана ганчарства, у Навазыбкаўскім павеце шмат шаўцоў. У наддняпроўскіх мястэчках будуюць судны — дубы, абшыванкі, у м. Ветцы — лайбы, а ў пас. Ардоне Суражскага пав.— цэлых 8 майстроўняў вырабляюць павозкі.

Але ні гаспадарка, ні рамёслы, ні хвабрычная прамысловасьць лесастаповае краіны ня могуць прахарчаваць усяго яе насяленьня. Дзеля гэтага вельмі пашыраны тут адыход

---

*) Семеновъ. Живописная Россія.

на заработкі ў чужыя краі: у Данецкія капальні, на Кубань і г. д. і перасялéньне ў Сыбір.

Большая частка павéтаў лесастэпу адносілася да Чарнігаўскае губэрні, а два паветы — Бранскі й Трубчаўскі лічыліся ў Арлоўскай губ. Аднак годзе навет павярхоўнага агляду гэтага краю, каб прызнаць, што ён з рэштаю Чарнігаўскае і Арлоўскае губэрняў мае вéльмі мала супольнага. Розьніца паміж імі ня толькі тая, што тут жывуць беларусы, а там украінцы або маскоўцы; вялізарныя розьніцы ёсьць паміж іх у самай прыродзе (там чарназём) і ў характары экономічнага жыцьця.



**Рыс. 135. Шкляная гута ў Дзядзькаве Бранскага пав.**

## Важнейшыя мяйсцовасьці.

**Гомель** — найбольшае места паўднёва-ўсходняе Беларусі, шырака раскінуўся на высокім, абрывістым бéразе Сожу. У старадаўнія часы было гэта адно са значнéйшых мéстаў у зямлі радзімічаў; вялікага палітычнага значэньня, аднак, Гомель тады ня мéў. Пачаў ён моцна расьці толькі ў апошнім вéку. Гэты час налéжыў ён да магутных расéйскіх вяльможаў (Румянцавых, пасьля Паскéвічаў), якія дбалі аб яго дабрабыце. Але асабліва паднялося значэньне Гомелю пасьля таго, як праз яго прайшлі чыгункі. За апошнія дваццаць гадоў Гомель вырас утрая; цяпер ён мае каля 100 тыс. жыхараў. Выгоднае

палажэньне (рака, чыгункі, якія разыходзяцца ў 4-х кірунках, і, урэшце, шоса з Магілёва на Чарнігаў) робяць з яго вельмі важны гандлёвы пункт. Гомель вядзе бойкі гандаль лесам, пянькою, алеем, салам. Хвабрычная прамысловасьць у Гомелі разьвіваецца. Найбольш заводаў па вырабах з дрэва. Ёсьць, аднак, некалькі заводаў чыгуновых, цагельняў, маслабойняў, пільняў. А ў прадмесьці Гомеля **Новай Беліцы** (на другі бок Сожу) ёсьць вялікая хвабрыка сярнічак.

Памятнікаў старасьветчыны ў Гомелі мала. Цікавейшыя будоўлі ды памятнікі адносяцца да пачатку XIX в., калі тут



**Рыс. 136. Гомель. Замак і парк.**

гаспадарылі Румянцавы. Ад іх застаўся прыгожы замак з вялікім раскошным паркам і багатымі гістарычнымі колекцыямі (рыс. 136).

За тры мілі ад Гомеля, пры р. Іпуці, знаходзіцца аграмадная **Добрушская папяровая хвабрыка** — князя Паскевіча з $1 \frac{1}{2}$ тыс. работнікаў. Для яе руху зужыта, між іншым, вялізарная сіла р. Іпуці (гл. рыс. 25).

Вышэй Гомеля, над Сожам, знаходзіцца **м-ка Ветка**, з 12 тыс. жыхараў, найбольш жыдоў і старавераў. У гісторы

старавéраў гэтае мястэчка мéла важнае значэньне. Гэта была пéршая іхняя «слабада» ў Беларусі. Адсюль маскоўскія цары два разы высялялі, забраўшы край, цэлыя дзесяткі тысяч старавéраў назад у Маскоўшчыну*), але тыя йзноў, пачакаўшы, варочаліся, й Вéтка аджывала. Цяпéр гэта жывое гандлёвае мястэчка. Ёсьць тут каля 10 хвабрыкаў лінаў (канатаў); будуюць таксама лайбы. Разьвітае садоўніцтва.

На мяжы Гомельскага і Гараднянскага павéтаў знаходзіцца вялікі гандлёвы «пасад» **Дабранка** (з 10 тыс. жыхараў), у якім ёсьць нéкалькі гарбарняў. Гандлюе Дабранка найбольш мясною скацінаю. Над Дняпром, у вельмі харошай мяйсцовасьці, у Гараднянскім пав., на мяжы з Украінаю знаходзіцца старое мéста **Любеч**.



**Рыс. 137. Навазыбкаў.**

Заходнюю частку Гомельскага павéту займае шырокі пояс лясоў і балотаў, якія мала што не даходзяць да самага Гомеля. Гэты-ж пояс ідзéць і ўздоўж Дняпра далéй на паўдня ў Гараднянскі пав., запаўняючы блізка ўсю яго беларускую частку. Тут, між іншым, ляжаць вялікія чаротавыя балоты — Пéрыста і Замглай.

Недалёка ад Дабрушу, у Навазыбкаўскім пав., знаходзіцца пас. **Злынка** з хвабрыкамі сярнічак. Такія самыя хвабрыкі ёсьць і ў Навазыбкаве й яго ваколіцах. **Навазыбкаў** (рыс. 137) досіць значнае гандлёвае мéста з 15 тыс. жыхараў. У ім, між іншым, знаходзіцца сярэдняя тэхнічная школа і мэтэоролёгічная станцыя.

У Навазыбкаўскім павéце ёсьць яшчэ два вялікіх прамысловых пасады: **Клімаў** — з шчацінnымі заводамі і аляярнямі і

---

*) Пры імпэр. Ганьне было выселена 40 тыс. старавéраў і пры імпэр. Кацярыне II — 20.000 чал.

**Новы Ропск**, дзе шмат рамесьнікаў — шаўцоў. Апроч таго, у двары **Сафіяўцы** — вялізная хвабрыка сярнічак.

На поўнач ад Навазыбкава, у Суражскім пав., знаходзіцца пас. **Клінцы**, з 12 тыс. жыхараў,— гэты, як кажуць, беларускі Манчэстэр. Клінцы — буйны прамысловы цэнтр. У самым пасадзе й яго прадмесьцях ёсьць каля 10 суконных і ткацкіх хвабрыкаў, некалькі чыгуновых заводаў, гарбарняў, маслабойных, вяровачных заводаў. На гэтых хвабрыках працуюць каля 4 тыс. работнікаў і вырабляецца тавараў на некалькі міліёнаў рублёў у год. У Клінцох ёсьць таксама шмат дробных рамесьнікаў — ткачоў. Сам **Сураж** — невялікі горад над р. Іпуцьцю. Ёсьць у ім картонная хвабрыка.

Дзякуючы Клінцоўскаму району, Суражскі пав. найгусьцей заселены і мае найбольш разьвітую прамысловасьць ува ўсім Беларускім лесастэпе.

Мглінскі пав. у гэтай справе застаецца далёка ззаду. Сам **Мглін** — невялікае места (8 тыс. жыхараў) з 3-мя кірмашамі, на якіх ідзе торг на пяньку, алей, скацінy. **Почап**, на р. Судасьці, пры чыгунцы, — прамысловае мястэчка. Вядзе бойкі гандаль пянькою, мае каля 10 пенькатрапальных заводаў і вялікую аляярню. У суседнім двары вялізарны сад, табачныя плянтацыі і хмяльнікі.

Мглінскаму і асабліва Суражскаму паветам не хапае хлеба для прахарчаваньня жыхараў. З гэтага боку Старадубскі павет знаходзіцца ў лепшым палажэньні і яму свайго хлеба хапае. **Старадуб** — цяпер ціхое, заросшае садамі места, меў, знаходзячыся на самым краі Беларусі, вельмі бурную гісторыю. Гандаль яго з ростам пасадаў зьменшыўся. Гандлюе збожжам і пянькою. Насяленьня каля 12 тыс. Ад ст. Унеча да Старадубу праведзена вузкакалейная чыгунка.

Старадубскі павет мае слаба разьвітую прамысловасьць. У пас. **Ялёнцы** ёсьць некалькі шчацінных і пенькатрапальная хвабрыка. У Старадубскім павеце разьвітае хатняе ткацтва палатна й сарпінак. З-пад с. **Рахманава** выйшла адна з першых беларускіх пясьнярак М. Косіч, якая напісала й выдала некалькі кніжок вершаў у мове старадубскіх беларусаў.

У Ноўгарад-Северскім пав. над р. Дзясною, пры вусьці р. Судасьці ляжыць мястэчка **Грамяч** з 3000 жых., дзе спатыкаюцца тры народы — беларускі, украінскі і маскоўскі. На паўдня ад Грамяча, аж да самога Ноўгарад-Северску беларусы жывуць, перамяшаўшыся з украінцамі.

Беларуская частка Трубчаўскага пав. асабліва вядома са сваёй пянькі, якая лічылася найлепшаю ў Расеі. З промыслаў тут разьвітыя лясныя — сплаў па р. Дзясьне і будоўля на ёй судзінаў.

**Трубчаўск** з 7 тыс. жыхараў, на высокім правым беразе Дзясны, мае шмат дробных хвабрыкаў: пенькатрапальных, аляярняў, хвабрыкаў лінаў (канатаў) і вядзé значны гандаль пянькою і алéем, а таксама й лéсам з Адэсаю й Рыгаю.

Над Дзясною ў надзвычайна прыгожай мяйсцовасьці, сярод гораў і глыбокіх яроў, ляжыць самае ўсходняе беларускае мéста **Бранск** (рыс. 138). Вéльмі старое гэтае мéста было ў даўнéйшыя часы (XIV—XV вéк) апораю Беларуска-Літоўскае дзяржавы на ўсходзе. Ад сівое старасьвéтчыны засталося ў ім крыху памятак, сярод якіх асабліва вызначаецца Сьвéнскі манастыр, што стаіць ля места на высокай гары, абкружанай ярамі. Манастыр гэты далёка вядомы ў ўсходняй Беларусі: за сотні вёрст зыходзяцца сюды багамольцы.



**Рыс. 138. Бранск над Дзясною.**

Бранск — значнае прамысловае й гандлёвае места. Ёсьць у ім вялікі завод гарматаў, нéкалькі пенькатрапальных, канатных заводаў, пільняў, аляярняў. Бранская прыстань на р. Дзясьнé сплаўляе шмат лéсу, алéю, пянькі. Як раз ад Бранску (процi яго ляжыць вусьце р. Болвы) Дзясна робіцца судаходнаю, бо вышэй яна запруджаная бярвéньнем, якое сплаўляецца па ёй розсыпам. Бранск урэшце значны й важны чыгункавы вузел: з яго чыгункі разыходзяцца ў 6-х кірунках.

З паўночнага захаду ў Бранскі павет уваходзіць Дняпроўскае ўзгор'е, на якім тут знаходзяць вельмі многа фасфарытаў; апроч таго, тут на берагох Дзясны ламаюць камень, крэйду, вапну. Узгор'е цягнецца ўздоўж берагу Дзясны, пакрытае досіць ураджайнымі грунтамі і густа заселенае. На захад ад яго на беднай пяшчанай раўніне разьлеглася Акуліцкая пушча (каля 80 тыс. дзесяцін лесу), да якой навет праведзена зумысьле чыгунка (Жукаўка — Косаўка). Лясы тут хваёвыя, грунты пяшчаныя, шмат выдмаў; насяленьне вельмі рэдкае, зарабляе ў лесе, гоніць смалу, дзёгаць, паліць вугаль і г. д.

Тым часам, як правы бераг Дзясны ў Бранскім і Трубчаўскім пав. высокі, зрэзаны ярамі, левы бераг, наадварот, — нізінны, роўны, пакрыты пяшчанымі грунтамі, на якіх парасьлі аграмадныя Бранскія лясы, што цягнуцца далёка на ўсход у Калужскую губэрню (Жыздрынскі пав.). Лясы гэтыя заселены палехамі, якія паводле мовы сваёй ёсьць пераходным племям ад беларусаў да маскоўцаў, а па звычаям жыцьця найбольш зблiжаныя да беларусаў*).

Сярод гэтых лясоў над р. Болваю здабываюць добрую зялезную руду; тут-жа павырастала шмат вялікіх заводаў (**Мальцаўскія заводы**) і праведзена знарок чыгунка. З гэтых заводаў асабліва важны — рэльсавы, які выробляе тавару на 5 міліёнаў руб. у год, і крышталёвыя ды шкляныя гуты, якія выробляюць тавару на $1^1/_2$ міліёны. Ёсьць яшчэ некалькі чыгуновых і зялезных заводаў. Усе Мальцаўскія заводы выробляюць тавараў у год больш, як на 7 міліёнаў руб. Цэнтр гэтых заводаў знаходзіцца ў с. **Дзядзькаве** Бранскага пав. (рыс. 135), а капальні руды (шахты) найбольш у Жыздрынскім пав.

---

**РАДАНЬ** (ПАЎДНЁВАЯ МАГІЛЕЎШЧЫНА). На поўнач ад краіны Беларускага лесастэпу ляжыць рад паветаў, рэдка заселеных, з благімі, найбольш пяшчанымі, грунтамі: **Рагачоўскі, Быхаўскі, Чэрыкаўскі, Клімавіцкі** і **Рослаўскі**. Маюць яны, аднак, шмат супольнага з толькі-што разгледжанаю краінаю лесастэпу, асабліва з яго пяшчанымі лясістымі мяйсцовасьцямі, якіх там гэтак шмат на захадзе ды ў далінах рэк. З другога боку, і ў Радані сярод безканечных пяскоў, паабрастаўшых хваінаю, спатыкаем мы нярэдка, асабліва на ўсходзе краіны, значныя ваставы багатых лёссавых грунтоў, на якіх у старадаўнія часы, пэўне, былі паляны сярод

*) Тыпы палехаў добра апісаныя Тургеневым у «Запісках паляўнічага» і Семёновым у «Живописной Росіи». Ад маскоўцаў яны, паводле слоў гэтых аўтараў, гэтак розьняцца, што пасьля некалькі слоў у палеху можна пазнаць «чалавека саўсім асаблівае пароды». Народ гэты здаровы, працавіты, прамысловы. У звычаях, характары і мове іх ёсьць шмат цікавых асаблівасьцяй.

бязьмежных пушчаў. З гэтае прычыны Радань навет можна было-б лічыць часткаю лесастэпу. Аднак успомненыя выспы лёссавых грунтоў займаюць тут значна меншыя прасторы, чым на паўдні. Тады, як на паўдні ў часы дагістарычныя і на пачатках гісторыі паляны йгралі значную ролю і, быць можа, панавалі над пушчаю, тут было бязумоўнае панаваньне пушчы. Сярод гэтых-то пушчаў над Сожам жыла галоўная маса плямені радзімічаў, дзеля чаго мы й назвалі краіну гэтую Раданьню, зямлёю радзімічаў. Пашыраючыся адгэтуль на ўсход і паўдня, радзімічы колёнізавалі Беларускі лесастэп і дайшлі да Дзясны. Такім чынам паміж абедзьвяма краінамі ёсьць навет пэўная племянная і гістарычная сувязь. Аднак і розьніцы вялікія — гушчыня насяле́ньня ў Радані значна меншая, і склад яго — чысьце́йшы беларускі, прамысловасьці блізка што няма, гандаль слабы і г. д. Усё гэта стварае з Радані, прынамся пры сучасным яе́ палажэньні,— асобную краіну.

Паўночную мяжу краіны творыць Дняпроўскае ўзгор'е. Паве́рхня краіны роўная (Раданская раўніна), ды ве́льмі ступянёва зьніжаецца ад Дняпроўска́га ўзгор'я на паўдня, аж да ўзгор'яў лесастэпу. Толькі правыя берагі рэк значна паднятыя над ваколіцаю. Усход краіны (Рослаўскі паве́т) высака падняты і ўзгоркаваты з тае́ прычыны, што ў яго заходзяць часткі Дняпроўскага ўзгор'я (Рослаўскія вышыні), адыходзячыя сюды ад Ельнінскага вузла. Самаю нізкою часткаю краіны зьяўляецца захад яе́ — Быхаўскі і Рагачоўскі паве́ты, якія маюць у сабе́ шмат падобнага да суме́жнага Пале́сься, але адзначаюцца ад апошняга большай гушчынёю насяле́ньня.

Важнейшымі рэкамі краіны зьяўляюцца: Сож, які са сваімі прытокамі Астром, Бе́сядзьдзю ды Іпуцьцю абвадняе большую, усходнюю, часьць краіны, і Дняпро з Друцьцю, якія маюць вялікае значэньне для заходняе часткі.

Паводле грунтоў краіну можна лічыць пераходнаю. На ўсходзе яе́ трапляецца досіць часта лёсс. Дзярновыя суглінкі на лёссе займаюць значныя прасторы ў Рослаўскім паве́це, а на мяжы Клімавіцкага і Чэрыкаўскага паве́таў ляжыць навет досіць значны востраў шэрых суглінкаў. З поўначы заходзяць звычайныя дзярновыя суглінкі на морэнных глінах і займаюць значную часьць прастору, які ляжыць паміж Сожам і Дняпром. Урэшце, з захаду заходзяць у краіну аграмадныя прасторы пяскоў і балотаў. Яны займаюць заходні задняпроўскі кавалак краіны, робячы там саўсім пале́скую мяйсцовасьць. А таксама пяшчаныя грунты займаюць блізка ўве́сь прастор, які ляжыць на ле́вым бе́разе Сожа, апрача востраву шэрых суглінкаў.

У Рослаўскім паве́це, ня гле́дзячы на яго паднятае палажэньне, спатыкаецца шмат балотаў — імшараў.

Супяскаў найбольш у Рослаўскім паве́це, у Рагачоўскім пав. паміж Дняпром і Сожам і ў Быхаўскім пав. — на правым бе́разе

Дняпра. Апроч таго, над Дняпром і Сожам моцна разьвітыя рачныя наносныя грунты. Пяшчаныя грунты тут, як і ўсюдых, найбольш занятыя хваёвымі барамі. У Рагачоўскім-жа пав. спатыкаецца досіць многа ліставых — дубовых і іншых лясоў.

Лясоў у краіне ёсьць, наагул кажучы, досіць многа. Саўсім нядаўна Радань можна было назваць Палéсьсем. Цяпéр лясы вéльмі моцна падцярэбленыя. За апошнія 20 гадоў, прыкладам, прастор лясоў у Чэрыкаўскім павéце зьмéншыўся на палавіну і гэты павéт стаўся адным з найбольш бязьлéсных у Беларусі.

Вызначаючыся сярод сусéдніх краінаў сваім рэдкім насяле́ньнем, павéты Радані з гэтага боку розьняцца і між сабою.



**Рыс. 139. У Магілéўскай вёсцы Таечкі (прыяцелькі).**

Найгусьцéй засéлены Клімавіцкі павéт, найрадзéй Быхаўскі і Рагачоўскі, якія з'яўляюцца пераходнымі да Палéсься. Рэдкая насялённасьць краіны тлумачыцца, між іншым, недахватам зялéзных дарогаў, якія йдуць толькі праз Рослаўскі ды заходнія часткі Быхаўскага й Рагачоўскага павéтаў. Усход-жа абодвых апошніх павéтаў і навет цэлыя Клімавіцкі і Чэрыкаўскі павéты зусім ня маюць чыгунак на сваіх прасторах. Ад павéтавага мéста Чэрыкава да чыгункі найбліжэй 75 вёрст. Да таго-ж па Сожы параходы ходзяць толькі да Прапойску. Толькі шосы крыху аджыўляюць гэтую глухую краіну, асабліва Маскоўска-Варшаўская, якая йдзé якраз цераз сярэдзіну Радані.

Недахват шляхоў вéльмі блага адбіваецца на экономічным жыцьці. Гаспадарка стаіць у краіне нізка. У Клімавіцкім

і Чэрыкаўскім павéтах, напрыклад, аруць сахамі, а плугі толькі пачынаюць заводзіць.

З прычыны пяшчаных грунтоў усюды сéюць шмат грэчкі й бульбы. У Чэрыкаўскім і Клімавіцкім паветах бульбы садзяць мала. Затое грэчкі там надзвычайна многа. У усходняй часьці краю таксама, як і ў сусéднім лесастэпе, сéюць шмат канапéль і прадаюць пяньку. У Рослаўскім павéце сéюць шмат лёну. У заходніх паветах добра разьвітае садоўніцтва, шмат прамысловых садоў, а ўва ўсёй краіне наагул — пчалярства.

Хатнія рамёслы і промыслы ў краіне пашыраныя, асабліва ў Клімавіцкім пав. Хатняе ткацтва вéльмі пашыранае ўжо дзеля таго, што сяляне тут найбольш носяць вопратку свайго вырабу. Моцна разьвітыя лясныя промыслы й рамёслы дзераўляных вырабаў — усялякага судзьдзя й начыньня, павозак, рашотаў, бёрдаў, гонтаў, сталярка. Шмат людзéй займаецца драньнём лыкаў, гоніць смалу й дзёгаць. Дзе-ня-дзе займаюцца ганчарствам, палюць вапну. А ў Рослаўскім павéце здабываюць фасфарыты, вéльмі карысныя для гнаéньня зямлі, і мéлюць іх у спэцыяльных млынох.

Хвабрычная прамысловасьць развітая вéльмі слаба. Найбольш у краіне ёсьць бравароў, асабліва ў Клімавіцкім, Рагачоўскім і Рослаўскім пав. Шмат ёсьць таксама пільняў і шкляных гутаў. Хвабрычная прамысловасьць найбольш разьвітая ў Рослаўскім павéце, дзе на хвабрыках працуе каля 2000 работнікаў, тым часам, як іншыя павéты маюць толькі па нéкалькі сотняў хвабрычных работнікаў.

Ні гаспадарка, ні прамысловасьць краіны ў іхнім цяпéрашнім стане ня могуць прахарчаваць усяго прырастаючага насялéньня. Дзеля таго тут надта пашырыўся адыход на старану, асабліва на Данéцкія капальні, і перасялéньне. Найбольш моцны адыход з Клімавіцкага, Чэрыкаўскага і Рослаўскага павéтаў.

Гісторыя радзімічаў мала дасьлéджаная. Аб багатай падзéямі мінуўшчыне краіны сьвéдчаць толькі старыя гарадзішчы ды курганы, раскіданыя сярод лясоў і непраходных балотаў. Па бéразе Дняпра ў мéжах краіны курганы цягнуцца безперарыву.

Важнéйшыя мяйсцовасьці. **Рослаў** даўней быў значным гандлёвым цэнтрам: таргаваў воскам і мёдам з Нямеччынай. Цяпер таргуе найбольш збожжам, ляснымі таварамі і пянькою. Хвабрычная прамысловасьць слабая — ёсьць 2 аляярні ды 2 гарбарні. Жыхараў каля 20 тысячаў.

З мястэчак Рослаўскага павéту трэба адзначыць **Рагнéдзіна** (на паўд.-ўсход. ад Рослаўля), у якім ёсьць каля $1^1/_2$ тысячы прамысловага й гандлёвага насялéньня. У Рагнéдзіне ёсьць дзьвé аляярні, гарбарня, пенькатрапальны завод і інш. Гандлюе мястэчка хлéбам, пянькою і алеéм.

Недалёка ад мястэчка, пры в. **Сéшчы** , здабываюць фасфарыты і тут-жа іх мелюць на невялікіх заводах.

Рослаўскі павéт ляжыць у мяйсцовасьці досіць высака паднятай, на ўзгор'і, якое стварае тут правы высокі бéраг Дзясны, працякаючае па ўсходняй мяжы павéту, і дзéліць тут басэйны Дзясны й Сожу. Ня глéдзячы на гэта, павет моцна балоцісты. Балоты тут найбольш імховыя. З грунтоў найбольш пашыраныя лёгкія супяскі ды пяскі. Каля Рослаўля, на ўсход ад яго, ёсьць шырокі пояс грунтоў ураджайных, суглiністых, ляжачых і на лёссе, і на морэнных глінах.

Рослаўскі павет адзін з пéршых у Беларусі па сваіх мінэральных багацьцях. У ім знаходзяцца самыя значныя залежы фасфарытаў. Апроч фасфарытаў здабываюць тут ячшэ буры вугаль, горны воск, зялéзную руду і г. д.

Прамысловасьць досіць разьвітая. Пашыраны ўсякія лясныя промыслы (у павéце шмат лясоў). Сярод хвабрыкаў найбольшае значэньне маюць шкляныя гуты (ёсьць вялікая гута з 350 работнікамі і нéкалькі малых), пільні й бравары. Спатыкаюцца гарбарні, аляярні і інш. Даўней былі тут і цукраварні.

У гаспадарцы важнае мейсца займаюць каноплі й лён, а таксама бульба. Досіць разьвітае пчалярства. Даўнéй павет далёка быў вядомы з свайго мёду й воску.

Сусéдні з Рослаўскім Клімавіцкі павéт — адзін з найбяднéйшых у Беларусі. Блізка ўвéсь павéт пакрыты пяшчанымі грунтамі, і толькі на паўднёвым захадзе, над р. Бéседзьдзю, знаходзіцца востраў шэрых суглінкаў. У павéце досіць пашыраныя хатнія рамёслы, хвабрычная-ж прамысловасьць разьвітая вéльмі слаба. Гаспадарка стаіць нізка; значная частка насялéньня шукае зарабаткаў на старанé.

Павéтавае мéста **Клімавічы** — вéльмі малéнькае (8 тыс. жыхараў), і цікавага ў ім мала. З мястэчак найбольшыя — Шумячы, Хацімск і Касьцюковічы. **Шумячы** (з 5 тыс. жыхараў) і **Хацімск** ляжаць на мяжы Рослаўскага павéту. **Касьцюковічы** ляжаць над Бéседзьдзю ў прыгожай мяйсцовасьці. У Шумячох і Касьцюковічах досіць разьвітае гарбарства.

Чэрыкаўскі павет мае шмат супольнага з Клімавіцкім. Сож дзéліць павéт на паўночную і паўднёвую частку. Паўднёвая мае такія-ж бéдныя, як і ў Клімавіцкім пав., пяшчаныя грунты, з раскіданымі сярод іх астраўкамі шэрых суглінкаў. Паўночная палавіна павéту мае лепшыя, суглiністыя грунты. Ня глéдзячы на тое, і тут гаспадарка стаіць нізка, прамысловасьць няразьвітая, пашыраны адыход на чужыну. Галоўная прычына — дальнасьць чыгункаў.

Апроч самага **Чэрыкава** (з 5 тыс. жыхараў), досіць старога, але закінутага гарадка над Сожам, у павéце лічуцца важнéйшымі мястэчкамі Крычаў і Краснапольле.

**Крычаў** (рыс. 140) на высокім бéразе С о ж у — вельмі старое мястэчка, якога, лічуць, залажылі крывічы, дзеля чаго ён нібы й называўся К р ы в і ч а ў. Цяпер у ім 6 т ы с. насяленьня, вядзецца досіць бойкі гандаль з б о ж ж а м, п я н ь к о ю, л ё н а м. Ёсьць 4 гарбарні.

**Краснапольле**, невялікае мястэчка на паўдні павéту, мае ў сабé нéкалькі прамысловых закладаў, між якіх вызначаецца картонная хвабрыка.

Б ы х а ў с к і п а в é т у заходняй сваёй часьці мае пяшчаныя грунты, а ў ўсходняй, паміж Дняпром і Сожам, найбольш суглiністыя. У ім захавалася досіць многа лясоў. Насялéньне жывé ня вéльмі густа. Разьвіты лясныя промыслы, а хвабрычныя слаба. Шляхоў досіць многа: чыгунка, 3 шосы, рэкі — Дняпро і Сож. Гаспадарка стаіць тут ляпéй, чым у двох папярэдніх павéтах.



**Рыс. 140. К р ы ч а ў.**

**Стары Быхаў** над Дняпром быў нéкалісь аднéй з мацнéйшых крэпасьцяў Беларусі. На памяць аб гэтым часе засталіся толькі земляныя валы, нéкалькі старых гарматаў ды замак тутэйшых магнатаў — Сапегаў, у якім маскоўскія ўлады зрабілі вастрог (рыс. 141). Ёсьць тут дробныя гарбарні і аляярні. Насялéньня каля 7 тыс. чал.

З мястэчак Быхаўскага павету найбольшае — **Прапойск**, які ляжыць над Сожам і мае прыстань. Гэта стары горад радзімічаў. Недалёка ад яго знаходзіцца р. П і ш ч а н а, над якою радзімічы былі ў бітве параможаныя ваяводаю кіеўскім Воўчым Хвастом, пасьля чаго гэтае беларускае плямя на заўсёды страціла сваю самастойнасьць. У Прапойску ёсьць нéкалькі дробных заводаў (кахляныя, канатныя ды інш.). Значны гандаль лéсам.

**Рагачоў** нале́жыць да ме́стаў, якія за апошнія гады, пасьля правядзе́ньня чыгунак, ве́льмі моцна ўзрасьлі. Насяле́ньне Рагачова вырасла ў 3 разы; цяпе́р яго лічыцца каля 25 тыс.



**Рыс. 141. Стары Быхаў. Замак. Валы.**



**Рыс. 142. Жлобін.**

Ляжыць Рагачоў у прыгожай мяйсцовасьці, на правым бе́разе Дняпра, пры вусьці Друці. Вядзе́ значны гандаль л е́ с а м і я б л ы к а м і; прамысловасьць у ім разьвітая слаба.

З мястэчак Рагачоўскага пав. вызначаюцца: Жлобін і Чачэрск.

**Жлобін** (рыс. 142), над Дняпром пры вузлавой станцыі чыгункі, досіць вялікае мястэчка і прыстань. Вядзé Жлобін значны гандаль хлéбам, пянькою, лёнам і лéсам. Жыхараў больш 3 тыс. чал. Выгоднае географічнае палажэньне абяцае яму шырокае разьвіцьцё.

**Чачэрск**, у досіць глухой мяйсцовасьці над Сожам, з параходнаю прыстаньню. Мястэчка гэтае досіць старое. Ёсьць тут вéльмі цікавы будынак ратушы, на 4 павéрхні, пабудаваны ў готыцкім стылю. Чачэрск скупляе ў ваколіцы хлéб, пяньку й лён.

Рагачоўскі павéт мае грунты найбольш пяшчаныя й супяшчаныя, і толькі на паўдні яго трапляюцца часамі суглінкі. У заходняй часьці, сусéдняй з Палéсьсем, шмат чаротавых балотаў. Лéсу досіць многа. Насéлены слаба. Гаспадарка вядзéцца досіць добра, садзяць шмат бульбы, моцна разьвітае садоўніцтва, прычым шмат яблыкаў вывозілася навет заграніцу. У павеце досіць многа пільняў, бравароў і крахмальняў. Ёсьць таксама вялікая шкляная гута. Шмат насялéньня зарабляе ў лéсе і на сплаве.

---

## VII. Дняпроўскае ўзгор'е.

На паўночны захад ад вéрхняга й сярэдняга Сожу мяйсцовасьць значна вышэе, робіцца зыбістаю. З Раданскае лясістае раўніны мы падыймаемся на Дняпроўскае ўзгор'е, густа засéленае і малалéснае. Дняпро, аднак, дзéліць павéты, што ляжаць на гэтым узгор'і, на дзьвé краіны, між якімі ёсьць значныя розьніцы. Тады, як левабéражныя павéты (Мсьціслаўшчына) асабліва вызначаюцца гушчынёю свайго насялéньня, земляробскім характарам і малалéснасьцяй, правабéражныя павéты (Варшанская краіна) маюць усé гэтыя прымéты значна слабéй выяўленымі; лясоў там, прыкл., ня мéнш, чым у Радані. Варшанская краіна наагул па прыродзе сваёй зьяўляецца пераходнаю да сумéжных морэнных краінаў — Віцебшчыны ды Полаччыны. За тым-жа мы будзем разглядаць абéдзьве гэтыя краіны асобна.

---

**МСЬЦІСЛАЎШЧЫНА.** Мсьціслаўшчынаю мы называем землі, што ляжаць на Дняпроўскім узгор'і, на ўсход ад Дняпра, а значыць, павéты **Гарэцкі, Мсьціслаўскі, Чавускі** Магілéўскае губэрні ды **Красенскі** пав. Смалéнскае губ. Мяйсцовасьць тут мае няроўны, узгоркаваты, а часамі й моцна пасéчаны выгляд.

Дняпроўскае ўзгор'е ў Мсьціслаўшчыне дахо-дзіць высачыні 120 сажняў. Даліны рэк зрэзуюць яго ўва ўсіх кірунках, адкрываючы часта старыя геолёгічныя пласты і значна прахарошуючы мяйсцовасьць. Дняпро служыць мяжою Мсьціслаўшчыны з поўначы й захаду. Лéвы бераг яго, належачы да краіны, — высокі, стромкі, зрэзаны ярамі.

Мсьціслаўшчына славіцца ўраджайнасьцяю грунтоў. Блізка што па ўсёй краіне заляглі багатыя суглінкі. Прычынаю іх ураджайнасьці лічаць тое, што пад грунтам ляжаць тут слаі маргелю. Толькі каля большых рэк цягнуцца шырокія паясы пяскоў. Сустракаюцца таксама й супяскі. Урэшце каля Мсьціславу ёсьць досіць вялікі востраў лёссу, на якім ляжаць шэрыя суглінкі. Гэта, бадай, ці не самы паўночны востраў лёссу ў Беларусі. Балотаў сустракаецца мала, і займаюць яны невялікія прасторы. Таксама блізка няма й вазёраў.

У лясох Мсьціслаўшчыны расьцé найбольш éлкі (на захадзе). На ўсходзе краіны (Мсьціслаўскі пав.) у лясох вéльмі многа бярозы. Лясоў тут наагул небагата — каля 25 % агульнага прастору. Займаюць яны, вéдама, горшыя грунты, бо лепшыя — даўно расьцярэбленыя і заворатыя. Найбольш лясісты павéт Чавускі, але й там лясоў ня больш 28 %.

Клімат Мсьціслаўшчына мае ўжо досіць халодны. Сярэдняя гадавая тэмпэратура каля +4,5°. Да таго-ж клімат гэты ўжо збліжаецца крыху да контынэнтальнага клімату Маскоўшчыны. Некаторыя географы лічаць навет, што ўжо на ўсход ад Мсьціслаўшчыны клімат мае выразна-контынэнтальны характар*). Ападкаў бывае ў сярэднім каля 500 мілл. ў год. Садам, і наагул гаспадарцы, тут ужо значна шкодзяць позьнія (у канцы вясны) прымаразкі.

Мсьціслаўшчына — тыповая земляробская краіна. Гаспадарка тут, аднак, стаіць ня вéльмі высака. Галоўная прычына гэтага — адсутнасьць шляхоў. Гэтую багатую краіну не пераразае ні адна чыгунка, а ні шоса. Усé чатыры павéтавыя мéсты ляжаць за дзесяткі вёрст ад бліжэйшае станцыі. Вадзяныя шляхі таксама маюць малое значэньне. Дняпро й Сож ідуць па мяжы краіны, а больш значных судаходных рэк няма. Няма ў краіне й вялікіх мéстаў. Пры такіх варунках збыт прадуктаў гаспадаркі ня лёгкі, а дзеля таго і стаіць яна нявысака. У сялянскіх гаспадарках часта яшчэ аруць сохамі, аб палéпшаных машынах ня знаюць, штучных гнаёў ня ўжываюць. Аднак бліжэй да зялéзных дарогаў гаспадарка выглядае лéпш. У кожным разе гаспадарка далéй на ўсход — яшчэ горшая.

З ярыны сеюць тут шмат аўсу, ячмéню й бульбы. У Мсьціслаўскім павéце сеюць вельмі многа грэчкі (на

---

*) З гэтым згодзіцца нéльга: гл. клімат Смалéншчыны.

паўдні павету, за Сожам, ляжаць пяскі), а ў Красенскім сеюць шмат лёну. У гэтых-жа двох паветах сеюць шмат канопляў.

Садоў у краіне шмат, асабліва ў Красенскім пав. Трапляюцца й вялікія прамысловыя гароды.

Гадоўля скаціны і коней пастаўлена досіць добра. Ёсьць шмат скаціны палепшаных пародаў. У Красенскім павеце разьвіта сыраварэньне і выраб масла.

З мінэральных багацьцяў, якія мае краіна, трэба адзначыць перад усім гліны, якія ў некалькіх мяйсцох далі магчымасьць разьвіцца кахельным і ганчарным рамёслам. Здабываюць тут таксама вапну — каля Мсьціславу, Дрыбіна (Чавускага пав.). У Красенскім (каля в. Пацёмкіна) і Гарэцкім пав. знаходзяць охру. Урэшце ў Мсьціслаўскім павеце (каля в. Вялікае Слабады) і ў Чавускім (каля в. Слабады) ёсьць зялёзістыя крыніцы.

Хвабрычная прамысловасьць у краіне нязначная. Толькі ў Гарэцкім павеце ёсьць ткацкія хвабрыкі — у м. Дуброўне, і кахляныя — у м. Копысі. Ёсьць яшчэ досіць бравароў.

Дзякуючы сваім прыродным асобнасьцям, краіна заселена была вельмі рана. Гісторыя застае тут ужо гарады крывічоў (а на паўдні — радзімічаў), якія былі ў залежнасьці то ад Полацку, то ад Смаленску. Асаблівае ролі, аднак, у гісторыі краіна ня йграла; як і цяпер, была яна ўвесь час досіць глухою стараною. Цяпер краіна заселена досіць густа, шмат гусьцей, чым усе іншыя краіны навакола. На 1 кв. вярсту выпадае да 60 чал. (у Гарэцкім пав.). Насяленьне ўсё — чыста беларускае, апрача жыдоў, якіх тут жыве, агулам лічачы, каля 10 % (у Красенскім пав. жыдоў няма саўсім).

У заходніх паветах краіны ёсьць шмат мястэчак, у якіх квітнуць рамёслы і йдзе бойкі гандаль. У Красенскім пав., як і ў усей Смаленшчыне і ў Расеі, мястэчак няма. Гэта вельмі дрэнна адбіваецца на яго экономічным жыцьці. Гандаль там ідзець найбольш на ярмарках, якія ад часу да часу зьбіраюцца ў большых вёсках.

Важнейшыя мяйсцовасьці. Мсьціслаў (рыс. 143) — адно з старэйшых беларускіх местаў. Успамінаецца аб ім першы раз у XII веку. Быў ён сталіцаю асобнага князьства, пасьля належыў да Смаленскага князьства і ўрэшце апынуўся пад Літвою. У XVI веку яго зрабілі галоўным местам Мсьціслаўскага ваяводзтва — самае ўсходняе з земляў Рэчы Паспалітай. Дзякуючы такому свайму палажэньню, шмат цярпеў Мсьціслаў ад маскоўцаў. І дагэтуль яшчэ народ помніць аб страшной «Трубяцкой разьні».

У 1654 г., калі Масква сабралася з сіламі, каб адабраць усходнюю Беларусь, цар Аляксей паслаў ваяводу Трубяцкога на Мсьціслаў. Быў Мсьціслаў тады багатым і вялікім местам, разы ў тры большым, чым цяпер. Пасьля героічнае абароны (рыс. 144) Мсьціслаў паддаўся. Тады люты маскоўскі ваявода

загадаў перабіць усіх жыхараў мéста, што і было споўнена. Мала каму ўдалося ўцячы і схавацца. З таго часу мсьціслаўцаў сталі называць «недасéкамі».

У нашыя часы Мсьціслаў — невялікі правінцыяльны гарадок — з 10 тыс. жыхараў; вядзé гандаль пянькою, збожжам і коньмі. Ляжыць Мсьціслаў у вéльмі прыгожай мяйсцовасьці, зрэзанай ярамі. Гістарычных памятак засталося ня шмат. Засталася высокая, абкружаная глыбокім ровам, Замковая гара. Ёсьць яшчэ і другая замковая гара — Дзявочая гара, дзе ў часы паганскія была, пэўне, бажніца. З старых будынкаў



**Рыс. 143. Мсьціслаў.**

ёсьць касьцёл і праваслаўны Тупічаўскі (у прадмесьці Тупічаве) манастыр, пабудаваны ў XVI веку.

З мястэчак Мсьціслаўскага пав. найцікавéйшае **Хіславічы.** Ляжыць яно над р. Сожам, на мяжы з Рослаўскім пав. Жыхараў у ім каля 5 тыс. Хіславічы вядуць торг збожжам і лёнам, скупляючы іх галоўным чынам у сусéдніх Рослаўскім і Красéнскім павéтах.

Мсьціслаўскі пав. — чыста земляробскі. На паўночным захадзе мае ён грунты сугліністыя, далéй на паўдня — аж да Сожу — йдуць шэрыя суглінкі на лёссе, а за Сожам

ляжыць значны кавалак бе́дных пяшчаных грунтоў. Сяляне се́юць шмат канапе́ль і грэчкі.

У Чавускім паве́це ёсьць не́калькі ве́льмі старых мястэчак, як, прыкладам, **Радамля**, даўне́й досіць вялікае ме́ста, як лічаць навет, сталіца радзімічаў. Цяпе́р толькі старое гарадзішча прыпамінае аб мінуўшчыне. **Чавусы** — таксама досіць стары г а р а д о к, з 6 тыс. насяленьня. Вырас ён, як і некаторыя іншыя мястэчкі, на ўсходзе Магіле́ўшчыны, каля каталіцкага манастыру; манастыру гэтага даўно ўжо няма: яго закрылі расе́йцы ў мінулым ве́ку.



**Рыс. 144. Узяцьце Мсьціславу ў 1654 г. маскоўскім войскам** (направа — Замковая гара з Замкам).

Найбольш жывое мястэчка ў Чавускім павеце — гэта **Дрыбін**. Насяле́ньне гэтага мястэчка й яго ваколіцаў досіць прамысловае. Займаецца яно апроч гаспадаркі вырабам кахляў, усякімі дзераўлянымі вырабамі, а галоўнае ш а п а в а л ь с т в а м. Дрыбінскія шапавалы слаўныя на ўсю ўсходнюю Беларусь. Робленыя імі шапкі м а г е́ р к і толькі апошнія часы пачала выцясьняць з ужытку хвабрычная тандэта.

Заходняя частка Чавускага павéту пакрытая лёгкімі пяшчанымі і супяшчанымі грунтамі, на якіх яшчэ засталося шмат лéсу. Рэшта-ж павéту мае сугліністую зямлю і чыста землеробскі характар.

Такі-ж характар мае й сумéжны з Чавускім Гарэцкі павéт. Гаспадарка тут стаіць досіць добра, дзякуючы ўраджайным грунтом і больш выгоднаму збыту: у павéце ёсьць шмат вялікіх мястэчак, ды й чыгункі блізка праходзяць. Грунты Гарэцкага павéту сугліністыя і толькі ўздоўж Дняпра цягнуцца пяскі.

**Горкі** (або Гарыгоркі) — найбольш слаўныя сваймі школамі. Даўнéй быў тут вышэйшы агрономічны інстытут, які мéў вялікае значэньне ў экономічным і культурным жыцьці Беларусі. Сярод прафэсараў яго былі такія навучоныя, як Людагоўскі, Стэбут ды інш., якіх працаю створана расéйская агрономічная навука. У 1863 г. расéйцы закрылі Гарыгарэцкі інстытут і перанéсьлі яго габінэты ў Пецярбург. А на мéйсцы інстытуту адкрылі сярэднюю ўжо агрономічную школу, якая істнуе й дагэтуль. Пры школе ёсьць завод гаспадарскіх машынаў, конскі завод, вялікі фруктовы сад і цудоўны парк. Істнуе, апроч таго, ў Горках каморніцкая школа. Жыхараў у Горках каля 7 тысячаў.

На захадзе Гарэцкага пав. над Дняпром ляжыць старасьвéцкае мéста **Копысь**, з 4 тыс. жых. Істнаваў ён яшчэ ў XI вéку і налéжыў тады да Полацку. Пасьля яго шмат разоў палілі маскоўцы. Са старасьвéтчыны тут засталося дагістарычнае яшчэ гарадзішча і вéльмі старая (найстарэйшая ўва ўсёй Магілéўшчыне) царква. Копысь у нашыя часы найбольш славен сваймі кахлянымі заводамі, якіх у ім ёсьць больш дзесятку і на якіх працуе каля 500 работнікаў. Ёсьць, апроч таго, пры ім прыстань на Дняпры.

**Дуброўна**, з 8 тыс. жыхараў, знаходзіцца ў вясёлай мяйсцовасьці сярод вялікіх лясоў. Мястэчка гэта асабліва вядомае тым, што тут спрадвéку ткуць жыдоўскія талясы (рэлігійная адзéжына). Істнуе нéкалькі ткацкіх хвабрыкаў, спаміж каторых адна вялікая, з 500 работнікамі. Апроч таго, ля мястэчка здабываюць вапну. На Дняпры ёсьць тут бойкая прыстань і вэрф, дзе будуюцца баркі. У ваколіцах разьвітае садоўніцтва.

Урэшце на мяжы з Красенскім павéтам знаходзіцца мяст. **Ляды**, у якім каля 8 тыс. жыхараў. Гэта вéльмі гандлёвае мястэчка. Таргуе найбольш пянькою й лёнам. Ёсьць у ім вялікі завод, дзе трэплюць пяньку.

У Красенскім павéце, як мы ўжо казалі, няма мястэчак і няма таго бойкага тарговага элемэнту, які найбольш аджыўляе нашыя мястэчкі, — жыдоў. Дзеля гэтага з гандлёвага боку Красенскі павéт цягне да мястэчак сумéжных павéтаў: Гарэцкага і Мсьціслаўскага.

**Красны** (або, як даўнéй ён называўся, **Красен**), невялікі гарадок, істнаваў яшчэ ў XII вéку і быў палітычна залéжным ад Смалéнску. У 1812 годзе адбылася тут вялікая бітва паміж французамі і маскоўцамі. Красны мае каля 3 тыс. насялéньня. Гандлюе найбольш пянькою й збожжам, якія адпраўляе на Парэцкую прыстань (у Смалéншчыне, на р. Каспле). Такі сама гандаль вядзé й найбольшае сяло Красенскага пав. — **Дасугава** (750 чал. жыхараў).

На паўдні Красенскага пав. ляжыць с. **Андрусава**, дзе быў у 1667 г. падпісаны мір паміж Маскоўшчынаю й Польшчаю.

Красенскі павéт мае грунты супяшчаныя й сугліністыя, вéльмі ўраджайныя. У павéце разьвітае садоўніцтва, з якога тут сяляне маюць добры зыск. Сяляне сéюць шмат лёну



**Рыс. 145. Красенскі гасьцінец.**

і канопляў; сéюць таксама шмат і канюшыны. Добра тут пастаўлена малочная гаспадарка і выраб масла; у павéце ёсьць нéкалькі вялікіх сыраварняў і шмат — мéншых. Хвабрычная прамысловасьць саўсім нязначная. Павéт наагул чыста земляробскі.

---

**ВАРШАНСКАЯ КРАІНА.** Тры павéты, якія разьляглíся на захад ад Дняпра на Дняпроўскім узгор'і ды яго спадах,— **Варшанскі, Сéньнінскі і Магілéўскі** маюць між сабою шмат супольнага: гушчыня насялéньня, спосабы гаспадаркі, мінуўшчына ўва ўсіх трох вéльмі падобная.

Адарваныя Дняпром, заходнія часткі Дняпроўскага ўзгор'я ляжаць у гэтых павётах некалькімі гнёздамі, разьдзёленымі р. Друцьцю і яё прытокамі. Высачыня Дняпроўскага узгор'я тут даходзіць 120 сажняў. Узгор'е стварае мяйсцовасьць моцна зыбістую, з адхонымі спадамі ўзгоркаў і пакрытае найбольш супяскамі. К захаду, ў бок Лёпельскага пав., узгор'е памалу зьніжаецца, пераходзячы ў раўніну, густа засёеную вазёрамі ды імховымі балотамі, моцна прыпамінаючую сусёднюю Лёпельшчыну і наагул морэнныя краі. На заходняй мяжы краіны (з Лёпельскім пав.) падыймаецца горнае гняздо Каторсаў. На поўнач ад Воршы Дняпроўскае ўзгор'е рэзка абрываецца над вялікай пяшчанаю раўнінаю, пасярод якое ляжаць Верацёйскія балоты. Далёй на ўсход за Верацёйскімі балотамі мяйсцовасьць ізноў вышэе. На паўдня, у Магілёўскім пав., узгор'е, нязначна зьніжаючыся, пераходзіць у Раданскую і Палёскую раўніны.

Варшанская краіна багатая на вадзяныя шляхі. На ўсходзе яё цячэ Дняпро, па якім тут ужо ходзяць і параходы, а на поўначы — Дзьвіна ды яё прыткі, каторыя вёльмі блізка падыходзяць да Дняпровых прытокаў; дзеля чаго тут у даўнія часы йшло шмат вадзяных шляхоў і волакаў (мяйсцоў, дзе чаўны перацягваліся з аднаё рэчкі ў другую). Шмат ёсьць тут і вазёраў; паміж іх найбольшыя — Лукамскае (22 кв. вяр.), Чарэйскае і Сялява. У вазёрах шмат рыбы. У канцы, ёсьць тут годзе й балотаў, найбольш імшараў.

Клімат Варшанскае краіны значна мягчэйшы й цяплейшы, чым у Мсьціслаўшчыне, і досіць вільготны, што тлумачыцца яё нахілам на захад і сумёжнасьцяй з краінамі акеанічнага клімату, а таксама — багацьцем рэк, вазёраў і балот.

Краіна мае яшчэ досіць многа лясоў. Толькі ў Сёньнінскім павёце лясоў засталося мёнш, але два другія павёты моцна лясістыя. У лясох найбольш ёлкі, асіны, бярозы. У Магілёўскім-жа павёце найбольш хваёвых бароў. Лясныя промыслы маюць у краіне вялікае значэньне, асабліва ў Варшанскім павёце. Лёс адгэтуль адпраўляецца ва ўсё бакі і па зялёзных і па вадзяных шляхох.

Гаспадарка ў краіне стаіць добра. Народ тутэйшы, спрадвёку заняты толькі гаспадаркаю, каля зямлі хадзіць умёе. Плугі тут ужо даўно зьмянілі сохі. Сяляне ўжываюць штучныя гнаі, акуратна вырабляюць ральлю. Дзеля таго хлёба тут свайго хапае, а яшчэ шмат і вывозіцца за мёжы краіны. З ярыны сеюць шмат аўса, ячмёню, бульбы. У Варшанскім і Магілеўскім паветах сеюць шмат лёну й канапёль. У Сеньнінскім павеце сеюць больш, чым у іншых пав., ячмёню, што тлумачыцца суседзтвам гэтага павету з Полаччынаю; таксама шмат сёюць гароху. У краіне разьвітае садоўніцтва і гародніцтва, асабліва пад Магілёвам.

У Варшанскім павеце, над Дняпром, шмат ёсьць заліўных сенажацяў. Дзякуючы гэтаму, тут дзержаць шмат скаціны.

Што да мінэральных багацьцяў краіны, то на берагох Дняпра і ў нé калькіх іншых мяйсцох здабываюць найлéпшага гатунку вапну. У Сеньнінскім і Варшанскім паветах здабываюць балотную зялéзную руду. Краіна багатая таксама на мінэральныя крыніцы, — некаторыя з іх абсьлéджаныя ды апісаныя, але шмат ёсьць такіх, аб якіх вéдае толькі мяйсцовая насялéньне, як аб лéчачых розныя хваробы. Ды і з апісаных ужо крыніцаў ні адна, як трэба, ня выкарыстана.

З промыслаў, апрача лясных, віднае мéйсца займае рыбалоўства ў Дняпры ды ў вéльмі багатых рыбаю вазёрах Сéньнінскага пав.

З хатніх рамёслаў асабліва разьвітыя дзераўляныя вырабы. Прамысловасьць хвабрычная найбольш разьвіта ў Магілéве і ў Воршы. Шмат ёсьць у краіне пільняў і бравароў, але спатыкаюцца й іншыя хвабрыкі — па вырабу сярнічак, шкляныя гуты, хімічныя заводы, папéрні. Ёсьць яшчэ шмат вялікіх млыноў.

Насялéньне жывé ў краіне ня лішне густа — радзей, чым у сусéдніх Мсьціслаўшчыне ды Полацкім Наддзьвіньні, аднак гусьцéй, чым у Палéсьсі. Вёскі яшчэ маюць значную вялічыню, але ўжо шмат мéншыя, чым на паўдні. Далéй на поўнач, у морэнных краінах, вёскі саўсім малéнькія, з нéкалькіх хатаў.

Варшанская краіна ёсьць аднэй з найцікавéйшых краінаў Беларусі з боку сваé мінуўшчыны. Край сьвятых вазёраў, цудоўных крыніцаў і старэнькіх-старэнькіх мястэчак, край, дзе гісторыя густа расьсéяла сьляды сваé: тысячагадовыя камéнныя крыжы пры дарогах, старасьвéцкія курганы, гарадзішчы, закінутыя ў нéтры лясоў. Край, з-за каторага праз тры вякі білася Масква з Беларуска-Літоўскай дзяржаваю; білася дзеля таго, што край гэты ёсьць брамаю да Беларусі і да Маскоўшчыны. Часта яго ўсходнюю частку так і называюць: Смалéнская Брама.

Цэнтр Беларусі быў абаронены са стараны Маскоўшчыны: з поўначы Дзьвіною і нязьлічонымі вазёрамі Віцебшчыны, з усходу Дняпром, Сожам і палéскімі пушчамі, што пакрывалі берагі гэтых рэк. Але паміж Дняпром і Дзьвіною заставалася паласа зямлі без вялікіх рэк ды іншых перашкодаў для руху, досіць густа засéленая, а значыць з расьцярэбленымі лясамі. Спрадвéку сюдою йшлі дарогі з усходу на захад і тут яны крыжаваліся з яшчэ важнейшымі ў даўныя часы дарогамі — з паўдня на поўнач («з Варагаў у Грэкі»). Дзеля таго тут ад прадаўных часоў пазакладаліся мéсты. Досіць добрыя грунты спрыялі гаспадарцы, а затым ў краіне было густое і вясковае насялéньне. Зразумéла дзеля гэтага, чаму маскоўскія войскі, нападаючы на Беларусь, кідаліся наўпярод у гэтую Смалéнскую Браму.

Праход між Дняпром і Дзьвіною мае ўсяе шырыні каля 80 вёрст. Але як раз пасярод яго ляжаць вялікія Верацейскія балоты. Дзеля гэтага Смаленская Брама робіцца саўсім вузкою. Дарогі з усходу на захад мусяць ісьці праз вузкі калідор паміж Дняпром і Верацейскімі балотамі.

Каб заўладаць Смаленскаю Брамаю і не прапусьціць праз калідор ворага, і Маскоўшчына, і Літва будавалі крэпасьці. Смаленск замыкаў Браму з усходу, а Ворша — з захаду.

Важнейшыя мяйсцовасьці. **Ворша** (рыс. 146). На крыжаваньні дзьвёх чыгунак, праразаючых краіну, на высокіх



**Рыс. 146. Ворша. Від з Дняпра.**

берагох Дняпра, недалёка ад таго мейсца, дзе ён павяртае на паўдня і дзе на ім ёсьць Кабяляцкія парогі, раскінулася Ворша. Гэта надта старое места; успамінаюць аб ім летапісы ў XI веку, але, пэўне, было яно яшчэ і ў дагістарычныя часы. У часох літоўскіх была Ворша значнай крэпасьцяй, якая закрывала Смаленскую Браму. Тут-жа адбываліся зборы беларуска-літоўскага й польскага войска перад паходамі на Маскву. У 1564 г. пад Воршаю маскоўцы былі моцна разьбітыя беларуска-літоўскім войскам. Затое маскоўцы ў тым-жа сталецьці некалькі разоў нападалі на Воршу, палілі і рабавалі яе. У XVII веку тут пазакладана было шмат манастыроў. З іх да нашага часу дажылі толькі 2

праваслаўныя Кутэінскія (над рэчкаю К у т э і н к а ю) манастыры. Усé-ж каталіцкія манастыры маскоўскі ўрад скасаваў.

З правядзéньнем чыгунак мéста стала моцна расьці; узрасла і прамысловасьць. Цяпéр у Воршы ёсьць нéкалькі дзесяткаў заводаў. З іх найбольшы драцяна-цьвяковы завод, а таксама хімічны завод; абодвы маюць па 200—300 работнікаў.

Ворша мае адну з найбольшых дняпроўскіх прыстаняў, з якое адпраўляецца шмат збожжа й лясных грузаў. З Воршы па Дняпры ўніз ходзяць параходы.

Надзвычайна дагоднае географічнае палажэньне абяцае Воршы важную будучыну. Цяпéр-жа яна выглядае досіць бедна. Насяленьня ў Воршы — каля 25 т ы с.



**Рыс. 147. Магілéў.**

Частка В а р ш а н с к а г а п а в é т у, што ляжыць на ўсход ад Верацéйскіх балотаў, мае ў сабé шмат падобнасьці да сусéдняе Смалéншчыны. Пры станцыях праходзячае тут Рыга-Арлоўскае чыгункі ёсьць значныя х в а б р ы к і, а б р а б л я ю ч ы я л ё н, напрыклад, у **Крынках** — лёна-прадзільная хвабрыка, з 300 работнікамі. Стары гарадок **Бабінавічы** стаіць у глухой лясістай мяйсцовасьці, над р. Л у ч о с а ю, і гандлюе лéсам. Жыхараў у ім усяго каля 2 т ы с. На захадзе Варшанскага пав. ёсьць нéкалькі мястэчак, ляжачых у багатай

мяйсцовасьці, з ураджайнай зямлёю. Дзеля таго яны найбольш таргуюць збожжам: скупляюць яго і вывозяць праз станцыі праходзячае тут Маскоўска-Берасьцейскае чыгункі.

**Магілёў** (рыс. 147). На спадах Дняпроўскага ўзгор'я, на мяжы яго з Палескай і Раданскай раўнінамі, ляжыць адно з значнейшых беларускіх местаў — Магілеў. Займае ён высокі, узгоркаваты правы бераг Дняпра. А за Дняпром знаходзіцца яго прадмесьце — Лупалава.

Калі заложаны Магілеў — вестак у гісторыі няма. Адно толькі ведама, што людзі тут жылі яшчэ ў самую далёкую дагістарычную эпоху. Імя сваё Магілёў нібы дастаў ад iменьня разбойніка Магілы, які жыў у лясной нетры над Дняпром. Гэта, праўда, толькі лягенда. Спачатку Магілёў належыў віцебскім князём; пасьля разам з Віцебскам перайшоў пад Літву. Быў ён тады яшчэ невялікім местам.

Найбольш разросься і разбагацеў Магілёў у XVI ды XVII вякох. Магілёў вёў тады шырокі гандаль з Рыгаю, Масквою, Украінаю, а таксама і з нямецкімі местамі — Лейпцыгам, Кёнігсбэргам, Данцыгам, адпраўляючы туды мёд, воск, сала, алей, дзёгаць і г. д. Каралі, хочучы забясьпечыць сабе вернасьць магілёўцаў, надалі месту шмат усялякіх прывілеяў, якія спрыялі яшчэ большаму росту і ўзбагачаньню места.

Цяжка даводзілася Магілеву ў часы маскоўскіх і казацкіх войнаў: багатае места вабіла да сябе шукаючыя рабунку вайсковыя банды. У 1654 г. маскоўцы, заваладаўшы местам (Магілёў самахоць перайшоў на бок Масквы), загадалі ўсім пражываўшым у Магілеве жыдом высяліцца ў Літву і, калі тыя выбраліся за места, усіх да аднаго іх перабілі ды зрабавалі. На памятку аб гэтым даўней магілёўскія жыды што год выходзілі на тое мейсца маліцца за забітых. Праз некалькі гадоў, у 1661 г., магілёўцы паўсталі проці Масквы і пасьля крывавае бітвы зьніштожылі маскоўскі гарнізон. За гэтую заслугу Магілёў атрымаў асаблівыя правы, з якіх карысталася толькі Вільня; магілёўскім мяшчанам, між іншым, было дазволена купляць зямельныя маетнасьці.

Магілёўскія мяшчане у тыя часы наагул адзначаліся сваім вольналюбівым і непакорным характарам: доўга яшчэ жылі ў месьце традыцыі вечавога парадку. Так, у 1610 годзе магілёўцы збунтаваліся проці свайго магістрату і завялі вечавы парадак. Таксама вельмі энэргічна змагаліся яны і проці ўвядзеньня рэлігійнае вуніі.

Ня глядзячы на ваенныя падзеі ў XVII в., Магілёў далей рос і багацеў. Зламала яго толькі швэдзкая вайна, калі яго займалі то швэды, то маскоўцы, прычым і адны, і другія рабавалі жыхараў, а ў канцы маскоўцы, па загаду цара Пятра І, спалілі ўсё места, перад тым яго грунтоўна зрабаваўшы. Пасьля таго Магілёў апусьцеў, жыхары яго паперабіраліся ў іншыя месты, і ўжо ня мог ён паправіцца аж да апошніх часоў.

З старасьвецкіх будынкаў на найбольшую ўвагу заслугуюць Ратуша (рыс. 148) і Брацкі манастыр, пабудаваныя ў XVII веку. Апроч таго, цікавы з боку малярства сабор Сьв. Язэпа, будаваны ўжо ў часы расейскія. Меставыя валы, прыпамінаўшыя сабою героічную аборону магілеўцамі роднага места, нядаўна былі зраўняны ■ зямлёю па загаду губэрнатара.



**Рыс. 148. Старасьвецкая ратуша ў Магілеве.**

Хвабрычная прамысловасьць у Магілеве невялікая. Істнуе досіць многа малых прадпрыемстваў — табачныя хвабрыкі, гарбарні, пільні, бравары і г. д.; шмат ёсьць рамесьнікаў. З промыслаў найбольш пашыраныя: гародніцтва, рыбалоўства, выраб алею, ганчарства і ўрэшце — гарбарства. Гарбарства моцна разьвітае ў прадмесьці Лупалаве, за Дняпром. Магілеў таргуе галоўным чынам скурамі, салам і збожжам. На Дняпры ёсьць значная прыстань.

Над Дняпром, вышэй Магілева, ляжыць **Шклоў** (рыс. 149). Гэтае старое гандлёвае места гадоў сто назад было багацейшае за Магілеў. Цяпер яго значэньне моцна паменшала. Аднак і цяпер Шклоў вядзе бойкі гандаль лесам, пянькою, красным таварам і футрамі. Ёсьць у Шклове і некалькі значных хвабрыкаў: вялікая паперня (робіць картон) з 600 работнікамі, хвабрыка сярнічак ды інш. Усяго насяленьня ў мястэчку каля 7 тыс.; складаецца яно блізка з адных жыдоў.



**Рыс. 149. Старасьвецкая ратуша ў Шклове.**

На паўдня ад Магілева ляжаць старыя **манастыры Буйніцкі і Баркулабаўскі**, пабудаваныя ў XVII веку. На захад ад Магілева, над р. Друцьцю, знаходзіцца **Бялыніцкі манастыр**, а

ў ім слаўны на ўсю Беларусь цудоўны абраз Прачыстае. З XVI веку і да гэтага часу ў Бялынічы сходзяцца што год дзесяткі тысяч багамолаў. Даўней манастыр гэты йграў значную культурную ролю; пры ім, напрыклад, была друкарня, школы і г. д.

Пасярод павету ляжыць у лясох невялікае, вельмі старое м-ка **Галоўчын**, якое даўней было местам і, як кажа лягенда, мела «15 цэркваў і 100 кузьняў».

Адно з старэйшых беларускіх местаў — **Друцк**, над р. Друцьцю,— цяпер ёсьць маленькім бедным мястэчкам. На востраве сярод ракі падыймаюцца валы вялізарнага гарадзішча, прыпамінаючыя слаўныя часы Друцку.

У розных мяйсцох Магілеўскага пав. знаходзяцца ўздараўляючыя мінэральныя крыніцы. Такія крыніцы ёсьць, напрыклад, у в. **Палыкавічах** над Дняпром, і туды зыходзяцца тысячы народу, лічачы крыніцу цудоўнай. Ёсьць зялезныя крыніцы на захадзе павету, каля м. **Цяцерына**, і ўрэшце каля м. Шапялевічаў знаходзіцца **возера Хіцемля**, вада з якога памагае ад наскурных ды інш. хваробаў.

Магілеўскі павет мае грунты сугліністыя і супяшчаныя, дагодныя для гаспадаркі. Толькі на паўднёвым захадзе цягнуцца пяскі, якія зьяўляюцца працягам Бярэзінскага Палесься.

У Сеньнінскім павеце ёсьць цэлы рад мястэчак, у цяперашнія часы невялікіх і бедных. **М. Сенна** — невялікі гарадок з 8 т. насяленьня. Недалёка на захад ад яго ёсьць зялезныя крыніцы. На паўдні павету, пры станцыях Маскоўска-Берасьцейскае чыгункі, павырасталі значныя гандлёвыя мястэчкі, якія таргуюць збожжам і лесам. З іх найважнейшае — **Талочын.** У ім, між іншым, ёсьць і дзьве хвабрыкі: вялікая шкляная гута (з 4-ма сотнямі работнікаў) і дражджавы завод. Жыхараў у Талочыне каля 2 тыс. чал. Пры ст. **Крупках** ёсьць хвабрыка сярнічак і вялікі млын.

У паўночна-заходняй часьці павету, над вялікім возерам, ляжыць старое мястэчка **Лукамля**, вядомае яшчэ з XI веку. Даўней Лукамля была сталіцаю асобнага князьства. Цяпер гэта невялікае й беднае мястэчка. На поўнач ад Лукамскага возера падымаецца ўзгор'е Каторсы.

Сеньнінскі павет ляжыць на грунтох багатых, сугліністых і супяшчаных. Насяленьне яго апроч гаспадаркі займаецца ляснымі промысламі і рыбалоўствам.

Мяйсцовасьць у Сеньнінскім і Варшанскім паветах, каля Днепроўскага ўзгор'я, вельмі прыгожая; яна навет, як піша аб ёй у сваіх мэмуарах Кацярына II, «прыпамінае англійскі парк».

## VIII. Віцебская краіна.

На поўнач ад р. Дзьвіны і ад Полацкае нізіны падыймаюцца сярод лясоў і вазёраў Паўночныя морэны: Віцебска-Нéвельскае і Дзьвінскае ўзгор'і. Яны запаўняюць сабою, між іншым, павéты **Нéвельскі, Гарадзéцкі, Віцебскі, Сéбежскі** і беларускія часткі павéтаў **Люцынскага** і **Апочацкага**. Павéты гэтыя заўсёды былі зьвязаныя з Віцебскам і цяпéр экономічна да яго найбольш цягнуць. Маюць яны да таго-ж вéльмі падобную прыроду і блізка роўную гушчыню насялéньня.

Падняўшыся стромка над правым бéрагам Дзьвіны ў Віцебскім павéце, Віцебска-Нéвельская горная града запаўняе гэты павéт і йдзé далей на поўнач, у павéты Гарадзéцкі ды Нéвельскі. У Нéвельскім павéце, каля паўночнае мяжы Беларусі, ўзгор'е гэтае робіцца асабліва высокім, спады яго ўсхонымі, мяйсцовасьць прыймае выгляд саўсім горны, як мы пісалі на стр. 30. Гэтае высокае горнае гняздо, як яго называюць Райскія горы, цягнецца з Невельскага пав. на захад, у Сéбежскі павéт. У заходнюю частку Сéбежскага пав. ды ў Люцынскі пав. заходзіць Дзьвінскае ўзгор'е; дайшоўшы значнае высачыні каля м. Люцына, яно ніжэе, далéй на захад пераходзячы ў Надбалтыцкую нізіну.

Названыя ўзгор'і дзéляць воды басэйну Дзьвіны і рэкаў Ловаці ды Вялікае. Рэкі Ловаць, Вялікая і некаторыя іх прытокі, пачынаючыся ля самае беларускае мяжы з Маскоўшчынаю, вялікага экономічнага значэньня для краіны ня маюць.

Рака Дзьвіна пераразае папалам Віцебскі павéт. Тут ужо яна судаходная. Ад Віцебску ў абодвы бакі ходзяць і баркі, і параходы. Недалёка ад Віцебску на р. Дзьвінé ёсьць значныя парогі (Руба і Капачы). З прытокаў Дзьвіны важнейшы для краіны р. Вобаль, якая пачынаецца з возера Езярышча, у мяйсцовасьці, асабліва густа засéенай вазёрамі, і якраз недалёка ад р. Ловаці. Істнаваў дзеля таго праект злучыць гэтыя рэкі каналамі. Праўда, р. Ловаць лёгка было-б зьвязаць каналамі і з іншымі прытокамі Дзьвіны.

Як ні адна іншая краіна Беларусі, засéена Віцебшчына невялікімі вазёрамі. Усё сказанае вышэй аб морэнным краі безпасярэдна адносіцца да Віцебшчыны, бо яна якраз і зьяўляецца найбольш тыповаю морэннаю краінаю. З вазёраў найбольшыя воз. Няшчорда, воз. Іван, воз. Сé-бежскае, воз. Нéвельскае, воз. Сьвібла. У гэтых вазёрах водзіцца шмат рыбы, і рыбалоўства дзеля таго даé тут насялéньню значны зарабатак. Аднак пры правядзéньніналéжнае рыбнае гаспадаркі можна было-б з вазёраў гэтых мéцць даходы ў шмат разоў большыя.

Краіну пакрываюць вельмі разнародныя грунты. На Віцебска-Нéвельскай градзе ляжаць галоўным чынам сугліністыя і цяжкія гляістыя грунты, на захадзе-ж краіны, у Сéбежскім і Люцынскім павéтах, пераважаюць супяскі, хаця шмат спатыкаецца й суглінкаў. На спадах узгор'я, на ўсход і захад ад м. Гарадка, ляжаць дзьвé значныя плямы неўраджайнага падзолу, а каля некаторых рэк заляглі вялікія прасторы пяшчаных грунтоў. Асабліва гэта трэба сказаць аб вадазборніку р. Вобалі.

Клімат краіны яшчэ мае на сабé значныя ўплывы недалёка ляжачага мора, але ўжо досіць халодны. Сярэдняя гадавая тэмпэратура каля +5°, тэмпэратура студзеня -7,5°. Ападаў бывае шмат — каля 600 міл. Неба па большай часьці захмуранае. Такі клімат ня вéльмі спрыяе гаспадарцы на цяжкіх грунтох ці, можа, ляпéй кажучы, вымагае на цяжкіх грунтох вéльмі культурнае і акуратнае гаспадаркі, караючы за ўсякую памылку вымаканьнем руні, гніцьцём збожжа і г.д.

У гаспадарцы тут на пéршы плян выступаюць дзьвé расьліны: ячмень і лён. Ячмéню ў Віцебскай краіне сéюць больш, чым дзé на Беларусі. Аўса-ж, затое, сéюць тут менш, чым у большасьці краінаў. Тлумачыцца гэта часткаю кліматычнымі варункамі, часткаю сусéдзтвам Латвіі, дзе ячмéню сеюць асабліва шмат. Шмат сéюць у краіне й лёну, хаця мéнш, чым у сусéдняй Смалéншчыне. З гэтага боку краіна займае пасьля Смаленшчыны другое мéйсца у Беларусі. Гаспадарка ў Віцебскай краіне наагул стаіць нявысака. Затым і ўраджаі тут нізкія.

Рамёслы ў краіне слаба разьвітыя. Тых вялікіх прамысловых мястэчак, якія мы бачылі навет у сусéдняй Магілéўшчыне, тут саўсім няма. Тутэйшыя мястэчкі бéдныя й невялікія, вядуць найбольш толькі дробны гандаль. З рамёслаў найбольш разьвіты тыя, што вырабляюць дрэва, — прыкл., бандарства (у Віцебскім і Нéвельскім павéтах). У гэтых-жа павéтах шмат рамéсьнікаў занята гонкаю смалы й дзёгцю. Досіць разьвітае кравéцтва (у Гарадзéцкім, Люцынскім, Віцебскім пав.), а на захадзе краіны (Люцынскі, Сéбежскі пав.) шмат кавалёў.

Хвабрычная прамысловасьць у краіне невялікая. Толькі піваварных бравароў ёсьць шмат (больш, чым дзé), ёсьць нéкалькі хвабрыкаў сярнічак. Наагул кажучы, уся блізка хвабрычная прамысловасьць сабрана ў самым Віцебску, які сярод мéстаў беларускіх займае віднае мéйсца з гэтага боку. Рэшта-ж краіны з прамысловага боку стаіць вéльмі нізка.

Экономічны заняпад Віцебскае краіны часткаю тлумачыцца яé рэдкім насялéньнем. Аднак гэтае агульнае тлумачэньне тутака ўжо затым несправядлівае, што як раз адсюль шмат народу йдзé на зарабаткі — асабліва ў расейскія вялікія месты — Петраград і Маскву.

Трэба дзеля таго зьвярнуць асаблівую ўвагу на гісторыю краіны. Спрадвеку краіна была заселена крывічамі і належыла найбольш да Віцебскага, а часткаю да Полацкага князьстваў. Таксама спрадвеку праз яе йшлі вялікія шляхі з паўдня — да Ноўгараду і Пскова, і да Варажскага краю. Дзеля таго тут ніколі ня сьціхала барацьба беларусаў з суседзямі. Асабліва барацьба гэтая разгарэлася тады, калі ўзмацнела Масква, а ўсе землі беларускія сабраліся ў Літоўска-Беларускаю дзяржаву. Вазёрная Віцебская краіна была для апошняе дзяржавы тэй сьцяною, якая бараніла ад Маскоўшчыны самае яе сэрца, яе культурныя цэнтры: Полацк, Вільню. Дзеля таго праз увесь час войнаў з Масквою



**Рыс. 150. Даўнейшы дзераўляны замак (гарадок) над возерам.**

тут адбываліся самыя заўзятыя бітвы. Абедзьве стараны стараліся замацаваць за сабою вазёрны край і дзеля таго будавалі тут замкі і крэпасьці (рыс. 150). Уся краіна засеена руінамі гэтых крэпасьцяў, якія сумна высяцца на вастравох вазёр, на ўсхоных узгорках або ў лясной нетры. Саўсім зразумела, што спакойнаму гаспадарскаму насяленьню ў часе войнаў жыцьця ня было. І толькі калі барацьба скончылася, край пачаў аджываць.

Праз увесь 16-ты век, калі рэшта Беларусі жыла найбольш шырокім нацыянальна-культурным жыцьцём, паветы Себежскі і Невельскі, разам з усходняй Беларусяй (Смаленшчынаю), прабылі пад уладаю Маскоўшчыны, якая й тады ўжо старалася іх абмасковіць. Пэўне-ж, гэтае сталецьце таксама вельмі нядобра адбілася на жыцьці Віцебскае краіны. На мове тамашніх беларусоў яно пакінула свае сьляды. І да нашых часоў яны дамешуюць да мовы шмат расейскіх слоў і зваротаў.

Дзеля лепшае абароны граніцаў вялікія князі й каралі раздавалі зéмлі на пагранічны вайсковым людзям, якія называліся панцырнымі баярамі, або шляхтаю. У часох прыгону яны былі вольнымі. Гэта адбілася і на іх патомках, якія замажнéйшыя і культурнéйшыя ад звычайных сялян. Патомкаў гэтых панцырных баяраў шмат ёсьць у Сéбежскім, Нéвельскім ды іншых прыгранічных павéтах Беларусі.

Адным толькі Віцебская краіна папраўдзе багатая — гэта шляхамі. Апроч вадзяных шляхоў, аб якіх ужо гаворана, краіну сякуць аж пяць чыгункавых лініяў. З Віцебску і Нéвеля разыходзяцца чыгункі ў чатырох кірунках. Апроч таго, праз усю блізка краіну йдзéць шоса.

У нашыя часы, так сама, як і ў сівой мінуўшчыне, застаéцца Віцебшчына вялікім раздарожжам. Усé мéсты краіны стаяць пры чыгунках (зраўнуй з Мсьціслаўшчынаю!). Гэта даé надзéю на тое, што ў недалёкай будучыне яé эканомічнае жыцьцё йзноў адродзіцца.

## Важнéйшыя мяйсцовасьці.

У надзвычайна прыгожай мясьціне над Дзвіною, дзе, зьвіваючыся на днé глыбокіх яроў, у яé ўпадае р. Віцьба, стаіць стары **ВІЦЕБСК** (рыс. 151 і 29). Гісторыю гэтае мéста мéла багатую і цікавую. Ня важучыся пераказаць яé тут, успомнім хаця аб некаторых цікавéйшых выпадках з гэтае гісторыі.

Так сама, як і шмат іншых беларускіх мéстаў, заложаны Віцебск не за памяцьцю гісторыі. Быў ён найбольш зьвязаны з Полацкам, але ў некаторыя часы быў у залéжнасьці ад Смалéнску. Віцебск вéльмі доўга бараніў сваé незалéжнасьці перад літоўскімі князямі. Дастаўся ён урэшце Альгéрду, ды і той не заваяваў яго, а атрымаў як пасаг за віцебскай княжнаю, з якою ажаніўся, стаўшыся такім чынам віцебскім князем. Альгéрд, як вéдама, быў грэцкае, усходняе вéры. Вось-жа ў Віцебску ён пабудаваў нéкалькі цэркваў. Адна з іх, якую ён навет толькі перабудаваў, істнуе і да нашых часоў (Царква Благавéшчаньня).

Таксама пабудаваў Альгéрд на лéвым беразе р. Віцьбы і Дзьвіны моцныя камéнныя замкі, найбольшыя і найлéпшыя ў той час у Беларусі. Аб сьцéны грозных замкаў віцебскіх ня раз разьбівалася чужазéмная навала. Адважна бараніліся ў іх віцябляне перад маскоўскімі ваяводамі. А адбараніўшы роднае мéста, ня раз праганялі ворагаў і з межаў краю. У 1605 г., прыкладам, віцебская дружына пад камандаю Марка Лыткі напала сваім адумам на маскоўскае войска і саўсім яго разьбіла. Наагул віцябляне адзначаліся сваёю выяўнічасьцяй, імкнéньнем да волі, самаўрадаваньня і г. д.

Віцебск спрадвéку быў жывым гандлёвым мéстам. Заўсёды мéў ён гандлёвыя зносіны з Рыгаю, Кёнігсбэргам і навет Лейпцыгам, вывозячы найбольш футры і скуры. Гандаль гэты

моцна ўзбагачаваў жыхараў, а зносіны з Заходняй Эўропаю высака падыймалі мéста з боку культурнага. Але сталыя войны



Рыс. 151. Віцебск.

з Маскоўшчынаю моцна падрывалі дабрабыт Віцебску. Да ваéнных бéдаў далучыліся яшчэ і ўнутраныя рэлігійныя

сваркі. У 1623 г. на грунце гэтых сварак быў забіты ў Віцебску гарачы прапаве́днік вуніі арх. Ёзафат Кунцэвіч, прызнаны пасьля Р.-Каталіцкім касьцёлам за сьвятога. За гэтае забойства ўсё ме́ста было моцна пакарана. Быў зьняты ве́чавы звон, разбурана ратуша і адабрана Магдэбурскае права. Пасьля, аднак, дзеля ваенных заслугаў віцяблян усе́ правы былі ім ізноў ве́рненыя.

Але найгоршая бяда сталася Віцебску сто гадоў пазьне́й. У часе швэдзкае вайны віцябляне спрыялі швэдам і навет памаглі ім грашмі. За гэта Пётра І загадаў спаліць Віцебск. Казакі падпалілі ме́ста з усіх бакоў. Згарэлі пад той час замкі, усё ме́ста, ратуша, крамы, усе́ прадме́сьці, 4 касьцёлы, 12 цэркваў, а ад Задзьвіньня*) казакі ўзялі выкуп. З гэтае пары Віцебск моцна падупаў, і пачаў ён аджываць толькі ў апошнія дзесяткі гадоў, калі правялі чыгункі.



**Рыс. 152. Старасьве́цкая дзераўляная царква ў Маркавым манастыры пад Віцебскам (беларускі стыль).**

Цераз Віцебск цяпер праходзяць дзьве́ чыгункавыя лініі, шоса і на р. Дзьвіне́ ёсьць вялікая прыстань. Гандаль Віцебску цяпе́р значна вырас. Ён зьяўляецца складачным мейсцам тавараў, якія раздае́ на мястэчкі і месты сумежных паветаў. Найбольш таргуе Віцебск ле́сам і лёнам, якія адпраўляе ў Рыгу і заграніцу, а часткаю і збожжам. Апроч таго, Віцебск шырака таргуе гатовай адзе́жаю (тандэтнаю).

Хвабрычная прамысловасьць Віцебску мае досіць значныя разьмеры. На хвабрыках яго працуе каля 2000 чал. Хвабрыкі

*) Частка Віцебску, што ляжыць на правым бе́разе Дзьвіны.

віцебскія найбольш невялікія; з іх трэба адзначыць — картонную хвабрыку, нékалькі табачных, досіць вялікую хвабрыку акуляраў. Апроч таго, ёсьць нékалькі піваварных бравароў, аляярняў і гарбарняў. З рамёслаў моцна разьвіта кравéцтва.

Мала засталося старасьвéтчыны ў Віцебску. Ад замкаў не засталося ані сьлéду; навет гару Замковую раскапалі. Толькі нékалькі старых цэркваў засталося на ўспамін аб слаўных часох Віцебску: гэта ўспомненая царква Благавéшчаньня і царква сьв. Ільлі, перабудаваная ў XVII веку. Мае Віцебск, апроч таго, прыгожы сабор, будаваны ў XVIII вéку.

Затое мяйсцовасьць, у якой знаходзіцца Віцебск і яго ваколіцы, робіць чаруючае ўражаньне харастовом сваіх краявідаў.

Недалёка ад Віцебску, над Дзьвіною, стаіць вéльмі стары Маркаў манастыр; у ім перахавалася дзераўляная царква сьв. Тройцы, пабудаваная яшчэ ў XVII вéку ў беларускім стылю (рыс. 152).

З мястэчак Віцебскага павéту вызначаюцца **Янавічы**, з вялікім кірмашам на коні, і **Сураж**, які лічыцца мéстам, мае каля 4 тыс. жыхараў і, ня глéдзячы навет на сваё дагоднае палажэньне над Дзьвіною, пры вусьці р. Касплі і Ўсьвяту, мае вéльмі малое значэньне з боку гандлю і прамысловасьці. Мéста гэтае досіць старое; была тут даўнéй моцная крэпасьць на высокіх берагох Дзьвіны. Грунты навакола неўраджайныя. У дв. **Новым Каралёве** знаходзіцца адна з найлéпшых у Беларусі мэтэоролёгічных станцый. Створана яна працаю А. Бялыніцкага-Бірулі, які гэтай справе аддаў усё сваё жыцьцё, ды за яго-ж уласны кошт.

Віцебскі павéт, якога Дзьвіна дзéліць папалам, мае ў паўднёвай частцы грунты добрыя — супяшчаныя й сугліністыя. Паўночная-ж палавіна толькі на ўзгор'і (Віцебская-Нéвельская града), якое праходзіць пасярэдзіне павéту, мае грунты сугліністыя. На захад ад узгор'я ляжаць на значным прасторы бéдныя падзолы, а на ўсход, апрача падзолаў, што адтуль цягнуцца аж пад Вяліж, ёсьць яшчэ і значны простор пяскоў. Павéрхня павéту наагул узгоркаватая, пакрытая дзе-ня-дзе невялікімі вазёрамі. У павéце сéюць шмат лёну. Гаспадарка тут стаіць някéпска. Досіць разьвіта садоўніцтва (каля Віцебску ёсьць значная школка фруктовых дрэўцаў). Каля Віцебску-ж, у Бабіцкай воласьці, здабываюць вапну.

У сусéднім з Віцебскім, Гарадзéцкім павéце, паўднёва-заходні і паўднёва-ўсходні куты занятыя бéднымі падзоламі. Пасярод іх на паўдні знаходзіцца самае мéста **Гарадок**, з 6 т. жыхараў; паўночную палавіну павéту займаюць багатыя суглінкі. Тут над возерам у прыгожай мяйсцовасьці стаіць старое мястэчка **Вазярышча**. На востраве сярод возера, з якога выцякае р. Вобаль, знаходзіцца старасьвéцкае гарадзішча і сьляды палявых будоўляў. У часы літоўскія была тут моцная крэпасьць.

Пасярэдзіне Гарадзéцкага павéту йдзéць узгор'е, на якім лясоў мала. Затое на спадах яго на ўсходзе і захадзе, пакрытых

беднымі грунтамі і багатых вазёрамі і рэчкамі, лясоў шмат. З промыслаў у павеце маюць значэньне рыбалоўства і лясныя промыслы. У гаспадарках павету сеюць шмат ячменю і лёну. У павеце шмат курганоў і гарадзішчаў, аб якіх у народзе перахаваліся прыгожыя поэтычныя легенды.



Рыс. 153. Места Себеж.

Далей на поўнач ляжыць Нéвельскі павé т. На мяжы яго з Гарадзе́цкім стаяў даўней, у XII веку, полацкі горад — **Емянец**. Цяпер там засталося толькі сяло з гэтым імям.

**Невель** з 14 тыс. жыхараў ляжыць між вазёраў, на крыжаваньні дзьвёх чыгунак. Прамысловае жыцьцё ў ім досіць разьвітае. Бываюць таксама й вялікія кірмашы. Над возерам, на ўзгорку, стаяў нékаліcь Нéвельскі замак. Ад яго засталіся толькі валы.

На ўсход ад Нéвеля ляжыць досіць вялікае воз. Іван. Грунты навакола яго лёгкія, супяшчаныя. Рэшта Нéвельскага пав. мае грунты ўраджайныя, суглінiстыя, а мяйсцамі й цяжкія гляістыя. Павéрхня Нéвельскага пав. моцна няроўная, узгоркаватая, а на поўначы мяйсцовасьць мае выгляд гарысты (Райскія горы). На поўначы і ўсходзе Нéвельскага пав. лясы складаюцца найбольш з бярозы й дубу, а часта трапляюцца й чыстыя дубовыя лясы. У Нéвельскім пав. вельмі пашырана рыбалоўства ў вазёрах (Нéвельскія вазёры славяцца рыбным багацьцем); таксама разьвітыя і лясныя промыслы, гонка смалы й дзёгцю. У двары Студзянцы ёсьць сéрная крыніца.

Сéбежскі павé т, які ляжыць далей на захад, мае грунты найбольш супяшчаныя. Толькі ўздоўж паўднёвае яго

мяжы йдзé пояс суглінкаў. Досіць рэдкае насялéньне гэтага павéту займаецца апрача гаспадаркі — лясными промысламі. У павéце сéюць вельмі многа ячмéню і лёну. Мяйсцовасьць у павéце прыгожая, узгоркаватая, пакрытая вазёрамі. Тут ляжаць такія значныя вазёры, як воз. Сьвібла, Нячэрыца і Сé-бежскае; апошняе злучана пратокамі з р. Сволнаю і Дзьвіною. Гэтым шляхам сплаўляецца шмат лéсу. На высокім паўвостраве сярод апошняга возера стаіць **Себеж** (рыс. 153). У XVI в. маскоўцы, заваладаўшы краем, пабудавалі тут моцную крэпасьць, з-за якое пасьля шмат было праліта беларускае крыві. Невялікае гэта цяпéр мéста (каля 4 тыс. насяленьня), але досіць гандлёвае. Вядзе гандаль скурамі і лёнам. Зьбіраецца ў ім некалькі кірмашоў у год. Недалёка ад Сéбежу ёсьць значная гара Ўзды-халінка.

Люцынскі павéт моцна даўгі і дзéліцца на дзьвé непадобныя адна да аднае палавіны. Заходняя — нізінная, лясістая, заселена латышамі; усходняяж ляжыць на ўзгор'і, мае лясоў мала, а засéлена беларусамі. Мы будзем гаварыць толькі аб усходняй палавіне.



Рыс. 154. Люцынскі замак (у XVIII в.).

Па прыродзе сваёй і па гаспадарцы яна вельмі падобная да Сéбежскага павéту. Хмурыя яловыя лясы зьяўляюцца важнаю рысаю тутэйшага краявіду. Ёсьць тут і значныя імховыя балоты. Грунты сярэдняе ўраджайнасьці, найбольш супяскі.

Над досіць вялікім возерам Лужаю расьцягнулася старое мéста **Люцын**, з 6 тыс. насялéньня. Пры самым возеры, на высокай гары высяцца руіны Люцынскага замку, абкружаныя землянымі валамі. Замак гэты залажылі лівонскія рыцары ў XIII в. (рыс. 154). Суровы від руінаў, якія цёмна-чырвоным колёрам свае цэглы адбіваюцца ў чыстай вадзé возера, робіць моцнае ўражаньне на глядзéльніка. На паўдня ад Люцына, каля в. Адэлінова знаходзяцца зялé-зістыя крыніцы. А на поўнач ад Люцына, пры Паўночна-Заходняй чыгунцы ляжыць станцыя **Корсаўка**. Тут зыходзяцца мéжы трох народаў: беларусаў, латышоў і маскоўцаў. Ад Корсаўкі канчаецца мяжа беларуска-маскоўская, а пачынаецца беларуска-латышская.

На поўнач ад апісаных паветаў беларусы жывуць яшчэ ў Апочацкім і Вялікалуцкім павéтах, у паўднёвых іх частках.

На захадзе Апочацкага пав., каля р. Сіняе, здабываюць вапну, а каля м. Апочкі — зялéзную охру (фарба). Далéй на ўсход, аж пад самыя Вялікія Лукі, цягнуцца высокія Вязаўскія горы, якія тут становяць вададзéл паміж р. Вялікаю і Ловацьцю. У гаспадарках сéюць шмат лёну, травы (канюшыны) і ячмéню.

Прырубéжнае мéста **Вялікія Лукі** ляжыць над р. Ловацьцю і на яé вастравох. Успамінаецца аб гэтым мéсьце яшчэ ў XII вéку; тады яно, лéжачы на вялікім шляху «з Варагаў у Грэкі», было залéжным ад Ноўгараду. Пасьля было даўгі час пад Літвою. Цяпéр у В. Луках каля 8 тыс. жыхараў. З промыслаў моцна разьвітае гарбарства.

Беларуская частка Вялікалуцкага павéту (паўднёвая) моцна лясістая. Насялéньне мае зарабатак ад сплаву лéсу па р. Ловаці і наагул ад лясных промыслаў.

---

# IX. СМАЛÉНШЧЫНА.

У паўночна-ўсходнім куцé Беларусі, на вярхоўях Дняпра й Дзьвіны ды іх прытокаў (Мяжа, Каспля і інш.), разьляглася абшырная Смалéнская краіна. Да яé мы адносім павéты: **Смалéнскі, Éльнінскі, Дарагабужскі, Духаўшчынскі, Бéльскі і Парэцкі** Смалéнскае губэрні, **Вяліжскі** павéт Віцебскае губ. і беларускія часткі суméжных павéтаў: Пскоўскае губ.

**(Тарапе́цкага )**, Цьве́рскае губ. **(Асташкаўскага, Ржэўскага)** і ўрэшце — Калужскае губ. **(Жыздрынскага і Масальскага пав.)**.

Паміж асобнымі паве́тамі гэтае краіны, асабліва з боку прыроднага, можна знайсьці шмат розьніцы. Нічога дзіўнага ў тым няма, бо краіна цягнецца больш, як на 200 вёрст з усходу на захад і столькі-ж — з поўначы на паўдня. Але з боку экономічнага і гістарычнага краіна мае шмат супольнага. Гэта тлумачыцца тым, што ўве́сь гэты прастор заўсёды быў зьвязаны з Смале́нскім, зьвязаны з ім і дагэтуль. У апісаньні краіны мы будзем рэзка падчыркаваць розьніцы паміж яе́ часткамі.

Ужо па будове паве́рхні трэба разьдзяліць Смале́ншчыну на дзьве́ часьці. Усход краіны — паветы Бельскі, Дарагабужскі і Ельнінскі — ляжыць на ўзвышшы Вокаўскага лесу, якое, як ужо гаворана, адзначаецца тым, што мае роўную паве́рхню, ня гле́дзячы на значную сваю высачыню, і пакрытае галоўным чынам лёссавіднымі суглінкамі, у якіх няма саўсім каменьняў, навет дробных. Няма таксама на Вокаўскім ле́се й вазёраў. А толькі ў паніжаных мяйсцовасьцях ляжаць там часамі вялікія мшары — тарфяныя балоты.

Саўсім іншы вобраз уяўляе захад Смаленшчыны — марэнны край. Далёка менш падняты над морам, ён, аднак, мяйсцамі робіць уражаньне горнага краю (Смаленскае ўзгор'е). Наагул паверхня яго няроўная. Пакрыты ён, галоўным чынам, супяскамі, хаця шмат ёсьць суглінкаў, падзолаў і пяшчаных грунтоў. Але ўва ўсіх гэтых грунтох ёсьць каме́ньні. Часамі каме́ньня бывае гэтак шмат, што яно перашкаджае вырабу зямлі. Сярод узгоркаў ляжыць тут шмат вазёраў, як і ў суседняй Віцебшчыне. Марэнны край абыймае паве́ты Вяліжскі, Парэцкі, Смале́нскі, большую частку Духаўшчынскага і невялікую (заходнюю) частку Бе́льскага пав.

Цераз Смаленшчыну наскрозь праходзіць Вялікі Эўропэйскі вададзел, які тут дзеліць басэйны Дзьвіны й Дняпра. А па ўсходняй мяжы краіны йдзе́ць вададзе́л Касьпійска-Чарнаморскі і Касьпійска-Балтыцкі. З Вокаўскага ле́су пачынаецца шмат прытокаў р. Волгі і р. Окі (р. Вугра, Малады Туд, Жукопа). Такое палажэньне надае́ць Смале́ншчыне асаблівае значэньне: яна зьяўляецца як-бы вадзяным вузлом усяе́ Ўсходняе Эўропы. Разам з тым вададзе́лы — гэта натуральныя граніцы. Асаблівае ўвагі заслугуе тое, што ўсходняя мяжа Беларусі йдзець якраз блізка па Волжскаму вададзелу.

Усходняя мяжа Беларусі (Вокаўскі лес) зьяўляецца і важнай кліматычнай мяжою. За ёю клімат мае ўжо ўсе́ адзнакі контынэнтальнага клімату, тым часам як уплывы мора сягаюць на ўсю Беларусь да яе́ ўсходніх рубяжоў, а значыць, і на Смале́ншчыну. Смале́ншчына, найбольш высунутая на ўсход краіна Беларусі, мае ўсё-ж клімат моцна вільготны: у ёй ападкаў у год бывае больш

за 600 міл. А на ўсход ад Вокаўскага ле́су клімат ужо значна сушэйшы — толькі з 500 міл. ападкаў. Вільготнасьць клімату Смале́ншчыны можна, між іншым, разтлумачыць яе́ вялікай лясістасьцяй і высокім палажэньнем над роўнем мора. Узвышшы Смале́ншчыны, стаўшы поперак дарогі вільготным заходнім вятром, адбіраюць ад іх шмат ападкаў. Дзякуючы гэтым прычынам, і вялікія рэкі, што бяруць свой пачатак у Смале́ншчыне, адбараняюцца ад памяле́ньня. Аднак клімат Смале́ншчыны — найхаладнейшы ў Беларусі. Сярэдняя гадавая тэмпэратура ме́нш +4,5°, пры сярэдняй тэмпэратуры студзеня -8,5°. Зімы тут бываюць даўгія, многасьнежныя. Сьне́г ляжыць 5 месяцаў — ад палавіны лістападу да палавіны красавіка.

Дзякуючы вільготнаму клімату, у Смаленшчыне грунты моцна выпаласканыя. На вялікіх прасторах тут залягаюць бе́дныя нішчымныя падзолы. Адна паласа падзолаў, шырынёю вёрст 30, цягнецца ад м. Гарадка (з-пад Віцебску) аж да вярхоўяў Дзьвіны. Другая — шырынёю вёрст 50, цягнецца ад м. Вяліжу да паўночнае мяжы Бе́льскага паве́ту. Вільготнасьць клімату робіць нялёгкай гаспадарку і на багатых суглінках. Дзеля гэтага ў Смале́ншчыне мы бачам такое зьявішча, якое ў рэшце Беларусі спатыкаецца ня часта: на аграмадных прасторах суглінкаў растуць лясы — ды навет не лясы, а толькі бярозавыя гаі, якімі пазарасталі пасекі і даўне́йшае ворнае поле.

Наагул уся Смаленшчына моцна лясістая. Але тры паўночныя паве́ты — Вяліжскі, Парэцкі і Бельскі з гэтага боку асабліва выдзяляюцца. Лясоў тут больш 45 % агульнага прастору, дзеля чаго гэтую старану трэба лічыць самаю лясістаю ў Беларусі. Некаторыя географы навет называюць гэты край Бельскім Палесьсем. Нічога затым дзіўнага, што паўночныя паве́ты Смале́ншчыны заселены вельмі рэдка, каля 30 чал. на квадр. вярсьце́. Рэшта краіны таксама нягуста засе́леная і таксама мае шмат лясоў, апрача аднаго Смале́нскага паве́ту, у якім, дзякуючы блізкасьці вялікага ме́ста і чыгунак, лясы моцна парасьцярэбліваны, а насяле́ньне жыве́ гусьце́й.

На цяжэйшых грунтох у лясох Смале́ншчыны найчасьце́й спатыкаецца бяроза. Бярозавымі лясамі пакрыты ўве́сь усход краіны — Вокаўскі лес. Побач з бярозаю ў лясох Смаленшчыны, асабліва на захадзе, шмат расьце́ е́лкі, а таксама асіны; на пяшчаных грунтох, як і ўсюдых, растуць хваёвыя бары. За апошнія дзесяткі гадоў лясы Смале́ншчыны моцна зьніштажаюцца. Шмат ле́су йдзе́ ў Маскву (з усходняе часткі краіны). Заходняя частка свой ле́с сплаўляе ўніз па Дняпры і Дзьвіне́.

Лясы даюць шмат зарабаткаў насяле́ньню Смале́ншчыны. Апрача рубкі, вывазу і сплаву ле́су тут разьвіты такія хатнія рамёслы, як выраб сане́й, павозак, колаў, кашоў, бёрдаў, як бандарка і гонка смалы й дзёгцю. Наагул трэба адзначыць,

што ў Смале́ншчыне промыслы моцна разьвітыя. Нідзе навакола няма гэтулькі насяле́ньня, маючага прамысловыя заняткі, як у Смале́ншчыне. Усе́ 7 паве́таў рэзка выдзяляюцца з гэтага боку ад іншых. Трэба заўважыць, што і ў суседніх паве́тах Маскоўшчыны процэнт прамысловага насяленьня м е н ш ы, чым у апісуемай краіне.

З м і н э р а л ь н ы х б а г а ц ь ц я ў Смаленшчыны разрабляюцца найбольш ганчарныя гліны (у Бе́льскім пав., каля Дзьвіны й Дняпра), што спрыяе разьвіцьцю ганчарства. З гліны, што здабываецца пад Смаленскам, у с л а б. Р а ч а ў ц ы, робяць добрыя кахлі. Добрыя гліны знаходзяць і ў Дарагабужскім пав. У не́калькіх мяйсцох здабываюць вапну. У балотах Бе́льскага й Духаўшчынскага пав. ёсьць шмат балотнае зяле́знае руды.

Х в а б р ы ч н а я п р а м ы с л о в а с ь ц ь у Смаленшчыне слаба разьвітая. Навет такое значнае ме́ста, як Смале́нск, з гэтага боку мала высоўвуецца напе́рад. У іншых-жа паве́тах ёсьць па некалькі пільняў ды бравароў. Затое ў с. Я р ц а ў П е р а в о з, Духаўшчынскага пав., знаходзіцца вялізарная, найбольшая ў Беларусі, хвабрыка, дзе прадуць бавоўну і ткуць паркалі, кумач ды інш. На хвабрыцы гэтай працуе б о л ь ш 4 т ы с. р а б о т н і к а ў.

Г а с п а д а р к а і ў Смаленшчыне ёсьць галоўным заняткам насяле́ньня. Тэхніка гаспадарская ў сялян стаіць някепска; гэта трэба тлумачыць, мусіць, тым, што тут вось ужо каля 60 гадоў працуе земства. Вырабляюць зямлю сяляне п л у г а м і, сеюць шмат т р а в ы (канюшыны, цімахвейкі), а мяйсцамі навет ужываюць ш т у ч н ы я г н а і (парашкі). Дзеля таго ўраджайнасьць тут добрая — лепшая, чым у суседняй Віцебшчыне і Магіле́ўшчыне.

На полі сеюць у Смаленшчыне вельмі шмат лёну. П а з а с е в у л ё н у Смаленшчына займае п е р ш а е м е й с ц а ў Беларусі. Тым часам як у рэшце Беларусі (апроч Віцебшчыны) лён се́юць найбольш для свайго ўжытку, тут лён ідзе́ на продаж. Ён дае́ць гаспадару смале́нскаму грашавую гатоўку, так патрэбную на зварот у гаспадарцы. Ад суседняе Віцебшчыны Смале́ншчына адзначаецца перад усім тым, што тут ячменю сеюць мала, а на першы плян выходзіць а в ё с (толькі ў Смале́нскім паве́це се́юць досіць многа ячме́ню, але й там аўса ўсё-ж больш). Другая адзнака ад Віцебшчыны — гэта тое, што ў Смале́ншчыне шмат садзяць б у л ь б ы. Урэшце ў паўднёвых паве́тах, асабліва-ж у Ельнінскім і Дарагабужскім, сеюць шмат к а н а п е́ л ь. Г а р о д н і ц т в а і с а д о ў н і ц т в а ў краіне мала разьвітыя. У сялян садоў блізка што саўсім няма. Добра стаіць у Смале́ншчыне м а л о ч н а я г а с п а д а р к а. Істнуе шмат маслабойных заводаў і сыраварняў.

Хле́ба свайго Смале́ншчыне звычайна хапае. Ня гле́дзячы на гэта, значная частка насяленьня адыходзіць н а с т а р а н у, н а з а р а б а т к і: найбольш у вялікія расейскія месты, але таксама — на будову чыгунак, шосаў, на хвабрыкі; шмат высяляецца і ў Сыбір. І, што ўсяго дзіўне́й, ве́льмі многа

ў Сыбір выяжджаюць як раз з рэдка засе́ленага Бе́льскага паве́ту, у якім зямлі сваёй, здавалася-б, хапае даволі.

У эканомічным жыцьці заходніх паве́таў Смале́ншчыны важную ролю йграюць вадзяныя шляхі, якіх тут ёсьць паддастаткам. У паўднёвай частцы краіны праходзіць шмат чыгунак. Сярэдзіна-ж і паўночны ўсход краіны ня маюць добрых шляхоў.

Гандаль у Смаленшчыне стаіць горай, чым у іншых краінах Беларусі. Адбываецца ён найбольш на кірмашох-ярмарках, якія зьбіраюцца ў ме́стах і большых сёлах па не́калькі разоў у год. Мястэчак, якія вядуць сталы абме́н і разьдзе́л тавараў, у Смале́ншчыне (апрача не́калькіх мястэ-



**Рыс. 155. Тыпы й вопраткі вясковых беларусак з Смаленшчыны.**

чак Вяліжскага паве́ту) няма. Гэта ве́льмі перашкаджае эканомічнаму разьвіцьцю краіны. Адсутнасьць мястэчак, гэтых мале́нькіх культурных і эканомічных цэнтраў, якімі густа засе́ена ўся Беларусь, шкодзіць і культурнаму стану краіны.

Смале́ншчына на пачатках беларускае гісторыі была заселена крывічамі і стварыла моцнае незалежнае князьства. Калі-ж вялікія князі літоўскія пачалі зьбіраць пад сваёю ўладаю Беларусь, Смале́ншчына таксама апынулася пад уладаю Літвы. У часе вялікае барацьбы Літвы-Беларусі з

Масквою Смале́ншчына заўсёды была арэнаю гэтае барацьбы, ме́йсцам найгарачэйшых бітваў. Смале́нск, як мы ўжо казалі, замыкаў Смале́нскую Браму. Затым-жа мэтаю маскоўцаў заўсёды было завалада́ць гэтым ме́стам. Гэтая-ж самая прычына прымушала нашых продкаў за ўсякую цану бараніць Смале́нску й Смале́ншчыны.

Праз цэлы XVI ве́к была Смале́ншчына пад уладаю Масквы. Маскоўцы, хочучы мацне́й прывязаць край да сябе́, высылалі з Смале́ншчыны шмат беларусаў у Маскоўшчыну, а на іх ме́йсца насылалі ў край маскоўцаў. Аднак на пачатку XVII в. Смале́ншчына йзноў на 50 гадоў злучылася з рэштаю Беларусі. За гэты час туды перабралася шмат*) дробнае й буйное беларускае шляхты з захаду, якая асе́ла па ўсёй Смале́ншчыне і засталася там да апошніх часоў, хаця цяпе́р ужо абмасковілася. У 1667 годзе Смале́ншчына йзноў адыйшла да Расе́і.

Дзякуючы даўгому супольнаму жыцьцю з Маскоўшчынаю, у Смале́ншчыне пазаводзілася шмат м а с к о ў с к і х п а р а д - к а ў, як добрых (напр., земствы), так і благіх. Мова смаленскіх беларусаў значна абмаскоўленая, а ў усходніх паве́тах ёсьць мяйсцамі маскоўскае насяле́ньне. Тут, як гэта заўсёды бывае на пагранічча́х, беларусы жывуць перамяшаўшыся з маскоўцамі, але ўсюдых значная большасьць беларусаў. Затое троху беларусаў, перамяшаўшыся з маскоўцамі, жыве́ і на ўсход ад беларускае мяжы, у Вяземскім паве́це, перахоўвуючы сваю мову і звычаі; там беларусы ўжо ў ме́ншасьці.

У паўночнай Смаленшчыне беларусы ўжываюць «ц о к а ю - ч а е» гаворкі (гаворацьть, як мазуры — цаго, цалавек і г.д.).

Даўгая барацьба, якая йшла на зе́млях Смале́ншчыны, яшчэ і з другога боку адбілася на жыцьці гэтае краіны. Ёю трэба тлумачыць б я з ь л ю д н а с ь ц ь у с х о д н і х п а в е́ - т а ў краіны, на якіх барацьба заўсёды адбівалася наймацней. На Вокаўскім ле́се шмат дзе сярод лясное не́тры можна знайсьці калодзіж, руіны даўне́йшых будынкаў і г.д. Даўне́й стаялі тут вёскі, народ жыў гусьце́й; мяйсцовае апавяданьне пацьвярджае гэтую думку, кажа, што ў часе вайны людзі ўцякалі адгэтуль у больш бясьпе́чныя ме́йсцы, сяліліся там, а іхнія сялібы зарасталі лесам. Такія мейсцы называюцца п у - с т о ш а м і.

### Важнейшыя мяйсцовасьці.

**СМАЛЕ́НСК** (рыс. 156) стаіць на высокім, зрэзаным ярамі, левым беразе Д н я п р а. Калі ён быў заложаны, нямаведама; залажылі яго, барджэй усяго, палачане. Ад самага пачатку свае́ гісторыі быў Смале́нск бойкім гандлёвым пунктам. Якраз у ім крыжаваліся абе́дзьве найважне́йшыя дарогі ўсходу Эўропы: адна з Варагаў да Бізантыі і другая з усходу, з краю баўгараў і хазараў, з-за Волгі — да Нямеччыны. Смаленск тады таргаваў з Рыгаю, востр. Готляндам і г.д., быў багатым і

*) Як лічаць, больш 20.000 чал.

культурным мéстам, мéў добрыя школы і такіх высока-асьвéчаных людзéй, як архірэй Клімэнт Смаляціч, або сьв. Аўрам Смалéнскі.

Наўгародзкія і кіяўскія князі ўвéсь час прэтэндавалі на Смалéнск: хаця ўрэшце ім удалося падчыніць яго сабé, аднак не вялікае было іхняе значэньне ў Смалéнску. Смалéнск упраўляўся сваім вéчам, а князём, мусіць, небясьпéчна навет жыць было ў мéсьце, бо мусілі будавацца на водшыбе, за мéстам, над р. Сьмядыньню.

Умéў пад той час Смалéнск і бараніцца ад ворагаў. Захавалася ў ім напалову легендарнае апавяданьне аб Сьв.



**Рыс. 156. Торг у Смалéнску.**

Мяркурыю, што са жмéняю смалян кінуўся на аграмадныя татарскія горды, якія прывёў быў пад Смалéнск маскоўскі князь, разьбіў іх і адагнаў ад Смалéнску, але заплаціў за гэта сваім жыцьцём.

Калі большая частка Беларусі адыйшла пад Літву, Смалéнск зрабіўся быў цэнтрам барацьбы за незалежнасьць Беларусі. Смалéнск літоўскім князём прыйшлося здабываць сілаю. Аднак, і пад Літвою будучы, трымаўся Смалéнск вéльмі незалéжна і перахаваў найбольш вольнасьцяй за ўсé іншыя беларускія мéсты. Пад Літвою жылося Смалéнску наагул

вельмі добра. Ніколі не даходзіў такога росквіту яго гандаль, як пад Літвою, ніколі гэтак не багацéла смалéнскае насялéньне.

Але ня доўга цягнуўся гэты час дабрабыту. Узмацнéўшая Масква пачала нападаць на зéмлі Смалéнскія і заяўляць прэтэнсыі да самога Смалéнску. Каб адбараніць мéста, быў тады, у XV вéку, пабудаваны земляны замак. Моцны быў гэты замак, але ня вытрымаў напору маскоўскага: у 1514 годзе ўзяў Смалéнск Васіль III. Быў Смалéнск пад Масквою аж да 1611 году. Маскоўцы ў часы Барыса Гадунова пабудавалі вакол мéста вялізарную сьцяну — шырынёю ў 1 сажань, вышынёю ў 2 сажані, а даўжыні 7 вёрст. Сьцяна гэтая перахавалася да нашых часоў.

Трудна было адабраць Смалéнск ад Масквы. Войскі літоўска-польскія дваццаць мéсяцаў стаялі пад ім, пакуль узялі. Ізноў аджыў Смалéнск, злучаны з рэштаю Беларусі. За 40 якіх гадоў яго было не пазнаць. Ён моцна вырас, пабагацéў ды зрабіўся чыста эўропэйскім мéстам. У ім было ўвéдзена Магдэбурскае права, шмат наéхала і пасялілася жыхараў з заходніх краінаў Беларусі. Побач з праваслаўнымі цэрквамі пазакладаліся й каталіцкія касьцёлы ды манастыры. Але ў 1654 гаду Смалéнск ізноў адабралі маскоўцы і зараз жа скасавалі ўсé парадкі беларускія, а завялі маскоўскія. Шмат беларускага насялéньня вывязьлі з Смалéнску, а на яго мéйсца пачалі сяліцца маскоўцы. У 1812 годзе Смалéнск моцна пацярпéў ад французаў.

Смаленск цяпер — адно з найпрыгажэйшых і найцікавейшых мéстаў Беларусі. Мéста гэтае перахавала гэтулькі памятак слаўнае беларускае мінуўшчыны, як можа ніякае другое. Праўда, у большасьці, яны ляжаць у руінах, засыпаных зямлёю. Але гэтыя руіны павінны быць дарагімі кожнаму беларусу. З-пад маскоўскага налёту, асéўшага на Смалéнску, яны найвыразьнéй гавораць аб тым, што тут беларуская зямля была, ёсьць і будзе.

З уцалéўшых старасьвéцкіх будынкаў трэба ўспомніць перад усім С ь в і р с к у ю ц а р к в у, пабудаваную ў XII веку. Знаходзіцца яна на прадмéсьці, дзе нéкаліс быў князёўскі замак; перахавалася гэтая царква да нашых часоў ува ўсім сваім хараствé. Ёсьць у ёй надзвычайна цікавы абраз Прачыстае беларускага рысунку. На яго адваротнай старанé знаходзіцца беларускі надпіс, якога дагэтуль яшчэ ніхто ня змог прачытаць. За Дняпром стаіць яшчэ старэйшая П ё т р а-П а ў л а ў с к а я ц а р к в а, якую, праўда, пазьней перараблялі.

Сьцéны смалéнскія надаюць мéсту шмат хараства; на іх перахавалася яшчэ шмат вéжаў. З вéжы, якая называецца В е с я л у х а ю, адкрываецца цудоўны від на мéста й яго ваколіцы.

З г а н д л ё в а г а і п р а м ы с л о в а г а б о к у Смалéнск не вызначаецца. Абслужуе ён толькі бліжэйшыя павéты свае краіны. Хвабрыкі яго невялікія: некалькі аляярняў, табачная хвабрыка, гарбарня, бровар. Моцна аджыў-

ляюць яго чыгункі, якія з Смалéнску разыходзяцца ў 5-х кірунках. Каля вагзалу, які пабудаваны на правым беразе Дняпра, вырасла гандлёвая частка мéста з вялікім рынкам. На Дняпры ёсьць значная прыстань (рыс. 157).

Праз сам Смалéнск і праз іншыя станцыі ў яго павéце вывозіцца шмат лясных матар'ялаў, дроў, а таксама й збожжа. Гэта апошняе ўжо паказуе, што гаспадарка ў павéце стаіць някéпска. Грунты павéту найбольш — суглінкі, і народ жывé досіць густа. Сéюць шмат аўса, ячмéню, бульбы й лёну. На



**Рыс. 157. Смалéнская прыстань на Дняпры.**

захадзе павéту знаходзяцца вялікія маслабойні і сыраварныя заводы ў **Катыні** і **Ванлярове**. Промыслы ў павéце слаба разьвітыя: на старану адыходзяць мала, займаюцца найбольш гаспадаркаю. Па нацыянальнасьці — больш 90 % беларусаў. Мяйсцовасьць у павéце мае моцна ўзгоркаваты выгляд. Вышыня Смаленскага ўзгор'я даходзіць тут 140 сажняў. У павеце ёсьць шмат мяйсцовасьцяў з памяткамі мінуўшчыны, руінамі, гарадзішчамі і г.д.

**Парэчча** — невялікае места, з 6 тыс. жыхараў, ляжыць на судаходняй р. Каспліі. Гэта адно з нямногіх надрэчных мéстаў беларускіх, якое перахавала сваё старадаўняе гандлёвае значэньне. Як і ў пракавéтныя часы, цягнуцца да яго з усяé блізка Смалéншчыны абозы з пянькою, лёнам, хлéбам. Парэцкія купцы разьяжджаюць па краі, скупляючы прадукты

гаспадаркі. Усё гэта звозіцца ў Парэчча, а там стаяць старыя сьвірны, дзе тавар складаецца, пакуль можна будзе яго ўпакаваць на лайбы і адправіць да Рыгі ды ў заморскія краі. Таргуе Парэчча пянькою, хлебам, салам, скурамі і лёнам.

Рака Касьпля выцякае з возера Касплінскага, якое ляжыць на паўдні павету, недалёка ад Дняпра. Лічаць, што якраз тут знаходзіўся галоўны волак на вадзяным шляху «з Варагаў у Грэкі», бо апошні мусіў ісьці з Дняпра на Касплінскае возера, далей па р. Касплі, перасякаў Дзьвіну і падыймаўся ўверх па р. Усьвяту да новага волака, перайшоўшы цераз які трапляў у р. Ловаць.

Сярэдзіна і поўдзень Парэцкага пав. пакрытыя найбольш лёгкімі супяшчанымі грунтамі, зьяўляюцца лясістай старанай; гаспадарка стаіць тут, аднак, някепска. З ярыны сеюць найбольш аўса, лёну й бульбы. У павеце шмат сыраварняў. З промыслаў тут разьвітыя лясныя, па рубцы і сплаву лесу, і асабліва рыбалоўства ў р. Касплі ды яе прытоках.

Калі паўднёвая частка павету лясістая, дык паўночная зьяўляецца аднэю суцэльнаю пушчай, якую перарываюць толькі дзе-ня-дзе вазёры (з іх найбольшае воз. Шчучае) і балотныя мшары, як, напрыклад, вялізны Жакаўскі Мох, што займае каля 150 кв. вёрст прастору. Усю гэтую частку павету пакрываюць бедныя падзолы. Насяленьне тут рэдкае, займаецца апроч гаспадаркі ляснымі промысламі, рыбалоўствам і г.д. Гэтую частку павету абвадняе другі вялікі прыток Дзьвіны — Мяжа. Над ёю, сярод безканечных пушчаў і балотаў, стаіць старэнькі манастыр — Ордынская Пустынь. Безканечныя пушчы цягнуцца адгэтуль і на ўсход — у Бельскім павеце, і на захад — у Вяліжскім пав.

Усход і поўнач Вяліжскага пав., а таксама й сумежная беларуская частка Тарапецкага, таксама зьяўляюцца блізка адным лесам. Таксама і тут найбольшую частку паверхні займаюць падзолы, і толькі ўздоўж левага берагу Дзьвіны ляжаць пяшчаныя й супяшчаныя грунты. У гэткай глухой мяйсцовасьці, на стромкім узгорку, над Дзьвіною, ляжыць досіць значнае места **Вяліж**, з 17 тыс. жыхараў. Места гэтае старое, а даўней, як кажуць, было вельмі вялікае (затым і Вяліжам называецца) ды багатае; залежыла яно ад Смаленску. Так сама, як і Парэчча, аддалены ад зялезнае дарогі, вядзе Вяліж, як і вёў спрадвеку, жывы гандаль па рацэ з Рыгаю. Сплаўляе ён туды па Дзьвіне найбольш лес і лён, а навет і хлеб. Шмат жыхараў у ім і ў павеце займаецца сплавам і наагул ляснымі промысламі. Вяліжане славяцца і як добрыя цесьлі: па Дзьвіне шмат ходзіць імі будаваных лайбаў.

Наагул у Вяліжскім павеце промыслы моцна разьвітыя, чым ён рэзка выдзяляецца з усяе Віцебскае губэрні, да якое

афіцыяльна адносіцца. На поўначы Вяліжскага пав., каля в. Панькава ёсьць сéрністая крыніца.

На захадзе Вяліжскага пав. лясы радзéюць, грунты ляжаць багацéйшыя — найбольш суглінкі. Тут як раз цячэ р. Усьвят, праз каторую, як мы ўжо казалі, йшоў даўнéй вялікі вадзяны шлях. Выплывае гэтая рака з возера Ўсьвяту, і тут над ім, недалёка ад пачатку р. Ловаці, стаіць вéльмі старое **мястэчка Ўсьвят**, адзін з старэйшых полацкіх прыгарадаў. Цяпéр гэта досіць бойкае гандлёвае й прамысловае мястэчка, з 4 тыс. жыхараў. У ім моцна разьвітае гарбарства — ёсьць 8 гарбарняў. Гандлюе Ўсьвят найбольш з Рыгаю, сплаўляючы туды скуры і збожжа.

Гаспадарка Вяліжскага павéту вызначаецца вялікімі засéвамі аўса, лёну і бульбы.

У паўднёвай, беларускай частцы сумéжнага Тарапéцкага пав., сярод вялікіх, мокрых лясных прастораў, ляжаць вялікія вазёры — воз. Дзьвіньне (50 кв. вёр.), воз. Жыжыца і шмат меншых. На ўсход ад гэтых вазёраў мяйсцовасьць вышэе, робіцца ўзгоркаватаю (тут пачынаюцца г. зв. Вераб'ёвыя горы), гусьцéй засéленаю. Па ўсходняй і паўднёвай мяжы павéту цячэ Дзьвіна. Берагі яé тут скалістыя (каля в. Веражуня ёсьць скала вышынёю да 60 сажняў), пакрытыя лéсам. Прырода і гаспадарка маюць шмат супольнага з прыродай і гаспадаркаю Вяліжскага пав. Моцна разьвітыя лясныя промыслы.

Духаўшчынскі пав. па ўстройству свaé паверхні зьяўляецца пераходным. Тым часам, як яго заходняя частка ёсьць морэнным краем, а мяйсцамі мае навет гарысты выгляд, з грунтамі сугліністымі і супяшчанымі, моцна камяністымі, усходняя ўжо ляжыць на Вокаўскім лéсе. Тут пашыраныя лёсавідныя суглінкі, мяйсцовасьць высокая й роўная. Паўночны-ж куток павéту, уціснуты паміж Парэцкім і Бéльскім павéтамі, нічым ад іх ня розьніцца: тыя-ж лясы, балоты й вазёры.

Павéтавае мéста **Духаўшчына** ляжыць далёка ад чыгункі, мае каля 3 тыс. жыхараў і вядзé дробны гандаль. Далёка цікавéйшым за яго зьяўляецца с. **Ярцаў-Перавоз**, дзе знаходзіцца ўспамінаная ўжо аграмадная прадзільная й ткацкая хвабрыка бр. Хлудовых, з 4 тыс. работнікаў. Пры хвабрыцы вырасла цэлае мястэчка, досіць добра ўстроенае. Там-жа праходзіць Маскоўска-Берасьцéйская чыгунка.

Апрача гэтае хвабрыкі ў павéце прамысловасьць няразьвітая. Ёсьць нéкалькі пільняў, бравароў, адна гарбарня, паравы млын. Ярцаўская хвабрыка стаіць саўсім адзінока.

Насялéньне ў павéце жывé гусьцéй, чым у сусéдніх, апрача Смалéнскага. З промыслаў разьвітае гарбарства, выраб кашоў, бёрдаў. Недалёка ад Духаўшчыны, пры в. **Зімніцы**, у прыгожай гарыстай мяйсцовасьці, знаходзіцца сéрна-зялéзная крыніца.

З трох павéтаў, што ляжаць на Вокаўскім лéсе, найгусьцéй

засе́лены Е́льнінскі. Ня гле́дзячы на сваё ве́льмі паднятае палажэньне, мае ён паве́рхню роўную. Пакрыты ён найбольш лёссавіднымі суглінкамі, а ў далінах большых рэк ляжаць супяскі. У няглыбокіх западзінах ляжаць тут на ве́рсе ўзгор'я досіць значныя тарфяныя мшары, з якіх пачынаюцца р. Дзясна, р. Вугра ды інш.

У гаспадарках Е́льнінскага пав. шмат сеюць бульбы і лёну. Але побач з лёнам тут ужо сеюць шмат і канапе́ль; на паўдня-ж ад Е́льнінскага пав. ляжаць чыста канапляныя районы — Радань, Лесасэп. З промыслаў тут разьвітыя лясныя і зьвязаныя з імі: выраб павозак, сане́й, бандарка. У некаторых вёсках разьвітае гарбарства. Урэшце шмат народу адыходзіць на зарабаткі на старану: галоўным чынам працуюць пры будове чыгунак. Прамысловасьць хвабрычная разьвіта слаба. Як і ўва ўсёй Смале́ншчыне, стаяць тут пільні, крыху бравароў, млыны.

**Е́льня** — маленькае (мае 2 тыс. жыхараў) места, якое заўсёды было смале́нскім прыгарадам і дзяліла яго долю; істнавала яна яшчэ ў XII ве́ку. Экономічнае значэньне яго малое. На паўдня ад Е́льні, над р. Дзясною, сярод лясоў ляжыць **сяло Наваспаскае**, дзе радзіўся і жыў геніяльны композытар Міхайла Глінка. Усю сваю моладасьць заслухаваўся ён тут на Бацькаўшчыне е́льнінскімі беларускімі пе́сьнямі, а пасьля іхнія матывы ўвёў у свае́ творы. Зьме́ст гэтых твораў, праўда, пранікнуты маскоўскім патрыятызмам. Але ў музычных творах галоўнае — музыка, і яна там чыста беларуская.

Суме́жны з Е́льнінскім **Дарагабужскі паве́т**, крыху больш за яго лясісты і радзе́й засе́лены. Верхні Дняпро рэжа паве́т на дзьве́ часьці. Шырокая даліна Дняпра пакрытая тут супяскамі, пяскамі ды наноснымі грунтамі. Рэшта-ж паве́ту ляжыць на лёссавідных суглінках. Якраз на гэтых грунтох на поўначы паве́ту знаходзіцца Бацішчаўская сельска-гаспадарская пробная станцыя (каля **в. Бацішчава**), найбольшая і найслаўне́йшая з усіх такіх установаў у Беларусі. Залажыў яе́ гаспадар Бацішчаўскага двара, праф. Энгельгард, у 70-х гадох мінулага ве́ку. На жаль, станцыя гэта, ле́жачы на самай мяжы Беларусі, ня можа абслужаваць яе́ ўсяе́ і мае значэньне толькі для Смале́ншчыны, і то галоўным чынам усходняе.

У гаспадарках паве́ту найбольш сеюць аўса, лёну і бульбы і, апроч таго, шмат сеюць канапель. У павеце разьвіта сыраварэньне. З промыслаў пашыраны найбольш: бандарка, гарбарства, выраб сане́й, кашоў, бёрдаў, гонка дзёгцю і г.д. Шмат народу адыходзіць на зарабаткі на старану (каменяры, це́слі ды інш.). Хвабрычная прамысловасьць нязначная.

У Дарагабужскім пав., каля в. Быкаве, ёсьць сернiстая крыніца.

Над Дняпром стаіць старое ды прыгожае ме́ста **Дарагабуж**.

Праз увéсь час сваé гісторыі было гэтае, адно з найбліжэйшых да Масквы беларускіх местаў, як быццам перададвым фортам Смаленску, а значыць і ўсяé Беларусі. Гэтую сваю ролю спаўняў Дарагабуж увéсь час вéрна і шчыра, аж пакуль такі сіла не ўзяла вéрх. Аднак невясёлыя для беларуса ўспаміны вяжуцца з Дарагабужам: два разы тут маскоўцы моцна разьбілі беларуска-літоўскае войска. Як успамін мінуўшчыны засталіся ў Дарагабужы валы замку ды нéкалькі дужа старых камéнных цэркваў.

Жыхараў цяпер у Дарагабужы каля 7 тыс. Гандлюе места найбольш пянькою і хлéбам. На вялікай ярмарцы, якая тут зьбіраецца ў восень, побач з беларусамі спатыкаецца ўжо шмат і маскоўцаў, як гэта паказана па зьмéшчаным рысунку (рыс. 158).

Аб прыродзе Бельскага пав. ня раз ужо намі гаворана. Мусім цяпéр яшчэ адзначыць, што ў той час, як уся паўднёвая, ўсходняя і навет паўночная часткі павéту ляжаць на Вокаўскім лéсе, на лёссавідных суглінках, заходняя частка павéту, сумéжная з Парэцкім пав., пакрытая найбольш падзоламі й супяскамі і ёсьць як-бы пераходам да морэннага краю. Тут спатыкаюцца ўжо вазёры і асабліва шмат балотаў — імшараў; з апошніх найбольшае Сьвіцкі мох.

Бéльскі павéт увéсь пакрыты лясамі і балотамі. Гэта самы лясісты павет у Беларусі. Лясы тут даўней найбольш былі яловыя ды хваёвыя; налéжылі яны да двароў і цяпéр у большасьці высéчаныя ў пéнь; пасекі-ж пазарасталі бярэзьнікам з домешкай асіны, éлкі і г.д. Дзікая прырода Бельскіх лясоў моцна прыпамінае сыбірскую тайгу; жыхары суседніх паветаў навет і называюць Бельшчыну — Сыбірам. Насялéньне ў павéце жывé рэдка. Надзвычайна важнае значэньне для яго маюць лясныя промыслы — рубка і сплаў лéсу, якія тут моцна разьвітыя. Хвабрычная прамысловасьць разьвітая слаба. Апроч нéкалькіх пільняў і млыноў ёсьць досіць значная і дóбра пастаўленая шкляная гута ў в. Навасельску (на поўначы пав.). Адыход на старану, на зарабаткі, разьвіты мала. Затое шмат перасяляецца адгэтуль у Сыбір, на Амур і ў Закаўказьзе.

Чыгунка йдзéць толькі праз паўночны край гэтага вялікага па прастору павéту. Галоўным-жа шляхом комунікацыі зьяўляецца значная судаходная р. Мяжа з сваім, таксама значным прытокам р. Вобшаю. Над гэтай апошняй ракою стаіць горад Бéлы. Пабудован ён, мусіць, каля XIII вéку і належыў да Смаленску. Цяпер гэта невялікае места, з 9 тыс. жыхараў. Жывéць ён найбольш ад рачнога гандлю і будаваньня судзінаў; гандлюе з Рыгаю аўсом, пянькою і лéсам. Ёсьць нéкалькі гарбарняў. Недалёка ад мéста здабываюць вапну.

З іншых мяйсцовасьцяў Бéльскага пав. трэба ўспомніць пра **в. Клёцавую**, што ляжыць пры самай блізка мяжы Беларусі. Каля яé пачынаецца вялікая беларуская рака — Дняпро.

На поўначы павéту ляжыць **с. Тацева**, дзе вучыў даўгі час у пачаткавай школе вядомы пэдагог, праф. С. Рачынскі.

Беларусы жывуць і на поўнач ад Бéльскага пав., у паўднёвых частках Р ж э ў с к а г а і А с т а ш к а ў с к а г а павéтаў Цьвéрскае губ. Тут беларуская мяжа даходзіць да р. Волгі і нéкалькі дзесяткаў вёрст ідзéць уздоўж яé берагу.

Праз гэтыя прасторы, зьвіваючыся, цячэ глыбокі прыток Волгі — р. М а л а д ы  Т у д; ад яго і тамашніх беларусаў называюць т у д а ў л я н а м і.

Як адзначаюць расéйскія географы, тудаўлян выдзяляюць ад



**Рыс. 158. На ярмарцы ў Дарагабужы.**
Спатканьне беларусаў з маскоўцамі.

суседніх маскоўцаў іхнія сумленнасьць, лагоднасьць, цярплівасьць і гасьціннасьць. Ходзяць яны ў «к у н т ы ш о х» — вузкіх ды кароткіх кажушкох. Перахавалі тудаўляне ў чыстаце беларускі характар, звычаі і мову.

З прыроднага і гаспадарскага боку гэтыя прасторы падобныя да сумéжнага Бéльскага павéту. Аднак яны мéнш лясістыя і маюць гусьцéйшае насялéньне, чым у Бéльскім павéце. Над Маладым Тудам знайшлі досіць багатыя залежы камéннага вугаля. На рацэ тут многа млыноў; водзіцца шмат рыбы.

На захадзе гэтых прастораў цячэ сярод высокіх скалаў і дубовых лясоў верхняя Дзьвіна. Берагі яé тут маюць шмат мінэральнага багацьця. У некалькіх мяйсцох цякуць с é - рна-зялезныя крыніцы, сярод скалаў знаходзяць дарагія камéньні: халцэдон, сердолік, горны крышталь. Каля в. **Адрыянопалю**, над Дзьвіною, знайшлі ў пачатку XIX веку навет золата.

Далей на ўсход, паміж Дзьвіною і Жукопаю (прыток Волгі), цягнуцца лясы і балоты, якімі тут пакрыты Волжска-Дзьвінскі вададзéл. Лясы гэтыя вéльмі багатыя на дзічыну. Мяйсцовасьць мае гарысты выгляд.

Яшчэ далéй, на паўднёвы ўсход, мяйсцовасьць робіцца раўнéйшаю, лясы радзéюць і пачынаюцца земляробскія прасторы. Тут якраз знаходзіцца значнае **сяло Маллады Туд**, над рэчкай таго-ж імéньня — з 500 чал. жыхараў. Гэта вéльмі старая мясьціна. У XIV вéку беларуска-літоўскае войска пабудавала тут абаронны замак; руіны яго відны яшчэ й дагэтуль. Цяпéр Туд вядомы як гандлёвы пункт: зьбіраецца тут аж 6 кірмашоў у год. У **в. Акоўцах** ёсьць «Сьвятая» сéрністая крыніца. Сюды зыходзіцца шмат багамолаў.

**Ржэва** — старое (успамінаецца ў XI в.) мéста над Волгаю. Вядзé значны гандаль лёнам і пянькою. Ёсьць у ім пяньковыя хвабрыкі. Наагул прамысловасьць у ім разьвітая. На хвабрыках працуе каля 1 1/2 тыс. работнікаў.

---

# Што чытаць па географіі Беларусі.

Да гэтае пары, можна лічыць, што спэцыяльнае географіі ўсяе Беларусі, як суцэльнасьці, ня было. Толькі сьветлае памяці Адам-Ганоры Кіркор, вядомы беларускі географ і гісторык, гадоў 40 назад зьмесьціў свае прыгожыя, пранікнутыя гарачым замілаваньнем да Бацькаўшчыны, артыкулы аб Беларусі ў агульна-расейскім географічным выданьні «Живописная Россія» (том III. СПБ. 1882. Выданьне М. Вольфа). На вялікі жаль, ён, сьледам за расейскай навукаю, разглядаў там асобна «Беларускае Палесьсе» (ўсходнюю і цэнтральную Беларусь) і асобна «Літоўскае Палесьсе» (заходнюю Беларусь разам з этнографічнаю Літвою). Хаця гэта значна шкодзіць яго твору і хаця кніга гэтая ўжо крыху перастарэла, але і цяпер мы мусім яе перад усім раіць для больш дэтальнага абзнаёмленьня з географіяй Беларусі, асабліваж з гістарычнаю географіяй.



Рыс. 159. Адам-Ганоры Кіркор.

Цэнтральная і ўсходняя Беларусь вельмі добра і дэтальна апісаны ў другім агульнарасейскім географічным выданьні: «Россія. Полное географическое описаніе нашего отечества». Том IX пасьвячаны «Верхнему Поднѣпровью и Бѣлоруссіи». СПБ. 1905 г. Заходняе Беларусі, аднак, тут саўсім няма.

У польскай літэратуры ёсьць шмат цэнных прац па географіі Беларусі, найбольш, праўда, у даўнейшых і цяпер распраданых выданьнях, як, прыкл., кніга: M. Balinski. Wielkie Księstwo Litewskie — у выданьні «Starożytna Polska pod względem

historycznym, geograficznym i statystycznym». T. IV. Warszawa. 1886. Тут грунтоўна вылажана гістарычная географія Беларусі. Пакрысé разьвіваецца праца над географіяй Беларусі і сучасных польскіх вучоных. Як вéльмі цікавы рэзультат такое працы маем кнігу S. Wołłosowicz. Litwa i Białorus. Budowa fizyczno-geograficzna. Warsz. 1920, у якой бачым пробу фізычнае географіі Беларусі (галоўным чынам — заходняе); аўтар, на жаль, досіць памылкова адносіцца да пытаньня аб прыродных мéжах Беларусі. Шмат матар'ялу па географіі Беларусі можна знайсьці ў агульных курсах географіі Польшчы; польскія географы звычайна ў мéжы сваé Бацькаўшчыны ўключаюць блізка ўсю Беларусь і з гэтае прычыны досіць многа аб ёй пішуць. З цікавасьцяй можна прачытаць адпавéдныя страніцы ў географіях Польшчы, якія напісалі: Sujkowski (Warszawa. 1918); Sosnowski (Warszawa. 1913); Pawłowski (Lwów. 1917) ды інш.

Але асабліва цэнныя матар'ялы можна знайсці для фізычнае географіі Беларусі ў такіх творах, як A. Rehman. «Ziemie dawnej Polski i sąsiednich krajów słowiańskich, opisane pod względem fizyczno-geograficznym». T. II. Polska niżowa. Lwów. 1904, дзе сабрана шмат матар'ялу для фізычна-географічнае характарыстыкі паасобных краінаў Беларусі. У выданні «Encyklopedja Polska. T. I. Geografija fizyczna Ziem Polskich» маем досіць грунтоўны агляд тэорэтычных пытаньняў фізычнае географіі, у значнай мéры датычачых і Беларусі. У расéйскай літэратуры шмат матар'ялу па фізычнай географіі Беларусі зьмяшчаецца ў выданні — «Очеркъ работъ Западной Экспедиціи по осуш. болотъ 1873—1898 г. подъ руковод. ген. Жилинскаго» і ў дадатках да яго (працы аб клімаце, расьліннасьці Палéсься); таксама шмат важных матар'ялаў ёсьць у розных гéографічных і геолёгічных расéйскіх журналах.

Па беларускай этнографіі ёсьць дужа багатая літэратура; быт беларуса грунтоўна апісаны ў кнігах: Е. Романовъ. Бѣлорусскій Сборнікъ. Вып. VIII і IX. Бытъ бѣлорусса. Вильна. 1912. Никифоровскій. Очерки простонароднаго житья-бытья въ Витебской Бѣлоруссіи. Витебскъ. 1895; Fedorowski. Lud białoruski. 1897—1903.

Аснаўным матар'ялам для статыстыкі насялéньня служыць і дагэтуль «Первая всеобщая перепись населенія Россійской Имперіи — 1897 года». Сьвяжэйшыя, але няпэўныя данныя даéць для заходняе і цэнтральнае Беларусі «Spis ludnosci na terenach, administrowanych przez Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich, w grudniu 1919 r.» Lwów — Warszawa. 1920. Вéльмі цэнныя статыстычныя данныя аб Беларусі зьмéшчаны ў зборніку проф. Ромэра і І. Вэйнфэльда «Rocznik Polski. Tablice statystyczne». Kraków. 1917. Тым-жа проф. Ромэрам выдадзены вéльмі цікавы «Atlas Polski» (Warszawa — Kraków. 1916). Досіць сьвéжыя (перадваéнныя) данныя з географіі і статыстыкі Беларусі (разам з Літвою і Польшчаю) ілюстраваны тут вéльмі добра і арыгінальна апрацаванымі картаграмамі. Праца гэтая

вызначаецца навуковаю об'ектыўнасьцяй. У справе нацыянальнае статыстыкі і ме́жаў Беларусі ве́льмі цэнны твор акад. Карскага: «Этнографическая карта Бѣлорускаго племени». Петроградъ. 1917. Шмат матар'ялу да географіі Беларусі ёсьць у кнізе таго-ж аўтара: «Бѣлоруссы», т. І. Варшава. 1904.

Цікавы нарыс экономічнага становішча Беларусі можна знайсьці ў кніжцы беларускага экономіста А. Уласава «Бѣлоруссія и Литва». Минскъ. 1918, ды таксама ў творы L. Wasilewski. Litwa i Białoruś. Найбольш-жа грунтоўных матар'ялаў у гэтай справе трэба шукаць у агульна расе́йскіх статыстычных выданьнях. З іх асабліва варта ўвагі выданьне «Торговля и Промышленность Европейской Россіи по районамъ». Выданьне Міністэрства Гандлю і Прамысловасьці. «Сводъ статистическихъ свѣдъній по сельскому хозяйству къ концу XIX в.» Выд. Мін. Земляробства. 1902—1904.

Шмат ве́дамасьцяў аб асобных мясьцінах Беларусі можна знайсьці ўва ўсякіх слоўніках географічных і энцыклёпэдычных. Асабліваe ўвагі варт вялікі расе́йскі слоўнік Брокгаўза і Эфрона ды польскі «Słownik geograficzny» (16 томаў. Warszawa. 1880—1904). Істнуе ў польскай мове і спэцыяльны «Przewodnik po Litwie i Białej Rusi». N. Rouby.

З выданьняў, пасьвячаных паасобным краінам і мяйсцовасьцям Беларусі, трэба ўспомніць аб гэткіх: 1) Дембовецкій. Опытъ описанія Могилевской губ. 1882. 2) Ястремскій. Краткій очеркъ Минской губ. 1897. 3) Сапуновъ. Рѣка Западная Двина. 1893. 4) Максимовичъ. Днѣпръ и его бассейнъ. Кіевъ. 1901. Таксама — розныя творы Glogera, Кіркара ды інш. З монографіяў аб паасобных паве́тах ле́пшыя: 1) E. Tyszkiewicz. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno. 1847. 2) К. Аникіевичъ. Сѣнненскій уѣздъ. Могилевъ. 1907. 3) Cz. Jankowski. Powiat Oszmiański. Petersburg. 1897.

У канцы трэба адзначыць, што шмат артыкулаў па географіі Беларусі было зьме́шчана ў розных географічных журналах. Істнаваў не́йкі час навет паважны навуковы журнал, пасьвячаны географіі Беларусі, «Записки С.-Зап. Отдѣла Импер. Русскаго Географ. О-ва». 1910—1913. З расе́йскіх ды польскіх географічных журналаў шмат друкавалі твораў аб Беларусі: «Извѣстія Имп. Русск. Геогр. О-ва», «Труды СПБ. О-ва Естествоиспытателей», «Pamietnik Fizyograficzny», і асабліва — журнал «Ziemia», выдаваны ў 1910—1914 г. Польскім Т-вам Краязнаўчым у Варшаве. Шмат географічных матар'ялаў раскідана па памятным кніжкам розных беларускіх губэрняў, краёвым календаром і г.д.

Нашае пералічэньне найбольш вядомых, карысных, а да таго-ж істнуючых у бібліотэках ці ў кнігарнях твораў па географіі Беларусі ёсьць далёка ня поўным і не сыстэматычным. Пры некаторых з успомненых кніжок (прыкл., Россія, т. IX) дадзены бібліографічныя сьпісы. Трэба, аднак, прызнаць, што бібліаграфія нашае навукі саўсім яшчэ не распрацаваная і на яе́ трэба каб зьвярнулі пе́ршую сваю ўвагу працаўнікі над навукаю аб радзімай зямлі.

# АЛЬФАБЭТНЫ СЬПІС
## географічных найменьняў

*(Цыфры пры найменьнях паказуюць страніцы. Чорныя цыфры паказуюць страніцу, спэцыяльна пасьвячаную данай мяйсцовасьці).*

м — места, мястэчка; с — сяло; в — вёска; дв.— двор; фалів. — фаліварак; ст. — станцыя; пав. — павет; р. — рака; воз. — возера; бал. — балота.

# СЬПІС РЫСУНКАЎ І КАРТАЎ, зьмешчаных у тэксьце кнігі.

# ПАСЬЛЯСЛОЎЕ

Кніга «Геаграфія Беларусі» належыць пяру таленавітага вучонага і палітычнага дзеяча Аркадзя Смоліча (1891—1938). Яна ствралася пад час самавызначэньня беларусаў як нацыі, барацьбы яе лепшых сыноў за самастойны дзяржаўны быт свайго народа.

А. Смоліч быў адным з найруплівейшых і самаахвярных дойлідаў беларускай дзяржаўнасьці. Ягоным палітычным ідэалам сталася незалежная Беларуская Дэмакратычная Рэспубліка. Да беларускага адраджэнцкага руху Смоліч далучыўся ў 1910 г., будучы студэнтам Нова-Аляксандраўскага інстытуту сельскай гаспадаркі і лесаводства ў Пулавах. У 1914 г. у часопісах «Раніца» і «Лучынка» ён дэбютаваў эцюдамі на навукова-папулярныя і грамадзкія тэмы. З вясны 1917 г. А. Смоліч — адзін з дзейных лідэраў Беларускай Сацыялістычнай Грамады ў Менску, рэдактар яе друкаванага воргану газеты «Грамада», плённы публіцыст. Пазней, калі БСГ дэферэнцыявалася і з яе вылучыліся тры плыні, ён стаў ідэолагам і тэарэтыкам (аўтарам праграмы) Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі.

Асноўная перадумова пераходу да сацыялізму бачыцца аўтару праграмы БСДП не ў дыктатуры пралетарыяту, а ў дэмакратычным рэспубліканскім ладзе. Грунтуючыся на парламенцкім спосабе народаўладдзя, на такіх найважнейшых заваёвах грамадзтва, як «свабода слова, друку, сходаў, грамадаў, хаўрусаў, свабода сумленьня, незачэпнасьць асобы, дому, перапіскі, агульная роўнасць усіх грамадзян перад законам, аддзяленьне царквы ад дзяржавы» можна, на думку Смоліча, падрыхтаваць «будучых творцаў сацыялістычнага парадку, арганізатараў, працаўнікоў сацыялістычнай рэспублікі». Бо менавіта дзякуючы сацыяльным і палітычным рэформам, якія можна зьдзейсьніць толькі ў дэмакратычных умовах, «вызваляецца ад паднявольнае адміністрацыйнае апекі асоба чалавека, што дасьць ёй магчымасць вольна і шырока разьвіць свае прыродныя здольнасьці,

ухіліць нездаровыя дэмаралізуючыя ўплывы няволі і ўціску».

Не пазбаўлены цікавасьці пагляд беларускага сацыял-дэмакрата на будучыню нацыяў. «Тварыць па-за межамі нацыянальнасьці, — пісаў А. Смоліч, — немажліва. І народ, звольнены ад капіталістычнага вызыску, таксама, як і ў цяперашнія часы, будзе выяўляць сваю найвышэйшую творчасьць у нацыянальных формах. А значыць, і ўселюдскі прагрэс, які ёсць творчасьцю перадусім, будзеісьці нацыянальнымі шляхамі і прывядзець ніякім чынам не да асіміляцыі народаў, а толькі да вышэйшае формы іх згоднага жыцьця, працоўнага інтэрнацыяналу».

На працягу 1917 — 1920 гг. А. Смоліч удзельнічаў практычна ва ўсіх акцыях, звязаных з вызначэньнем лёсу Беларусі, будучыні яе народу. Ён быў актыўны на абодвух зьездах беларускіх партыяў і аганізацыяў увесну і летам 1917 г. У сьнежні 1917 г. Смоліч — удзельнік Усебеларускага зьезду, які абвясьціў у Беларусі дэмакратычна-рэспубліканскі лад. У лютым-сакавіку 1918 г. ён — адзін з ініцыятараў ідэі суверэннасьці Беларусі. Як радны Беларускае Народнае Рэспублікі належаў да творцаў акту 25 сакавіка. У першым беларускім урадзе, Народным Сакратарыяце, Смоліч займаў пасаду сакратара асьветы.

Перад маладымі барацьбітамі за адроджаную, суверэнную Беларусь ляжаў непачаты край працы, вялікай і малой. Смоліч самааддана падзяляў агульную ношу... Клапаціўся пра стварэньне трывалых перадумоў для росту грамадскае сьведамасьці, духоўнасьці. Арганізоўваў курсы беларусазнаўства і сам з іншымі чытаў на іх. Рупіўся вакол заснаваньня культурна-грамадзкага таварыства «Бацькаўшчына». Узначаліў камісію, у якой сабраўся цьвет беларускае навукі — акадэмік Карскі, прафесары Даўнар-Запольскі, Завітневіч, дзеля хутчэйшага адкрыцьця універсітэту ў Менску. Адначасова ўвесь 1918 год, застаючыся службоўцам статыстычнага бюро Менскага губернаскага земства, дабіраў матэрыялы з географіі і эканомікі Беларусі, працаваў з падручнікам. Ведаў, якое неацэннае значэньне мае асьвета для духоўнай кансалідацыі народу, што толькі-толькі пацягнуўся да сьведамага жыцьця.

У кастрычніку 1918 г. А. Смоліч быў пасланы ў Горадню для пашырэньня базы вызвольнага руху, рэалізацыі ідэі беларускай суверэннасьці. Але неўзабаве Гарадзеншчыну занялі легіёны толькі што паўсталай з працяглага палітычнага нябыту Польшчы. Яны сталі нішчыць кволыя парасткі беларускае

дзяржаўнасьці, перасьледаваць яе творцаў, і Смоліч перабіраецца ў Вільню. Там у 1919 г. дапрацоўвае і выдае «Географію Беларусі», першую і, пэўна ж, галоўную сваю кнігу.

«Географія Беларусі» Аркадзя Смоліча — паважны навуковы твор і адначасова жывы, пранікнёны аповяд пра беларускую зямлю, яе прыроду, гаспадарку і народ. У сваім часе яна атрымала шырокае грамадзкае прызнаньне, сталася незаменнаю крыніцаю радзімазнаўства, добра прычынілася да самапазнаньня беларусаў.

У 1920 — 1922 гг. А. Смоліч працуе выкладчыкам Віленскай беларускай гімназіі, чытае геаграфію на настаўніцкіх курсах, становіцца адным з заснавальнікаў і першым старшынёй Таварыства беларускае школы, якое пазьней адыграе немалую ролю ў барацьбе працоўных Заходняй Беларусі за нацыянальную школу і культуру. Смоліч глыбока разумеў, якое вялікае значэньне мае нацыянальная адукацыя, школа ў жыцьці народу. «Абудзіць масы народу ад застою, заклікаць іх да разумнага грамадзянскага жыцця, да культурнай творчасьці можа толькі нацыянальная школа, — пісаў ён. — Нацыянальнае выхаваньне аздараўляе і асьвяжае народныя сілы, выкрывае схаваныя здольнасьці народу, нясе яму духоўную моц, багаціць думку, правільна разьвівае яго розум».

Пагляд Аркадзя Смоліча на школу, на значэньне роднай мовы для ўзгадаваньня дзіцяці грунтаваўся на досьведзе, перажытым яго народам, ім самім. Некаторыя яго сілагізмы належаць да вечных ісьцінаў, як, напрыклад, гэты: «Асноваю нацыянальнае школы служыць родная мова — адзнака нацыі, яе духоўны твар. Мова зьбірае ў сабе ўсё, што мае дух нацыі. Няма ў нацыі нічога ні малога, ні вялікага, чаго б мова не ведала. Без мовы не адбываецца творчасьць народу. Пакуль жыве мова, датуль жыве і народ, датуль і нацыянальнае выхаваньне будзе мець вялікую вагу і значэньне. Адабраць у народу мову — значыць спыніць яго развіцьцё, паставіць на дарозе яго культурнай творчасці глухую перагародку. Эпоха заняпаду мовы ў жыцьці нацыі — гэта эпоха заняпаду ўсяго жыцьця народу, спыненьне працы яго розуму: гэта нацыянальная хвароба, самае горшае няшчасьце, якое можа здарыцца ў цэлага народу».

Аднак адной асьветнай справай ў Вільні, з яе гістарычнымі, культурнымі беларускімі традыцыямі, А. Смоліч не абмяжоўваўся. Удзельнікі каапэратыўнага руху на Віленшчыне браты Канчэўскія, М. Арэхва, Э. Будзька ды іншыя на пачатку 20-ых гадоў

пасьпяхова спалучалі задачы сацыяльнай абароны інтарэсаў насельніцтва з нацыянальна-асьветнымі вызвольнымі мэтамі. Смоліч далучаецца і да гэтае дзялянкі грамадзкае працы: яго абіраюць сябрам управы Віленскага хаўрусу каапératараў, прызначаюць інструктарам аддзелу. Аднак кіраўніцтва польскай кааперацыі, якому самастойныя беларускія каапératывы былі косткай у горле, павяло з імі актыўнае змаганьне і пасьля двухразовай зьмены ўправы, арышту старшыні гэтага хаўрусу кааператараў Віленшчыны ўдалося, нарэшце, падпарадкаваць яго свайму верхавенству. Не давалі польскія адміністрацыйныя ўлады магчымасьці шырэй разгарнуць і асьветную працу. На кожным кроку вязалі рукі, па-езуіцку ладзілі перашкоды.

Як палітык і эканаміст Аркадзь Смоліч бачыў адкрыта каланіялісцкую скіраванасць палітыкі польскага ўраду ў дачыненьні да беларускіх земляў. Пэрсьпектывы беларускага нацыянальна-вызвольнага руху ў межах Польшчы бачыліся яму праблематычнымі. А тым часам БССР з яе шасьцю паветамі былой Менскай губерні, якая напачатку здавалася чыста каньюнктурным тварэньнем, фікцыяй, нечакана сьведчыла аб рэальных здабытках беларусаў на Усходзе. Напрадвесьні 1921 г. сялянства там атрымала памешчыцкія, царкоўныя і так званыя скарбовыя землі ў сваё распараджэньне, рэспубліка пакрылася досыць густою сеткай беларускіх школаў, а ўвосень гэтага ж году расхінуў дзьверы Беларускі дзяржаўны унівэрсітэт.

Гэта былі пераканаўчыя аргументы на карысьць Саветаў, іх нацыянальнае палітыкі. І ведаў пра гэта А. Смоліч не толькі з перыядычнага друку ды лістоў, што ішлі поштаю, а і з больш надзейных, перадаваных з аказіяй Дзяржаўная мяжа тады яшчэ не тварыла жалезнай заслоны. З вясны 1922 г. Смоліч на заказ наркамата асьветы БССР перапрацоўвае, дапаўняе сваю «Географію Беларусі». Наклад другога выданьня кнігі, выдадзенай Віленскім выдавецтвам Б. Клецкіна, ідзе ў асноўным праз граніцу, у Менск.

У 1922 г. А. Смоліч канчаткова праводзіць рысу пад сваёй палітычнай дзейнасьцю і яшчэ да амністыі Савецкага ўраду дзеячам БНР пераязджае ў Менск для культурна-навуковай працы. Спачатку працуе ў наркамаце земляробства, дзе становіцца, паводле словаў наркома З. Прышчэпава, адным з самых дасьведчаных і аўтарытэтных беларускіх сьпецыялістаў у галіне эканомікі і аграноміі. З 1923 г.

пачынае чытаць курс геаграфіі Беларусі ды іншых краінаў у Белдзяржуніверсітэце, стварае ў ім кафедру краязнаўства, геаграфічны кабінет. Ініцыюе склі-каньне напачатку Менскай, а затым і Усебеларускай краязнаўчых канферэнцыяў, непасрэдна прычыняец-ца да заснаваньня часопіса «Наш край». Лапідарна і дакладна акрэсьлівае задачы краязнаўчага руху. Бачыць у ім гарантыю таго, што «Беларусь перастане быць краем, невядомым для саміх беларусаў».

У 1924 г. Аркадзь Смоліч у складзе камісіі Дзяржплану БССР праводзіць раянаваньне тэрыторыі рэспублікі, падзяляе яе на 10 адміністрацыйна-гас-падарчых акругаў. Праектуе выданьне часопісу «Плуг», дарадчыка і памочніка земляроба. У 1925 г. абіраецца правадзейным сябрам Інстытуту беларускае культуры, намесьнікам яго старшыні. Арганізуе яго навукова-дасьледчую і выдавецкую працу, клапоціцца аб пашырэньні ў сістэме інстытуту прыродазнаўчых навук. Прыкладае намаганьні для адкрыцьця ў Горы-Горках сельскагаспадарчай акадэміі і Навукова-дасьледчага інстытуту сельскай гаспадаркі і лесавод-ства ў Менску. У 1927 г. становіцца першым беларускім прафесарам геаграфіі.

У калектыўных зборніках і асобнымі выданьнямі выходзяць навуковыя працы А. Смоліча «Эканамічнае становішча Беларусі перад вайной і рэвалюцыяй», «Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка і яе акругі», «Тыпы геаграфічных ланшафтаў Беларусі» (абаронена як дысертацыя), «Арганізацыя сялянскай гаспадаркі ў раёнах Цэнтральнай Беларусі», «Геа-графічны і тапаграфічны нарыс Заходняй Беларусі», «Насельніцтва Заходняй Беларусі, яго нацыянальны і прафесіянальны склад»...

Вывучаючы сельскую гаспадарку як прыярытэт-ную галіну беларускай эканомікі, дасьледчык бачыў, што яна мае свае асаблівасьці, абумоўленыя прыродай і гістарычна. Рэч у тым, што ў разьвіцьці сялянскай гаспадаркі на Беларусі немалую ролю адыграў фактар практычнай адсутнасьці тут ужо з XVI ст. супальнай формы землекарыстаньня. А. Смоліч ведаў, і ў гэтай думцы яго ўмацоўвалі дасьледваньні А. Котава, Л. Літашэнкі, што беларуская сялянская гаспадарка па інтэнсіўнасці і культурнасьці ў нейкай меры апя-рэдзіла гаспадаркі разьвітых рэгіёнаў Расеі. Таму, лічыў ён, шматгадовы досьвед беларускага селяніна трэба рацыянальна выкарыстаць у сучасным земле-будаўніцтве.

Ягоныя пагляды падзялялі беларускія вучоныя-аг-

рарнікі С. Скандракоў, А. Трахімаў, І. Кіслякоў, эканаміст Г. Гарэцкі ды іншыя. Знаходзілі яны разуменьне і падтрымку ў тагачаснага кіраўніцтва наркамату земляробства. У 20-ых гадох досыць пасьпяхова ішло разьвіццё сялянскіх гаспадарак, выдзяленьне гаспадароў на хутары і пасёлкі. Маладзейшыя беларускія эканамісты і аграрнікі працавалі пад дэвізам «Зробім Беларусь Даніяй». Неўзабаве вучоныя і практыкі сельскага будаўніцтва ў Беларусі будуць асуджаныя і жорстка пакараныя ўзмацнелым таталітарызмам, за сваю навуковую ініцыятыву і грамадзянскі парыў пойдуць на Гальгофу. Смоліч падзеліць іх лёс. Але яшчэ была сярэдзіна 20-ых і новае грамадзтва не скаланалі буры. Яно больш-менш нармальна працавала. Смоліч мусіў на нейкі час адхіляцца ад навуковае працы, дакладней спалучаць яе з утылітарнымі заданьнямі. Адгукаўся на заказ асьветнага ведамства, пісаў «Кароткі курс географіі Беларусі», і ў сааўтарстве з М. Азбукіным «Географію пазаэўрапейскіх краёў».

На пошукі, новыя падыходы Аркадзя Смоліча ў географічнай навуцы зважае навуковая грамадзкасць краіны. За дасьледваньні «Разьмяшчэньне насельніцтва на тэрыторыі Беларускай ССР» і «Сельскагаспадарчыя раёны, папярэдняя схема і метадалагічныя ўвагі» Рускае географічнае таварыства ўзнагароджвае беларускага вучонага малым залатым медалём. Патрыярх географічнай навукі П. П. Сямёнаў-Цяншанскі вітае Смоліча як дасьледчыка-наватара, прарочыць персьпектыўнасьць яго навуковаму кірунку ў географіі.

Нарэшце, збываецца адна з запаветных мараў Смоліча-вучонага, патрыёта: на базе Інбелкульту адкрываецца Беларуская Акадэмія Навук, жыцьцядзейныя асновы якой, яе статут ён распрацаваў разам з С. Некрашэвічам, У. Ігнатоўскім і В. Ластоўскім. Акадэмія, паводле думкі А. А. Смоліча, павінна завяршыць «працэс нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі і паставіць яе, зусім яшчэ нядаўна ўбогую і цёмную, у шэраг перадавых культурных краінаў сьвету».

Пры канчатковым усталяваньні таталітарнай сістэмы ў СССР, што рабілася пад выглядам пабудовы сацыялізму, навуковая і мастацкая інтэлігенцыя сталася першай яе ахвярай. Улетку 1930 г. А. Смоліч у ліку ста з лішнім беларускіх навукоўцаў, грамадзкапалітычных дзеячоў і пісьменьнікаў быў арыштаваны, а у красавіку 1931 г. пастановай несудовага

органа ОГПУ высланы на Урал. Пасля заканчэньня тэрміну адміністрацыйнай высылкі ў 1935 г. вучоны жыў у Ішыме Омскай вобласці, працаваў у райкалгассаюзе, выкладаў географію ў жывёлагадоўчым тэхнікуме, чытаў лекцыі на курсах удасканаленьня настаўнікаў. Уначы з 17 на 18 чэрвеня 1937 г. быў другім разам арыштаваны і роўна праз год расстраляны ў Омскай турме. Канчаткова рэабілітаваны ў 1988 г.

Гэтае, фактычна пятае, выданьне (калі ўлічваць яшчэ перапрацаванае менскае выданьне 1925 года, якое выйшла пад назовам «Кароткі курс географіі Беларусі») «Географіі Беларусі», якая сёньня вяртаецца да чытача, зроблена з трэцяга віленскага. Кніга напісана аўтарам не паводле палітычна-адміністратыўных межаў Беларусі, як яны склаліся на пачатку 20-ых гадоў, а згодна з яе этнічнымі рубяжамі.

«Вось жа, калі б тыя беларусы, што прачытаюць гэтую кнігу, — пісаў Аркадзь Смоліч у прадмове да першага яе выданьня, — зацікавіліся сваёй Бацькаўшчынаю, каб узяліся самі за глыбейшае навуковае пазнаньне яе ці асобных праяваў яе жыцьця, каб заахвоціліся шукаць і бачыць яе арыгінальнае хараставо, дык бы аўтар лічыў сваю працу дайшоўшай мэты. А калі б у іх хоць крыху пабольшала замілаваньня да свае роднае многапакутнае старавы, такой простай і разам цудоўнай, нават у часы заняпаду свайго поўнай велічу і схаваных сілаў, каб яны паверылі ў яе вялікую будучыню і дзеля будучыні гэтай шчыра працаваць і змагацца пачалі, тады б аўтар быў бы папраўдзе шчасьлівы». Ці ж праз семдзесят чатыры гады гэты спадзеў-зварот страціў сваю актуальнасьць? Ці адзін з апосталаў 20-ых гадоў не прамаўляе і да нас?

*Арсень Ліс*

# ЗЬМЕ́СТ.

## IV. Жывая прырода.



## НАСЯЛЁНЬНЕ БЕЛАРУСІ І ЯГО ГАСПАДАРНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ.

### V. Этнографічны агляд.



### VI. Сéльская гаспадарка.



### VII. Прамысловасьць і гандаль.

## Паасобныя краіны Беларусі.

Навукова-папулярнае выданне

Смоліч Аркадзь Антонавіч

ГЕОГРАФІЯ БЕЛАРУСІ
4-е выданне

Асобныя выхадныя звесткі даюцца
па жаданні заказчыка.

Рэдактар Г. П. Касцялецкая
Мастак, мастацкі рэдактар Г. І Мацур
Тэхнічны рэдактар С. Л. Сармант
Камп'ютэрная вёрстка С. Л. Сармант, М. І. Лазука
Аператар Т. А. Касцяневіч
Карэктары Л. П. Жыткавец, Р. І. Іваненка

Выданне падрыхтавана да друку на камп'ютэрнай
сістэме выдавецтва «Беларусь».

Падп. да друку з арыгінала-макета 24.06.93. Фармат 60×90 1/16. Папера кн.-часоп. Гарнітура Балтыка. Ум. друк. арк. 24,0. Ум. фарб.-адб. 24,25. Ул.-выд. арк. 24,74. Тыраж 10 000 экз. Зак. 349.

Ордэна Дружбы народаў выдавецтва «Беларусь» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 2. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.



Аркадзь Смоліч (1891—1938) — выдатны беларускі палітычны дзеяч часоў аднаўленьня беларускае дзяржаўнасьці. Загінуў у часе сталінскіх рэпрэсіяў. Быў ідэолагам і тэарэтыкам Беларускае Сацыял-Дэмакратычнае Партыі, адным са стваральнікаў Беларускае Народнае Рэспублікі, займаў пасаду міністра асьветы ў першым урадзе. Як таленавіты навуковец Аркадзь Смоліч зрабіў вялікі ўклад у разьвіцьцё эканомікі і агранаміі Беларусі, высока ацэнены сучасьнікамі. Але найважнейшая праца, што зрабіла ягонае імя славутым, — «Географія Беларусі». На ёй узгадоўваліся пакаленьні нацыянальна-сьведамай моладзі. Кніга і сёньня застаецца неперасягнутым узорам навукова-папулярнага апісаньня нашае зямлі.